# АЗІРНІСЯ Ў КАХАННІ

## Амаль фантастычная аповесць

I

...вельмі люблю восень, залатую стракатую пару.

Асабліва той час, калі пасля першых начных прымаразкаў ад галін пачынае адрывацца зжоўклае лісце і ападаць нячутна долу.

Проста дзіўна, якая тады стаіць незвычайная цішыня. І толькі лісце, удараючыся гучна аб галіны, парушае яе нязвыклым звонам. Калі ж я чую, як яно — яшчэ жывое, з цяплом дрэва — чапляецца за апошнюю надзею ўтрымацца, як безнадзейна апускаецца на зямлю, — шчымлівым болем заходзіцца маё сэрца, падкочваецца нячутнай хваляй няясная туга па нечым светлым, шчасным, але нязбыўным.

Тады душа мая поўніцца светлымі мроямі, добрымі згадкамі пра далёкае возера, дзе было поўна рыбы і вакол яго пасвіліся не то авечкі, не то козы...

Тады мне страшэнна хочацца адзіноты і цішыні. А ў памяці пісьмо ад Яе...

І я, як бы ні быў заняты, якія б неадкладныя клопаты ні прывязвалі, кідаю ўсё і — пешшу, спадарожнай машынай, аўтобусам — імчуся, спяшаюся на спатканне з лесам...

І тады чуйна слухаю, як ідзе, коціцца стракатым колам па зямлі шчымлівы лістапад. Як у промнях зыркага сонца пераліваецца жаўталісце, і здаецца, што то аскалёпачкі зыркага сонца абрыньваюцца на мяне.

У нейкі міг я не вытрымліваю і ад прыліву шчымлівага пачуцця падаю на лісцяную пярыну. Ляжу доўга, не варушуся, баючыся парушыць душэўнае суладдзе. Хочацца, каб лісцяны дождж абрынуўся на мяне з такой сілай, з такой гушчынёй, каб ажно зацерусіў усяго-ўсяго. Каб нада мною вырас аграмадністы жоўты стог і схаваў ад клопатаў і трывог. Ад таго болю, які не пакідае мяне, яшчэ ад злых людзей і недругаў...

Я ляжу, раскінуўшы, бы ў знямозе, рукі і ногі. Нада мною крона магутнага з тысячу год дуба — ужо апалага ад лістоты. У яго густым спляценні карункаў я бачу рассечанае на мільёны аскалёпачкаў вечнае сонца. Не магу глядзець на яго, зажмурваюся. Мне здаецца, што лячу ў бязважкасці і што насупраць мне ляціць не лісце, а зоркі, якімі густа ўсеяна неба...

Восень, восень...

Ніяк не магу зразумець — ці то яна мяне лечыць, ці, наадварот, робіць хворым і бязвольным. Бо ў мяне потым доўга не перастае ныць сэрца, быццам адчувае вялікую непапраўную страту. Ці маю няўдачу? Аб ёй я яшчэ і не падазраваў, але яна нараджалася непрыкметна — паміма маёй волі.

Таму я ніколі не бяру з сабой у лес ні каханую жанчыну, ні надзейнага і блізкага сябра, каб не паказваць хваравіты настрой, каб не падумалі, што са мной творыцца нешта незразумелае і неверагоднае. Правільней, каб не ўбачылі гэтага... Навошта яно ім? Толькі дрэвам і небу я магу даверыць свой боль і хваравітыя думкі, сваю трывогу, якая не пакідае мяне ні днём ні ноччу.

Але мне не хочацца ад усяго гэтага пазбавіцца. Ніколі-ніколі...

Эх, лістапад, лістапад. Што ты робіш са мною, навошта так вучыш адчуваць боль дрэў, быццам яны жывыя істоты, якія саромеюцца свайго выгляду?

Ці то бацька вінаваты, які ўсё жыццё працаваў лесніком і часцяком браў мяне малога ў лес, ці што іншае? А мо ім і не баліць зусім, дрэвам, і тое мне ўсё здаецца толькі ў маім хваравітым уяўленні. А мае перажыванні зусім і непатрэбны нікому?

Дык па чым баліць маё сэрца?

Мне здаецца, што калі я падыду да свайго рубяжа, дык тое будзе вось такой менавіта парой: лісцёва-завейнай, з жоўтым адценнем. Яно і будзе адпавядаць ростані з вечным, зямным, непадуладным ні часу, ні абставінам.

Дык чаго ж усё-ткі яно баліць? Па чым? Ці — па кім? А як адбаліць, як сцішыцца — ці не ачарсцвее зусім, ці не згоркне, ці не пакрыецца плесняю абыякавасці і бяздушнасці? і ці адгукнецца на боль іншых?

Калі ж так здарыцца, то мне будзе надта лёгка жыць. І я буду пасміхацца ўжо з тых, у каго яшчэ бушуе ў грудзях агонь. Яны, не думаючы ні пра што, бу

дуць імчацца на душэўны кліч каханай, на чужы крык болю, да блізкага сябра. Перажываць няўдачы і радавацца поспеху. А потым, перажыўшы ўсё, адчуваць, як нешта шчымліва ные пад мокрай сарочкай...

А я тады ўжо буду мудрым, бы той старац-жабрак, які пражыў на свеце не адну тысячу гадоў, які загадзя будзе ведаць, што ў матылька, які будзе ляцець на зыркае святло, абавязкова згараць крыльцы. І я не падкажу пра тое матыльку. Бо ён і не паслухае мяне, бо і сам добра ведае пра тое. Але імгненне, калі ў яго ўспыхне полымя

ў душы і прага да святла, ён мільён разоў пражыў бы нанава, зноўку паміраў і нараджаўся.

Я буду ведаць не толькі пра гэта. А пра тысячы невядомых чалавецтву ісцін, якія памаглі б людзям пазбавіцца ад фізічных і душэўных хвароб, ад адчування болю. Але такім шчасцем я не змагу падзяліцца, бо парушу найвялікшую і свяшчэнную тайну на зямлі — навучу людзей быць бессмяротнымі.

Тады ж, у тое самае імгненне, перастане існаваць жыццё...

Восень, лістапад, ліставей...

Падай, падай, срэбразвоннае лісце, укрывай сабою зямлю, каб потым накрыцца новай коўдрай — пульхным цёплым снегам.

А пакуль я ляжу на тваім прасцірадле, буду ўспамінаць, успамінаць, можа, і дакапаюся да прычыны, чаму ж так адбылося і менавіта ў такі перыяд, калі я і без душэўнай траўмы стаю на краі абрыву... Я многае магу ўспомніць — які ранак быў вясной дваццаць гадоў назад і як нас хаваў парасон ад цёплага дажджу, і таму мы забыліся на яго, як прачытаў першую кніжку і калі празвінеў для мяне па-іншаму сэнс вядомых і нязначных слоў кахання...

І яскрава ўспамінаецца ўчарашні, пазаўчарашні дзень, помню, з-за чаго ўпершыню пачало хвалявацца і балець сэрца. Як прагучала першае балючае слова знявагі і папроку. Я помню адценне ў голасе. І на адлегласці бачу яе твар, сумныя вочы. Але голас цвёрды, рашучы.

Ад галінкі адрываецца ліст — вялізны, шырокі, нібы аладак, што пякла мне некалі мама, — як даўно тое было. А можа, гэта і не ліст адрываецца, а я, ды не адрываюся, а яна галінка, страсае з сябе непатрэбны груз, пазбаўляецца яго, каб адчуць сябе вольнай. І незалежнай.

А і сапраўды — існуе заканамернасць. Ва ўсім. Ліст у галінкі не пытаецца, ці можна яму не адрывацца. І не просіцца пачакаць яшчэ які час. Гэтак і яна, не зважаючы ні на што, вызваліцца ад непатрэбнага цяжару. І адчуе незвычайную лёгкасць.

А восень плыла, набіралася моцы, ткала сабе стракатыя андаракі і хусткі, прымярала на сябе і тут жа скідвала ўборы на зямлю. У той жа час, як аблятала лісце, чулася шчымліва-салодкая мелодыя.

Як спакойна ляціць лісце ў першым і апошнім сваім палёце! Мне б яго спакойнасць і мудрасць. Добра, што з сабою не цягаю ў лес падрамнік — абавязкова не ўтрымаўся б і паспрабаваў бы перанесці наваколле на палатно. А можа, і не — пашкадаваў бы псаваць пэндзлем такую прыгажосць. Намалюю горш, чым яна ёсць.

Лістапад...

Ліставей... І воблакі нада мной плывуць спакойна і ўрачыста. Узляцець бы на іх, пасядзець, паразважаць пра жыццё, перакінуцца словам-другім з Айцом, параіцца — мо і падказаў бы што пэўнае...

Я, калі шчыра, ужо амаль і не ўспамінаю пра нашае каханне. Яна пашкадавала сваю сям'ю (і правільна зрабіла), не пашкадавала мяне. Але пасля таго я баюся застацца адзін на адзін з жанчынай — баюся, што зноў пачую нейкае ласкавае слоўца. Або не ўтрымаюся і скажу яго сам. Тады і пачнецца, паўторыцца зноў тое ж самае. Каму захочацца зноўку перажываць пражытыя драмы? Лепей глядзець іх у кіно ці на сцэне. Або пачуць ад каго...

Эх, лістапад, лістапад...

2

— ...Божа, ты ўсё можаш, ты на ўсё здатны, ты ж — усёмагутны. Зрабі так, каб я быў вышэй над людзьмі мог, як і ты, хоць адзін раз зрабіць цуд!

Бог нейкі момант маўчыць, а потым, хітра прыжмурыўшы вока, з'едліва спытаў:

— А не пашкадуеш, ганарлівец?

— Аб чым? — не ўцяміў я.

— Ну, калі навучышся рабіць, тварыць цуды.

— Не! — амаль крыкнуў я. — Не пашкадую. Век на цябе маліцца буду.

Бог зноў хітра глядзіць на мяне, мезенцам да зуба дакрануўся, цікавіцца:

— А цяпер чаму ж не молішся?

Я хуценька перахрысціўся.

Айцец задаволена ўсміхнуўся, усеўся ямчэй на мяккае воблака, бы на канапу, уздыхнуў — рукі склаў на грудзях.

Цяпер павінна адбыцца нешта незвычайнае, чакаю, калі святы Айцец прыступіць да чарадзейства. Можа, ператваруся я ў нейкую іншую істоту? А твар у мяне будзе чалавечы? Ці пазнае тады мяне Наташа? Але нічога такога не адбывалася, і я занепакоена глядзеў на Бога.

Ён маўчаў, склаў рукі на жываце і, здаецца, драмаў, прымружыўшы павекі.

Паўз нас плыў жоўты месяц у бліскучым арэоле, ён свяціўся ў нейкай таямнічай святасці, аж зіхацеў. Айцец на яго не звярнуў аніякай увагі, адно не адрываў позірку ад сваіх худых і белых ног — няўжо дзед ніколі не выстаўляў іх сонцу?

— Ну, што ж, на тым і парашылі, — уздыхае Айцец, кладзе далоньку ў далоньку, і я толькі цяпер заўважаю, што яны ў яго нейкія кашчавыя, маленькія, бы ў нашага дзядзькі Вінцэся, якога скалечыла ў вайну, — быў ён маім суседам. — Дык ось так, дарагі мой, калі я старэчым сваім вухам цябе правільна пачуў, то ты, грэй яго, згодзен на ўсё?

— Згодзен, згодзен, святы Айцец, на ўсё згодзен!

— Тады быць таму! — падняў стары руку над галавой, але не мяне перажагнаў, а суседняе воблака, што пакрысе сунулася на нас.

Ён ступіў на яго, ёмка ўсеўся і больш ужо не глядзеў у мой бок. Як і не ведаў мяне, і ніколі не бачыў, не страчаў нідзе.

Во дурань: дамовіўся з Богам і не ведаў, пра што дамовіўся. Паддурыў мяне Айцец, ой як паддурыў!

І тут да мяне аднекуль з вышыні данёсся зычны і грамавы голас:

— Тры і тры даю табе. Адзін цуд — для каханай. Другі — для ворага. А трэці, грэц яго, — для няшчаснага. Для каханай ты можаш узляцець да нябёсаў — зрабіць яе шчаслівай ці наадварот, як пажадаеш. Ворага можаш знішчыць ці яго зброю, ажывіць забітага ворагам. Трэцяе — даць зрок невідушчаму ці ногі калеку...

Я ўважліва слухаў, стараўся запомніць кожнае слова, бо паверыў адразу і аддана ва ўсё, што пачуў, паверыў ў сябе іншага, усёмагутнага і моцнага. Але калі я прыняў боскі дарунак, то здзівіўся — не пачуў той палёгкі, якая жадалася.

Дык у чым ён, Цуд? У тым, што мне стала не лягчэй, а ўтрая цяжэй. Цяпер жа перада мною паўстала задача — як найлепш распарадзіцца трыма маімі жаданнямі... Як Пугачова спявае? Тры жаданні, толькі няма рыбкі залатой? У мяне ж, здаецца, ёсць рыбка, ёсць тры жаданні. Божа, навучы мяне розуму, каб я ўдала імі распарадзіўся.

— Ды запомні яшчэ, ганарлівец, — зноў данёсся голас аднекуль зверху, толькі ўжо з другога боку — ззаду: — Кожны цуд — роўны аднаму году жыцця. На тры, чуеш, на тры гады скароціцца твой век...

Я пачуў. І зніякавеў. У гэтым жыцці за ўсё трэба нечым плаціць. За цуды — сваім жыццём.

— А калі іх можна будзе здзейсніць?

Адказу не пачуў. Замест яго непадалёк ад мяне нешта зашыпела, затрашчала, потым белая пуга зыркай маланкі пранізала два абцяжараныя свінцовасцю аблокі. Яны сутыкнуліся лоб у лоб, не саступіўшы адзін аднаму дарогу. Я закрыўся рукамі — як ратаваўся

ад нечага, не ведаючы, ці то Айцец сварыўся на мяне, ці то ўхваляў мае думкі.

Прыгледзеўся — а то зусім і не воблакі былі, а нейкія жывыя істоты з абліччамі не то людзей, не то звяроў...

Я сеў на тое воблака, на якім сядзеў святы Айцец. А загадкі адна за адной прыляталі да мяне.

Маўчала неба. Маўчаў Бог. Я зноў крыкнуў у шэрую прастору і зноў не пачуў адказу.

Калі расплюшчыў вочы, найперш падумаў: «Сон? Ці ява?» Ува мне адбылася нейкая значная перамена. Калі сон, то ён быў велічны, з намёкам. У маіх руках была «Шчыгрынавая шкура» Бальзака, якую я пачаў чытаць звечара.

Я так яскрава бачыў Усявышняга, яго рукі і ногі, а вочы — не то сумныя, не то вясёлыя — запомніліся найбольш...

3

У маім інтэрнацкім пакоі ціха і адзінока. На стале маўчыць, не цікае будзільнік — усё не збяруся аддаць у рамонт.

На вуліцы лета, цяплынь. Праз вокны да мяне далятаюць птушыныя галасы.

На сцяне, над маёй галавой, свяціўся ад акна сонечны прамавугольнік. Пасля ён перабярэцца да дзвярэй.

Дзень у мяне распісаны да гадзіны. У інтэрнаце я жыву ўжо год. Перабраўся сюды пасля таго, як мяне кінула жонка. Выпускныя экзамены я заваліў, правільней, завалілі маю дыпломную работу. А я не вынес таго і кінуўся ў абдымкі Бахуса. Быў не раз у выцвярэзніку. Жонка знемаглася змагацца за мяне і падала на развод. З'ехала некуды — каб і не бачыць мяне. Што ж, усе правільна.

Ногі неслі мяне порстка і лёгка. Быццам быў я бязважкі, быццам у мяне выраслі крылы. Я дзівіўся нечаканай перамене, а прычыны не мог знайсці — вінаваты велічны мой сон?

Дзень быў сонечны, з белымі аблокамі. Я нейкі момант не адрываўся ад іх, успамінаў нядаўні сон і ўсміхаўся: а сапраўды было б добра сесці на воблака.

На думку прыйшло яшчэ адно — захацелася намаляваць свой сон. І Айца. І воблакі. І блакіт неба — там, на вышыні, быў ён нейкі празрысты, мяккі, хоць рукой пагладзь.

Мая майстэрня была як ў Бога за пазухай.

Будавалі над Прыняццю дом. Па праекце гарадскога архітэктара Панфіленкі. Дык от, мой старэйшы сябра — мастак-кераміст Пушкарчук — угаварыў архітэктара над дзевятым паверхам

размясціць майстэрні мастакоў. Са шкляным дахам. Каб на мальберт падала натуральнае святло.

Я пра тое не ведаў. А каб і ведаў, то ўсё роўна не разяўляў бы рот — маглі выдзеліць любому, толькі не мне. Выпадак з выцвярэзнікам ды і ранейшая сварка, якую я ўчыніў у гарвыканкоме, доўга будуць помніцца гарадскім уладам. А найбольш загадчыку аддзела прапаганды гаркома партыі Здроку, якога я абазваў дурнем за тое, што ён пачаў мне раіць, што пісаць.

Аднойчы паклікаў мяне Пушкарчук на экскурсію.

— Куды канкрэтна? — пытаюся, не маючы асаблівага настрою для шпацыру.

— А так, прагуляемся... — ухіляецца ён ад прамога адказу, затоена ўсміхаецца, дадае: — Да дзявок... Ёсць такія прыгожанькія і ладненькія, што вачэй не адвесці. Куды тваёй Наташцы да іх...

Яму за семдзесят, а ён пра дзяўчат — ну і хлус, наскрозь бачу яго. Настрой, мякка кажучы, у мяне кепскі. На душы — пекла. Ды не з-за той майстэрні, не, проста накочваецца часам на мяне — нават і ў шчаслівыя хвіліны такі сум, што і дзявацца няма куды. Не ведаю, ад чаго тое, з дзяцінства назіраю за сабой такое. Хаваю неспакой у сабе, а Пушкарчуку паказваю сваю бесклапотнасць.

— Не пайду, — я ўжо дражнюся, хачу пазлаваць яго, адпомсціць за «дзявок» і за Наташку, і ў мяне цяпер толькі адно тайнае жаданне — выпіць шклянку сухога вінаграднага віна. І толькі чырвонага. «Каберне» ці «Гамзы».

— Дурнем назаву, як не пойдзеш. І потым жа шкадаваць будзеш, што не паслухаў мяне.

— Ты ж ведаеш, Мікола сын Мікітаў, што я ніколі і ні аб чым не пашкадую,— уздыхаю я і падымаюся, накідаю мяккае крэсла ў яго майстэрні.

Ён вядзе мяне да таго вышыннага дома. Ліфт нас падымае на дзявяты паверх. Пушкарчук вядзе мяне па доўгім калідоры, потым адмыкае дзверы — мы падымаемся на дзесяты.

— У госці?

— Ага, — лёгка згаджаецца сябар і не абарочваецца да мяне, прычэсвае рукой рэдзенькія, з сівізной, валасы.

Мы выходзім на пляцоўку, аддыхваемся. Не ад стомы, бо прайшлі ўсяго дваццаць сем прыступак, а ад вышыні — адразу заняло дух.

Перад намі адкрываецца дзівосная панарама — лучына Прыпяці. На тым баку, на лузе, у шызай смузе, стаяць стагі, а па гэты бок, ля падножжа гары, паднялі ў неба свае кроны магутныя дубы.

— Смаката! — удыхаю я паветра і адчуваю, як цяплее мая душа, як мякчэе сэрца ад убачанага.

— Ну во, а ты ўпарціўся, — усміхаецца Мікалай Мікітавіч і дастае з кішэні новую звязку ключоў, падыходзіць да дзвярэй, адмыкае іх.

— Заходзь, отрак, — робіць боскі жэст Пушкарчук, прапускае мяне наперад і падае адначасна паперку: — То табе тэлеграма і пропуск у гэтую хату. Тут цяпер строга — толькі па пропусках.

Чытаю і нічога не разумею: «Рашэннем Маз... гарвыканкома ад 12 мая 1987 года мастаку Антону Мікалаевічу Зялёнку выдзяляецца асобная майстэрня агульнай плошчай...»

— Што сіе азначае?

— А тое, што ты, Антон, тут гаспадар. Пусціш мяне да сябе?

Нешта кальнула ў скроні, зазвінела ўвушшу. Ватнымі нагамі я пераступаю парог і заходжу ў прасторны светлы пакой. У ім нічога няма, чуваць толькі пах фарбы, а пасярэдзіне залы заўважаю столік. А на ім блішчыць золатам пляшка шампанскага. Карабок цукерак побач.

Толькі потым я заўважаю каля акна яе, Наташку...

У адзін міг і столькі нечаканасцей.

Ці пад сілу вытрымаць такое?

Я не вітаюся чамусьці з дзяўчынаю, гляджу на сцены, на падлогу. Потым пераводжу позірк за акно, туды, дзе цячэ Прыпяць, дзе шызая смуга абвалоквае раку — і нічога не бачу. Даўно звыкнуўся з думкай, што страціў Наташу. Апошні тэлефонны званок і яе ціхае «Не звані мне больш...» рашылі ўсё. Я стрываў боль, адпакутаваў (усё паўтарылася, як і некалі з Галінкай), знайшоў у сабе сілы адсекчы ўсё ад сябе і пахаваць у памяці. А тут зноў яна? Навошта? Радавацца мне ці...

Дзяўчына падыходзіць да мяне і кладзе рукі на плечы. Датыкаецца косамі да вуха:

— Што з табой, Антось? Ты не рады майму прыходу?

Дотык яе гарачых рук да шчакі вяртаюць мяне да явы. Пах незразумелых духоў вяртаюць мяне да свядомасці — то яна, канечне ж, яна. Я гляджу то на Пушкарчука, то на яе, не вытрымліваю і крычу:

— Я не хачу больш спаць. Разбудзіце мяне!

Ён рагоча. Наташка прыціскаецца да мяне, і я нараджаюся зноўку — адчуваю, як сэрца пачынае гулка адбіваць удары.

Я адкаркоўваю пляшку, страляю коркам у столь, і наліваю пеністае пітво ў крышталёвыя фужэры. Здаецца, ніколі я не піў такога смачнага напітку.

— Я шчаслівы, што ў мяне ёсць вы, — шапчу я і раблю глыток, адчуваю, як вяртаюцца сілы, настрой, вера ва ўсё добрае і шчаснае.

Як хораша, што ў мяне ёсць такія сябры!

Накіды на загрунтаваным палатне я выканаў хутка. Як даўно рыхтаваўся да гэтага. Я вельмі добра памятаў твар Айца, і даваўся ён мне лёгка. Пэндзаль вылучаў кожны сівы валасок яго шыкоўнай барады, кожную маршчынку і воспінку на твары. А пра вочы і гаварыць не было чаго — нраменьчыкі-іскрынкі, такія добрыя і ўважлівыя, мудрыя ў сваёй прастаце.

У нечым Ойча падобны і на нашага дзеда Міхася, старажыла вёскі. Дзеда ўжо даўно няма, памёр, як мне было гадоў сем. Але тыя вочы, дзіцячыя і ўражлівыя, запомніліся да драбніц.

І я маляваў цяпер абодвух — Айца і дзеда Міхася. Стараўся, каб яны былі падобныя адзін да аднаго. Не забыўся накідаць абрысы і месячыка, што праплываў паўз нас, і пугу-маланку... Для чаго маляваў, не ведаў. Лепш за вялікіх майстроў Іванава і Веласкеса зрабіць, безумоўна, я не мог. Але ж цягнула невядомае і неадольнае жаданне напісаць Божаньку — Божаньку-мудраца, Божаньку-прарока. Жартаўніка і простага зямнога чалавека.

Мне ніколі так не працавалася, як цяпер. Мне здавалася, што пэндзаль сам хадзіў, што я яго і не трымаў у руках. Можа, упершыню я адчуў, што такое натхненне.

Я не вылазіў са сваёй верхатуры цэлы дзень, потым вечар і ноч зноў правёў за мальбертам. Знямогся — гудзелі рукі і ногі, галава стала важкая і пустая. Не памятаў, як і дзе заснуў. Прачнуўся на падлозе каля мальберта...

Першае, што я заўважыў над габой — шэрую столь. Адлежаў руку і не адчуваў яе — а як падняўся, яе пачалі «кусаць мурашкі». Гудзела галава, быццам учора была сяброўская вечарынка і я ўзяў лішку.

Балкон быў чамусьці адчынены — помніцца, на ноч я зачыняў дзверы, каб не перашкаджалі гукі дзяцей і гудзенне машын. Хто ж адчыніў?

Стрэлкі на гадзінніку паказвалі палову пятай.

Калі ж я пільна прыгледзеўся да намаляванага, то заўважыў, што Божанька, якога я намаляваў на воблаках у правым кутку, перамясціўся ў левы, ніжні, — і хітра пазіраў на мяне.

У маю душу пракраўся страх. Мне стала не па сабе. Адчуў, што нейкія патаемныя сілы акружаюць мяне, кіруюць мною.

Мне падалося нават, што нехта хадзіў па пакоі рыпелі маснічыны. Адчуў, як па спіне пацяклі халодныя раўчукі.

4

Твар у Фядоса Рыгоравіча старанна паголены. У вачах спакойнасць і задаволенасць. Ён раз-пораз закусвае верхнюю губу, сядзіць з дзелавым выглядам, як бы даказвае самому сабе, што робіць усё правільна і прыстойна. І што ніхто ў свеце не зможа папракнуць яго за нейкія памылкі, калі яны і ёсць...

Але іх быць не можа. Таму што ён абраны, правераны, за яго галасавалі выбаршчыкі. А таму ён чысты, як золата вышэйшай пробы, і на ім не можа быць ніводнай плямінкі.

На століку, што злева прыткнуты да вялікага стала, зазумерыў плаўна і пяшчотна, як прасіў прабачэння за турботы, тэлефон. Вочы не адрываліся ад паперчыны, а левая рука прывычна падалася да трубкі. У промнях сонца зырка бліснула крышталёвая запінка.

— Ганчарэнка, — глухім і аўтарытэтным голасам азваўся гаспадар кабінета і глядзеў у акно — вусны сціснуты, душэўны камертон настройваўся на хвалю, прымяраўся, як патрэбна гутарыць з тым, хто пазваніў, — што невысокае начальства, тое было зразумела па тэлефоне. — Ганчарэнка слухае.

У трубцы нейкі момант маўчанне. Потым пачуўся кашаль, пытанне:

— Фядос Рыгоравіч? Шылко. Прасілі пазваніць?

— Прасіў, Пётр Лаўрэнцьевіч. Як там у вас жыллёвы фонд?

Шылко — генеральны дырэктар дрэваапрацоўчага аб'яднання — трохі памаўчаў, чуваць было, як гартаў паперы ў сябе на стале, адказаў няўцямна:

— Ды тут як паглядзець. Так-то яно быццам і ў норме, а калі па сутнасці, то трохі і не вытанцоўваецца.

— Не разумею, Пётр Лаўрэнцьевіч, растлумачце.

— Добра. Не хапае нам дзвюх кватэр, хоць разбіся. Людзі вельмі заслужаныя, ды і абяцаў я ім, а тут... Вы ж абяцалі ў гэтым годзе вярнуць нам даўжок.

— Абяцаем мы многім. А потым непрадбачаныя нечаканасці. Так?

— Так-то яно так, Фядос Рыгоравіч, — кашлянуў зноў генеральны дырэктар, прадчуваючы, мусіць, што добрам размова не скончыцца, — але ж і людзьмі заставацца трэба.

Фядос Рыгоравіч усміхнуўся, падумаў сам сабе: «Хітрыць генеральны, бедненькім прыкідваецца. Сам жа ведае, што мы вышэй

абставін і нікуды ад гэтага не падзецца... Не, брат, нікуды ты не ўцячэш ад мяне. Жыць з начальствам трэба мірна, тады і лягчэй самому працавацца будзе...»

— Так, доўга гаварыць не будзем. Есць просьба — гарвыканкому неабходна адна, усяго адна кватэра! — старшыня сказаў галоўныя словы і зноў паглядзеў па акно — чакаў, што адкажа цяпер дырэктар.

У трубцы зноў чулася маўчанне: пяць, дзесяць секунд... Ганчарэнка не падганяў, таксама маўчаў. Выпрабоўваў нервы Шылко. Верыў, што зломіць яго.

— Не магу, — пачуўся глухі адказ.

— А падумаўшы, Пётр Лаўрэнцьевіч? — пытанне было ўжо з'едлівым, з падколам, бо чуўся і працяг яго: «Падумай, бо могуць быць вялі-ікія непрыемнасці...»

— І падумаўшы, Фядос Рыгоравіч, не магу. Хоць павеецеце. Усё ўжо зацверджана. Людзі ведаюць, каму што будзе выдзелена. Ужо і мэблю заказалі сабе, грошы ўнеслі. Што хочаце рабіце, я не магу.

Старшыня гарвыканкома занерваваў, зноў пакусаў губы. Адчуў, што не паддаўся Шылко. На другім канцы провада было зацятае маўчанне.

— Ну што ж, нельга, значыць, нельга, — стражэйшым голасам канстатаваў Фядос Рыгоравіч, вельмі незадаволены вынікам размовы. — Тады — да сустрэчы.

— Усяго добрага.

Трубка апусцілася на месца.

«Нездарма ён так гаварыў са мною, — падумаў Ганчарэнка, — значыць, адчуў падтрымку ў гаркоме партыі. Цяпер яго голымі рукамі не возьмеш. Трэба было неяк інакш з ім пагаварыць, праявіць дыпламатыю і хітрасць. Але нічога, адпраўлю на цябе харошанькую ананімачку, вось тады пабачым, як ты затанцуеш. А перад табой, ветэран Арэшка, усё роўна сумленне будзе чыстае. Бач, я стараўся, пераконваў, хацеў прабіць табе жытло, а яно вунь як павярнулася... Але ж я не магу пакрыўдзіць і страхавога агента, ад яе ў многім залежыць і працаздольнасць самога старшыні гарвыканкома — сілкуе яна душэўную сілу, дае бадзёрасць і унутраны настрой».

Успомніў пра яе, і рука міжволі пацягнулася да тэлефона. Пальцы самі па сабе, без удзелу намяці, набралі адну двойку і астатнія тройкі. Лёгкі тэлефон, і запамінаць не трэба.

— Алё, я слухаю вас, — пачуўся у трубцы дзелавы голас.

— То я, Ніна, як ты там?

Голас адразу перамяніўся, налíўся пяшчотай:

— Здаецца, усё добра. Па табе сумую. А ў цябе?

— Гэтаксама. Пад вечар пазваню?

— Ага. Цалую, дарагі...

У кутку, ля дзвярэй, падаў голас стары нямецкі трафейны гадзіннік — прашамкаў дзевяць гадзін.

У гэты ж час адчыніліся дзверы, на парозе стала сакратарка ў белай кофце і шэрай спадніцы — нязменным сваім уборы, — слухала, што скажа старшыня. Але перад гэтым павіталася, паправіла прычоску — высокі начос.

Яму ўспомнілася, як Ніна не раз пасміхалася з тае прычоскі, рагатала: «Цікава, а колькі кілаграмаў важыць яе стог?»

— Добрай раніцы, Таццяна Паўлаўна, — прыўзняўся мэр, устаў з-за стала. — Што ў нас сёння?

Жанчына разгарнула чырвоную вялікую папку, нагадала:

— У дзесяць — бюро. Пасля абеду — выканком. Рэдакцыі трэба даць неадкладна адказ. Прыязджае пісьменнік з часопіса — будзе пісаць пра забудову горада. Ну і іншае — адкрыццё магазіна, прызначылі прыём ветэрана вайны Арэшкі...

Ад пачутага прозвішча ў яго перакрывіўся злёгку твар, як зуб забалеў усё роўна. Але раз прызначыў, то трэба прыняць. Напачатку думаў, што абрадуе ветэрана, але цяпер...

— Дзякую, Таццяна Паўлаўна.

Дзверы зачыніліся. У кабінеце стала зноў ціха, толькі з вуліцы даносіўся праз шыбы лёгкі шум машын і людской гаманы — акно выходзіла на тлумную вуліцу.

На душы паспакайнела. Ганчарэнка адгарнуў папку чакалі подпісу паперы. Асабліва не ўнікаючы ў іх сутнасць, толькі кідаў позірк па дыяганалі, здагадваючыся пра сэнс, машынальна ставіў закаручку.

Фядосу — сорак гадоў. Па знешнім выглядзе і не скажаш, што яму столькі. Выглядаў значна маладзей.

У жыцці яму многае ўдавалася. Скончыў інстытут. Прапанавалі працаваць у гаркоме камсамола. Пачынаў з інструктара. Потым стаў першым сакратаром. З першага запрасілі працаваць у выканком — намеснікам. Потым у гаркоме партыі загадваў аддзелам прапаганды і агітацыі. Адтуль «кінулі» зноў назад, але ўжо мэрам горада.

І ў гаркоме камсамола, і ў выканкоме ён стараўся працаваць так, каб звярнуць на сябе ўвагу. У дакладах абкома, а то і цэкоўскіх, успаміналі яго прозвішча як аднаго з ініцыятыўных камсамольскіх работнікаў. Ініцыятыва тая была ў адным кірунку. Калі былі праверкі, то гаркомаўскі легкавік часта ездзіў па адным маршруце — да

лучыны Прыпяці, дзе чакалі пахкія шашлыкі і скрынка з гарэлкай і халодным півам. Лёд для ахалоджвання быў закапаны ў зямлі.

Даведкі для правяраючых пасля такіх сяброўскіх сустрэч пісаў ужо сам Фядос.

І ў выканкоме той жа стыль спатрэбіўся. Правяраючыя з рэспублікі ці Масквы ніколі не адмаўляліся, калі ў багажнік «Волгі», якая везла госця ў аэрапорт, ставілі сумкі з пахкім правіянтам і каньякамі, паляшуцкія прысмакі. Пасля гэтага нечая скарга, з-за якой і прыязджаў правяраючы, спісвалася, «предавалась забвению...».

Вер ка... Светлым успамінам не-не ды і прыходзіла ў яго памяць чарнавокая дзяўчына. Працавала яна сакратаром па школах. Вясёлая, з агністымі вачыма, яна сваёй энергіяй зараджала іншых, працавала без стомы Была вялікай выдумшчыцай і неяк непрыкметна само сабой, пранізала яго сэрца. І не ведаў, што сам даўно пасяліўся ў яе душы... У адзін з такіх" вечароў-выездаў ў прыпяцкія абалоны, калі сядзелі на беразе ракі пасля смачнай юшкі і выпітага віна, пацягнуў за сабою узяўшы яе за руку...

Верка, як зачараваная, пайшла за ім. Не задумваюся, не дакарала сябе ні ў чым.

І была яшчэ адна сустрэча, і другая, і трэцяя

Аднойчы зайшла да яго ў кабінет, села на крэсла нясмела прашаптала:

— Фядоска, а ў нас дзіця будзе...

Ён, здаецца, спалатнеў ад пачутага. Разгубіўся, не ведаў, што рабіць — перасохла ў горле.

— Як, як гэта будзе? Я ж, здаецца...

— І сама не ведаю. Але ўжо тры месяцы ў мяне няма...

Ён сашчаміў пальцы на стале. Зморшчыў лоб. Ліхаманкава абдумваў, як перамяніць усё ў лепшы бок.

— Да ўрачоў хадзіла?

— Да ўрачоў? Навошта? — не зразумела, пaглядаючы на яго.

— А... ну, правільна, — спахапіўся, баючыся, каб не напалохаць яе сваёй прапановай. — Я меў на ўвазе, каб пераканацца, мо яно ўсё і не так, што ты дарэмна хвалюешся.

Яна горка ўсміхнулася, паправіла пасмачку кос ля вуха, адкінула іх.

— Ды тут і без дактароў зразумела.

— Мг... — няўцямна прамовіў Фядос і ўсё не падымаўся, хаця было жаданне сесці побач, прытуліць да сябе, супакоіць. Адчуваў, што каханне да яе не прапала.

— Што рабіць, Фядос? Парай.

Зазваніў тэлефон. Фядос трубкі не падымаў.

— Вечарам усё абмяркуем, Верка. Добра? Пасля работы едзь да нашага дуба. Будзем думаць. Нешта ж прыдумаем. Не хвалюйся. Добра?

Яна хітнула галавой, выйшла з кабінета.

Ганчарэнка адарваўся ад сваіх думак, зноў узяўся за паперы. Адзін аркуш паперы прымусіў уважліва ўчытацца ў сэнс — пісьмо было з цэнтральнай газеты, ён адразу ўспомніў зморшчаны твар жанчыны — Палагеі Пілiпаўны ці то Цітаўны. Прыходзіла да яго на прыём. Можа, яно і сапраўды так было, як яна расказвала пра той канцлагер, у якім яна была і падвяргалася нечалавечым здзекам. Але ж дакументаў пра тое ніхто ёй не выдаваў. Пра яе напісаў журналіст. Але як яна дакажа, што яна была ў фашысцкім лагеры? Што была медсястрой батальёна, тое ўстанавіць лёгка. А вось што папала ў палон і...

Газета прыслала па выканком пісьмо, каб ён, старшыня, прыняў якое рашэнне і аблегчыў жыццё жанчыне. А ёй трэба жытло. Бо жыве ў сутарэнні, дзе ніякіх выгод, Дзе, па яе словах, спаць не даюць пацукі — ноччу бегаюць па ёй. Краты паелі ў сцёпцы бульбу. Л пенсіі ніякай, цяжка жыць.

Фядос памятае, жанчына тады, як была у кабінеце, доўга не гаварыла. Вільготнымі вачыма глядзела на яго і ўмольна папыталася:

— Ды як жа яно будзе, старшынька, га? Не магу я там больш жыць. Памру я там...

На прыём прыходзілі розныя людзі. Лілі справядлівыя і прытворныя слёзы. Так што ён прывык да ўсяго. І амаль не рэагаваў ні на што. І тады ж, гледзячы на жанчыну, не варухнулася ў яго душы ніводная жылка, не ўздрыгнула, не сціснулі спазмы...

Вочы ў яе празрыстыя, светлыя. Як вясновы лёд. А вось твар, рукі і ўсё цела былі ў нейкіх язвах-струпах. Яны даўно зажылі, і засталіся сляды. Пісаў журналіст, яму, Фядосу, яна не расказвала пра тое, што фашысцкія каты выпрабоўвалі на ён і іншых жанчынах нейкае хімічнае ці то лякарства, ці то зброю... Яна курчылася тыднямі ад болю на нарах дваццаць першага барака канцлагера Лімбург. Маліла Бога, каб забраў да сябе яе скалечанае цела і душу...

Ён пацiснуў плячыма, адвёў позірк:

— Не магу я вам сказаць нічога пэўнага. У парадку обшчай вочарадзі.

Жанчына пасунулася да дзвярэй, не азірнулася, не ўздыхнула расчаравана. Яе просценькі шэры касцюм сведчыў пра тое, што яна ніколі не глядзела сябе, нікому не скардзілася на сваё жыццё.

«Ну, гэтыя пісакі, — падумаў са злосцю пра таго журналіста Крушню, што прыязджаў з Мінска, — напісалі суседзі жанчыны, бачачы, як мучыцца бедалага, папрасілі заступіцца. Бо не было ў тае ні родзічаў, ні блізкіх людзей. — З мухі слана злепяць. Не хапала яшчэ, каб мяне ўспаміналі ў прэсе, расказвалі аб маёй бяздушнасці. Пасядзеў бы ён на маім месцы, пабачыў бы я, якую ён праявіў бы чалавечнасць. Пісаць лягчэй, чым... Шкада яму стала, бачце, жанчыну, якая перанесла столькі пакут. Быццам мне не шкада. Ды былі б у мяне тыя кватэры, я даў бы ўсім, нікога не абышоў бы А дзе іх браць, тыя кватэры?..»

Ну, цяпер прыйдзецца адпісвацца, хадзіць да жанчыны, цікавіцца, як яна жыве. І паставіць на льготную чаргу. А ці дажыве яна да таго часу, калі падыдзе яна чарга.

Дзверы адчыніліся, і на парозе стаў намеснік — Алег Пятровіч. Трымаў у руках паперы, позірк запытальны — ці не перашкодзіў? Валасы кучаравыя стажком на галаве, белая кашуля і з тоўстым вузлом гальштук. Алег Пятровіч і не так даўно ў намесніках, яшчэ не прывык да традыцый і ўзаемаадносін у такой установе. Перад тым працаваў завучам у сярэдняй школе. Потым інструктарам аддзела прапаганды ў гаркоме партыі. Першы сакратар Малатзеў убачыў у ім перспектыўнага работніка.

— Заходзь, Алег Пятровіч. Што ў цябе? — Ганчарэнка загарнуў папку, адклаў убок. — Зноў з кляўзамі?

— Ды не, тут іншае. Мастак Пушкарчук прапаноўвае адкрыць музей народнай творчасці ў яго майстэрні. Вы ж памятаеце, там жылі дзве сям'і, а потым аддалі пад майстэрню, ён хоча і другую хату прыстасаваць пад музей.

— Зноў Пушкарчук. І хапае яму ахвоты лезці ва ўсе дзіркі. То з Антонам Зялёнкам насіўся як з пісанай торбай — таленавіты, пра яго скора загавораць, — а тут з новай носіцца ідэяй. І часу хапае ў яго на ўсё.

— Не, Рыгоравіч, мне думаецца, што гэтая справа цікавая. У рэспубліцы такога няма, а ў нас будзе. І затрат амаль ніякіх не трэба — святло, рамонт, тэлефон ды нейкія дробязі.

Старшыня выканкома на момант задумаўся, пацёр падбароддзе — а што, можа, намеснік і мае рацыю? Няхай будзе добрая навінка ў горадзе. Каб тыя пісакі бачылі не толькі кепскае, а і...

— Ну добра, абмяркуем гэтае пытанне пазней. Падумаем, мо і сапраўды трэба прыслужацца да прапановы. Далей што?

— З будаўніцтвам школы не ўсё выходзіць. Падрадчык і субпадрадчык не могуць ніяк дамовіцца, хто будзе займацца добраўпарадкаваннем.

— З гэтым разбяромся. Усё?

Алег Пятровіч падаў паперку:

— Тут пра хабар.

— Пра які хабар? — нахмурыўся Фядос Рыгоравіч, адчуў, як нешта халоднае пашылася да левага бока — але тут жа ўзяў сябе ў рукі.

— Ананімка. Нехта піша, што генеральны дырэктар дрэваапрацоўчага аб'яднання за хабар дае кватэры. Быццам хапнуў ужо не адну тысячу.

«Во і ёсць зачэпка, — абрадаваўся Фядос, але выгляду не падаў, — цяпер патанцуеш, таварыш генеральны...»

— Абдзяліў, значыць, некага, — уздыхнуў Ганчарэнка, быццам паказваў незадаволенасць да ананімшчыкаў — здзекуюцца з добрых людзей, паглядзеў стомлена на Алега Пятровіча. — Але ж трэба даваць ход. Будзем думаць... Усё на гэтым? Дзякую.

Намеснік прычыніў за сабою дзверы, а гаспадар кабінета перавёў дыханне, пагладзіў далонню левы бок, адчуў, што ўзмакрэў. Ад хвалявання? Адкуль яно магло ўзяцца? Справа мінулая, сведкаў жа няма...

Стаяў на чарзе цырульнік Сямён Леплер. Перад гэтым развёўся з жонкаю. А сам удзельнік баёў за Ленінград. І ваяваў усяго месяцы тры, а вось запіс у кніжцы чырвонаармейца застаўся, і нікуды тут не падзенешся. Развёўся, значыць, развёўся — нічога не паробіш. Хату і ўсю маёмасць пакінуў жонцы і дачцэ, якія засталіся там жыць. А сам стаў на чаргу на атрыманне кватэры — на льготную, на ветэранскую, прадставіўшы паперы аб разводзе, даведкі, што жыў адзін на кватэры...

І прыйшла чарга атрымоўваць тую хату, усё рашала жыллёвая камісія. Не апошняе слова было і за ім, старшынёй выканкома. Ведаў пра тое і Леплер.

ён усунуўся невядома як — мо не было ў прыёмнай сакратаркі. Выкарыстаў момант. Неяк бачком, бачком, на твары прабачальная ўсмешка. Росту невысокага, сагнуты — прафесія наклала адбітак, амаль упоравень стала. На галаве рэдзенькія валасы, бялесыя павекі і прыплюснутыя вочы...

— Я — цырульнік, Леплер я... Там, на чарзе, павінен атрымаць хату... Каб не было пытанняў, Фядос Рыгоравіч, дык я падумаў... Ад чыстага сэрца, бо такое наша жыццё. Вой як я намучыўся са сваёю былой жонкай. А цяпер чысты, зажыў спакойна, як чалавек...

Ён выняў хуценька аднекуль з папкі шэры канверт, цішком і хуценька, як быццам рабіў такое штодня, сунуў яго пад настольны каляндар. Борздзенька адскочыў ад стала на некалькі крокаў, каб і не быць побач.

— Што гэта азначае? — кіўнуў на каляндар Ганчарэнка, голас быў металічны, строгі, незадаволены.

— Цырульнік я, Леплер... Там чарга... Ад чыстага, маючы надзею... І ўсё па закону, як ветэрану...

Цырульнік гэтак жа нечакана знік, як і з'явіўся. Фядос нават нічога не зразумеў — мо сон які, але позірк не адрываў ад падстаўкі календара. Не губляючы часу, ён хуценька ўзяў канверт і ўкінуў яго ў ніжнюю шуфлядку.

Але ўзяў канверт не пальцамі, а праз паперку. Потым яе скамячыў і паклаў у кішэню, каб выкінуць на вуліцы, ён быў хлопец не дурны, ведаў, што такое хабар. Колькі ж ён, цікава, паклаў?

Карцела пералічыць, але нешта замінала. Хацелася даведацца, ці каштуе што яго рызыка.

Ён падумаў і схаваў канверт у патаемнае дно.

— Фядос Рыгоравіч, — у кабінет зайшла сакратарка, — праз дзесяць мінут пачынаецца бюро гаркома партыі...

Жыццё прайшло ў Пушкарчука — ворагу не пажадаеш.

Бацька, як казалі суседзі, быў багамазам. Іконы пісаў для людзей. Памёр нечакана, ціха, і пахавалі ціха — жыў чалавек, і не стала яго, як і не было.

Маці... Казалі, прыгожая была, вясёлая. Але ў галодныя гады было не да весялосці. Зачыняла яго аднаго дома і сыходзіла на некалькі дзён. А то і тыдняў. Ці то шукаць правіянт, ці па якой іншай патрэбе, а вярталася дадому праз тыдзень-два і здзіўлена пaглядала на сына, што той жывы: столькі ж дзён галодным быць.

Карміліся тым, што прыносіла. Елі месяц, два і тры, а потым запасы канчаліся, і вось аднойчы яна зноў знікла на доўгі час. Прайшоў і трэці, і пяты тыдзень, а пра яе не было ніякага слыху.

Па вёсцы не хадзіў, кавалачка хлеба ні ў кога не прасіў. Невядома як і ліпеў. Ад галоднай смерці выратавалі суседзі. Дзядзька Гаўрыла прынёс да сябе ў хату — адкармілі, адагрэлі.

А як адчуў моц у нагах, адправіўся ў белы свет, забыўшыся і на маці, і на вёску...

За спіной у яго — за сем дзесяткаў, а не скажаш, што такія гады ў чалавека. Бегае штораніцы, ды не проста бегае, а па некалькі разоў збягае па металічнай лесвіцы, што пакладзена на гары — спуск да Прыпяці. А ў ёй шэсцьсот пятнаццаць прыступак.

Не даў Бог яму дзяцей. Горка жартаваў Пушкарчук, кажучы, што іх адабраў у яго Гітлер і Сталін. Танкіст Пушкарчук быў падбіты пад Мінскам і, паранены, папаў у палон.

Фашысты кінулі яго ў канцэнтрацыйны лагер Майданак. Елі траву і лісце. Над вязнямі фашысты праводзілі доследы, даючы штодзённыя пякучыя ўколы. Адначасова беручы кроў для вермахта.

Калі ж вярнуўся на радзіму, сталінскія паслугачы адправілі яго ў Сібір...

Падняўся ён рана. Клопатаў набегла шмат. Яны непакоілі яго ўсю ноч, і ён вырашаў іх усю ноч, як камені варочаў.

Толькі пад раніцу ахапіў яго моцны сон.

Прачнуўся бадзёры і вясёлы.

Збегаў на сваю «лесвіцу здароўя». Вярнуўся праз паўгадзіны, апаласнуўся халоднай вадой. Сеў за стол.

— На цэлы дзень сёння? — папыталася Ганна, яго жонка.

— Да вечара. Клопатаў шмат.

— Тады і еш добра, — параіла яна, — сілы будуць.

Ён жаваў смажанае мяса, запіў гарачай гарбатай. А

клопаты не выходзілі з галавы. Зноў трэба ісці да старшыні гарвыканкома. Надумаліся будаваць новыя дамы на беразе Прыпяць А там старыя хаты стаяць, дарэвалюцыйныя. І адна з іх — купецкая, двухпавярховая, з разнымі аканіцамі і трыма балкончыкамі. То ж музейная хата! Якое дойлідства!

Будаўнічая служба выканкома дала ўказанне знесці ўсе хаты, а рэшту спаліць. Аж сэрца разбалелася, як дачуўся пра тое. Не верыў такой бязглуздасці. Не ўкладвалася ў галаве.

Папярэдне не званіў, не хацелася назаляць. Надзею меў на заканамерную выпадковасць, калі сустрэчу рыхтуе само жыццё. А калі што, дык і напралом можна ісці — не хату ж сабе вымольваць ідзеш, як тое было пятнаццаць гадоў назад.

— Толькі там ужо шашкай сваёй меней махай, — раіць яму жонка, гаворыць без злабы і насміхання, ведае, што ў яго характар прамы і адкрыты — лупануць можа і старшыні, і першаму гаркома партыі. — Спакойнасцю больш чаго даб'ешся.

— Трэба будзе, дык і памахаю, — міргануў Мікалай Мікітавіч, дакранаецца да рукі жонкі, глядзіць у вочы, не за сябе стараюся, не за сябе... Хаця, як ведаць, і за сябе таксама...

— Ну, ідзі ўжо, Аніка-воін, ваюй.

Старшыні Ганчарэнкі на месцы не было. У прыёмнай сказалі, што пайшоў у гарком партыі, што хутка павінен вярнуцца. Таццяна Паўлаўна ведала мастака добра, даўно пераступае парог прыёмнай.

Ён сеў на крэсла ля акна, задумаўся. Сакратарка занялася сваім клопатам — адказвала на тэлефонныя званкі, некага прасіла пазваніць, некаму напамінала пра адказы і пісьмы.

«Таксама работа, — думае пра жанчыну Пушкарчук, — і трэба мець нервы і здароўе кожны раз быць у адным і тым жа настроі, быць вясёлай і дзелавой, спачувальнай і памяркоўнай...»

У прыёмную зайшоў чалавек, накульгваючы на драўляны пратэз. Кавенькай паказаў на дзверы старшыні, спытаў:

— На месцы?

— Фядос Рыгоравіч вось-вось будзе, пачакайце, калі ласка. А вы запісваліся да яго на прыём? — пацікавілася жанчына.

— Я запісаўся да яго яшчэ на рэйхстагу, як з хлопцамі першыя ўварваліся, — чалавек гаварыў без нервовага пафасу, як бы між іншым, уздыхнуў, паразважаў, не ведаў, што рабіць далей.

Ён быў у пацёртым касцюме, паголены — мусіць, толькі што з цырульні. Ад яго патыхала адэкалонам. Інвалід крутануўся на драўлянай назе, задумаўся, пачухаў патыліцу.

— Тэкс, тэ-экс... — зрабіў ён крок да дзвярэй, няўцямна правёў позіркам па людзях, што сядзелі паўз сцяну, заўважыў Пушкарчука. — То і ты тут, Мікітавіч? Да яго? А я і не бачу, сляпы стаў.

Мікола Мікітавіч ветэрана ведаў добра. Не раз гаварылі, успаміналі вайну. Арэшка расказваў пра сябе, пра тое, як нагу страціў у баі... Акурат тады, як і распісваўся на тым рэйхстагу, як штурмам бралі тую вышыню. Нечакана разарваўся непадалёк ад іх нямецкі снарад... Як брытвай зрэзала нагу. А пяцёра хлопцаў, што ішлі ззаду, загінулі пазней, дзевятага мая, не ведаючы, што ў той дзень і была Перамога... За ўсю вайну Андрэя Арэшку не зачапіў ніводны асколачак, ніводная куля, нават і драпінкі не было на целе, а тут такая трагічная нечаканка...

— Жыццё як?

— Ды тэпаю, Андрэй. А ты ўсё з жыллём?

— І не кажы. Абрыдла, браце, усё. Не ўмею я стукацца ў гэтыя паліраваныя дзверы. На цябе паглядаюць, як на ворага народа.

— Абяцае што?

— А-аа... Носам, браце, круціць, а нічога пэўнага не кажа. Адзін у яго адказ — пачакайце, пачакайце... Я-то буду чакаць, кажу, ды толькі ты мне скажы колькі. Каб я не надакучваў табе, не адрываў ад работы. Дык і не так, і не гэтак. Як там Зялёнка пажывае?

— Ды нічога. Малюе.

— І чаго толькі прычапіліся да хлопца? А ўсё ад таго, што асмеліўся пакрытыкаваць партыйнае начальства. А яно ж не любіць,

калі праўду гаворыш. Як тады раскрычаўся гаркомаўскі сакратар: «Я вас з работы папру! Я вам пакажу, як не паважаць партыю!..» А пры чым тут партыя, калі той першы сакратар сам не петрыць у той справе, дык і маўчаў бы. Не, прэцца, як жаба на корч... Ці не так, Мікола?

Пушкарчук хітае галавой:

— Так, так, Андрэй. Яны тады абодва пагарачыліся. А не трэба было падымаць той лямант: малюе — няхай малюе, гэта яго клопат, што і як маляваць. Справа іншая, ці можна тое выносіць на агульны суд? І то тут можна памыліцца — няхай глядзяць людзі і даюць самі ацэнку: добрае тое ці кепскае? А твой партрэт вельмі ўдаўся, Андрэй. Хвалілі яго вельмі. І мне ён падабаецца...

Арэшка прыжмурыўся, прыкрываючы калматым брывом правае вока, хмыкнуў:

— Удаўся, кажаш? Ты так расхваліў, што хочацца і мне зірнуць адным вокам. Цікава, што ж ён ува мне ўбачыў такое, што і мне невядома. Значыць, майстар. Гляну, не можа быць, каб не глянуў. Вось рашу свае жыццёвыя пытанні і... Раматус мяне, братка, заядае У тым падвале мне жыцця ўжо няма. Ды я ж і не прашу харомы і палацы, у мяне два пакойчыкі — дык дайце хоць адзін. Нам са старою хопіць.

«У кожнага свой клопат, свае хваробы і болькі, — падумаў Пушкарчук, гледзячы са шкадаваннем на Анд рэя. — Але ў яго не толькі жыццёвая неўладкаванасць.

У яго смыляць раны вайны. А яны самыя балючыя, бо сёння іх болю іншыя чамусьці не адчуваюць...»

Разы са два Мікалай Мікітавіч быў у яго. Неяк пасля мітынгу на плошчы, у Дзень Перамогі, зацягнуў да сябе Андрэй у госці. «На хвілінку, братка, доўга я цябе не затрымаю, — як бы прасіў прабачэння ў Пушкарчука, радасна клыпаў побач, зазіраў у вочы, і яму было няёмка, што франтавік так уважвае яго — як начальства якое. Але хіба Андрэй згінаўся ў ліслівым паклоне перад ім? — Вып'ем па шкаліку за перамогу. За нашых сяброў, што палеглі на франтах. За ўсіх ветэранаў, што засталіся жывыя і не могуць забыцца на праклятую вайну...»

І хаця Пушкарчуку трэба было ісці дадому, а пасля на адказную сустрэчу, якую арганізаваў савет ветэранаў і гарком партыі, пайшоў да Арэшкі.

Сам не заўважыў, як час праляцеў — аказваецца, вельмі цікавым чалавекам аказаўся гаспадар. Пушкарчук напачатку баяўся,

што той замучыць яго сваімі скаргамі і хваробамі, а аказалася, што за дзве гадзіны, якія яны прагаманілі, ні ўздыху, ніводнай просьбы.

Жонка яго, Святлана Ігнатаўна, маўкліва сядзела за сталом, толькі слухала, пра што гаварылі, не перабівала, калі муж пытаўся ў яе: «Памятаеш, Света?...» Яна толькі галавой ківала, і ў яе вачах свяцілася радасць, што Андрэй з госцем ладненька гаворыць.

Не прыгледзеўся тады да жытла, слухаў гаспадара, які так вясёла і ўзнёсла расказваў пра сябе, што без памылкі можна было вызначыць — шчаслівы чалавек ён, і душа ў яго шчырая, прыгожая. Цяпер жа шкадаваў, што не ўмяшаўся, што не падняў на ногі савет ветэранаў. У нечым адчуваў і сваю асабістую віну. І ў душы нараджаўся сорам, глядзеў у вочы Андрэю і адчуваў вінаватасць перад ім.

На стале зазваніў тэлефон.

— Слухаю вас, — прамовіла мяккім голасам сакратарка і кіўнула згодна галавой. — Добра, я зразумела...

Арэшка ўздыхнуў, глянуў у акно. Сонца высвеціла яго сівую, як пабеленую, галаву. У вачах сум і бяссілле.

— Таварышы, званіў толькі што Фядос Рыгоравіч. Нечакана яго выклікалі ў Гомель. Будзе заўтра пасля абеду. Прабачце, што так атрымалася...

— Ды нічога, у Бога дзён многа, — супакоіў жанчыну Андрэй Дарафеевіч, звярнуўся да Пушкарчука: — А ты куды цяпер?

— Ёсць адна работка, скончыць трэба.

— Мо памочнік трэба, то бяры мяне — вольнага часу ў мяне ўгага колькі. Не ведаю, куды і дзяваць яго. Што без нагі толькі, нікуды не дапрэш далёка...

Развіталіся на вуліцы, паціснулі адзін аднаму рукі.

— То бывай.

— Бывай, Андрэй, мацуйся.

— Ды буду мацавацца, трэба жыць. Кха-ха, к-ха...

«Куды цяпер? У майстэрню — пазнавата ўжо, не паспею нічога зрабіць. А можа, падацца да каралеўскага замка, пашукаць чаго ў раскопках?.. Мо цэглу якую адшукаю адмысловую. Трэба ж папаўняць экспанаты музея — мо дазволіць адкрыць мэр... Павінен дазволіць».

І ён прыспешыў крок — падаўся да Замкавай гары.

5

Наташа — летуценніца. Можа прасядзець усю ноч ля акна, глядзець у зорнае неба і марыць аб сваім, патаемным. Намеціць нейкую адну-адзіную зорачку — светлую, маленькую, — і неадрыўна

глядзіць на яе, не зварухнецца. І толькі зачэпіцца нейкі першы прывід, як тут жа з'яўляецца новы, яшчэ цікавейшы. І потым яны ўсе ажываюць, злятаюцца да яе — яна маўкліва гаворыць з імі. Хто яны, тыя прывіды?

Гэта і людзі з іншых планет, знаёмыя і блізкія. Яна кліча іх на дапамогу. Бо ёй апошнім часам цяжка, так цяжка, што яна і выйсця не бачыць з таго тупіка, у які трапіла. Разламалася яе душа на дробненькія аскалёпачкі, і яна сама ўся пераламалася, як бярэзінка пад напорыстым ветрам. Не ведае цяпер сама — ці выпраміцца, ці ажыве.

За акном сваволіць шустры ветрык, гайдае галіны каштанаў. Аціхае вечар, аціхае горад. Усё ярчэй праяўляюцца на небе зоркі. Месячык дзесьці там, з таго боку дома, не відаць яго пакуль — насупраць, на дахах дамоў, слабы водсвет ад яго.

Вунь нават відаць галубы — збіліся купкай, куголяць, мосцячыся на ноч. У вокнах ужо святло — за кожнай шторай свой свет, сваё жыццё.

Наташа навучылася распазнаваць людзей, якія хадзілі па пакоях. Яна адчувае іх настрой. З усімі жыхарамі, якіх яна бачыць, яна знаёма — страчаецца штодня, вітаецца. І з дзяцінства сядзела на гэтым падваконніку — глядзела на іх.

А вось з таго дома, што праз дарогу, яна нікога не ведае. Хаця каго-небудзь і страчала на вуліцы ці ў двары. Але ведала іх так, як кажуць, наглядкам.

Шкада, што яна не можа пісаць, як Баброў. Перадала б дакладна такія падрабязнасці, такія здарэнні, што бяры прама ў кіно ці ў кнігу тыя сюжэты. А мо то і добра, што яна не ўмее перакласці жыццё тых людзей на паперу. Бо прыйшлося б перажываць кожнае жыццё паасобку — плакаць, сварыцца, смяяцца, бачыць кроў і распусту, махаць сякерай ці нажом... У яе не хапіла б на тое сіл. Тут у сваім жыцці не можа разабрацца, а то яшчэ ўзялася б вяршыць суд над іншымі.

Вунь хаця б тое акно, на трэцім паверсе. У ім ніколі не зашторваецца фіранка. Жанчына, якая жыве там, ні ад кога не хаваецца — і таму заўсёды бачна, як яна ходзіць па пакоі, што робіць на кухні.

Раз у тыдзень да яе прыходзіць госць, ён распранаецца, вешае на вешалку плашч ці паліто — у залежнасці ад пары года, потым ідзе да акна і зацягвае шторы. Яны ідуць на кухню, сядзяць доўга за сталом, нешта абмяркоўваюць, ён цалуе ёй рукі, ківае галавой.

Жанчына ў такія вечары апранае блакітны аксамітавы халат і сядзіць так за сталом... Апоўначы на кухні гасне святло і не

загараецца ў пакоі. І далей невядома — ці госць застаўся ў яе, ці пайшоў. Аднаго разу яны чамусьці не выключылі святло. Наташа праз колькі хвілін саскочыла з падваконніка, нырнула пад коўдру і чула, як пульсавалі ў скроні тоненькія іголачкі. А ноччу прыходзіў ён, як прывід, і пасміхаўся з яе, што яна падглядвае ў чужыя вокны. Яна бажылася і клялася, што нічога такога не бачыла, але Баброў усё роўна гаварыў ёй насуперак, каб пазлаваць яе, давесці да слёз...

У акне, насупраць, над жанчынай, жыве музыкант — няўрымслівы чалавек з кучаравай галавой, увесь час хітае ёю —у такт музыкі! Кожны вечар сядае за піяніна і развучвае ці складае новыя мелодыі. Каля яго ходзяць дзеці, жонка, а ён злуецца, махае на іх рукой.

Калі ж нешта не ўдаецца, то сядзіць задумліва і страляе жоўтымі падцяжкамі.

На трэцім паверсе жыве інвалід. Да яго часта прыходзяць са школы дзеці — памагаюць нешта рабіць. Ходзяць у краму, купляюць прадукты. Дзед тэпае толькі па хаце, трымаецца адной рукой за сцяну... А потым ён іграе на скрыпцы. Дзеці сядзяць і слухаюць...

А ў кватэры, што злева, амаль штовечар сваркі. Там свае праблемы. Там свая бяда. П'е муж, і п'е жонка. Шукаюць за рэчкай пустыя бутэлькі і здаюць, каб наскрэбці на «чарніла». Калі расчынены балкон, чуваць, як яны адно аднаго абзываюць і абражаюць. Не шкадуюць салёных слоў. Плача сын, на кухні пуста — няма чаго і паесці.

Кожнае акно — свая гісторыя, сваё жыццё. Можа, адтуль, з нейкага акна, нехта таксама пазірае на яе і таксама ведае шмат чаго цікавага і нецікавага пра яе.

Раней маці праганяла яе з акна, забараняла сядзець на падваконніку. Баялася, каб не ўпала. Бацька, калі быў жывы, смяяўся з тых забабонаў: «Ну, што табе, Святлана, ад гэтага — узрост у яе такі. Няхай пасядзіць на адзіноце. У яе пытанняў незразумелых — процьма. Вось няхай і рашае іх на сваім седале, ці не так, дачка?»

Глядзіць ён на дачку ласкава, пяшчотна. Не таму, што любіў больш за Валодзю і Надзейку, а таму, што па натуры быў чалавекам дабрачым і шчырым, — разумеў яе ва ўсім. «Так, тата, — усміхалася яна і радая была, што ў яе з бацькам існуе суладнасць у поглядах на жыццё, — я яшчэ падзорную трубу куплю і буду планеты невядомыя адкрываць. Я ўжо адну адкрыла. І, ведаеш, як назвала яе?» — «Як?» — бацька ўздымае калматыя бровы. «Георгій! У гонар твайго імя!» — горда адказала яна. «Вось як, а я і не ведаў», — усміхаецца бацька.

Няма яго, і няма з кім падзяліцца сваімі думкамі і трывогамі. А клопатаў з гадамі ўсё больш і больш. Не развяжаш іх, не рассячэш тыя вузлы, што завязвае жыццё.

Як не вырваць з сэрца таго, хто стаў яе болем і радасцю, пакутай і шчасцем...

— Ты?..

— Я.

І больш ні слова за вечар. Дакладней, за дарогу, што яны ішлі разам.

— Ты? — яна задае адно і тое ж пытанне, не здзіўляючыся ўжо з яго і не радуючыся, што ён страчае яе.

— Я... — адзываецца глуха і пасля гэтага, ідучы побач, маўчыць, не распытвае, не расказвае нічога.

Чакаў яе заўсёды на паваротцы. Дождж лье, вецер усчнецца, а ён стаіць пад разгалістым каштанам, чакае.

— Ты?

— Я... Доўга сёння заняткі ў цябе.

— Сход быў.

Прамовіла і злавіла сябе на думцы, што гаворыць не так — як апраўдваецца перад ім. Прайшло амаль чатыры месяцы, як ён сустракае яе пасля заняткаў.

У час першай сустрэчы, калі ён прыйшоў да іх у групу, у інстытут, здаўся пажылым і стомленым. Старшыня калгаса напісаў у рэдакцыю пра дзяўчат, пра тое, як яны выступалі з канцэртам, як пасябравалі з вяскоўцамі. Прасіў праз газету выказаць ім падзяку. Тады Баброў і падаўся да іх у групу...

Можна было даць кароценькую інфармацыю. А яму чамусьці захацелася схадзіць да дзяўчат, пагаварыць, мо што цікавейшае раскажуць. Размова была кароткая, усяго з чвэрць гадзіны. Але за той час ён сустрэўся з яе позіркам.

— А вы што рабілі на сцэне, калі выступала група? — звярнуўся ён нечакана да яе.

— Спявала «Салаўя» Аляб'ева...

Сказанула і пачала чытаць газету, што была ў руках. Дзяўчаты пырснулі смехам, адвярнуліся.

— Харошая песня, — адказаў ён, і не зразумець было, ці ён падтрымаў жарт, ці аднёсся сур'ёзна да яе слоў.

Ён пагладзіў пальцамі вусы, загарнуў блакнот. Скроні яго пасерабрыў час, вочы глядзелі пранікнёна і ўпэўнена.

Яна і забылася пра тую сустрэчу. Нагарнуліся клопаты з падрыхтоўкай да сесіі, практычныя заняткі... І з сяброўак ніхто не ўспамінаў

пра журналіста, што прыходзіў. Нават на кароценькую заметачку ў абласной газеце ніхто не звярнуў увагі.

Здзівілася вельмі, калі аднойчы, ідучы пасля курсавога вечара дадому, сустрэла яго на рагу вуліцы.

— Ты?

Сама не ведала, чаму адразу перайшла на «ты», само сабой выскачыла, паміма яе жадання і волі, гэтак самахоць.

— Я.

Голас ціхі, як бы вінаваты. Секла твар імжа, і ён адразу раскрыў над яе галавой парасон — свой дзяўчына не ўзяла.

Маўчалі. Яна ведала, што гэтыя сустрэчы непажаданыя і непатрэбныя. Па ўзросце ён значна старэй, ведама, што мае сям'ю, дзяцей. Што тады яму трэба ад яе?

Яны маўкліва прайшлі ўвесь шлях. Не сказалі адно аднаму больш ніводнага слова. Між імі існавала толькі маўклівае яднанне — кволенькае і няпэўнае. А мо і зусім не было... Хаця б з яе боку. Яна, нырнуўшы ў доўгі прыцемкаваты тунель, не развітаўшыся, пайшла да свайго пад'езда.

Баброў чакаў яе заўтра, паслязаўтра. Кожны вечар. Яна здзіўлялася яго настойлівасці і хацела ўжо ўбачыць, хто ж пераможа ў той маўклівай і зацятай барацьбе. Тое нагадвала нейкую гульню. Яна захапіла яе, уцягнула, як у нейкі вір. І яна прыняла ўмовы — што ж тут такога страшнага — усё праходзіць маўкліва і бяскрыўдна, без слоў і пачуццяў — як у шахматы. Сэрца ад такой гульні не падарвеш. Бо ў любое імгненне ўсё можа парвацца, як восеньская кволенькая павуцінка...

Падумалася пра іншае — даўно была ў Валера Арлова, ён бы параіў, падказаў, навучыў бы мо чаму — у яго ж душа чыстая-чыстая, бы шкельца, амытае не вадой, а сумленнем і цнатлівасцю.

Валерка — паэт. Не, яго ніхто не ведае, ён нідзе не друкаваўся і нікуды не дасылае свае вершы. Ніхто не ведаў чаму. Наташу радкі краналі. Але заўважыла, што Антон Зялёнка, калі слухаў Валерку, мяняўся з твару — яго як што пранізвала глыбокім болем, ён тады ні з кім не размаўляў. Нават з ёю. У душы, мусіць, тварылася нешта неверагоднае. А што — не казаў. Яна здагадвалася: то вершы вярэдзілі сэрца і душу. Няўжо можа так на чалавека ўздзейнічаць паэзія?

Хадзілі да яго, як у царкву. Як у спавядальню.

Дзіўна было — Валер адчуваў душу кожнага, ведаў, што з ёю творыцца. Ён пранізваў кожнага нейкім боскім промнем, прасвечваў, як рэнтгенам. А яны, госці, не разумелі, адкуль ён ведаў пра нечыя

перажыванні і няўдачы, хваробы і радасныя хвіліны. Не хадзіў жа, сядзеў дома.

У яго блакітныя вочы. Антон казаў, што васільковыя. Такім вачам, здаецца, ніколі не зманіш і не схлусіш. Словы яму будзеш казаць толькі праўдзівыя і шчырыя.

Валерка з дзесятага класа не хадзіў. Адняло ногі.

Экзамены выпускныя ён здаваў у бальніцы — прыходзілі да яго настаўнікі. Амаль усе прадметы здаў на «выдатна». Паступіў потым завочна ва універсітэт. І добра ішлі справы. А потым нечакана кінуў вучобу — не хацеў назаляць выкладчыкам і адымаць у іх час. Верыў шчыра, што адрываў іх ад работы.

Жыў ён на ўскрайку горада ў цагляным дамку, які будаваў некалі бацька з сынамі. Бацькі не стала, і маці цяпер яму за няньку, за таго чалавека, які прыйдзе заўсёды на дапамогу.

З-за каміноў на даху выплыў ужо месяц і асвяціў сцяну, падваконнік. Яна спахапілася і паглядзела на гадзіннік — дзве стрэлкі зліліся на тройцы. «І сёння мяне будзе мучыць пякучы боль. Я ж верыла, што ўсё мінулася, што ўцякло з майго сэрца... Я чатыры разы пакідала яго, ірвала путы. Гарэла ў пякельным агні, змагалася сама з сабою — а ў выніку чаго дабілася?..»

Ён стаяў побач, дзе б яна ні была, куды б ні ездзіла. Ужо амаль і ненавідзець яго пачала, праклінаць, але калі званіў тэлефон, у трубцы напружана-ўсхваляваны голас пытаўся:

— Наташа, ты?

— Я, што ты хацеў?

Нейкі момант маўчанне, потым ціха-ціха шаптаў:

— Цябе...

— Чакай, хутка буду.

Яна забывалася пра ўсё, ляцела насустрач. За гэта ж пасля і ненавідзела сябе, і ўсё роўна нічога не мянялася. Але між тым боль у душы разрастаўся з новай сілай.

Бацька перад смерцю прызнаўся ёй: «Я ведаю, дачка, пра твае няшчасці. Спачатку ў цябе ішло ўсё выдатна. Ты гарэла жыццём і шчасцем. І часта снілася мне, як ты скачаш на прыгожым белым кані. А потым быў сон, і я ўбачыў, як ты ўпала з яго і забрудзіла сваю беласнежную сукенку. І з таго часу заўважыў, як у тваіх вачах патух агонь святла і жаданняў...»

Яна паклала маўкліва галаву яму на грудзі. Плакала.

Тады ж нечакана ў яе жыццё ўвайшоў Зялёнка. Знаёмства з ім адбылося за рэчкай, дзе ён блукаў штодня. Ён сядзеў на беразе — бо-

сы, з закасанымі калашынамі. Перад ім на трыножцы прымацаваны эцюднік. На ім пракідваліся слабыя абрысы будучага малюнка.

І як ішла, ён не звярнуў на яе аніякай увагі, глядзеў пад ногі і пра нешта думаў. Мастаку, мусіць, не пісалася. Рукі сашчэплены на каленях.

Яна падышла да яго, паглядзела на эцюднік.

— Там пуста, — сказаў ён, — дзень сёння пусты. Хочаце, я намалюю ваш партрэт.

— Навошта? — Наташа смяецца і прыкмячае, што ён і не глядзіць на яе. — Я непрыгожая.

— Вы кажаце няпраўду. Я намалюю ваш голас.

— Першы раз чую, што можна намаляваць голас.

— Я і сам не ведаў. А сёння паверыў, што можна. Раней я не чуў голасу.

— Прыдумляеце. Я не спявачка, не акторка, адкуль у мяне можа быць голас, які б вам спадабаўся? Я многіх мастакоў у горадзе ведаю. А вось вас — не...

Ён усміхнуўся, першы раз паглядзеў на яе. Адну нагу звесіў з берага, другую сагнуў у калене і паклаў на яго рукі:

— Меней знаёмых — меней будуць адрываць ад работы.

— А вось я навязалася... прабачце.

— Вы, Наташа, прыйшлі дарэчы, і я вам дзякую.

— Адкуль вы ведаеце, як мяне завуць?

— У мяне такое адчуванне, што я вас ведаю даўно. І чакаў вас тут, на беразе маёй Прыпяці.

Ён пацёр пальцамі вочы, расплюшчыў павекі. Сонца падала яму ў твар, і ён жмурыўся.

Яна зрабіла крок назад, другі... Па Прыпяці неслася «Ракета», гнала да берагоў трохкутнікам хвалю.

— Вы ўцякаеце ад мяне, Наташа?

Голас у яго прыглушаны, стомлены.

— Я не ўцякаю. Мне пара дадому.

Яна пайшла па беразе, пакідаючы сляды на мокрым жвіры. Толькі калі пачала падымацца на бераг, азірнулася: мастак сядзеў у той жа паставе, схіліўшы галаву.

А месячык ужо свяціў у твар.

У вокнах насупраць ужо даўно пагасла святло — людзі даўно спалі. Толькі свяцілася акно ў адзінокай бабулькі, якая ніколі, здаецца, ноччу і не спала. Наташа не раз думала: а што, калі ўзяць ды пастукаць да яе ў дзверы, зайсці і сказаць: «Бабулька, і мне не спіцца начамі. Давайце расказваць адна адной пра сябе — і радаснае, і

сумнае. І час хутка праляціць». Цікава, як бы аднеслася яна да такой прапановы?

Усё ж прыйшоў час, калі яна пакінула падваконне — прычыніла акно, распранулася і нырнула пад халодную коўдру.

...і яшчэ доўга не ішоў да яе сон.

6

З яго акна бачны цэлы свет.

Праз шыбы ён глядзіць далёка-далёка. Далей за ўсіх і глыбей за ўсіх. Разумеў і адчуваў кожным сваім спакутаваным нервам жыццё зямлі і людзей.

Аднаму яму і было вядома, як тое яму ўдаецца.

У расчыненым насцеж акне — цэлы сусвет.

Ён не скора прывык да сваёй бяды. Амаль год сніліся кашмары. Кідаўся, крычаў, усхопліваўся з ложка, хацеў некуды бегчы. Маці, Галіна Аляксандраўна, перажывала за яго, хвалявалася, начамі сядзела побач...

Аднаго разу яго пакінулі сілы — душэўныя і фізічныя. Ім апанаваў адчай. З аднакласніцай Зойкай, прыгажуняй і неўталонніцай, у якой былі льняныя кудзеркі і кірпаты носік, два гады сядзелі разам за адной партай.

Калі ж ён захварэў, прыбягала да яго як не штодня. Пасля паступіла ў інстытут замежных моў. Напачатку дзяўчына закідвала яго пісьмамі — перадавала на паперы свае ўражанні, каб ён праз яе радкі глядзеў на той, яе свет. І бегаў разам на стадыёне, хадзіў у паходы, размаўляў з іншаземцамі, якія разам вучыліся з ёю, перажываў на экзаменах, прысутнічаў на студэнцкіх вечарынках...

Паштальёнка, гарэзлівая дзяўчына Анюта, раней як не штодня падыходзіла да яго акна, якое заўсёды было расчынена, клала перад ім канверт — а то і два, смяялася, паказваючы на сумку:

— Адрывае плячо ад Зойчыных пісьмаў. Як з аўтамата строчыць...

Як сурочыла ўсё роўна, як пазайздросціла іхняму шчасцю. Бо з таго часу да яго акна прыходзіць радзей і радзей. А потым і зусім перастала. Пошту — газеты і часопісы — клала ў паштовую скрынку, што была прымацавана з другога боку хаты. Ён чытво забіраў сам — пад'язджаў на калясцы да другога акна, прасоўваў руку і даставаў скрынку.

Анюта як адчувала сваю віну — старалася не паказвацца на вочы. Пазбягала, каб не бачыць яго балючае чаканне.

Праз два месяцы і прыйшоў той адчай, ад якога ён не мог ніяк вызваліцца. Ды і бацька пачаў часцей сніцца, вясёлым такім, гаваркім бачыўся, усё клікаў яго: «Пайшлі, сын, у нашую вёску. Там цяпер такія ігрышчы, так весела і добра... Маіх бацькоў пабачыш, продкаў, значыць, сваіх...»

Нясцерпна балела сэрца. Калола штодня і штоночы ў скроні. Дактары давалі ўколы, на нейкі момант сцішвалі боль. Але пакуты з цягам часу падступалі з новай сілай і апантанасцю. І па яго жылах, здавалася, цякла не кроў, а распаленая магма вулкана. Нервы яго рваліся, як гнілыя вяроўкі. Застаўшыся дома адзін, плакаў ад безвыходнасці, не ведаў, як пазбавіцца ад пакут.

І вось у адзін з такіх невыносных дзён да яго прыйшла здрадніцкая думка.

На вешалцы ён убачыў тонкую вяроўчыну, на якой маці развешвала сушыць бялізну. Перад тым як здзейсніць задуманае, ён пад'ехаў да свайго акна, каб яшчэ раз уволю нагледзецца на сонца, на сад, на неба.

На падваконнік скочыў верабей. Паскакаў, паскакаў, злётаў некуды ў сад, вярнуўся. Станцаваў на пафарбаваным падваконніку нейкі свой адмысловы танец, некуды ў голле нырнуў.

«Накармлю верабейку, — раптам рашыў ён, — галодны ж, пэўна, калі да мяне прыляцеў...»

На кухні ён ухапіў лусту хлеба, вярнуўся. Пакрышыў яго дробненым, стаў чакаць.

Верабейка прыляцеў зноў. Схіліў галаву, разглядваў, не верачы, што перад ім пахкі хлеб. Вочкі свяціліся цікаўна і гарэзна. Птушка, мусіць, была цікаўным стварэннем, бо не накінулася адразу на корм, а рашыла пабачыць, хто гэта так паддобрыўся да яе. Асмялела і ўскочыла на край падваконніка, што выступаў на хату. Сустрэлася позіркам з чалавекам — і не спалохалася.

Доўга разглядвала хлопца, быццам бачыла ўпершыню. Хаця лётала пад вокнамі кожны дзень.

— Ну, здароў, верабей! — напаўголаса прамовіў ён, не рухаючыся, каб не напалохаць шэрую птушачку.

— Чыр-чыр... — падаў вясёлы голас верабейка.

— А-а, цябе, значыць, Чырам завуць? Ну а я — Валерка. Валер Арлоў. Вось і пазнаёміліся. Як жывецца табе, Чыр?

— Чыр-чычырр...

— Добра, змачыць?

— Чыр...

— Давай будзем сябраваць з табой, га?

— Чыр-чыр...

— Дзякую табе. Ты, мусіць, не верабей. Ты — анёл. Толькі шэры. О, дык у цябе і адрозненне ёсць. Пляміна белая на галоўцы. Адметны ты нейкі. Не паспеў перафарбавацца з белага ў шэрае? Не падманеш, братка, мяне... Ну-ну, я жартую, не крыўдзіся...

— Чыр-чыр-чычыр!..

— Ого! Дык у цябе цэлыя склады і словы нават. Я навучуся іх разумець, калі ты будзеш прылятаць да мяне кожны дзень. Мы будзем з табою размаўляць. Будзеш прылятаць да мяне, скажы?

— Чыр-чыр!

— Во, ужо і навучыўся разумець тваю згоду. Значыць, пасябруем, пасябру-ууем! Сябрамі будзем. А цяпер паклюй, верабей, падсілкуйся. Чыр Чырыч, у цябе работы шмат. І клопатаў шмат. А для ўсяго сіла патрэбна. Я буду чакаць цябе і заўтра ў такі ж час. Прылятай, размаўляць будзем. Прачытаю табе вершы. Я сёння напішу табе першае пасланне. Я яго так і назаву «Пасланне Вераб'ю». То, значыць, табе.

Верабей смела паскакаў па падваконніку, пачаў кляваць крошачкі хлеба. Кляваў і чырыкаў, як дзякаваў чалавеку за яго добрыя словы і адносіны. А Валер глядзеў на яго, і на сэрцы асядала незразумелае пачуццё — пачаў прападаць боль, перастала калоць у скроні. Па шчоках пацяклі слёзы замілавання і ачышчэння.

Ён падкаціў да вешалкі, схапіў скрутак вяроўкі і выкінуў у фортку. Выкінуў — і ўздыхнуў. Як выкінуў з душы, са свайго сэрца чорную вужаку...

Назаўтра, калі сонца зноў паднялося з-за хаты і асвяціла яблыню пад акном, пад'ехаў да акна і чакаў Чыра. Як пісем некалі ад Зойкі. Ён паверыў, што з яго прылётам павінна шмат чаго змяніцца. Жыццё набудзе новы, больш значны сэнс. Ён вылечыцца ад сваіх хвароб і пачне радавацца жыццю.

Чыр прыляцеў. Адразу паскакаў на край падваконніка — ад пакоя, дзе сядзеў учора.

— Чыр-чыр!

— Здароў, Чыр, здароў! Я верыў, што ты прыляціш. Быць таго не магло, каб ты падмануў мяне. І я не губляў дарэмна час. Паслухай, што я прысвяціў табе.

Здароў, крылатае стварэнне!
Цябе я, брат, чакаю зноў...
Зноў сокі ўдарылі ў карэнне.
Пазбавіўся ад чорных сноў.
Ты кожны ранак сонца бачыш —

Яго і захад, і ўсход.
Анёл ты для мяне — няйначай.
Шчаслівы ты падараваў мне год.
Ляці, крылаты, у сусвет бясконцы!
Цябе бяда хай не кране.
Ляці і пачастуйся сонцам —
І зноў вяртайся да мяне!

Валер нейкі момант глядзеў на госця, потым ціха папытаўся:

— Не спадабалася, га?

— Чыр-чыр, чыр-чырык, — заспяваў задаволена верабей.

— Дзякую, брат, ты сапраўдны друг! Але я табе прызнаюся: чагосьці ў вершы не хапае. Абяцаю напрацаваць яшчэ над ім, гэта ж так, першыя накіды...

Валер зноў падаўся на кухню, адрэзаў скібу хлеба. Дзіўна, верабейка не ўцякаў ад яго, не баяўся рук чалавека. Нецярпліва глядзеў на крошкі, на пальцы... Апошнія крошкі Валер пакінуў на далоні, руку паклаў побач з Чырам. Верабей ускочыў на далонь і асцярожна скляваў іх.

— Сілкуйся, Чыр, сілкуйся. І не забывайся пра мяне.

— Чыр-чыр...

Валер гаварыў і гаварыў, стараўся стварыць са сваіх слоў даверлівую мелодыю ўзаемаадносін, каб Чыр прывык да яго дабрыні. Хлопец нечакана палюбіў гэтага шэрага анёла, ён ткаў і ткаў слоўныя карункі, узгадняў думкі з Чырам, раіўся, пытаўся. І настаў дзень, калі прыйшло поўнае яднанне — верабей заляцеў у пакой і сеў хлопцу на калена.

Арлоў не чакаў ад яго такой смеласці. І таму баяўся паварушыцца, каб неасцярожным рухам не спудзіць свайго сябра. Але Чыр зразумеў яго збянтэжанасць, пераскочыў з калена на плячо — да самага вуха, задаволена абвясціў:

— Чыр-чыр, чыр-чык-чырык!

— Пра што ты сказаў? Такіх слоў я яшчэ не чуў...

Але Чыр не тлумачыў. Пакінуў плячо, палётаў па

хаце — пырхнуў у адзін пакой, у другі — як быццам правяраў, ці няма каго больш у хаце, ці не слухае хто іх размову. Прачырыкаў нешта ў кожным пакоі, зноў вярнуўся да Валера, на плячы ўладкаваўся, пачаў дзюбку чысціць, марафет наводзіць.

Маці ўсю хату абшукала, так і не трапіла вяроўчыны — хацела нацягнуць яе паміж яблынямі. У паштаркі Анюты пазычыла. А праз колькі дзён знайшла вяроўчыну ў агародзе пад плотам. Здзівілася, у сына папыталася:

— Хто гэта, сынок, яе ў агарод выкінуў?

Сын засмяяўся гучна, у вачах агонь шчаслівы, валасы гарчаком, закрычаў радасна:

— Не ведаю, мама! Не ведаю!.. Мо дамавік які ў нашай хаце пасяліўся!

Стукнулі веснікі — спяшаліся на абед з работы браты.

— Ой, я ж і забылася — Валодзьку і Кольку карміць трэба! — спахапілася маці і заспяшалася на кухню.

На падваконнік ускочыў Чыр, і Валер міргануў яму:

— Усё выдатна, Чыр Чырыч, усё выдатна! Пайду і я паабедаю, добра?

— Чыр-чыр!..

7

Дзень ужо ўбіраўся ў сілу.

Пушкарчук па мокрых прыступках спусціўся ў падвал разбуранага дома. З сабой прыхапіў ліхтарык. Ведаў, што там цемнавата — пазаўчора так і не дабраўся да таго месца, як мерыўся. Злаваў, што нават і сярнічак не прыхапіў з сабою — не курыў.

Ён не хацеў, каб хто быў сведкам яго пошукаў. Таму нейкі час, перад тым як спусціцца ў сутарэнне, аглядваўся.

З-пад апошняй прыступкі ён дастаў малаток і кірку — імі зручней было выбіваць тую цэглу, якую намеціў.

Дом будавалі задоўга да рэвалюцыі. Праёміна была закладзена цэглай знакамітага завода братоў Карповічаў. На тыльным баку цагліны і ініцыялы стаялі «брК». У народным музеі, які ён марыў адкрыць, былі розныя маркі, а вось такой не было. І ён радаваўся, як малое, што набудзе новую рэч.

Нейкі будаўнік кладку рабіў сумленна, — нельга было і падступіцца: ні ломам, ні кіркай не ўгрызешся. Таму першыя цагліны проста выбіў, вытрушчыў, каб можна было асцярожна падступіцца да наступных. Яны паддаліся лёгка — нават і драпінкі на іх не было. Цаглін назбіралася з дзесятак.

За дзіркай было пуста. Цікавасць узяла — а што там, за сцяной? Некалькі ўдараў кіркай — і можна было ўжо прасунуцца ў праёміну.

Перад тым як ступіць туды, у невядомасць, прыслухаўся: было ціха. Толькі даносілася слабае гудзенне машын, што праносіліся па бліжэйшай дарозе.

Адразу ў нос ударыў пах гнілі і сырасці. Святло ліхтарыка выхапіла з цемры шэрыя абрысы наступнай сцяны, ужо каменнай, парослай слізкім шэрым мохам. Са сцяны вываліліся асобныя камяні і

звузілі праход — не ўціснуцца. Прыйшлося трошкі папрацаваць, каб прабіць сабе дарогу шырэй.

Ногі ступілі на слізкую каменную падлогу.

Скляпенне было доўгае, метраў з дзесяць. Столь выгнулася дугой. Ушыркі памяшканне было крокаў з пяць-шэсць, не болей. І ніякіх дзвярэй. Ні ўваходу, ні выхаду. Ніякай шчылінкі святла — як пастка.

Што тут было, у гэтым мураваным гроце? Чый ён, каму належаў? Для каго быў зроблены? Напаткала расчараванне — нічога добрага для сябе не адшукаў. Хацелася толькі абмацаць кожны камень, дакрануцца рукой.

Пра сутарэнні Пушкарчук ніколі не чуў. Год назад ён праглядваў у музеі матэрыялы пра горад. Прачытаў, што некалі, пяцьсот гадоў назад, на гары стаяў каралеўскі замак. Яго два ці тры разы перабудоўвалі, але ў час вялікіх паўстанняў і пажараў ён быў знішчаны і ніколі не аднаўляўся...

Малюнкаў ці якіх накідаў гісторыя не пакінула. І таму ніхто не ведаў, як ён выглядаў.

Памяць выхапіла з летапісу некалькі радкоў:

«...таго ж року 1506 зноўку зкупіўшыся татар 30 (л) тысяч уторгнулі ў літоўскую зямлю, бурачы, палячы і пляндруючы, якія, прыцягнуўшы да Клецка каля замка сталі кошам. Загоны распусцілі, а Літва яка будучы ад паганых зубажоны толькі ся ледзьве 10 тысяч сабраўшы, ударылі па кошу. З помачы божай якіх паграмілі із лукамі прыходзячых да коша білі, мардавалі і ўсіх нагалаву разграмілі. А гетманам над Літвою быў князь Міхайла Глінскі».

Праз два гады горад быў захоплены князем, які перайшоў служыць да Вялікага князя Маскоўскага Васіля Іаанавіча. Але потым чамусьці нечакана быў вернуты да Сігізмунда I.

А праз трынаццаць гадоў горад быў спалены татарамі...

Ці не да тых часоў належаць гэтыя скляпенні.'

Пушкарчук раптоўна для сябе адкрыў выснову: тут, у скляпенні, і думалася інакш, чым там, на святле. Да драбніц успаміналася гісторыя — і тады чуўся лязгат коп'яў і дзідаў аб шлемы, свіст вострых стрэлаў.

Вялікі пажар у горадзе прымусіў прызначыць спецыяльны збор. І ўжо на пачатку 1613 года ўмацаванні горада былі адноўлены, пры гэтым горад быў абнесены высокім валам з сямю вежамі і фортамі...

Замак адыгрываў тады вялікую ролю ў жыцці палешукоў. На яго тэрыторыі знаходзіліся цэрквы і касцёлы. Гісторыкі і летапісцы сцвярджалі, што ўмацаванні і падземныя схроны існавалі яшчэ дзесяць — дваццаць стагоддзяў назад...

Замак, ці гарадзішча старажытнага горада, знаходзіўся ў яго цэнтры — на Спаскай, а пазней Замкавай гары. Месца палешукі-дрыгавічы выбралі ўдала — ведалі ў гэтым толк. Над рэчкай, з абодвух бакоў абмежаванай глыбокімі і шырокімі канавамі. Праз іх ворагу нельга было прабрацца. Што ўяўляў тады каралеўскі замак? Першы ўспамін пра яго адносіцца да 1519 года, калі Вялікі князь Сігізмунд аддаў «у заставу замак папу Альбрэхту Марцімавічу Гаштальду... за 1500 коп грошай».

Пушкарчук тады не ўтрымаўся, перапісаў у свой сшытак скупыя паведамленні гісторыка, каб самому ведаць і памятаць даты таго часу. Тады яны зацікавілі не вельмі, а вось цяпер гісторыя набывала нейкую рэальную значнасць.

Першы вядомы інвентар адносіцца да 1552 года. Аб тым часе гаворыць «Калодзеж» — такі летапіс. «У замку... 30 сажняў углыб, і месцэ зруйнавана... а рабіў яго нейкі Міхаіл Гашын, стараста і гараднічы Прыпяцкі... а як збудавалі — стаіць 70 гадоў».

Было вядома яшчэ, што замак быў з трох вежаў з гароднямі і некалькімі дамамі паміж імі, якія выконвалі ролю сцен.

«Вежа варотная старая... Па правы бок той вежы дзве Гародні старых, за імі — 4 новых зрублены ў тры сцяны... За імі — дом цёсаны, ні печаў, ні каміноў, ні лаў... За тым домам — вежа на вуглу замка, у чатыры сцяны, у сем гмахаў... Па другі бок той вежы — дом другі тым жа чынам зроблены, не скончаны... ад таго дома да трэцяе вежы гародзен новых дзесяць... Вежа на вуглу ад паркана. Адна гарадня новая і восем старых. У замку: царква святога Спаса на падрубе, святліца і камора для гараднічага. Яшчэ камора, два свірны і жытнік. Хата чорная і піўніц дзве...» Ведаў Пушкарчук, што была яшчэ царква святога Міколы.

Рукі абмацвалі кожны камень сцяны. Было жаданне дакрануцца да гісторыі, адчуць яе дыханне.

Некалі, у Ленінградзе, ён хадзіў на Мойку да Пушкіна — на экскурсіі быў. Ці то экскурсавод-жанчына была такой эмацыянальнай і ўлюблёнай у паэзію генія, ці Пушкарчук чакаў у той дзень нечага незвычайнага, але расказ пра апошнія дні паэта ўразіў яго і ашаламіў.

Яму тады здалося, што адчуў смяротны боль, чуў апошнія словы паэта, шэпт Даля і Жукоўскага ў калідоры.

Вось тады толькі для яго Пушкін стаў Пушкіным. Вялікім. Неабдымным. І зразумелым. Школьнае ўяўленне пра яго здалося збяднелым, хрэстаматыйным і кніжным. Яго прымушалі чытаць вершы, харошыя вершы, а тут сам паэт, сваім голасам чытаў свае радкі. І

тады Мікола чуў, як пераліваласся, пульсавала ў венах неспакойная кроў паэта.

З таго часу кожны радок адчуваў сэрцам. І разумеў як ніколі.

Тое здарылася і тут. Ён дакрануўся да камянёў не рукамі, а душой. Колькі часу гэтым скляпенням?

Ён расчаравана ўздыхнуў. Дадому прыйдзецца вяртацца з некалькімі цаглінамі. Перад тым, як павярнуцца назад, яго ўвагу прыцягнуў адзін камень, ён слаба нагадваў твар чалавека. «Можа, яго ўзяць на памяць,— падумалася нечакана, — усё роўна больш сюды не вярнуся...»

Паспрабаваў падважыць малатком — не атрымалася.

Лаўчэй тое было зрабіць кіркай. Устраміў пляскаты канец паміж двума камянямі — у шчылінку, націснуў раз, другі...

І камень паддаўся. Ён быў чамусьці не ўмураваным у сцяну. Тое здзівіла Пушкарчука, надало яшчэ большай цікавасці. Міліметр за міліметрам высоўваўся ён з палону суседніх камяшок. Потым і на сантыметр, пяць, дзесяць... Ужо і рукамі яго можна было ўхапіць.

Камень быў важкі — аднаму не занесці. З квадратнай доўгай адтуліны патыхнула нежылым і нездаровым пахам. Пушкарчук накіраваў у квадратную цемрадзь прамень ліхтарыка. За сцяной, у паўрукі таўшчынёй, упрытык да яе, убачыў шэрую — не то драўляную, не то цагляную сцяну з нейкімі адтулінамі. Выдаўжыў руку і дакрануўся пальцамі да ліпкага і цёплага дрэва. Панюхаў кончыкі пальцаў — пахлі нейкай смалой. «Прапітана, каб не гніло? — падумаў адразу. — Але для чаго «яно» ўстаноўлена? Як да яго падступіцца?»

Падумаў зноў пра кірку. Але і ёю нельга дастаць. А калі дзяржаннем? ён уставіў канец у адтуліну і падважыў.

Нешта зарыпела, і сценка пакрысе, ледзь заўважна, падалася ўверх. Пушкарчук адчуў, як пахаладзела ўсярэдзіне — што гэта ўсё азначала?

Яшчэ адна адтуліна, яшчэ... Чацвёртая, сёмая. І тут жа злева, праз чатыры выступы пачала пакрысе падаць сцяна. Правільней, частка сцяны — тайны ход? Патайныя дзверы апусціліся і сталі мосцікам. Куды, у якое стагоддзе?

Тахкала гулка сэрца, гатовае выскачыць з грудзей.

Магнітам цягнула да сябе невядомасць.

Пушкарчук ступіў на ляжачыя дзверы-мост, тэпнуў нагамі — не зварухнуліся. З нецярпеннем сышоў і ступіў на нейкую прыступку, ён убачыў кола, якое было прымайстравана да сцяны з адтулінай. Зразумеў адразу прынцып работы. Круцячыся, кола круціла меншае, а тое прыводзіла ў дзеянне рычаг, ён падымаў і апускаў патайны ўва-

ход. Простая і мудрая канструкцыя. Дубовая. Мораны і насычаны нейкім асаблівым растворам, перамешаным з жывіцай, — дуб пахнуў ёю.

Ну што, наперад? Наперад — уніз? Прыступкі вялі туды. І сто налічыў, і дзвесце, а канца ўсё не было. Ці хопіць святла далей? А раптам сядуць батарэйкі? Але яго цягнула далей і далей.

Паветра затхлае, а макрэчы не адчувалася. Нават слабы ветрык павяваў — не свежы, але адчуваўся павеў.

Урэшце прыступкі скончыліся. Перад ім быў вузкі і доўгі калідор. У канцы яго тры выхады — як у той казцы: пойдзеш налева... Пайшоў у правы. Спяшаўся — не было калі раздумваць. Хацелася зірнуць хоць адным вокам і хутчэй назад. Потым прыйсці сюды з Антонам ды запасціся ўсім неабходным.

Тое, што адкрылася перад вачыма, уразіла і ашаломіла. Да сцяны ржавымі ланцугамі былі прывязаны шкілеты. І па-над другой сцяной — насупраць. Усе ў кайданах і наручніках. Што зрабілі яны, гэтыя людзі, чым правінаваціліся перад людзьмі і Богам? Хто ім прыдумаў такую смерць — без плахі і прысуду? Чыё гэта злачынства, якога стагоддзя?

Бачыў Пушкарчук кроў і здзекі, смерць і жорсткасць. але ўбачанае скаланула.

Адчуў, што ў падзямеллі знаходзіцца больш нельга ні хвіліны. І ён пабег назад, раз-пораз аглядваючыся, як быццам яго мог нехта дагнаць і закаваць у кайданы. Трэніроўкі па металічнай лесвіцы вельмі спатрэбіліся — узбег назад лёгка і хутка, нават не задыхаўся.

Ліхтарык свяціў слабым, кволенькім промнем — хапіла б яшчэ на хвілін колькі, не больш.

Кола паддавалася лёгка. Павольна і ціха выраўнялася сцяна. Як і не апускалася, злілася з астатнімі выступамі.

Дабіраўся ўжо вобмацкам, забыўшыся пра цагліны, якія падрыхтаваў, каб забраць з сабою.

Выбраўшыся наверх, стомлена ўпаў на зямлю і раскінуў у бакі рукі. Дыхаў на поўныя грудзі і не мог здаволіцца чыстым паветрам.

Над ім праляцеў, натужна круцячы прапелерам, верталёт. ён узяў кірунак да самага высокага дуба, што рос на гары. Завіс над ім...

Пушкарчук толькі мельгам зірнуў у той бок: падумаўшы, якая там можа быць у верталёта работа. І зноў адкінуўся на спіну — не мог надыхацца чыстым паветрам.

## 8

І вось новы лістапад.

Я яго сустрэў гэтак жа шчымліва, як і раней. Але не так балюча — што мяне здзівіла і ў нечым абрадавала. Пякучы боль надакучыў, пачаў аціхаць. А на змену яму ўварвалася нейкае іншае, свежае і ачышчальнае пачуццё.

У гэты віхурны лістапад уварвалася ты, Наташа. Нечакана, як прынцэса з нейкай дзіцячай казкі — дзівоснай і прыгожай. Я паверыў у цябе. У твой незвычайны вобраз. У твой голас, які я найперш адчуў і пачуў. А потым ужо я ўбачыў цябе.

Ты мне падалася такой прыгожай, такой чыстай і светлай у сваёй новай сукенцы — бы блакітная пралалінка ў бярозавым маладым гаі. І мне хацелася, каб да цябе ніхто не датыкаўся — ні чалавек, ні вецер...

Я ўжо тады, не ведаючы цябе, зайздросціў ветру, які лашчыў твой твар і цалаваў твае вусны, сонечным промням — яны цэлымі прыгаршчамі сыпаліся на цябе, ці не яны і пакінулі на тваіх шчоках ледзь прыкметныя адмецінкі: маленькія сонейкі-кропачкі...

Потым я і сам баяўся дакрануцца да цябе. Бы баяўся, што ты знікнеш, растворышся, бы тая казачная прынцэса. Я забіраўся ў самыя глухія палескія нетрыскі, дзе, можа, не ступала нага чалавека, каб там, на цішы і ў суладдзі з прыродай, стварыць нешта такое... Мне тады хацелася намаляваць твой голас, а я ніяк не мог падабраць патрэбнай фарбы...

Мне здавалася, што нехта вадзіў па мальберце маёю рукой. На загрунтаванае палатно кладіся неверагодныя колеры і дзівосныя спалучэнні. Яны то знікалі, то прападалі, і тады чуваць быў нейкі ўздых — не то адчаю, не то радасці, нейкае слова, іскрынка смеху... Пэндзаль адрываўся ад тканіны — і голас аціхаў. Дакранаўся — зноў нешта ажывала.

А лісце падае і падае, і яго падхоплівае вецер, кружыць яшчэ доўга ў паветры, даючы апошнюю асалоду адчування вышыні і палёту, зрабіўшы на момант птушкамі. А я гляджу на яго, і мне падаецца, што то і не лісце зусім і не птушкі, то пажоўклыя старонкі з кнігі майго ненапісанага кахання, радкі якой мне так і не ўдаецца дапісаць... Цяпер хай дапісвае вецер і ліставей, ім давяраю такую работу.

Голас ледзь чутны, бы слабы павеў ветру. Але я адчуваў яго і быў упэўнены — адшукаю фарбы і напішу.

Я доўга чакаў цябе. Доўга меў надзею на сустрэчу. Хаця яна, надзея, была кволай і слабенькай, як павуцінка.

І ты прыйшла. З'явілася, як казка. Як старажытнае неверагоднае паданне. І я мусіў паверыць у яго, бо ты стала на парозе — у

промнях сонца і прасвечвалася ўся наскрозь — як усё роўна гаварыла: «А вось і я. Не чакаў?..»

Ад нечаканасці я не ведаў, што гаварыць, таксама ўсміхаўся ў адказ. Не здагадваўся, што трэба найперш запрасіць цябе ў пакойчык. Глядзеў на цябе, як на прывід, няйначай.

— Вы мяне не чакалі, таму і не запрашаеце да сябе?

Ямачкі на шчоках, грыўка над вачмі. У іх гарэзлівасць і дакор. Ты чамусьці не можаш ступіць і кроку наперад — быццам перад табой нейкая перашкода.

— Прабачце, я... Чакаў вас. Але вы прыйшлі ўсё роўна нечакана. Праходзьце. Праўда, у мяне тут...

Ты ступіла адзін крок, другі. Агледзелася, на ўсім затрымліваючы свой пільны позірк, асцярожна прайшла на сярэдзіну залы.

— А ты не змяніўся, — глядзіць на мяне, язычок прыкусіла, у позірку іскрынкі-калючкі.

— І ты таксама. Прыгажэйшай хіба стала.

Ты смяешся, адвярнуўшыся ад мяне. Ты так натуральна перайшла на «ты», што я і не заўважыў. Глядзіш у блакітнае акно прымружанымі вачыма і падыходзіш да яго, апіраешся на падваконнік рукамі.

Я толькі цяпер прыглядаюся да цябе пільна, ва ўпор. Адзначаю, што выглядаеш ты дзяўчом — гнуткая, стройная, кулачкі-грудзі... Глядзіш за акно, а думаеш пра нешта сваё, пакінула гэты пакой і некуды паляцела далёка адсюль. Я маўчу, не збіваю цябе з тваіх думак — я яшчэ ўсё ўражаны тваім паяўленнем у маіх пенатах, дзе такое бязладдзе, рэзрух.

Пакойчык у мяне маленькі, у ім і працаваць нязручна, і ўсё роўна я люблю яго, хаця належыць не мне, а майму сябру, Міколу Пушкарчуку... Ён два дні ў тыдзень аддае яго мне, сам жа лепіць сваю гліну дома, а не лепіць, дык шастае па горадзе ці па вёсках у пошуках старызны. Або робіць эскізы для будучых работ.

— Я на хвілінку забегла. Трошкі мела часу, а цяпер мне пара ісці, — гаворыш ты як бы вінавата, ужо суцішыўшыся, стаўшы самой сабою — заклапочаным чалавекам, якога, як і кожнага, грызуць турботы...

— Ты прыйдзеш яшчэ?

— Як запросіш, то прыйду, — зноў смяешся, але ўжо не так гарэзліва, як раней, а неяк інакш, як што зразумеўшы ці адчуўшы.

— Я запрашаю цябе, Наташа. У панядзелак ці ў аўторак я тут заўсёды. Я хачу стрымаць сваё абяцанне.

— Якое? — у голасе насцярожыце.

— Намаляваць твой голас.

— А-а... Я думала, ты пажартаваў.

Я праводжу цябе да дзвярэй, потым на вуліцу. Ты ідзеш не аглядваючыся, не падаючы аніякай надзеі на будучую сустрэчу.

— І чым больш ува мне расло жаданне ўбачыць цябе, тым скарэй яно перарастала ў нейкае іншае пачуццё — невядомае мне, цнатлівае і хвалюючае. Дакараў сябе, што я на пятнаццаць гадоў старэй за цябе, што мне нельга зараджацца тым пачуццём, бо гэта можа быць балюча для абаіх — калі здарыцца Тое, але ўжо нічога парабіць з сабою не мог...

Ты прыйшла праз тыдзень і прасядзела ў мяне «шмат часу» — аж цэлых дзесяць хвілін. Яны праляцелі так хутка, што я не паспеў табе нічога сказаць.

А потым прыйшла праз два месяцы. Была нейкая маўклівая і сцішаная, стомленая, нават спустошаная нейкім горам. Душэўным горам. Нічога не гаварыла — сядзела на крэсле і няўцямна паглядала на малюнкі, што былі развешаны на сцяне.

Маўчаў і я. Нейкім дзесятым пачуццём разумеў, што табе невыносна цяжка, што табе собіла пабыць адной са сваімі нялёгкімі думкамі. Мне нават хацелася выйсці з пакойчыка і пагуляць па вуліцы якую гадзіну, але сядзеў, не кратаўся з месца, прыхінуўся да сцяны.

Ты паднялася і падышла да мяне, нахілілася, дакранулася сваімі вуснамі да маіх — мяне ўсяго як токам працяло. Я абняў цябе, пацалаваў. Адчуў, як закалацілася тваё трапяткое цела і ты абвяла, прытуліўшыся да мяне.

І ў гэты ж час, адчыніўшы першыя, ад ганка, дзверы, ступіў на парог Пушкарчук. Ты адхіснулася ад мяне, пачырванела, не ведаючы, куды падзець сябе...

— Юркоў да цябе не прыходзіў? — спытаў ён і сам не ведаючы пра што.

— Не, Мікола, яго ў мяне не было...

Пушкарчук недаўменна паціснуў плячыма, хуценька зачыніўшы дзверы, але мы пачулі яго недаўменнае пытанне:

— І дзе ж яго нячысцік носіць?

Ты хапілася за шчокі, стараючыся ўтаймаваць іх гарачыць. Баялася глядзець у мой бок. А ў мяне на вуснах гарэў твой пацалунак.

Ты першая, каго я ўзяў з сабою ў лес.

Спі, адпачывай, ты перанесла вельмі шмат пакут за апошні тыдзень. Стамілася змагацца са сваімі і чужымі праблемамі і няўдачамі. Адпачывай, у лесе вельмі добра спіцца.

Ты шукаеш маю руку, гладзіш яе, туліш да сваіх грудзей і зноў засынаеш. Адзін ліст упаў табе на галаву, і я не прымаю яго, бо ён, як парасон, хавае цябе ад іншых лісцяў, як ад усіх напасцяў, што здараюцца побач з табою...

— Нам нельга кахаць адно аднаго, — шэпчаш ты мне на вуха і ўздыхаеш, не расплюшчваючы вачэй.

— Ведаю. Ты ўсё разумееш...

— Я стамілася. Надламалася. І не знаходжу ў сабе сілы выстаяць. Таму і прыйшла да цябе, убачыўшы, што і табе цяжка. Ад адчаю я прыйшла да цябе...

— Я здагадваўся. Дзякуй табе. І прабач, што збіў цябе з тваёй сцежкі. Ведаю, што і праклянеш мяне потым за тое, што адарваў ад цябе хвіліны шчасця. Балючага шчасця.

— Не ведаю. Але мне вельмі цяжка цяпер. Балюча. У яго жонка і двое дзяцей. Я не маю ніякага права на яго, але з сабою нічога не магу парабіць. Сама страшнае тое, што тое на ўсё жыццё. Я ніколі не магу забыць яго. Ніколі...

— Глупства ты гаворыш, Наташа.

— Ён ніколі не палюбіць мяне. Бо прыходзіць да мяне толькі тады, калі яму вельмі баліць. Калі ён зады

хаецца ад сваёй бязлікай і нікчэмнай жыццёвай пустэчы. Ад барацьбы з ветракамі...

— І ты ідзеш яму насустрач. На помач.

— Іду. Таму што яго боль — то мой боль. Бо я адзіны чалавек, які можа яму памагчы.

— Тое, пра што ты гаворыш, страшна.

— Можа быць. А потым у нас магло быць дзіця. Але я пазбавілася ад яго. Ён і не ведаў.

Слухаю твой шэпт-сгіоведзь, і мне робіцца балюча. Бы хто ўзяў у руку сэрца і пачаў яго сціскаць — усё больш і больш.

У цябе на шчоках слёзы. Ты хаваеш твар і схіляешся па шыю, шэпчаш нешта яшчэ, а я стараюся ўвабраць у сябе твой боль, паліваюся ім.

— Ты — неразумнае дзіця.

— Ведаю. Такая ўжо нарадзілася. І вось звалілася на тваю галаву.

— Не звалілася, я сам паклікаў цябе. І дзякую, што не адвярнулася.

— А пра яго не думай, ён такі ж няшчасны, як і я. Цяжка і яму жыць.

— Аз табою лягчэй? Ён жа...

Ты дакранаешся да маіх губ, сціскаеш іх.

— Не чапай таго. ён мае гора і няшчасце.

Шкадую, што нічым не магу памагчы табе. Баюся, што калі і памагу, калі нечым і стану для цябе, нейкім часовым душэўным прытулкам, як прывыкнеш да мяне — то я тады ж упадоблюся таму варнаку, які рве тваё сэрца на дробныя шматкі...

Няхай не будзе такога. Не хачу я.

І я стаяў на раздарожжы. Ці зрабіў я правільна, паклікаўшы цябе? Гляджу ў густа сплеценае голле, шукаю там адказу на свае адказы і сумненні. І не знаходжу яго. Адчуваю, як ты сцішылася, супакоілася, сказаўшы мне тое, што так апякала тваю душу. Баялася — і сказала. Не магла не сказаць.

— Ты толькі не праганяй мяне цяпер, добра?

Ты шэпчаш і яшчэ мацней прыцiскаешся да мяне. Як бы баючыся выпусціць мяне са сваіх абдымкаў назаўсёды. І я адчуваю, якія ў цябе гарачыя і пругкія грудзі. І я міжволі шукаю твае салёныя ад слёз вусны...

Праз гадзіну ці дзве ты прачынаешся, спалохана прыўзнімаешся на локцях, шырока раскрыўшы вочы. Я тут жа супакойваю цябе:

— Не хвалюйся, усё добра.

Ты зноў зняможана падаеш на падасланы пінжак, зажмурваешся, уздыхаеш:

— Доўга я спала?

— Не вельмі. Я бярог твой сон. Прыснілася што кепскае?

— Не. Я спалохалася цішыні.

Мая рука ў тваёй, і ты зноў тулішся да мяне. Няма ўжо ранейшай дрыготкі, рукі цёплыя і спакойныя. І я радуюся, што табе добра. Значыць, і цябе лечыць мой лістапад.

Быў бы я ўсёмагутны, быў бы я Богам, я зрабіў бы так, каб ты была шчаслівая. Што б я зрабіў? А сапраўды — што? Злучыў бы вашы душы? Дык ты ж сама сказала, што будзеш самай няшчаснай. Прымусіў бы пакахаць каго іншага, каб забылася пра яго? Зрабіў бы глупства. А калі загадаць жаданне, зрабіць проста шчаслівай? Тады — што такое шчасце? І колькі яно доўжыцца — гадзіну, месяц, год?

На ўсялякі выпадак удакладняю:

— Каб я быў Бог, каб умеў рабіць цуды і мог бы зрабіць цябе шчаслівай — што б ты хацела?

— Бог? Шчаслівай?.. — ты перапытваеш і не разумееш майго пытання. Нейкі час сядзіш задумліва, паціскаеш плячыма: — Не ведаю. Зусім не ведаю...

Мы вяртаемся ў горад пад вечар.

У маёй душы падняўся нейкі незвычайны настрой — здавалася, што я не хаджу, а лячу над зямлёю. Не высока, а так, амаль не дакранаючыся да яе...

— Учора фільм глядзела. Дык хлопец, хочучы даказаць сваё каханне да дзяўчыны, саскочыў з акна трэцяга паверха. Дурноцтва, праўда? — ты задумліва глядзіш пад ногі і забываеш, пра што сказала.

— Правільна. Дурноцтва. Забіцца ж мог. Каму ён тады гаварыў бы пра сваё каханне?

Мне нешта распірала грудзі. Свярбелі рукі — ад кончыкаў пальцаў да плячэй, былі нейкімі бязважкімі. Мне таксама нешта хацелася зрабіць для Наташы. Але што? Як зрабіць яе шчаслівай? Яна не хоча шчасця, бо не ведае, што гэта такое.

— З трохпавярховай вышыні скакаць — глупства.

А калі я не саскочу, а, наадварот, узлячу вунь на той дуб. Ты будзеш задаволена?

Ты прымаеш маю гульню, усміхаешся, перапытваеш:

— На які дуб? Вунь на той — самы вышэйшы?

— Ага.

— Яму за шэсцьсот гадоў. Ахоўваецца дзяржавай.

І— Ведаю, — кажу нецярпліва, адчуваю, як рукі наліваюцца пругкай сілай. — Заляцець?

Ты ўжо не смяешся, а рагочаш:

— Зрабі, Антон, такую ласку. Буду вельмі радая.

— І ты станеш шчаслівай? Скажы...

— Стану, Антон. Пакажы, як ты паляціш? Ну?..

Мае рукі сталі пругкімі і лёгкімі. Я ўзмахнуў імі, як крыламі, адпіхнуўся нагамі ад зямлі — і мяне нейкая невядомая сіла панесла ўверх. Мяне адразу скаваў страх вышыні і нечаканага пераўвасаблення. Я ж амаль забыўся пра тры жаданні, якія падрадзіўся здзейсніць Бог. Жарты, думаў.

Закрычаў не я. Закрычала Наташа, застаўшыся на зямлі.

Я махаў крыламі і некалькі разоў абляцеў крону дуба. Паспеў скрозь слёзы — вецер дзьмуў у вочы — заўважыць удалечы роўнядзь Прыпяці, чыгуначны вузел пасёлка, краны порта Пхоў... Усеўся на вяршаліну, усё яшчэ не мог перавесці дух. З усіх сіл ушчаперыўся за разгаліну, баючыся зваліцца на зямлю. Нешта ўнізе гаварыла і крычала Наташа, але слоў не пачуў — увушшу свістаў вятрыска.

Мне хацелася яшчэ палятаць, а потым спусціцца на зямлю. Але рукі не адрываліся ад верхавіны дуба.

Прыехала міліцэйская машына. І я не пачуў галасоў міліцыянераў, якія паказвалі на мяне пальцам і нешта вырашалі.

Нада мной плылі воблакі, як не чапляліся за мяне. Мне хацелася перасесці на адно з іх, пасядзець, як на канапе. У сне было добра раскашоўвацца на воблаках.

Мяне біў нервовы страх, клацалі сківіцы. Вось-вось разрагачуся на ўсё неба істэрычным мефістофельскім смехам і — звалюся паленам на зямлю...

Потым прыехала пажарная машына. Прыставілі да дуба лесвіцу, але і яна не даставала да мяне — перашкаджалі галіны.

Бегалі, мітусіліся пад дубам людзі.

«Ну што, ганарлівец, не верыў першаму цуду?» — пачуў я аднекуль зверху іранічны, з падколам, голас.

— Не верыў, святы Айцец! — крычу я і адчуваю, як ірвуцца галасавыя звязкі — пачаў сіпець.

За спіной пачуўся гул верталёта. Ён падляцеў да мяне і завіс непадалёку. Адкрыліся дзверцы, і юнак у лётчыцкай форме крыкнуў у мегафон:

— Антон, як пачуваеш сябе?

Спрабаваў крыкнуць, што нічога маюся, але з горла вырваўся толькі сіпаты выдых. Тады я паказаў вялікі палец паверх кулака.

— Значыць, о'кэй! Трымай! — хлопец кінуў мне вяроўчыну. — Зашмаргні на сабе пятлю, мы ссадзім цябе на зямлю.

Я хапаю мяккую і тоўстую канатную вяроўчыну і абкручваю ёю сябе.

Верталёт павольна прыўзняўся ўверх, канат нацягнуўся — і я адпусціў рукі ад дрэва. Калі ж я пакінуў дуб, канат аслабіўся — я ляцеў побач з верталётам, распластаўшы рукі. Перамагаў страх, калаціўся, бы ад холаду, але ляцеў, толькі баяўся, каб не падняло мяне ўверх і не папаў пад вінты верталёта. Мы так і завіслі над самай зямлёю — верталёт і я. Падбегла Наташа, учапілася ў калашыну і сцягнула мяне на зямлю, развязала канат.

Тады толькі верталёт рэзка ўзмыў уверх, абдаўшы ўсіх пругкім ветрам, папалам з пылотай.

Да мяне падышоў малады лейтэнанцік у міліцэйскай форме, казырнуў, прадставіўся, папытаўся:

— Як вы туды, таварыш Зялёнка, узабраліся?

— Заляцеў, — усміхаюся я, і мяне пачынае разбіраць нервовы смех.

— Жартачкі потым, грамадзянін Зялёнка. — І звярнуўся да Наташы: — Вось вы ўсё бачылі. Скажыце, як ён туды ўспёрся?

Наташа выцірае слёзы і паглядае спалохана на мяне — ці жывы і што са мною адбылося. Адказала сур'ёзна:

— Ён узмахнуў рукамі і адразу заляцеў туды... Ён і назад зляцеў.

Лейтэнант паківаў галавой, пакруціў пальцам каля скроні. Спачувальна паглядзеў на нас.

Я доўга не мог адысці ад свайго першага цуда. Упіраўся нагамі ў зямлю і не мог усё паверыць, што яна трымае. Мяне хістала, а рукі пякло агнём.

— За дапамогу дзякую, — звярнуўся я да лейтэнанта, — але вам майго палёту не зразумець. Тут слова сваё павінна сказаць навука.

— От уляпіць бы табе за хуліганства пятнаццаць сутак — тады як міленькі прызнаўся б, — пакрыўдзіўся ўчастковы і пайшоў да жоўтага «Жыгуленка». Адкрыўшы дзверцы, дадаў, гледзячы ў мой бок: — Юрый Гагарын мне тут знайшоўся...

9

— Няма ў мяне кватэры, разумееце, няма, — хмурыцца Фядос Рыгоравіч, сціскае пальцы на стале, галавой хітае, бы ад камароў адганяецца. — Фондаў няма. Трошкі пацярпіце. Праз нейкі час і да вас чарга дойдзе. У бядзе не пакінем — ветэранаў мы ўсіх забяспечым...

Андрэй Іванавіч стаіць ля дзвярэй, пераступае з пратэза на нагу — старшыня гарвыканкома нават сесці не запрасіў. А каб і запрасіў, то што з таго? Свяціла б хата? Ласкавей пагаварыў з ім?

— Калі ж тое будзе? — уздыхнуў Арэшка, кашлянуў.

— Мо праз год...

— .Мо я ў гэтым годзе Богу душу аддам.

— Не аддасце, вы вунь яшчэ які мацак, — спрабуе жартаваць Ганчарэнка, нечакана весялее, і вочы ўжо. не хаваюцца за нахмуранымі бровамі. — А кватэру мы вам выдзелім. Абяцаю. Пачакаць трошкі трэба.

— Вы ж абяцалі ўжо — у гэтым годзе. І гэтак жа прасілі пацярпець.

— Абяцаў. Прасіў. А вунь як выйшла.

— А ў кватэрах, каму яны не трэба, людзі і гадамі не жывуць. Сабака жыве адзін на тры пакоі, а чалавек, які згубіў нагу каля рэйхстага, і аднапакаёвую людскую не можа мець...

Ветэран гаварыў ціха, як бы вінавата, бы баяўся ўзлаваць старшыню, але парабіць з сабою ўжо нічога не мог — боль выпіраў вонкі. Правае вока ў Арэшкі слязілася, і ён раз-пораз выціраў яго рукавом.

— Які сабака? Дзе вы такое бачылі? — зноў насупіў бровы Ганчарэнка. — Паклёп узводзіце на савецкую дзяйствіцельнасць. А за гэта, ведаеце, і недалёка...

— Далёка, далёка, дарагі таварыш, — голас у Арэшкі пацвярдзеў, наліўся сілай.

— Ну, ты...— твар у старшыні запунсавеў, губы зрабіліся злыя, тонкія, бы нітачкі, у вачах загараўся нядобразычлівы агеньчык. — Паасцярожней тут, а то можна зрабіць, каб міліцыя адсюль вывела.

— Ну і напалохаў, — кісла ўсміхнуўся Арэшка, шмаргануў носам, крутануўся на драўлянай назе, — тое і ўмее, што пужаць. А можа, хопіць нас ужо... га? Хе-хе... Нагаварыліся, як гразі наеліся. Жыві, братка, у сваёй чатырохпакаёвай, дабра нажывай. Не, я не зайздрошчу табе і тваёй кватэры. Такая мне не трэба. Мне крыўдна, што канверты з купюрамі не такія квадраты выбіваюць...

— Паклё-ооп! — амаль закрычаў, устаўшы з-за стала, Ганчарэнка, але тут жа спахапіўся, адчуў, што сваёй нявытрыманасцю толькі выдае сябе, паўтарыў ужо спакойна: — Паклёп зноў наводзіце, таварыш Арэшка. Есць чарга — ільготная і такая. Вось згодна з ёй...

— Згодна з канвертам. І таму, хто бліжэй сэрцу.

— І адкуль у пажылых людзей столькі злопыхацельства? Не разумею, — уздыхнуў старшыня, правёў пальцамі па паголеным твары, пашкроб мезенцам за вухам. — І здароўя ж на ўсё хапае.

Ветэран спачувальна пахітаў галавой. Зноў рукавом выцер вока, прыставіў рукі да грудзіны. Намацаў дзвярную ручку, крутануў яе. Выйшаў у прыёмную, але нікога з людзей не ўбачыў — нешта засціла вочы. Твары людзей былі размытыя, угадваліся толькі абрысы.

— Ну што, Андрэй? — нехта папытаўся, падышоўшы да яго, і ветэран з цяжкасцю зразумеў, што побач быў Пушкарчук.

— А нішто... Хай ён...

Тут жа стаяў і Антон Зялёнка. Ён таксама мерыўся падысці да Арэшкі, але, убачыўшы, у якім той стане, перадумаў.

— Табе блага, Андрэй?

— Правядзі мяне, братка, да выхаду — нічагуткі не бачу, халера...

— Мо хуткую выклікаць? — спахапілася запознена за сталом Таццяна Паўлаўна. Падышла да Арэшкі, адчула нядобрае, устрывожана паглядала на яго.

— Хай яна да яго прыязджае. Мяне ўжо нічога не выратуе... — Андрэй Арэшка сказаў не ёй, не Пушкарчуку і Зялёнку, прамовіў самому сабе, як даўно вырашанае і вядомае.

Ступіўшы праз колькі прыступак уніз, Арэшка папрасіў трошкі затрымацца — перакурыць, хаця сам ніколі не курыў. Пастаяў трохі каля паўкруглага акна, што выходзіла ў двор. Глядзеў, як хадзілі людзі, як бавілі вадзіцелі час размовамі, чакаючы сваіх начальнікаў.

Пушкарчук не задаваў Арэшку ніякіх пытанняў. Баяўся, што яшчэ больш можа ўстрывожыць яго. Адчуў, што яму ў гэты момант вельмі цяжка. Зноў пачаў дакараць сябе, што своечасова не памог яму — мо б яно ўсё склалася як інакш.

— Патэпалі, Мікола.

— Як дабярэшся дадому? Мо таксі зловім?

— Ды як-небудзь. Таксі для таго, хто спазняецца. А мне куды спяшацца? Па-аспею, брат... Ты мяне, будзь ласка, во да лавачкі давядзі. Я пасяджу на ёй, аклімаюся. Тады ўжо рушу дадому...

З кароткіх рукавоў шэрага пінжачка выглядвалі спрацаваныя касцістыя рукі, спрэс перакітаваныя пакручастымі жыламі. Як шпагатам якім абматаныя. Ледзь-ледзь падрыгвалі, не знаходзілі супакаення.

— Ну, глядзі. А то б і дадому трэба было цябе давезці.

— Уга, пан які! І слуг яму падавай? Не-не, адпускае трохі рухавічок, адпускае, — хапаў паветра Андрэй, дыханне і сапраўды выроўнівалася, — цяпер ужо нічога. Дзякую, Мікола, табе. Ідзі, рашай свае клопаты. Ведаю, яны таксама ў цябе няпростыя. Ты другую сцяну прабіваеш. І прабівай, не здавайся. Каб тады за адступленне не было сорамна...

Пушкарчук падумаў, што чамусьці Андрэй узвышаным стылем гаворыць. Не было такога з ім раней, не заўважалася. Ён як бы нейкі вынік падводзіць, наказ яму дае. І спакойнасць у голасе, быццам не ён быў у Ганчарэнка які прымусіў сціцца хворае сэрца — можа, яно разарвалася ўжо на дробныя шматкі...

— А, гэта ты, Антон? Не заўважыў цябе. А ты маўчыш чамусьці, голасу не падаеш, — ажывіўся Арэшка, заўсміхаўся стомлена, натужна, стараючыся паказаць, што трымаецца, што нічога асаблівага не адбылося. — Кажа Пушкарчук, што ты там нейкага ветэрана ізабразіў і што ён нічога глядзіцца.

— Добры атрымаўся партрэт, Андрэй Іванавіч. Дзякую вам.

— За што? Што пасядзеў, паразважаў маўкліва? А потым галаву табе затлуміў сваімі ўспамінамі.

— Тыя ўспаміны і памаглі мне ў рабоце. Без іх і не атрымалася б нічога...

— Ну, то няхай так і будзе. Ну, усё, хлопчыкі, тут я ўжо як у Бога за пазухай. Дзякую вам. Уга, цяпер дабяруся. Сёння я... Бывайце,

хлопчыкі, сёння я, напэўна, паеду ў камандзіроўку — сябры-ветэраны прыслалі запрашэнне на сустрэчу. Трэба ехаць.

— Надоўга, Андрэй?

— Ці надоўга? — Арэшка хітравата ўсміхнуўся, цокнуў языком, паправіў пратэз, уздыхнуў: — То ад сяброў залежыць. Мо загасцююся, як спадабаецца. Будзе ж пра што пагаварыць, паўспамінаць. Эхма-а, дарог няма...

Ён зноў цeрануў рукавом па шчацэ, выцер слязінку. Утаропіўся ў зямлю, задумаўся. Губамі толькі шавяліў, як чытаў што.

Пушкарчук і Зялёнка пакінулі яго аднаго. Азірнуліся яшчэ раз, адышоўшыся. Арэшка сядзеў, звесіўшы галаву на грудзі.

— Не падабаецца мне ён сёння, — заўважыў ціха Мікалай Мікітавіч.

— Забіў яго мэр адмоваю. А ён чакаў. Меў надзею на лепшае.

У прыёмнай людзей не паменшала. Наадварот, стала яшчэ больш. Чарга Пушкарчука прайшла, і ён цяпер не ведаў, ці казаць пра тое людзям. Дзіўна выходзіла: быццам за каўбасою ў краме стаіш. А тут яго здзіўкі бралі, што ў такім старажытным горадзе, багатым на сваю гісторыю, і няма свайго музея.

Чамусьці пра тое не балела галава Ганчарэнку. Праўда, будаваць яго пачалі. Фундамент заклалі шэсць гадоў назад, і пасля таго да аб'екта не падышоў ніводзін будаўнік. Як заклятым тое месца стала. Мала таго, у горадзе столькі унікальных дамоў, з адмысловай архітэктурай, дык на іх месцы надумаліся будаваць шматпавярховыя гмахі. Быццам нельга тыя прыгожыя дамкі ўпісаць у гарадскі пейзаж. Яны ж як візітная картка горада.

— Што рабіцьмем? — на петрыкаўскі манер папытаўся Зялёнка ў Пушкарчука. — Ці будзем адрываць дзяржаўнага чалавека ад дробязных, на яго пагляд, спраў?

— Трэба, але як прабіцца да яго?

У прыёмную зайшоў журналіст газеты Баброў. Яго Зялёнка пазнаў адразу — паўгода назад напісаў разгромны артыкул пра яго. Пра выстаўку. З таго часу і пайшлі нелады ў рабоце.

Баброў падышоў да сакратаркі, даверлівым голасам, як часты госць, пацікавіўся:

— Фядос Рыгоравіч заняты?

— Прыём у яго. Але я магу папытацца, можа, і прыме, калі што тэрміновае ў вас?

— Не-не, я і забыўся, што сёння прыём. Я пераззваню яму.

Баброў насіў кароткія, хаця і пышныя, вусы. Акуратна падстрыжаны, паголены. Адзенне на ім звышмоднае, замежнае. Чаравікі на

тоўстай падэшве. Касцюм пясочнага колеру, гальштук — усё гармані-равала, усё пасавала да яго твару. За сваёй знешнасцю, відаць было, ён сачыў круглыя суткі. Заўважыў Пушкарчука і Зялёнку, пайшоў да іх.

— Прывітанне творчым мастацкім сілам нашага горада! — бадзёра, напаўголаса прамовіў ён, падаючы руку.

— Здаровенькі булы.

Зялёнка ведаў, калі Пушкарчук каго не любіў ці не паважаў, заўсёды так адказваў на здароўканне. Сам жа перавярнуў тое самае:

— Булы здаравенькі...

— Таксама да яго?

— Аўжэш.

— З чым?

— Ды во мы тут усё напісалі, — Мікола дастаў з кішэні аддрукаваны на машынцы, па некалькіх старонках, допіс. — Мо спатрэбіцца. Я ведаю, якое ў вас вострае пяро. А тэма актуальная...

У голасе сябра Антон чуў нейкае падколванне, нават здзек, але тое такое мог зразумець толькі ён, Зялёнка. За доўгія гады навучыўся да драбніц распазнаваць настрой свайго сябра. Але тут было яшчэ і нешта больш глыбейшае — едкае высмейванне пыхі, самаўпэўненас-ці. Але на твары Пушкарчука была сур'ёзнасць і заклапочанасць — паспрабуй здагадайся, што ён цяпер злы і пякучы, як крапіва.

Баброў узяў напісанае. Яго журналісцкае пачуццё падказала, што ў руках цікавы, хаця і спрэчны, матэрыял. А такое рэдка пападае ў рукі. Вочы загарэліся, тарчаком сталі вусы.

— Калі не падыдзе ці не спадабаецца, то просьба, каб вярнулі — бо на гэтым размова можа і не скончыцца. Мы будзем прапаноўваць усесаюзнай прэсе.

— Добра, я сёння ж прачытаю ў сябе на рабоце. Усё абмяркую, а потым скажу сваю думку...

Пушкарчук згодна хітнуў галавой.

— Не надрукуюць. Пабаяцца, — прамовіў Мікола, як Баброў адышоў ад іх. — А што цяпер рабіць, браце Антоне?

Зялёнка глядзеў у акно, не адрываў позірку ад Арэшкі. Ён сядзеў у той жа паставе — схіліўшы галаву, рукі склаў на каленях. Як спаў усё роўна.

— На шыльдзе напісана, што прыём па асабістых пытаннях вядзецца да шаснаццаці гадзін. У нас не асабістае. У нас грамадскае. Таму мы можам прыйсці ў любы час. Прапаную сёння пасля ўсіх завітаць да яго. А сакратарцы сказаць, што мы маем да яго пільную справу і просім прыняць у канцы дня.

— Згодзен.

Баброў сеў за стол, перабраў паперы. Пазваніў аднаму, другому, удакладніў патрэбныя адрасы і лічбы. Уключыў маленькі японскі магнітафон з запісам рокавай музыкі, настроіўся на рабочую хвалю.

Успомніў пра паперы, што перадаў яму мастак Пушкарчук. Дастаў іх са скураной сумкі, пачаў чытаць:

«...гавораць, што на тэрыторыі сельскага Савета ніхто не мае права забіць ніводнага калка без згоды яго старшыні. Так запісана ў законе. Так яно павінна і быць. Але ж што атрымліваецца на справе? Б'юць не толькі калкі, а слупы, рыюць глыбокія кар'еры. Труцяць рыбу і ўсё жывое. Знішчаюць па-варварску прыроду. І таму наспела даўно неабходнасць стварэння ў рэспубліцы адзінага органа кіравання — камітэта рэспублікі па ахове прыроды. Гэты камітэт сёння неабходны, як паветра. Без яго не можа быць прагрэсу і жыцця. Без прыроды мы мёртвыя.

Вось таварыш Дудзін, як член выканкома, больш пяці гадоў займаўся пытаннем вынасу вялікага населенага пункта Міхалкі з зоны прамысловага забруджвання. І што адбылося? Мы пераканаліся, што, як гэта ні парадаксальна, некаторыя ведамствы абсалютна не ўлічваюць тэрытарыяльныя інтарэсы. Яны, як гэта сказаць дакладней, ператварыліся ў дзяржаву ў дзяржаве.

Такое становішча нецярпімае. Мы лічым і просім узаконіць абавязковы ўдзел у дзяржаўных камісіях па прыёмцы любых дзяржаўных аб'ектаў старшынь выканкома раённага і сельскага Саветаў, а таксама органаў санітарнай аховы прыроды.

А то ж што атрымліваецца? Мы вымушаны не давяраць рэспубліканскім органам у гэтым пытанні таму, што ніхто з іх не панёс аніякай адказнасці за нанесеныя страты прыродзе. Ім не сорамна ні перад людзьмі, сярод якіх яны жывуць, ні перад сваім сумленнем...

Возьмем, да прыкладу, солевы завод. Ігнаруючы думку раённых служб, абласная інспекцыя аховы прыроды і санітарная служба падпісалі дзяржаўны акт аб уводзе ў эксплуатацыю таго завода без ачышчальных збудаванняў.

Атрымліваецца, што канцэнтрацыя солі ў зямлі, на паверхні, перавышае норму да дзесяці разоў. Мы пачалі вайну з кіраўніцтвам завода: там пастаянна знаходзіцца народны кантроль, іншыя службы кантролю. Дык да чаго дадумаліся — пачалі скідваць адходы ў Прыпяць па начах. І робяць тое ў канцы месяца, калі трэба прадпрыемству выконваць план. Напрошваецца пытанне: каго мы атручваем? Ці не саміх сябе?!

Я хачу сказаць яшчэ і пра тое, што некаторыя абласныя службы аховы прыроды хочуць адчуваць сябе недатыкальнымі каралямі. Яны ўхіляюцца ад сваёй задачы, шукаюць лёгкіх шляхоў у сваёй рабоце...

Аблсельбуд прыняў у эксплуатацыю завод панельнага і буйнапанельнага будаўніцтва. Плануе выпускаць свае адходы ў ачышчальныя збудаванні... солевага завода. А іх няма. Што гэта? Мы паўгода назад гаварылі пра тое на паседжанні выканкома, паслалі запытанне і ў сельбуд. І што ж? Аніякай рэакцыі. Мы цікавіліся ў старшыні гарвыканкома Ганчарэнкі і нічога зразумелага не пачулі, ён упарта адмоўчваецца.

Мы просім выканком, каб давалі ў тэрмін адказ старшыням выканкомаў і сельвыканкомаў, калі яны звяртаюцца з запытам ці афіцыйным пісьмом да вышэйшага начальства. За нашую такую просьбу аблвыканком не ўключыў у гарадскую камісію раённага санітарнага ўрача і інспектара па ахове прыроды. Гэта называецца так: вось вам тое, чаго вы так дабіваліся.

А мы скажам больш таго — зусім побач будуецца яшчэ буйнейшы завод домабудавання, ён здаецца ў гэтым годзе, і ўжо пракладваецца канал для скідвання брудных адходаў. Усё пойдзе ў рэчку, у возера, якое пабудавана для арашэння шасцісот гектараў зямлі. Загіне зямля, і мы закапаем у зямлю некалькі мільёнаў рублёў. І не атрымаем ураджаю.

Апошняе. Пытанне аховы грунтовай вады. Пабудавалі дваццаць пяць магутных свідравін каля горада. Выхапілі з ніжніх слаёў ваду — і ў выніку дзесяць вёсак засталіся без яе.

Вось да чаго прыводзяць бяздумныя адносіны да прыроды, калі старшыня выканкома ставіць бяздумна свой подпіс пад сур'ёзнымі дакументамі.

Райвыканком імкнуўся нешта выправіць — сабраў долі з саюзных міністэрстваў, выкананы праектныя работы, уключаны ў план міністэрства прамысловага будаўніцтва. Але тое будаўніцтва было даручана трэсту № 24, а з яго, як кажуць, бы з гусака вада. Толькі трыццаць два працэнты выканаў ад гадавога плана. У чатырох вёсках што-кольвечы пачалі рабіць, а ў шасці нічога, па сутнасці, не пачата.

Так будуе той трэст і будынак музея, які вельмі неабходны нашаму гораду...»

Баброў паклаў паперы ў канверт, задумаўся.

Не зразумеў напачатку — што за пісаніна? Такога Пушкарчук напісаць не мог. Але ўсё праўдзіва і актуальна. На праверку пойдзе шмат часу. А калі ўсё пацвердзіцца — ці дасць згоду на друкаванне

матэрыялу рэдактар Анкудовіч? Гэта ж орган райкома і гаркома партыі. І выканкомаў. А тут грахі відавочныя. І не на карысць таго ж Ганчарэнкі выносіць свае промахі па старонкі газеты...

— Во паламае Баброў галаву, — смяяўся Пушкарчук, ідучы з Зялёнкам па вуліцы.

— А што ты яму падсунуў?

— Выступленне старшыні райвыканкома, ён павінен быў выступіць на сесіі абласнога Савета. Але, прачытаўшы папярэдне яго тэкст, не далі слова. Раённы старшыня Захараў мой добры сябра. Любіць ён мастацтва, сам малюе няблага.

— А калі ён зацікавіцца той тэмай і дасць у рэспубліканскую газету? — выказаў меркаванне Антон.

Мікола зарагатаў:

— Не асмеліцца, ён хапаецца толькі за тое, што праходзіць. А тут супраць і абласнога начальства крытыка. У спрэчку ён не ўступіць. Гэта я яму так, як кажуць, інфармацыю для роздуму падсунуў. Каб даказаць яго ж бездапаможнасць. Гэта ён на цябе смела накінуўся, бо ў цябе няма начальніка-прыхільніка. І абаронцы.

— А мне і не трэба абаронцы-прыхільнікі.

— І правільна. А факты ў тым выступленні вельмі сур'ёзныя. Добра было б, каб былі надрукаваны. Але хіба ж дазволіць савецкая ўлада, каб паказаць сябе з такога боку?

## 10

Дзень душы...

Так мы называем той дзень, калі ўсе разам — я, Мікола і Наташа — адпраўляемся да Валеркі ў госці.

Дзень душы — гэта свята. Фіеста. Апафеоз пачуццяў і жаданняў.

Мы той дзень не прызначаем, не выбіраем, ён нараджаўся сам, як нараджаецца раніца. Як нараджаецца дзіця альбо цікавая думка ці рашэнне.

Дзень душы...

«Адкрыла» Валеру яна, Наташа.

Ад работы яе прызначылі агітатарам на выбарах. Яна абышла некалькі вуліц на ўскрайку горада, расказвала шмат добрых слоў пра выбраннікаў. Аднаго з іх ведала і сама — Ганчарэнку. Другога ж, рабочага метызнага завода Каршкова, і ў вочы не бачыла. На руках у яе была фатаграфія і біяграфія.

Людзі слухалі яе, ківалі галовамі, добра, а як жа прыйдзем, аддадзім галасы за абраннікаў сваіх, прыйдзем першымі, нацямочку.

Наташы вельмі не падабалася тая работа — хадзіць і расхвальваць тых, хто пры ўладзе, і невядомых з сухой біяграфіі. Пра Фядоса Рыгоравіча яна ведала. Як ведала пра Веру Міхайлаўну, пра яе каханне.

Зайшла Наташа ў адну хату — цагляную, пад бляшаным дахам, пастукала ў дзверы. На дварэ ліў спорны дождж, і добра, што яна накінула на плечы дажджавік: з капюшонам. Ды і лёгкія гумавыя боцікі былі дарэчы.

Заканчвалася лета, было яшчэ вельмі цёпла, хоць босаму хадзі. Вуліцы прыгарада былі крутыя і слізкія, раўчакі цяклі з гары і неслі разам з сабою гліністы глей, утваралі змейкаватыя канаўкі. Іх ноччу праклінаалі жыхары, траўміруючы ногі.

Ніхто не адказваў. Яна адчыніла і другія дзверы — у хату. Прачыніла, з парога спытала:

— Ці ёсць хто ў хаце?

— Есць, ёсць! — адгукнуўся нехта радасна з другога пакоя. — Заходзьце, я хутка.

Яна прычыніла за сабою дзверы, стала ў парозе. Далей не праходзіла. Скінула з сябе дажджавічок, страсянула галавой, атрэсла з кос дажджавыя кроплі. Чакала, калі ж гаспадар выйдзе да яе.

З расчыненых дзвярэй выкацілася каляска-крэсла. У ёй сядзеў і даверліва ўсміхаўся юнак. Быў ён каротка падстрыжаны, у акулярах, у сінім світэрку — з'явіўся перад ёю не на нагах, а на колах, у сініх спартыўных штанах і ў вязаных шкарпэтках. Дзяўчына на нейкі момант разгубілася, збянтэжылася.

— Добры дзень вам, — за шкельцамі акуляраў свяціліся вясёлыя агеньчыкі, погляд пранікліва і жывы. — Я слухаю вас — з чым завіталі да мяне? З якімі весткамі?

Тонам голасу хлопец схіляў яе да шчырай і даверлівай размовы, выказваў радасць, што ў яго госці.

Дзяўчына яму, відаць, спадабалася, бо ён не адрываў ад яе позірку, глядзеў знізу ўверх і ўсміхаўся.

— А вы распранайцеся, прысядзьце, — спахапіўся юнак, крутнуў колы, павярнуўся да крэсла, што стаяла ля акна. — І плашчык павесьце, чаго ў руках трымаеце?

Наташа паслухалася, вызваліла рукі, прайшла да крэсла. Паклала на калені папку з паперамі. Агледзелася. Кінулася ў вочы, што ў хаце ўсё простае і неабходнае — шафка з кнігамі, газеты на стале, тэлевізар у кутку, магнітафон...

— А вас як зваць? — спытаў гаспадар хаты і адарваў яе ад знаёмства з пакоем.

— Наташа. А да вас зайшла як агітатар. Перад выбарамі вось па хатах хаджу.

— А я — Валер. Валер Арлоў. Вось і пазнаёміліся. А як жа, цікава, вы мяне будзеце агітаваць? І за што?

Яна рассмяялася, нахіліла галаву, і на правае плячо ўпалі косы, закалыхаліся, як жывыя. Наташа зноў выпрамілася, паглядзела на хлопца і адразу адчула, што з ім цікава размаўляць — хаця, па сутнасці, яны яшчэ ні пра што не пагаварылі. Ад хлопца сыходзіла нейкая лёгкасць і ўпэўненасць. І не адчувалася, што ён не ходзіць, што не аціраецца сярод людзей, што не жыве іх клопатамі і праблемамі. Яна проста не заўважала яго хваробы.

А за акном паліў, не перастаючы, дождж. З дахаў на зямлю сцякалі раўчакі, бы збягалі тоўстыя ніткі, спявалі на розныя галасы капяжы. Яна адчула незразумелую палёгку на душы, і, можа, ўпершыню ёй падалося, што ў яе ніколі-ніколі не было аніякага болю. Упершыню за апошнія гады паверыла, што наперадзе светлыя і шчасныя дні...

— За што? — усё не праходзіў смех. Яна ўжо старалася патрапіць яго настрою, але не ведала, як тое лепей зрабіць. — А за тое, каб...

— Чыр-чыр, — падаў голас верабей, які нечакана ўскочыў на падваконне. — Чыр...

— Здароў, Чыр, здароў. Я тут, у добрым настроі. Наташа, слухайце мяне. Сядзіце маўкліва і не шавяліцеся, да мяне прыляцеў мой сябра. У яго час абеду. Я павінен яго пакарміць і пагаварыць з ім...

Яна кіўнула галавой і з непрыхаванай цікавасцю пазірала на гаспадара, як ён узяў з тумбачкі скібу хлеба, як пачаў крышыць яго на падваконнік.

— А вымак ты, Чыр, як купаўся ўсё роўна дзе. Чаму ты такі напалоханы? Што ў мяне госця? Не бойся, Чыр, яна табе кепскага нічога не зробіць. Дзяўбі, братка, дзяўбі і саграваліся. Замерз, бачу... Не спяшайся, усё роўна табе прыйдзецца дождж перасядзець у мяне. Вунь як лье.

А верабейка не-не ды і кіне позірк — насцярожаны, недаверлівы, адчуваў, што Валер не адзін. І не то раўнаваў, не то хацеў, каб не было пабочных людзей. Падзяўбаў, страсянуўся, заскакаў на падваконніку, а потым пырхнуў і сеў на плячо Валеру. Наташа не шавяльнулася. Баялася дыхнуць нават.

— Ну, во, бачыш, і асмялеў. А гэта Наташа, знаёмся. У яе прыемны і добры голас. Хочаш, яна пагаворыць з табой?

— Чыр-чыр...

Яна злавіла адабральны позірк Валера.

— Дык ты Чырам завешся? Добрае імя. Вельмі добрае.

— Чыр-чыр-чыр…

Верабей пырхнуў з пляча і паляцеў у другі пакой. Нешта прачырыкаў там, мусіць, ужо грэўся каля цёплай печы — яна яшчэ ўтрымлівала цяпло. Браты раніцай палілі яе, каб не было волгла ў хаце.

— Харошы ў вас сябра. Смешны такі і… смелы.

— Я яму абавязаны жыццём. Я яму напісаў цэлае пасланне.

— Пасланне? — здзівілася госця і паглядзела на яго.

— Хочаце паслухаць?

— Вельмі…

Валер нейкі момант маўчаў, потым набраў у сябе паветра, пачаў чытаць.

Дзяўчына слухала ўважліва, схіліўшы галаву. Як скончыў, глядзела доўга на хлопца — яе радкі ўразілі. Яна любіла і разумела паэзію, шмат чытала. І цяпер, пачуўшы простыя радкі, якія ішлі ад сэрца, зразумела, што хлопец глядзіць на жыццё і на наваколле трошкі іншым поглядам, чым усе людзі. У яго акне — жыццё планеты. Дзіўна, але адчула незвычайную палёгку. Тут нешта было ад шаптухі, калі наступае нечакана палёгка, а ты не ведаеш, ад чаго…

Валер скіраваў ужо свой позірк за акно, дзе ішоў яшчэ дождж. Падумала, што ў яе жыцці адбылося нешта незразумелае, але значнае і пераломнае. Хлопец сам не ведае, мусіць, не здагадваецца, якой ён валодае незвычайнай сілай.

Яго словы, яго вершы — як малітва, як нейкі гіпноз. Нейкі цуд, ад яго зыходзяць цёплыя біятокі. Яны ўсяляюцца ў чалавека, выцягваюць злыбеду і боль. Тады ў целе нараджаецца бязважкасць і дабрыня. Цвёрдая ўпэўненасць, што заўтрашні дзень будзе яшчэ лепшы — у ім не будзе ні злога слова, ні крыўды.

— Я такога ніколі не чула, — прызналася яна, і ў яе ўздрыгнуў голас.

Ён засмяяўся, адарваўся ад акна:

— Што вы. Пра такое пісалі дзесяткі паэтаў. Паўтараюся і я. І тут нічога не паробіш — у чалавека ёсць сэрца, і ён адгукваецца на тое, што яго кранае.

— Не, праўда, я такога не чула…

У дзверы ўляцеў Чыр і спікіраваў на плячо Наташы. Яна аж адхіснулася ад нечаканасці. Валер засмяяўся, папракнуў Чыра:

— Ты так маіх гасцей распалохаеш, і яны болей не прыйдуць да мяне. Вось і Наташа, бачыш, спалохалася і не захоча прыходзіць, ці не так?

Гаспадар чакаў ад яе адказу, нецярпліва глядзеў у вочы.

— А вы хочаце гэтага? І не буду вам назаляць?

— Мне — назаляць? Наадварот. Будзе час і жаданне перакінуцца словам-другім, калі ласка. Чыр любіць філасофскія размовы...

Верабей распушыў свае крылы, дзюбкай пачаў чысціць іх. Ужо не звяртаў увагі на госцю, даверыўся ёй, пачуўшы яе голас. Зразумеў, што яму няма чаго баяцца яе.

— Добра. Я прыйду. Ужо не як агітатар, — дзяўчына заўсміхалася, паправіла рукой косы, што звіслі на плечы.— І Чыр не будзе супраць?

— Чы-чы-чырр!..

Яна засмяялася, гледзячы на птушку, што ўсё яшчэ сядзела на яе плячы — наводзіла марафет крылам.

— Тады ў мяне да вас, Валер, адно пытанне?

— Якое?

— Ці не будзеце вы супраць, калі я буду прыходзіць не адна, а са сваімі сябрамі — мастакамі?

У Арлова акругліліся здзіўлена вочы.

— Ды хоць з усім белым светам! — абрадаваўся спадар, пакруціў туды-сюды кола, паездзіў, як пахадзіў ля яе. — Толькі што тут у мяне такога цікавага?

— У вас усё цікавае — і атмасфера, і тое, што вы чыталі. Людзям сёння не хапае яднання, размоў, спрэчак. Я сёння многае зразумела. І дзякуй вам за празрэнне. Прыйшла агітаваць вас, а аказалася самой сагітаванай і зачараванай. Чым — яшчэ не ведаю, але хвіліны, праведзеныя ў вас, у прысутнасці Чыра, сталі для мяне нечым такім, ну... адкрыццём новага свету. Дзякуй вам...

— За што? — спытаў усхваляваны Валер. Жартуе дзяўчына? — То я вам дзякую, што завіталі. Каб не выбары, то мы і не сустрэліся б. Я за ўсіх прагаласую, за каго скажаце. Хоць за ўвесь белы свет!

Вось так нечакана Наташа адкрыла Валера Арлова.

Прыходзіла да яго адна і адзін раз, і другі. А потым запрасіла ў госці сваіх сяброў. Паабяцала падараваць ім цікавы вечар.

Яны асабліва не верылі. Бо што сёння можна паказаць цікавае? Паклікаць на сяброўскую вечарыну ў «Грот закаханых»? Там даюць піва, салёную рыбу, частуюць сухім віном і каньяком.

— Добра, мы пойдзем, Наташа, — згадзіўся Пушкарчук — за сябе і Антона адказаў. — Толькі ты раскажы напачатку, куды мы пойдзем і да каго.

— Добра ўжо, прызнаюся, раз так не церпіцца.

І расказала пра сваё адкрыццё. Заінтрыгавала.

Мы сядзім у яго, добра ўжо абзнаёміўшыся, паладкаваўшы і з Чырам. Але ён нас у вялікія сябры не прыняў — ніводнага разу не сеў на плячо ні мне, ні Міколу. Не давяраў чамусьці. Мо ў нас галасы былі грубаватыя, ці, можа, зыходзіла ад нас недаверлівасць, якая палохала птушку.

Але радавала, што не баяўся ён нас на адлегласці. Скакаў і чырыкаў на акне, дзяўбаў хлеб, слухаў, пра што гаварылі.

Дамовіліся адразу, што не будзем размахваць рукамі ў прысутнасці Чыра і гучна гаварыць.

Першая сустрэча прайшла мо і не так, як жадалася. Але ўжо на другі ці трэці раз мы гаварылі, як даўно пасябравалі.

Ён прыняў нас. Прыняў усім сэрцам. І цяпер мы ўжо не маглі не прыходзіць да Валера. Мы не маглі без яго.

І тады нехта з нас назваў нашыя паходы да Арлова днём душы.

Мы пазнаёміліся з маці, ветлівай і дабрачай жанчынай, якая была радая нашаму прыходу і знаёмству больш, чым яе сын — у нашай супольнасці яна бачыла добры знак. Паверыла, пераканалася, што мы для яго — другое жыццё.

Але яна не здагадвалася, што нашым другім жыццём быў ён, Валерка Арлоў. Два браты, якія працавалі на заводзе, былі маўклівыя і ціхмяныя, поўная процілегласць брату.

Мы стараліся не надакучваць сваімі частымі прыходамі. Але ж рэдкімі іх таксама не назавеш. Сталася так, што мы пачалі адчуваць неабходнасць завітаць да яго. Гэта было тады, як ў нашых душах збіралася нешта лядайкае і злое, жыццёвы бруд і ад яго трэба было вызваліцца, ачысціцца.

І мы, нават не дамаўляючыся, кіруем да яго.

11

Жыццё чалавечае — не ведаеш, дзе ўпадзеш, што падымеш, што згубіш, а што знойдзеш...

І чаму б не завезці Арэшку дадому, чаму не паслухаліся яго і не выклікалі таксі?

Мікола дакараў сябе за той дзень, калі пакінулі Андрэя Іванавіча аднаго на лаўцы. І ў апошнія свае хвіліны ён стараўся не назаляць людзям. Не паказваў, што тварылася ў яго на душы.

Казалі людзі, што нейкая жанчына падышла да яго, каб папытацца пра яго стан, а ў яго і рукі халодныя.

Здарыўся ў чалавека інфаркт. Не вытрымала сэрца.

Хавалі яго з тым партрэтам, што рабіў Антон Зялёнка. Жонка Андрэя Іванавіча з такога гора ў бальніцу злегла. Сама на сэрца

хварэла. Значыць, далася апошняя размова з Ганчарэнкам, раз такое выйшла. А Антон так і сказаў: «То Ганчарэнка яго забіў. Сваёй адмовай забіў...»

Пушкарчук наведаўся да жонкі ў бальніцу разам з Зялёнкам. Жанчына горка ўсміхнулася іх прыходу, заплакала, нічога не сказала. Пасядзелі каля яе, зразумелі, што размовы не атрымаецца, пацiснулі яе безжыццёвую схуднелую руку, развіталіся.

Пякло, душыла Міколу адчуванне, што ў тым, што здарылася, вінаваты і ён. Каб своечасова забіў у званы, каб смялей адчыняў дзверы старшыні гарвыканкома, каб падняў на ногі савет ветэранаў... Каб ды кабы... Заднім розумам заўсёды жыве чалавек.

— Ну пры чым ты тут, Мікітавіч? — стараўся супакоіць яго Антон. — У Фядоса, мусіць, не баліць сэрца па ім. Што яму да чужой смерці? Ён і ўскосна не будзе лічыць сябе вінаватым у смерці ветэрана.

— Можа, ты і праўду гаворыш, Антоне, але чаму ж мяне апякае яго боль і грызе сумленне? Вінаваты і я...

Праз дні тры пацягнуў яго Антон у цэнтр горада.

— Справа, Мікола, ёсць адна. Без цябе мне яе не здзейсніць. — Антон быў неспакойны, узрушаны, нядобра гарэлі вочы — як усё роўна хвароба была ў разгары, як тэмпература дапякала.

Ты сёння кепска выглядаеш, — паглядзеў на яго Мікола, дакорліва галавой пахітаў, што так не шануе сябе хлопец — ночы, мусіць, у майстэрні праводзіць. — Мо заўтра зробім тваю работу.

— Не-не, толькі сёння. Бо тады я яе ніколі не зраблю. Дзень сёння такі — адзіны...

Яго як мучыла што, непакоіла, але Мікола не стаў дапытвацца больш.

— Ты вось што скажы мне, Мікола Мікітавіч. Ты жыццё пражыў, шмат чаго пабачыў — добрага і благога. Шмат чаго чуў і многае ў жыцці разумееш... Ты мне скажы вось пра што: ці можна лічыць забойцам чалавека, які спакусіў дзяўчыну і яна зацяжарала, прызналася яму, а ён прымусіў яе зрабіць аборт. А потым яна зусім не магла нарадзіць. Скажы, забойца ён ці не?

У Антона вочы чырвоныя, часта міргаюць павекі. У горле суха і дзярэ яго дзяркатка. Раз-пораз кашляе, глытае сліну. Напэўна, нялёгка яму даліся апошнія дні. Рукі не знаходзяць месца — то ў кішэні іх засуне, то сашчэпіць ззаду, то плёткамі боўтаюцца, бы і не яго яны.

— Не ведаю, з якога боку паглядзець.

— Во-во, з якога. А ты з таго, з таго зірні. Ага, каб прама і адкрыта. Адмовіўся жаніцца — што ж ёй рабіць? Пазбавіцца ад свайго

сораму. Значыць, ён і другое забіў, калі яна не нарадзіла, замуж выйшаўшы...

Мікалай Мікітавіч здзіўлена пазіраў на Антона — адкуль у яго такія думкі? І што з ім сталася за апошні час — схуднеў, хворы нейкі і ўзрушаны.

— А тут зноў — абяцае даць кватэру ветэрану, а дае сваёй палюбоўніцы, якую спецыяльна выклікаў з Гомеля пад выглядам незаменнага спецыяліста. Прыезджым без чаргі даюць.

Арэшку хапае інфаркт — і няма чалавека. Забіў ці не забіў? Скажы прама. Гэта вельмі важна.

— Антон, ён, можа, і вінаваты, але ж ні ў якім законе не сказана пра такіх, што яны вінаватыя.

— Значыць, ёсць нейкі вышэйшы закон і суд над такімі?

— Толькі не ў нашых руках той закон.

— Няважна! Галоўнае, што мы пра яго ведаем.

«Усё ж з ім адбываецца нешта неверагоднае, — ішоў і думаў Пушкарчук, гледзячы сабе пад ногі, каб не выдаць сваю лішнюю цікавасць да яго, — а можа, проста захварэў, а мо што ў адносінах з Наташкай... Не, ён, пэўна, не ў сабе».

Позірк і сапраўды ў Зялёнкі нядобры, апантаны, ён мучыцца, не хапае дыхання. У ім змагаліся як бы два чалавекі — адзін, які замысліў нешта злое і жорсткае, а другі працівіўся, не даваў тое зрабіць. І твар ад гэтага мяняўся — рабіўся то злым, то даверлівым.

— Куды мы ідзём?

— Даведаешся. Не спяшайся. Нецярплівы які, — Зялёнка паспрабаваў усміхнуцца, каб скінуць з сябе цяжар нейкага нябачнага грузу.

Антон вёў сябра да галоўнага будынка горада, куды прыходзілі разам неаднойчы. Пасядзелі трохі на лаўцы, на той самай, дзе пакінулі аднаго Арэшку. Як быццам памянулі яго.

Антон глянуў на свой гадзіннік — набліжаўся час абеду ў партыйнага апарату і работнікаў выканкома.

— Давай сходзім да выканкомаўскіх бюракратаў і хабарнікаў, — прапанаваў Антон, расшпільваючы верхнія гузікі блакітнай сарочкі, і не адрываў позірку ад уваходных дзвярэй.

— Да каго?

— А ні да кога. Проста так.

Яны перайшлі дарогу, падышлі да ганка.

Зялёнка чамусьці не спяшаўся падымацца па прыступках — нечага марудзіў. Яму нешта муляла, замінала ісці далей.

Расчыніліся дзверы. На ганак выйшаў у добрым настроі старшыня гарвыканкома. Затрымаў крок, прыжмурыўся, усміхаўся сонцу. Паправіў на шыі бліскучы гальштук, выдыхнуў паветра — заседзеўся ў сваім кабінеце, работы шмат зрабіў. Убачыў на адлегласці Пушкарчука, павітаўся з ім кіўком галавы.

А потым мэр зірнуў на Зялёнку — і адразу ж з твару спаўзла задаволеная ўсмешка, перакрывіўся ў жаху твар, закрыўся рукамі...

Антон, не адрываючы зневажальнага позірку — стаяў і не рухаўся, сціснуў зубы.

Ганчарэнка войкнуў, схапіўся за левы бок. Асунуўся на бетонную падлогу. Яго тут жа падхапілі дзесяткі людскіх рук.

— Што з вамі, Фядос Рыгоравіч? Вам кепска? «Хуткую» выклічце неадкладна!

Пушкарчук памкнуўся таксама да грамады, паддаўся агульнаму ўдзелу ў чалавечай бядзе, але Антон злосным голасам загадаў:

— Не трэба... Пайшлі хутчэй адсюль!

— Яму ж кепска. Памагчы трэба, — Мікола не разумеў Антона і не пазнаваў яго — бледны, змэнчаны твар.

— Арэшку не памог, а яму бяжыш? І адкуль толькі ў людзей вірус халуйства?

Пад самы дых садануў. Аж пеканула пад левым бокам, рукой нават хапіўся, але адказаць не мог — пачуў праўду.

Да ганка, равучы сірэнай, пад'ехала «хуткая дапамога».

— Пайшлі! — зноў загадаў Антон і піхнуў у плечы. — Нас тут не было, ясна?

— Ясна, — невядома чаму падтакнуў сябар, усё яшчэ не разумеючы, што адбываецца з Антонам і што здарылася з Ганчарэнкам.

Яны амаль подбегам шыбавалі па тратуары, пасля звярнулі ў сквер.

Антон маўчаў, нешта абдумваў. Убачыў таксафон, чамусьці пабег да яго, але доўга не набіраў патрэбны нумар.

— Алё, Наташа... То я... Час маеш? Ды нічога, да Валеркі ў госці сходзім. Пасля работы? Добра, мы з дзедам ідзём да яго.

Пагрозліва завываючы сірэнай, неслася да бальніцы «хуткая дапамога». На машыну Зялёнка нават і не паглядзеў — безуважна ўперыўся ў тэлефонную трубку.

Мы сядзім у Валеркі дома. Праводзім чарговы дзень нашых душ. Не ведаю, як у Наташы і Пушкарчука, а мая зачарсцвела, зрабілася чорнай, пакрылася сталёвым панцырам. Да яе не даходзіў чалавечы боль. Чужы боль.

Я стаў патэнцыяльным забойцам. Не маючы на чужое жыццё аніякіх правоў. Ніхто не здагадваўся, што я забойца.

Такога дурня, як я, напэўна, і ў свеце не знойдзеш. На што патраціў першы цуд? Чаму навучыў мяне Бог?

Гэта ж дадумацца — узляцеў на дуб. Рукі засвярбелі, крыламі захацелі быць. Ну і чаго дабіўся? Здзівіў не толькі Наташу, а і ўвесь горад — пагалоска пайшла, што Зялёнка не ў сваім розуме. Сапраўды не ў сваім... Лепш бы Наташу шчаслівай зрабіў, каб не мучылася, не ўспрымала жыццё такім, як яно ёсць.

А другі цуд — на што аддаў? На мэра... Ну, другі будзе, трэці, а хіба што зменіцца?

Мяне прыгнятала пачуццё незадаволенасці і няправільнасці здзейсненага — якое я меў права судзіць яго? Хто я — суддзя? Абаронца? Кат? Такога ж не можа быць, каб быў кругом вінаваты. Няўжо не было ў яго ніводнай добрай справы? Было. І не раз. Я ж з такім поспехам мог бы забіць Баброва альбо ажывіць тую, каго ён «забіў»...

Ад невыноснасці пацягнула мяне да Валеркі.

Наташа сядзіць на канапе, падкурчыўшы ногі, нібы школьніца. Пушкарчук схаваўся ў глыбокім мяккім крэсле, а я хаджу то на кухню, то назад — на пліце вось-вось закіпіць чайнік. Гарбату гатаваць даверана мне.

У фарфоравым чайніку я перамяшаў зёлкі і крупінкі чаю. Калі ж прынёс гарбату да гасцей, паставіў на столік, прыўзняў вечка, па хаце залуналі пахі палескіх лугоў...

— О-ооо, — удыхае Валер глыбока носам і заплюшчвае ад задавальнення вочы, — перад тым як пакаштаваць яго, ужо язык адчувае смакату.

— Правільна, Валер. Так мне і казалі індусы ў Гімалаях.

— Ты быў у Індыі, Антон? — здзіўляецца Наташа. — Ніколі ж і не гаварыў...

— Не гаварыў.

Цёмна-карычневую пахкую вадкасць разліваю па кубках, першай падаю Наташы.

— Дзякую табе, чараўнік, — усміхаецца яна і асцярожна робіць першы глыток. Адпіла раз, другі, задумалася, пахваліла: — Цудоўны напітак!

Дзяўчына глядзіць задумліва за акно. Думае пра нешта сваё, а мне чамусьці ўспамінаецца, як яна тыдзень назад гуляла са мной па горадзе. Блукалі проста так, каб пабавіць час — выцягнула мяне ў

кіно, насварылася нават, што я сіднем сяджу ў майстэрні і не выходжу на белы свет.

Мы праходзілі паўз той будынак, дзе была рэдакцыя газеты. Яна зірнула ўверх, моцна прыціснулася да мяне.

— Там за акном сядзіць ён. Часта заседжваецца там. Нешта піша. Казаў, кнігу.

— Я кіну туды бомбу. Невялічкую.

— Не трэба. Нічога не паможа.

Потым кубачак падаю Валеру. Пасля Міколу. Сабе наліваю апошні. Здаецца, што мы ў лесе, што цвіце ліпа і каліна, духмяніць пахам на ўзболатку багун.

Слабасць мая — гарбата. Дзе б ні быў, куды б ні ехаў, заўсёды знайду час збегаць на мясцовы базар, каб пацікавіцца ў бабулек і дзядоў пра харошыя зёлкі. Па вясне і летам сам выбіраюся ў лес, па сваіх патаемных сцежках шукаю іван-чай, корань валяр'яну, дзівасіл...

— Валер, прачытай нам што-небудзь новае.

— Новае? — перапытвае ён і ўсміхаецца. — Адзін філосаф сказаў, што новае — гэта забытае старое. Але ж — слухайце.

З табой мы перад Богам чыстыя —
Ён не асудзіць і не папракне...
Любыя я ў жыцці нягоды выстаю,
Пакуль жывуць у мроях у мяне —
І вуснаў шэпт. І ціша гойная.
Раса з травой. Пяшчотны позірк твой...
І неба ў зорках, як дыван, прасторнае —
Прыгожае нябеснае шытво...
Ты не кажы, што ўсё мінулася,
Што снег схаваў твае сляды...
Пачую я чаканне ў тваім голасе,
Як зноўку згінуць злыя халады.
З табой мы перад Богам чыстыя.
Ён не асудзіць. І не папракне...
Любыя я ў жыцці нягоды выстаю —
Абы святло жыло ў тваім акне.

Я заўважаю, як пунсавее Наташа. Паднесла да губ кубак, схіліла галаву і, не адрываючыся, п'е і п'е гарбату.

Адкуль, адкуль Валеру вядомы яе боль, які не знікае, мучыць, непакоіць? Адкуль ведаць яму, што тое акно ў яе жыцці прынесла шмат радасці і гора, шмат горкіх мінут і хвіліны шчасця... Не само акно, а той, хто за ім сядзіць...

Мы маўчалі. Мы ніколі не давалі ацэнку вершам Валерыя — не хвалілі, не ганілі. А ён тады доўга маўчаў, стамляўся ад чытання. Калі браў кубак, ледзь заўважце дрыжэлі рукі.

Пазней зразумеў, што той верш пісаў не Арлоў. Яго пісаў я. Бо я так думаў. Значыць, ён разумеў маю душу. Але як? Якім чынам?

Хто сказаў афарызм: «Шчасце — гэта калі цябе разумеюць». Для каго шчасце? Для таго, хто разумее, ці для таго, каго разумеюць? Выходзіць, мы ўсе, утрох, шчаслівыя, бо нас разумее Валер? Мы разумеем яго, значыць, і ён шчаслівы? Як хочацца згадзіцца з афарызмам.

— Ну, чаго замоўклі? Як быццам я прачытаў нейкі некралог добраму чалавеку... — Валер круціць колы сваёй каляскі, ганяе яе па пакоі — то да мяне, то да Наташы, заглядвае кожнаму ў вочы. ён быццам хоча даведацца, як мы аднесліся да прачытанага. Але мы ведаем, што яго асабліва не турбуе, як мы ацэнім верш. Проста ён хоча вярнуць нас да нармальнага стану, у якім мы былі раней.

— А мы не маўчым, — гаворыць за нас Наташа, спусціўшы ногі на падлогу. — Мы думаем.

— Пра што? Пра вясну, пра восень? Пра галактыку Эль?

— Пра ўсё. Адкуль у цябе гэтыя радкі. Хто табе падказаў іх?

— Хто?.. Канешне, Чыр. Ён лётае па горадзе, збірае сюжэты і расказвае мне. Ён ведае пра кожнага з вас усё-ўсё, бо лётае над вашымі галовамі, сочыць за кожным крокам, ён не шпіён, ён — мой перыскоп і антэна. Сувязь за знешнім светам.

— Жартуеш?

— А жарты — хіба няпраўда?

Вось і пагавары з ім пасля гэтага, выпытай у яго што-небудзь і ніколі ведаць не будзеш — хлусіць ён ці жартуе, праўду мовіць ці здзекуецца.

Але мы на яго не крыўдуем, нам падабаецца такая з першых дзён уведзеная гульня. Таму кожны з нас гаворыць усё, што захоча, прыдумляе, выдумвае, нагаворвае на сябе. З усёй мешаніны слоў мы выбіраем зярняткі праўды і адкрытасці.

— Дзівосы на белым свеце! — носіцца па хаце Валер. — Як вам цяжка жывецца! Як гэта можна без чаргі, за хабар, атрымаць кватэру? На дом завозяцца дэфіцытныя тавары і прадукты — яна, партыйная эліта, даўно ўжо жыве пры камунізме. На базу прыбываюць андатравыя шапкі і імпартныя футры. Першы сакратар дае загад кіраўніку гарспажыўсаюза забракаваць тыя тавары і даць у продаж за капейкі. Пакупніком жа будзе жонка першага сакратара.

— Чаму — цяжка? — здзіўляецца Мікола. — Наадварот, цікава. Кожны дзень — барацьба. За нешта змагаешся, некага пераконваеш. Народны музей павінен быць у горадзе, я яго ўсё прабіваю, прабіваю... Быццам сабе хату. Наташа вунь у музеі працуе, краязнаўчым, а дзе той музей — на чамаданах сядзяць, на папках. А экспанаты гінуць, псуюцца...

— Антоне, мне яшчэ порцыю, — просіць Валер і падае кубак.

П'ём гарбату да позняй ночы.

Дадому ідзём з узнёслым настроем — як пабылі ў чысцільны Напэўна, так наведвалі царкву нашы дзяды і выходзілі з яе духоўна светлымі, верачы, што ўсё чорнае і злое пакінула іх, а ў іх душах пасялілася толькі дабрыня і шчасце.

Ненкай магутнай і невядомай сілай валодаў паэт Валер Арлоў. Магічнай сілай уздзеяння на чалавека. Уздзеяння дабром.

12

— Хочаш з намі падацца ў шаснаццатае стагоддзе? — папытаўся ў Наташы Пушкарчук, паглядзеў сур'ёзна на яе і вокам не міргнуў — як быццам пацікавіўся, ці не хоча яна выпіць шклянку вады.

— Як гэта?

Наташа настроена на жарт, таму чакае, калі Мікола адкрыецца і сэнс сказанага праясніцца. У яе рука так і спынілася каля вуха, калі папраўляла косы.

— А так. Ты была калі ў «Гроце закаханых»?

— Была. І не так даўно. Быў дзень нараджэння ў маёй сяброўкі. Пілі шампанскае, танцавалі...

— Калі ты смелы чалавек, я завяду цябе ў другі грот закаханых, які заснаваў кароль Сігізмунд.

— Нічога не разумею.

— Зразумееш потым.

Наташа ўздыхнула: Мікалай Мікітавіч такі — ніколі загадзя не адкрыецца, любіць ён цікавае падаць тады, калі наспела такая неабходнасць. «Грот закаханых»? Але пры чым тут «грот»?

Ёй чамусьці ўспомніўся той вечар, калі сяброўкі запрасілі яе па вечарыну ў «грот». Было весела. Танцавалі, дурэлі, гаварылі жартоўныя тосты імянінніцы, смяяліся... Міргалі каляровыя лямпы. Мелодыі «Боні-М» і Пугачовай уздымалі настрой. Прымушалі забыцца пра дзённыя клопаты і непаладкі. Праўда, яна там была ўсяго другі раз... У першы — з ім, Бабровым. Пазваніў дадому і сказаў, што хоча сустрэцца, што яму вельмі цяжка.

«Ты клічаш тады, калі цяжка?» — «Я не ведаў, што так можа быць цяжка без цябе, павер, Наташа, я кажу праўду...» — «Ты заўсёды казаў праўду, я ведаю». — «Прашу вельмі, давай сустрэнемся...» — «Дзе?» — «У «Гроце закаханых». — «Сапраўды, мы вельмі падобныя на закаханых...»

Але апошні сказ яна не прамовіла, кісла ўсміхалася, адчула, як нешта пякучае і адначасна незразумелае салодкае пачуццё варухнулася пад сэрцам.

Ён абрадаваўся сустрэчы, сядзеў за сталом, шмат піў. І гаварыў, гаварыў... Словы былі цёплыя і шчырыя, і вочы ў яго ад шчырасці вільгатнелі. Але яе ўжо не вельмі кранаалі яго прызнанні, бо ўжо не верыла ім. Пачынала ўжо не верыць. Да грота яна тады не прыглядалася, нічога ў вочы не кідалася. Яна асабліва і да слоў не прыслухоўвалася. Хаця яны калолі яе, пранізвалі нябачнымі іголкамі, хвалявалі, як і раней.

— Ты не слухаеш мяне? — ён перапыніў паток слоў нечаканым пытаннем і маўкліва ўтаропіўся ў яе, заўважыўшы абыякавасць у позірку — скіраваным некуды ў глыб зямлі.

— Чаму ж не слухаю? Складна гаворыш. Як спяваеш. Як і некалі. Праўда, больш прафесійна. Каб першы раз слухала, не ўтрымалася б і прыняла б за чыстае золата.

— Што з табой? Нічога не разумею. Ты не верыш майму ніводнаму слову?

Вочы ў Баброва карычневыя. Яны маюць здольнасць мяняцца, перайначвацца — то робяцца страснымі, палаючымі ў сваёй неўтаймаванай закаханасці, то ўмольнымі — у залежнасці ад таго, чаго хоча дабіцца. Усе штрыхі яго паводзін Наташа вывучыла дасканала.

— Веру, Бабро ў. Усяму, што ты гаворыш.

— Ну, хочаш, я кіну жонку і жанюся з табою?

Яна ўсміхалася. На нейкую хвілю зазірнула яму ў вочы, але не ўбачыла ў іх сапраўднай шчырасці. Хаця і верыла, што ён можа так зрабіць...

— Навошта такія ахвяры дзеля мяне, таварыш Бабро ў? Хіба я заслужыла такое, га? Лухта то ўсё, лухта.

— Ты памыляешся. Я ведаю, што шмат прычыніў табе балючых хвілін. Таму ты мне і не верыш. Прывязаўся я да цябе за гэты час.

— Беднае тваё сэрца. І ўсім там ёсць месца. Нават маёй сяброўцы.

— Няпраўда, — перакрывіўся Бабро ў — не спадабалася, што Наташа ўведала пра яго заляцанні.

— Хіба ж яна табе не спадабалася? Шкада... А яна ад цябе «в восторге».

— То няпраўда ўсё! — перасмыкнуў ён губамі. — Я не ведаю, што яна табе напляла, але я не быў у яе.

— І разам вы не былі ў доме адпачынку?

Нн апусціў галаву, уздыхнуў.

Заблытаўся ты зусім. І не ведаеш да якога берага прыбіцца. І няма каму пашкадаваць цябе, бедненькага. Вось і шукаеш ты маё плячо, каб паплакацца на ім, выліць дурныя слёзы, якія ты прыдумаў. І бяду сваю прыдумаў, узвёўшы ў гора.

Наташа адчула раздваенне. Адна палавінка хілілася да Баброва, другая — праклінала яго. Чатыры гады тайных сустрэч наклалі свой адбітак...

-— Нічога я не прыдумляў. Як добра, што ты ёсць. Ты толькі скажы... Зразумей, рана ці позна тое павінна здарыцца.

— Не трэба. Нікому — ні табе, ні мне...

Ён сашчапіў пальцы і паклаў рукі на стол. Потым, апамятаўшыся, разняў іх і правай пацісную яе руку — халодную і абыякавую. І як нешта зразумеў, бо нахмурыўся, сціскаў далонь мацней і мацней. Яна не закрычала, не войкнула нават. Як быццам і не адчувала болю. Бо гэты боль у параўнанні з тым, што ён дарыў ёй да гэтага, быў нішто.

Чад пакрысе рассейваўся. Чад губляў свае чары.

Пушкарчук сядзеў, заняўшыся сваім, — пісаў нешта ў сшытку. Пісаць для яго — вялікая мука. Лепш вылепіць дзесятак сюжэтаў з гліны, чым напісаць паўсгаронкі. Хутка пісаць ён не навучыўся, а пісаў павольна, па кожнай літары, як першакласнік.

Ён пакутаваў, калі яму даручалі альбо прасілі напісаць нейкую паперчыну. Яго часта выбіралі ў прэзідыум, даводзілася весці пратакол сходу. Каб начыста аформіць, ён браў чарнавікі дадому. Потым знаходзіў час і афармляў альбо ў сябе ў майстэрні, альбо прасіў адрэдагаваць Зялёнку.

Памагала і Наташа. Іншы раз ёй хацелася і перапісаць пратакол, але Мікалай Мікітавіч часта ўпарціўся:

— Не, мой почырк ведаюць, а так скажуць, што я некаму давяраю сакрэты партыйнай арганізацыі.

— Якія ж могуць быць сакрэты ў партыі? — смяецца Наташа. — Калі сакрэты, то нешта робіцца супраць сумлення...

Пушкарчук, само сабой, жартаваў, ён расказваў, як на сход прыходзіла сакратар гаркома партыі Гаўральцова — жанчына строгая

і лядашчая, з вострым падбародкам. Не любіла, калі ёй пярэчылі, калі не згаджаліся з ёю.

Задалі ёй пытанне:

— Чаму, Рыта Хведараўна, тварагу няма ў магазінах?

Доўга не думаючы, параіла:

— А вы купляйце малако, стаўце ў цяпле, каб скісла. А потым з яго тварог рабіце. Я, напрыклад, так і раблю...

Ставілі пытанне аб забеспячэнні горада малочнымі прадуктамі, яна ж звяла ўсё на параду — рабіце, як я. І расхацелася задаваць ёй новыя пытанні, маўчалі.

— Мікола Мікітавіч, а калі мы пойдзем у шаснаццатае стагоддзе?

Ён весела смяецца, шкрабе падбароддзе, адкладвае паперы:

— Не церпіцца? Правільна. Во цяпер я пачуў, што ты маеш такое жаданне. А пойдзем заўтра. З раніцы, у суботу, ты вольная. Трэба апрануцца адпаведна. Возьмем з сабою ліхтары, вяроўчыны, фотаапарат і ўсё астатняе. Вечарам сёння абмяркуем усё падрабязна. Бо туды, у грот, трэба ісці падрыхтаваным — і духоўна, і фізічна. Бачу, не здагадваешся, куды пойдзем? У падзямелле. Пад каралеўскі замак. Я знайшоў патайны ход. Жудаснае там убачыў: шкілеты людзей, катавальню. А што ўбачым яшчэ, не ведаю...

І вось мы ў падзямеллі...

Пушкарчук выняў тую доўгую камянюку, і злева перад намі лёг мосцік. Пра ўсе тайны спускання ўніз нам апавядаў Пушкарчук на «вячэрнім паседжанні» ў маёй майстэрні. Па плану мы не павінны былі затрымлівацца, а толькі прабегчы вокам.

У кожнага на грудзях вісіць ліхтар, святла якога хопіць на некалькі гадзін. І яшчэ запасных узялі два акумулятары. Наташа ўзяла аптэчку — з бінтам, ёдам, эфірам і спіртам.

Пушкарчук спускаецца першы. Я за ім. Памагаю спускацца дзяўчыне — трымаю за руку, чую, як пульсуюць вены. Не цікаўлюся, як яна адчувае сябе, які настрой: разумею праз яе далонь. Мы ў чаканні нечага значнага і унікальнага.

— Не спяшайся, Антон, я не паспяваю ставіць ногі на прыступкі, — просіць яна, трымаючыся за мяне.

Я стрымліваю крокі, адчуваю вінаватасць перад ёю.

Мікола маўчыць. Ідзе павольна, раз-пораз аглядваецца, міргае, падбадзёрвае. Потым знікае за павароткай — толькі водсветы ад яго ліхтара скачуць па крутой сцяне. Шэры цень сунецца па ёй, пераломліваецца на столь. У мяне за спіной рэчавы мяшок, куды мы склалі ўсё неабходнае, што магло б спатрэбіцца ў любы момант — чаканы і нечаканы.

Адчуваю няладнае па руцэ Наташы — нейкія сутаргавыя штуршкі. Неспакойныя і трывожныя. Паварочваюся да яе, тулю да сябе:

— Страшна?

— Не ведаю. Але гэта не страх. Ніколі не была ў такім сутарэнні. Тым больш калі тут не ступала нага некалькі стагоддзяў.

— Няпраўда. Некалькі дзён назад тут праходзіў Пушкарчук. Мікола тут усё ведае. Ты не хвалюйся.

— А як нас тут заваліць што?

— Я ж казаў, у мяне мініяцюрны перадатчык, які бярэ хвалю «хуткай дапамогі». Калі я ім дам сігнал, без прамаруджвання кінуцца нам на дапамогу. Але да гэтага не дойдзе.

Дрыжыкі, адчуваю, пачалі пакрысе праходзіць. Я суняў яе страх і хваляванне.

— Добра, Антон. Цяпер усё добра, пайшлі...

Мы лічым у думках прыступкі, збіваемся, зноў лічым. А ім і канца няма. Пушкарчук, пэўна, бачыў, што не адстаём, таму спыніўся і чакаў. Не клікаў — як быццам не хацеў трывожыць спакой прашчураў.

— Ну ўсё, прыйшлі, — спыняецца Мікола каля трох дзвярэй. — Вось тое раздарожжа, пра якое я казаў. У правым я быў. З чаго пачнём?

— З правага і пачнём. З таго, вядомага. І там не будзем затрымлівацца. Так, Наташа?

— Так, так. Грот закаханых... Мікалай Мікітавіч падрыхтаваў нас, таму сюрпрызаў не будзе. Рушылі...

Голас у яе спакойны, упэўнены, і тое мяне радуе. Значыць, перамагла сябе. Яна першай і накіроўваецца ў прамавугольную цемру.

Не ведаю, як яна, а ў мяне адразу пабеглі па целе мурашы — відовішча жахлівае. Калі Мікола пабыў тут усяго некалькі хвілін, то нам трэба абследаваць усё тут да драбніц — мо што цікавае адшукаем. А мо і не адшукаем.

Да мяне дакранулася рука Наташы. Сціснула маю руку. Але я не адчуў тых штуршкоў, што пульсавалі раней, — кроў пералівалася па венах роўна і рытмічна.

— Антон, марудзіш, — незадаволена папракае Мікола, і я зразумеў, што ад мяне патрабуецца — дастаў з рэчавага мяшка «Зеніт» і колькі разоў бліскаю ўспышкай. Зрабіў некалькі панарамных здымкаў і буйным планам — паржавелае жалеззе і амаль сатлелыя косці людзей.

У гэты ж час Наташа пачала абследаваць кожны метр грота — зазірала ў шчыліны, разглядвала падлогу і сцены. У кутку адшукала нейкую кнігу. Вокладка ў яе амаль струхлела, як не сыпалася, а вось старонкі былі цэлыя, хаця і яны паддаліся часу.

— Што гэта? — нахіліўся я да дзяўчыны, памагаю трымаць цяжкую кнігу.

— Не ведаю, Антон. Але гэта, здаецца мне, вельмі каштоўная кніга. Дарагая рэч. Вось што напісана ў ёй: «Суцяшальнік для закаханых, складзены Сігізмундам. Для закаханых гэтыя прытчы. Для вас, у якіх душы непарочныя і чыстыя. Такім вас і прыме ўладар, і ўзнясе на самы высокі свой прастол. То не я вас клічу. Гэта Усявышні кліча вас да сябе ў госці… Бо яму трэба душы чыстыя і непарочныя. Вас напаткала вялікае шчасце — быць у гасцях у Бога. Вашым каханнем будзе жыць яго душа, і ён будзе прадаўжаць жыццё на зямлі. Вам будуць удзячны нашчадкі за вашае ўзыходжанне ў завоблачныя высі…»

— Абы-што, — гавару я і перабіваю чытанне.

— Для іх гэта было напісана?

— Для іх, Мікітавіч.

— І хто ж чытаў тыя радкі для закаваных у кайданы? Як і язык паварочваўся.

— Паварочваўся. Бо сам мог аказацца ў такіх кайданах. Не тут, дык у іншым месцы. Так, гэтую кнігу неабходна акуратна загарнуць у тканіну. Пакладзём яе тут, ля выхаду, потым забяром — як будзем ісці назад.

Мы пакідаем памяшканне. Зноў спыняемся — выбіраем, у якія дзверы ісці далей. Хаця якія дзверы — толькі праёміны. Наташа сама выбірае маршрут і пайшла першая наперад. Мы пайшлі следам. Промні святла выхоплівалі з цемры шэрыя Камянюкі, падагнаныя шчыльна адзін да аднаго…

— А чым цікавая кніга, што ты знайшла? — парушаю я пытаннем тую напружанасць, якая нарадзілася перад невядомым, куды мы павінны вось-вось ступіць.

— Чым? — Наташа не здзіўлена маім запытаннем, бо ведала, што я не вывучаў старажытнарускую і беларускую літаратуру. Яна ж праходзіла на сваім факультэце. Вывучыла дасканала. — Яна адносіцца да Жыцція, так называемай агіяграфіі. А яшчэ больш канкрэтней — біяграфіі духоўных і свецкіх асоб, якіх кананізавала хрысціянская царква. Значыць, гэта адзін з відаў рэлігійнай літаратуры. Для сучасніка яны ўяўляюць тую каштоўнасць, што ў іх укладзены гістарычны матэрыял. І таму мы праз яго пазнаем гісторыю…

— А калі з'явіліся тыя Жыціі? — Пушкарчук папытаўся ціха, як бы баючыся парушыць цішыню падзямелля.

— Даўно. Яшчэ ў час Рымскай імперыі… А ў літаратуру Кіеўскай Русі перайшлі ў дзесятым стагоддзі. Іх прынеслі паўднёвыя славяне і перакладалі іх з грэчаскай мовы. Мы вывучалі зборнік Чэцці Мінеі — у ім Жыціе размяшчалася па чыслах месяца. Чытала я і «Пралогі» — кароткі іх змест, але цікавы. У зборнік «Пацерыкі» былі ўключаны «Жыція святых» — тэма мясцовая: жыццё манастыра або князёў, якія праславіліся сваімі ратнымі подзвігамі. А арыгінальныя беларускія Жыціі — аб Ефрасінні Полацкай, «Жыціе Аўрамія Смаленскага». А Сімяон Полацкі зрабіў вершаваную пераробку Жыція «Песня Іоасафа, у пустыню входзяшча». Гэта класічны твор…

Ззаду дробненька засмяяўся Пушкарчук і замоўк. Я павярнуўся да яго — што гэта з ім? Але ён здзіўлена паглядаў на мяне. Значыць, падалося…

Толькі цяпер адчуў, што паветра не свежае, што лёгкія ўдыхаюць яго з нейкай прымессю. Але на гэта мы не звярталі ўвагі, і так было зразумела — гаварылі перад спускам. Я прыхапіў тры процівагазы — выпрасіў у ваенрука, знаёмага выкладчыка. Але чарга да іх не дайшла. Мо і не дойдзе.

Наташа павольна ступае наперад, асвятляе дарогу. Мы пільна ўзіраемся ў тое, што выхопліваюць промні — і нічога не заўважаем. Памяшканне, куды мы ўвайшлі, было значна шырэйшае і даўжэйшае — такая ж столь, што сыходзілася трохкутнікам у вільчыку. Прызвычаіўшыся, заўважыў у правым кутку нешта накшталт вялікай скрыні. Са сцяны тырчэлі нейкія ваенныя даспехі — не то дзіды, не то мячы.

Каля сцяны мы спыніліся.

У кутку прымацаваны каменны стол. Паверхня была роўная і гладкая, як адпаліраваная. На ім ляжалі ўпрытык адзін да аднаго мячы і дзіды, сякеры і пішчалі, гакаўніцы і кулі…

— Цэлы арсенал, — абрадавана прамовіў Мікола, пакратаў меч, узяў у руку.

— Як быццам музей зброі.

— Вось тут бы і абсталяваць музей, — выказаў меркаванне Пушкарчук, аглядаючы прастору скляпення, прымерваючыся ўжо, дзе і што можна паставіць — Правесці сюды святло, кандыцыянеры…

— А там адкрыць рэстаран «Грот закаханых»? — пачынаю ўжо злаваць на Пушкарчука, бо пачуў, як ён зноў захіхікаў. — Побач са шкілетамі, так?

— Навошта рэстаран? А ўвогуле прабач, глупства гараджу. Я ўсё пра свой музей. Ды зло бярэ, што Ганчарэнка не даваў, не выдзяляў памяшканне пад музей і не будаваў яго.

Я ўспомніў пра свае абавязкі — накручваю плёнку і раблю адзін кадр, за ім другі... Падсвечваем дзіды, якія тырчаць з ніш у сцяне, зноў клацаю.

Наташа прыглядаецца да кожнай дробязі, высвечвае кожны куточак, дзе толькі можна. І нічога не трапляецца ёй на вока.

Націскаю зноў і зноў на затвор. Веру, што «Орвахром» мяне не падвядзе, як і не падводзіў раней. Слайды атрымліваліся выдатныя.

Я асобна здымаў, як раіла Наташа, «гатычныя» пласціністыя даспехі пятнаццатага стагоддзя, рыфленыя «максіміліянаўскія» даспехі першай чвэрці шаснаццатага стагоддзя, кірасу, рандаш, павезу, якая прыткнулася ў самым кутку, упіралася ў яго, як ікона. Шлем з забралам. Салад. Каску-бургіньёт. Каску-марыён... Наташа ўсё запісвала ў блакнот, што я здымаў. Ставіла потым на сваё месца.

— Падсвечвай лепей, — прашу і нахіляюся як мага бліжэй, каб буйным планам схапіць даспехі...

— Я і так свячу, як ты прасіў. Пэўна, садзяцца акумулятары...

— Ага. Вось так добра.

Я адчуваю сваю віну, дарэмна нападаю — стараецца ж, робіць так, як прасіў. А яшчэ крычу, ёлупень, на яе. Але прасіць прабачэння няма калі, зноў падганяю, прыспешваю. Прашу свяціць так, як патрабуе плёнка. Дзяўчына не крыўдзіцца на мяне, слухаецца.

— Антон, божачка мой, паглянь сюды...

А Пушкарчук ужо даўно глядзіць на сцяну і не адрываецца — і як мы адразу не заўважылі! Перад нашымі вачыма адкрываў сваю тайну унікальны твор. Мікола ўжо кратаў сцяну рукамі — ніяк не мог даўмецца, што перад ім — мазаіка ці што іншае.

Нашаму позірку адкрылася нешта незвычайнае. Мастацкі прыём быў не вядомы ні мне, ні яму. Дробныя кавалачкі шкла, пяску, каменю, нейкага невядомага матэрыялу пераліваліся ў промнях нашых ліхтароў. Мала таго, усё на сцяне было жывое — рухаемся мы, і ажывалі людзі, якіх стварыў невядомы мастак. Падобна было, што на сцяне быў Сімяон Полацкі, але быццам і не ён.

— Стойце! Пачакайце! — крыкнуў узрушана Пушкарчук, узняў уверх рукі. — Давайце станем каля парога. Пайшлі станем!

Мы паслухаліся, пайшлі следам.

— А цяпер будзем ісці паралельна сцяне і глядзець на яе. А ты, Антон, кожным крокам фатаграфуй. Я нешта зразумеў. Да мяне нешта дайшло.

Спачатку мы не бачылі нічога. Потым сцяна стала блакітнай. На яе фоне вырас святы Айцец. Той самы які прыходзіў да мяне ў сне. Які і навучыў мяне тром цудам, з-за якіх і калышацца маё жыццё, быццам плыву я ў шторм па Прыпяці. Потым да Бога пачалі падыходзіць людзі ў каляровых хітонах. Яны апускаліся на калені, маліліся, апускалі галовы да зямлі. У левай руцэ ў аднаго быў бохан хлеба. Потым, праз колькі крокаў, замест хлеба з'яўляўся яблык, пасля — вінаграад...

— Дык гэта ж Спас — хлебны, яблычны і вінаградны! — ускліканула Наташа, і ў яе радасна засвяціліся вочы. — Божа, які цуд!

Святы Айцец глядзеў на нас, не адрываў пранікнёных вачэй. Як быццам пытаўся, чаму не молімся, чаму прыйшлі да яго без хлеба і яблыкаў. Яй-богу, быў бы я веруючым, перажагнуўся б, як і ў сне. Не заўважыў, міжволі перахрысціўся.

Я зноў здымаў і здымаў. Добра, што захапіў з сабою запасныя плёнкі. Душа мая разарвалася б, каб не хапіла яе ў такі вось адказны момант. На трыццаць шостым кроку я крыкнуў, каб спыніліся. Наташа памагла мне без затрымкі перазарадзіць плёнку — трымала старую, падавала новую. Нешта шаптала, але што не чуў. Я ніколі не бачыў такога мастацтва. Я не мог паверыць у такую фантастыку, у такія дзівосы. І таму хацелася пакінуць усё на плёнцы — ці мала што можа здарыцца потым.

А можа, гэта сон перада мною, як і са святым Айцом, які зрабіў мяне шчаслівым і няшчасным чалавекам адначасова... А калі не сон?

Людзі бегалі, лёталі над Спасам. У іх былі крылы. Яны плакалі, смяяліся, гаварылі, слухалі... На сцяне кіпела жыццё. На сцяне быў апафеоз мастацтва — жывое кіно, якое глядзелі задоўга да таго, як яго вынайшлі. Праўда, прашчуры-дрыгавічы былі абмежаваныя ў сюжэце. Але аднаго такога сюжэта хапіла на цэлыя стагоддзі. А дарэчы, хто той вялікі майстар — чараўнік, цудадзейны чалавек, які абагнаў свой час на паўтысячы гадоў? Мы шукалі і не знайшлі нідзе ніякага знаку ці аўтографа аўтара. Гэта сёння мы пад любой пэцкатнёй памячаем «М. Гер.», «Н. Сід.». «У. Лан.» і гэтак далей.

Мяне агарнуў сорам. Цяпер я рашуча не буду ніколі падпісвацца пад сваімі работамі. Калі я яшчэ пасля гэтага буду што-небудзь ствараць...

— Гляньце назад! — просіць Наташа і накіроўвае туды прамень свайго ліхтара. — Што там творыцца...

Мы зноў уражаныя. Напачатку тое не кідалася ў вочы, бо было за выступам. Цяпер жа, калі мы накіравалі туды тры ліхтары, таямніца раскрывалася: вычасаны з каменю дрыгавіч паглядаў з усмеш-

каю на нас, прыставіўшы руку да вуха. Бы недачуваў і пра нешта перапытваў. У сівой яго барадзе блукала хітраватая ўсмешка. Над яго галавой лёталі буслы і жоравы. Каля яго, ужо меншага росту, стаялі людзі — дзяўчаты, жанчыны з дзецьмі, дзяды і мужчыны. Паміж імі адбывалася нейкая важная размова...

— Гаўрыіл Мазырскі, — не паверыла Наташа, і голас яе ўздрыгнуў, — у летапісах ён упамінаецца, але ніхто не ведае, дзе ён знаходзіцца. Як і не ведаем пра «Жыціе святога Натхніцеля», што справа. А яны вось дзе. Дзіва, ды і толькі!

Накіроўваю аб'ектыў на Гаўрыіла Мазырскага. Аднекуль ззаду яго выплываў слабы святлацень, і я не мог зразумець, адкуль ён мог з'явіцца. Калі ж мы выключылі ліхтары, сцяна была зноў цёмнай і нябачнай.

— Цуд, — шэпча затоена Мікола, — ігра святла, ігра настрою. Вылеплю абавязкова я сабе такога палешука.

Калі мы падыходзім бліжэй і кратаем камяні, то адразу малюнак страчваецца. Як адыдзем, камянёў нябачна, а кідаецца ў вочы дзяружка, кудлатая барада — мяккая, шаўковая, здаецца, што яе калмаціць вецер. І вочы жывыя — аж бегаюць, пераводзіць позірк з аднаго на другое.

Хто ж аўтар гэтай работы? Ці былі на Палессі такія таленавітыя каменячосы? І што ён хацеў сказаць, аб чым паведаміць рупіўся нам, нашчадкам?

Засталося прайсці ў сярэднія, апошнія, «дзверы». Увайшлі ў доўгі калідор, пачалі спускацца зноў па прыступках.

— Пачакайце, — крануўся пляча нашай спадарожніцы Мікола, — павярніце ліхтары ўправа, а самі гляньце ўніз.

У цемры нешта зіхацела слабым святлом. Яно вырывалася як з-пад зямлі.

— Так толькі можа зіхацець золата.

Пушкарчук не жартаваў. Але тут жа хіхікнуў, зрабіўшы сур'ёзны выгляд. Знайшоў месца дзе жартаваць.

— Прызнаюся, Мікітавіч, мне не падабаецца тваё хіхіканне, — не вытрымліваю я.

— А мне не падабаецца тваё, — адказвае тым жа тонам сябра.

— Мне не да смеху.

— І мне таксама.

— Ну, хопіць вам, — укліньваецца дзяўчына і дакранаецца да нас абодвух, сціскае нашы рукі. — Разбяромся пасля, хто рагатаў. Цяпер што рабіць будзем? Ідзём уніз?

— Ідзём, — вырываецца наперад Мікола, асцярожна тэпае па прыступках. — Больш дзвярэй не будзе. Тут мы і скончым наша падарожжа.

Мы спускаемся на невялічкую пляцоўку, аглядваемся. Высвечваем усе куткі новага скляпення. Ён не памыліўся — у скрыні, зробленай з невядомага нержавейнага металу, зіхацелі бліскучыя каштоўнасці.

— Божачка, што гэта? — выдыхае Наташа і не можа адарваць вачэй ад такога багацця. — Во, гэта златнік, а во сярэбранік, грыўня — рубель — кіеўскі тып, палова наўгародскай грыўні — палціна... А то работы скіфскіх майстроў. Антон, не зявай, зрабі здымак гэтага грабеньчыка, старога скіфа і вось гэтага трохгаловага льва.

Яна ставіць на вечка кожную работу. Свецім з усіх ліхтароў. Я націскаю на спускавую кнопку «Зеніта». Адну работу зняў, другую, дзесятую... Я так захапіўся, што не адчуваў ні часу, ні прасторы...

— Вада! — закрычала дзяўчына, глянула сабе пад ногі. — Яна прыбывае! Уцякайма!

Першай дабегла да прыступак, чакае нас. Вада даходзіла да калень — халодная, ледзяная. Выбраўшыся з яе, сталі на сухія прыступкі. Дзіўна — як толькі мы выйшлі з вады, яна пачала прападаць.

— Тут сакрэт нейкі ёсць, — выказвае здагадку Наташа, — продкі нашы не хочуць аддаваць свае багацці. Але нам сёння неабходна заявіць у міліцыю, што мы знайшлі такое багацце. Я ўхапіла тры манеткі старажытнай Русі з сімвалам князя Уладзіміра. Каб не палічылі нас за ідыётаў, мы пакажам доказы... Я думаю, што мы не парушым закон, ці не так?

— Так, каралева наша, не парушым, — Мікола кладзе руку на плячо дзяўчыне і глядзіць у куток, дзе зіхаціць, пераліваецца таямнічае святло.

Там, дзе палае прыцягальнае позірку золата, нехта засмяяўся — доўга і здзекліва, як бы пасміхаўся з нас, а мо і радаваўся, што не ўзялі мы золата.

Наташа ўздрыгнула ўсім целам, сцялася, са страхам паглядзела ў той бок:

— Хто гэта?!

— Не хвалюйся, гэта не галюцынацыі, — супакойвае яе Мікола, — то ігра гукаў. Яны далятаюць з глыбіні скляпення, якое мы не можам даследаваць. Тут, мусіць, яшчэ адно падзямелле — пад каралеўскім замкам. Тут ужо тэхніка патрэбна. Але то зробяць без нас. А цяпер усё. Загуляліся мы тут.

— Пайшлі назад, — згаджаецца хуценька наша спадарожніца, цягне мяне за рукаў.

Мы зноў падняліся на тое раздарожжа, адкуль і пачыналі спускацца па апошніх сходнях.

— Кнігу ўзяць не забудзьце, — падказвае Мікола.

Мы з Наташай пайшлі ў грот, каб узяць каля ўвахода «Суцяшальнік». Але — дзіва! — на месцы яго не аказалася.

— Нехта ўзяў, — скаланулася ад страху дзяўчына.

— Хто ж мог узяць? — не паверыў Мікола. — Мо ты яго не брала? Паглядзі на ранейшым месцы.

Яна, зразумела, баялася ўжо ісці зноў у той кут, дзе ляжала кніга. Пайшоў я. І сапраўды — кніга ляжала на тым жа месцы, што і да гэтага. Я загарнуў яе ў мяшок і тут жа вярнуўся — на шкілеты стараўся не глядзець.

— Я ж добра памятаю, што паклала яе сюды, — недаўменна апраўдвалася дзяўчына, не разумела, чаму так здарылася.

— Ведаю. І я бачыў.

Мы заспяшаліся да выхаду.

Стары схадзіў у «арсенал» і нёс адтуль сваю ношу — меч, шлем з забралам, салад, каску-марыён. Ён ужо прыкідваў, дзе і якое месца яны зоймуць у яго будучым музеі.

Падняліся па прыступках хутка. Дзед пакруціў кола — і перад намі лёг масток.

Мы праходзім адну шчыліну, праціскаемся ў другую, нагінкам ідзём па доўгім калідоры. За апошняй завалай перад намі цэдзіцца дзённае чаканае святло.

— Ура! — крычыць радасна Наташа, ускідвае рукі над галавой. — Ура! Мы на свабодзе!

Яна абдымае і цалуе мяне, як быццам мы сапраўды былі ў палоне падзямелля і з вялікімі цяжкасцямі выр валіся на волю.

Мы падаем на пажоўклую траву і не можам надыхацца свежым паветрам — жмурымся ад сонца, радуемся яму.

Ляжым доўга і нерухома. Наташа штурхае мяне пад бок, шэптам просіць:

— Антон, дай я пагляджу пры сонечным святле «Суцяшальнік». Не церпіцца пачытаць.

— Вазьмі сама, на мяшок.

Яна разгортвае яго, і з грудзей вырываецца крык адчаю:

— А-ааа!.. Анто-оон, зірні-іі!..

У мяшку замест кнігі ляжала старая, абшарпаная цагліна.

— Ты не кнігу, ты цагліну паклаў у мяшок. — Наташа ў роспачы, на вачах слёзы.

— Ды я добра намятаю, што клаў туды кнігу, — апраўдваюся я, і мяне пачынаюць біць запозненыя дрыжыкі — звар'яцець можна ад такога.

Дзед разгарнуў свой мяшок і маўкліва паказаў, што было ў ім. Замест мяча і даспехаў мы ўбачылі каменні.

Наташа раскрыла далонь, і на нашых вачах манеткі з залатыхператварыліся ў медзякі. Яна маўкліва раздала нам па медзяку.

Пушкарчук няўцямна глядзіць на свае мокрыя чаравікі, на каменне, круціць галавой:

— Нічога, браточкі, я ў гэтым не разумею... Ведаю толькі, хто хіхікаў, з нас падсмейваўся. То памяць нашых продкаў...

— Ну ты, дзед, і даеш, — рагачу я з адкрыцця, — разумныя рэчы ты гаворыш, у міністры культуры табе трэба падавацца... Кіраваць дзяржавай табе трэба. Мецэнат! Я, каб ведаў... Я...

Наташа нахіляецца нада мною, дае біклажку з вадой. Лінула на твар, паднесла да губ. Я прагна прыклаўся да рыльца і выпіў амаль да дна.

— Штэ з табой? Звар'яцеў?

— А што?

— Панесла цябе...

Я зняможана прымружыў вочы.

13

— Антон, а слайды? Цікава, ці атрымаліся слайды? — спахапілася Наташа і ўхапіла Антона за руку — ён адчуў, як кончыкі пальцаў выпраменьваюць ледзь чутнае паколванне. — Што скажа аб'ектыў?

— Наўрад ці, — сумна гаворыць Антон і ніяк не можа ачомацца ад здранцвення, якое знячэўку апанавала ім — як такое можа быць: трымаць у руках «Суцяшальнік», дзіду і шлем, вынесці іх на божы свет — і не ўбачыць нічога...

Чаму не хоча падзямелле аддаваць свае таямніцы і багацце? А можа, з нячыстымі душамі пайшлі туды людзі, таму і не маюць яны права сваімі рукамі дакранацца да душ продкаў? Але дзе мяжа паміж дабром і злом? І што такое — дабро і зло?

«Так, я — забойца, — думаў Зялёнка, — забіў паважанага ў горадзе чалавека, якога абраў народ на такую пасаду. І таму той жа народ не ўпаўнаважваў мяне адбіраць у яго жыццё. Ну, са мной усё ясна. Пушкарчук быў на вайне, забіваў ворага, а вораг — бацькі дзяцей і сыны мацярок. Хіба і гэта грэх? Але ж продкі самі баранілі

радзіму ад нашэсця татар, тэўтонскага ордэна, не шкадавалі жыццяў — сваіх і чужых. Колькі касцей прыняла на сябе зямля! Л Наташа — чым яна магла правінавацііцца перад людзьмі, перад продкамі? Сваім каханнем, сваім горам? Хіба што забіла ў сабе другое жыццё?..»

У яго раскалвалася ад думак галава — хто паможа разабрацца, хто параіць, падкажа? Толькі Валер, толькі з яго чыстай душой можна дакапацца да прычыны. І таму трэба неадкладна да яго. Аднаму. Не браць з сабою дзеда і Наташу, не трэба...

— А давай паспрабуем, Антон, га? — глядзіць на яго Наташа. Паколванне прапала, толькі мяккая пяшчота разліваецца па целе — прыемная і жаданая, аж гулка бухкае ў скроні. — Я веру, што атрымаецца.

— Мікола Мікітавіч, дзед наш, натхніцель, а ты верыш?

Ён глядзіць у адну кропку і няўцямна ўсміхаецца. У яго такі выгляд, быццам падмануты ў нечым вялікім і значным, і з-за таго паламаліся ў яго планы. Усмешка як бы кіслая і бязрадасная. Паціскае плячыма і круціць галавой — не ведаю, нічога не ведаю...

Падобны дзед на малое дзіця, якому абяцалі дарагую цацку, паказалі, далі ў рукі і адабралі. Павекі з белымі вейкамі міргаюць, быццам у вочы папаў пясок, і з грудзей вырываецца журботны ўздых.

— Антончык, давай паспрабуем, — лашчыцца кацянём спадарожніца, гладзіць і гладзіць маю руку, зазірае ў вочы, ужо не хаваючыся ад дзеда — выказвае сваю пяшчоту і даверлівасць. А можа, і іскрынкі кахання, хто ведае.

Не-не, Антон рэаліст, ён не хоча, каб яго пакахала дзяўчына. Навошта ёй тое? Ды і ведае, што такога быць не можа. Бо колькі разоў чуў ад яе роспачнае прызнанне: «І ўсё роўна я яго буду кахаць усё жыццё!» Голас надрыўны, як свайму сэрцу гаварыла. «Ну і дурная», — гаворыць Антон без крыўды і рэўнасці. «Няхай дурная, няхай, але што я зраблю, калі не змагу яго забыць...»

Антон ведаў, што ў яе ніколі не народзіцца на Баброва злосць і крыўда. Яна ў сваіх вачах вы малявала яго богам, пакутнікам, звыш-ідэалам, хаця ў той жа час гаворыць пра яго подласць і чэрствасць.

Стараўся выцягнуць яе з цянётаў, думаў, што і ўдавалася, што ў яе мякчэла сэрца, шчыра верыў, што лечыць яе...

— Добра, пайшлі рыхтаваць раствор, — згаджаецца Зялёнка, падымаецца з зямлі, — але праяўляць можна будзе толькі праз суткі.

— А чаму не сёння?

Я пачынаю злавацца на Наташу, ну, як першакласніца гаворыць, як быццам вымольвае цукерачку.

— Такія ўмовы праяўкі. Так напісана ў інструкцыі.

І вы мне будзеце кіпяціць ваду, вымяраць тэмпературу, бо там гэта іграе галоўную ролю... Ідзём?

— Пайшлі, ура! — падхопліваецца следам, бярэ падпашкі дзеда, смяецца, матляе галавой, і косы развяваюцца па ветры — дзяўчо, неразумнае дзяўчо, у якога энергіі — праз край, радасці — праз край і горкага — таксама з коптурам.

Антон заўважае ў ёй нейкія перамены. Нават тварам змянілася. У вачах больш прамяністыя іскрынкі, голас іншы — больш пявучы і спакойны. Не тоіцца ад старога — што думае, тое і гаворыць. І Мікалай Мікітавіч стаў іншы. Перастаў гаварыць, толькі няўцямна ўсміхаецца...

І тады да Зялёнкі прыходзіць прасвятленне: «То, пэўна ж, і я стаў другім... Чым жа яно, падзямелле, так падзейнічала на нас? Горшымі мы сталі ці лепшымі?»

Схамянуўся, паляпаў па кішэні — ці цэлыя хаця плёнкі, мо і яныператварыліся ў попел? Здаецца, на месцы. Каб пераканацца, ён адкрыў адну чырвоную кардонную каробачку, з яе выняў бляшаную круглую з накрыўкай трубачку. Адкаркаваў, з касеты выглядваў канец зялёнай плёнкі. З палёгкай уздыхнуў: «Слава Богу, значыць, усё пры нас...»

— Ідзём хутчэй! — загадаў Зялёнка, павярнуўся і першым пайшоў у бок майстэрні.

За ім адразу ж рушылі яго сябры.

...толькі праз суткі яны пачалі праяўляць «Орвахром».

Праявілі ў першым растворы, у другім. А потым пачалі падсвечваць з абодвух бакоў вынятую з бачка на катушцы плёнку — па мінуце, лямпай у пяцьсот ват. А пасля ўжо апусцілі ў трэці раствор...

З нецярпеннем чакаў Антон, калі пройдзе пяць хвілін трэцяй праяўкі — у ёй ужо можна было падгледзець, што засведчыў аб'ектыў. Наташы з дзедам не казаў, што можна даведацца адразу ж. Кусаў губу, глядзеў нецярпліва на гадзіннік. Адлічваў разам з ім секунды — раз-два, раз-два... У такт сэрца — бу-туп, бутуп... Дакрануўся даланёй да лба, адчуў, што ён мокры. Салёныя кроплі пачыналі пячы, сцякалі па шчоках.

Чатыры мінуты. Пайшла пятая...

Рукі дрыжаць, як не калоцяцца, Антон бярэ кончык плёнкі і адгінае ад спіралі. Падняў на святло, на лямпу.

Спачатку нічога не разумеў — дзе гэта ён здымаў голых дзяўчат? Не было такога... Калі ж прыгледзеўся пільней, яго ахапіла нервовая дрыготка — дзяўчаты былі ў кайданах, на руках і нагах ланцугі...

«Няўжо гэта грот?! Дык чаму ж аб'ектыў кажа няпраўду — там жа былі толькі шкілеты...»

Хлопцы былі таксама павязаныя ланцугамі.

Крык вырваўся з яго губ.

— Што такое? Што з табой, Антон? — да яго падбегла Наташа, абхапіла галаву — яго курчыла ад невядомага болю. — Што з табой?!

— Там, на плёнцы... Там жывыя... дзяўчаты...

— Якія дзяўчаты?

— У гроце. Яны ў ланцугах.

Мікола падхапіў Антона, пасадзіў у крэсла. Наташа зірнула на плёнку і сама жахнулася:

— Мікітавіч, зірніце! Божачка, што гэта такое? Мы ж іх такімі не бачылі. Што рабіць з плёнкай, каб не сапсавалася?

— Пад кран. Пад халодную ваду. Цяпер не сапсуецца.

Антон абхапіў галаву рукамі, сціснуў яе. Яму чулася, як нехта хіхікаў побач, як здзекаваўся. Далёкімі раскатамі грому прагучэла пытанне: «А не пашкадуеш, ганарлівец?» Яму здалося, што святы Айцец падміргнуў яму — хітра і весела.

«Не, Айцец, трэці цуд я на дурноцтва не аддам, не дачакаешся!..»

Калі высахлі плёнкі, Антон папрасіў Наташу, каб яна разрэзала іх на асобныя кадры. Сам жа прыхінуў да сцяны вялізны белы падрамнік. Маўчалі. Святло эпідыяскопа высвеціла першы кадр... Ён уразіў і ашаламіў.

Дзяўчына, закаваная ў ланцугі, была вельмі прыгожай. Маладыя дзявочыя грудзі ўпіраліся ў ланцуг, і здавалася, вось-вось разарвуць яго. На твары дрыгавічанкі адбіліся адчай і пакуты. Яна нешта крычала перакрыўленым ротам — ці не пракляцці слала каралю Сігізмунду?

Наташа не вытрымала, пакінула крэсла і выбегла ў калідорчык. Не магла глядзець на такое, заплакала. Антон выключыў апарат — і сам баяўся далей глядзець. Дзед падпёр падбароддзе кулакамі, глядзеў некуды ў падлогу. Рэдзенькія попельныя валасы звісалі на лоб...

За акном, здавалася, ляснуў пярун — задрыжэлі трывожна ў вокнах шыбы.

14

Усю ноч Валеру снілася Наташа.

Быццам бягуць яны па зялёным, у духмяных кветках, лузе, узяўшыся за рукі. Ён абганяе яе, злуецца нават, што адстае. Таму прыспешвае: «Хутчэй, бо ўзыдзе сонца!» — «Калі ўзыдзе, то не ўцячэ, — смяецца дзяўчына, даганяючы, мацней сціскае руку, — мы яго

сустрэнем». Ён не згаджаецца, крыўдуе, што не разумее яго: «Сустракаць трэба спяшацца. А што ўцякае, тое не дагоніш!» — «Дзівак ты, Валерка, ці, можа, усе паэты дзівакі — ім тое Богам дадзена?»— «Не ведаю,— круціць ён галавой,— бо я не паэт, я просты чалавек і во нават бегаць навучыўся». — «А ты хіба не хадзіў?»— здзіўляецца яна, смяецца, нахілілася над высокімі і вялізнымі рамонкамі — пачала рваць іх у букет.

Сукенка ў яе блакітная, як і неба. Таму яна і зліваецца з небам, раствараецца ў ім. Толькі вочы і белыя ва ўсмешцы зубы выдзяляюцца. Яму хочацца дакрануцца да яе кос...

Прачнуўся ад нейкай трывогі. Што творыцца з Наташай? Яна шукае збавення ад сваіх пакут і не можа знайсці...

Было ціха. У прачыненае акно з вуліцы даляталі галасы — нечы вокліч, стук малатка, плач немаўляці — не так даўно Марына нарадзіла дачку. Марына працуе ў Палацы культуры. Некалькі разоў заходзіла да іх у хату — вясёлая, прыветная. З доўгай касой праз плячо. А вочы агністыя, жывыя, гляне — як агнём апячэ.

У сенцах нехта загрукаў. Потым, чуваць было, адчыніліся дзверы хаты.

— Дома Валер? Нікуды не збег?

— Няма мяне! — крыкнуў Арлоў, пазнаўшы голас Антона Зялёнкі. — Да дзевак пабег!

— Ну і ладна. Я і сам пасяджу.

— Правільна, Антон. Пасядзі, я хуценька. Драмануў пасля абеду...

— Добра. Я тут кнігі пагартаю... — далятае з залы, і чуваць, як слаба піснула крэсла — госць сеў каля кніжнай шафы.

Валер апрануўся, насунуў шкарпэткі, якія сам вязаў з белых шарсцяных нітак. Пракаціўся на кухню, спаласнуў рукі і твар. І бадзёрым хлопцам выкаціўся да Зялёнкі.

Парукаліся. Валер адразу прыкмеціў, што вясёлы голас сябра не зусім тасуецца да яго ўнутранага стану — штосьці цяжкае ляжыць у таго на душы. І тое мучыла яго, не давала супакаення. Па вачах усё бачна, як бы не хазаў свой настрой.

— Як маешся, Валер?

— Нічога, змагаемся. Вось сон цікавы толькі што бачыў: Наташа прыснілася. І ў кветках луг. А яна рамонкі збірае. Вялізныя такія, прыгожыя. Смяецца, а ў мяне нейкая трывога расце. За яе, за цябе...

— Кветкі — гэта добра. Кветкі — гэта радасць. Слухай, Валерка, а ты б хацеў прабегчыся па тых кветках, па роснай траве?

Не падобна было, каб Антон здзекаваўся. Не з тых ён людзей. Але пытанне прагучала. Ці не хочацца прабегчыся па траве?.. Але што з таго, калі хочацца? Хіба ж Антон Бог, каб падарыць яму ногі? Каб такое здарылася...

Валеру стала балюча ад пытання, адвярнуўся да

акна і падумаў, чаму не прылятае Чыр. Ужо трэці дзень не чуваць яго.

— Прабач, Валерка, за дурацкае пытанне. Нешта набегла, сам не ведаю чаму. Як Чыр, прылятае?

Арлоў ад'ехаў ад акна, праехаў па хаце:

— Трэці дзень чакаю, а яго няма. Каб чаго не здарылася.

— Ды што з ім здарыцца? Ён у цябе разумны.

— Ён-то разумны, а бываюць людзі дурнымі. Пастку якую падстрояць. Альбо дзеля забавы з мялкашкі пульнуць... Ва ўсяго жывога ёсць ворагі.

— Так, ёсць. І нікуды ад гэтага не падзецца.

Антон уздыхнуў — цяжка-цяжка, не могучы вызваліцца ад гнятлівага цяжару. Упарты Антон у жыцці. З-за таго і перападала не раз на абаранкі. Пра тое ведаў Арлоў. Як і ведаў пра тое, што Пушкарчук ваюе, змагаецца з гарадскімі ўладамі. Што яму цяпер лягчэй, бо замест Ганчарэнкі старшынёй выканкома абралі новага чалавека...

— Валер, а адкажы мне на такое пытанне — што такое: дабро і зло?

Сябар прыжмурыў вочы, схаваў іх за празрыстымі шкельцамі:

— Ого, браце, куды цябе занесла? Здарылася што?

— Душа бунтуе. Не бачу наперадзе дарогі. Пасля таго як пабыў там, пабачыў, якія таленавітыя былі людзі. І жорсткія.

«Ногі ёсць — дарогі не бачыць, у мяне ног няма — і Чыр паказаў мне яе. Значыць, сапраўды нешта адбылося ў яго жыцці, раз такі разбіты... Выгаварыцца прыйшоў, раз адзін. Смыліць, мусіць, душа — паратунку просіць. Што ж, давай, мне такое пачуццё вядома...»

— Дарогі не бачыш... Ці стаміўся ісці па ёй?

— І тое, і другое.

Антон узбуджаны, кусае губы. Пацірае шчаку — ад хвалявання.

— Ты чуў калі пра залатое правіла маралі і этыкі? — папытаўся ціха Арлоў, прачыняючы акно — верыў, што вось-вось павінен з'явіцца Чыр.

— Даўно, і не памятаю ўжо.

Валер з'ездзіў на кухню, адламаў лусту хлеба, прыехаў назад і паклаў на падваконпе. Не крышыў — мог і не прыляцець, ён разваліўся ў калясцы, паглядаў у столь, задраўшы востры падбародак.

— Што ж, давай пагаворым пра тое правіла. Першыя ўпамінкі пра яго адносяцца да шостага-пятага стагоддзяў да нашай эры. У вядомым помніку старажытнаіндыйскай культуры «Махабхарата» легендарны носьбіт мудрасці Бхішма перад смерцю даваў такія парады: «Тыя ўчынкі другіх, якіх чалавек не жадае для сябе, што самому непрыемныя, няхай не робіць іншым людзям. Хто для сябе хоча жыцця, як можа забіць другога? Трэба паклапаціцца для іншых пра тое, што для сябе жадаеш».

— Цікава, — пахітаў галавой Антон.

— Правільна, — падтакнуў паэт, ён у гэты момант быў сур'ёзны і заклапочаны. Напручваў памяць, каб данесці да мастака ўсё дакладна і правільна. — Трэба заўважыць, што Юдхіштхіра, да якога і звернута гэтае павучанне, падвяргае яго сумненню і прыходзіць да вываду, што ніякіх агульных для ўсіх правіл паводзін не існуе. Скажу ад сябе, што крытыка такога роду, мабыць, апраўдана.

— І я так думаю. Няма нічога пэўнага і застылага. Жыццё ўносіць свае карэктывы без нашага хацення.

Арлоў махнуў рукой, як адсек:

— Вось іменна. У вучэнні Канфуцыя таго ж часу залатое правіла разглядаецца як аснова паводзін. Цзыгунь сказаў: «Ці ёсць слова, якім можна было б кіравацца ўсё сваё жыццё?» Філосаф даволі коратка адказаў: «Гэта — спагадлівасць. Чаго сам не жадаеш, таго не рабі іншым».

— Але ж то старажытнаіўдзейскія крыніцы. Што ж наша, еўрапейская культура?

— Яна не выключэнне. Тое правіла прыпісваецца двум з сямі грэчаскіх мудрацоў — Піттаку і Фалесу. На пытанне: «Якім чынам нам пражыць найлепш і найсправядлівей?» Фалес гэтак жа коратка адказаў: «Калі мы самі не будзем рабіць таго, што крытыкуем у іншых». А возьмем часы рымлян. Залатое правіла маральнасці мы сустрэнем у «Адысеі» Гамера, у «Гісторыі» Герадота і шмат у якіх іншых крыніцах.

— Ты, я бачу, добра арыентуешся ў старажытных крыніцах, — падняўся з крэсла мастак, заклаў рукі за спіну, паглядаў за акно — там свяціла сонца і высвечвала ярка-жоўты яблык, які адзінотна вісеў на яблыні. — Мо і Біблію чытаў?

— Вось іменна я Біблію і паклічу на дапамогу, я яе прачытаў ад першага да апошняга радка.

— Дзе ж ты ўзяў яе — у кнігарні не прадаецца? — цікавіцца сябар.

— Бабулька дала, веруючая, Агрыпіна. Што праз дарогу жыве. Як мне было цяжка, мне і падарыла. На, кажа, унучак, пачытай, мо

знойдзеш суцяшэнне сваёй душы ў гэтай святой кнізе. Дадала, смеючыся, што тыя, хто кляне і высмейвае Бога, нічому добраму не навучаць, наадварот, ачэрсцвяць душу. Спачатку я чытаў яе проста так, недаверліва і няўважліва — праз пятаедзесятае. Тут школа сапраўды добра нашкодзіла. А потым пачаў рабіць такія-сякія выпіскі. Да нашай размовы магу дадаць, што ў ёй залатое правіла ўпамінаецца некалькі разоў. Я налічыў — тройчы. У Евангеллі ад Лукі частка шостая верш трыццаць першы — «І як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так і вы паступайце з імі». Але найбольш дасканалая фармуліроўка ў Евангеллі ад Матфея — частка сёмая верш дванаццаты: «Такім чынам ва ўсім, як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так паступайце і вы з імі; бо ў гэтым закон і прарокі».

— Валер, а скажы, калі ласка, чаму ў нашых атэістаў няма гэтай самай Біблii? Яны ж прапаведуюць атэізм, а ніводнага разу не бачылі той кнігі і ў вочы. Ці не парадокс гэта? Царкоўнікі вывучаюць дасканала творы нашых філосафаў і крытыкаў і любому нашаму атэісту могуць даказаць праваты свайго вучэння. Атэіст жа запінаецца на трэцім-чацвёртым сказе...

— Не ведаю. Думаю, што нехта баіцца, каб атэісты, начытаўшыся Біблii, самі не паверылі ў Бога. Як я.

Антон засмяяўся, зноў пачаў хадзіць па пакоі. А перад вачыма чамусьці паўставалі тыя каляровыя фрэскі, што адбіліся на слайдах. Дзед закрыўся ў сваёй майстэрні і начамі капіраваў сюжэты царкоўнага жыцця. У руках святога прарока Мазырскага была Біблія. Можа, яна і была адгорнута на той старонцы, дзе было залатое правіла — рабі толькі добрае людзям?

— Аналіз зместу залатога правіла з'яўляецца адной з прыкметных тэм у гісторыі этычнай думкі, — працягваў далей Валер. — У антычнай этыцы можна сустрэць часта разважанні па пытаннях, якія па сваёй існасці вельмі блізкія да правіла, пра якое мы гаворым — хаця б, напрыклад, вядомыя разважанні Дэмакрыта, Сакрата, Платона пра тое, што лепей выкарыстаць несправядлівасць, чым здзейсніць яе. Га, як гучыць? — у шэрых вачах паэта гараць цікаўныя агеньчыкі, у голасе цікавасць да тэмы, якую распачалі, якую так уважліва вядзе мастак. — Аднак само па сабе гэтае правіла ў старажытнай этыцы ўпамінаецца рэдка і заўсёды як патрабаванне жыцейскай маралі, але не ў якасці этычнага прынцыпу. Не буду падрабязна раскрываць выказванне Фалеса, але выклікае цікавасць адно месца з «пісем да Луцылія» Сенекі, дзе ён гаворыць аб кароткіх ісцінах, якія тым не менш западаюць назаўсёды ў душу: «Што ты другім, таго ж ад іх ты чакай». Можна спаслацца і на Эпіктэта: «Чаго

не жадаеш сабе, не жадай іншым: табе не падабаецца быць рабом, не гані і іншых у рабства».

— Слушна.

— Ну а пазней малюнак мяняецца. Аўгусцін, «бацька царквы», робіць спробу ўключыць залатое правіла ў сістэму сваіх поглядаў, ён разглядае яго як прынцып натуральнай маральнасці, якой неабходна прытрымлівацца ў практычных паводзінах. Даючы настаўленні юнакам, раячы ім устрымацца «ад прыманак чрэва і горла», «ад пагарды і ўладалюбства, нават ад празмернага жадання пахвалы» — і гэтак далей, ён свае павучанні завяршае так: «У адносінах жа і ў паводзінах з людзьмі дастаткова захаваць адну гэтую народную прымаўку: нікому няхай не робяць нічога такога, чаго не жадаюць сабе». З Аўгусціна, можна сказаць, і пачынаецца традыцыя разгляду залатога правіла як асноўнага прынцыпу натуральнага права і маральнасці, якой на працягу стагоддзяў прытрымліваліся многія тэолагі і філосафы сярэдніх стагоддзяў і якую ў пэўнай меры прынялі філосафы Новага часу...

— Чыр-чыр! — у цішыню пакоя ўварваўся бадзёры і звонкі голас вераб'я: — Чыр-чыр-чыр...

— Здароў, Чыр, здароў! — абрадаваўся паэт, замітусіўся, радасна паглядзеў на Антона: «Бач, вярнуўся, вярнуўся, жэўжык!» — Зачакаліся мы цябе. Дзе лётаў, што бачыў, расказвай.

Верабей ускочыў на падваконнік, пачаў згаладала дзяўбці хлеб — аж душыўся. Быў ён абскублены, пер'е тырчэла ў розныя бакі — і яны не вытрымалі, зарагаталі. Чыр не звяртаў на іх ніякай увагі.

— Прагаладаўся?

— Чыр-ч...

Не было калі гаварыць, голад — не цётка. Трэба папаўняць растрачаныя сілы. І ён стараўся, працаваў дзюбкай і нагамі, крыльцамі памагаў.

— Відаць, дасталося бедалагу.

— Дасталося, факт.

— Ну, на чым мы з табою, браце Антон, спыніліся? — Валер пакінуў Чыра ў спакоі, ад'ехаў ад акна. — Я ніколі так не гаварыў. То я так начытаўся філасофіі.

— Спыніліся на тым, што ў жыцці трэба прытрымлівацца аднаго залатога правіла: «РАБІ ЛЮДЗЯМ ТОЕ, ШТО ЗРАБІЎ БЫ САБЕ».

— Ого! — усклікнуў паэт і ўскінуў руку, паклаў на спінку крэсла. — Во як павярнуў. Яшчэ карацей сказаў. Добра.

Верабей наеўся, заляцеў у хату і сеў на плячо Арлова. Ужо здаволіўся, толькі дзюбкай чысціў свае пёркі. А яны ўжо не звярталі на яго ўвагі, гаманілі пра сваё.

Неспакойна адчуваў сябе мастак. Позірк яго не мог ні на чым засяродзіцца. Не мог і стаяць на месцы — нешта турбавала, непакоіла, ён хмурыўся, сціскаў пальцы ў кулакі — як пагражаў некаму ўсё роўна і вось-вось гатоў быў кінуцца ў бойку. Твар у яго стаў зямлісты, стомлены.

— Табе блага? — устрывожыўся паэт, паглядзеў пільна на госця — нешта трывожнае перадалося яму. — Стаміў я цябе сваёй ерундзіцыяй?

— Не. То не хвароба.

— А што?

— Стан маёй душы. Гэта пройдзе. Валер, а ну яго, пачытай мне вершы. Я прыйшоў да цябе дзеля іх. Што такое дабро ці зло, я ведаю, на сваёй скуры адчуў. Але хацелася праверыць яшчэ раз, каб не памыліцца. Нашы думкі супадаюць. І гэта добра. Я хачу паслухаць твае вершы. Вельмі хачу. І ў мяне, прызнацца, мала часу... Паспець хачу.

— Куды?

— Потым скажу.

Мастак сеў у крэсла і адразу абмяк, звяў, як бульбоўнік пад пяшчадным сонцам. Гаварыў з цяжкасцю і вялікім намаганнем волі. Потым прымружыў вочы, прыхінуў галаву да шафы з кнігамі.

«З ім сёння творыцца нешта незразумелае, — падумаў паэт, — ніколі такім не бачыў. Цяжар на душы. Ён ад яго ніколі не вызваліцца. Сэрца яго на такія нагрузкі не разлічана...»

— Мы пазаўчора наведалі падзямелле каралеўскага замка, шмат чаго ўбачылі цікавага, — гаварыў ціха, амаль шэптам, Антон. Не расплюшчваў вачэй. Левая рука безжыццёва ляжала на каленях, правая пацірала левую грудзіну — зверху ўніз, знізу ўверх. — На тое, што выхапіў аб'ектыў «Зеніта», не можа глядзець Наташа — ёй робіцца страшна. Мы пакажам табе.

— Мне будзе вельмі цікава, — адказвае паэт і глядзіць на сябра — не падабаўся ён такім, ой як не падабаўся. Быў бы ў хаце тэлефон, выклікаў бы «хуткую дапамогу».

— Ты не звяртай на мяне ўвагі. І не думай, што мне паможа «хуткая», — апярэдзіў яго думкі мастак. Не мяняючы паставы, глыбока ўздыхнуў, як вызваліў нейкі гнёт з душы, слаба ўсміхнуўся. — Я слухаю цябе, Валер, слухаю... Прачытай мне тое, што нікому яшчэ не чытаў.

Валер нейкі момант маўчаў, глядзеў на Зялёнку, на Чыра, які сядзеў на плячы і адпачываў пасля абеду — у яго раз-пораз закрываліся плевачкай вочы.

Мастак не адрываў галавы ад шафы.
Калі тужліва стане на сэрцы,
Калі ў горадзе зробіцца цесна,
Калі няўсцерп закарціць адзіноты, —
Я да цябе прыйду, Прыпяць...

Калі радасць апячэ знячэўку,
Калі ж адчую, што знайшоў шчасце,
І калі падзяліцца ім захачу, —
То я прыйду да цябе, Прыпяць...

Калі ж па мяне бяда абрынецца,
Калі ж мяне сябры ацураюцца,
І калі апошняя дарога выпадзе, —
То я прыйду да цябе. Прыпяць...

— Добры верш. То пра мяне. Пра Наташу прачытай...

Ля нашых ног раўчук булькоча. Сказаць табе ён нешта хоча — І не ўмее...

Ён, пэўна, ад красы тваёй Нямее.

Вершы нараджаліся экспромтам. У такт рытму Арлоў пачаў махаць рукой — атрымліваўся нейкі марш. Пад гукі Марша ажывалі ногі, і ім карцела ступіць на зямлю. Паэт і не заўважыў, як ён хадзіў па пакоі, махаў рукамі і не звяртаў на Антона ўвагі. Не чуў, як спалохана пырхнуў з пляча Чыр і заляцеў на падваконнік. Словы тасаваліся адно да аднаго, знітоўваліся ў радкі, уражвалі хуткасцю свайго з'яўлення.

Да сябе склікаю я ў хату
Усіх пакрыўджаных і святых...

Ён скончыў чытаць. Хацеў крутануць рукой кола сваёй каляскі — і не знайшоў яго. Пахіснуўся, шукаючы апірышча, каб не ўпасці. Убачыў, што стаіць на зямлі, цвёрда ходзіць па падлозе — ён нават прытупнуў, каб пераканацца што на нагах. І — закрычаў. Ад радасці і страху закрычаў:

— Антон!.. Чыр! Я хаджу. Я стаю. Я магу бегаць і хадзіць. Антон, я цяпер прабягу па тым лузе, які ты мне дакляраваў! Прабягу!

Чыр напалохаўся яго крыку. Ён ніколі не чуў ад яго такіх радасных воклічаў і таму, не зразумеўшы, паляцеў у сад. Схаваўся ў густым голлі яблынь.

Валер здурнеў ад шчасця. Не верыў у яго. Нахіліўся над Антонам:

— Антон! Я хаджу! Я буду бегаць!

Рука ў мастака была халодная і нежыццёвая. Вочы не міргалі — глядзелі безуважна ў столь. На твары не было той пакутлівасці, што выпірала перад гэтым — твар свяціўся таямнічай і прыгожай чысцінёй, якая бывае толькі ў харошага чалавека, які пражыў жыццё, творачы толькі добрае, — па законах залатога правіла.

— Антон, што з табой?! — закрычаў паэт, абдымаючы сябра. — Ачніся, што здарылася?

Ён прыхінуў вуха да грудзей — сэрца не білася.

Паэт закрыў мастаку вочы і апусціўся перад ім на калені.

А потым як што падкінула яго з падлогі — выскачыў у сенцы, прабег двор, адчыніў брамку і пабег па вуліцы. Яго праводзілі здзіўленымі позіркамі суседзі. Бабка Агрыпіна перахрысцілася, гледзячы ўслед.

Тэлефонаў-аўтаматаў паблізу не было, толькі ў Палацы культуры. І ён, не раздумваючы, накіраваўся туды, пабег на другі паверх...

Здзіўленая прыгажуня Марына адхіснулася ад яго, хаваючы ў пялюшках соннае немаўля.

— Тэлефон! Тэлефон дзе ў вас? — прахрыпеў ён, аж забалела горла. — Дзе?!

— Ды вось ён перад табой, — апамяталася жанчына, спалохана гледзячы на яго.

Ён ліхаманкава набраў «02» і сказаў, што ў яго хаце памёр чалавек.

Потым пазваніў у майстэрню Пушкарчуку.

— Мікалай Мікітавіч, у мяне бяда. У нас бяда. Зялёнка памёр. У мяне ў хаце. Прыязджайце, я...

— Ты адкуль звоніш? — пачуўся здзіўлены голас у трубцы.

— З Палаца культуры. Ад Марыны.

— Як ты там апынуўся, Валер?

— Я хаджу, Мікалай Мікітавіч. Не ведаю сам, як тое адбылося.

Хлопец плакаў. Слёзы капалі па нейкія паперы, што ляжалі на стале. Марына наліла ў шклянку з графіна вады, падала яму:

— Папі, Валерка, супакойся... Прысядзь, тут ужо нічога не паробіш.

— Насядзеўся я, Марынка, ой як доўга насядзеўся. Ці не праседзеў я самае дарагое ў жыцці?

І ён успомніў, што не сказаў пра гора галоўнаму чалавеку. ён набраў нумар Наташы.

— Вось жыў чалавек — і няма яго, — пахмурнее Пушкарчук, гледзячы на свежую магілу. — Як жыў — кепска, добра, але жыў, нешта стараўся зрабіць. Нешта ўдавалася, а нешта і не. Так і ў кожнага з нас...

Наташа плача, усхліпвае, да вачэй прыціскае мокрыя кулачкі. Яе падтрымлівае Валер Арлоў, туліць да пляча. Ведае, што ёй не памогуць ніякія словы, і таму маўчыць — і ў яго ад болю сціскаецца сэрца.

Паўз іх маўкліва прайшла жанчына з белымі косамі. У яе заплаканыя вочы. На галаве чорная празрыстая касынка. Мікола прыгледзеўся да яе — не пазнаваў. Не ведаў, хто яна і кім даводзілася нябожчыку.

Жанчына паклала на магілу тры яловыя галінкі з шышкамі.

Ніхто такога не клаў, а тут... Яна пастаяла некалькі хвілін, паглядзела на бацькоў Антона, якія сядзелі каля магілы, мельгам зірканула на Пушкарчука, Наташу і Валеру. Падышла да Міколы, мерылася нешта сказаць — і не сказала, душылі слёзы.

Яна паварочваецца і хутка-хутка ідзе ад іх, схіліўшы галаву.

— Ён так многа хацеў зрабіць, — шэпча Наташа і ўпіраецца галавой у плячо Арлова.

— Ведаю, ён мне расказваў. Дзяліўся сваімі планамі, — ён туліць да сябе дзяўчыну, супакойвае.

Яны пакідаюць могілкі і ідуць да Пушкарчука: Валер вельмі хацеў паглядзець тое, што здымаў Антон.

Наташа пайшла з імі, але глядзець адмовілася. Сядзела ў калідорчыку, скрушна маўчала...

Праз дзень дзед сеў на самалёт і праз дзве гадзіны сышоў на Унукаўскім аэрадроме. Папытаўся ў міліцыянера, як даехаць да міністэрства культуры і праз пэўны час даехаў да высокага шэрага будынка.

У патрэбны аддзел ён дабіўся не скора — больш чакаў, чым ляцеў на самалёце.

— Што вам, паважаны таварыш, трэба? — запытаўся чалавек у акулярах, з кароткай падстрыжанай бародкай — сівенькай-сівенькай, хаця яму і было ледзь за сорак. — З чым прыляцелі да нас?

— Слайды хачу паказаць.

— Якія слайды? — бровы ў чалавека выгнуліся, потым зноў апусціліся над уважлівымі вачыма.

— З сабою прывёз. Здымалі ў падзямеллі. Сябра мой здымаў — Антон Зялёнка. Пахавалі яго заўчора. Можа, зацікавіць вас тое мастацтва, якое мы ўбачылі. У вас ёсць зала, дзе можна прагледзець іх?

— А як жа. Слайды ў вас? Давайце.

— Не. Ні ў чые рукі я іх не дам. Буду сам ля апарата.

— Не давяраеце? — заўсміхаўся чалавек, хмыкнуў пад нос, потым пазваніў па тэлефоне. — Віктар Герасімавіч, Бажкоў турбуе. Падрыхтуй, калі ласка, залу. Будзем глядзець слайды. Не, мастак сам будзе паказваць...

Па дарозе Бажкоў стукаў у дзверы, пытаўся, ці не жадае хто паглядзець унікальныя слайды з Палесся.

Назбіралася чалавек з трыццаць. Расселіся, чакалі, перагаворваліся.

— Будзеце самі каменціраваць? — пацікавіўся Бажкоў у палешука.

— Збольшага. А мо і разам з вамі. Бо не ведаю, што на слайдах?

— Як гэта — не ведаеце?

Успыхнула святло, шчоўкнуў апарат, і на вялізным экране паказалася дрыгавічанка ў кайданах. Па зале пракаціўся жахлівы ўздых.

— Што гэта?

— «Грот закаханых» караля Сігізмунда. І «Суцяшальнік» гэты там знайшлі, але не вынеслі з сабой.

Новы кадр, яшчэ... Жахлівае відовішча прымушала сціснуцца сэрцы. У зале стаяла напятая цішыня. Ніхто больш не пытаўся, не ўдакладняў.

Потым дэманстравалася «жывое кіно» фрэсак, дзеянні святога Спаса. Сорак два кадры і ніводзін не паўтараецца.

— Божа ж мой, то Гаўрыіл Мазырскі! Ікона толькі ўпамінаецца, але ніхто не бачыў яе. Ёй жа цаны няма... Дзе вы знялі гэта? — пацікавілася жанчына ў акулярах — голас адрывісты, зычны.

— У падзямеллі каралеўскага замка.

Кадры, кадры, кадры... Каменная скульптура. Яна таксама аказалася унікальным творам невядомага майстра. Залатыя мініяцюры скіфаў, філігранная чаканка.

— Гэта неверагодна! — закрычалі ў зале, калі ўключылі святло. — Цуд! Ці можна тое ўсё паглядзець на свае вочы?

— Можна. Але з адной толькі ўмовай, — пачаў таргавацца Мікола — дзеля таго, можна сказаць, і падаўся ён у сталіцу.

— Якой? — паглядзеў на яго хітра Бажкоў, аж рот разявіў, языком па губе правёў.

— Умова маленькая і адна. Я вам пакажу ўсё гэта па ўласныя вочы, калі вы нам дапаможаце ў горадзе пабудаваць музей.

— А хіба яго ў вас няма? — падзівіліся ўсе з недаўменнем. — За такое багацце, што знаходзіцца ў вас, можна і сто музеяў пабудаваць. Мы пастараемся памагчы вам. Ды што пастараемся, сёння ж звяжамся з абласным аддзелам культуры і скажам, што неадкладна выдзяляем неабходныя сродкі для будаўніцтва. Абяцаем.

— Тады і я сваё слова стрымаю.

— Бажкоў, неадкладна звязвайцеся з цэнтральным тэлебачаннем — сенсацыя дваццатага стагоддзя: знойдзены фрэскі невядомых майстроў, жывое кіно... Усё на каляровую плёнку. Некалькімі камерамі. Самай лепшай плёнкай зняць. Для такога выпадку звяжыся з амерыканскай фірмай — трэба «Кодак». Толькі паслухайце, як гэта ў вас атрымалася — жывыя людзі ў ланцугах. Прайшло ж столькі год?

— Мы фатаграфавалі шкілеты. А чаму атрымаліся людзі — і самі даўмецца не можам, — пацiснуў плячыма палескі мастак.

— Фантастыка! Неверагодна! Сенсацыя!

— Вось і паехалі здымаць сенсацыю. Мо і ў нас атрымаюцца на плёнцы людзі з «Грота закаханых». У дарогу! Збіраемся!

— Таварыш Пушкарчук, вы дазволіце нам пераняць слайды? Мы акуратна, не пашкодзім. Надрукуем у «Огоньке» на вокладцы — сенсацыя ёсць сенсацыя. Мы праславім ваш горад на Прыпяці на ўвесь свет.

— Пераняць можна. Толькі ў маёй прысутнасці.

— Згодны на ўсё. Калі ласка! І дзякуй вам, дарагі таварыш, што вы адшукалі такое багацце...

— Ды няма за што. Рады, што прыехаў недарэмна. Што ўсё ўбачанае — каштоўнасць.

— Цаны яму няма!

Праз тыдзень у горад Пушкарчука прыехала цэлая здымачная група Цэнтральнага тэлебачання. Тэлевізійнікі падаліся адразу да яго — ён ім даў адрас.

Таўсцяк-калабок з шыкоўнай барадой мітусіўся, даваў указанні — дзе размяшчацца, дзе што ўстанавіць.

З групай прыехаў і Бажкоў — Іпацій Лаўрэнавіч, ён нецярпліва спытаў у мастака:

— Калі пачнём? Хлопцаў я выпрасіў на чатыры дні.

— Праз тры дні і пачнём. З самай раніцы.

— Ды ты што, братка ты мой, Мікола Мікітавіч. У мяне ж сэрца разарвецца ад такога доўгага чакання. Я ўжо некалькі начэй не сплю.

Так і бачу тое, што ты паказаў, — не веру ўсё ў тое. Як сон, як казка... Не забівай мяне, Мікалай свет Мікітавіч.

Але Мікола чамусьці ўпарціўся. Быў не ў гуморы ды і шкадаваў, што растрындзеў усяму свету — не параіўся нават з Наташай і Арловым.

— Не і не, толькі паслязаўтра. І толькі раніцай, каб і людзей туды не прываблiваць. Рыхтуйце свае пражэктары, кабелі, шукайце электрыкаў...

Бажкоў абвяў, як бульба ў спёку. Барадач спытаў, што рабіць у такім выпадку. На што ён вяла махнуў рукой — у гасцініцу едзьце, размяшчайцеся, чакайце ўказанняў...

Барадач, у чырвонай замшавай куртачцы, мітусіўся па двары, як тарэадор, а тут рэціраваўся, крыкнуў:

— Гвардыя, па конях! Усім у гасцініцу. Заўтра здымаем палескія пейзажы, палескі нафтагігант — заказ прамысловага аддзела. Фальклорны ансамбль лельчыцкіх спявачак... Потым — карцінную галерэю ў Крынічным. Грот здымаем паслязаўтра. Усё, грузіцеся!

— Ёсць грузіцца! — весела адказалі хлопцы ў расхлістаных балонневых куртках з замежнымі надпісамі. Яны былі радыя, што вечар у іх будзе свабодны, а вечар яны знойдуць чым убіць — піўвары горада славіліся на ўсю краіну.

Раніцай, на трэці дзень...

Здымачная група пад'ехала да гары, куды паказаў Пушкарчук. Было намечана спусціцца ў падзямелле з некалькімі юпітэрамі. Падключыліся кабелямі да электрастанцыі. Усё было прадугледжана да драбніц — сталічныя тэлевізійнікі былі сапраўдныя зухі. Падлічылі, колькі трэба кабелю — якой даўжыні, дзе што будзе размешчана і адкуль будуць здымаць. Яшчэ ў Маскве ў Міколы распыталі падрабязна, дзе што знаходзіцца, якая адлегласць, колькі прыступак...

З хваляваннем назірала за падрыхтоўкай Наташа.

Трымалася за руку Арлова, шаптала яму:

— Я нечага баюся, Валерка.

— Чаго? Ты ж спускалася туды, чаго баяцца?

— Мне тое хіхіканне помніцца. Тады я не надала значэння. А цяпер адчуваю сябе блага — прадчуванне мяне нейкае мучыць. І Пушкарчук нешта не ў сабе — не пазнаць яго. Мусіць, і сам не рады, што закруціў такое. Па вачах бачу, што шкадуе...

— Цяпер позна ўжо адступаць. Ды і часопіс такую рэкламу даў. Добра, што хоць не ўказалі, у якім горадзе. Рынуліся б сюды дзівакі і шукальнікі скарбаў. А там жа, як ты сказала, шмат золата.

— Вельмі шмат — цэлая вялізная скрыня.

Дзед і Наташа вялі тэлевізійнікаў знаёмай дарогай. Прасунуліся ў адну разломіну, разгрэблі друз і праціснуліся ў другую. Доўга мучыўся барадач — ніяк не мог прасунуць сваё чэрава: прыйшлося кіркай для яго спецыяльна разбіваць шырэй. Смяяліся масквічы, рагатаў Пушкарчук, раіў займацца фізкультурай, а не жлукціць піва.

Вось і першае падзямелле. Мікола лёгка адшукаў тую камянюку, з якой і пачалося ўсё. Паспрабаваў кіркай падварушыць яе — не краталася з месца. Як і не высоўвалася ніколі і была злітая з астатнімі.

«Што за д'ябал, — не разумеў дзед, пачынаў злавацца на сваё няўмецтва, — мо не той камень чапаю?»

Прыгледзеўся яшчэ раз, папрасіў добра падсвяціць. Не, памылкі не было — на камяні паўчалавечы-паўзвярыны твар. Здалося толькі, што быў высунуты язык — як дражніўся.

Зноў удар кіркай — яшчэ і яшчэ...

Наташа ўздрыгнула — толькі цяпер заўважыла побач з дзедам Баброва. Праз плячо, як заўсёды, у яго вісела чорная сумка. Прарваўся, значыць, зрабіць свой сенсацыйны рэпартаж хоча. Яна шчыльней прытулілася да Арлова — як быццам баялася, што адна палавінка можа адлучыцца і стаць поруч з ім, Бабровым...

— Што такое? За чым затрымка? — насцярожыўся Бажкоў, кранууся пляча дзеда.

— Не высоўваецца камень, — роспачна адказаў мастак — не чакаў такога падвоху ад каралеўскага замка. Узмакрэў, выціраў рукавом лоб, на ім буйна блішчэлі кроплі.

— А дзе былі тыя дзверы, што падалі? — падступіўся Баброў. — Можа, іх піхнуць?

— Ды вось яны — праз чатыры выступы ад таго каменя.

Дзед пакратаў той прамавугольнік — ён хістаўся.

— Ну што, паспрабуем пакласці? — калабок павярнуўся да сваіх памочнікаў — хлопцаў у пацёртых джынсах, на азадках у кожнага быў прымацаваны амерыканскі сцяжок. Кожны насіў чорныя акуляры — як і Баброў, акурат як з таварыства сляпых.

— Кладзіце, — уздыхнуў мастак, махнуў перад носам рукой — як перахрысціўся.

Да хлопцаў далучыўся і журналіст Баброў. Плячмі ўпёрся ў сценку. З жахам глядзела на тое Наташа. У яе ўсё больш і больш сціскалася ад болю сэрца, вось-вось выскачыць з грудзей. Так і хацелася крыкнуць усім: «Апомніцеся! Навошта вы гэта робіце! Яны не пускаюць вас да сябе, не хочуць з вамі сустракацца!..»

Але было позна — сцяна рухнула і рассыпалася.

У праёміну ўдарыла зыркае святло — прама ў вочы свяціла ранішняе сонца. Перад усімі адкрылася панарама Прыпяці і далёкіх заліўных лугоў — як акінуць вокам.

А ўнізе, пад імі, двое маладых хлопцаў у камбінезонах малаткамі адбівалі ад сцяны цагліны, здзіўлена паглядалі на людзей, абрадавана прамовілі:

— Во і яшчэ прыйшлі дачнікі. Таксама цэглу для доміка здабываеце? Знутры ламаеце? Во даюць, Віцька, хітры народ пайшоў...

Дзед нічога не разумеў. Закрычала Наташа і закрыла твар рукамі.

— Ды як жа гэта, таварыш Пушкарчук? Мы ж вам паверылі, а вы дзіцячыя гульні нам устроілі. Нехарашо, нехарашо з вашага боку...

Мікола няўцямна глядзеў у светлы праём, на блакітную далячынь. І нічога не чуў, што яму казалі. На твары знерухомела дурнаватая ўсмешка... Ён укленчыў на зямлю — не трымалі ногі.

— Гэта не гульні! — закрычала Наташа. — Мы былі там, мы ўсё бачылі... І грот, і «Суцяшальнік», і скарбы скіфаў.

— Аферысты вы — «скарбы скіфаў»! — передражніў барадач. — На суд бы падаць, ведалі б тады...

Нехта ззаду зарагатаў-захіхікаў, і Наташа са страхам прыслухалася. Навастрыў зацікаўлена вуха і Бажкоў, агледзеўся.

— Добра, што не бачыць нашага сораму Зялёнка, ён не адобрыў бы, — прашаптала яна.

— Не адобрыў бы, — пагадзіўся паэт.

Дзяўчына плакала, не аціхала. Да яе, падняўшыся, падышоў дзед, па-бацькоўску прыгарнуў да сябе, прашаптаў на вуха:

— Не плач, а радуйся — скарбы цэлыя засталіся. Гэта я гарачку спароў, што ў Маскву паехаў. Продкі не хочуць, каб мы валодалі іх сакрэтамі і мастацтвам. Мы павінны сваё ствараць, яшчэ лепшае, яшчэ прыгажэйшае. Для таго і створаны чалавек.

— Добра вы сказалі, Мікалай Мікітавіч, — уздыхнула дзяўчына і, суцішаная, супакоеная, паклала галаву на грудзі старога мастака.

З запісной кніжкі мастака Антона Зялёнкі: З гімалайскай мудрасці: «Будзь смелы, не спыняйся ў дарозе, каб аплакваць памылковыя крокі мінулага. Вучацца на сваіх памылках толькі тыя, хто вырастае духам, зразумеўшы сваё ўчарашняе ўбоства».

«Чысціня і бясстрашша — першыя ўмовы духоўнага багацця. Уся сіла і ўвесь новы сэнс твайго існавання — навучыцца нічога не баяцца. Дабівайся поўнага бясстрашша. І не забудзь, што яно — не толькі адсутнасць боязі. То поўная працаздольнасць усяго арганізма, поўны спакой у атмасферы небяспекі».

«Яшчэ і яшчэ раз пакладзіце ва ўсе складкі вашай свядомасці неаднойчы сказаныя словы: «Калі сэрца вашае чыстае — ніякае зло не можа пашкодзіць вам. Перад вашай чысцінёй яно бяссільнае».

Са «Шчыгрынавай шкуры» Бальзака: «Пакуль вы маладыя, пакуль, сутыкаючыся з намі, людзі і абставіны яшчэ не ўкралі ў нас пяшчотную кветку пачуцця, свежасць думкі, высакародную чысціню, якая не дазваляе нам уступіць у здзелку са злом, — мы яскрава адчуваем свой абавязак».

«...Усявышні абдурыў мяне. Пасмяяўся, як ведаў, што ў мяне не хопіць розуму і мудрасці распарадзіцца яго дарам. Няўжо і трэцяе я патрачу на бязглуздзіцу? Я ўсё зраблю, каб таго не здарылася. Я іду да Паэта.. » Над апошнім запісам дзед, Наташа і Валер ламалі галаву, але так і не маглі даўмецца, што азначалі загадкавыя радкі.

Як не маглі зразумець, чаму святы Айцец, якога так удала напісаў Антон, раптам знік з палатна, як і не было яго там.

...паэт раніцай чакаў Чыра, каб той памог раскрыць яму дзівосную тайну.

## БРОНІК-АФГАНЕЦ

Ён скрозь сон пачуў, як рыпнулі вароты адрынкі.

Міжволі схамянуўся, навастрыў слых — як ганчак. Падалося, што нехта пераступіў парог і стаіўся. Падумаў тут жа: прымроілася ўсё, вароты мог прачыніць і вецер — забыўся накласці зашчапку.

Як ні ўглядаўся туды, уніз, да парога, нічога не прыкмеціў Зноў пачуў: нехта басанож пратэпаў па земляным таку, сцярожліва падышоў да драбіны, прыстаўленай да вышак і, крадучыся, пачаў падымацца паверх — зашамацела сена. Па прывычцы рука ліхаманкава памкнулася да аўтамата. Увесь напруціўся, бы спружына. І тут жа сарамліва абсек сябе: «Дурань! Хіба ж ты «там»?..»

— Хто тут? — папытаўся Бронік, але сам пачуў: голас у яго напяты, насцярожаны.

— То я — Надзейка, — нясмела прашаптала суседка, пэўна, раздумвала, падымацца вышэй ці не.

Ён маўчаў — не запрашаў, але і не праганяў.

Дзяўчо паднялося вышэй, стала на апошнюю перакладзінку, затоена прашаптала:

— Бронік, а ты адзін?

— Адзін...

У цемры ледзь заўважна бялеў яе твар ды свяціліся дзве маленькія кропачкі вачэй.

— Падай хіба руку.

Знайшоў і сціснуў даланю — цвёрдую, дужую. Надзейка лёгка ўскараскалася паверх, укленчыла побач. Потым хлопец пачуў, як зашамацела сукенка, як пстрыкнула запінка бюстгальтара... Да паху сена прымяшаўся яшчэ адзін — дзявочага цела, які перабіваў усё, браў верх.

Дзяўчына легла побач, прытулілася. Абдала гарачым дыханнем смагі і жадання. Потым абвіла рукамі яго шыю і ўпілася вуснамі ў яго асмяглыя губы. Яе грудзі, налітыя нерушам і маладой сілай, выпраменьвалі пахкую гарачынь. У яго адразу ледзь прыкметна закружылася галава — акурат як тады, калі падняўся ўпершыню на высокую гару Карбілан і зірнуў уніз...

Вусны былі мяккія і салёныя — як быццам плакала.

Надзейка адчайна кінулася ў вірлівую плынь, узмахвала над ім гнуткімі крыламі нейкай дзівоснай птушкі — казачнай і невядомай, узлятала ў паднябессе, потым зноўку ныралаў неспакойныя хвалі — ужо не ракі, а акіяна. І з усіх сіл намагалася пацягнуць, паклікаць за сабою і Броніка...

Яго ж нешта стрымлівала, не пускала ўзляцець разам з ёю ў блакітную вышыню. Сам не разумеў чаму — як што прывязала да зямлі. Было соладка і прыемна ад таго, што адчуваў сваім целам Надзейку, і яго пакрысе пачынала біць дрыготка. Чуў, як білася, выскаквала з грудзей дзявочае сэрца, але загарэцца так, як яна, не мог — палала ўжо ўся. Ад галавы да ног.

— Ты што, Бронік, як нежывы сядно... — шаптала на вуха, лашчылася, урастала ў яго, злівалася з ім, губляючы сябе — сваю душу і памяць, кончыкамі пальцаў гладзіла яго валасы, — я так жадала прыйсці да цябе. Баялася вельмі, а вось сёння рашылася. Падумала: або прагоніш, або... Я ніколі не была вось так — з хлопцам. Ты першы...

— Навошта ж так, Надзейка?

— Як — так? А як трэба, як? Навучы, бо я не ўмею... Я прыйшла да цябе, чуеш? Сама прыйшла. Бо я так хацела. Ты паклікаў, сам не ведаючы пра тое. Я заснула ўжо, аж ты прысніўся, кажаш: «Я чакаю цябе, Надзейка...» Дзе ты? Ты далёка ад мяне, чаму?

— Не ведаю.

— Ты ж да арміі цалаваў мяне. Не помніш хіба?

— Помню.

— Тады ж і перавярнуў усё ў маім жыцці. Я дні і ночы лічыла, калі ты вернешся. І вось я побач з табою...

Церпка патыхала маладым сенам. Яно трымала водар густога надпрыпяцкага разнатраўя — душыцы, канюшыны, медуніцы... Ведаў Бронік, што там падмешаны яшчэ і нукліды — цэзій, стронцый, пра якія ніколі не чулі раней вяскоўцы. Яны, дарункі Чарнобыля, не мелі ні паху, ні колеру. Былі нябачныя, але смяротныя.

— Хораша тут у цябе, Бронік. Любіш спаць на сене?

Яна ляжала на спіне, але павярнула да яго твар. Шаптала на вуха.

— Ага...

Яна ўжо амаль ацíхла, гаварыла спагадліва, спакойна. Здзіўлена была толькі холаднасцю і маўклівасцю хлопца. Не адсоўвалася, не крыўдзілася, што ніяк не змагла растапіць лёд яго раўнадушша. Жаноцкім чуццём ведала, што нечаканасцю сваёй напалохала хлопца.

А Броніка пачала ўсё больш і больш біць дрыготка, балюча ціснула нешта на галаву — бы хто забіваў у скроні цвікі, ён ведаў, што тое было. Сваю ліхаманку ён знайшоў там, у афганскіх гарах, калі круглыя суткі, гадзіна за гадзінай, секунда за секундай жыў напружаннем і чаканнем, што ў яго вось-вось увап'ецца душманская куля...

Ён чуў, як яна ціўкнула над яго галавой...

Бронік Вербаў, гвардыі радавы, кіраваўся да сваёй роднай вёскі Рудзенька Крочыў павольна, накульгваючы на правую нагу — яшчэ не зажыла пасля апошняга ранення. Спыняўся, глядзеў у празрысты блакіт неба. Яно было не такім, як там, у Афганістане, — і паветра іншае, і воблакі.

Росту хлопец невысокага, каржакаваты, дужы. У першыя дні, як прызваўся, старшына Варапаеў, паціснуўшы яму руку, сказаў:

— Ад работы не ўцякаў, адразу відаць.

Годнасць салдата старшына вызначаў па поціску рукі.

Вось яму яшчэ прайсці трошкі, і перад вачыма адкрыецца яго Рудзенька — невялічкая вёсачка, што цягнулася адной вуліцай па беразе Прыляці.

Салдат спыніўся, паглядзеў наўкола. Малінавае сонца, бы сланечнік у пекным росквіце, дакранулася краёчкам да блакітнага брыжыка зарэчнага лесу.

У Рудзеньку ходзіць аўтобус. Два разы на дзень — раніцай і вечарам. Але Бронік спазніўся на вячэрні і таму выехаў за горад — мусіў лавіць папутку. Падвозіў яго пажылы вадзіцель з васпаватым тварам. Зірнуў на ўзнагароду, пацікавіўся:

— Там заслужыў?

Бронік кіўнуў галавой.

— Пляменніка майго тыдзень назад прывезлі... у цынкавай труне, — у вадзіцеля аж здрыгануўся голас.

Пад мокрай майкай — не ападала яшчэ духата — трымаўся халадок, бы хто паклаў туды лядзяш. У грудзях дзярката засеў даўкі камяк.

Хваляванне ад хуткай сустрэчы з роднымі і вёскай нарастала з кожным крокам.

На душы ў той жа час было трывожна і неспакойна — дзесьці побач стаілася тая пачвара, якая вылецела з Чарнобыля і якая так нечакана ўварвалася ў душы людзей. Яна, нябачная смерць, усюды — у лісцях дрэў, у раслінах, у зямлі і вадзе...

Пісала маці і сястра Волька, расказвалі коратка пра тыя страшныя дні, але ўсяе праўды не паведамлялі — ці няможна было, ці яго трывожыць не хацелі. Не гаварыла тады нічога і радыё, умоўчвала, а потым пра страшную бяду сказалі, што то была проста тэхнічная аварыя... Праясніла зарубежная радыёстанцыя, якая назвала ўсё сваім імем — адбылася цяжкая і жудасная катастрофа, якую ўсімі сіламі ўтойваюць перад народам кіраўнікі краіны. І тады ён адчуў: кепска, вельмі кепска палешукам...

«Як вайну, сынок, паражылі». — напісала маці ў адным пісьме — пазней і пацвердзіла яго здагадкі і думкі, што дасталося людзям пад завязку: нездарма ж пра чорны боль Палесся, украінскага і беларускага, даведаліся людзі ўсёй зямлі...

Тады ён акурат з баявога задання вярнуўся. Параніла ў нагу. Асколкам чырканула. Боль у душы ўзмацніўся — сам жа хадзіў побач са смерцю, а ў вёсцы тая смерць ледзьве не ўсіх пад крыло ўзяла, сваё чорнае джала пусціла па людскіх дварах і хатах; атрута тая павольна цячэ па венах — аж пакуль не дойдзе да самага сэрца.

А неўзабаве ён зноў удзельнічаў у баі. Лепшы сябар яго, мазыранін Віцька Міцура — разам прызываліся — трапіў у палон да душманаў. Бронік бачыў паперадзе сябе, як ён упаў тварам у пясок, спрабаваў падняцца — і не здолеў. Бронік, як мог. адбіваўся ад «духаў», ашчаджаў патроны, чакаў з сябрамі падмацаванне, але яго не было — і ўсё рашылі секунды. Верталёт прывёз хлопцаў тады, як бой скончыўся, як Віцька трапіў у рукі ворага...

Адразу рушылі ў новы бой. Ведалі, што далёка адысці не маглі, што могуць адбіць і выратаваць хлопца.

Як скрозь зямлю праваліліся — ні слядоў, ні голасу.

Раніцай, калі мыліся, нехта сказаў:

— Бронік, а ты ўвесь белы...

Узышоў на пагорак, спыніўся. І адразу ёкнула сэрца: вось яна, яго вёска. Вунь там, пад старым дубам, хата дзядзькі Макара, за дубам — клуб, дзе Бронік станцаваў сваю першую польку. Станцаваў нясмела, бо Надзейка, вясковая перасмешніца і прыгажуня, піхнула злёгку ў грудзі, аблізала язычком вусны, сказала: «Ну, Бронік, з цябе танцор — заснуць можна». Хацела яшчэ нешта дадаць, ды, пэўна, пашкадавала яго, толькі махнула рукой...

А пасля танцаў ён цалаваў яе і дзівіўся, што яна зусім і не такая, якой хацела паказацца на людзях. Якая яна цяпер, вясковая прыгажуня? Пэўна, яшчэ прыгажэйшай стала, адбою ад хлопцаў няма. А мо і замужам ужо — Волька, праўда, пра тое нічога не пісала

Сонца ўжо стала падобна на лядаш-акрайчык, які раставаў ад цяпла, прападаў. Ад сасонніку даносіўся пах чабору. На ім было настоена ўсё наваколле — адразу і не здагадаўся, чаму так зайшлося сэрца.

Перад вёскай неспадзеўкі і сустрэў яе, Надзейку. Яна ішла па поплаве, трымала ў руцэ цэлафанавы пакецік — у ім было нешта лёгкае, мо кофта.

— Ты, Бронік?! — здзівілася і адразу пачырванела, баялася падняць на яго вочы. — Авой якім салдатам стаў? Не пазнаць.

Кінулася да яго, абняла, налівалася яшчэ большай пунсовасцю, нечага смяялася.

— Як там мае?

— Анічога, жывуць. На танцы сёння прыйдзеш, Бронік?

— З мяне танцор...

— Нічога, я навучу, як і некалі. Што, нага? Моцна? — спахапілася, пасур'ёзнела.

Ён так і пайшоў, ніводнага разу не ўсміхнуўшыся. І бесклапотны смех дзяўчыны нудным болем адгукнуўся ў сэрцы — быццам раптоўна забалеў зуб.

Мінуў маліннік, што густа рос каля маладога алешніку, пераступіў жэрдкі свайго плота. Па цэнтральнай вуліцы чамусьці ісці не рашыўся. Сам не ведаў чаму.

Дзверы сенцаў былі расчынены. Хадзілі па падлозе куры. З будана выглянуў Жук — гаўкнуў раз-другі, потым завіляў хвастом — без радасці, абыякава.

У хаце, на ложку, не распрануўшыся, у гумовых ботах, спаў на ложку Воўчык — хроп на ўсю хату.

«Цікавая атрымліваецца сустрэча, — усміхаўся горка Бронік, сядаючы на табурэт. Аглядваў усё ў хаце, адзначаючы, што нічога не перамянілася: быццам учора пакінуў яе. — Ніхто мяне не страчае, музыканты не развучылі ноты... Адна Надзейка і сустрэла, і то, мусіць, незнарок...»

Падышоў да брата, лёгка страсянуў за плячо. Воўчык здалося, яшчэ мацней захроп. Тады Бронік страсянуў яго абедзвюма рукамі. Брат расплюшчыў вочы, крутануў галавой незадаволена, што яго патрывожылі, адмахнуўся:

— Адыдзі...

«Вось яно што, — убачыў на падлозе дзве пустыя бутэлькі з-пад «Агдама» і адну пачатую, — нешта замочвае. Ці не мой дэмбіль? А мо і даўно так святкуе?..»

Бронік павыганяў з сенечак курэй, прычыніў дзверы.

Пастаяў нейкі час у роздуме на ганку, не ведаючы, чым заняцца. Падаўся пад яблыню, на сваё ранейшае месца. Паклаў на столік цыгарэты, закурыў.

Не вытрымаў, вярнуўся ў хату, наліў поўную конаўку братавага віна, тут жа, каля акна, выпіў за некалькі доўгіх глыткоў. Потым з нейкай палёгкай пайшоў у сад.

Адчуў, гнятлівы настрой пачаў пакрысе адступаць.

З вуліцы данёсся вясёлы дзявочы смех. Але Бронік не скрануўся з месца. Зацягваўся дымком, паціраў пальцамі пераноссе і сваімі

думкамі быў далёка-далёка — там, на высокіх гарах, пад пякельным сонцам, пад кулямі і промнямі пякельнага сонца... І думкі яго былі няпэўныя, раскіданыя бы Камянюкі на полі — без ладу і парадку, перабягалі з аднаго на другое, абганяючы адна адну...

Броніку Вербаву зноў было млосна. Не таму, што на вуліцы не апала зусім духата — акурат у зеніце было лета, і не таму, што ў тую хвіліну не было нікога побач — ні родных, ні сяброў. Ён усё яшчэ ніяк не мог прывыкнуць да цішыні. Кожную секунду чакаў, восьвось павінен грымнуць стрэл ці выбух, загаворыць варожы кулямёт... На любы, нават незразумелы гук, ён імгнова паварочваў галаву і чакаў небяспекі...

Але яе не было. Таму не мог у тое паверыць.

Ён, здаецца, аглух у той момант, калі да яго па мурагу бегла ўсхваляваная і радасная маці — распэтланая, хустка спаўзла з галавы, вось-вось упадзе пад ногі.

— А сыночак мой дарагі, а я і не ведаю, што ты дадому прыйшоў. Надзейка прыбегла на ферму, сказала. Чаму ж на ферму не прыйшоў адразу?..

Абняў яе, хаця не чуў слоў, увушшу нешта надакучліва гудзела, быццам ляцела ў яго бок у паветры са свістам граната і ніяк не магла ўпасці на зямлю... Стуліўшыся, чакаў, калі адбудзецца выбух.

— Даўно прыйшоў?

— Што?

— Прыехаў даўно, сынок?

— Не, во толечкі. У хаце быў, на вуліцу выйшаў пакурыць. Там Воўчык спіць. А Волечка дзе?

— А дзе ж ёй быць — у школе. Хутка прыйдзе. Канцэрт там нейкі рыхтуюць, настаўнік сярод лета сабраў. І бацька хутка прыйдзе. На Бобрыку бульбу акучвае, заканчвае сёння. То пайшлі ў хату, Бронік, чаго ж мы тута стаімо?

Не адрывае маці вачэй ад сына, неўпрыкмет аглядае з ног да галавы — ці не паранены, ці здаровы хаця? І слёзы хавае, дыханне забіваецца.

Позна вечарам сабралася ўся сям'я. Праспаўся брат і здзіўлена паглядаў на салдата, кінуўся ў абдымкі. Волечка сядзела, абняўшы за шыю. Надзейка, суседка, сядзела, шчаслівa паглядала на хлопца, вачэй не спускала, свяцілася шчасцем.

У хаце было тлумна, весела. А ён усё прыслухоўваўся да нечага, напручваў слых і зрок. Разумеў: тае радасці сустрэчы з роднымі, якую чакаў, пра якую марыў, не адбылося. І не разумеў чаму.

Ноччу кідаўся ў сне, крычаў, перапалохаў усіх дамашніх. Маці сядзела каля падушкі, ліла слёзы, хітала галавой — Божачка, што з ім стала, што вайна нарабіла. Прахопліваўся, не пазнаваў маці, адмахваўся ад яе, клікаў сяброў, прасіў прыкрыць яго ад «духаў»...

На другую ноч ён папрасіўся ў адрынку. Ціха папрасіў мацеру, каб не казала нікому, дзе ён — хацеў пабыць сам-насам.

Яна моўчкі кіўнула галавой.

Дзень спякотны, як і ўсе перад гэтым. Яны мяняюцца, а здаецца, што цягнецца суцэльны пякельны месяц — толькі кароткія перапынкі на ноч... Гімнасцёрка мокрая, па твары цурчыць пот, а сэрца бомкае так, што, здаецца, вось-вось вырвецца з грудзей.

Кожны раз, пад раніцу, яго абдымае жудаснымі шчупальцамі адно і тое ж відовішча. Падножжа гары Кандагара. Шызыя і непраглядныя схілы, на якіх нічога не расце, нічога не можа ўчапіцца. Тым больш чалавек. Але менавіта адтуль хлопцы чакаюць стрэлу і міжволі водзяць позіркам туды-сюды — нервы напяты, бы струна.

Наперадзе Броніка, метраў за дваццаць, як у фільме, калі псуецца апарат і запавольваецца бег стужкі, пнецца ў неба шэра-чырвонае воблака, прыўзнімаецца ад зямлі бронетранспарцёр, а пад ногі Броніку падкацілася адарваная галава Пецькі Карчэмнага. Спачатку Бронік нічога не зразумеў. Не дайшло да яго свядомасці. А калі мірганулі вочы і перакрывіўся ў густой крыві рот, Вербаў закрычаў і ўпаў на зямлю... Яго душылі ваніты і слёзы, ён нічога не бачыў перад сабою...

Хлопцы данеслі яго да медсанбата.

Ніводзін чалавек, хто быў у бронетранспарцёры, не застаўся ў жывых. Як толькі выключылі святло, Бронік крычаў і адмахваўся ад некага.

А потым, праз нейкі час, у сне прыходзіў да яго жывы Пецька і гаварыў:

— Ды не перажывай ты так, Бронік, я ж жывы. То я так пасмяяўся...

Толькі прачнуўшыся, разумеў, што то быў міраж, сон, і тады запознена хапала ў ціскі сэрца, і боль ужо нельга было нічым суняць.

А ў вушах адразу ўзнікла Пецькава песня, якую ён здорава спяваў пад гітару:

Я вярнуся, мама, вось пабачыш.
Абдыму цябе і пацалую.
Пакупаюся ў нашай Вячы,
Пакашу траву густую...

Пецька сам пісаў куплеты і спяваў. Хлопцы часта прасілі яго паспяваць, і ён ніколі не адмаўляў. Усе песні Высоцкага, што гучалі на магнітафонных стужках, ён ведаў на памяць. Але не стараўся падрабляцца пад аўтара, а спяваў на свой манер.

Вось і цяпер, на родным селішчы, яго праведаў Пецька. Сеў побач, пра жыццё пачаў расказваць. Пра маці сваю, якая чакае яго не дачакаецца. Пра бацьку, які працуе на камбайне — за мяжой служыў, у Венгрыі, ўціхамірваў паўстанцаў — мірных жыхароў, стаў інвалідам другой групы... Шмат пра што расказваў Пецька, ды не ўсё пачуў і зразумеў Вербаў, бо паглядаў на яго, а неадрыўна свідравала думка: «Дык ты ж загінуў, Пецька, я ж тваю галаву бачыў на зямлі...»

Ён закрычаў і прачнуўся. Не ведаў, крык быў чутны ці застаўся там, у сне... Правёў далонню па твары — быў мокры.

Побач Надзеі не было. Ляжала яе блакітная касынка — забылася, пэўна.

Сэрца тахкала, не сунімалася, не зразумеўшы, што не існуе аніякай трывогі. Хацелася піць, мучыла смага. Але хіба ў такім стане пакажашся ў хату?

Не ведаў, што маці з бацькам не спалі ўсю ноч, чулі яго крыкі, жудасныя крыкі і рашалі: як бы паказаць яго ўрачам. Здагадваліся: мо ад таго і пасівеў, што пабачыў шмат гора на сваім кароткім вяку...

Няўсцерп стала Вербаву ў роднай хаце. Калі ўсе разышліся хто куды, папісаў кароткую запісачку: «Я ў Гомель да сяброў з'езджу, развеюся трохі. Вярнуся праз дзён пяць-шэсць...»

Дзядзька Міша вёз у Хойнікі на малаказавод малако з фермы — з той, якая яшчэ заставалася ў трыццацікіламетровай зоне. З ім і падаўся Бронік у горад. Дзядзька — бацькаў брат. Па натуры маўклівы, як бы пануры. Нават на вяселлі ці на радзінах, узяўшы чарку, сядзеў дзе-небудзь у кутку і маўкліва глядзеў у адну кропку. Усе спяваюць, жонка Алена весяліцца, шчокі аж гараць ад узбуджанасці, а ён не зважаў ні на што...

— Як служылася, пляменнік? — не адрываўся ад дарогі вадзіцель, кашлянуў, як бы асмельваўся задаць пытанне.

— Служыў, як усе.

— Параніла, чуў.

— Чырканула троху.

Мішаў запас пытанняў скончыўся, і Бронік ведаў, што цяпер да самага горада ён будзе маўчаць, круцячы баранку. А самому гаварыць не хацелася, і ён быў рады, што дзядзька неназаляе пытаннямі, не лезе ў душу. Сама пагана, калі нехта лезе да цябе ў думкі, ботамі топча іх, ідзе напралом, не пытаючыся дазволу.

Міша падвёз яго да вакзала, міргануў весела. Пацiснуў руку, пажадаў добрай дарогі далей. Вербаў паспеў сесці на дызель, які завёз яго ў абласны цэнтр.

Прыехаў позна вечарам, як змерклася. Хацеў прытуліцца дзе на вакзале, перадрамаць да раніцы або папытацца месца ў гасцініцы, але выбраў іншае — успомніў, што Дзіма Каралькоў, калі дэмбільнуўся, казаў: «Бронік, як будзеш у Гомелі, абавязкова зазірні да мяне — хоць днём, хоць ноччу. Прыму, як роднага. І запомніць адрасок лёгка — жыву над цэнтральнай ашчаднай касай. А нумар кватэры — нешчаслівы. Значыць, трынаццаць... Ды мы, афганцы, так і так з'яднаемся з усёй вобласці. Знойдзем адзін аднаго. Я чакаю...»

У сельмашаўскі раён хадзілі тралейбусы і аўтобусы. Папытаўся на прыпынку, чым лепей даехаць на вуліцу з цэнтральнай ашчаднай касай, і паехаў «васьмёркай» — аўтобусам, які вазіў рабочых да завода ліцця і нармаляў.

Аўтобус спыніўся акурат насупраць патрэбнага дома.

Вербаў падняўся на пяты наверх, падышоў да дзвярэй. Націснуў кнопачку званка. Дзверы адчыніў мужчына ў майцы, здзіўлена паглядаў на хлопца.

— Дзіма Каралькоў тут жыве? — папытаўся, пераступаючы з нагі на нагу.

Мужчына павярнуўся, крыкнуў некуды ў цёмны калідор:

— Дзім, да цябе, — а Броніку кіўнуў: — Заходзьце...

Пераступіў парог і не ведаў, куды ісці далей, чакаў.

Злева, з прачыненых карычневых — пад дрэва — дзвярэй, выйшаў у спартыўным трыко хударлявы юнак, здзіўлена ўскінуў белыя бровы, а потым рукі рэзка ўзляцелі ўгору:

— Го! Бронік Вербаў! Ну, малайчына, што завітаў. Даўно дэмбільнуўся?

— З тыдзень назад. З вакзала толькі. Рашыў прыехаць, сяброў пабачыць. Думаў, мо ў гасцініцу падацца, ды пра цябе ўспомніў. Не выганіш?

— Ды што ты — месца ёсць. Брат акурат у будаўнічым атрадзе. Ды што я гавару: месца заўсёды знайшлося б. Распранайся, вешай сюды куртку.

Потым ён правёў Броніка ў свой пакойчык, паказаў на крэсла, каб сядаў.

— Адпачывай. Я кавы прыгатую...

Вербаў агледзеў пакой. Японскі магнітафон «Соні», чорныя пластмасавыя ячэйкі для касет. На стале ляжаў паяльнік з прыпоем. Яшчэ стаяў пах кіслаты — мусіць, Дзіма нешта даводзіў да ладу. У

арміі не ведаў, што той займаецца такімі рэчамі. Ды там многа чаго не ведалі адзін пра аднаго — не да таго...

Каля дзвярэй невялічкая паліца з кнігамі — прыбітая да сцяны. Здалёк заўважыў, што кнігі па радыётэхніцы і электроніцы, мастацкія — Яўтушэнка, Брыль, Караткевіч, Хаям...

На сцяне вялікі каляровы каляндар «Цырк» — дзяўчаты на каньках акружылі мядзведзя-фігурыста. Злева ад паліцы таксама каляндар, замежны. На ім голенькая дзяўчына, з маладымі ўзгорачкамі грудзей, з даўгімі косамі — прыкрывалі палову твару, прыгожага і вясёлага. Акурат як Надзейка, падумаў чамусьці пра сябе, успомніўшы нядаўнюю ноч, калі яна прыйшла да яго ў пуньку... Адчуў, як ледзь заўважна пачалі зноў біць дрыжыкі...

— Ну, як ты тут, гвардыі радавы Вербаў? — нечакана зайшоў Дзіма.

— Нічога, дзякую. Добра ў цябе. Спакойна.

— Спакойна... Яно-то так.

Каралькоў паставіў перад госцем кубак пахкай кавы, побач — цукерніцу.

— Сам кладзі, колькі любіш.

— Я без цукру. Цукар жа дэфіцыт — па талонах, — не ўсміхаўся, жартаваў Бронік.

— Не кажы — смехатура ў нашай дзяржаве. Дажыліся.

Ледзь чутны шчаўчок, і адразу аднекуль са сцяны і столі палілася спакойная меладычная музыка. Броніку падалося, што загудзелі ля іх пчолы, недзе ўдалечы рыкнула карова і застракатаў конік. Акурат як летняй парой ён быў на лузе і, накасіўшыся, ляжаў і ўслухоўваўся ў навакольную цішыню.

— Што гэта за музыка?

— Чайкоўскі. Поры года. Чэрвень.

— Я акурат так і падумаў. Ты, бач, аказваецца, можна перадаць жыццё не толькі словамі, а і музыкай.

Кава была гарачая і пахкая. Вербаў адпіваў маленькімі глыткамі. Было ўтульна і спакойна. За акном бегалі дзеці і крычалі, ганяліся адно за адным, нешта пярэчылі ім дзяўчынкі. Дзесьці іграла іншая музыка. Стукаў нехта за сцяной.

«Не так, як у вёсцы, — падумалася абыякава, — тут, як у мурашніку, тлумна. Не люблю за тое горад. Раз'ядноўвае ён людзей...»

— На работу не ўладкаваўся яшчэ?

— Не.

— А куды думаеш?

— Не ведаю яшчэ... Сляпы сказаў — пабачым. Мо на машыну сяду. Або як бацька — на трактар ці камбайн.

Тэму Афгана абыходзілі, як згаварыліся. Гаварылі пра ўсё, толькі не пра былую службу. Потым Дзіма, як усё роўна апамятаўся, адлучыўся зноў. Прынёс дзве маленькія чарачкі з каньяком і паставіў перад госцем. Сказаў прыглушана:

— Давай памянём тых, хто не вярнуўся з намі... За іх, каб ім пухам зямля.

Вербаў адчуў важнасць моманту, падняўся. Стоячы, выпіў налітае. Моўчкі сеў, паставіў чарку на паліраванае вечка століка. Каўцянуў глыток кавы...

Уздыхнулі, адначасна ўспомніўшы нядаўняе. Слоў не казалі. Маўчанне гаварыла больш, чым словы.

Гарталі альбом. Успаміналі сяброў, хмурыліся. Сярод усіх была фотка вусатага вясёлага салдата — Мішкі Прасцянкова.

— Сустрэнемся з Мішкам? — папытаўся Вербаў. — Ты з ім бачыўся?

— Бачыўся... Хочаш, заўтра разам яго пабачым? — у голасе зацятае шкадаванне — Дзіма глядзеў сабе пад ногі.

— Хачу. Я яму жыццём абавязаны. Ад душманаў мяне адбіў. Смелы хлопец, адчайны...

Спаць клаліся позна. Нагаварыліся ўдосталь, аж языкі забалелі. Сон агарнуў адразу, як прыхінулі галаву да падушкі.

— Ты куды мяне прывёў? — Вербаў паглядзеў спачатку на вывеску, а потым на Каралькова — стаялі на ганку гарадскога суда.

— Ты ж, здаецца, хацеў з Мішкам пабачыцца? — Дзіма чамусьці ўзмакрэў.

— Ён тут працуе?

— Ага, тут...

Вербаў ішоў следам і ўжо не задаваў пытанняў. Чамусьці адчуў, што сваёй цікавасцю злуе Дзіму — словы таму не даспадобы. Падняліся на другі паверх, дзе таўкліся людзі — чакалі нечага ці некага. Паўз іх прайшоў пажылы чалавек з залачонымі пятліцамі — ці не пракурор? Стаяла ў слязах жанчына, шаптала сама сабе: «За што? За што?.. Хіба ж я думала, што так будзе?»

Каралькоў пацягнуў сябра ў расчыненыя дзверы — у залу суда. Убачыў вольнае каля акна месца — пайшоў туды.

«Куды ён мяне прывёў? — дапытваўся ў сябе Бронік, адчуваючы ўнутраную трывогу. — Кім ён тут працуе? Суддзёй хіба? Ці пракурорам? Смешна... ён жа не вучыўся нідзе. Пэтэвушнік, тынкоў-

шчыкам працаваў да арміі. І чаго такі хмуры Дзіма? Чаго не скажа адразу — чаму тайну нейкую робіць?»

Каралькоў глядзеў у спіну жанчыны, сціснуў зубы. Маўчаў. Як чакаў чаго. Дыхаў праз нос, толькі раздзімаліся ноздры.

— Устаць! Суд ідзе! — пачуў Вербаў і машынальна, як усё роўна пачуў каманду камандзіра, падняўся разам з усімі.

Дзіма не адрываў позірку ад сіняга світэра, быццам вывучаў складаную вязку і ўзор.

Калі зайшлі суддзі і паселі на месца, калі ў зале ўсталявалася цішыня, канваіры ўвялі падсуднага і правялі яго за загародку. У Броніка балюча ёкнула сэрца — у падстрыжаным «пад нулёўку», няголеным юнаку ён ледзьве пазнаў Мішку.

Быў ён схуднелы да непазнавальнасці. Завастрыўся нос, паменшаў нават ростам. Глядзеў на людзей вінавата і сам не разумеў, чаму апынуўся ў зале суда.

Вербаў схапіў Дзімкаву руку, сціснуў з усяе сілы, прашаптаў роспачна:

— Не можа быць! Што ён зрабіў?

— Зрабіў, Бронік. Сам не магу паверыць.

— Што?!

Сябар не адказаў. Крутануў галавой, перакрывіў рот — быццам пёк боль, жыць не даваў. Як збіраўся заплакаць ад крыўды.

Падняўся суддзя, пачаў сухім і абыякавым голасам чытаць абвінаваўчае заключэнне. Міхаілу Прасцянкову, былому воіну-інтэрнацыяналісту, прад'яўлялася абвінавачванне ў забойстве.

...У рэстаране Міша сядзеў з дзяўчатамі — пілі шампанскае. Да іх падсеў фасадчык — чарнявы юнак. Спачатку маўчаў, толькі не зводзіў вачэй з Зінкі, якая смяялася раз-пораз. Бачачы, што Мішка да яе ніякага дачынення не мае, паклаў дзяўчыне на руку сваю далонь, папытаўся:

— Зінка, хочаш, я цябе куплю на ноч?

Дзяўчына была не з баязлівых, тут жа пытанне незнаёмцу з прымессю злосці:

— І колькі ж ты мне адваліш, дзядзечка? Я дорага каштую

— Таму і купляю, што дарагая.

Ён дастаў скураны кашалёк, туга набіты соценнымі купюрамі, разгарнуў перад ёю:

— Во, глядзі, дзесяць тысяч. Як лёду. Толькі з фасадаў вярнуўся. Не ведаю, куды падзець іх. На цябе палову аддам. За адну ноч. Не хвалюйся, з жанчынамі я ласкавы, не садыст. І сама шкадаваць не будзеш.

Зінка ўжо адумалася, крутанула галавой, паглядзела на Мішку. Позіркам спытала, як выкруціцца з такой гісторыі.

Ад убачанай сумы ў Мішкі загарэліся вочы. Ён з усіх сіл стараўся прыглушыць сваю цікавасць да кашалька.

— Цябе як зваць, зямеля? — Мішка павярнуўся да суседа за сталом.

— Геральдам. Проста — Гера. А што?

— Усё падыходзіць, Гера. Сума нармальная. Значыць, так. Рашаем: я даю ключы ад сваёй хаты і праз гадзіну прывяду цябе туды. Разлік са мной. Я адчыню дзверы, прайду разам з табою. Ты пераканаешся, што вы адны ў хаце — і ты мне пры ёй аддаеш грошы. Згода?

Гера паглядзеў на Зіну, на хлопца, кіўнуў галавой:

— Варыянт падыходзіць.

— Тады, Зінка, шуруй дадому. Свежыя прасціны ў шафе. Праз паўгадзіны мы будзем.

Дзяўчына зрабіла акруглыя вочы, папраўіла сукенку на грудзях — вельмі ж усё выставілася напаказ, сяброўка так параіла. Нічога не разумела — у Мішкі не было ніякай кватэры. І што ён за ключы ёй даў, не ведала. Але хуценька паднялася і разам з сяброўкаю выскачылі на вуліцу.

Потым Гера наліў пароўну, пасля яшчэ. Працянкоў паглядзеў на гадзіннік, абдумваў сваё.

— Сястра яна мне. Ні разу ні з кім не была Але дзеўка спелая. Акурат. І сама хоча, аж пішчыць.

— Гэта я вызначыў. Таму і даю столькі.

— Толькі раніцай будзе часу не шмат. У дзесяць з Масквы прыязджаюць бацькі — па каўбасу ў сталіцу падаліся. І каб там — без гэтага-таго... ну...

— Ведаю. Не хвалюйся. Будзе ўсё ў акураце, прыстойна.

— Пашпарт у цябе хоць ёсць? Мо ты які рэцыдывіст ці шпіён, — Мішка ўсміхнуўся, выказваючы свой давер.

— На паглядзі, калі не верыш. Цёмнымі справамі я не займаюся. Грошы дурныя маю, на радаснае патраціць хачу. А што ёй — адна ноч і багатай нявестай будзе.

— Ладна, я так... Добра. Пераканаўся. Парадак.

Ён вёў яго глухімі вуліцамі. Прыйшлі да ракі. І тут

Мішка выхапіў нож, спакойна ўсадзіў у Геру. Той і не войкнуў. Забраў у яго кашалёк, самога кінуў у раку.

Следам выкінуў і нож...

Потым, калі выступалі сведкі і сказаў сваё слова адвакат — невысокі чалавек з кароценькімі вусікамі, вочы хаваліся за сінімі «мяшкамі» і густымі бровамі, — слова ўзяў і пракурор.

Суддзя, мажная жанчына, спытала ў падсуднага:

— Што кіравала вамі, грамадзянін Прасцянкоў, калі вы забівалі чалавека?

— Я хацеў абараніць гонар дзяўчыны, якую ён хацеў купіць.

— Але ж вы забралі самі тыя грошы, якія былі ў нябожчыка. На тых грашах кроў чалавека.

— Грамадзянін суддзя, я столькі бачыў крыві ў Афганістане, што гэтая кроў — як кропля з камара...

Бронік скрыгатнуў зубамі, сціснуў калена Дзімы — аж затрашчалі пальцы. Не вытрымаў, падняўся і, нічога не кажучы сябру, падаўся да выхаду. Не бачыў, як следам за ім падняўся і Каралькоў.

Калі адыходзілі да дзвярэй, пачулі роспачны голас Мішкі:

— Бронік, ты прабач мне, што так атрымалася... Як бачыш, я не толькі ўмею абараняць жыццё, а і забіраць яго. І ты, Дзіма, прабач...

Усе міжволі павярнуліся да тых, каму гаварыў падсудны.

Глядзелі і на забойцу, але ў позірку людзей не было ні шкадавання, ні жалю.

Яны прычынілі за сабою дзверы, спусціліся на першы паверх, выбеглі на ганак. Калі ж выйшлі ў сквер — насупраць вышкі тэлебачання, уздыхнулі на поўныя грудзі. Чамусьці не глядзелі адзін аднаму ў вочы. Як быццам кожны з іх баяўся папракнуць самога сябе, што не ўбярог сябра ад злачынства...

Цэлы дзень быў у іх гнятлівы настрой.

Гаварылі мала, найбольш адмоўчваліся. Абыходзілі тое, што запала з раніцы ў душу. Пілі піва, жавалі рыбу, і кожны з іх быў унураны ў сябе.

— Раней мяне дэмбільнуўся Коля Шуманька. Не ведаеш, дзе ён і што робіць?

— Ведаю. Можам вечарам пабачыцца. Ды і развеемся заадно.

— «Развеемся» — гэта як? — з насцярожынкай папытаўся Вербаў. Дапіў піва, паставіў справа ад сябе куфель з пенай. — У рэстаран пойдзем?

— Не, — усміхнуўся Каралькоў, — там, у Міколы, цікавей, чым у любым кабаку. І весялей.

Схадзілі ў «кіношку». Ледзьве да канца даседзелі. Рэжысёр стужкі ніяк не мог разабрацца ў спрэчцы паміж бацькамі і сынам. Бацька быў вялікі дэмагог, а сын занадта сучасны. Адзін аднаго не разумелі, і гледачы не маглі ўцяміць, што хацелі паказаць стваральнікі кіно.

Вечарам падаліся туды, дзе абяцаў Дзіма развеяцца.

Паехалі ў новы мікраараён «Валатава», які ўзвялі будаўнікі на беразе ракі. Там днём і ноччу палівалі асфальт мыйныя машыны — была самая высокая радыяцыя. Ніяк не маглі яе ўтаймаваць, змыць. Ад дома праглядвалася тэлевышка з чырвонымі агнямі — як велізарная навагодняя ёлка.

— Куды вядзеш мяне, Дзіма?

— Не баісь, таварыш радавы. Будзе ўсё хакей. Горш, як нам было, ужо ніколі не будзе.

— Правільна.

Ён падышоў да тыльнага боку шматпавярховага дома. Прыхінуўся да зачыненых дзвярэй, прыслухаўся. Трошкі пачакаў, потым ціхенька пастукаў — два разы моцна і тры слабей, з паўзамі, інтэрваламі. Праз нейкі час зноў паўтарыў.

Дзверы ціха расчыніліся, высунулася кудлатая галава:

— Хто?

— Коля Шум прыйшоў?

— Тут. Заходзь.

Хлопец зачыніў за імі дзверы, павёў некуды ў цемру.

— «Гаручага» прынёс?

— Захапіў дзве.

— Клас.

Наперадзе слаба засвяціўся вузкі калідорчык — святло цадзілася з левых прачыненых дзвярэй. Яны моўчкі прайшлі следам за патлатым.

Першае, што кінулася ў вочы Броніку, — голыя дзяўчаты. На іх яны не звярнулі ніякай увагі — курылі і гаварылі між сабою. Сядзелі на нейкім тапчане, закінуўшы нагу за нагу.

Коля сядзеў побач з бялявым дзяўчом, нешта шаптаў на вуха. Сяброўка згодна ківала галавой, усміхалася.

— Ты не звяртай асаблівай увагі, — шапнуў Дзіма, — тут кожны вечар такія сімпозіумы. Гэта клуб вольнага кахання.

Каралькоў падаў хлопцу, што адкрыў дзверы, дзве бутэлькі віна. Іх паставілі на стол.

— О, малайчына, Антось! — усклікнула Міколава сяброўка, убачыўшы пляшку — загарэліся цьмяна вочы. — Налі мне трошкі.

Колька доўга прыглядаўся, падняўся, хітануў галавой, падышоў да Вербава:

— Ты? Афган, здароў. Жывы? Малайчына. Добра, Дзіма, што прывёў яго сюды. За тое трэба выпіць. Дашуля, гэта ж мае сябрукі па

Афгану, — павярнуўся ён да дзяўчыны, — за тое трэба напоўніць шклянкі.

Быў ён у чорных плаўках, выглядаў не то п'яным, не то стомленым. Каралькоў на руцэ ўбачыў сінія кропачкі — калоўся ў вену. Усё зразумеў.

— Малайцы, хлопцы, што прыйшлі. Я вельмі вам рады. Вып'ем. За тых, хто там... паклаў галаву. За тых, хто вырваўся з таго пекла жывы...

Бронік ужо прывык да святла і ўжо выразна бачыў маладыя белыя грудзі дзяўчыны — налітыя маладым жыццёвым сокам. Яны гайдаліся, бы гумовыя былі. Сяброўка задумліва глядзела пад ногі, не выпускала з тонкіх пальцаў з доўгімі пазногцямі цыгарэту. За спіной сядзелі дзве дзяўчыны, не зважалі ні на кога, гаманілі.

— Вось пабл... яшчэ месяцаў колькі, і пара замуж выходзіць. Марачок не дае праходу, кліча ў жонкі, — гаварыла адна з іх, смеючыся.

Другая ўздыхнула:

— А мне не хочацца расставацца з такой кампаніяй.

— Мне пара завязаць — аборты замучылі.

Выпілі па шклянцы, прыкусілі сыркамі. Колька зноў прапанаваў наліць. Тая дзяўчына, што сядзела ў Броніка за спіной, прыйшла і села яму на калені. Даўгія белыя косы — да пояса, гожы твар, вусны тоўстыя і нафарбаваныя.

— Адкуль прыгожы такі будзеш? — абняла яна хлопца, прытулілася плечуком і правай грудзінай.

— З Палесся. А што?

— Ты мне спадабаўся. Я цябе хачу.

Бронік зірнуў на Дзіму, як пытаўся: што рабіць? Сябра міргануў, кіўнуў галавой — як даваў дазвол усё роўна.

Адзначыў, што дзяўчо ніштаватае, мяккі і пяшчотны голас. Ад яе патыхала невядомымі духамі і парфумай, нікацінам і віном.

— Тут ёсць закутачак, пайшлі... — млосна шаптала яна, дыхала горача ў вуха. — Там усё гатова.

— Трошкі пазней, — адказаў ціха. — Дай адпачыць з дарогі.

— Ну, глядзі, — німфа зрабіла вусны банцікам, паднялася, калываючы голым акруглым азадкам, пайшла зноў да сяброўкі.

Мікола выпіў і паглядаў няўцямна ў адну кропку. Патлаты цалаваўся ў цемры з дзяўчынай, бачна было, скідаў з сябе адзенне. У іх быў тэлевізар, «відак» выдаваў на экран эратычныя эпізоды.

Вербаў глядзеў на гэты «эдэм» і сам з сябе дзівіўся, адчуваў сябе спакойна, быццам быў тут не першы раз. Разумеў, што тут існуе свой

мікраклімат, які падыходзіць для ўсіх. Ён чытаў недзе пра свабоднае каханне. Але тое было не ў нас, а за мяжой. Так пісалі і сцвярджалі. А яно во тут, усё наглядна... Не трэба ўпрошваць дзяўчыну, яна сама да цябе прыйдзе. Успомніў чамусьці пра Надзейку. Яна ж таксама прыйшла да яго: хацела згарэць разам з ім у страсці кахання. Але там было неяк інакш, і не вытлумачыш... Яна не распранулася б вось так, пры ўсіх, і не прапанавала б сябе незнаёмаму... Там было на чалавечым даверы і пяшчоце. Шчыра і адкрыта, з падзеяй на нешта вялікае і неабходнае. Тут жа ўсё рабілася з завязанымі вачыма, нават не ведаючы, хто з табой, як маці назвала. А зрэшты...

— Даўно тут, Бронік? — не адрываючыся ад сваіх думак, папытаўся Мікола.

— З тыдзень. Во прыехаў пабачыцца. Да Дзімы першага зазірнуў. На судзе во сёння былі. Мішку судзілі...

— Ведаю. Я бачыў вас там. Не падышоў. На душы мутарна было. Не хацеў з вамі спатыкацца, ні к чаму. Сюды во збег. Вінаваты Міша, няма да яго ні жаласці, ні...

За спіной зноў хіхікнула дзяўчына, закашлялася:

— Кашмар! Так нічога і не зразумеў? І ўдалося ж табе нявіннай і цэлай прыкінуцца.

— Трэба ўмець. Вопыт на тое трэба, — смеючыся, адказала сяброўка. — Будзеш выходзіць замуж, навучу...

«Во як у іх — пахаджу сюды ўволю, нагуляюся, а потым замуж выйду. Абортамі здаволюся, пасля раджаць пачну. І знойдзецца ж нейкі вахлак, які пакахае нейкую, адкрые душу і сэрца, на руках насіць будзе. Вопыт у іх раскрыць сябе ва ўсёй сексуальнай красе ёсць, ды і вучацца вунь па мюнхенскіх фільмах. Але ж тым жа вахлаком магу аказацца і я, — працяла нечакана думка, але Бронік толькі горка ўсміхнуўся, яшчэ раз кінуў позірк на дзяўчыну, якая ўвесь час маўчала, як быццам драмала, прыплюшчыўшы вейкі. — Што яны шукаюць тут, у гэтым падзямеллі? Якую вышэйшую асалоду знаходзяць? І ў чым яна — асалода? Аддацца любому, хто пажадае? Без пачуцця, без узаемнасці?..»

— А як там Пецька Карчэмны? — дапытваўся Колька, зацягваўся дымком. — Спяваў ён талкова. Ас быў у песні.

— Няма Пецькі. На маіх вачах загінуў. Заўтра да маці з Дзімкам едзем.

— І я з вамі. А Віця Міцура?

— Да духаў трапіў. Узялі параненага ў палон. Невядома, што з ім і дзе. Таксама да бацькоў паедзем — мо што стала вядома пра яго.

— І я з вамі — весялей будзе.

Мучыла пытанне — дзе начаваць. Што на тое адкажа Дзіма? Прапануе ехаць да яго? Хаця ж на вуліцы глыбокая ноч.

— Начуем тут, — адгадаў яго думкі сябар, — дзяўчат хапае на кожнага. І ёсць дзе прылегчы. Ты як?

— Які ты. Гуляць, дык гуляць.

Мікола патушыў святло.

Ззаду зашаптала таямніча німфа, абхапіла Броніка за шыю, пачала расшпільваць яму гузікі на сарочцы.

— Цяпер ты, даражэнькі, не выкруцішся ад мяне. Я любіць цябе буду моцна-моцна, што і родных сваіх забудзеш, каханую забудзеш... А я і нежывога ажыўлю. Ну, пайшлі, не бойся, не пашкадуеш, вось пабачыш.

Яны прыладкаваліся непадалёк ад тэлевізара. Ад экрана даносіліся эратычныя стогны, уздыхі і музыка.

Выехалі толькі пад абед. Дамовіліся, што Бронік і Дзіма будуць чакаць у скверы. Дзіма схадзіў дадому, для бацькоў пакінуў запіску, пераадзеўся.

З'явіўся Колька праз тры гадзіны, яны ўжо і чаканкі ўсе паелі. Хацелі ўжо самі, без яго ехаць.

— Бацька ўсё, — уздрыгвала міжволі правая шчака ў хлопца — параніла перад самай дэмабілізацыяй, — упёрся: куды ды навошта едзеш. Валаводзіліся доўга. Але ўгаварыў. І грошай даў — на бензін, на харчы...

— Тады — парадак, — ляпнуў па плячы Каралькоў. — Пасля ўчарашняга галава не баліць?

— Не баліць галава ў дзятла, — ухіліўся Мікола ад адказу.

Па дарозе заскочылі ў харчовы магазін, купілі хлеба, кааператыўных каўбас, сала, мінералкі. А потым узялі кірунак у бок Мазыра, у якім ніколі раней не былі.

— Чаго гэта ў цябе, Браніслаў, губа так апухла? Біўся з кім ці пчала пеканула? — папытаўся сур'ёзна Мікола, гледзячы ў люстэрка — Вербаў сядзеў ззаду.

Падначкі хлопец не адчуў, пацiснуў няўцямна плячыма. Дзіма рагатнуў:

— То Ядзя яго так мілавала.

Вербаў нахмурыўся, адвярнуўся. Пра ноч успамінаць не хацелася — нешта ў ёй было не так, як думалася напачатку, а з прымессю бруду і непрыстойнасці. Але было і адчуванне, што не ўсё было і ў чорным колеры — нейкае адценне здалося і светлым, прымусіла адчуць сябе іншым, спасціг таямніцы і такога жыцця.

— Падсунуў ты мне ночаньку, — уздыхнуў Бронік, палез у кішэню па «Прыму», прыкурыў, зацягнуўся, — цяпер думай, на чым трымаецца жыццё, каханне. Вы мяне, як сляпога, укінулі ў гэтае пекла ці рай, як вы яго называеце, і сказалі: «Паглядзі на жыццё і з другога боку...» А ў мяне чамусьці з галавы не выходзіць Афган, нашы хлопцы. У кожнага была фотка дзяўчыны, якую кожны хацеў абняць, пацалаваць... Тут жа... А што і казаць, абухам па галаве.

У Колькі акрамя пісяга на шчацэ яшчэ і разарванае вуха. І ён прыкрывае яго даўгімі валасамі. Тады, як ірванула іх на міне, Бронік паспяшаўся на дапамогу. І самі наскочылі. Разам ляжалі ў шпіталі. Кольку пашкуматала больш — па грудзях прайшліся асколкі. Боль быў невыносны, і нехта даў яму цыгарэтку з гашышам. Потым яшчэ... Ад болю хлопец адкараскаўся, а вось ад прывычкі адурманьваць мазгі — не.

— Нічога, ты ўсё павінен зведаць і паспытаць, — заўсміхаўся Мікола, і ў яго зноў тарганулася правая шчака, — да нас два хлопцы прыходзяць з міліцыі. Пра тое ніхто не ведае. Гэта і наша прыкрыццё. Яны жанатыя, але зрэдку забягаюць да нас, цягне іх да маладых дзевак.

За акном мільгацелі белыя свечкі бяроз, зялёнае поле, кусты вербалозу.

Машына бегла на сярэдняй хуткасці — вадзіцель не любіў свавольства на дарогах. Цяпер жа ён быў сур'ёзны і заклапочаны — і не пазнаць, як і не ён быў учора ў «эдэме».

Вербаў маўчаў. Ведаў, якія ні сказаў бы ён словы, яны будуць усё роўна непатрэбнымі. Жыццё дыктавала кожнаму свае законы. А яны былі няўмольнымі. І не яму судзіць іх, хлопцаў. Як і ім не судзіць яго.

Справа, па дарозе, стаяў плакат: «Асцярожна! З дарогі не з'язджаць — павышаная радыяцыя». Далей: «Грыбы і ягады не збіраць — забаронена».

— Амаль як і ў нас было напісана: «Не з'язджаць, магчыма, замініравана».

— І там вайна, і тут вайна... Там хоць было бачна,

хто па кім страляе. А тут і куль няма, снарадаў, а жыве смерць-невідзімка. І страляе без промаху, трапна ў кожнага...

— Вось іменна — невідзімка.

— А твая, Бронік, вёска далёка ад зоны?

— За маім плотам ужо зона.

— Радыяцыя высокая?

— Хапае... Побач з намі пасялілі дзеда Мікіту з Ганусяй. Дык не ўтрывалі, падаліся назад на селішча — у зону. Што ім ні казалі, адмахваліся: «Там нарадзіліся, там і паміраць будзем...» А бабка дык скрушна і жартавала: «От, выдумляюць абы-што, не пахціць, не Баніць, а яны нейкую радзіяцыю прыдумалі... Птушкі вуня лятаюць? Лятаюць... І бусел жыве, вужоў і лягушак носіць у кубло...»

— Мудрая бабка, — пахітаў галавой Дзіма.

— А ўжэ ж, — на манер той жа Ганусі адказаў Вербаў. — Ад няведання мудрая. А сапраўдную праўду не прачытаеш і не пачуеш. Той, хто ўтварыў такое над народам, хавае за сямю пячаткамі...

Праехалі Мікітаўку, Дуброўна, Рудню. Да вёскі сябра было і не так ужо далёка. Маўчалі. Кожны думаў пра сваё, але думкі былі аднолькавыя. Як паглядзець у вочы маці, што сказаць? І ці трэба на яе рану сыпаць соль сваім прыездам? Значыць, трэба... А як жа інакш. Тое рабіць дыктуе нейкі вышэйшы закон, які нікім не напісаны, але якому падпарадкоўваюцца ўсе.

Вадзіцель, падагнаўшы легкавік да тоўстай пакручанай бярозы, спыніўся. Абапёрся рукамі аб руль, галаву на рукі паклаў, уздыхнуў.

Маўчалі. Стараліся не глядзець адзін аднаму ў вочы — як нешта муляла. Яны як бы пад'ехалі да нейкага рубяжа, за якім пачыналася іншае жыццё, іншыя вымярэнні. І яны ў думках рыхталіся да яго, настройваліся на той, вядомы і невядомы, лад.

На той тэрыторыі, куды яны імкнуліся, вымушаны будуць зноў дакрануцца да таго жыцця, якім жылі не так даўно, якое не выветрылася з іх маладых галоў і ўчэпістай памяці — яно з імі ў сне, у рабоце, у бязладнасці... Яны ратаваліся, хаваліся ад яго, як умелі. Адным тое ўдавалася, другім — не, не знаходзілі цвёрдага апірышча пад нагамі. І губляліся, не ведаючы, як быць далей.

Колька кароценька пасігналіў — пі-піп... Па-ра...

Хлопцы маўкліва глядзелі на дарогу, па якой трэба ехаць, па якой некалі хадзіў іх сябра ў школу. Расказваў, што хадзіў за сем кіламетраў.

Вербаў паклаў Міколу на плячо руку, як скамандаваў: паехалі, не марудзь, што дадзена — не мінем...

Дарогу ім перагарадзіў дзядок з кавенькай — спыніўся, пазіраў на незнаёмых прыезджых. Хлопец спыніў легкавік, папытаўся праз акенца:

— Добры дзень, дзядуля! Ці не скажаш, дзе жыве Карчэмная. Ну, што сын загінуў у Афганістане.

Дзядок тады пільней прыгледзеўся да іх, падышоў бліжэй. Зазірнуў у шкло, нагнуўшыся, пацікавіўся, што за людзі.

— А хто ж вы будзеце?

— Ваявалі з Пецькам. Сябры мы яму.

— Во яно што... А то раней прыязджалі з раёну таварышы, сварыліся, калі ім гаварылі, што ў Афганістане пагіб. Не далі памятнік ставіць Пецьку. З ваенкамата сказалі, каб не пісалі, дзе загінуў... Ды ён не адзін загінуў, дзеткі мае, яшчэ пяцёра хавалі мы ўсёй вёскай. Самых лепшых сыноў нашай вёскі. Слёз было, гора — не перадаць... Яны ж вяселлі намецілі пасля дэмабілізацыі... Ды што, хлопчыкі... Пецева мама дома павінна быць. А хата яе недалёчка адсюляка — вунь дуб высокі стаіць. Дык адразу за дубам. Пад вокнамі ў іх яблыня з чырвонымі яблыкамі — цыганачка. Во як яно, хлопчыкі! А я любіў Пецьку. Ён напісаў, куды трэба — і мне пенсію далі на старасці гадоў. Я і не хацеў, а ён кажа, што напішу, дзед, вось пабачыш, па-твойму выйдзе. І, бач, выйшла... Малайчына.

Дзед замоўк і пайшоў па дарозе. У той бок, куды ехалі, ён больш не аглянуўся, як і не гаварыў з імі. І як аб'ехалі яго, галавы не павярнуў, апіраўся на кавеньку і глядзеў наперад.

На лаўцы, каля веснікаў, сядзела дзяўчынка ў чырвонай хусцінцы. Падобная на Пецьку была — ці не сястра? Хлопцы выйшлі з машыны, да яе падышлі.

— Тут жывуць Карчэмныя?

Дзяўчынка засмяялася, паглядзела на іх:

— А ў нас буслы ўжо не вяліся — паляцелі некуды. Пасля таго як Пецькі не стала.

Вербаў успомніў, што Карчэмны ніколі пра сястру не расказваў, але ў пісьмах цікавіўся, як Верка, перадаваў прывітанне. Сябры здагадаліся, што сястра ім нічога не скажа.

Калі зайшлі ў двор, убачылі, як да парога падыходзіла жанчына і яшчэ здалёк паглядала на іх — зацікаўлена, насцярожана.

Хлопцы павіталіся, спыталіся прозвішча. Яна кіўнула галавой, каўцянула паветра.

На ёй быў мужчынскі шэры пінжак, пад ім вязаная кофта з зялёных нітак, шэрая спадніца. У гумовых ботах. Жанчына за рог сцягнула з галавы хусціну, прашаптала:

— Вы... з Пецікам маім служылі?

І кінулася абдымаць іх, заплакала, праз слёзы гаварыла:

— А я чакала вас. Мне ж Пецік кожнанную ночачку сніцца і кажа, мама, не перажывай, да цябе мае сябры прыедуць. Яны пра ўсё раскажуць...

Разанулі словы па маладых сэрцах. Запяклі нябачныя парушынкі ў вачах, хлопцы ўткнуліся тварамі ў плячо жанчыны. Уздрыгвалі адзіным рытмам з горам маці.

— Сыночкі вы мае... Добра, што вы прыехалі. Палёгка майму сэрцу будзе, што вы пра яго думаеце і помніце. Да яго сходзім, праведаем, і ён будзе рады. Вы ж цяпер сынкі для мяне... Самыя родныя.

Хлопцы ўбачылі, што жанчыне зрабілася блага. Падвялі асцярожна да ганка, пасадзілі на прыступку. Колька збегаў у сенцы, набраў кубак вады, падаў у дрыжачыя пальцы. Жанчына каўцянула колькі разоў і аддала назад. Кіўком падзякавала.

Верка, чуваць было, заспявала нейкую дзіцячую песню.

Яе не тычылі падзеі, што адбываліся ў двары.

— І то горачка маё, не глядзіце на тое... Маленькая такая ўрадзілася. І сама не ведаю чаго... У маім раду не было і ў бацькавым. Не ведаю, што яе розум пашкодзіла...

«Колькі ж гора прыйшлося вынесці Пецькавай маці? — падумаў Вербаў. — І як вытрываць такое?»

— Ды што ж мы — на двары? У хату пайшлі, сыночкі. Пара ж абедаць ужо, а вы з дарогі. Жывым пра жывое думаць трэба. Дык як хоць вас завуць? Мяне дык Алена — так і завіце мяне. Аднаго дык я ведаю — на картачцы з сынам зазняты — ці не Бронік?

У хаце Алена паказала і сынаву гітару, і яго пісьмы, і картачкі на сцяне. Мімаходзь выцірала слёзы, але ўжо голас выраўняўся, яна з гонарам расказвала пра сына. Вербаў убачыў у рамцы і тую фатаграфію, што рабіў лейтэнант Байкоў, пампаліт роты.

— А дзе ж гаспадар? — Колька паказаў позіркам на фота сябравага бацькі.

— Паехаў з галоўным інжынерам у раён. Тэхніку новую атрымліваць. Разам з механізатарамі гнаць яе будуць у калгас.

Могільніцы былі недалёка, адразу за неглыбокай рэчкай. На сасновай выспачцы. Прапанаваў ісці туды Бронік. Алена апранула чысцейшае і пайшла разам з хлопцамі, паперадзе іх.

Сустрэла па дарозе бабулька Макарэвіха, далёкая родзічка Алены.

— Куды ж накіравалася, нябога Алена? І што за хлопцы з табою?

Макарэвіха ўся ў маршчаках, сагнутая, у вачах светлыя агеньчыкі свецяцца. Спадніца доўгая, аж па зямлі цягнецца. У руках хатулёк, у хустачцы белай нешта завязанае.

— Да Пеціка мы, бабка. Во сябрукі яго — служылі разам і ваявалі. У госці да сына вяду. Сніўся мне сынок дарагі, сказаў, каб чакала яго сяброў. І во, бач, не падмануў, спраўдзіўся сон.

Бабка пахітала галавой, у вачах скруха і задаволенасць, што пра Пецьку сябры помняць, праведаць ідуць.

— Ну то ідзіце. Я была ўжо ў яго.

Магіла была ў сярэдзіне могільніц. З металічнай агароджай. Алена не плакала, так, пусціла слязу, зубы сціснула, не хацела пры хлопцах вярэдзіць сэрца.

— Во тут ён спіць, мой сынок. Толькі вось ніяк не расстараемся помнічак. І грошы ёсць, ды не ўдаецца ніяк. Хадзілі ў ваенкамат, дык сказалі, што няма такога ўказу, каб афганцам у першую чаргу выдаваць. Быццам я яго туды пасылала, а яны не ведалі пра тое... Ды во непадалёк і яшчэ вашы аднагодкі спяць — і без памятніка...

Хлопцы пераглянуліся: усюдныя праблемы. Як быццам не хапае мармуру толькі для афганцаў. Гаркая ісціна.

Алена паклала на магілу чырвоныя яблыкі. Яны свяціліся пад зыркімі промнямі сонца, прасвечваліся, здавалася, наскрозь.

Броніку зноў уявілася тое імгненне, калі валілася пад ногі крывавая Пецева галава. Падалося, што то не яблыкі былі, а кроў сябра. Яго скаланула ад такога ўспаміну. На імгненне заблажыла — закружылася галава.

Колька дастаў з «дыпламата» бутэльку гарэлкі, падаў Броніку. Выняў шклянку — «маленкоўскую», гранёную.

— Мама Алена, мы памянём Пецьку, добра?

— Добра, сыночкі, памяніце. Ён чуе вас і таму рады, што вы прыйшлі да яго ў госці.

Шклянка хадзіла па чарзе ад аднаго да другога. Дзіма, пракаўтнуўшы горыч, сказаў:

— Пухам табе зямля, наш баявы сябар. Мы не ведаем, за што ваявалі, за што аддавалі маладыя жыцці — хай тое будзе на сумленні Брэжнева, Грамыкі і міністра абароны, але мы зробім усё, каб пра вас і пра тых, хто быў там, не забыліся ніколі. Ніколі.

Ён у некалькі глыткоў выпіў гарэлку, скрывіўся, як ад болю, перадаў шклянку Вербаву.

— Мы не забудзем цябе, Пецька. Мы будзем наведвацца, расказваць, як у нас ідзе жыццё. А яно будзе нялёгкім. Мы ўжо сустрэліся са злом і несправядлівасцю. Мы яшчэ не ведаем сёння, чаму ў нашай краіне лягчэй жыць прахадзімцу, чым сумленнаму чалавеку.

Мама Алена маўчала. Думак у яе не было. Яна слухала безуважна, бо яны гаварылі яе словамі; казалі пра яе боль.

Вецер кудлаціў валасы былых салдат, і яны апусцілі галовы. Як быццам кляліся Пецьку ў нечым чыстым і сумленным, абяцалі пра-

несці сваю юначую непасрэднасць і барацьбу са злом да канца сваіх дзён.

І ў гэты ж момант, у тым баку, дзе сінеў асмужаны лес, пачуліся тры гучныя выбухі — адзін, другі і трэці... Як быццам гарматы салютавалі героям сваёй радзімы. Хлопцы ведалі, што то рэактыўныя самалёты пераадольвалі гукавы бар'ер, але ў даным выпадку прагучэў салют у гонар афганца Пецькі Карчэмнага і яго аднавяскоўцаў, якіх прывезлі ў родную вёску ў цынкавым адзенні...

Ранічкай праводзіла іх маці Алена з Веркай.

Пацалавала кожнага, пажадала добрай дарогі. Верка махала ўслед, гледзячы на маці.

Да бацькоў Віктара Міцуры было далекавата — ехаць аж пад Парычы. Расказваў Міцура, што жыў на самым беразе Беразіны. Смеючыся, даказваў, што то каля яго вёскі Напалеон перапраўляўся праз раку і ўтапіў нарабаванае багацце.

Да Калінкавіч дабраліся лёгка — дарога была ніштаватай. Далей — выбоіны, каляіны. Хуткасць прыйшлося збавіць амаль да нуля. Так і калываліся да Азарыч. А далей зноў легкавік набраў бег і з кіламетраў трыццаць каціўся лёгка і роўна.

Мінулі Парычы, а там ужо і рукой падаць — Васіленка.

Хата Віцькі стаяла ля саменькай ракі — чуўся плёскат хваль. Нездарма хваліўся, што вудачку ў раку закідваў з акна.

З веснікаў выбег калматы сабака. Спачатку заўзята забрахаў на іх, пасля завіляў хвастом, як быццам прызнаў прыезджых гасцей.

Выйшаў мужчына, зірнуў у іх бок, накіраваўся да іх.

— Міцуры тут жывуць? — Бронік выйшаў наперад, расшпіліў на грудзях куртку.

— Тутачкі, а што такое? — мужчына насцярожыўся, але на імгненне, крутануўся на назе, прыхінуўся да шула варот. — Мо да мяне прыехалі?

— Да вас. Мы з вашым Віцькам служылі. Ці няма ад яго якіх вестак?

Мужчына падцяў губы, яго праця́ў боль, адмоўна крутануў галавой.

— Кажынны дзень чакаем яго. Ноччу стукне што ў дзверы, думаем, што ён. Разам з жонкай у сенцы выбягаем. І заўсягды памыляемся...

Быў ён хударлявы з твару, невысокага росту, у клятчатай сарочцы наросхрыст. Падвыпіўшы — чырвоныя вочы раз-пораз мігалі, слязіліся...

— Хлопчыкі, а за што вы ваявалі? За што? Хацелі масульман у праваслаўных за адну ноч перакаваць? Ха-га, так яны вас і паслухаліся... Гэта ж яму не на Малой зямлі ваяваць за спінамі байцоў. Дык от ён і паслаў няведама чаго і вас. На згубу паслаў. Колькі галоў пакладзена — ці скажуць калі пра тое? Колькі дзяцей не народжана ад іх... ха-га...

Ён пайшоў у веснічкі, спіной запрашаў ісці за сабою. Сабака бег побач — лашчыўся да гасцей.

— Няма, хлопцы, вестак. Аніякіх. І не ведаю, што і рабіць. Але веру, што ён вернецца. Не можа быць, каб не вярнуўся. Жонка да цыганкі ездзіла, да гадалкі аж за Кіеў — сказалі: чакайце, прыедзе ваш сын... А я і без іх ведаю. Таму во, гляньце, і хату пабудаваў у сваім агародзе — для яго. Нядаўна рамы і дзверы ўставіў. Як яечка свеціцца. Хадзіў ён з дзяўчынай, Кацярынкай, да арміі. Яна чакае яго, мы нявесткай яе лічым... ха-га... Вунь у гаражы «Жыгуль» стаіць — яго чакае, каб вярнуўся і адразу за руль. Ён любіць тэхніку. Ха-га... Увесь у мяне. І матацыкл яму купіў, «Яву». Няхай ездзіць, з ветрам спрачаецца...

Гаспадар высмаркаўся, выцер рукі аб сарочку. Паморгаў вейкамі, пазбаўляючыся слязы. Быў ён сівы як лунь, а чалавеку не было яшчэ і сарака. Такі ж быў і Вербаў, але ён быў намнога маладзейшы.

— Пісаў я ўсюды, і адусюль аднолькавы адказ — не ведаем... ха-га...

Голас сіпаты, надрыўны Бязладна махаў рукамі, крывіўся, у чырвоных вачах не знікала гора. А то нечакана дробненька смяяўся. І не зразумець было — ці так чалавеку балела і ён хаваўся за смех, ці зняверыўся ва ўсім і яму заставалася толькі здзекавацца з самога сябе. Ён раз-пораз ляпаў далоньмі па баках, бы шукаў сярнічкі для прыкуркі, пры гэтым аглядваўся, баючыся, ці не глядзяць на яго.

— Адно што хата працякае. І сваю, і яго накрыць не магу Хадзіў да старшыні райвыканкома, падаў заяву на шыфер. Не даў. Кажа, можа, твой сын сам здаўся тым душманам і жыве цяпер сярод капіталістаў, па бардаках з прыгожымі дзяўчатамі балюе... Хацеў за-грудкі яго патрэсці, ды рукі ад яго гідкіх слоў у мяне абвялі. Нічога ў іх аж да самага вечара трымаць не мог. Потым адпусціла... Вы то як, хлопчыкі? — апамятаўся ўрэшце Віцькаў бацька, з вінаватасцю паглядзеў на іх, што не прыкмеціў, як сам балбатаў цецеруком, не даўшы ім і слова сказаць. — Ці ўсё ў вас ладзіцца?

— Папіць бы... — папрасіў Дзіма і першы сеў на прызбу, дарожную сумку каля ног паставіў.

— От пень, не папытаю спачатку, ці елі-пілі хоць з дарогі, пра сваё гора крычу, — пахітаў галавой, знаёмячыся, узбег на ганак, адтуль рукой махнуў: — Я хутка, пачакайце...

Потым з вялізным гладышом выбег з сенцаў. Нырнуў у Сцёпку і праз колькі хвілін выйшаў адтуль — трымаў паперадзе сябе той гладыш, поўны ўжо.

— Во, хлопчыкі, бярозавік з вашчынаю. Каштуйце... От ёлупень, от балда... На наш лес, кажуць, той поскудзі з Чарнобыля меней насыпала, так што не апасайцеся, піце. Гэтай вясной я яго аж чатыры бочкі нанасіў. Думаў, мо Віцька прыедзе, вяселле справім. А што за вяселле без укіслага бярозавіку? На другі дзень вяселля ўся б бочка, а то і дзве за гадзіну і разышліся б... Рабіў старэйшаму вяселле, ведаю.

Першы піў Каралькоў. Піў са смагаю, толькі вострык кадык хадзіў па шыі — уверх-уніз. Адставіў, закаціў вочы:

— Хо-ооо... Во гэта напітак. Ніколі не смакаваў такога.

Перадаў гладыш Міколу. Але той зрабіў колькі глыткоў, выцер рукавом губы, таксама пахваліў квас, аддаў Вербаву.

— Піце, хлопцы, я яшчэ прынясу. Ды што гэта, палкі-ёлкі, я вас квасам паю. Вы ж мо галодныя, і пляшка ў мяне ёсць. Што за сустрэча і знаёмства без кроплі, га?

— Не, дзякуем, — адмовіўся за ўсіх Бронік. — То мы па дарозе заехалі — у Бабруйску былі, шукалі сваіх сяброў. Адрасок ваш помнілі — вырашылі заехаць. Думалі, мо карціна праяснілася... Мы верым, што ён прыйдзе, вернецца. Ваяваў ён добра, а мне жыццё выратаваў. І не толькі мне... Так што за сына вам сорамна не будзе. Як і нам за яго. А цяпер — прабачце нам за нечаканы візіт, але нам пара.

Бронік падаў руку, паціснуў, іле Віцькаў бацька не ўтрымаўся — абняў хлопца, прытуліў моцна да сябе. Потым гэтак жа Кольку і Дзімку.

— Дзякуй, што заехалі. У маіх вачах трошкі прасвятлела. А то як ноччу жыву — цярпення няма. Быў сын, і няма яго — нідзе няма. А вам я веру. Дзякую.

— Мы не адказалі на вашае пытанне — як нам жывецца, — Дзімка падняў з зямлі сумку. — Жывецца няблага. Хацелі б, каб лепш... Але тое ўжо цалкам ад нас не залежыць. Адным словам, будзем старацца, каб ісці ў нагу, і нават абганяючы.

Ён правёў сынавых сяброў да веснічак. Стаў ля іх і пaглядаў, як хлопцы сядалі ў вішнёвы легкавік. Потым памахаў ім рукой, прашаптаў нешта. Горла сціснула даўкая крыўда. Вочы засціў дрогкі туман...

Чуў, як слабенька падаў сігнал Колька, а легкавіка ўжо не бачыў, у яго хапіла яшчэ сілы пастаяць хвілін з колькі, а потым зайшоў у двор і сеў на зямлю — ісці да парога ўжо не змог.

Чалавек сядзеў, падкурчыўшы пад сябе ногі, і смяяўся са сваёй слабасці, адначасова яго сцінаў плач...

Легкавушка выкаціла хлопцаў за вёску. Роўная дарога скончылася, і іх загайдала як на марскіх хвалях.

— Мікола, знайдзі добры павароце, звярні на хвіліну, — папрасіў Вербаў, паклаўшы руку на плячо.

Праехалі яшчэ з кіламетраў колькі, і «жыгуль» нырнуў у бярозавы гаёк, абрамлены ад дарогі невысокімі сасонкамі. Потым машына скацілася і са сцежкі, запынілася між тоўстых камлюкаватых бяроз.

Амаль адначасова яны расчынілі дзверцы і выйшлі з машыны.

Цішыня і лясное паветра ўдарылі ў вушы і лёгкія, ад чаго закружылася адразу галава. Здалося, што ажылі бярозы і пачалі хістацца з боку ў бок, утвараючы свой вясельны карагод. Бронік у наздрыны пачаў уцягваць паветра і прымружыў павекі — і ў скроні ўдарыў хмельны боль. Каб не ўпасці, ён абняў бярозу.

Маўчалі, не гаварылі. У кожнага свой боль, які нічым нельга было выгнаць, вылечыць. Кожны з іх насіў яго ў сабе. Бо ён зліўся з душой, з думкамі і марамі. Прысутнічаў дзень пры дні — і ў сне, і ў весялосці, і ў каханні. Напамінаў пра сябе, прымушаў трымацца ў нейкіх нябачных рамках. І тады ж радасць, якая магла нечакана нарадзіцца, была няпоўнай, а кепскі настрой пераходзіў у зусім апатычны стан. Тады ўсё рабілася непатрэбным і абыякавым.

Выйсця свайму настрою ім цяжка было адшукаць. Хто шукаў яго ў апантанасці сярод жанчын, хто калупаў сабе вены і запускаў у сябе таго мярзотнага змея, які на нейкі час дурманіў мазгі і кідаў у абдымкі дурману — ці то шчаслівых, ці то сонных мрояў. А хто проста бачыў збавенне ад душэўных пакут у шклянцы віна...

Апусціўся на зямлю Бронік. За ім сябры. Ляжалі, знямоглыя і стомленыя. Глядзелі ў неба, а іх душы разрывала крыўда і бездапаможнасць, што ў жыцці яны пайшлі не па той сцежцы, па якой яны маглі прайсці зусім не так, далёка не так...

Іх прымусілі, ім паказалі тую сцежку і сказалі, што іх абавязак прайсці па ёй. І яны пайшлі, падстаўляючы сябе смерці і калецтву, ранячы сваё сэрца і душу кроўю сяброў. А ў канцы той сцежкі аказалася, што і сцежка была выбрана памылкова...

Яно б яшчэ нічога, каб толькі гэта. Аказалася яшчэ, што тая сцежка не стыкуецца з той, па якой яны павінны ісці самастойна далей — па жыцці. Пасля ўсяго, пасля ўся-го... Як рэйкі ўсё роўна

нехта перабльітаў — і шырыні не тое, ды нават і не ў той бок накіраваны. Нейкі тупік атрымліваўся. Аказалася, што пра тую іх новую дарогу ніхто раней і не думаў. Не да таго было — Генеральны сакратар партыі вешаў сабе ордэны за мінулую вайну, было не да іх праблем. Жылі тым днём, які быў. Пра заўтрашні не дбалі. Не хапала мудрасці.

У блакітным прагалку выплыла белая аблачына, бы белы бусел, застыла на момант — бы прыглядалася да зямлі, і паплыла далей пад уладаю ветру. Радавацца і жыццю, душы маладой, гімны і песні спяваць. Ды нешта не спявалася. Нешта сціскала грудзі і не выпускала на волю трапяткую птушку радасці і шчасця. Не скора яна вылеціць, крылы пакалечаны, не вытрымаюць на пругкім паветры. Не ўзнімуць у неба.

— Ну, што рабіцьмем, афганы? — Дзімка сеў, ногі пад сябе падабраў. — Дадому мо пара?

— Табе абы дадому, — азваўся Бронік, — от не можаш без дому. Па горадзе засумаваў, ці што? Ці без каханай і дня пражыць не зможаш? От ляжы і дыхай стронцыем, не падабаецца — на цэзій пераходзь. Цяпер маё Палессе шчодрае і на такое багацце. Вось ты сядзіш і не ведаеш, што хапіў мізэрную дозу радыяцыі. Радыяцыя ўздзейнічае на імунную сістэму. А потым кожнаму з нас пагражае СНІД...

— Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю. Афіцэр адзін гаварыў, які рабіў дэзактывацыю.

— Дык чаму ж дасюль людзей не высяляюць?

— Указу такога не было. Пад вялікім сакрэтам трымаюць. Каб панікі не было. Каб людзі маўчалі і верылі таму, што ім гаворыць прэса і радыё, ён і ў маёй вёсцы правяраў. Казаў, што вёску з першых дзён трэба высяляць. Маці расказвала, як прыязджала раённае начальства высяляць. Проста пацікавіліся, ці хочуць людзі пакідаць сваю родную вёску. Давольнае засталося, што не знайшлося такіх. А намеснік старшыні загадаў, каб маўчалі і прыезджым у вушы нічога не ўводзілі, бо пераселяць туды, дзе Макар цялят не пасвіў...

— Тое ж страшна, Бронік.

— А ўжэ ж, галубец, праўду мовіш — як мая бабка Міхаліна гаворыш. Разумненькі ты, у бацькоў удаўся.

— З адной вайны прыйшлі на другую.

— Хто ж ведаў, што такое няшчасце на нас абрынецца...

— Ведалі. Папярэджвалі — не будуйце міны замаруджанага дзеяння, бо другая Хірасіма будзе. А тут аж трыста Хірасім...

Выехалі зноў на бальшак. Загайдаліся на калдобінах і выбоінах. Кожны прыслухоўваўся да сябе. Пакуль сядзелі і гаманілі ў бярозавым гайку, настрой стаў яшчэ больш прыгнечаным.

Пад'ехалі да развілкі. Управа па ёй — у раённы цэнтр, прама — карацейшая дарога дадому. Колька гнаў легкавушку прама. І тут Бронік апамятаўся:

— Хлопцы, у раённы цэнтр заскочым.

— Да каго? Дзяўчына тут ёсць?

— Да старшыні выканкома. Няўжо мы так і паедзем дадому, нічога не зрабіўшы? Вы ж, як і я, думаеце, чаму так несправядліва адносяцца да нас, да бацькоў нашых. Вось мы давайце і спытаем у раённага начальства чаму. Мо яно і адкажа. Мо праясніць абстаноўачку.

Колька моўчкі павярнуў руль управа. Правёў языком па губах, калыўнуў галавой: «Добра...»

— Тады мы паедзем дадому са спакойнай душой, — уздыхнуў Бронік, нахмурыўся, паглядзеў на Дзіму, збавіў яго ўхвальны позірк.

Легкавік набраў хуткасць.

Хлопцы да самага горада маўчалі.

У прыёмнай сядзела жанчына сярэдніх гадоў — у белай блузцы, з высокай белай прычоскай. Выгляд насцярожаны і ўважлівы.

— Вы да каго? — паднялася адразу, як яны зайшлі ў прасторны пакой — з дарожкамі на падлозе, з абабітымі дрэвам сценамі. На вокнах квяцістыя дарагія шторы.

— Мы? Да старшыні, — адказаў Бронік, весела паглядаючы на яе.

— Іван Пятровіч вельмі заняты — у яго таварышы з вобласці, — перагарадзіла настойліва дарогу сакратар-

— З вобласці? Гэта ж тое, што нам і трэба, — падхапіў настрой і Мікола, асцярожліва адхіліў ад сябе сакратарку, правёў яе за локаць да рабочага месца.

Бронік адчыніў дзверы, прапусціў паперад сябе сяброў. Пачуў, што сказала жанчына:

— Нахалы. Панапіваліся і правы тут качаюць... Выклічу міліцыю — хай у выцвярэзнік забяруць...

З парога хлопцы павіталіся і спыталі:

— Ці можна да вас, Іван Пятровіч?

Мужчына, што сядзеў за сталом, у цэнтры, паглядзеў на гасцей, няёмка паціснуў плячыма:

— Вы адкуль?

Вербаў адышоўся ад парога, стаў паперадзе хлопцаў — пасярод залы, коратка адказаў:

— Мы адтуль — з вайны.

— З якой вайны?

— Што перашкодзілі вашай гамонцы, што ўварваліся нечакана, за тое прабачэння просім. Але спытаць у вас хочам: чаму маці нашага сябра-афганца, які паклаў там сваю галаву, ды і яшчэ пяцёра з той вёскі загінула, не могуць помнікі паставіць на магілах сыноў? Чаму? Ці шкада мармуру для нас, афганцаў? Чаму бацькам Віцькі Міцуры, якога душманы непрытомнага ў палон узялі, ні слова спачування, ні помачы ніякай не аказана? Чым жа бацькі вінаватыя, чым Віцька, што яго пасцігла такая доля? Адкуль такая чэрствасць з вашага боку, Іван Пятровіч?

Старшыня яшчэ больш нахмурыўся, адказаў:

— Чаго ж да мяне такія прэтэнзіі — я іх не пасылаў туды. І вас таксама. Вось і махайце рукамі на тых, хто пасылаў вас на тую вайну...

— Вы, значыць, не пасылалі? Дык, можа, таварышы з вобласці ведаюць, мо яны іх паслалі? Не вы?

Бронік падступіўся да аднаго з іх — таўсматага, з рэдзенькіміваласамі і плюгавым носам, ён недаўменна глянуў на старшыню, як выказваў незадаволенасць: «І такое мы павінны цярпець у вашым кабінеце?»

— Хлопцы, калі вы зрання напіліся, то весяліцеся ў іншым месцы. Тут жа дзяржаўная ўстанова, не рэстаран, — у словах старшыні чулася раздражненне і злосць. — Я ж магу міліцыю паклікаць...

— Не хвалюйцеся, сакратарка ўжо абагнала вас. Міліцыя хутка тут будзе. Толькі мы не п'яныя, як вам бы хацелася. Мы п'яныя ад другога, ад нашай бязглуздай вайны, а таго ніводзін ваш прыбор не пакажа. Мы вам задалі пытанні, вы на іх не адказалі. А адказваць прыйдзецца. Калі не нам, то народу. Гісторыі ў рэшце рэшт...

Старшыня кісла ўсміхнуўся, крутануў галавой:

— Ужо і да гісторыі дабраліся.

— Дабраліся. І таму хочам пачуць ваш адказ. Не адкажаце, заўтра пойдзем у абком партыі. Там пацікавімся.

— Ды не пужайце вы мяне абкомам! — узарваўся Іван Пятровіч, пачырванеў, набычыўся, увабраў галаву ў плечы. — Размахаліся тут шашкамі — у бой ім хочацца. Засумавалі.

— Мы засумавалі? — не вытрымаў ужо і Каралькоў, падышоў да стала старшыні, ухапіў масіўную чарніліцу з мармуру, але яго тут жа апярэдзіў Колька — сціснуў за запясце, скрыгатнуў зубамі, аж пісяг

наліўся бурачковай чырванню. — Ты што — звар'яцеў? Не разумееш, што ён толькі і чакае, калі сарвёмся. Тады нас пад любую стаццю падгоніць. І не дакажаш, што ты з-за Пецькі і яго аднавяскоўцаў прыйшоў да яго... Хіба не бачыш, што ён бюракрат, як і ўсе астатнія, хто тут сядзіць?

З-за стала падняўся хударлявы мужчына ў светлым касцюме, прыгладзіў валасы, паглядзеў прыхільна на хлопцаў:

— Хіба ж так рашаюцца пытанні? Уварваліся, нага,варылі грубасцяў. Няўжо нельга спакойна сесці і пагаварыць? Іван Пятровіч, а хлопцы пытанні ставяць правільныя. Можа, трошкі ў іх абвострана пачуццё несправядлівасці, але ж яны не сабе прыйшлі прасіць. Мо выслухаем іх?

— Ды наслухаўся я такіх размоў. Думаеце, яны першыя да мяне прыйшлі?

— Значыць, ёсць на тое прычыны, каб стукацца ў дзверы.

— На ўсіх загінуўшых у мяне ўсё роўна мармуру не хопіць. Кар'ер сам не адкрыю — няма ў раёне.

Адчыніліся дзверы, і ў пакой зайшло трое міліцыянераў.

— Выклікалі, Іван Пятровіч?

Бронік збялеў. Дрыжачым голасам заявіў:

— Я вам усім заяўляю: калі хто з работнікаў міліцыі дакранецца да нас, здарыцца непапраўнае. Жывымі мы не дамося, запомніце адразу. І таму на сёння ў нас больш няма пытанняў. Для нас усё зразумела — калі вы бяссільныя, тады вам на дапамогу прыходзіць міліцыя. Здарава атрымліваецца. Пайшлі, хлопцы!

Міліцыянеры саступілі з дарогі, але глядзелі на старшыню выканкома — гатовыя былі выканаць яго загад. Глядзеў дакорліва таварыш з вобласці. Але Іван Пятровіч апусціў галаву, нічога не гаварыў, не даваў указанняў.

На парозе затрымаўся Дзіма, абярнуўся, паківаў скрушна галавой:

— Эх вы, слугі народа... Д'ябла вы слугі, няйначай.

Глыбокай ноччу, калі перасталі хадзіць тралейбусы і аўтобусы, кіраваўся Бронік да аўтобуснай станцыі, каб ранічкай сесці на першы рэйс і падацца ў сваю вёску. Дзіма сказаў, каб спаў да раніцы, але яму нешта учаўплося ў галаву, і ён настаяў на сваім:

— Не, Дзіма, дабяруся я да той станцыі. Ды і па начным горадзе прайсціся хачу. Праводзіць мяне не трэба. Дзякую за ўсё. Харошыя былі дні, запомняцца. Прайшлі недарэмна для нас. Я званіць буду табе і наведвацца. І да Колькі таксама.

— Кольку глядзі, яму да ўрачоў трэба — памажы пазбавіцца ад хваробы... Нам трэба астатніх шукаць, арганізавацца. Не ўсё добра ў хлопцаў. Многім дапамога трэба.

— Добра, Бронік. У ваенкамаце нам дадуць спісы афганцаў. Я іх усіх перапішу. Прыедзеш, мы і абыдзем хлопцаў. А мо застаўся б яшчэ на дзень-два?

— Не, дружа, дадому чамусьці цягне. Па маці засумаваў. Крыўдзіцца будзе, што нечакана з'ехаў і не паяўляюся. Во яшчэ што — жаніцца, мусіць, буду. Паклічу вас з Колькам, прыязджайце.

— Добра.

Абняліся, паціскалі адзін аднаго.

Правёў да скрыжавання вуліц, паказаў, як ісці, і вярнуўся дадому. Цяжкі асадак не знікаў. Бронік хацеў пазбавіцца ад яго, каб не везці дадому, да сваіх, да Надзейкі. Цяпер яна яму стала дарагой і патрэбнай. Адчувае яе прыцягненне. Ды і сяброў яшчэ ў вёсцы не ўсіх абышоў.

Ён прайшоў цемнаватую вуліцу і звярнуў налева. Выбіўся на святлейшую, больш доўгую, з ліпамі, з якіх звісала на галовы голле. У руцэ быў бязважкі «дыпламат», — так і не купіў нічога, як мерыўся напачатку, — не да таго было.

У блочным доме, на першым паверсе, у акне гарэла святло. Акно было прачыненае, і чуваць стала, як сварыліся муж і жонка. Абзывалі адно аднаго бруднымі словамі, аж вушы вялі. Па голасе можна было здагадацца, што абое п'яныя — словы не звязныя, адны і тыя ж...

Ён паскорыў крок, каб не чуць сварку, дайшоў да перакрыжоўкі. Перайшоў яе. Стала зноў ціха.

Нечакана справа ён пачуў дзявочае ўсхліпванне. Прыслухаўся, спыніўся. Дзяўчо плакала і прасіла аб помачы. Дарога вяла ў завулачак — да гаража. Асцярожна крадучыся, пайшоў да таго месца. Плач дзяўчыны чуўся мацней. Стаіўся за кустом — рашыў высніць абстаноўку.

— Адпусціце мяне, баліць...

— Нічога, пацерпіш. Для жанчыны тое не страшна. Спачатку баліць, а потым і самой будзе хацецца. Хто наступны, хлопцы?

Толькі цяпер Бронік Вербаў убачыў, што ля варот гаража стаяла амаль распранутая дзяўчына. Здагадаўся, што яе гвалтавалі. Яны рабілі сваю брудную справу і не звярталі ўвагі на яе ўмольныя просьбы.

— Памажыце...

— Пакрычы мне, — пісклявы голас уладарна загадваў маўчаць, — бо прыкончым тут і пакінем. І ніхто не здагадаецца, чаго ты тут апынулася. Хто наступны, пытаю, ну?

— Я! Я наступны! — крыкнуў Бронік і выйшаў са сваёй схованкі, накіраваўся да іх.

Пяцёра азірнуліся, і ў таго, пісклявага, у руцэ бліснуў нож. Але ўдар быў нанесены злева — у бок. Бронік адчуў, як лязо слізганула па рабрыне. Гэта з'явілася тым адпраўным штуршком, калі ён перастаў адказваць за свае дзеянні, за сваю рэакцыю. Перад гэтым ён паспеў заўважыць, як па нагах дзяўчынкі сцякала кроў...

Ён спружыніста падскочыў уверх і ўжо адтуль, зверху, даланёй ударыў пісклявага па патыліцы. Нож выпаў з рук. Калі ж прысеў на зямлю, штуршком абедзвюх ног збіў таго, хто першы выняў нож. Рукамі схапіў трэцяга і паваліў на зямлю.

Усё адбылося так імгнова, што ніхто з іх не паспеў і рот раскрыць, як усе ляжалі на зямлі.

Дзяўчынка ўсхліпвала і села каля металічных варот — страціла прытомнасць. Чацвёра хлопцаў падняліся і кінуліся наўцёкі. Пяты ляжаў тварам у зямлю.

Бронік падышоў да яго, перавярнуў на спіну.

У шэрую цемру глядзелі невідушчыя вочы.

Броніка адразу скаланула і сціснула абручом галаву — не разлічыў, ужыў прыём, як супраць ворага. А даваў жа лейтэнанту слова, што не прыменіць ніколі прыём супраць мірных людзей. Супраць мірных? А нож у яго баку?

І толькі цяпер адчуў боль. Дакрануўся рукой — была ў крыві...

Далей не ведаў, што рабіў. Узяў дзяўчынку на рукі, панёс ад таго месца. Мо на таксі завезці ў бальніцу?

Дзяўчо абвяла, апусціла галаву яму на плячо, цяжка дыхала...

Рэзка ў твар ударыла святло ад фары «ўазіка». Ляснулі дзверцы, і насустрач беглі аператыўнікі. Адзін з іх забраў з рук дзяўчынку, другі ж накінуў на рукі наручнікі.

— Ты забіў яго?

Вербаў няўцямна пацiснуў плячыма. Толькі цяпер адчуў, як па баку сцякала гарачая кроў.

Ён плакаў.

Калі дазволілі развітацца з бацькамі, апошняй падышла да яго Надзейка. У яе ад плачу распухлі вусны і чырвоныя былі вочы. Распэтланая, як страціла розум. У мокрых вачах адданасць і скруха.

— Надзейка, я сяброў на нашае вяселле запрасіў. А бач, як яно ўсё павярнулася... Прабач мне.

— Бронічак, дарагі мой. Я чакаць цябе буду. Я ўсё жыццё кахаць цябе буду. Толькі вяртайся. Я ведаю, ты не вінаваты. Усе ведаюць, што ты не вінаваты...

Дзімка і Мікола падышлі яшчэ раз да яго, абняліся, прытуліўшы галаву да галавы. Сваёй прысутнасцю хацелі сказаць тое, што хацелі сказаць. І тым самым аблегчылі яго пакуты.

Яны так стаялі доўга, аж пакуль вартавы не падаў голас, што пара ісці.

Перад тым як сесці ў машыну, Вербаў азірнуўся. Скінуў з паголенай галавы кепку. Глядзеў на сяброў умольнымі вачыма — як усё роўна прасіў у іх прабачэння.

## КНЯЖАБОР

Ён задраў галаву, прынюхаўся.

Патыхала нечым едкім і смярдзючым. Ад гэтага і насцярожыўся — баяўся бегчы далей, каб не напаткаць якой бяды.

Вецер чуўся ад бальшака — там, не перастаючы, з густым і басавітым перагудам памагалі чалавеку ў рабоце машыны.

Яго, барсука, нешта і цягнула туды, за дарогу, але ж і спыняла боязь. Доўга ляжаў у сваёй схованцы і чакаў нейкіх перамен ціхмяны лясны звер. Ляснік Міхалап ласкава называў яго Паласацікам.

На тым баку дарогі затрашчала галлё, загайдаліся верхавіны дрэў: беглі да вады ласі. Яны капытамі падкідвалі шэрыя камякі зямлі, а перад самай дарогай спыніліся... Тады важак выбег на шлях, перагарадзіў яго сабой, і пакуль не перабеглі ўсе, не рушыў з месца. Ззаду яго спынілася машына — людзі чакалі, калі сахаты перавядзе сваю сям'ю на той бок бальшака.

Стала ціха. І трывожна. Паласаціку расхацелася адпраўляцца ў сваё падарожжа далей. І ён павярнуў назад, павалюхаў, не адрываючы носа ад зямлі — усё прынюхваўся.

Збочыў на светлую паляну, пасярод якой раслі старыя бярозы. Між іх бачыліся сляды жалезных істот, што насіліся па дарозе. У паветры стаяў смурод. Ім, здавалася, набрыняла зямля. Трава счарнела — цэлая латка.

Ад круглай бляшанкі, што ляжала воддалеч ад попелу — людзі ладзілі агонь — патыхаў смачны, прыцягальны пах, казытаў нос. Барсук ткнуўся пысай у раскрытую шчарбатую пашчу. Балюча апякло нос. Ён падскочыў, матлянуў галавой, і бляшанка яшчэ больш упілася ў скуру, сашчаміла сківіцы. І тады Паласацік злосна ўдарыў па ёй лапай і заенчыў ад болю — бляшанка разрэзала пысу.

Барсук пакаціўся на зямлю, не ведаючы, як утаймаваць боль. Чырвоныя буйныя кроплі падалі на траву.

Яго вочы набрынялі слязьмі. Усё бачылася невыразным і шэрым. Ён зашыўся пад парэчкавы куст і не выпаўзаў адтуль. Не сціхаў, дражніў водар таго смачнага ласунку, што так і не ўдалося паспытаць.

Ляжаў нерухома, прымружыўшы вочы. Здавалася, боль пачаў аціхаць. І тым не менш пакідаць схованку жадання не было.

Сонца ўжо асунулася за лес. Наваколле ахутвала шэрань. На траву нанізваліся важкія пацеркі расы.

Яго ўвагу прыцягнуў тупат чалавечых ног, і праз колькі хвілін ён убачыў таго, хто штодня хадзіў па лесе. У чалавека за спіной была смяротная маланка. Паласаціку помнілася тая далёкая вясна і выбух

каля іх нары, калі не стала бацькі і маці. Бліскавіца маланкі і смярдзючы пах помніліся ўсё жыццё.

Чалавек пра нешта гаварыў, хаця ішоў адзін. Потым ён гучна выкрыкнуў, і гулкае рэха паскакала па гушчары.

Толькі як сцямнела, падаўся барсук дадому. Пысу трымаў высока ад зямлі — баяўся павярэдзіць рану.

## Сны — белыя птушкі

Пасля трывожнага і нялёгкага дня Косціка Міхалапа ноччу не браў сон. Раз-пораз ён падбіваў падушку, варочаў яе, але ўсё роўна яна здавалася мулкай.

Ён глядзеў у шэрыя шыбы, аб якія церліся галінкі вішанніку, мусіў думаць пра нешта добрае і спакойнае, але сон усё роўна не ішоў да яго, уцякаў, бы дражніўся.

Паліна ўжо даўно дзесятыя сны бачыла — як лягла звечара на правы бок, адвярнуўшыся ад яго, так і не мяняла позы. А потым яшчэ і храпці пачала. Гэта таксама не давала заснуць, але стусянуць асцярожна яе пад бок, каб легла як інакш, не рашаўся — не хацеў перабіваць сон, ведама, хапіла і ёй за дзень.

Па вуліцы праехала грузавая машына — мо Янік Анэлін, а мо і Паўло Шкварка. Святло ад фар разанула па вачах і ў хаце прабеглася па сцяне — ад ложка да дзвярэй.

Мінула ўжо і другая, і трэцяя гадзіна, а сну і парушынкі не было. І ўсё ж у душы ён дакараў сябе, што не пайшоў да Жамойды разам з камісіяй — запрашалі ж, не Казімір, а госці. Трэба было пайсці, трэба, ён папрасіў бы прабачэння ў памочніка ляснічага за сваю выхадку ў лесе — можа, і сапраўды трэба было ўсё зрабіць інакш, з розумам, а тады далучыўся б да кампаніі... Сеў бы дзе-небудзь з краёчку, нікому не замінаючы, выпіў бы адну, ну, няхай дзве чарачкі, і маўчаў бы цэлы вечар, слухаў бы, пра што гаварылі людзі. Але ў гэты час неўпрыкмет перакінуўся б позіркам з Вікцяю, яго Любі-травою. Так ён назваў яе аднойчы, каб не выгаварыць яе імя ўголас ні пад чаркай, ні ў час яго дзіўнай і незразумелай хваробы.

Яна, Любі-трава, яго радасць і смутак, боль і шчасце. Ходзіць гаспадыняй па яго памяці, па верасовых дыванах, па чаромхавым беразе. Ніводнага разу не выпадала сустрэць яе ў сваім абходзе, хаця ж ведаў, што хадзіла і па грыбы, і па ягады. Як нябачнай сядно рабілася ў лесе, як быццам з шапкай-невідзімкай прыходзіла, каб ад яго схавацца, паздзекавацца.

Але аднойчы яму няйначай памог лясны Бог — паслаў Вікцю на сцежкі яго абходу. Яна ішла няспешна насустрач, у руках несла гладышку з ажынамі. Сам жа трымаў пучок травы, як букецік кветак падрыхтаваў для яе.

Яна акругліла еочы ад здзіўлення, што бачыць яго, але ў позірку непрыхаваная радасць. Павіталася першай, рассмяялася нечага, ажыны да грудзей прыцІснула.

— Што гэта за кветкі ў цябе, Косцік, мо каго на спатканне тут чакаеш?

Яе голас у лясной цішы прагучэў пяшчотнай мелодыяй. У вуснах, налітых і сакаўных, як у маладзёнкі, блукала патаемная ўсмешка.

— А мо і чакаю. Даўно чакаю, ды сустрэць не магу.

— Прыгожыя.

— Прыгожыя, ды пахнуць не вельмі.

Гэтымі зёлкамі, якія цвілі дробненькімі блакітнымі кветкамі, ратаваўся ён ад сваёй хваробы, што чаплялася раптоўна да яго — параіў Ладуцька.

— То ж трава Кахання, Косцік, — яна зноў пасмі

халася, схіліўшы галаву, як дакарала ўсё роўна яго, што не ведае такіх простых рэчаў. — Няўжо не ведаеш? А яшчэ ляснік. — Яна паправіла пад светлай касынкай косы, прыхінулася да бярозы. — Кажуць, што дзяўчаты хлопцам падмешваюць у гарэлку.

— Навошта?

— Каб абраны не разлюбіў, каб кахаў вечна. Апоіць яго зёлкамі — і шчаслівая ўсё жыццё.

— А як сама разлюбіць?

— І такое здараецца, — уздыхнула Любі-трава і тут жа нахмурылася.

— Сама-то ты даўно апаіла мяне гэтымі зёлкамі, — ён усё не адрываў ад яе позірку, адчуваў, як разгараўся ў грудзях шчакотліва-салодкі боль. — Эх, Любі-трава, Вікця-Вікторыя, што нарабіла — няўжо і сама не разумееш?..

Маўчыць Вікця, не ведае, што сказаць, як паспавядацца перад Косцікам, даўно рыхтавалася да сустрэчы з ім, а вось пабачыліся, і разгубілася... Пераміналася з нагі на нагу, пад гумовымі чырвонымі боцікамі чвякала ў імху вада — не высахла пасля апошніх дажджоў. Жанчына кусала вусны, пачала баяцца далейшай размовы...

Выйшла з лясных нетрыскаў прыгажуня-лесавуха і выпрабоўвала на лесніку свае чары. А ён ніяк не мог паверыць у тое, што бачыць яе, што яны адны ў лесе. І не вытрымаў, падышоў да яе, маўкліва сціснуў у сваіх абдымках. З рукі выслізнуў гладыш, упаў у

мяккі мох — стаў на дно, і ажыны не рассыпаліся... Адчуў гарачыню Вікціных шчок — аж апякалі. Такія ж гарача-пякельныя былі і вусны.

— Косцічак, людзі ж убачаць...

— Тут толькі звяры і птушкі. А яны за мяне. Не выдадуць.

— Жартуеш усё, усё жыццё жартуеш.

— А мне і застаецца жартаваць, даўно б памёр ад таго, што ўтварыла.

— Не вінаватая я — дурная была. А ты так лёгка аддаў мяне.

Любі-трава паклала галаву на грудзі, уздыхнула, адчула нейкую палёгку, гнятлівы цяжар упаў з душы. А яму ўсё не верылася, што яна ў яго абдымках, што дыхае ў шыю, наліваецца пяшчотаю і жаданнем...

Недзе ў вершаліне дзяцел адбіў марзянку, перастаў, зноў зашчыраваў.

— Прыйдзі і заўтра сюды — чакаць буду. Тут леснічоўка непадалёк, схаваемся.

— Не ведаю, любы. Куды нам любошчы разводзіць у такія гады. Убачыць хто — сораму не абярэшся.

— То наша ўсё, які тут сорам? Многае ад нас украдзена. Хто верне — людзі?

Яна абняла за шыю, прытулілася шчакой.

— Позна, ой як позна. А жыццё прайшло-праляцела. Кастусёк, а жыла я ўвесь час у чаканні, што вось-вось нешта павінна змяніцца, што ты ўкрадзеш мяне і звязеш на край свету...

— І я жыў чаканкамі. Цябе чакаў. Усё жыццё чакаў. Хацеў нешта змяніць, але не ведаў, як тое зрабіць. Ты жыла ўва мне ўвесь час, кожную хвілінку. І цяпер жывеш. Вечна жыць будзеш...

Яна плакала і не выцірала слёз. То былі слёзы палёгкі, радасці і пакоры.

— Прысядзем?..

Ён кінуў пад ногі кіцель.

Зноў прытуліў, гарачыя жаночыя вусны чакалі пацалунка. Апяклі зноў, закружылі ў слодычнай завірусе, і абаіх невядомая і незямная сіла падняла вышэй дрэў, да воблакаў.

— Любая мая...

— Каханы...

Усплывала — і ў які раз! — да драбніц, тая апошняя, тры гады назад, спатканка ў лесе. Пэўна, Бог вывеў адно на адно, а мажа, яна шапку-невідзімку дома забылася. Не раз пасля думаў: а мо і не было зусім тае сустрэчы ў яго абходзе, мо прымроілася яму ў час хваробы.

Бо ні позіркам, ні намёкам не ўспаміналa, што была ненарокам побач...

Калі спявалі другія ці трэцця пеўні, Косцікавы думкі перакінуліся на іншае. Успомніў Рыжуху-вавёрку, якая днём кінулася прыезджым людзям пад ногі. Як усё роўна бараніла ад іх Барсучыны хутар. Як ён бярог барсукоў — яго клопат і сумленне. Перад імі не выкупіць віны за ўсё жыццё.

Сон змарыў пад раніцу.

Асаблівай любоўю хінуўся ляснік Міхалап да восені.

Ён любіў асабліва тую незвычайную пару, калі цвіло, шугала полымем бабіна лета, калі ападалі на зямлю першыя лісцяныя дажджы. Тады светлымі ўспамінамі прыляталі да яго лепшыя дні, і былі яны падобны на белых дзівосных птушак з павольным і спакойным узмахам дужых крылаў — не то лебедзяў, не то жураваў: дзюбы чырвоныя, ногі тонкія і доўгія, зробленыя з сонечных праменняў і нерушнага снегу...

Тыя птушкі прыляталі ў яго сны. І тады раніцай, прачнуўшыся, чуў, як падпірала пад грудзі шчымлівае прадчуванне чагосьці радаснага і шчаснага. Тыя сны прыходзілі да яго тады, калі набліжалася восень. Стракатая жаўцізна пачынала цешыць вока, і яму тады рабілася трывожна і мулка.

І Косцік на колькі дзён знікаў у абходзе.

Паліна заўважала: у такія дні з ім рабілася нешта неверагоднае — быў хмуры і вясёлы, шчаслівы, і адначасна выпірала вонкі горыч. А ён і сам сабе не мог вытлумачыць такога супярэчлівага настрою. Нешта бунтавала ў ім, мучыла душэўная смага — і ён не ведаў, чым і як наталіць яе.

Калі ж прыходзіў у свой абход, раскрываў далонь з крышанкамі хлеба — і да яго зляталіся палахлівыя сініцы і амялушкі, смела дзяўблі корм. Мог прасядзець у вужыным закутку, гледзячы, як яны поўзаюць па яго нагах і радуюцца дружбе з чалавекам. З аленем і алянухай упобачкі хадзіў, з рук карміў, і яны не ўцякалі ад яго. Толькі Паласацік не падпускаў яго да сябе. Міхалап ведаў чаму.

Стома да яго прыйшла пад вечар.

Але ён не пайшоў да Яркавага дуба, а спешна павярнуў на Адолькаў круг — прасторную лугавіну.

— Адпачывай, Клякса! — загадаў сучцы, падышоў да стога, сеў пад яго. — Паспеў. Добра, што паспеў... Ой як добра.

Па Палессі крочыла маладая восень.

Княжына апраналася ў свае лепшыя сукні.

І — пачалося — падалося яму, прымроілася, а мо і наяве прыйшлі да яго лепшыя сябры. Селі побач і маўчалі, як нечага чакалі. Бліжэй за ўсіх сядзела яна, Любі-трава.

Ад стога патыхала медуніцай, канюшынай і травой Кахання — Любі-травой. Слабыя промні лашчаць твар, а яму здаецца, то Вікця сваімі рукамі дакранаецца да яго, пяшчотна гладзіць, шэпча яму нешта...

У мроі да яго прыйшлі тыя, каго ён любіў і не ўяўляў без іх свайго жыцця. Паласаціка, Рыжуху, ласёў — Цара і Царыцу, вужыка — Сарамлівага, нават воўк — Рэцыдывіст — стаіўся каля явару, скасавурыўся на Кляксу, маўчыць. Модніца — гадзюка, на пні ляжыць, хвост звесіла, слухае цішыню.

Клыпаў некуды дзед Мікіта, убачыў іх, павярнуў, на хаду нешта расказвае, махае рукамі, а рукі ў гліне — бы ў карычневых пальчатках.

— Ты дзе гэта сабе такую кампанію, Мінавіч, падабраў? — хітра пытаецца Ладуцька, з цікавасцю аглядае ўсіх — Паласаціка пагладзіў, нават Сарамлівага ў рукі ўзяў, а вось Модніцу не асмеліўся — баіцца, пэўна, каб не пеканула.

— То ж мае сябры, дзеду... Я іх усіх люблю. Без іх і жыць цяжка.

Вікця пачырванела, адвярнулася, ведама, не хацела, каб убачыў яе тут Ладуцька — каля Косціка — што падумае? Узяла лугавыя кветкі, пачала вянок ладзіць.

Задраў высака ўгору рогі Цар — хацеў дацягнуцца да сакавітай асінавай кары. Модніца ўспаўзла на Косцікаву нагу, скруцілася шэрай вяроўчынай і заціхла, паглядаючы на лесніка.

— Пайду хіба ўжо я, — паднялася Вікця, абабіла рукамі рудую спадніцу — бы ў пылоце сядзела, а не на шаўковай чыстай траве, так ва ўсім, акуратная, разважлівая. — Бо мае каровы разбрыдуцца.

«Мусіць жа ёй перад дзедам Мікітам няёмка, таму і хлусіць пра кароў, — падумаў са шкадаваннем Міхалап, што яна пакідае яго. — Але чаго яна дзеда саромеецца — ён жа ўсё разумее, благога не падумае...»

Ладуцька дастаў з кішэні капшук з тытунём, развязаў яго, набіў піпку, прыкурыў. Зноў загаварыў да Косціка.

— А чаго ты, Канстанцін Мінавіч, з сабою ружжо носіш, а ні разочку ніякай трафеі не прынясеш, га? — стары прыжмурыў адно вока, схаваў яго пад навіслым кужэльным брывом. — Ці баішся каго ў лесе?

— Каго ж мне баяцца? Гэта вунь яны баяцца — і каго? Нас баяцца. І днём, і ноччу. Няўжо такі страшны чалавек, дзед, ты мне на маё пытанне адкажы.

Ладуцька шавяльнуў сівымі бровамі, зноў апусціў іх. Паправіў валоку на лапцях, пыхкнуў дымком:

— Не, Міхалап, чалавек не страшны. Чалавек, можна сказаць, добры, калюх-калюха. Проста сярод нас пападаюцца, як звяры, па два бокі і ўсторч... Прабач. Косцік, што параўнаў з тваімі сябрамі — у цябе вунь і Рэцыдывіст, які летась у мяне гусей пахапаў на поплаве, у сябрах ходзіць.

— Не, дзед, ён гэтага не зробіць — мо далёкі які воўк-прыблуда. А з другога боку, дзеду, што паробіш, жывая істота, Божае стварэнне — і не бяда яго, што корміцца не травой...

— Праўду ты кажаш, калюх-калюха, яй-богу!.. Можа, і я пачну ляпіць іх, тваіх сяброў, яны ж неаддзельныя ад чалавека. Я думаю так, Косцік, — Мікіта прысунуўся бліжэй, нахіліўся да вуха, — што некалі, шмат гадоў назад, звяры і людзі жылі разам, адно аднаму памагалі, і адно аднаго ведалі, разумелі, вось акурат як мы з табой разумеем адзін аднаго. Дык от знайшоўся нейкі зласлівец, нячыстая душа ці як яго лепш ці горш назваць, ды і пасварыў чалавека са зверам. Хто каго зрабіў вінаватым, сказаць не магу, але ж нездарма са злосці мы гаворым: «Не чалавек, а звер...» Няўжо так моцна ўзлаваліся звяры, што сталі такімі лютымі? І няўжо праз нас?

Над дзедавай галавой папоўз шызы дымок, бы слабая аблачынка. Ганчар маўчаў, трымаючы ў пальцах з глінянай покрыўкай піпку, зацягваўся раз-пораз, жмурыў вока. На шчацэ выразна відаць выпуклыя сінія пражылкі, а ў сівой барадзе заблыталася хітраватая ўсмешка.

У сухой вершаліне запрацаваў Каваль у сваёй кузні — з шышак паляцела дробная лузга, бы крылле стракоз, пасыпалася на зямлю. Зноў задраў галаву Цар — глядзеў маўкліва ўверх.

— Дзед Мікіта, папытаць усё хачу — а чаму ты заўсягды вясёлы? — павярнуўся да ганчара Косцік, у вочы старэчыя зазірнуў. — Ведаю, што гора і пакут на тваю душу дасталося — ўга-га колькі!

Дзед кашлянуў, выняў з кішэні скарынку хлеба, пачаставаў Паласаціка.

— Вясёлы, кажаш? Мо яно і так... То добра, калі людзі так думаюць, значыць, я сапраўды вясёлы. Няхай людзі радуюцца і смяюцца з нечага разам са мною і няхай не чуюць, што не смяюся я, а душа мая плача...

— Я, здаецца, адчуў гэта, Мікіта Парфенавіч, але нікому не гаварыў. Але смяяўся разам з усімі — бо і мне было весела.

— Правільна рабіў, што смяяўся. Для таго і выдумляю ўсё, каб людзі мой боль не бачылі, ён — мой, а людзям радасць патрэбна — тады яны будуць лепшымі і дабрэйшымі. Я веру ў людзей, веру ў тое, што яны навучацца разумець сяброў тваіх, вось пабачыш, што палюбяць.

— І я хачу таго ж — вельмі-вельмі.

— Так, Косцік, я вясёлы. І, можа, нават шчаслівы. Бо навучыўся тапіць балючае і горычнае ў рабоце. Гаршкі раблю, гладышы, людзей з гліны ствараю — Бог таксама першага чалавека з гліны зрабіў, і мне робіцца лёгка. Ведаю, што і ты, калі цяжка бывае, ратунак свой у лесе знаходзіш, сярод сяброў сваіх, каля Янкавага дуба, каля Ганарліўкі і Цара — ім давяраеш свой боль і адчай. Бо перакананы — яны памогуць табе, параяць, хаця і маўчаць, не могуць і слова вымавіць. Але ж ты іх разумееш, ведаеш, на што яны скардзяцца. З лесу ты заўсягды вяртаешся памаладзелы, бы пасля сустрэчы з Любі-травою...

Косцік адчуў, што чырванее, і гэта заўважыў Ладуцька, сам зразумеў, што ляпнуў лішняе — хто ж за язык цягнуў, і таму адвярнуўся, быццам шукаў каго поглядам.

— Не саромся свайго кахання, ляснік, насіць табе яго да скону год тваіх. Мне шкада вас абаіх, памагчы чым бы хацеў, ды не ўмею. Усё ўмею, а вось тут... Кахаеш ты яе моцна, ведаю. Гэта твая радасць і шчасце. І — вялікая бяда. Калі не гора.

— Так, толькі не гора. Не, не гора. Шчасце.

— Добра. Я ніколі няпраўды не кажу. Нават ворагам сваім, калюх-калюха...

— Ведаю, дзеду. За што і люблю цябе.

Сціх і Каваль. Ці то стаіўся ў дупле, ці то паляцеў куды. Маўчалі. Звяры разумелі, пра што гаварылі ляснік і ганчар, усё чысценька разумелі. А каб маглі гаварыць самі, то шмат чаго цікавага расказалі б пра сябе. Пра свае пакуты і трывогі, пра свае хваробы і недаўменне паводзінамі чалавека. Яны ж даверліва пазіралі на іх, адчувалі, што паміж імі ўсталявалася згода і ўзаемаразуменне.

— Баліць усяму жывому — няхай ты чалавек ці Модніца, што адпачывае ў цябе на назе.

— Баліць, дзед, яшчэ і як баліць.

— Нам, чалавекам, баліць і ад слова, сказанага зласліўцам ці ворагам. І ад таго, калі хто прыкладзе руку — ды і не толькі руку, а калі што і ў руцэ. Вунь калі германец пахадзіў штыхам па маіх грудзёх, то яны і цяперака яшчэ ныюць, як свежая рана сядно. Так і

жывёла — хатняя ці звер лясны, хоць слоў не разумее, а па голасе, як гаворыш, пазнае, здагадаецца — з дабром ты да яго ці са злом. А калі ж вытнеш выспяткам, то і падыходзіць больш не будзе да цябе — асцерагацца пачне, каб зноў не выцяў... Лясны звер толькі зла ад чалавека і чакае — няхай ён са стрэльбай ідзе ці без яе. А цябе і са стрэльбай не баіцца. Чаму, Косцік, паясні мне гэтую кандзіберыну.

— Не ведаю, дзед. І тое кепска

— То чаму ж, калюх-калюха?

— Даверлівыя яны тады. Да людзей ідуць смела, думаюць, што ўсе добрыя і спагадлівыя. А яны іх карцеччу сустракаюць, і цэліцца не трэба — на крок падыходзяць. І я, толькі я вінаватым раблюся ў іх гібелі. Таму я не да ўсіх добры. Іншых адганяю, паказваю, што і я злы чалавек, такі, як і ўсе, — тады яны ўсіх баяцца. Злыя і на мяне, але застаюцца жывымі ў маім абходзе. Так я кажу, Цар? Не адварочвайся, скажы.

Сахаты крутануў галавой, наглядаў у другі бок, быццам і не яго пытанне тычылася. Пераступіў з нагі на нагу, капытом камяк зямлі выграб і адкінуў некуды ў кусты.

— Не разумею, хлопча, цябе. А як жа гэтыя, што сядзяць і ляжаць тут з табою? — Ладуцька прыжмурыў вока, дабіваўся праўды ад лесніка.

— Яны? — удакладніў Міхалап і не ведаў, як правільна давесці свайму субяседніку сваю думку — ведаць-то ён ведаў, а вось расказаць... — А яны мне памагатыя ў маім абходзе.

— А-а, — дзед шматзначна матлянуў белай барадой, — тады яно правільна, тады яно так, калюх-калюха на два бокі і ўсторч. Ты глядзі, як панятна, хм...

Ды не, дзед. мусіць, нічога не зразумеў. Косцік тое адчуў адразу, як пачуў працяжнае «а-а-а». Ладуцька не хацеў пакрыўдзіць яго, Міхалапа, пакрыўдзіць нездагадлівасцю, і таму так хутка згадзіўся. А мо і зразумеў Мікіта — ён жа ўсё чысценька разумее на свеце, а цяпер во прыдурваецца. Хітры, аднак, дзед.

— Ты вось што скажы мне, Косцік, гаспадар лесу і сябра звяроў, — зноў ажывіўся ганчар, павесялеў. — Чаму ва ўсім свеце вучоныя вывучаюць столькі моў, расшыфравалі гліняныя пісьмы, на каменнях, што пісалі тысячы год назад, а вось мову звяроў не могуць адгадаць? Ці, можа, скажаш, мовы і зусім няма — ні ў птушак, ні ў звяроў, а яны разумеюць адзін аднаго па воклічу?

— Ёсць у іх мова, дзед.

— Тады чаму мы не можам ніяк наладзіць той моўны мост паміж імі і намі? — стары паглядзеў на Паласаціка, што ўткнуўся пысай у

лісце, і паласатыя бакі датыкаліся да ног Цара, на сахатага — той лыпаў пасівелымі вейкамі і слухаў, стрыгучы вушамі. На плячо ўскочыла Рыжуха, як пацвярджала, што яны разумеюць, пра што гаварылі людзі. — Ты ўяўляеш, як бы змянілася нашае жыццё? Ідзеш ты па сваім абходзе і гаворыш Рэцыдывісту ці Цару, якія выйшлі табе насустрач, што заўтра наедуць паляўнічыя, што будуць рабіць на клыкастых аблаву, а па ліцэнзіі будуць адстрэльваць ласёў...

— Фантазёр ты, аднак, дзед, з табою не засумуеш.

Мікіта зарагатаў, за жывот узяўся, шчарбатыя зубы паказаў, а Рыжусе паскардзіўся — яна ўсё яшчэ сядзела на плячы:

— Не верыць ляснік, што вы чалавека разумееце.

— Ды я не пра тое, дзядуля.

— А я пра тое, калюх-калюха... І пра гэта.

Рыжуха шуснула з дзедавага пляча, скончыла на галінку, да Каваля ў госці падалася — пэўна, прасіць, каб новую хатку для яе змайстраваў: шчыліна ў Яркавага дуба збоку адкрылася — добра было б там пасяліцца. А Каваль усё сваёй нястомнай дзюбай можа — у кляновым гаі і ў Барсучыным хутары вунь колькі дуплаў панарабляў, як не ў кожным трухлявым клёне.

— Не я, прырода гэтага не хоча, — зазначыў ляснік, узяў Модніцу ў рукі — яна і не шыпела нават, не палохала сваім джалам, на руку наматаў яе, як пугу. — А парушаць яе законаў нельга — шкода ад таго вялікая будзе. І людзям, і звярам. Таму і патрабуецца ад чалавека самае мінімальнае — не пашкодзіць. Але, на жаль, ён не толькі шкодзіць, а і губіць. І колькі загубіў, што толькі ў кнігах ды ў памяці і засталіся жывыя істоты — вынішчыў усё. А ў паляўнічыя калектывы запісваюцца новыя і новыя стралкі, і ніхто не ведае, што ў іх на душы — з якім сэрцам яны бяруць стрэльбу ў рукі. Бо дзе стрэльба — там і смерць, там і кроў, і згуба... А людзі хваляцца, хто больш забіў, хто трапна пацэліў у звера. Прэміі нават даюць за звярыную смерць.

— Не гавары так, Косцік, ты вельмі страшнае гаворыш.

— А калі тое праўда, дзед?

— От, калюх-калюха на два бокі і ўсторч, дык ты, выходзіць, хочаш забараніць і паляванне, і высечку лесу?

— Чаму? Ва ўсім павінен быць разумны пачатак. Каб чалавек з чыстым сэрцам і светлай душой прыходзіў у лес. Каб брудныя ногі выціраў перад уваходам у лясное царства. Лес — гэта царква, лес — гэта Бог. І адносіўся да лесу як да самога сябе. А мы ж нішчым яго, забываючыся, што пішчым саміх сябе...

— І з-за гэтага будзе благі канец, так? — дзед закашляўся, ударыў кулаком сябе ў грудзі, у пачырванелых вачах выступілі слёзы.

— От, калюх-калюха, я і забыўся, што гліну для работы падрыхтаваў, загалуніўся я тут з табою. А размова нашая, Канстанцін Мінавіч, спадабалася. Як скончу ляпіць, зноў прыйду.

— Прыходзь, дзед Мікіта, я буду чакаць. Ды і не дагаварылі мы з табой.

— А і правільна, не дагаварылі. Іншым разам, бо ўсё і не перагаворыш адразу. Часу ўсё бракуе. Клопаты, каб на іх ліха. І на тым свеце, здаецца, ад іх не будзе паратунку.

Ладуцька пакрысе паклыпаў дадому. Не аглядваўся. Кіраваў у той бок, куды і Вікця пайшла. Па яе слядах лучыў — па роснай і высокай траве, якую вось-вось пачнуць касіць. Тады яна, сохнучы на сонцы, востра і церпка запахне, будзе дражніць і кружыць галаў. Зірнуў туды і Цар. Цаласацік не варушыўся, бы заснуў. Рыжуха скакала з галіны на галіну — мусіць, дамовілася з Кавалём і цяпер радавалася змове. Хітрунння і свавольніца.

Нечага ўстрывожылася Клякса, загірчэла незадаволена і злосна — на яе зірkануў Рэцыдывіст.

— Ты чаго, дурная? — папытаўся ў яе Міхалап, пацягнуўся рукой, каб пагладзіць. — Што цябе напалохала?

Клякса пачала брахаць яшчэ мацней, трывожылася ўсё больш і больш, адступала да гаспадара. І калі наступіла на нагу, Косцік прыйшоў у сябе...

Не адразу ўцяміў, што адбывалася. Зніклі сябры, толькі Клякса засталася — брахала па незнаёмага сабаку, які стаяў воддалеч і пазіраў у іх бок.

— Сядзь, Клякса, супакойся, — загадаў ляснік і сеў, аглядваючыся па баках — ці не было каго больш паблізу. — От, воўчае мяса, не любіш ты суседзяў. Сядзь, ну!

Дадому яму ішлося лёгка, думалася весела. На душы было спакойна і хораша: такога ён і чакаў настрою, калі канчалася, адцвітала бабіна лета.

Клякса насілася па лесе, давала кругаля то з аднаго, то з другога боку дарогі.

Хораша было ёй побач з гаспадаром!

Вікця была ў думках, у мроях, у снах. Трызніў, жыў ёю, марыў будучым з ёю.

У адзін з вечароў, калі вёска рыхтавалася да выхаднога дня, калі Ладзікаў гармонік завярэдзіў сэрцы дзяўчат, накіраваўся Міхалап да Вікці, каб сказаць пра галоўнае.

Ад яго патыхала моцна адэкалонам, і вочы свяціліся ад узбуджанасці і шчаслівай сустрэчы.

Яна стаяла на ганку, расчэсвала мокрыя даўгія косы — толькі што памыла галаву. Косцік пачуў — пахлі рамонкамі і чаромхай, яго лесам і лугам.

— Віцця, я прыйшоў табе сёння сказаць...

— Позна, Косцік. Вельмі позна. Памянялася ўсё нечакана. Жонка я ўжо. Жамойдава жонка, ён, выходзіць, апярэдзіў.

ён узяў яе за плечы — Віцця ўздрыгнула.

— Жарты ў цябе. Не трэба так, Віцця. Я цябе ў жонкі выбраў. І даўно. Хіба не ведала?

— Ведала. Ну і што з таго? Але Жамойда сватоў вось-вось зашле.

— Прагані, чуеш? Праклінаць жа будзеш усё жыццё той дзень, калі за Жамойду пойдзеш. Хіба не ведаеш сама?

— Позна. Я сказала.

Жаданая і прыгожая, налітая сокам жыццядайнасці, якую кахаў больш за ўсіх на свеце, раптоўна стала халоднай і непрыступнай. Чужой і далёкай. Недасягальнай, як вячэрняя зорка, якую ён штодня бачыць у акне.

Віцця заплакала, нічога больш не гаворачы. Глядзела некуды ў засмужаную далеч Княжына — яго абходу — і маўклівасцю сваёй праганяла яго ад сябе...

І яшчэ раз, пазаўтра, прыходзіў ён да яе.

Той жа адказ. Гаварыла груба, як ніколі не ведала яго ці ўбачыла ў ім ворага.

Сярод ночы, амаль пад раніцу, пастукаў у вокны. Папрасіў выйсці на вуліцу. Не выйшла. Ні слова не сказала.

Зразумеў нешта, сэрцам адчуў, што яго намаганні і мары пра Віццю марныя, што сам у нечым вінаваты, нешта зрабіў не так, прамарудзіў, а ў гэты час нешта здарылася страшнае і непапраўнае...

На наступную суботу, пасля танцаў каля Ладзіка, праводзіў дадому сваю суседку Паліну. Не прыгажуню, твар у рабацінні, расточку невялікага, але ж і не ўломак. У вачах смяшынкі. Каля веснікаў абняў за плечы, вясёла загаварыў, сам сябе падбадзёрваў:

— Даўно прыглядаюся, суседачка, да цябе, зразумець усё не магу — калі ж ты расцвіла так, занявесцілася?

— А не скажу, назло не скажу, — какетнічала дзяўчына, не прыдаючы значэння балабольству Косціка, нават пасміхалася з яго заляцання.

— Ну і не кажы. Тады адразу адкажы на маё пытанне — не адкладваючы і не думаючы: а ці пойдзеш за мяне?

Яна засмяялася, ведала, што любіў ён пажартаваць, мастак быў падштукарыць з каго-небудзь.

— Як возьмеш, то пайду, — са смехам адказала дзяўчына, сцепанула плечуком, як бы вызваляючыся ад рук хлопца, — толькі ж ты недарослы нейкі — у абдымках задушыць магу.

— У тваіх і памерці згодзен.

— Балабол ты, Косцік, — уздыхнула дзяўчына — развярэдзіў сусед яе дзявочыя мройныя думкі. — Позна ўжо, спаць пайшлі.

Праводзіліся нядоўга, жартавалі ўсё менш і менш. А калі падыходзіла багатуха, альбо, як яшчэ называлі тое асенняе свята ў Спрымачове — багач, па «мясцовым радыё» было абвешчана, што ў багачную суботу жэняцца Косцік Міхалап і былы паліцай Казімір Жамойда...

### Ладзіў Ладзік вяселле

Тая вясельная субота запомнілася не толькі Косціку з Палінай, а і ўсім спрымачоўцам.

Яму і цяпер бачацца маладымі Ладзік Жменька, Міхал Клімаш, Зюнік Кашаед. Мала тады хто ведаў і здагадваўся, што рабілася ў яго душы. Ладзік адзін ведаў. І яшчэ Вікця.

Жменька — лепшы Косцікаў сябрук. Ён з другога боку быў яму суседам. Яму давяраўся Міхалап ва ўсім.

Ладзік быў гарманіст, якіх пашукаць. Калі браў у рукі гармонік, расцягваў мяхі і браў першы зазыўны акорд — што тады рабілася ў вёсцы! Дзяўчаты не маглі ўседзець на месцы, як птушкі рваліся на ўтаптаны пятачок.

Круцілі полькі каля Ладзікавага двара — цераз вуліцу, пад высокім дубам, на якім штогод сяліліся буслы.

І было ж аднойчы — яшчэ перад вайной... Бусел, мусіць, быў з разумных. Правільней, бусліха. Акурат дзіцяняты ў яе выводзіліся. Сказаць людзям, каб яны паводзілі сябе цішэй, яна, само сабой, не магла — не ўмела. Дык тады пайшла на хітрасць. Танцы былі акурат у разгары. Стараўся барабаншчык — аж над галавой бубен у азарце падымаў.

Нечакана для ўсіх не сваім голасам заверашчала Лёдзя Міхалініна, рукамі замахала, вочы вырачыла ад страху: на галаву ёй з буслянкі ўпаў чорны вуж і звісаў на шыі, як каралі. Паразбягаліся ад яе ўсе ўмомант. Толькі потым, як прыйшлі ў сябе, як ачомаліся, пачалі рагатаць, за жываты браліся. Адной Лёдзі было не да смеху — так у слязах і пайшла дадому, не дабыўшы да канца танцаў.

Косцік узяў таго вужа і аднёс у кусты, пусціў у рэчку.

Буслы пасля таго больш не жартавалі, але Лёдзя ніколі да дуба не падыходзіла.

Дык вось, Ладзік Жменька, дачуўшыся, што Косцік і Паліна рашылі пабрацца, стусянуў сябра локцем пад бок, прапанаваў свае паслугі:

— Ты, Косцік, за музыку не беспакойся. Я не так даўно сучку паршывую забіў, так што і барабан не падвядзе — а вяселле сыграю так, што доўга мяне памятаць будзеш...

— Што ж, буду ўдзячны, — абыякава адказаў сябар, уздыхнуў.

Ладзік мікіціў так: гармонік — добра, але сам гармонік што каса без травы. Да яго яшчэ скрыпка патрэбна — галасістая, пявучая, каб за душу хапала, каб ногі самі ў круг прасіліся.

А скрыпач — Міхал Клімаш — жыў за суседняй вёскай Ясянец, у Жахавічах.

Барабаніць ужо ўмеў і Лёнік, Ладзікаў сып.

Пад вечар, у чацвер, падаўся Жамойда да Ладзіка.

Жменька акурат боты падбіваў — абнасіўся, і на вуліцу не было ў чым выйсці.

— Дзела ёсць да цябе, Жменька, — гопнуўся Казімір важкім азадкам на ўслон, фуражку зняў, на калена паклаў, лоб выцер насоўкай.

— Ідзі, Лёнік, пагуляй на вуліцы, — загадаў Ладзік сыну, а калі той выйшаў, прамовіў: — Ведаю, што па дзелу. Без дзела я табе як зайцу стоп-сігнал.

— Ну, не кіпяціся. Ну, усялякае было... Жанюся я, ты, мусіць, ведаеш?

— І ты таксама? — Ладзік пашкроб мезенцам патыліцу, узяў у губы некалькі цвічкоў, убіў іх, зіркануў на няпрошанага госця. — І каго ж ты так ашчаслівіў, калі не сакрэт?

— Бы і не ведаеш. Вікцю бяру... А вяселле без музыкі, сам панімаеш.

— Разумна кажаш, як кітайскі мудрэц. Без музыкі вяселле — памінкі. Толькі вось як Вікця асмелілася за цябе выходзіць, ніяк розуму не падбяру.

Жамойда перасмыкнуўся тварам, але зрабіў выгляд, што нічога не чуў, прапанаваў галоўнае:

— За цаной не пастаю. Паўтары тысячы адвалю.

Ладзік хмыкнуў, крутануў галавой, заўсміхаўся:

— Ого! Такіх грошай мае рукі і не трымалі ніколі за маю музыку. Аказваецца, не цанілі мяне людзі, дышла ім у зад.

— Не цанілі, Жменька! Твая музыка не мае цаны, бо яна незямная. Яна душу мае.

— А ты маеш, Казімір?

— Што — грошы? Я прынёс цяпер палову, а астатнія пасля вяселля аддам, як адыграеш — слова гонару.

— Як будаўнікам хаты астачу аддаваў, так? — Жменька з прыжмурам паглядзеў на яго. — Здорава ты іх аблапошыў. Не, Жмонда, я не пра грошы. Грошы — гэта гаўно, я пра другое — пра тваю душу. Ці ёсць яна ў цябе, га? Вось тое я не ведаю.

— Што ты мне тут натацыі чытаеш! — твар Жамойды пачаў палівацца ліловасцю, асабліва карак — дакраніся сярнічкай, і загарыцца. — Ты кажы прама — будзеш граць ці не? Тады другіх шукаць буду. За такія грошы...

— А во табе, а не музыку, — паднёс Ладзік яму пад нос складзеную дулю.

— Ну-уу, ты!..

— Дугу гну, — падхапіў Ладзік, нахмурыўся, у яго вачах забегалі помслівыя агеньчыкі, за малаток хапіўся — вось-вось гваздане ім па цемечку з маленькай лысінкай. — З-за цябе мая жонка на той свет пайшла, з-за цябе цётка Ахрэміха ў турме... Не, Жмонда, няма ў цябе душы. І сэрца таксама.

Казімір стаў як хмара, набычыўся, бровы ссунуў над вачмі — мог бы, дык спапяліў бы Жменьку, растаптаў бы.

— Людзі помняць, як ты лататы даў дадому, не памогшы параненым хлопцам. І куды прыбег — прама ў паліцаі, да немцаў падаўся.

— Ты... ты гэтага не чапай! — Жамойда рвануў каўнер кіцеля, порстка павярнуўся і, грукаючы важка наваксаванымі ботамі, падышоў да дзвярэй. — Не чапай, таго, чуеш? Што было, тое сплыло.

— Сплыло, хм...— Жменька пахітаў галавой.— Сплывае гаўно... А твае чорныя справы людзі помняць і не забудуць. Вон, паршывец, з хаты! Бо заб'ю цябе тут, на сваім парозе. Во-оон!..

Жамойда выкульнуўся за парог, моўчкі і цішком выбег з двара на вуліцу. Праклінаў сябе, што прыплёўся да Ладзіка. Думаў, што на вялікія грошы клюне...

У той жа дзень падаўся ён у раённы цэнтр — шукаць музыкаў.

А Паліна расцвіла нібы кветка ў сваёй прыгажосці — усё усміхалася пяшчотна Косціку, хінулася да яго. Не пазнавалі спрымачоўцы яе — зардзелася, бы спелая вішня, не хадзіла, а лётала ад шчасця.

— Палашка-мурашка мая, — гладзіў па косах, дыхаў у цёплую шыю, — не пазнаць цябе, нейкая іншая стала, на ранейшую непадобная.

— Горшай зрабілася? — яна гарэзліва прыкусіла язык, чакала, што адкажа.

— Не, ты ўся свецішся ад шчасця.

— Як шкло?

— Не, як неба. Такой ты не была.

— Так, Косцік, не была. А цяпер заўжды такой буду. Для цябе буду. Бо кахаю цябе. І так даўно, і так моцна, што ты і сам не ведаеш...

Ён мацней туліў яе да сябе, адганяў няпрошаныя думкі, што лезлі ў галаву і не давалі спакою.

— Добра, мая мурашка, і я цябе кахаю... Мы будзем шчаслівыя, я веру ў тое.

— І будзеш думаць толькі пра мяне, так? — з непрыхаванай трывогай папыталася яна і адвярнулася, заплюшчыла вочы — апамяталася, спужалася, што не тыя словы сказала, выдала сваю трывогу, губу прыкусіла — моцна, да крыві. Твар у плячо яму схавала, каб не бачыў яе вінаватасці.

— Цяпер у нас адна сцежка на дваіх.

Пра сябе ж падумаў: «Цяпер толькі пра цябе... І грэх будзе думаць пра Вікцю, грэх. Вырву яе з коранем са сваёй душы».

Плылі па небе белыя, бы ашмоцце ваты, аблокі. Вецер гнаў іх на захад — бы пастух падганяў авечую атару-

Ён не адымаў рукі ад Палашчыных кос, глядзеў задумліва на аблокі і верыў, што ў заўтрашнім дні ў яго будзе добра і суладна.

З-за лесу, з-за Княжына, высака ў празрыстым небе, равучы маторамі, ляцелі сваім курсам самалёты. Гул набліжаўся, мацнеў...

Ён сабраўся ў камяк, натруціўся, у яго анямелі рукі і ногі. Паліна адчула яго здранцвенне, укленчыла побач, зазірнула ў растрывожаныя і поўныя сполаху вочы, страсянула за плечы:

— Што з табой, Косцік?!

Ён доўга не адказваў, выдыхнуў з сябе паветра, прамовіў глуха:

— Нічога, Палашка, нічога, то я так... Юнкерсы, маць іх...

— Табе холадна — дрыжыш увесь?

— Не, душна. Хутка пройдзе.

Яго біла ліхаманка. Зноў кідала вобземлю, укрывала ўспоратай разрывамі бомб зямлёю — страх прымушаў сціснуцца сэрца ў трапяткі камячок, з горла восьвось вырвецца немы крык... ён сіліўся вырвацца з таго пекла, адпіхваў ад сябе Палашку, нешта шэптам крычаў, прасіў, пагражаў...

— То не юнкерсы, Косцік, то нашы лётчыкі, — гаварыла яна, сціскаючы за плячо. — То вучэнні ў іх...

Яна ведала, што нямецкія самалёты на пачатку вайны пад Рагачовам разбамбілі эшалон з навабранцамі.

Сярод іх былі Міхалап і Жамойда.

Ладзік быў старэйшы за Міхалапа. Не сказаць, каб і на многа, але ж. Ладзік пасля таго жудаснага дня пад Рагачовам прыбіўся да акружэнцаў і разам і імі выходзіў з пасткі. А потым дабіраўся, як і Косцік, да сваіх.

Так ужо выйшла, што Ладзік увесь час апекаваў Міхалапа — хадзіў з ім на заданні, спалі побач. Клапаціўся, як аб малодшым браце. І не з-за таго, што былі суседзямі. І не па той прычыне, што бацькі да сябе Лёніка ўзялі, як не стала Анюты. Проста лічыў Жменька сваім абавязкам быць з ім побач.

Ладзік запрог каня, гармонік пад сена засунуў. Перацягнуў па азадку Ёршыка і памчаўся па спрымачоўскай вуліцы.

Да Ясянца, куды ён выбраўся, было і не так далёка — каля дванаццаці кіламетраў. Дарога была добрая, утаптаная. Ён ляжаў на возе і ўзіраўся ў неба. Спляліся магутнымі кронамі і шапталіся з небам высозныя сосны.

Некалі вось так, вясновай парой, перад вайной, ён ехаў з Анютай — забраў яе з раённай радзілкі. Баба Настазя прыняць роды не асмелілася — параіла везці ў горад. Між іх, на падасланай посцілцы — Анюціным пасагу, ляжаў у пялюшках сонны Лёнік. Яны сплялі над ім рукі, галовы датыкаліся, і ён чуў пах яе кос — яны заўсёды пахлі ў яе багуном. Здавалася, яны былі ў Княжыне.

Ляжалі і маўчалі — за іх гаварылі сплеценыя рукі. У жылах кіпела, пульсавала маладая кроў. Прыемна казыталі косы, і ён пяшчотна гладзіў іх, перабіраў у пальцах.

Калі выехалі ў поле, у тугім блакіце жаўранкі ўхвалялі вясну. Яны адначасова павярнуліся адно да аднаго — як дамовіліся, і доўга глядзелі адно аднаму ў вочы...

Помнілася светлая яе ўсмешка, шчаслівы позірк. Як смяялася, блішчэлі белізной зубы, хмельна кружылася галава. Здавалася, што абапал дарогі не стаяць, а танцуюць, кружацца сосны ў любоўным танцы. Ладзік тады вельмі шкадаваў, што не ўзяў гармоніка: у душы складвалася нечаканая пяшчотная мелодыя, ён бы сыграў яе для Анюткі — і яна ўсё зразумела б...

Колькі разоў, у гадзіны адзіноты і суму па ёй, Анютцы, спрабаваў аднавіць у памяці тую мелодыю, але яна была як няўлоўная птушка, выпырхвала, не давалася. Ігралася нешта другое, падобнае, але не тое... Калі не стала Анюты і мелодыя выскачыла назусім з памяці.

Воз тарганууся, і Ладзік адарваўся ад сваіх спамінкаў, перавярнуўся на жывот і паглядзеў на дарогу: блізка была рэчка.

— Смялей, Ёршык, не бойся! — таргануў лейцы. — Н-ооо!..

Адышоўшы ад берага, каняка спыніўся. Нахіліў галаву да вады. Піў доўга, з перапынкамі. Рачулка светлая, бруістая. Густой сцяной абапал нябачнай дарогі цягнуўся рагоз.

Конь вывез яго на поле. Удалечы, за ўзгоркам, быў Ясянец. За ім — рукой падаць — Жахавічы.

Міхал быў у двары — падстрыгаў незнаёмага чалавека.

— Прывітанне цырульніку! — падышоў да іх, паручаўся і здзівіўся — на табурэтцы сядзеў Ерамей. У партызанах разам былі, як і з Міхалам Кліматам.

— Прывітанне, браце! На асабістым транспарце?

— А як жа. Нам без гэтага нельга — панец дык панец.— Жменька ўсеўся на прызбу, дастаў курава.

— Пр а вяселле перадавалі?

— Ага.

— Ну і што скажаш?

— Хто ж адмовіцца, калі па цябе на такім транспарце прыехалі. Як па пана, яй-бо.

— А што за вяселле, Ладзік? — павярнуўся, не вытрымаў стары. — Хто жэніцца — мо ведаю?

— Ведаеш, дзед Ерамей. Косцік Міхалап, ён і табе перадаваў запрашэнне.

— Косцік? — устрапянуўся стары. — Дык і я ж, браткі, паеду да яго. Як не паехаць — што вы. Я ж для яго некалі наркозам быў, як Жыльскі рабіў аперацыю Помніш, Ладзе?

— Чаму ж не помніць.

— А каго ж ён бярэ — ці не Вікцю часам?

Ладзік закурыў, зацягнуўся глыбока.

— Не. Паліну Якубаву бярэ.

— А я думаў... — дзед уздыхнуў, апусціў галаву, каб не замінаць цырульніку.

— Індык думаў... За Жамойду Вікця выходзіць. За фінагента. Разам, у суботу, жэняцца.

Доўга не бавіліся, сабраліся хутка. Міхал з Ера.меем паклалі ў воз барыльца з самагонкай — для вяселля. І пра тое прасіў Ладзік у Міхала. У цабэрак — дубовы, новенькі, паклалі такі-сякі харч — з пустымі рукамі сябры ехаць не хацелі.

Дык жа па дарозе Міхал не ўтрымаўся, адліў у кварту — як не поўную, з барыльца, падаў спачатку Ладзіку, той — Ерамею, сам жа дапіў апошні. Прыкусілі хлебнай скарынкай — вясельнага не чапалі.

— Дык ты, хлопча, не дасказаў, — таўхануў Ерамей Ладзіка плечуком. — Размова мужчынская, без плётак, таму і на чысціню —

чаму не з Альшанскай Вікцяй Косцік пабраўся? Сам перадумаў, ці што іншае?

«От, ёлкі-маталкі, і яму муляе — хочацца Вікцю ў Косцікаў ложак пакласці...»

— Не перадумаў. Яна перакруціла ўсё. Жамойда да яе нейкі падыход знайшоў, а які — невядома. Яна ж не па любві выходзіць за яго. — Ладзік сцебануў пугай па сцегняках, нокнуў. — Нічога, Паліна неблагой жонкай будзе, калі не лепшай. Здаровая, працавітая...

— Ну й дзяла, — уздыхнуў стары, сказаў словамі Міхалапа — той заўсёды так гаварыў, калі здзіўляўся з нечага. — Паламалі сабе жытку...

— Дзяла, як сажа бяда, — падхапіў вазніца.

— То ж ён тады так стараўся вылечыць яе, барсучыны тлушч пасіў .. — працягваў задумліва Ерамей, шкадуючы шчыра, што ўсё так атрымалася. Быў ён у байкавай сарочцы, коратка падстрыжаны, памаладзелы. Толькі ў вачах ад пачутага быў сум.

Пачалося балотца. Зачаўкала, захлюпала вада з тванню.

— Не лянуйся, Ёршык, паехалі, — махнуў пугай Жменька.

Патыхала гнілым ламаччам, застаялай вадой. Стромкія алешыны — без аніводнай галінкі да вільчыка, густа раслі па ўзболатку. Кожную аплёў дзікі хмель, і ён церпка ўплятаўся ў лясны настой.

— Хлопчыкі, а мо яшчэ па грамчыку? — падвесялелымі вачыма паглядзеў Міхал на Ладзіка, потым на Ерамея.

— Хопіць, — строга і непрыступна адказаў, не аглядваючыся, — яшчэ вяселле не пачалося, а мы цёпленькімі прыедзем.

— Ну, не — дэк не, — адразу і згадзіўся Міхал, — але ж сёння дзень такі ў нас — весяліся, колькі ўлезе.

— Во-во, весяліся, а не прыкладвайся. Калі ж ты занадта вясёлым за скрыпку возьмешся, то невядома што і выйдзе з твайго грання... — паўшчуваў дзед, але яго тут жа, узарваўшыся, перабіў нецярплівы Міхал, акругліўшы пакрыўджана вочы: — Невядома, што выйдзе?! Ерамей Арыстархавіч, ці ты гэта гаворыш?

— У Косціка пасля спытаеш — добра было ці не.

— А я і пытацца не буду. Бо кепска ніколі не іграў.

Ладзік маўкліва ўсміхаўся, бо ведаў, што Ерамей проста хоча падзавесці Міхала — любіў стары пасмяяцца над чалавечай слабасцю. А Міхал мог «завесціся», як кажуць, з паўабарота.

— Як сказаць — для каго добра, а для каго... Месяц назад іграў разам са мною. Сыграў толькі раз ці два, а пасля напіўся так, што і разбудзіць не маглі.

— ...Хто н-напіўся? Я?! Ну, напіўся, але з-за чаго, ты ведаеш? Га, ведаеш? — крануў Міхал старога за плячо, да сябе павярнуў — успрыняў усё сур'ёзна, а таму і пачаў заікацца. — У мяне ж тады п-палец нарваў левы, бо стрэмку пад пазур загнаў. Я ж н-ніводнага гуку не мог правільна ўзяць. Ад таго і напіўся. Ад злосці, дзед, напіўся, а ты... Эх ты, дзед... — ён схіліў пакрыўджана галаву, як плакаў усё роўна ад крыўды.

Конь вывозіў іх ужо на сухое. Пад гару пайшоў весялей, спяшаўся да светлага прагалка, што свяціўся наперадзе. Як з падзямелля выехалі на святло — усе зажмурыліся.

— А Косцік баяўся, што дождж можа паліць, — гучна крыкнуў Ладзік. — Не пальe — бабіна лета на дварэ, багач — залатая вяршыня восені...

— Залатая!

Паездка весяліла, хацелася блазнаваць, дурэць.

— Цяпер-то хоць нічога ў цябе не апухла? — не адставаў Ерамей.

— Нічога, а што?

— Мы ж з табой даўно рэпеціравалі — давай папробуем.

— Давай! — радасна адгукнуўся на прапанову Клімаш, пачаў адкрываць футарал са скрыпкай. — Эх, шкада, ёлкі зялёныя, гармоніка няма, мы б урэзалі!

— Як гэта няма? — павярнуўся да іх Ладзік, дастаў з сена гармонік, загорнуты ў фуфайку. — А ета што?

— Эге-ге, жывем! — крыкнуў на ўвесь лес Міхал, ляпнуў дзеда па плячы, той аж пахіснуўся. — Жывём, ядры яго корань!

Весела пераглянуліся, мірганулі адзін аднаму, як рашаліся на нешта значнае і тайнае.

— Вы пачакайце, я трошкі скрыпку навяду, — папрасіў Міхал, правёў смычком, падкруціў струны. — Даўно, халера, не браўся за яе — ад вяселля.

— Гатоў?

— Гатоў!..

Яны ўжо выехалі на бальшак — шырокі і прасторны. Гудзелі аднастайна і нудна тэлеграфныя слупы — як скардзіліся на што.

На дратах сядзелі ўроссып вераб'і — як ноты на нотнай лінейцы, чырыкалі свае песні на асеннім сонцы.

Да ездакоў данесліся слабыя гукі бомаў. Нікога не было бачна, але голас званочкаў — шамкоў — набліжаўся, званчэў. Ужо чуліся ззаду і вясёлыя галасы, нехта «нокаў», падганяў коней, а пасля і ўбачылі іх — вынырнулі ззаду, з-за павароткі, кідаліся ў вочы расквечаныя коні і дугі. Адзін вазок, другі...

— Во, гэтага нам яшчэ не хапала, — нахмурыўся Жменька, зіркаючы ў іх бок. — Ад бацюшкі Жамойды едуць — вянчаліся.

Вясельны картэж няўмольна набліжаўся да іх — .шамкі звінелі звонка і залівіста. На першым возе сядзелі Жамойда і ў белым вэлюме Вікця — строгая і на сябе чамусьці непадобная.

— Дарогу! Эй, дарогу-ууу! — крыкнуў, стоячы на возе, невядомы дзяцюк, махнуў доўгай пугай, нацягнуў цуглі так, што ў коней з храп паказалася белая пена.

— Эн, дарогу! Эге-ге! — падняўся ўжо і Жамойда, закрычаў незадаволена грамавым голасам, — не бачыце, вяселле едзе!

і тут Ладзік міргануў сваім сябрам, ірвануў на грудзях гармонік, як не разарваў яго, кіўком галавы загадаў:

— І-іі-ах!..

— ... ах! — падтрымалі яго музыкі акордам.

Першы акорд прагучэў як выбух няйначай, бо коні, што амаль дацягваліся пысамі да іх воза, спудзіліся, галовы задралі, на заднія ногі сталі, заржалі пранізліва і з пагрозай. Запынілі задніх, якія напіралі, не маглі стрымацца.

Картэж пакрысе пачаў аб'язджаць іх, воз нахіліўся над канавай — вось-вось перакуліцца...

Закрычала ад страху Вікця, за Жамойду хапілася, ратавалася, шырака і спалохана раскрыла вочы — левыя калёсы адарваліся ад зямлі...

Музыкі ігралі бадзёры кракавяк. Ігралі зладжана, злосна і адчайна, як ніколі і нідзе не ігралі. Бадзёра, з нейкай зухаватай помстай, часцей і часцей — як быццам кідалі дробныя і калючыя каменьчыкі ў вясельнікаў. Музыкі назіралі і ўсміхаліся, бралі яшчэ большы тэмп, а высозныя меднаствольныя сосны, бы царкоўныя званы, панеслі музыку па Княжыне, паднялі яе над лесам — і паляцела, паскакала яна свавольным пругкім мячом па вершалінах Дрэў: усё вышай і вышай, далей, набіраючы сілу і моц...

Нахмурыўся ад такой абразы Жамойда, з размаху ўдарыў пугаўём па конях — раз, другі, стараўся хутчэй адарвацца ад Ладзікавай кампаніі.

Вікця старалася не глядзець на музыкаў. Яна раней за Жамойду адчула, што яны смяюцца над імі, здзекуюцца, рагочуць па ўвесь лес, помсцяць за нешта...

— Дарогу! — крыкнуў з другога воза таўсматы чалавек, перавязаны вясельным ручніком — пэўна, быў за свата.

І яго ніхто не паслухаў. Ён гэтак жа махаў пугай, і кончык сырыцы балюча пекануў Ладзіка па шыі. Жменька мацюкнуўся, злосна зірkануў услед, але не адрываўся ад гармоніка.

— Эй, вы! — крыкнулі з трэцяга воза, але і той голас захліпнуўся і патануў у гуках бомаў і музыкі.

І яны аб'ехалі іх, ледзьве не скаціўшыся ў канаву.

Пад ветрам развяваліся стужкі, звінелі шамкі, іржалі коні, але гучныя акорды глушылі ўсе гукі, падміналі пад сябе, ляцелі вольна і ўзнёсла па Княжыце.

Колькі Ладзік ні сцябаў пугай па Ёршыку, той не меў асаблівай ахвоты даганяць вясельны картэж — перайшоў на лянівы крок.

— Ледзьве пад адкос не спусцілі, як у партызанку эшалон нямецкі, — заўсміхаўся Клімаш, глядзеў задаволена ўслед жамойдаўцам. — Запомняць яны наш кракавяк.

— Запомняць.

— А вочы ў Вікці, ніколі такіх не бачыў — спалоханыя, злыя… На што рашылася?

— І я тое заўважыў, — згадзіўся Ладзік, кладучы пад ногі гармонік.

Вясельныя людзі аддаляліся ад іх, галасы цішэлі, а пасля і зусім замоўклі.

Да сталоў не хапіла дзвюх лавак, і Косцік пайшоў да Ладзіка — узяў на гарышчы дзве дошкі. Як злазіў па драбіне, учуў гукі далёкай музыкі. Яна адразу аціхла, і ён падумаў, што тое ўсё яму падалося.

Ідучы дадому, ужо выбраўшыся на вуліцу, зноў да слыху далящела мелодыя гармоніка, бубен чуўся — як хто Ладзіку нехта памагаў.

Ужо як падыходзіў да сваіх веснікаў, выразна пачуў перазвон медзі і адразу пра ўсё здагадаўся. І як прырос да зямлі, не мог скрануцца. Так і стаяў, забыўшыся перакінуць праз плот тыя дошкі — як прыраслі да ягоных рук.

А бомы ўсё набліжаліся і званчэлі, выразней чуліся перазвоны — яны заглушалі музыку, якая чулася перад гэтым. Паказалася з-за павароткі першая тройка — расквечаная, вясельная, — імчалася, што было моцы, набліжалася да Косціка — галопам неслася акурат на яго.

Яму б саступіць, нырнуць у веснікі, схавацца ад

сораму, але як на тое ногі не краталіся з месца — як прыклеіліся да цёплай зямлі, прысмакталіся падэшвамі…

Ён пачуў ужо і задзірысты, п'янаваты голас — ведай нашых! — паганятага, а пасля, як убачыў Вікцю, пахаладзела ўсё ў грудзях, як лёду наеўся, а твар як хто кіпнем абдаў — гарэў у агні…

Нявеста была ва ўсім белым, толькі вочы... Вочы з няўмольным жахам глядзелі на яго, бы прасілі літасці, бы малілі пра нешта.

— Но, варанныя! — размахваў папліскай паганяты, зухавата ссунуўшы на патыліцу кепку з тоўстым брылём. — Но-ооо! Вяселле едзе, дарогу!

Ён хацеў адвярнуцца, каб і не глядзець у той бок, але нешта працівілася ў ім — глядзеў адкрыта і з нянавісцю, сціскаў ад крыўды зубы, аж да болю.

Жамойда знарок хіліўся да нявесты ўсё бліжэй і бліжэй, аблапіў рукамі, цалаваў. Рагатаў, размахваў рукамі. Пэўна ж, назло яму, Косціку.

— Давай, Лявон, гані вараных! Няхай усе бачаць, хто жэніцца! — крычаў п'яным голасам Жамойда і абдымаў, туліў да сябе Віктю Альшанскую.

Косцік ужо нічога не заўважаў вакол — як што засланіла яму белы свет, як хто шэрую палядру накінуў на вочы, — толькі яна, Вікторыя Альшанская, Любітрава, стаяла ў вачах. За кароткі час ён паспеў узненавідзець яе, праклясці, змірыцца з горычнай думкай, што не кахала яна яго, таму і пайшла за Жамойду, фінагента.

Яны пранесліся паўз яго як шалёны вецер-ураган. Пасля іх густа ўзнялася пылота, і Косцік патануў у ёй, не могучы выратавацца. Не мог і засланіцца — занятыя былі рукі. Толькі зажмурыўся, адвярнуўшыся ад дарогі.

Такой і запомнілася яму Віктя перад вяселлем — у белым вэлюме, зніякавелая і разгубленая, найбольш вочы — такога позірку ён не помніў ні да гэтага, ні пасля. Яна як быццам баранілася ад некага ці нечага, бо ў апошні момант, калі параўнялася з ім, бездапаможна і з нейкім адчаем далонямі закрыла пунсовы твар і, падалося, закрычала.

Ён не сышоў з дарогі, як стаяў, так і ўкленчыў на зямлі, выпусціўшы перад тым дошкі — яны балюча ўдарылі па нагах.

Адплывала ў нябыт ягонае залатое шчасце, ягоная надзея і загадка... І не забыць яму яе тую, даўнюю, зблажэлую, чорную, бы сопуха, з шэрымі паўкругамі пад вачмі. Косцік памятаў яе пасля хваробы — слабую, з ціхай радасцю папраўкі. Радаваўся тады, што дзяўчына перамагла цяжкую хваробу — верыў, што памаглі барсукі, тлушч ад іх.

Міхалап апамятаўся, устаў з пыльнай дарогі, азірнуўся, ці хто не бачыў, пацягнуў дошкі ў двор.

У галаве гуло, як і тады, каля чыгункі, калі кантузіла ў час бамбёжкі. І тут, як пры бамбёжцы...

Валілася ўсё з рук, выслізгвала, бы намыленае было. А ў вачах яна, Любі-трава...

Яму раптоўна адкрылася высноўе-здагадка — яна абвінавачвала яго ў нечым. У чым?

«Божачка, што я нарабіла? Ці не буду пасля каяцца? Каго бокам абышла, каго адпрэчыла? Чаму не расказала Косціку — няўжо не зразумеў бы, не прасціў?.. Але ён забіў бы Жамойду, у турму загрымеў бы...»

— Ты не спіш, доню? — нахіляецца старая Анэта над дачкой, прыслухоўваецца.

Віцця не абзываецца. А потым плач вырываецца вонкі, раздзірае грудзі. Шыю халадзілі пацеркі, напаміналі...

...Яна нудотліва паглядае ў акно, чуе, як шапаціць лісце пад лёгкім ветрам, ёй хочацца туды, на вуліцу, да людзей, да жыцця. Але яе не пускае доктар, кажа, што сіл у яе зусім няма. А адкуль ім брацца — каторы месяц раскашоўваецца ў бальнічнай палаце.

Тады ж, на канцы вайны, здавалася, што хвароба адступілася, прайшла. Мо яно так і было, а калі капалі з маці бульбу, наклікала на сябе яе зноў. Паліў раптоўна дождж, а заставаўся невялічкі загончык. «Ат, дакапаем, доню, — уздыхнула Анэта, накінуўшы дачцэ на спіну мяшок — каб не так мачыў дажджыска спіну. — Колечкі ўжо яе тутака засталося...»

Дождж быў цёплы, холаду не адчувалася, ну, ні кропелькі. А вось пад раніцу адчула, што гарыць уся ў агні...

Адрадзілася старая хвароба, па новым крузе пайшла. І што ні рабілі, чым ні лячылі, барсучыны тлушч, што прыносіў Косцік, даела, а палёгкі не адчула.

Завезлі ў Еньск, раённы цэнтр. Зрабілі рэнтген, але нічога не ўбачылі. Паклалі ў бальніцу, каб абследаваць, дакапацца да прычыны. На вачах вяла, мянялася з твару. Лячылі грып, а яго і знаку не было.

Урачыха, намесніца Жыльскага, Антаніна Ігараўна, аднойчы выказала здагадку:

— А ці не пляўрыт у цябе, дарагуша... Давай праверым.

Жанчына ўзяла шпрыц, зрабіла ўкол, выцягнула іголкай гной.

— Так і ёсць, запасайся цяпер, дарагуша, цярпеннем.

Жыльскі тады вельмі сварыўся — так нельга было вызначаць хваробу, небяспечна і рызыкоўна. Бо мог утварыцца вакуум і плеўра тады прыліпла б да лёгкіх — чым адарвеш яе тады? Так ушчуваў Жыльскі ўрачыху. Тое Віцця не чула, жанчыны перадалі, як стала лепшаць.

Як ляжала ў бальніцы, памёр бацька — Адам Альшанскі. Нечакана памёр, сказала маці, — сеў на прызбу і не ўстаў.

За акном цяплынь, лета, схіл яго. У лесе процьма грыбоў. У такі час спрымачоўцы ад старога да малога на грыбовішчах: кожны хоча ўхапіць, каб займець капейчыну — без грошай у вёсцы цяжка, ні сукню купіць, пі абутак...

У дзверы нехта лёгенька пастукаў. Яна не адказвала, безуважна глядзела на шыбы, слухала птушыныя галасы.

— Віцця!

У дзверы прасунулася галава Косціка — усміхаўся.

Асцярожна, быццам баяўся зачапіць што, падышоў да ложка. На тумбачку паставіў слоік з кампотам, сітро, у кулёчку яблыкі і цукеркі, ён узяў яе руку, прыклаў да шчакі:

— Як табе цяпер, Віцця?

— Трошкі палепшало, а було зусім пагано...

З кішэні дастаў нейкую каробачку, адкрыў яе, выняў адтуль каралі — карычневыя, бы жалуды, нанізаныя на нітцы.

— Гэта табе.

— Ой, навошта такі дарагі дарунак, — пачырванела дзяўчына і зажмурыла вочы.

Потым трымала ў руках, радавалася:

— Прыгожыя якія!

— Праўда? Падабаюцца?

— Вельмі.

Міхалап радаваўся, што яна павесялела, і сам шчасліва ўсміхаўся, верыў, што неўзабаве яна выпішацца і ён дома ёй скажа пра ўсё...

— Не казалі, колькі трымаць яшчэ будуць?

— Няскора, Косцічак, дому буду. Ледзьве да туберкулёзу не дайшло. Нейкія дзіркі ў лёгкіх знайшлі.

— Жыльскі — урач што трэба, вылечыць, ён у вайну лячыў добра людзей.

— І цябе ўратаваў?

— І мяне...

Віцця глядзіць на каралі, адчувае цеплыню дарагіх камянёў, і ёй хочацца прыладзіць іх да шыі, але саромеецца паказваць хлопцу сваю слабасць.

— Дзякуй табе за пацеркі. Я іх буду насіць усё жыццё.

— Я купіў яшчэ і пярсцёнак. Як вернешся дадому, надзену на палец — і...

Яна закрыла твар рукамі.

...Амаль год праляжала Віцця Альшанская ў раённай бальніцы.

Тады не было на душы асаблівых трывог і клопатаў. Жамойда пасля нядоўгай адсідкі вярнуўся ў Спрымачоў. Адразу атрымаў пасаду — праз каго, ніхто не ведаў.

Ён хадзіў па вёсцы важна і з гонарам, выставіўшы грудзі, у сваім заўсёдным строгім парадным касцюме — галіфэ і кіцелі. Падпярэзваўся шырокай вайсковай папругай на дзве дзірачкі. Фуражка круглая, высокая, з такім жа зялёным, як і ўсё, брылём. Сталін, дый годзе. Вусоў толькі не хапала.

Насіў заўсёды пашэрпаны скураны партфель. Хромавай былі заўсёды наглянцаваны — насіў пры сабе аксамітку.

Працаваў Казімір фінагентам.

За вочы яго ненавідзелі, жанчыны слалі ўслед праклёны. І было за што.

Аднойчы ён пастукаў у дзверы Альшанскіх. Са скуранога паліто сцякалі дажджавыя кроплі, ён зняў фуражку і атрос на парог.

— Добрага вам дня! — прамовіў гучна і весела, па

клаў на лаўку партфель з бліскучымі спражкамі. — От жа і лье на вуліцы — як з вядра.

Глянуўшы на свае хромавікі, падаўся зноў да парога — выцер падэшвы аб падасланую анучыну. Адкрываць партфель не спяшаўся, адцягваў тую хвіліну, дзеля якой і завітаў.

— А вашая дачка, цётка Анэта, прыгажэе з кожным днём, — усміхаўся, беручыся за партфель, фінагент. — Замуж ёй пара.

— Праўда, галубец, пара. Ды як падумаеш, дэк яно...

Старая гаварыла, сама не ведаючы што, бо не разумела — ці падтакваць яму, ці пярэчыць. Вікця ўжо села каля акна — перашывала для сябе матчыну сукню.

— Так, цётка Анэта, — цокнуў Жамойда языком, пра нешта задумаўся. — У вас дзесяць яблынь, тры ігрушы. Трое курэй. Кабанчыкаў два ці адзін? Адзін.

— Адзін, галубец, адзін, — зніякавела жанчына, ведаючы, што ў яе і яблынь больш, і курэй.

— А сотак?.. Так, ага...

— Вікця, а Вікця, — маці зразумела, што трэба рабіць у такім выпадку. — У нас госць. Здарожыўся, мусіць. А ты сядзіш...

Гэтыя словы фінагент прапусціў міма вушэй, як і не чуў, перагортваў бланкі, паперы з пячаткамі, удакладняў, пісаў. Дзяўчына моўчкі паднялася, паглядзела на маці — з дакорам, пайшла да печы. Паклала на патэльню кавалак здору, разбіла некалькі яек, напражыла яечні. Са скрыні дастала пляшку, заторкнутую газетай, паставіла на стол.

— Я не буду ўказваць, цётка Анэта, але вы схавайце так, каб ніхто не бачыў.

— Добра, галубец, спасібаваць табе, Казе. Не ведаю, што б і рабілі, каб не ты.

— Нічога, усе мы людзі, — шматзначна праказаў госць, глытнуўшы сліну — пахі дражнілі, расцвельвалі душу. — І трэба жыць па-людску. Ведаю, як вам цяжка без Адама. А ён харошы чалавек быў. Разам з ім у партызанскі атрад ездзілі ў вайну, ён пацвердзіў, што я памагаў партызанам. Таму і не судзілі строга.

— Важко, ох як важко, галубец, — заўздыхала старая, божкаючы, радуючыся, што Жамойда спіша нядоімкі.

Ведала Вікця, што фінагент набіваў сабе цану. Не без яго помачы Кацярыну Ахрэмаву пасля вайны ў турму загналі. Заўважылі людзі, што ён не раз заходзіў у НКУС. А чаго да іх такі ласкавы, трохі здагадвалася, але хацела, каб здагадка не пацвердзілася.

Госць піў і еў, нахвальваў яду, Вікцю. А потым падняўся, пачаў развітвацца. Вікця выйшла следам, каб зачыніць дзверы, ён нечакана схапіў яе ў сенцах у абдымкі, не паспела і апамятацца, як упіўся вужакай у яе губы... Хацела крыкнуць, каб пусціў, але ён мацней прыціскаў да сябе — аж трашчалі, здаецца, косці.

Гэтак жа нечакана і адхіснуўся ад яе, быццам баяўся, што кінецца коршакам на яго — пераступіў шчарбаты парог і хутка, прыгнуўшыся, зладзеявата пасунуўся да веснічак.

Вечарам завітаў Косцік. Заўважыў у позірку нейкі сполах, насцярожынку. Паўжартам, паўсур'ёзна заўважыў:

— Штосьці часта, гэта самае, да вас Жамойда прыблэндваецца. Унадзіўся, як казёл у капусту.

— Дабраным прыкідваецца — налог змяншае.

— Чаго ж так?

— З-за бацькі, кажа. Памог быццам яму пазбегнуць вялікай судзімасці.

— А мо ён цябе шкадуе, га? — нахмурыўся Міхалап — правяраў сваю трывогу. — Я не хачу, каб да вас прыходзіў гэты паліцай.

— І я не хачу, — у вачах дзяўчыны стаялі слёзы. — Як забараніць яму? Да ўсіх ходзіць.

Ён маўкліва знайшоў яе руку, надзеў на палец пярсцёнак, сказаў усхвалявана:

— Вось так. Цяпер ты мая. Назаўсёды.

Аднойчы, калі Анэта пайшла на другі канец Спрымачова, прысунуўся прыцемкам Жамойда. Вікця акурат засынала, лежачы ў

ложку. Не надала значэння грукату ў сенцах — думала, што маці так хутка вярнулася.

Не чула, як Казімір распрануўся.

Не паспела апамятацца, як ён сціснуў яе ў абдымках, як абцугамі аблапіў... Віцця зубамі ўпілася яму ў руку, нават пачула саланаваты смак крыві. Але тое яго не спыніла...

Яна плявала ў твар, крычала, клікала Косціка на дапамогу. Выдзерці хацела вочы, ды не змагла — закруціў рукі за спіну...

Здаецца, нагатавана было ўсяго, што можна было нагатаваць у нішчымныя пасляваенныя гады. Скрозь у місках стаяў густы кісель з чарніц і журавін. Халоднае мяса, наліснікі і аладкі ў смятане, у гладышках і слоіках — кампот з дзічак і аўсянае піва з халоднай Сцёпкі.

Стаяла гарэлка і віно.

— Ну, што, хлопцы, грайце зазыўную.

— Зазыўную!

Смычок'церанууся аб струны. Скрыпка ўздыхнула радасна і ўзнёсла, як вырвалася на волю. Бадзёра азвалася дудка Ерамея — тоненька і высока. А потым падхапіў Ладзік. Лёнік, сын, да пузатага бубна, падсеў, глуха бухнуў качалкай.

Лёнік і Ладзік падобны як дзве кроплі вады. Нават і светлыя чубы тырчэлі аднолькава. Сын язык высалапіў — сам сабе памагаў. На ім картовая футболка, просценькія чаравікі.

І грымнула, тугім і гучным выбухам адскочыла ад зямлі зазыўная — разбілася аб вершаліны ліпы, разляцелася дробненькімі аскалёпачкамі над вёскай, кожную хату зачапіўшы.

Першы да Міхалапаў прычыкільгаў Макар Чыкай, інвалід вайны. Гаварыў, як апраўдваўся, таптаўся на месцы, рыпеў драўляным пратэзам нагі.

— Мая Марфа апасля прыйдзе — у печы дапальвае. А я падумаў, мо помач якая патрабуецца ад мяне.

На картовым пінжаку прымацаваны ордэн Чырвонай Зоркі. У Чыкана праз усю шчаку пісяг — пад Берлінам параніла. Калі Макар злуецца, то пісяг чырванее і відзён выразна — як крывавы струменьчык.

— Ды якая помач, — азваўся Міна, бацька Косціка, таксама прыкасшомлены, нешта шукаў вачыма, не могучы ўспомніць, што яшчэ не зрабіў — таптаўся ў роздуме на двары, — за сталы вуняка пара садзіцца.

Потым Маланчыха — цётка Юзя — прыйшла паперадзе ціхмянага Савося, лядашчага, бы высушаны лешч, — быў ён на галаву

ніжэй за жонку. На ім нязграбна сядзеў сіні касцюм — першы раз, мусіць, з такога выпадку надзёваны.

Цётка Юзя накінула на плечы хустку ў кветы — і аж памаладзела, позірк памякчэў, голас стаў пявучы, мяккі. А то толькі і чуваць, як яна звягае, не сціхае, на Савося, вінавацячы яго ва ўсіх грахах.

— Ну і наскачуся я сёння, людцы, — заўсміхалася, плячом павяла, мірганула некаму, нагой топнула, а музыкантам з падкавыкай: — Ды што ж гэта вы, хлопчыкі, аслабелі? Не накармілі вас, ці што? Ладзік, от нешта слаба граеце.

Цётка Юзя здзекавалася, пасміхалася, пакеплівала няйначай, бо ніхто не мог сказаць пра музыкаў такое. Дзед Ерамей толькі скоса зіркануў на Маланчыху, вачмі крутануў, тупнуў нагой, як прыгразіў: «Цыц, балаболка!..»

Косцік убачыў, як па вуліцы крочыў у бок Жамойдаў участковы Нікадым Тхарэнка са сваёй жонкай. Запрашаў яго тыдзень назад, ды сказаў ён, што да Жамойды ідзе на вяселле.

«А як там, цікава, Вікторыя Адамаўна? Ці шчаслівая, выходзячы за паліцая?» Прыкасцюміўшыся, выйшаў у двор.

У варотцы зайшла бабка Настазя, спрымачоўская павітуха. Убачыла Косціка, падышла, у вочы зазірнула, заўсміхалася лагодна:

— Вось і ты жэнішся, унучак. А здаецца, зусім нядаўна тое было, калі я цябе на руках трымала першай.

Бабка ўсіх дзяцей, якіх прымала ў час родаў, пасля называла сваімі ўнукамі.

— Час ляціць, бабка Настазя.

Росту невысокага, твар у зморшчынках — павуцінкі разбягаюцца ад вачэй, а вочы ў бабулькі маладыя, бы ў дзяўчыны — блакітныя, нават з гадамі не згаслі. Толькі зрабіліся больш мудрэйшыя і добрыя.

Жыла Настазя адна, хаця сыноў мела сямёра і дзвюх дачок. У жывых засталіся два сыны. Адзін з іх, Пётра, жаніўся на Анэлі. Дзяцей не нажылі.

Гаспадара бабкі, Яна Фіцнера, забралі перад самай вайной. Прыехала ноччу ў вёску машына з вайскоўцамі НКУС і арыштавала трох — дырэктара школы Юніцкага, настаўніка гісторыі Фалінскага і Яна. Ян акурат тады гной вазіў на поле. Прыйшоў дадому, не паспеў памыцца, а яму сказалі, каб сядаў у машыну. Сказалі, што

ён японскі шпіён. Пасля вайны напаткаў той жа лёс Пётра і яго брата Антона.

Гэта пазней ужо бабцы прышлюць паперу, у якой будзе сказана, што яе муж рэабілітаваны. Яна і вяскоўцы доўга будуць ламаць галаву

над незразумелым словам «рэабілітаваны» — як закатаваны, і толькі пазней, як у хату зазірне фінагент Жамойда, растлумачыць значэнне напісанага...

Уздыхнула бабка, да пляча дакранулася Косціка, выцерла няўлоўным рухам вусны, паківала галавой:

— То шчасцейка табе, унучак, і Палінцы тваёй: я сёння за вас чарачку вып'ю.

Косцік абняў старую, падзякаваў. Бабку ён любіў, часта да яе ў госці бегаў, частавала яго сушанымі грушкамі ды гарбузікамі.

Прыйшоў ляснічы Карабкоў з жонкаю Наталляй Мікалаеўнай — паўнагрудай жанчынай, спакойнай і спагадлівай. Працавала яна на спрымачоўскім ФАПе — фельчарскім пункце. Была Наталля ў шэра-карычневай сукні, паверх — такога ж колеру пінжак з плечыкамі. Спрымачоўцы фельчарку любілі, як і бабку, — ішла да хворага ў любы час.

— Прыходзьце, сядайце, Андрэй Мартынавіч, — зазапрасіў Міна, правёўшы да сталоў.

Прыплёўся аднекуль у двор дзядок — згорблены, паўсляпы ды ў дадатак яшчэ і глухі. Папыталіся, адкуль і куды ішоў. Рукамі замахаў, захрыпеў, паказаў, што сюды ішоў, на вяселле, а сам здалёку...

Старому вынеслі чарку, закускі рознай, каб адчапіцца ад яго хутчэй, каб не замінаў вяселлю. Але ён нічога не ўзяў, галавой пакруціў адмоўна. Адзенне ў яго зрэбнае, лапці на нагах, а зарос так, што, пэўна, ніколі не стрыгся і не галіўся — барада да каленяў.

— Давай, дзядуля, у нашу кампанію! — крыкнуў на вуха Ладзік, чубам страсянуў, дзеда узяў пад руку. — Месца ў нас усім хопіць.

Заківаў радасна барадач галавой, на брамку пачаў паказваць, прасіў нешта прынесці.

— Ты з падарункам, дзед?

Вясёлы дзед, занадта вясёлы. Ладзік за веснікамі ўбачыў вялізны кошык з нейкім грузам — накрыты чыстым абрусам. Ледзьве падняў яго, прынёс і паставіў каля ганка.

— Ты што, дзед, зямлі прыпёр ці цэглы маладым на хату?

Усе, хто стаяў побач, цікаўна зазірнулі ў кошык. Жменька дастаў чатыры круглыя боханы хлеба — ляжалі зверху. Тырчала некалькі бутэлек — гарэлкі і віна. А ў цэнтры было нешта важкае, загорнутае ў шэрую адзежыну.

Калі ж Ладзік разгарнуў дзяружку, усе ўбачылі гліняную скульптурку хлопца і дзяўчыны: яны сядзелі, абняўшыся. Дзяўчына трымала кветку, хлопец — дубовы ліст.

— Дык то ж Косцік і Паліна! — першым здагадаўся Карабкоў.

Ладзік узяў абпаленую гліну ў рукі:

— Хто б то мог зрабіць? Няйначай, Ладуцька. Дзед, дзе ўзяў гэта?

— Украў! — крыкнуў стары і тут жа імгненна садраў з сябе і доўгую бараду, і парык, вочы зрабіў відушчымі. Усе аслупянелі — перад імі стаяў Мікіта Ладуцька. — Што раты паразяўлялі? Косцік, гэта табе мой падаруначак — каб жылі шчасліва і ў згодзе.

Пасля кароткага маўчання і здзіўлення пачуўся рогат.

— Ну і дзед, во ўмачыў, — браўся за жывот Ладзік і трос кучаравым чубам, — і самому ўбачыцца можна.

Доўга не сціхаў смех пасля дзедавага штукарства...

Пакрысе збіраліся людзі. Прыбегла ўжо і Марфа Чыканова — расчырванелая, у квяцістай сукенцы. За ёю цётка Анэля, паштарка, былая нявестка бабы Настазі, і сын яе Янік.

Болюсь з Палівіхай апошнімі прыцягнуліся. У Болюся забілі немцы жонку, у Броні Палівы — мужа, каваля Антона. З'ядналіся ў адну сям'ю. Дзяцей аб'ядналі...

Прыйшла Арэна — удава. Ідучы на вайну, Вінцэсь Капылоў пакінуў яе з трохмесячным Міхаськам. Прапаў без вестак. Убачыла жанчына Ладзіка, прыветна заўсміхалася, галавой хітнула.

Жыла Арэна наводшыбе вёскі. Жанчына была яна мяккая, дабрачая. Калі хто прыязджаў ці заходзіў да яе, пакідала начаваць. Голас мела ціхі, грудны. Пад паркалёвай кофтай важка калыхаліся поўныя грудзі. На нішчымніцы жыла, а ўсё ў яе было на месцы.

Не магла ніяк выбрацца з беднасці. А ўсё ад яе непрактычнасці. Не ўмела яна весці гаспадарку, не ўмела эканоміць і ашчаджаць. Есць грошы — усе пусціць на што-небудзь. А калі яны пільна трэба, то і капейчыны за душой не мела. Шкадавалі яе людзі. За вайну шкадавалі: пяклі для партызан хлеб і ў яе хаце. Бобікі данеслі немцам, казалі, быццам Жамойда і данёс. Немцы білі жанчыну, з падлогі падняцца не магла. Уся сіняя была, але не сказала, для каго хлеб пяклі і хто забіраў яго. Сказала, што сама ў печ лягала — прастуду выганяла.

Ад Арэнкі хлеб забіраў Жменька. Пад раніцу прыйшоў да яе, яшчэ і не развіднела. Пастукаўся ціха ў акно.

— Ці ёсць што забраць? — ён ненарокам натыкаецца на гарачае цела маладой жанчыны — яна аж апякла яго.

— Есць, Ладзе, заходзь, — вочы зазыўна гарэць у цемры. — Чаго доўга не прыходзіў? Я счакалася ўся — што стукне, а я калачуся, думаю, што немцы...

— Не мог раней, бобікаў поўна за вёскай — некага ловяць.

Ладзік склаў круглыя боханы ў мяшок, затоена прыслухаўся да наваколля.

— Пара мне, Арэнка...

— Пабудзь якую гадзінку, Ладзічак. Я так засумавала па табе. Не ўзяў у жонкі, пабудзь хоць хвілінку маім мужам. Не магу я трываць, разрываюся ўся. Агонь мяне спакуслівы пячэ — з нейкага дурнога цеста я злеплена. Гора з-за гэтага не абяруся. Ладзе, а Ладзе, чуеш, у мяне пярыны цёплыя, і я не лёд...

Жменька не ведаў, што адказаць. Пад ровам чакаў Косцік, кожная секунда пагражае нечаканасцю. А гарачая рука абвівае яго шыю, дотык пранізвае яго дрыготкім токам...

Памагалі ёй людзі. У каго апаросіцца свіння, то самага няўклюднага, якому і цыцкі не хапіла, аддавалі ёй. І яна была радая без меры — восенню як-ніяк, а і ў яе свежына ў хаце балявала.

Аддаваў ёй і Жменька. І здаровага даваў, ды Арэнка ўсё роўна не магла выкарміць як след.

Шкадаваў ён Арэнку па-свойму...

Іграў, а на яе зіркаў, не-не ды і міргане ёй, паабяцае — і заходзіцца жанчына чырванню, адвернецца з патаемнай надзеяй.

Першаму слова далі ляснічаму — як ганароваму госцю. Як мясцоваму начальству. Жамойда запрашаў яго да сябе, замежнымі каньякамі абяцаў пачаставаць, ды адмовіўся ляснічы, сказаў, што «княжацкую» любіць — якую, значыць, гналі ў Княжыце.

— За маладых вып'ем! За новую сям'ю лесніка. Каб і дзеткі ў іх, як дубкі ў Конікавым абходзе, выраслі. Горка!

— Горка!

Выпілі ўжо і па другой, і па трэцяй, ужо ўтаймавалася і нецярплівае чаканне, акурат настаў той час, калі .льга было адарвацца ад стала. І пачулася людская гамана. Спачатку слова-два, а потым пайшло-паехала: нібы пчаліны вулей прачнуўся-растрывожыўся.

Круцілася за сталом Маланчыха, найбольш і вылучаўся яе голас. Яна паспявала расказваць і падаваць свайму Савосю, бы маломy,— то скрылік сала, то аладак, і пра сябе не забывалася: то лыжку чарнічнага кісялю ўхопіць, то ялавічыны ўкусіць.

І — хочаш не хочаш — набягалі няпрошаныя думкі пра вайну. Кожнаму спрымачоўцу яна метку паставіла. Дзед Ерамей Жменьку напомніў, як яны ў далёкую вёску па харчы дабіраліся, а вёскі той і не было — спалілі.

— То ж мая дачка расказвала — Тэкля, — Маланчыха ўздыхнула, абвяла людзей позіркам — ці слухалі, — мо і не тут, на вяселлі, кажучы пра тое... Гэна яе я да цёткі паслала ў Буду-Казіміраўскую, каб солі

жменечку расстаралася. На, кажу, доню, ім цукерачак-падушачак занясі, мо мучаюцца без салодкага. Прыбегла неяк хутка назад — ні жывая ні мёртвая, слова вымавіць не можа. «Мамо, ой, мамо, кажа, што я бачыла...» І сама плача, аж заходзіцца, як памірае сядно. Да смерці я перапужалася за яе, дзіцёнак жа яшчэ. Аж толькі праз тыжджэнь апавядала... «Мамка, я прыйшла, а ў вёсцы ціха-ціха. Хаты ўсе чыста спаленыя. І людзей, мамко, няма. Я адчыніла, — кажа, — вароты хлява насцеж, ажно гляджу — людзі стаяць. Стаяць і маўчаць. І цётка Ядзя, і цётка Еўка з дзіцёначкам на руках. Уліта Ладуцькава з дзецьмі стаіць, за рукі пабраўшыся. У Еўкі дзіцё ў белыя пялюшкі загорнутае. Я, — кажа дачка, — падыходжу да яе, кажу, што маці да вас паслала, во цукеркі дзецям перадала. А яны ўсе маўчаць, усе паверх маёй галавы некуды ўдалеч паглядаюць. Я дакранулася асцярожна да пялюшкі, і раптоўна ўсе людзі... людзі попелам... асунуліся на зямлю. Тут былі, усе стаялі, і ўраз няма іх, толькі жменечка попелу...» Закрычала дачка і зайшлася ў плачы, са страху і перапуду дадому пабегла. І вось яны, нябожчыкі, кажынную ночку ёй сняцца. Гаворыць, што цётка Еўка сніцца і дзіцяняты малое на руках. І не маўчыць, а паратунку просіць. А я ж, людцы добрыя, кляну сябе, кляну, што паслала яе... Ой, божачка ты мой, хапіла горачка, усім хапіла...

Стала ціха-ціха. Маланчыха крутанула галавой, зноў забожкала, злева Ладуцьку ўбачыла. І жахнулася — зусім з галавы вылецела, што ён побач сядзеў. З твару змяніўся — пекануў, ведама ж, напамінак пра трагедыю ў Будзе. Ну што з бабы неразумнай возьмеш, спачатку языком, а пасля ўжо розумам.

— Ты чаго гэта замаркоціўся, дзед Мікіта, мо на каго засердзіўся? — зачапіла яна старога, лёгенька плячом таўханула, не ведала, як паддобрыцца да яго, віну выкупіць. — Насмяшыў усіх, аж жываты падарвалі, а цяпер скіс.

Стары як і не чуў, нават і не зірнуў у яе бок.

— На цябе ж і засердзіўся, сарока, бо круцішся надта, пасядзець спакойна не даеш...

Ёй карцела адказаць Ладуцьку, ужо і рот раскрыла, як за спіной у яе задыханая суседчына малая паведаміла, як выбухнула:

— Цётка Юзя, у вас у хляве свіння паросіцца.

Маланчыха нейкі момант маўчала з адкрытым ротам, да яе яшчэ не даходзіў сэнс сказанага, а пасля хапіла паветра, пракаўтнула яго, лакцянула пад бок Савося:

— Ну, чаго рассеўся? Дахаты трэба.

І першая трушком падалася да веснікаў. Следам, не адстаючы, нагінкам і паслухмяна перастаўляў цыбатыя ногі гаспадар, вінавата аглядваўся, нібы прабачэння прасіў за нечаканую адлучку.

— О, цяпер Маланчыха разбагацее, — зазначыў весела Чыкан, нанізваючы па відэлец гурок — закусваў. — Прыплод цяпер у Маланчыхі.

— І не кажы, — згадзіўся Ладзік, — бач, а ў гэтай справе бабе Настазі не давяраюць, самі рашылі справіцца.

— А я тамака і не ўмею. Віцінар на тое ёсцека...

Бабка адказала ціхенька, жарт не падтрымаўшы, белыя косы прыгладзіла, пад квяцістую хустачку пасмачку схавала. Даланёй правяла па сухім твары, абцерла вусны, каб і крышыначкі не было на іх — не хацела бабка на людзях паказацца неахайнай. Потым агледзелася, ці не замінае каму, і, уздыхнуўшы, паклала на вышыты фартушок натруджаныя за свой гаротны век рукі.

Было старой ужо за сто год. Суседкай і памочніцай была Ладуцьку.

Бабку ў вёсцы любілі і паважалі. І яна ўсіх любіла. Радавалася, як дзеці, якіх яна прымала як павітуха, раслі дужымі і здаровымі. Сваіх жа ўнукаў у бабкі не было.

За час вайны больш палавіны яе спрымачоўскіх «унукаў» не вярнулася дадому. Кожная пахаванка, што прыносіла Анэля ў чыю-небудзь хату, болем пранізвала і бабульчына сэрца. Яна тады колькі дзён не размаўляла ні з кім, і ў яе блакітных вачах было столькі тугі і болю, што ніхто не асмельваўся чапіць яе неасцярожным словам ці суцяшэннем. Ведалі, што нічым не памогуць — людское гора яна перажывала, як сваё.

Бабку клікалі на ўсе вяселлі, што грымелі не толькі ў Спрымачове, а і ў Жахавічах, Ясянцы, Зялёным Імху... Да вайны яна хадзіла са старым Янам, а цяпер адна. Сядзе дзе-небудзь з краёчку — і не чуваць яе голасу. Гэта ўжо была нейкая замова, прадрачэнне — калі бабка пабудзе на вяселлі, то абавязкова наведаецца і пасля, але ўжо як павітуха...

І весялуха ж была бабка Настазя. Колькі песень ведала, колькі гісторый магла расказаць — і страшных, і вясёлых. Калі яна апавядала пра нешта, то твар увачавідкі мяняўся, набываў розныя адценні: рабіўся то пяшчотна-ласкавым, то сумным і гаротным — у залежнасці ад таго, пра што расказвала.

Асабліва любіла слухаць дзятва. У яе нешта было ад дзеда Луня — так звалі яшчэ Яна. Ад яго і навучылася, мусіць, расказваць.

А як любіла Настазя лазню! Пра тое можна наслухацца розных баек. Забярэцца на верхні палок, бярозавы венічак прыхопіць, размочаны ў цабэрку, уляжацца і просіць маладзейшых паддаць пары. Унізе, на падлозе, нельга трываць, хапае за грудзі, а старая, вохкаючы, умольвае: «Ну яшчэ, людочкі, от век не забуду вашае дабраты... Ото яшчэ адну, хаця б адненькую квартачку...

Жанчыны і дзяўчаты радыя былі б задаволіць бабульчыну просьбу, ды адна за адной вылятаюць у калідорчык, падаюць на халодную падлогу, аддыхваюцца, і здзіўкі бяруць з Настазі, не разумеюць, у чым яна знаходзіць задавальненне і асалоду. Мо з паўгадзіны не пакідае яна палок. Жанчыны ўжо і непакоіцца пачынаюць, прачыняць дзверы і пытаюцца, ці жывая хоць, а бабка незадаволена як не крычыць на іх: «Дух не выпускайце, я хуценька...»

І шаптаць бабка ўмела. Ад пуду лячыла і ад болю ў жываце. Кожная маладая маці ведала — калі зойдзецца дзіця ў плачы без прычыны і суняць нічым нельга, то трэба да Настазі неадкладна бегчы, каб тая дала якой рады. Праз які час маці несла дадому соннае дзіця. Ведала бабка нейкую замову ад хваробы. Залаты чалавек была старая, знакамітая на ўсю акругу. Аніякай платы аніколі не брала з людзей за сваё шаптанне.

Але была ў спрымачоўскіх парадзіх такая завядзёнка — праз нейкі час да павітухі наведацца, прынесці свежага, гарачага яшчэ хлеба. І ў падарунак паркалю — у кветачкі. Любіла яна той паркаль. Ён быў для яе як напамінак. Любіла пахваліцца калі-нікалі: «Гэты — ад унучка Лёніка, а гэты — ад Ладзіка...»

А потым жа, калі хто з жанок абносіцца, што і спадніцы не было з чаго выкраіць, як во і Арэнка абнасілася тым летам, бабка туды свой дарунак несла. А на слёзы жанчыны ласкава гаварыла: «Шчаслівай будзеш у гэтай спадніцы, вось пабачыш».

Кожнай спрымачоўскай хаце зычыла бабка шчасця і добрай долі.

— А давай, Настасся Адольфаўна, з табой вып'ем,— падсеў да старой Чыкан, — за ўсіх тваіх дзяцей-унукаў, спавітых тваімі рукамі, вып'ем.

— Табе толькі б выпіць, табе абы прычына, — не ўстрымалася Марфа, падцяла вусны — сама не піла, бо хадзіла дзіцём, адставіла ад Чыкана чарку, адвярнулася, каб і не спрачацца з ім.

— Ты мне, жонка, не пярэч, ты ж мяне хутка, гэта самае, і пашлеш, каб бабку да цябе прывёў, каб памагла разрадзіцца. І я пачыкільгаю як міленькі, бо да раённай бальніцы далёка, а тут усё

табе пад рукамі. І таму мне ніхто не забароніць выпіць, вось так... Так што давай, баба Настазя!..

Чыкан, падобна было, быў на добрым падпітку. З гэтай нагоды ён заўсёды шукаў, каб выпіць яшчэ. Бабка ведала пра тое, як ведала, што не адвяжацца ён ад яе, таму ўзяла шклянку, якую напоўніў Макар, і паднесла да губ. Толькі памачыла. Але ён і гэтаму быў рады — сваю тады апаражніў адным махам, як за каўнер выліўшы. Выпіў, і тут жа зморшчыўся, як быццам праглынуў не тое, чаго так дамагаўся, а нешта іншае, надта кіслае і неператраўнае, і тут жа нечакана на ўсю моц, устаўшы, крыкнуў:

— Ты што гэта, таварыш Міхалап, гэта самае... Ты чым, тваю качалку, гасцей поіш, га? Ты што гэта падсунуў — яе ж піць нельга. — Ён захістаў спатнелай галавой, паглядзеў на Паліну, якая недаўменна раскрыла вочы, выцер твар і крыкнуў яшчэ мацней: — Гарэлка, людцы, горкая! Горка!

Голас у яго хрыплы, сіплаваты — у вайну параніла горла.

— Горка! — падхапілі ўсе і пагледзелі на маладых.

Паліна ўстала, павярнулася да Косціка, зажмурыла вочы — хавалася ад людзей. Ён дакрануўся да яе вуснаў і доўга не адпускаў — аж пакуль крычалі за сталамі.

— Бач, навучыліся, — зазначыў Макар, сеўшы.

— Гэтаму, Чыкан, не вучаць, яно само налучаецца.

А гамана мацнела, шырылася, рабілася падобнай на бурлівую раку, якой былі замалыя вясновыя берагі і якая прагне прасторы і волі.

Потым людзі разбіліся на купкі. Дзед Ерамей з Ладуцькам зачапілі сваё. Чыкан падсеў да Ладзіка і пачаў баяць пра нямецкі горад Берлін, як ваяваў на яго вуліцах. Паўло Шкварка ўвесь час маўчаў, згодна ківаў галавой — яму нешта расказваў Міхал Клімаш. Рагаталі з нечага Васіль Макравец з братамі Карнеем і Гаўрылам. Дзяўчаты з хлопцаў пакеплівалі. Жанчыны спаважна і заклапочана гаварылі пра сваё, а потым заспявалі.

Арэнка моўчкі сядзела збоч, за бабкай Настазяй, не супыняючыся, ела ўсё, што стаяла побач. І ў хустачку потым набрала — дзецям.

Калі ж Ладзік славіўся на Спрымачоў гарманістам, то браты Макраўцы былі адметныя спевакі і танцоры. Заспяваюць — душа забаліць, зойдзецца ў шчымлівым плачы, усяго працяне, і зэбудзешся прэ ўсё — дзе ты і што ты...

— Унучкі, заспявайце, — павярнулася да іх Настазя, зморшчынкі на твары разгладзіліся, і так умольна глядзіць, што не адмовіш, пакрыўдзіш толькі.

— Аўжэ ж, хлопчыкі, што за вяселле без песні, — следам за бабкай прамовіла і цётка Юзя — твар у яе расчырванелы, рухава круціцца — туды-сюды, за ўсім сочыць, усё бачыць, прыкмячае.

Братоў доўга ўгаворваць не трэба было — не ламаліся надта, не качарыжыліся. Найперш пачынаў Васіль — зажмурваў вочы і зацягваў ціхенька так, ледзь чутна, а потым голас пакрысе мацнеў, набіраў сілу, і тут падхоплівалі ўжо браты. І ўжо магутным басам цягнулася трыо — доўга, як дыхання хапала. А потым галасы раздзяляліся. Гаўрыла — тоненька, высока, а Карней браў дзесьці пасярэдзіне. Васіль жа дробненька, як дзяўчына, у вянок уплятаў голас нейкай дзівоснай птушкі...

Ніхто тэк не спяваў у Спрымачове. І ніхто потым не чуў такіх спеваў і спевакоў.

Браты спявалі ўкраінскія народныя і беларускія песні, найбольш мясцовыя, пачутыя ад Настазі.

А потым браты танцавалі. Ото было тады ўжо работы музыкам, да сёмага поту працавалі.

— Грай, Ладзік! — крычаў першы Васіль і падскокваў вышэй самога сябе і, крутануўшыся ў паветры, падаў на правае калена.

Браты застылі, стоячы, рукі да яго выдаўжылі.

Жменька ведаў, што для іх іграць — «цыганачку».

І што тут рабілася!

— А-аах! Э-ээх! — чуваць адрывістыя воклічы, а гармонік, здаецца, выскачыць з Ладзікавых рук.

Тэмп між тым паскараўся, ногі танцораў хадзілі шпарчэй і шпарчэй — хто каго? Захліпвалася дудачка, плакала скрыпка, рагатаў-блазнаваў гармонік...

Зняможваліся музыкі, абліваліся потам. Браты былі жылістыя, моцныя — дрывасекі. Танцаваць маглі хоць да раніцы і хоць бы што.

— Ха! — выгукнуў Васіль і стаў зноў на калена.

Следам аціхлі і браты.

І міжволі людзі запляскалі ў далоні. Не кожны дзень убачыш такое.

Карабкоў толькі галавой хітаў:

— На сталічную сцэну толькі. Віртуозы!

Макраўцы разам з вайны прыйшлі, у кожнага па ордэну на грудзях. Жывыя вярнуліся, без драпінкі на целе. Ды ў жывых не засталі бацькоў — забілі фашысты на самым пачатку вайны.

Аддыхваліся хлопцы, твар выціраючы. Людзі хвалілі іх талент. А ў дзяўчат сэрца ёкала ў грудзях, калі адзін з іх зірне — відныя, прыгожыя, працавітыя. Любая ў жонкі пайшла б!

— Цікава, а які там прыплод у Маланчыхі? — шмаргануў носам Чыкай, пратэз на назе паправіў. — Радуецца, пэўна.

— Аўжэ ж, глядзіш, такі-сякі і прыбытак — нішчымніца ўелася ў пячонкі, — згадзіўся памяркоўна Ладуцька, набіваючы піпку табакай.

— Прыелася, ліха яе, запомніцца...

— Давай яшчэ па грамчыку, Ладзік.

— Не налівай поўную, досыць, — адняў бутэльку Жменька, — у мяне работа.

— Хто колькі хоча, — кіўнуў галавой Чыкан, адпіў сваёй палову. — Я да Берліна дайшоў, ногу пацяраў, — зацягнуў хрыплавата Чыкай і раптоўна замоўк, апусціў галаву — у яго горле нешта забулькала: не то гарэлка выбіла слязу і жаласць да самога сябе, не то папярхнуўся.

Заўсёды, калі ён быў на добрым падпітку, на язык прасілася гэтая песня. То і не песня зусім, адзін сказ, але ён спяваў яго, як песню. Пачынаў нечакана і гэтак жа змаўкаў, быццам і не ён падаваў голас. Адна толькі Марфа ведала, што яго мучыла гэтак нага, часта балела, так нясцерпна, што ён месца не знаходзіў. І націранне рабілі яму, і Настазя мазямі і зёлкамі лячыла — і ніякага паляпшэння не было.

Пад самым Берлінам, на подступах да яго, цяжка параніла байца Макара Чыкана. Заданне выканаў, але доўга пасля валяўся ў шпіталях.

— Ладзік, а Ладзік, — зноў прыставаў Чыкай да Жменькі.

— Што, Макар, спяваць хочацца? Ці выпіць?

— Кепскі ты, Жменька, чалавек, калі думаеш, што Чыкай толькі і думае, каб горла прамачыць. Гідкі ты, аднак, чалавек, скажу я табе чэсна. А ў мяне, братка, прызнаюся табе, ногі свярбяць, м-ммм... А ведаеш чаго?

Не здагадваешся? Яны ж танцаваць хочуць. А ты гармонік схаваў, толькі і ведаеш, што гарэлку жлукціць.

— Я — жлукціць?

— Мг...

— А і праўда, хлопчыкі, пайгралі б, — папрасіла Настазя, заўсміхалася.

— Я да Берліна дайшоў — ногу пацяраў...

Усе спяшаліся на выган, да Ладзіка, дзе ўсаджваліся музыкі, дзе хутка ў імпэтнай польцы закружацца першыя танцоры.

Макар убаку ад усіх спрабаваў танцаваць на адной назе, зацягваў сваё «Я да Берліна дайшоў...», а потым хрыпла выдыхаў: «Э-эх!», махаў адчайна рукой і сыходзіў убок. Да вайны ён быў першы танцор. Цяпер балюча было, што не мог пайсці ў круг.

Тут неўзабаве і Маланчыха прыляцела, у натоўп нырнула, замахала пад галавой шаўковай насоўкай:

— І-іх.. І-іх! Эх, іх!..

— Ці багатай будзеш, Юзя? Колькі там у кашары?

— Не скажу. Усе нашы. Не падвяла рабая. І-эх!..

— Ну то танцуй, радасць у цябе.

— А як жа... І табе, Арэнка, адно дару.

— Дзякуй табе, Юзя. Я адраблю...

Чыкан выціраў слёзы кулаком, спрабаваў крутнуцца. Не выходзіла — падаў. Узяў лішку.

І тут да танцуючых прыплёўся дзядзька ў хромавіках і дыяганалевым галіфэ — завялікіх для яго. Ладзік пазнаў свата. Ён убіўся ў грамаду, як таўкач,— замінаў, перашкаджаў танцаваць. Чыкан параіў яму, каб не таптаўся пад нагамі, але ён адпіхнуў яго.

— Грай весялей, а то гармонікам барабан парэжу! — крыкнуў ён няведама каму.

Ладзік успрыняў гэта ў свой адрас, але змоўчаў, ці мала што магло ўчаўпціся п'янаму, глядзеў на Ерамея, на Міхала, сыну мірганиуў: «Давай, Ленчык, давай! Добра барабаніш, малайчына!»

Але Жамойдаў сват не сунімаўся. Невядома чаго і якім ветрам занесла яго на выган. Бо і вяселле было далекавата. Пэўна, упадабаў ён музыку на чужым вяселлі. За ім прыйшлі Жамойдавы вясельныя, паклікалі. Ён і іх «паслаў». Тады яны махнулі рукой, пабралі жанчын і пайшлі ў круг.

— У вас весялей! — адобрылі музыкаў.

— Грай, а не — грошы аддай! — вякнуў зноў «таўкач».

Ну, то была ўжо абраза няйначай. І Ладзік такога сцярпець не змог. Ён рыпнуў гармонікам, папляваў на далоні і падышоў да свата.

— Кажаш, грошы аддай? А ты мне іх даваў, удод ванючы, даваў? — Жменька аберуч сціснуў яму каўнер, здушыў за горла, і сват стаў чырвоны бы рак. Махаў толькі бы коршак рукамі. — Грошы яму, бачыце, аддай... Я так аддам, што і моташна стане. Вон адсюль!..

Ладзік на гэтым хацеў і скончыць спрэчку, бойку наладжваць не збіраўся — вяселле ўсё ж у сябра.

— Ты што гэта нашага свата чапаеш? — падскочыў адзін з іх, успацелы, нахмураны, свідраваў вачыма — страшачы, ці што.

— Я і цябе не зваў сюды, і яго.

Мужчына размахнуўся, але падскочыў Міхал і крутануў яму руку за спіну — той аж войкнуў.

— Нашых б'юць! — крыкнуў громка пакрыўджаны, сілячыся вырвацца з рук Міхала.

На голас прыбег расхрыстаны дзяцюк, кінуў вокам, ацаніў абстаноўку і ў бойку рашыў не ўстраваць — прыгнуўшыся, даў лататы.

— Во табе і гармонік, і грошы, і бубен! — кулачыў Ладзік свата — у таго з носа пырснула кроў.

Падбеглі Косцік і дзед Ерамей, расцягнулі іх, пачалі супакойваць Жменьку. Аднекуль прыбеглі яшчэ жамойдаўцы, убачылі акрываўленага свата. Яны вырвалі па калу з Ладзікавага плота і рушылі на дапамогу.

Закрычалі жанчыны, разбегліся, хто куды.

— Хлопцы, раз так, то правучым іх? — Ладзік адчуў у сабе хмельны азарт, заўсміхаўся, рады быў, што прадставілася магчымасць павесяліцца — што за вяселле без чырвонай юшкі? — Правучым жамойдаўцаў!

— Давай!

Янік адарваў жэрдку, замахнуўся — і пасунуўся на няпрошаных гасцей.

«Таўкач» адразу працверазеў — заміргаў вачыма.

— Дай, хлопчыкі, ім, дай! Берлін ім у зад! — скакаў на адным месцы Чыкан. — Не рабей, разведка!

Сват, уцякаючы, ратуючыся ад злосці людзей, напаследак выцяў Чыкана дручком па галаве. Макар упаў і, размазваючы па твары пісягі поту і крыві, абураўся:

— Маць вашу... Інваліда біць? Смельчакі...

Ён падняўся, паспрабаваў дагнаць крыўдзіцеля, але тут жа зноў упаў. Да яго падбег Лёнік, узяў падпашкі, паспрабаваў падняць. Але не змог — не хапіла сілы. А Макар усё мацюкаўся, успамінаў Берлін, некаму грозіўся, глядзеў мокрымі ад слёз вачыма, як хлопцы гналі жамойдаўцаў па спрымачоўскай вуліцы.

Міхал заўважыў свата, які цішком сагнуўся і лучыў прашмыгнуць да азярца-калюжыны, каб непрыкметна ўцячы агародамі.

— Свата лавіце! — крыкнуў, апярэдзіўшы, Ладзік і першы пабег да канавы. — Я яму «аддам грошы»!

«Таўкач» пачуў і таму доўга не раздумваючы, з разгону ўскочыў у касцюме ў ваду, пагробся рукамі да другога берага. З галавы зляцела фуражка, паплыла па вадзе, але ён не лавіў яе, баяўся, што дагоняць і надаюць за інваліда яшчэ большых кухталёў.

— Вось так, няхай паплавае, няхай дурнота з галавы выйдзе, — сказаў Міхал Ладзіку.

— Нырца дай, хай галава ахалонецца!

— Грошы яму аддай, хм... Хай Жамойда і аддасць, — не мог Жменька забыць абразы, шкадаваў, што вылузаўся той з яго рук.

Ды добра ведаў Ладзік, што не з-за свата пачалося ўсё і не з-за пугі — і яшчэ пісяг гарэў, — праз яго хацеў уджаліць Жамойду. Хоць чым-небудзь, хоць гэтай бойкай — няхай ведае, што ніхто са спрымачоўцаў не жадае быць у яго хаце і ніхто не зычыць ім шчасця. То ж дачакаецца і яна, Вікця, што ніхто і дзверы не адчыніць да яе. З-за Жамойды.

Не вырваць з сэрца вайну...

Хіба мог Косцік Міхалап выкрасліць са сваёй памяці тую раніцу?

У празрыстым небе плывуць павучкі-цянётнікі. А па зямлі ўжо сцелецца начны холад, адганяе цяплынь ад паплавоў, яны і штурхаюць у неба павучынне — усё вышай і вышай.

Косцік пазірае на яго, жмурыцца ад чырвонага сонца, яно не слепіць, а лашчыць твар. Аблачын збіраецца ўсё больш і больш — як хто зганяў іх у гурт. Яны плылі некуды за Спрымачоў — за Княжына, і губляліся там у ранішняй смузе.

Дні стаяць цёплыя, сухія, хаця даўно ўжо мінула бабіна лета.

Ён ляжыць на сцірце, укрыўшыся світкай і сенам, і яно, разварушанае, пахне выразна і прыемна.

Сцірта не з сена, а з саломы. То Косцік прынёс ад стажка, што на ўзболатку, абярэмак сена. Не цяпер, летам яшчэ, як аднойчы хаваўся тут, як ведаў, што яшчэ прыйдзе сюды. Тут самае зручнае месца і далекавата ад вёскі, і нікому ў галаву не прыйдзе, што тут чыясьці схованка.

Зліпаюцца і баляць вочы. Ужо колькі начэй і парушынкі сну не было. На душы радасна — усю ноч праседзеў каля Вікці. Яна кашляла безупынку — аж балюча было слухаць. Прыходзіў не да Вікці і не да бацькоў. Да бабы Настазі — пякла яна, як і Арэнка, партызанам хлеб. Перад гэтым прыходзіў да Арэнкі. Адну ношку аднёс да дубоў, на Бобрык, дзе яго чакалі партызаны. Хлеб быў яшчэ цёплым, пахкі. Стась Мілёнак браў кулідкі ў рукі, падносіў да носа і зажмурваў вочы: «Самы святы пах на зямлі...»

Настазя з жанчынамі — Маланчыхай і Чыкановай Марфай — замясілі цеста і сказалі, што ноччу спякуць зноў. Вось Косцік і забурыўся на дзень у сцірту. Меркаваў так: пабудзе вечарам у бацькоў, забярэ потым у жанчын хлеб і тады пойдзе на сустрэчу з хлопцамі.

Косцік захаваў глыбей у сена карабін, сам накрыўся саломай і сенам. Галаву абгарнуў світкай — і яго адразу ахутала цяплынь. Перад вачыма з'явілася Вікця, нешта вясёлае казала яму, усміхалася пяшчотна...

Калі Жамойда выехаў па фурманцы з дому, распачыналася раніца, ён ехаў, каб пабраць у тым стозе подсцілу для каровы, ён зняў

з воза драбінку, падняўся наверх. Убачыў сасновую сухадрэвіну з абсечаным суччам — як лесвіца. Зрабіў крок і наступіў на нешта цвёрдае. Усунуў руку ў салому і намацаў халодную рулю карабіна.

Казімір сеў, задумаўся.

І тут да яго слыху данеслася чыёсьці пасапванне. Прыслухаўся — побач. Разгарнуў салому — на яго глядзеў Косцік Міхалап шырокімі ад здзіўлення вачыма.

Жамойда адышоў і сеў. Карабін паклаў між сабой і Косцікам, бліжэй да сябе.

— Палажы вінтоўку — не твая, — загадаў Міхалап, не падымаючыся са сваёй лежанкі,— цела ад нечаканасці ўсё здранцвела, і ён не ведаў, што рабіць у такой сітуацыі.

— Бач, ён у мяне ў палоне і мною ж камандуе, — хмыкнуў Жамойда незадаволена, таксама разгубіўшыся ў такой нечаканай сітуацыі.

Косцік прагнаў ад сябе рэшткі сну, атрос галаву ад сеннай трухі. Сеў і паглядзеў спачатку на Казіміра, пасля ўжо вакол — ці няма каго.

— Дык кажаш, у палон мяне ўзяў?

Адказу не пачуў.

— Што тут з канём робіш?

— Па салому прыехаў. На падсцёл.

— Гаспадар. Каму вайна, а табе маць радна...

— Карова есці і ляжаць хоча, як і чалавек, — як бы ўжо апраўдваўся Жамойда.

— А чаго ж не на службе сёння? Мо выгналі?

— Выхадны.

— Добра ў Гітлера ўладкаваўся, і зарплата добрая, і гарэлкі — пі не хачу... Лафа!

Вінтоўка ляжыць між імі, чорная руля белай ніткай блішчыць на сонцы. Але ў рукі яе не браў пі Косцік, ні Казімір, хаця абодва не зводзілі з яе вачэй.

«Ускочыў як у пельку, — думаў Міхалап, жуючы сяніну — горкую, што палын, — а каб гэтыя бобікі аблаву рабілі? Загрымеў бы як швед пад Палтавай. Але нешта ж і не пазнаць Жамойды, гаворыць, як быццам вінаваты мне што. Але ж мог з той вінтоўкі ўлажыць мяне або параненага здаць у паліцэйскае ўпраўленне, балазе і транспарт у руках. Узнагароду за гэта атрымаў бы, гэта точна... Хітры ён і асцярожны...»

Казімір глядзеў удалячынь, туды, дзе сіпеў лес, асмужаны асенняй цеплынёй, пра нешта думаў. Лоб быў нахмураны, нос востры, бы

абсечаны сякерай. Зубы сцяў, і не зразумець было, што ён замысліваў...

— Бацьку ў лес ты загнаў?

— Гюнтэр. У яго спісак усіх людзей — і Спрымачова, і Зімовай Буды, Ясянца і Жахавіч...

— Мо і сам складаў?

— ён прыехаў з гатовым. Не ведаю, хто...

— Мо не ведаеш, хто і Буду-Казіміраўскую паліў?

Жамойда нахмурыўся, глянуў на каня, панура адказаў:

— Карнікі. Мяне там не было.

— А як ты дакажаш? Мо і быў.

— Не быў. Мост мы ў гэты час клалі. Разам з Адамам Алтайскім.

— Ладзікаву жонку таксама карнікі выганялі на мароз?

— П'яны быў, пакуражыцца захацеў перад Гюнтэрам. Тут я вінаваты...

— Толькі тут?

— Ну... Ды ты што — пракурор тут ці хто? — Жамойда спытаў раздражнёна і злосна. — Што ты нада мной суд устрайваеш? Не табе судзіць, калі што.

— А каму? Можа, Богу? Людзі і будуць судзіць.

Косцік паглядзеў па ўзлесак, быццам чакаў адтуль
помачы, падняў руку, махнуў — як знак падаў.

«Што я раблю? — адумаўся Міхалап. — Чаго на ражон лезу? Так і сапсаваць усё нядоўга. Раззлую — упрэцца, як бугай, яшчэ можа і за стрэльбу хапіцца...»

— Але, ты мне не суддзя, — уздыхнуў Жамойда. — Не, не суддзя.

— Добра. Час табе суддзя. Але ж і час не чакае. Адным словам, Казімір, трэба нам з табой прымаць якоенебудзь рашэнне. Так мне камандзір сказаў...

— Якое рашэнне?

— А такое. Галава ў цябе варыць, ты і кумекай. — Міхалап засунуў руку запазуху, дастаў шматок газеты, агрызак алоўка, падаў: — На, вазьмі...

— Навошта?

— Вазьмі і пішы. Мне дадзена заданне звязацца з табой. Задаць адно пытанне: ці згодзен ты памагаць партызанам? Вось і напішы, каб быў дакумент.

— Каму пісаць і што? — Казімір прыўзняўся, перасеў на зручнае месца.

— На імя камандзіра. Заява аб прыёме ў партызанскі атрад.

Казімір нечакана схапіў вінтоўку, ліхаманкава кляцнуў затворам. Міхалап перамяніўся ў твары, збялеў, але голасам стараўся не выдаць свайго страху. Зіркануў на ўзлесак.

— Ты можаш стрэліць, але твой стрэл будзе апошнім.

— Не дагоняць, — Жамойда скрыгатнуў зубамі, — у мяне конь, як вецер.

— А яны, думаеш, на сваіх нагах? — кіўнуў Міхалап у бок лесу. — І стрэл для іх як сігнал.

Вінтоўку Жамойда паклаў на ранейшае месца.

— Вось так правільна. Разумна.

— Што пісаць?

— Што? А так і пішы — камандзіру партызанскага атрада «Смерць фашызму» ад такога-та і такога-та. Хачу памагаць партызанам. Потым прашу дазволу ўліцца ў партызанскі атрад. Што віну сваю выкуплю кроўю.

Казімір падумаў і, паклаўшы газеціну на калена, пачаў выводзіць літары, варушыў губамі. Гэтая пісаніна далася яму цяжка, аж узмакрэў — на твары выступілі буйныя кроплі поту.

«Ну, цяпер, здаецца, перамог, — глядзеў на Казіміра Касцік, як той шчыраваў над паперай. — А ледзьве ж не сапсаваў усё, перастараўся... Пішы, здраднік, пішы... Цяпер то ты ад мяне нікуды не дзенешся».

— На, — падаў напісанае.

Касцік выдаўжыў руку, каб узяць карабін — Жамойда не зварухнуўся. Але як толькі устаў, Казімір раптоўна шмаргануў яго за крысо фуфайкі і паваліў.

Карабін адляцеў убок.

Халоднымі рукамі паліцай сціснуў Касцікава горла, пачаў душыць. З апошніх сіл ён стукнуў ненавісніка каленам у жывот. Адсунуўся, не разлічыў, упаў са стога. Ачомаўся, кульгаючы, кінуўся бегчы — балюча выцяўся аб мёрзлую зямлю. Уцякаў, а з галавы не выходзіла, свідравала думка — вінтоўка ў Жамойды.

Як адбегся з паўсотні крокаў, ззаду грымнуў стрэл. Потым другі. Кулі ціўкнулі над галавой.

У карабіне было ўсяго два патроны. Астатнія былі ў кішэні фуфайкі...

Праз тыдзень хадзілі на чыгунку.

Але ўзарваць эшалон не ўдалося. Нарваліся на групу нямецкіх разведчыкаў. Моцна параніла Міхалапа — ён адвёў разведчыкаў ад падрыўнікоў...

У зямлянку ўваліўся Міхал Клімаш — у аўчынным кажушку, расхрыстаны.

— Таварыш камандзір, — загаварыў з парога, — там такое дзела — затрымалі паліцая.

— Якога яшчэ паліцая, дзе?

— На першым дазоры затрымалі. Спрымачоўскі паліцай Жамойда і з ім Адам Альшэўскі, жыхар той жа вёскі.

Громаў нейкі момант разважаў, потым прамовіў:

— Што ж, вядзі.

Праз хвілін колькі ў зямлянку Клімаш прывёў Жамойду — у чорным кажусе, у валёнках. Насцярожана глядзеў па Громава, камячыў у руках шапку.

— "Прозвішча?

— Жамойда. Я вам, таварыш камандзір, прывёз соль і цукар.

Громаў недаўменна паглядзеў на паліцая. У бок Украіны паехалі партызаны, каб хаця не солі, дык попелу — шчолачы з яе — расстарацца.

— Адкуль яна ў цябе?

— Я яе павінен быў сёння даставіць у суседні гарнізон.

— Чаму ж да нас прывёз?

— Бо ведаю, што пакутуеце без солі і цукру. І што хворых шмат. Я ж не вораг людзям...

— А хто ж ты тады?

Казімір апусціў галаву:

— Не па сваёй ахвоце я — прымусілі.

Громаў нейкі час маўчаў, абдумваў сітуацыю. Для яго ўсё тое было нечаканкай. Чаму падаўся да іх? Адчуў, што перелом наступіў — пад Масквой добра турнулі фашыстаў?

— Мне вось што яшчэ хацелася б пачуць: ці ёсць сярод вас паліцаі, якія б згадзіліся перайсці на наш бок? Ці памагаць нам.

Казімір задумаўся, сказаў:

— Пра тое не ведаю. Дазнаюся. Во яшчэ што. Гюнтэр Клаўс, мой начальнік, казаў, што на партызанскі атрад, не ведаю толькі які, праз колькі дзён пападуць карнікі І прыедуць яны з Мазыра. Яшчэ. Не ведаю зноў жа, у нейкі атрад будуць падасланы дзве дзяўчыны пад выглядам, што хочуць ваяваць з фашыстамі. То правакатары. Ім дадзена заданне высачыць партызан...

— Адкуль вядома?

— Клаўс нядаўна за чаркай хваліўся. Казаў, што скора партызанскаму атраду капут. Гаварыў пра дзвюх медхен, якія зробяць гэта. А пра астатняе я здагадаўся. Хаця тут у нечым магу і памыліцца.

Громаў пальцамі пацёр лоб, сціснуў губы.

У зямлянку зайшлі Клімаш і Міхалап. Жамойда азірнуўся, збянтэжана і з усмешкай глядзеў на Косціка.

— Во, і мой друг, Косцік, у вас, — прамовіў Жамойда, — з адной вёскі мы, амаль суседзі...

— Воўк табе друг, а не я... — адказаў Міхалап, а камандзіру далажыў: — Заданне вашае выканаў, Леанід Піліпавіч.

Паліцай зніякавеў, апусціў галаву.

— Тады адпачывайце, Міхалап. І вы, Клімаш, таксама. Заўтра з раніцы да мяне. Жамойду правядзіце да санак.

Вочы Жамойды свідравалі падлогу, цяжка дыхаў, а адна думка непакоіла яго: «Казаў ці не, што страляў па ім? Калі ж казаў, то канцы мне... І чаго папёрся, дурань?!»

Косцік сустрэўся са старым Альшанскім. Найперш пра Вікцю пацікавіўся. Уздыхнуў Адам, на хлопца самотна паглядзеў:

— Хварэе. На сухоты, пэўна. Старая казала, каб дзе тлушчу барсучынага расстарацца — мо б ён пасобіў як. Але дзе ты яго раздабудзеш па такім часе.

Зашчымела ў грудзях Косціка: дзяўчына хварэе, а ён і не ведае.

— І даўно, дзядзька Адам?

Шчацінне на шчоках тарганулася, уздыхнуў:

— Ды другі ўжо месяц...

— Чаго гэта Жамойда надумаўся такі подзвіг утварыць?

— А хто яго ведае. Прыстаў, вядзі ды вядзі да партызан. Думаў, мо немцаў хоча прывесці, аж непадобна...

— Страшна стала. Вось і прыпёрся. Адчуў, што паленым пахне...

— Мо і так.

Вясной, калі барсукі выйшлі на першае жыраванне, падаўся Косцік Міхалап у Княжына, у тую дзялянку, якую ён пазней назаве Барсучыным хутарам.

Праз колькі начэй выбраўся ў Спрымачоў і перадаў Вікцінай маці натоплены барсучыны тлушч.

## Калюх-калюха, на два бокі і ўсторч

Мікіта даў парсюку, пакарміў курэй хлебам і крупамі. Не забыўся і пра Грая — тоўчанкі з малаком падрыхтаваў у місе.

Каровы стары не трымаў — браў малако ў Настазі. Сена для Рагулі касіў Ладуцька.

З бабкай Настазяй у дзеда дзіўныя адносіны — то жыць адзін без аднаго не могуць, як не штодня ў адведкі ходзяць, а то з-за

драбязы насварацца і па месяцу парог не перапупаюць. Але ў якім бы настроі старая ні была, кажынны раз, увечары і ранічкай, ставіла на прызбу двухлітровы слоік малака.

— Ну што, старая карга, як на свет глядзіш? — ішоў Ладуцька першым на прымірэнне, піпку ў шчарбатыя зубы засоўваў, пыхкаў засяроджана, з бабкі вачэй не зводзіў.

— А так і гляджу, пень стары ды яшчэ трухлявы,— бабка выцірае вусны, усміхаецца — адлегла крыўда ад сэрца, засумавала па суседу. — На той свет пара, а вось Бог не прымае, не падпісвае маё заяўленне...

— І не падпіша, калюх-калюха! — рагоча Ладуцька, падпірае сцяну спіной. — Мы яшчэ нагуляемся з табою на гэтым свеце, аж чарцям будзе моташна, на два бокі і ўсторч. Заходзь, Настасся Адольфаўна, гарбату піцьмем...

— Ды зайду ўжэ, анягож...

Дзед радасна расчыняе перад госцяю дзверы Сам прычасаны, на ім чысты касцюм і жоўтая сарочка ў палосачку. Як перад нявестай дзед красуецца, лепшым паказацца стараецца.

І сядзяць тады яны доўга-доўга, аж за поўнач, бавяць час размовамі-ўспамінамі.

— То пайду ўжэ я, Мікіта. Дабранач табе.

Ён праводзіць яе да самага бабчынага парога, жадае добрай ночы таксама.

У нядзелю ён звычайна піў гарбату адзін, пасцяліўшы на стол вышыты некалі жонкаю абрус. То былі яго святыя гадзіны, ён уяўляў, што за сталом сабралася ўся сям'я — жонка Уліта, дзеці — Пятрок, Янка, Ладзік і Надзейка... Дзед нібы наяву чуў іх галасы, смех, чуе нават, як яны адхлёбваюць з кубкаў пахкі ўзвар, пырскаюць смехам.

— Мамка, а Пятрок шчыкаецца, — скардзіцца Надзейка Уліце, а сама рукою заціскае сабе рот — восьвось засмяецца.

— Вось я яму пакажу хутка, не ўгамоніцца бэйбус.

— Ага, ага, — задаволена паглядае яна на брата.

— А яна мяне нагой пад сталом піхнула.

— Ой жа і балаўнікі вы, яй-бо, — уздыхае яна і шчасліва паглядае на іх.

Доўга не пасылаў ім Бог дзяцей.

За дзесяць гадоў да вайны ў іх з'явіўся першынец.

Ладуцька моўчкі глядзіць на Уліту, на яе шчаслівы мацярынскі твар і радуецца за яе — прыгожая. І голас у яе — пачуеш, дык любы боль і знямога прападзе, зірне на цябе ў тваю цяжкую гадзіну — як рукой цяжар здыме. А яшчэ як абдыме ды гарачымі вуснамі дакра-

нецца — здаецца, мёртвага ажывіць можа. Як і яго некалі ў грамадзянскую вайну.

У двары падаў голас Грай, напомніў пра сябе. Мікіта ўстае з-за стала і ўключае святло. За акном у цемры свяціліся дзве жаўтлявыя кропкі — Грай глядзеў на гаспадара. Мікіта выйшаў на ганак. Сабака завішчэў, падскочыў да грудзей.

— Што, воўчае мяса, падурэць хочацца? От цыцуляеш гіцлем, калюх-калюха, работы аніякае не робіш, сцеражэш маё дабро. А якое яно ў мяне дабро, га?

Грай брахнуў раз, потым яшчэ. Быццам адказваў гаспадару, што зразумеў яго.

— Во-во, падахвоць цябе... Супакойся, з ног саб'еш.

Вечар цёплы, ціхі. Вецер чуецца з захаду, быў амаль нячутны, адно трымцела апошняе лісце на бярозе, што звесіла сваё тонкае голле ў двор.

Грай ледзь чутна заскавытаў, прызадзіраючы галаву.

— Ну, то пачакай, я хутка. І самому нешта маркотна сёння.

Дзед вынес гармонік — стары, пашарпаны. Грай шавяльнуў хвастом, выказваючы радасць, што гаспадар зразумеў яго жаданне — аддана паглядаў на яго неспакойнымі вачыма.

Мікіта паставіў гармонік на калені, пагладзіў вечка, дакрануўся да перламутравых гузікаў. Кожным разам ён пачынаў свае «вечарыны» з аднае і тае ж песні — «Там, вдали за рекой...». Пасля першага куплета Грай пачынаў падцягваць — тоненька, заплюшчыўшы вочы. Ладуцька ўлагоджваў сабачае сэрца. Бо і самому балела.

Ладуцька браў новы акорд, пераводзіў то на вясёлы, то на сумны лад, расказваў Спрымачову пра свой сум, пра вайну, пра гора і злыбеду...

Успамінаў ён пра сваё юнацтва, якое прамільгнула на чырвоным кані і не магло вярнуцца назад, якой пазыўной нотай Горана не кліч яго, коніка, не заманьвай...

У такія вечары ніколі не было чуваць Ладзікавага гармоніка.

Над ігрушай узышоў месячык. Тоненькім сярпом завіс на вільчыку.

Высьпявалі ў небе зоркі, ярчэлі, пераміргваліся, быццам толькі яны ведалі адвечную тайну жыцця.

Жамойда прыехаў з Ельска пад вечар — прыхмялелы, з хітрым прыжмурам вачэй. Абвясціў жонцы:

— Падамся я, Вікця, у леснікі. З бацькамі цесна — сваю хату будаваць будзем.

«З Косцікам на адной рабоце будуць», — чамусьці падумала Вікця.

— Калі падасіся?

— А вось на тым тыдні паеду ў раён, здам усе паперы — доімкі-нядоімкі, і дырэктар леспрамгаса напіша загад. Заяву падаў ужо. Чысты я, ва ўсім чысты...

Ведала Вікця, што Жамойда не адзін раз ездзіў у раён і ў вобласць дапінаў — даставаў нейкія паперы, шукаў сведкаў. Перад судом — акурат яна ў бальніцы была, да Громава ездзіў. Ды размова, як казалі, у іх не атрымалася. Разам з паліцаямі судзілі і Жамойду. Не дапамог і Адам Альшанскі, які пацвердзіў на судзе, што разам з Жамойдам вазіў у партызанскі атрад соль.

Праз год вярнуўся Казімір у Спрымачоў, вельмі здзівіўшы вяскоўцаў кароткай адсідкай. Ішоў па вёсцы з гонарам, высока задраўшы галаву. Не зразумець было, што за чалавек — паліцаям служыў, з людзей здзекаваўся. Але ж і людзей папярэджваў, калі аблавы былі, ад Нямеччыны дзяўчат убярог.

І не вораг, і не свой.

На другі дзень Ладзік сустрэў яго на вуліцы. Жамойда павітаўся першым, руку нават падаў.

Жменька скрыгатнуў зубамі, коршакам на яго накінуўся, учапіўся ў каўнер:

— Гад! Хто выпусціў цябе?!

— Ну, ты, — вырачыўся Казімір, адкідваючы яго ад сябе, — каму трэба, той і выпусціў. Рукі ўбяры ад мяне.

— Нічога, за гаўно я брацца гідую, але адмыю рукі, вот толькі ці ты адмыешся ад людской крыві?..

— Не табе мяне судзіць! — пырснуў слінай Жамойда.

Ладзік абцёрся рукавом, сплюнуў:

— Мне. І ўсім. Хто цябе выпусціў — трэба разабрацца.

— Ды разабраліся. І дакумент во выдалі, з пячаткай.

— Падатры ім...

Ледзьве адцягнулі ад яго Ладзіка: забіў бы пад гарачую руку. За жонку, над якой у вайну здзекаваўся, выганяў распранутую з Лёнікам на мароз — дапытваўся пра партызан.

Казімір расстараўся недзе скураное паліто, пашыў сабе фрэнч, галіфэ і круглую, такога ж зялёнага колеру, фуражку з тоўстым брылём. І ў гэтай нязменнай форме хадзіў па вёсках, спаганяў нядоімкі. У хаце павесіў вялікі партрэт Сталіна.

Рабоце быў аддадзены, можа, нават і занадта.

Ліліся людскія слёзы — адтэрміноўкі ён не прызнаваў. Абдурыць яго было цяжка. Арэнку не пашкадаваў — карову ў раён завёў, дзяцей галоднымі пакінуў. Абараніць нябогу не было каму — муж прапаў на вайне без вестак, як ворагам стаў для радзімы.

— А ты што думаеш пра маю работу? — спытаў, сеўшы на край ложка, Казімір.

— Анічога. Надумаўся, дык працуй, — пацiснула Вікця плячыма, дамывала посуд.

Жамойду здзівіла абыякавасць жонкі. Думаў, што радавацца будзе, а яна...

— Я ж пра заўтрашні дзень думаю, — пакрыўджана загаварыў Казімір. — Каб хату пабудаваць, гаспадарку займець. Каб у хаце дастатак быў.

— І шмат таго дастатку хочаш?

Вікця дамыла посуд, села па лаўку, уздыхнула. Яе ахутвала млявая стома. Тое, што казаў муж, не кранала яе, як не ёй гаварылася.

— Шмат. Каб хапала і нам, і дзецям нашым.

— А колькі ж дзяцей будзе ў цябе?

— Колькі? Двое. Трое. А мо і пяцёра, як ты расстараешся, — сказаў і зарагатаў ад сваіх слоў.

— Ого, — пахітала галавой, — і размах у цябе.

Пра сябе ж падумала: «Не збудуцца твае жаданкі.

Для гэтага каханне вялікае трэба... А ў нас? Як поснае на свята».

Казімір засоп, дакрануўся да жончынай рукі. Хацеў расшпіліць кофту. У сенцах пачуўся грукат.

Казімір мацюкнуўся. Яна ж рассмяялася:

— Будуйся, Казік, хутчэй. Бо так і нервовую сістэму сваю сапсуеш.

У хату зайшоў стары Жамойда — сівы, сагнуты, маўклівы. Патаптаўся ля печы, прагугнявіў нешта пад нос. Зазірнуў пад лаўку, пасля на печ.

Да сына ў другую палавіну не заходзіў. Пастаяў у роздуме, перахрысціўся на абразы і падаўся ў двор.

— Забываецца бацька. Дзе што пакладзе — не памятае, — Казімір паглядзеў у акно, пазіраў на бацьку — той тэпаў ужо да дрывотні. — Старасць...

Маладыя жылі ў другой, лепшай палавіне хаты. Няўтульна адчувала сябе ў іх Вікця. Казімір, праўда, з першых дзён павёў сябе так, што жонку з першых дзён пачалі лічыць гаспадыняй. Пакрыкваў на маці, калі тая спрабавала пярэчыць ці даваць заўвагі.

Вікця пайшла да печы, выцягнула алюмініевы чыгунок.

— Галіцца будзеш?

— Буду.

Падкінула трэсак у жар, каб даварыць абед, што пакінула свякруха, — падалася на вёску. У гаршчэчку была бульба. Вікця ўсё яшчэ не магла ніяк прынаравіцца да чужой печы, да вілачнікаў і Гаршкоў. У яе дома гэтулькі не было. Два чыгуны для парсюкоў, два для сябе. А тут і печы не хапала для ўсяго, рыхтавалася, як на некалькі сем'яў. Жамойда еў за траіх — толькі падстаўляй. Вікця ў першыя дні падумала, што ёй прыйдзецца гатаваць і гатаваць.

Казімір падвастрыў на дзязе брытву, накалаціў пены ў мыльніцы.

— Сёння Марфа Чыканова паклікала да сябе бабку Настазю. Дык і я падумаў, ці скора нас такое чакае?

Вікця не адрывалася ад чырвонага полымя ў печы.

— Чакай. Мо і дачакаешся.

Ён пагаліўся, выйшаў у двор і памыўся. Потым доўга выціраўся ручніком.

Як збіраліся сесці за стол, у дзверы нехта пастукаў. На парозе стаяў Янік — ён падмяняў калгаснага брыгадзіра Зюніка Кашаеда. Быў у фуфайцы, у зашмальцаваных штанах, у старых кірзачах. Твар зблажэлы, востры кадык. На Жамойду не глядзеў, вінавата загаварыў да Вікці:

— Я, гэта самае, ці не магла б ты сёння на работу выйсці. Як здаровая, канечне.

Ён зіркануў мельгам на стол, дзе шыпела патэльня з салам — па хаце разносіўся смачны дух. Янік пракаўтнуў згаладала сліну, ведаў, што тут яму нічога не перападзе, а хоць бы і запрасілі за стол, то ён бы ніколі не сеў. Так загадала маці, ды ён і сам праз людзей ведаў, што за чалавек Жамойда.

— За Бобрыкам пачалі капаць ужо. Жанкі збіраюцца на калгасным двары.

— Я пайду, Янік, — адразу згадзілася Вікця. — А то ж казалі, што ты на курсы шафёраў паехаў вучыцца.

— На тым тыдні паеду, як Зюнік вернецца.

Янік яшчэ трошкі патаптаўся ў парозе, узяўся за клямку:

— То не спазняйся. Жанкі чакаюць.

Ён прычыніў за сабою ў сенцах дзверы і пашыбаваў да веснічак. Вікця праз акно бачыла, як ён шырока размахваў рукамі і яны даставалі як не да калень, як калывалася яго галава з шапкай-аблавушкай, хаця на вуліцы снегам і не пахла. Падумала: «Мо трэба было

запрасіць хлопца за стол ці хаця б скварку з хлебам усунуць у кішэню — дома скразнякі па місках гуляюць».

— Сваёй работы дома хапае, — буркнуў Жамойда, узяўшы кавалак хлеба, — а яна ў калгас прэцца.

— Параблю яшчэ тваю работу.

— Нашую работу. Нашую. Праз тыдзень сваю бульбу пачнём капаць. Людзей наймаць трэба — адна не выкапаеш.

— Чаму не выкапаю? Выкапаю. Я ж двухжыльная.

Вікця перакусіла на скорую руку, з сабой узяла

хлеба і сала. Прайшла вуліцай, потым на сцежку звярнула — і да калгаснага двара рукой падаць. Цэлы дзень з жанкамі, нагаворыцца ўдосталь. У хаце абрыдла сядзець, мутарна. Як у клетцы якой жыве...

Насустрач крочыла Паліна. Вікця разгубілася, сцішыла хаду.

— Дзень добры! — павіталася першай, параўнялася.

— Добры дзень! А я здалёк і не пазнала цябе. Багатай будзеш.

Вікця заўважыла, што ў Паліны выпірае жывот, заўсміхалася:

— Ты ўжо багатая. Скора ўжэ?

— Ага. Пасля акцябарскіх...

Паліна вельмі змянілася. Твар увесь у рабацінні, але яно толькі маладзіла жанчыну, тоўстыя і налітыя крамянасцю губы. У вачах з'явілася жаноцкая спакойнасць і перакананасць. Ад яе зыходзіла дамашняя цеплыня і ціхае шчасце будучай маці.

— Кофту я ў цябе, Вікця, бачыла. Сама вышывала?

— Сама.

— Мо б дала які ўзор файны — сабе хачу зрабіць.

— Добра, зайдзі калі. Ці я забягу, прынясу.

— А ты куды з кашалём — на бульбу?

— Ага. За Бобрыкам капаць будзем.

— Дабрэнная там бульба. Мой Косцік прынёс паўкашаля, дранікі рабіла. Ну, я пайшла. Забавілася вельмі.

— І мяне чакаюць.

Вікця паскорыла крок, заспяшалася. У яе грудзях сядзеў нейкі маленькі звярок і паціху шкрабаў па сэрцы. Адчувала, як і кіпцюрыкі ўпіваліся глыбока і балюча. То была і зайздрасць, і крыўда.

Як падыходзіла ўжо да калгаснага двара, насустрач з кустоў вынырнуў дзед Мікіта. Аж напужаў ад нечаканасці. У яго за спіной, як і ў Вікці, быў кашэль. Стары спыніўся, страсянуў сівой барадой, абрадавана паглядзеў на жанчыну:

— Го, здароў, пані Альшанская!

— Добры дзень, дзед Мікіта! — павіталася вінавата.

— Чаму ж гэта мы даўно не бачыліся, калюх-калюха? Мо куды на курорт з'язджала ці ў санаторыю? — у вачах Ладуцькі свяціліся, як заўсёды, вясёлыя агеньчыкі, жартаваў.

— Нікуды і не з'язджала. Дома была.

— Дома? Хм... Дык жа на якой такой, калюх-калюха, вяроўчыне прывязаў цябе Жамойда, што і з хаты не выпускае на людзі? А так нельга, скажу табе, нельга без людзей.

— Ніхто мяне не прывязваў, дзед.

— А цяпер куды ідзеш?

— На бульбу з жанкамі еду.

— Правільна. На бацьку ты вельмі падобна. Да вайны мы з ім сябравалі. Цябе, маленькую, памятаю. Кудзеркі аж да пояса былі. І ты любіла іх расчэсваць.

З кашаля ў дзеда выглядвалі зялёнкі, імховікі — аж з коптурам. Паспеў, значыць, на ранкі збегаць за Адолькаў круг, пад Вятчынку. Цяпер іх будзе марынаваць, у бочку засольваць. І з капустай ён упраўляўся, і з гуркамі — на ўсе рукі Ладуцька майстар. Віктя вінаватая трошкі перад ім — магла б і праведаць, памагчы што ўпарадкаваць у хаце.

— А я і не помню, дзед Мікіта.

Стары засмяяўся, прыжмурыўся:

— То ж табе ўсяго годзікаў два было. Ведама, што не помніш. Зайшла б калі, праведала дзеда?

— Прыйду. Памагу што.

— Не трэба мне помач. І сам добра яшчэ ўпраўляюся. Так зайдзі, проста ў госці. Не на любошчы запрашаю, куды мне...

— Прыйду, дзядуля, — паабяцала жанчына.

Да іх падышоў Ладзік Жменька, кіўнуў ёй. З Мікітам за руку павітаўся, у кашэль зазірнуў:

— Белых ужо не густа?

— Е трохі — пад нізам. Як, Ладзік, дояцца кароўкі?

— А як жа, дзед. У Настазі карова запусцілася, чаму ў нас малако не бярэш?

Ладуцька задумліва пашкроб бараду:

— Твае даяркі вадой разбаўляць, а ў мяне прыбіральня далёка ад хаты, калюх-калюха, прабачай, Вікторыя.

Ладзік зарагатаў, хітнуў галавой:

— З табой, дзед, не засумуеш.

Ладзік найбольш з Ладуцькам гаварыў, у яе бок не глядзеў, ён і не заўсёды вітаўся з ёю. Ад таго дня, калі ў лесе сустрэў іх вяселле, калі іграў ім кракавяк.

— Дык я найшоў, — Жменька крутануўся і пашыбаваў далей.

Вікця паглядзела ўслед Ладзіку, кашэль паправіла на плячы — у вачах ледзь прыкметны сум.

Ладуцька спахапіўся, вінавата дакрануўся да локця:

— Затрымаў я цябе, выбачай.

Яна заспяшалася, трывожылася, каб не адстаць ад жанок. Здалёк убачыла, што на воз сядалі жанчыны, не дачакаўшыся яе, Вікці. Хіял махаў пугай на каня. Вікця подбегам рушыла да калгаснага двара.

Маланчыха, устаўшы, закрычала:

— Хутчэй, Вікця, бо ўцячом.

— Іду-уу! — махнула рукой жанчына.

Перад ёю, з-за хлява, выбегла Арэнка і гэтаксама спяшалася дагнаць фурманку.

Цяжкі, вельмі цяжкі быў у Косціка дзень.

Доўга валаводзіўся з адвядзеннем брызглінавай плантацыі — ад самага рання хадзілі з Карабковым, шукалі месца і рашылі адвесці яе ў Конікавым абходзе.

— Гутаперча патрэбна краіне, — гаварыў ляснічы. Ён быў чымсьці незадаволены, бровы сышліся на пераносіцы!— Сталінскі загад — вырабляць найбольш гутаперчы... Арміі патрэбна гума...

Пасля абеду грузіў дровы на машыны, што прыязджалі з горада. Некалькі машын прыехала без грузчыкаў, і ляснічы папрасіў пасобіць. То Міхалап стаў і за грузчыка — накідаўся, напручкаўся, як дурань мыла наеўся, ледзьве прывалокся дадому...

Пад раніцу прысніўся яму барсук. Хацеў сказаць пра нешта, Міхалап прачнуўся.

Да яго слыху нечакана данеслася ледзь чутнае гудзенне машыны, ён чуйна вёў яе слыхам па ўзгорках і нізінах, вылічыў, што пад'язджае да Вятчынкі.

«Так і ёсць — едуць у мой абход. А ў мой лес больш ніякай дарогай і не прабярэшся. Яшчэ праз Спрымачоў. Але то калі да мяне заязджаць трэба, каб дакумент паказаць ці мяне ў лес забраць. А гэтыя тайна хочуць, маўчком...»

Ён пачаў спехам апранацца, баяўся пабудзіць у калысцы Сяргейку. Насунуў кірзачы, ухапіў з вешалкі фуфайку, стрэльбу. На вуліцы ўжо, на хаду, апрануўся, стрэльбу закінуў за плячо — руляй уніз. Спыніўся, паўслухоўваўся яшчэ раз, пастаяўшы трохі на ўзгорку.

«Спусціліся ў лагчыну. Дзесьці пад Бронькай ужо...»

Лес пачаўся адразу за агародамі, і Косцік нырнуў у яго цемру. Потым прызвычаіўся да цемнаты і бег ужо, як па полі, — нічога не замінала.

Стала задушна. Расшпіліў фуфайку, сарочку, але прахалоды не адчуў. Подбегам, трушком, кіраваў напрамкі па балоце, правальваючыся ў багну...

Зноў спыніўся, прыслухаўся: наваколле абзывалася слабым пошумам верхавін. І тут ён рашыў пайсці на хітрасць...

Выбег на бальшак, па якім праехала машына. Сляды былі свежыя і належалі магутнаму «ЗІСу».

«Так, паехалі ў Вятчынку, дзе карабельны лес...»

Ён прыбег да моста праз Лабасова — рэчка цягнулася ад вёскі. Адшукаў каля шуляка прыкапаны лом. Потым з другога боку — з таго, куды паехала машына, напруціўшыся, адсунуў дубовую маснічыну. Калі будаваў з Хіялам мост, ён наўмысне не замацаваў адно палена: яго можна было ссунуць. І калі будзе ехаць машына з крадзеным лесам, праваліцца — саслізне маснічына са стаяка.

Ён прабег трохі па дарозе, потым зноў нырнуў у лес — у густое кустоўе. Балюча шлёгала галлё, за ногі чапляўся калючы ажыннік і сухі верас, канчаліся, здавалася, сілы — даваў знаць аб сабе ўчарашні дзень. Але ён бег і бег напрамкі, баючыся, што позніцца...

І ўсё ж не вытрымаў такога тэмпу, спыніўся, прыхінуўся спіной да тоўстай асіны, упёрся ў яе галавой. Пакацілася пад ногі фуражка, і ён не заўважыў гэтага.

Неба ўсё яшчэ было зацягнута шэрымі воблакамі.

Над галавой праляцела нябачная птушка, залапатала гучна крыламі. Косцік выцер рукавом твар, узяў з зямлі фуражку і рушыў далей: спяшаўся ратаваць стромкія насенныя сосны...

Ён прыбег у сорак пяты квартал свайго абходу. У ім раслі роўныя і высокія дубы. У ногі ўблыталася папараць, і ён старчмя паляцеў на зямлю. Упаў і не захацеў падымацца — не было сілы, аддыхваўся.

Халодная зямля адбірала стому. І тут жа да слыху зноў данеслася гудзенне машыны, той самай, якая чулася і ў вёсцы, якая была побач, зусім побач...

Ляжаў усяго некалькі хвілін, але і за гэты час здалося, што ляжаў вечнасць і папракнуў сябе за ляноту. Прымусіў падняцца сябе, прагнаць млявасць.

Ён прабег бярозавы гай, сасоннік, і наперадзе нечакана бліснулі машынныя фары, і ён закрыўся локцем.

Пачуліся ўзбуджаныя галасы і шахканне пілы.

— Ды пашавельвайся… тваю маць, спаць сюды прыехаў?! — чуўся нечы грубы і нізкі голас.

— Ды піла тупая, што я зраблю.

— А хто казаў, каб пілы загадзя рыхтавалі?

— Іцко такія падсунуў.

— А ты куды глядзеў, падла…

Незадаволены той жа голас глуха папярэдзіў:

— Асцярожна там!

— Бачым, не бойся, — адказаў другі, злуючыся, — толькі цішэй рукавіцу разяўляй…

Міхалап вызначыў: было чалавек пяць-шэсць, не болей. Іх, пэўна, падганяў час, бо вунь хутка раніца, а работа ішла марудна. Затоена мацюкаліся, спрачаліся, падганялі адзін аднаго…

— Здарова былі, мужычкі! — вясёла павітаўся ляснік, стаўшы неўздалёк ад іх. — Бог у помач, як кажуць.

Яны збянтэжыліся, перакінуліся позіркамі. Маўкліва раіліся, што рабіць. Высокі, што стаяў бліжэй да лесніка, зняў з галавы стары, злямчаны і дзіравы капялюш, выцер ім змакрэлы твар.

— Памажы, як ёсць сіла, бо запарыліся мы сваёй брыгадай, — прамовіў дружалюбна адзін з іх.

Той, што стаяў каля машыны — у брызентавым плашчы, у гумовых ботах, нахмураны і абыякавы, — выцягнуў з кішэні гімнасцёркі паперы і панёс іх лесніку. Ён злёгку накульгваў на левую нагу.

— Вось дакументы, у нас спецзаказ, — падаў дакументы і стаў побач. — Выпісалі летам, але толькі цяпер далі машыну.

Касцік чытаў паперы, дзівіўся, як яны правільна былі аформлены, але ён ведаў, што дваццаць — трыццаць гадоў гэты лес не кране піла… Той жа сталінскі НЗ.

— З дакументамі ў вас парадак, — аддаў назад паперкі Міхалап. — Але мы павінны паехаць да ляснічага. Каб падпісаў выдачу. Такі парадак. Бо вас і міліцыя спыніць па дарозе.

— Сам падпішы, — падышоў кульгавы, высмаркаўся, прыставіўшы тоўсты палец да носа. — Там жа напісана — спецзаказ. Абарону мацаваць трэба — усё для арміі. Падпішы — і дзела з канцом.

Касцік усё зразумеў.

— Давай паявоім мійна і ціха, — падышоў да яго зноў кульгавы — хітра блішчэлі ў яго вочы. Ён картавіў, таму сказаў «паявоім», Міхалап ледзьве разабраў, што сказаў. — Гэта табе… — Ён выняў з афіцэрскай сумкі некалькі пачак грошай. — Бяі, не саёмся, што табе некалькі тых дзеявін — былі і няма, а з г'яшамі будзеш…

«Дзе і калі я бачыў яго — голас надта знаёмы».

— Хопіць з мяне і маіх грошай.

— Ну што ж, глядзі, табе відней, — укінуў картавы грошы назад у сумку, закурыў.

— Віця! — павярнуўся да машыны доўгі. — Нікуды нам не падзецца, не выкруцімся. Пакажы лесніку сапраўдныя дакументы.

Голас у доўгага змяніўся, стаў затоены, злы. У паветры нядобра напалялася паветра — і ляснік зняў з пляча стрэльбу, насцярожыўся.

З машыны вылез мужчына з цыганскай чорнай барадой, зліпкай у зубах. У руках трымаў паперы. Пастаяў трохі, пагартаў, шукаючы адну патрэбную, удакладніў:

— Што, усе аддаваць?

— Усе, усе! Глухі?! — нецярпліва прашыпеў доўгі, нечага зірнуў на неба, быццам ад яго, неба, магло нешта залежаць у гэты момант, але Міхалап ведаў: доўгі непакоіўся, што пачынала ўжо днець, яны ж меркавалі ў такі час быць ужо далёка адсюль...

— На, чавэла, трымай і не кіпяціся, — усміхаўся цыган, несучы паперы на выцягнутай руцэ, — у гэтыя ты павінен паверыць. Калі панімаеш, канешна, што-небудзь у гэтай жызні...

І тут нечакана кульгавы збоку ўдарыў дручком па стрэльбе. Гучны выбух пранёсся па Вятчынцы. Войкнуў, схапіўшыся за плячо, высокі, і ў яго рука заплыла крывёю...

Стрэльбу схапіў цыган.

— Адпраў яго на той свет, чуеш? — не адрываў руку ад пляча паранены, завыў воўкам, скрыгатаў ад болю зубамі. — Дай сюды стрэльбу, я яго сам...

— Не, забіваць мы яго не будзем.

— Дай сюды! Да-ай, я з ім паяваю, — не адставаў, .настойваў Квач.

Нечым тупым і важкім ударылі па галаве, у вачах пацямнела, заскакалі зоркі і паляцелі ў шэрую цемру.

Потым яго білі нагамі ў жывот, па галаве.

Ён душыўся кроўю, не могучы выплюнуць.

Яго вынеслі на бальшак і прыкапалі да пояса ў машынную каляіну. Прысыпалі папараццю і лісцем...

— Скарэй, Квач, паехалі, часу няма!

— Падаждзі мінутку.

— Змываемся, чорт бяры, ну-у!

— Іду, Чава.

— Што ты прыдумаў, паехалі...

— Я яго ад вайны яшчэ памятаю — ледзьве не адпявіў мяне на той свет. Яніцай паедуць машыны, няхай і п'едуцца па ім...

«ЗІС» выкаціўся на дарогу. Вадзіцель уключыў хуткасць.

Патыхала багуном і жывіцай. На прагалах віднеліся складзеныя смаляныя карчы, што нарыхтоўвалі рабочыя лясгаса. Ладуцька мінаў гэтыя мясціны, шыбаваў далей.

Рэчку перайшоў па кладках, якія і сам паклаў гадоў з дзесяць назад.

Пад дубам стаяла леснічоўка, зробленая яшчэ да вайны старым Мінам. Сюды і кіраваў Мікіта. Тут думаў правесці свае адзінокія гадзіны і суткі, пад трэск агню ў грубцы пагутарыць з Улітай, з дзецьмі, адагнаць ад сябе чорныя думкі.

На дзвярах вісеў замок, які ніколі не ведаў ключа.

Мікіта адчыніў дзверы...

Патыхнула вільгаццю і даўнім жытлом — сюды амаль ніхто не заглядваў. Апроч Ладуцькі і лесніка.

Праз які час з коміна леснічоўкі паплыў шызы дымок, зліваючыся з сінечай неба.

«Вось пратаплю грубку, адагрэю хату цяплом і буду займацца сваімі клопатамі... Ото тут хараша будзе мне — утульна і ціха, калюх-калюха, і душа супакаенне знойдзе — хоць на нейкі час, на два бокі і ўсторч...»

Полымя разгаралася, гудзела ад добрай цягі. Мікіта прыхінуўся да сцяны, смактаў пілку, задумліва глядзеў у агонь. Бачыў сваіх родных — жывых і здаровых. Бачыў і маўчаў, не клікаў. І самахоць тая грубка ўспаміналася, барачная. Фашысты паставілі яе дзеля таго, каб паздзекавацца з вязняў, бо кожны хацеў пагрэцца. Рукі пасля холаду цягнуліся да цяпла. І не хапала яго ўсім, бо ў бараку людзей не злічыць, а грубка адна. Думалі фашысты, што ўчыняць вязні паміж сабою сварку, але не дачакаліся: без змовы падыходзілі па чарзе. Пагрэецца каторы трошкі, дакранецца далонямі да грубкі, адыходзіць, чакае зноў свайго часу.

Мікіта схамянуўся, падняўся з услончыка, узяў вядро і падаўся да крыніцы.

Бралася на прыцемкі.

Паласацік стаіўся пад ядлоўцавым кустом, прыслухаўся: было ціха. Але тая цішыня прыгнятала яго, трывожыла — усё здавалася, што за ім нехта сочыць.

Ноччу ён выходзіў на жыраванне, але пакаштаваў толькі некалькі лягушак, мыш-палёўку падлавіў, а то сілкаваўся жалудамі, карэннямі. Жалуды яму падабаліся, што губляў высокі дуб, да якога часта наведваецца Дабрадзей, адпачывае каля яго. Прыходзіць туды і жанчына, падоўгу сядзіць пад ім.

Калі выпадаў першы снег, Паласацік прыходзіў да дуба і пысай рыў снег. То былі апошнія даяданкі. Пасля ён зашываўся ў цёплую нару і, укутаўшыся ў пярыну з моху і ляснога пуху, засынаў да вясны...

Падыхала прэлым лісцем, было волгла. Да лап прыліпалі смаўжы, і ён гідліва страсаў іх, хаця ў галодныя дні не грэбаваў і імі. Цяпер яму хацелася не есці, а піць. Ён валюхаўся ў бок рэчкі, туды, дзе быў нізкі бераг, куды ён прыходзіў не раз.

Да яго чуйнага вуха данёсся брэх сабакі. Тады ён стаіўся зноў і прыслухаўся: яму добра быў знаёмы звер, што памагаў чалавеку. Нават Цар яго баяўся, уцякаў з жонкаю і малым — толькі дрэвы потым храбусцелі, калі чапляўся за галіны разгалістымі рагамі. Ён падняўся на пясчаную выспачку сярод густога сосніку, дзе лацвей было ўслухацца і вызначыць, у які бок трымае чалавек і памагаты свой кірунак.

Па полі, апіраючыся на кіёк, крочыў чалавек. Хада яго была павольнай, няспешнай. Побач з ім бег сабака, адставаў, зноў даганяў.

Яны аддаляліся ад Паласаціка, і ён перастаў хвалявацца, супакоіўся. Таго чалавека ён ведаў, не раз страчаўся з ім у лесе. Ніколі ён не насіў за спіною стрэльбы. ён ніколі нічога кепскага не рабіў ні лесу, ні зверу, і таму асцерагацца яго не было чаго. Страшней былі іншыя, якія прыходзілі сюды... Тады і чуліся частыя грымотныя выбухі, як летам у навальніцу, калі жыхала маланка. Барсук баяўся летняга грому, баяўся маланкі.

Тыя людзі, што прыходзілі ў лес, рабілі маланку і гром зімой. Было тады мокра і чырвона ад жывёльнай крыві.

Бачыў часта і таго чалавека, які кожны дзень прыходзіў у лес, заўсёды насіў за плячыма стрэльбу, але і ён ніколі не рабіў грому — ні летам, ні зімой. Звяры не асцерагаліся яго, а Цар дык так асмялеў, што падыходзіў блізка і браў ласунак з рук.

Паласацік збег з пагорка. Па сваёй сцяжыне спусціўся да вады. Наталіўшы смагу, зноў падняў галаву — па-ранейшаму было ціха.

Дарога ляжала праз балотца, потым ішла густым верасоўнікам, дзе заўсёды расло шмат грыбоў і ён карміўся імі. Тут і Рыжуха шастае, з ёю ён жыве ў згодзе, пасябравалі нават — калі быў час, дурэлі разам, ён хаваўся ад яе, а яна скакала з дрэва на дрэва, яго даганяючы, потым ляцела прама на яго і сядала на спіну.

Вось і дарога...

Яе Паласацік заўсёды праходзіў асцярожна. Спачатку доўга ляжаў у кустах, прыслухоўваўся — ці не рухаецца машына са смярдзючым дымам, ці не ідзе дарогай чалавек. Падбег да дарогі, спыніўся

— нешта зноў насцярожыла. На дарозе пахла чалавекам і яго крывёю, а самога бачна не было. Усё ж асмеліўся, пачаў красціся да купкі з перасохлай папараці. Разгроб лапай — і ўбачыў, пазнаў чалавека. Твар у яго быў скрываўлены, апухлы. Чалавек застагнаў, але не расплюшчваў вачэй.

Барсук запрацаваў лапамі...

Міхалап пачуў, як нехта фыркнуў, засоп над вухам і лізнуў па шчацэ. «Сабака? Знайшоў мяне? Не чуў жа, як я падаўся ў лес...»

Ён паварушыўся, паспрабаваў сесці — асцярожна, перасільваючы боль і немач, і тады ж зразумеў, што будзе жыць.

Падняўся ён не скора. І не ў тым месцы, дзе ляжаў, а падпоўзшы да высокай хвоі — упёрся ў яе спіной. Устаў, учапіўся рукамі ў шурпатую дзеравіну.

«Як жа гэта, ёлкі-маталкі! — падумаў з прыкрасцю, дакараў, што так неабдумана палез на ражон — як на згубу. — І навошта так блізка падпусціў да сябе?»

Паспрабаваў ісці, але адразу падкасіліся ногі, і ён упаў наігліцу. Страціў прытомнасць ад болю.

Ачуўся няскора. Ляжаў на зямлі, набіраўся сіл, думаў, як выбрацца з бяды.

Неяк увечары, пасля непасільнай работы ў каменяломні, ледзьве дацягнуўшыся да мулкіх нар, Мікіта Ладуцька адчуў, што яго пачалі пакідаць сілы.

Стала раптоўна ўсё абыякавым. Хіліла да сну. Нехта з'едліва шаптаў над вухам: «Ну якога д'ябла ты працівішся, траціш сілы, на нешта маеш надзею? Заўтра-паслязаўтра адправяць у крэматорый, і ўсё знікне для цябе назаўсёды... Адсюль ніхто жывым не выходзіць».

— Што з табой? — нахіліўся над ім Панас Галушка. — Ты на сябе не падобны, Мікіта.

З Панасам яны былі ў адным палку. Разам папалі ў акружэнне, разам іх везлі ў Нямеччыну.

— Не ведаю, Панас. Але адчуваю, што мне капцы, — прашаптаў асмяглымі губамі Ладуцька, зажмурыўся, ні рукой, ні нагой не пашавяліўшы — ён не адчуваў іх, яны былі як не яго. — Не жыток, браце, я ўжо...

— Ды ты што, Мікіта, што ты, — зашаптаў адчайна над вухам сябар. — Цярпець трэба, цярпець...

— Бог цярпеў і нам вялеў, так? — крывотліва ўсміхнуўся Ладуцька.

— Трываць і цярпець.

Ладуцька ўздыхнуў, адвярнуўся ад Панаса.

— Баліць што, Мікіта Парфенавіч? — дакрануўся да пляча.

— Не...

— Цярпі, брат. У лагеры ёсць падпольная група. Трэба надзейныя людзі, — шаптаў Панас. — Твая дапамога трэба.

Ён нічога не адказаў. Расплюшчыў вочы. Але ў позірку не было ні цікавасці, ні ўсведамлення пачутага.

— Давай спаць, Панас.

Ад голаду кружыцца галава, рэзь у жываце. Іх завезлі ў кар'ер — нагружаць камянямі ваганеткі. На схіле ўбачыў некалькі каліваў святаянніку і хуценька вырваў яго, запіхаў у кішэню. Мікіта з дзяцінства ведаў, што адвар з яго лечыць страўнік, сцішвае галаўны боль. Але дзе ў бараку зрабіць той адвар? Рашыў жаваць траву сырой. Яна была горкая і нясмачная. Але ці было саладзей тое жыццё, якое было ў вязняў? Паціху прывык да горычы, і кожны раз, як рабілася цяжка і амаль невыносна, калі даймаў жывот і расколвалася ад болю галава, ён жаваў зеляніну. Траўка памагала, наступала палёгка. Гэтаму ж навучыў і Панаса...

З'явілася кволенькая надзея на сваё выратаванне. Але яна жыла нядоўга. Прыйшла восень. І ганялі іх у такі кар'ер, дзе нічога не расло.

Камендант лагера шалеў з кожным днём усё больш і больш. На яго хударлявым твары гуляла яхідная ўсмешка. На сонцы зырка блішчэла пярэдняя фікса. Казалі, што ў яго цёткі Эдэльтрауд партызаны ў Беларусі забілі сына.

...Уліта, я пішу табе — у які раз!— з таго далёкага цяжкага года. Кожную раніцу роўна ў шэсць гадзін нас зганяюць з нар і выпіхваюць на вуліцу — пастраенне.

Рукі і ногі не адпачылі пасля ўчарашняй работы ў арбайтскамандзе, а тут зноў тое ж самае, невыноснае і пякельнае — работа, работа, работа... А ў мазгах сядзіць і свідруе адна і тая ж думка — есці, есці, есці... Штораніцы — кавалачак хлеба з «гонікам» або нешта накшталт каўбасы, якую немцы завуць «вуршт». Каўбаса як той святаяннік — горкая, не праглынуць. У абед таксама нішчымніца — нейкі мутна-жоўты супчык, калі яго можна так назваць, адвар з сушанай бручкі. І невыносная рэзь у жываце, ад якой нельга ніяк пазбавіцца, не памагаў нават і святаяннік — а мо ён і да гэтага не памагаў, а толькі здавалася?..

Я — нішто, я — палена, калода, без думак і адчуванняў, ува мне нічога няма, з мяне ўсё павыцягвалі, вырвалі абцугамі, а загналі ў мяне нейкую брыдкую вадкасць.

Чуваць толькі, як цяжка дыхаюць і стогнуць людзі. У кожнага свой боль, свае ўспаміны, свае хваробы, але адно з'ядноўвае нас —

лагернае жыццё. Кожную ноч чуваць крыкі. То вязні ратуюцца ад сонных кашмараў, а сусед мацярыцца на чым свет стаіць, крычыць нехта, што не даюць паспаць. Плач, стогны, крыкі, праклёны...

Вечарам у барак некаторыя не вярнуліся, а ў той вечар крэматорый выпусціў з трубы чорныя воблакі.

Як выжыць? Як выстаяць?

Кожны раз я ўспамінаў пра вас, Уліта. Вы прыходзілі да мяне ў барак, стаялі каля нар і пыталіся, як мне тут. Я адказваў, што нічога, трываю. Як вы? І так мне хораша рабілася тады, як быццам дома пабываў, у нашай Будзе-Казіміраўскай. І тут мяне наведала нечаканая думка — а што, калі я буду кожны вечар пісаць табе, Уліта, пісьмо. Не пісаць, а ў думках расказваць табе пра ўсё, што было са мною за дзень. Ведаю, што нецікавымі будуць мае радкі, нават жудаснымі, але хто мяне можа зразумець, як не ты, мая жонка? Дык добра, Уліта, га? І гэта будзе мая малітва да цябе, бо ты не падвядзеш мяне, чуеш?

— Чую, Мікіта, не падвяду!

Я прыслухаўся і пачуў, як над баракам скуголіў вецер, быццам стараўся сарваць з будыніны дах, каб пазбавіць нас і апошняга — такога-сякога цяпла. Вецер Нямеччыны і той быў супраць нас.

Але я пачуў твой голас. І адразу паверыў у сваё выратаванне. Праз колькі хвілін мяне ўкрыў сон цёплай коўдрай.

Дыктую табе, Уліта, пісьмо ў наступны вечар, калі зняможаныя і змардаваныя мы прыпляліся ў халодны барак. Цэлы дзень дзьмуў сіберны вецер, кідаўся снегам, прадзімаў наскрозь. Ды што там было нас прадзімаць — тонкае адзенне вязня прапускала холад і вецер.

Раскажу табе пра лётчыка, які пакутаваў разам з намі. Збілі яго пад Смаленскам. Лётчык быў вясёлы, сінявокі, любіў расказваць смешныя гісторыі — рэдкімі вечарамі, калі выпадала вольная хвілінка. У яго на грудзях была татуіроўка — магутны арол трымае ланцужок з зямным шарам.

Жонка начальніка лагера прыдумала завядзёнку — выязджала штораніцы на кані і прагульвалася сярод вязняў. Жонка была статная, нават прыгожая, калі да яе падыходзіла такое слова. Звалі яе Эльза Кох. Нічога ў тым не было дзіўнага, але адна акалічнасць — раз'язджала яна на кані голенькая, як маці нарадзіла. Заўсёды ў руцэ трымала наган. Для чаго? Як толькі хто зіркане ў яе бок, нават мельгам, адразу ў таго страляла.

Яе ахвярамі сталі француз Рэжэ, паляк Франэк, немец Курт і двое нашых хлопцаў з суседняга барака.

І так сталася, што немка сама паклала вока на нашага лётчыка Бар'яша. Ад работы яго вызваліла. У замак да сябе прывяла. Накарміла-напаіла, спаць у свой ложак паклала. Але не глянуў лётчык на беласнежную Эльзу. Сказаў, што ў Расіі ў яго нявеста чакае...

Раз'юшылася Эльза за такую непакорнасць і знявагу. Не зразумела, чаму вязень, якога кожную секунду чакае смерць, адмовіўся ад такога вялікага дарунку.

Потым мы зноў убачылі яе. Зноў гарцавала на кані. Апранутая. У яе была новая сумачка з чалавечай скуры. На ёй добра быў відзён малюнак — арол трымае зямны шар. Такога малюнка не было ні ў кога. Належаў ён Бар'яшу...

Яна ж займела сабе новы занятак — выбірала сабе татуіроўку па целах вязняў. Каб потым зрабіць для сябе і сваіх сяброваk прыгожую сумку. І гора таму, у каго быў малюнак, які магла ўпадабаць Эльза. Але вязень не ведаў тады, што носіць на сабе «пропуск на той свет». Спачатку пад скальпель Эльзінага ўрача, а потым ужо ў крэматорый.

Вось так, Уліта, прабач мне за такія пісьмы. Не дай Бог калі-небудзь іх прачытаць ці пачуць. Але я буду расказваць. Ты ўжо не злуй на мяне.

За акном жудасна і надрыўна скавытала завіруха. Я ж складаю новае пісьмо, чую знізу гугнявую мелодыю Панаса і ўнепрыкметку засынаю. Я выстаю. Я перамагу. У гэтым паможаш мне ты, мая Уліта...

Такія вусныя пісьмы пісаў ён з Бухенвальда.

Вязні здзейснілі смелы план уцёкаў. Шмат загінула сяброў.

Не скора ён дабраўся да сваіх мясцін. Быў удзячны Уліце, што выратавала яго ад немінучай смерці.

Як прыехаў у Спрымачоў, як уведаў пра трагедыю, адразу стаў дзедам Мікітам — пастарэў на паўстагоддзе. Такім стаў за ноч, калі сядзеў на папялішчы роднай вёскі.

Выходзіла так, што пісаў ён пісьмы нежывым, спаленым у агні. Атрымлівалася, што нават нябожчыцай ратавала яна яго ад смерці...

Вось і ўцякаў Ладуцька ад сваіх успамінаў пра Нямеччыну, ратаваўся ад іх у Княжыне і Вятчынцы.

...Мікіта назбіраў пад Яркавым дубам тры кашалі жалудоў. Яны былі пукатыя, важкія, з карычневым адлівам. Ведаў Мікіта, што добрыя дубкі вырастуць у гадавальніку і на лясных пасадках. Яму і Косцік Міхалап наказваў, каб назбіраў і ссыпаў у бочку ў леснічоўцы. Пасля абеду ён наабдзіраў кары з крушыны і паставіў, звязаную ў пукі, на прызбу, каб сушылася.

Ён узяў з сабою нож, сякеру, мінуўшы Яркаў дуб, паклыпаў нацянькі туды, дзе хавалася ў густым голлі пасляабедзеннае сонца.

Хадзіў ён па лесе гадзіны тры...

За нахіленай старой бярозай нехта застагнаў. Стары насцярожыўся, напручваючы слых. Праз момант зноў пачуўся стогн — ціхі, ледзь чутны.

Ён асцярожна пайшоў у той бок. Каля трухлявага пня, спіной упёршыся ў яго, сядзеў Косцік Міхалап. Побач з ім сядзеў Грай — дык вось чаго яго доўга не было.

— То ты, Косцік? — жахнуўся Ладуцька. — Божачка, што з табой?

— Я, дзед, — прашаптаў ляснік і бездапаможна паваліўся на бок...

Ужо які дзень ліў халодны восеньскі дождж. Пісяжкі на аконным шкле паўзлі бясконца ўніз, наводзілі нуду.

Ложак Міхалапа быў каля самага акна. У кутку стаяла тумбачка, засцеленая газецінай. На тумбачцы некалькі яблыкаў, жменька жоўтых зярнят, слоік з кампотам — прывезла Паліна.

У першы дні, пасля аперацыі, калі яму было зусім блага, Паліна не адыходзіла ад ложка, з лыжачкі карміла — такі быў аслаблы.

— Я яму, выходзіць, дзве ўжо аперацыі зрабіў, — усміхаўся доктар Жыльскі. — Першую — у партызанскім шпіталі, ён умее цярпець, я помню. — Доктар з барадой, у акулярах, твар у зморшчынках, вочы ўважлівыя, а голас мяккі, спагадлівы: — А вы, мілейшая, не хвалюйцеся і слёзы не ліце. Хвораму такое не на папраўку. Вы яму ўсміхайцеся, толькі ўсміхайцеся, чуеце?

— Добра, я пастараюся.

— Пастарайцеся, мілейшая, я вас вельмі прашу. Як вас, дарэчы, зваць-велічаць? — пранiклівы позірк праз шкельцы ўпіўся ў яе ўчэпіста і весела.

— Палінай.

— Дык от так, Паліначка, усмешка і яшчэ раз усмешка, — задаволена засмяяўся. — Гэта для яго галоўнае...

Яна выйшла з кабінета Жыльскага абнадзееная, супакоеная, пахадзіла трохі па вуліцы, а потым ужо да Косціка. На твары ўсмешка, радасна расказвала яму пра вясковыя навіны.

— Як Сяргейка?

— Анічога. Расце, смяецца, «бу-бу» гаворыць. Гэта ж, ведаеш, заўчора, калі насіла ў сенцы бульбу, напалохаў мяне да паўсмерці. Каб не вываліўся з люлькі, я яго на падлозе пакінула. А ён запоўз пад

ложак і заснуў. А я не адразу ўцяміла, на вуліцу выбегла, галасіць пачала. Вярнулася, яшчэ раз агледзела і ўбачыла пад ложкам.

Ён усміхаўся, паглядаў на яе, паклаў далонь на яе руку, заплюшчыў вочы.

— Што, Косцік, мо зноў блага табе? — затрывожылася яна.

— Не. Дай папіць чаго.

Паліна падтрымала яго за шыю. Косцік зрабіў колькі глыткоў.

Яна і глядзіць, і баіцца — твару не пазнаць, увесь у сіняках і ранах. Крывападцёкі пажаўцелі, гэтак і на спіне, па ўсім целе...

У палаце некалькі ложкаў. Адзін хворы ляжаў у кутку, пэўна, спаў — адвярнуўся да сцяны. Астатнія выйшлі з палаты.

— Касцічак, я так перапужалася за цябе. Хацела тады ж бегчы да цябе ў бальніцу, але Ладзік не пусціў. Сказаў, што горш зраблю, калі буду стукацца ў дзверы бальніцы. І пагнаў каня ў горад без мяне.

— Правільна зрабіў. Ты на яго не злуй. Усё прайшло. Цяпер буду жыць і пакажу ім, свалачам...

Паліна не вытрымала, слухаючы яго разважанні, нясмела спытала:

— А мо б ты кінуў зусім гэтую дурную работу, га? Баюся я за цябе...

— Ды ты што, Палінка, няўжо ты думаеш, што я спужаўся? Я — спужаўся? — ён паспрабаваў прыўзняцца на локці, сіліўся зазірнуць ёй у вочы.

— Не ты, то я злякалася за цябе. Лес кішыць зладзеямі. У іх сіла, а ў цябе што? Ружжо. І з яго ж ты ніколі не страляеш. А стрэліш, то ў турму сядзеш, дзяцей асіраціш. Хай Жамойда працуе, яго не чапнуць бандыты... — сказала і асеклася: Ладзік прасіў не гаварыць пра гэта.

— А чаго ты Жамойду ўспомніла? — паглядзеў строга, і жонка зразумела, што не зможа схлусіць, прызнаецца.

— Бо і ён у лесніікі падаецца.

— Так, дзяла-а, — правёў далонню па ўпалых шчоках, — дзяла, як сажа бяла... Ну і хрэн з ім, з тым Жамчйдам. Тым больш, значыць, я павінен працаваць у лесе.

Глыбока ўздыхнуў, глядзеў у столь. Калі ён падаў у небыццё, калі агнём апякала жывот і спіну — рабілі аперацыю, — ён праклінаў сваю работу і думаў, што больш ніколі не пойдзе ў свой абход, у якім з-за кожнай дзеравіны выглядвала руля бандыцкага абрэза. Яму потым і снілася, як з тых руляў выляталі кулі. Ён выгінаўся, закрываўся рукой, але свінец ляцеў праменька ў яго. І тады Косцік крычаў на ўсю палату. Медсястра рабіла яму ўкол, і ён сцішваўся, засынаў.

А то здавалася яшчэ. Што стаіць ўпобачкі Віцця, ён, радасны і шчаслівы, мерыцца падняцца — запрашаў хоць трошкі пасядзець. Яна гаварыла яму дакорліва і пяшчотна: «І як жа гэта ты, Косцік, даўся тым бандытам? Вайну прайшоў, не ў такіх перадзелках быў, а тут... Трэба было бабахнуць з усіх стваЛоў». Яна гаварыла пра тое, пра што і сам не раз думаў і што яго мучыла.

— Не, Палашка, не кіну я сваёй работы, — Міхалап глядзеў ужо за акно, дзе вісела шэрае сутонне, і дадаў сцвярджальна: — Не-е, Палашка, я тут усё абдумаў-перадумаў... Ходу назад няма.

— Табе рашаць, — нахілілася да яго. — Толькі папраўляйся... Але я ўсё роўна сабе месца не буду знаходзіць, як ты пойдзеш у свой абход.

— На тое ты і долю сабе такую выбрала — быць жонкай лесніка. Так што цярпі, леснікоўна.

— Як-як? Леснікоўна? Ты першы раз так мяне назваў. А хараша, праўда? Добра, буду цярпець, — згаджаецца жонка, усміхаецца шчаслівá.

Паліна за апошні час пагладчэла, на шчоках ямачкі. Падбародак і шчокі акруглыя. Не сказаць, што і лянівая, зранняя ўпрагаецца ў работу...

Косцік заснуў, і Паліна дала зноў волю слязам. Яна і сама не ведала, чаго плакала — ці то ад радасці, ці ад гора. Калі і было гора, то мінула, прайшло, усё абярнулася вуняка як і добра — Косцік жывы-здаровы, урач сказаў, што і паправіцца хутка.

— Не трэба. Палінка, чуеш, не трэба...

Голас у яго слабы, здаецца, у ім і жыццё невядома як трымаецца. Падбародак востры, такі ж і нос, як дзюба ў дзятла.

— Не буду, усё, — глядзіць ужо за акно, спрабуе зноў усміхацца, выціраючы слёзы, — што, мне ўжо, бабе, і паплакаць нельга, так? — Погляд у яе ўжо светлы, як бы ачышчаны ад змрочных думак, яна ўжо свяцілася спакоем і шчасцем. — Слухай, Косця, а давай я цябе пагалю? — спахопліваецца яна, успомніўшы, што прывезла брытву.

Сказаў сур'ёзна:

— Яшчэ зарэжаш не ўмеючы.

— Я не ўмею? — бровы выгнуліся дугой.

Ён не вытрымлівае, смяецца:

— Жартую. Але заўтра-паслязаўтра прыедзе Жменька, ён і паголіць мяне. Яму гэта — аць-два, і гатова.

— Ну, як хочаш,— не пакрыўдзілася Паліна.— Заснуў трохі?

— Ага. Кімарнуў. Не было яшчэ Яшка?

— Не, Косцік, а можна я не паеду дадому? З табой застануся? — раптам папрасілася яна нясмела.

Пакруціў адмоўна галавой:

— А дзе ж начаваць будзеш? Тут нельга.

— Нічога. Я ў Жыльскага папрашуся, ён не адмовіць. На калідоры спаць буду. А днём буду каля цябе.

— Ды што ты тут, Паліна, рабіцьмеш? — глядзіць на яе Міхалап, — дома вуняка работы колькі, не перарабіць. Хто ж за цябе паробіць усё? А што я — ляжы, вылежвай бокі, кормяць, пояць, анекдоты мужчыны травяць — сумаваць не даюць.

— Я ж цябе лепш дагледжу, чым санітарка ці сястра, і судна вынесу, і папаю цябе, пакармлю...

— Не дзіця я бездапаможнае, зразумей. Доктар сказаў, што праз пару дзён устану. Так што — уу-га! — бегаць скора буду. Дзед Мікіта заходзіў?

Пасля некаторага маўчання Паліна адказала:

— Забягаў. Наказваў, каб папраўляўся. Сам збіраецца скора наведацца. З Ладзікам.

Яна ўспомніла, як дзед прыходзіў надвячоркам, як доўга супакойваў яе, сварыўся, што плакала. «У цябе ж дзіцё малое, а яно адчувае, што маці блага, і само перажываць пачне. А яму тое ні к чаму, чуеш, ні к чаму...» — гаварыў ён і рабіў грозны выгляд. Ад яго слоў тады і палегла на сэрцы. На развітанне ён выцягнуў з сумкі паўлітровы слоік мёду, падаў: «Во, каб гэта яму завезла, адразу палепшае — на ноч няхай з вадой».

Дзверы расчыніліся — адзін за адным пачалі заходзіць мужчыны. Чалавек з перабінтаванай рукой сеў на свой ложак, вясёла паглядзеў на іх.

— Як тут справы, Канстанцін Мінавіч? Не замучыла жонка?

— А як яго замучыш — ляжыць сабе, байкі расказвае, — Паліна не зразумела жарту.

— Во-во, бабу байкамі корміць, — рагатнуў другі, малога, як Міхалап, росту — бялявы, з кірпатым носам.— Гэтым баба сытая не будзе...

— От выдумляеце, — яна пачырванела, апусціла галаву, — я пра другое хацела сказаць.

— І мы пра другое. Во заставайся тут, не пакрыўдзім, сярод нас і мацакі ёсць, не тое што твой Міхалап. І яму весялей будзе...

— А табе, Рыжык, абы язык пачасаць, не змоўчыш ні хвіліны, — не паварочваючыся да іх, сказаў Міхалап, — баўтун, а, глядзіш, вывеўся...

Мужчыны зарагаталі, падтрымаўшы Косціка:

— От так цябе...

— Ды што я, хацеў жа як лепш. Думаў па-сяброўску памагчы Міхалапу — будавацца скора думаю. А тай бы і дзеравіна лепшая з абходу перапала б.

— Дручка табе бярозавага перапала б, гэта праўда, — гаворыць мужчына з перавязанай рукой.

— А чаму менавіта бярозавага?

— А ён на спіне не ламаецца.

Зноў рогат у палаце, і разам з імі смяецца і Паліна.

Хворыя завялі сваю гамонку, адчапіліся ад Паліны. Набліжаўся час вячэры, і ўсе раз-пораз кідалі позіркі на насценны гадзіннік, што вісеў над дзвярыма.

Дзверы зноў расчыніліся — на парозе стала медсястра Алена.

— Машына прыехала, Паліна.

— Добра, Аленка, я хутка, — сядзела, не рухалася з месца леснікоўна, глядзела на Косціка, чакала яго рашэння.

— Не хвалюйся за мяне, — стаяў на сваім Косцік. — Табе трэба дома быць. Не злуйся...

— А можа...

— Ладуцьку прывітанне перадавай Ладзік хай прыедзе абавязкова — размова ёсць. Бацькам маім скажы, што папраўляюся, што хутка выпішуць — хай не выбіраюцца да мяне.

За акном ужо ссутоньваўся шэры змрок. Вецер не аціх, калываліся асветленыя галіны, і ледзь чутна разпораз дзенькала ў акне шыбка.

— Я перадам кім-небудзь. Вось падымуся скора, тады і паклічу.

Косцік сціснуў яе руку, міргануў, падбадзёрыў:

— Усё будзе добра, не хвалюйся...

Яна адказала кіўком галавы.

Усё, што не трэба было Косціку, паклала ў хатуль. Дайшоўшы да дзвярэй, абярнулася:

— Мужчынкі, хутчэйшага вам выздараўлення!

— Дзякуем, Паліна. За Косціка не хвалюйся, паставім хутка на ногі.

Яна ішла па калідоры і чула, як на вуліцы засігналіла машына. «Нявыцерпка яму, то сядзеў дзесьці, лынды біў, а тут, бач, у спіну падганяе, — нагортвалася невядома чаму крыўда на Яніка, хаця ведае, што ён тут ні пры чым. — Нічога, даедзем, дарога добрая, брадок толькі ў Вятчынцы праехаць...»

Паліна выйшла на ганак і адразу ўбачыла каля палутаркі Яніка — стаяў і курыў. Чырвоная кропачка то загаралася, то патухала. Не так даўно стаў рабіць на машыне, а гонару ўжо як у бывалага, як у Паўла Шкваркі.

— А, Міхалапіха, — абазваўся ён з цемры, і чырвоная кропка шуснула ўніз, пад ногі,— а я ўжо думаў, што не паедзеш, што застанешся тут, каля Косціка.

— Ты многа, Янік, не думай, урэдна многа думаць. Паехалі. У цябе ж часу няма... — папракнула — знарок гучна і першай села ў кабінку, моцна ляснула дзверцамі.

Але вадзіцель не спяшаўся. Яшчэ крыху патаптаўся ля капота, потым закрыў накрыўку. Няспешна адчыніў дзверцы і сеў побач з Палінай.

Доўга маўчаў, глядзеў у цемру, а потым паставіў нагу на газ.

Карабкоў наведаўся да яго адразу ж, як толькі да Косціка пачалі пускаць наведвальнікаў.

— Як жа гэта ты, браце? — цмокаў языком ляснічы, шчыра перажываў, што так здарылася, — запісаў бы нумар машыны — і ў міліцыю...

— Так яны і павесяць той нумар сапраўдны. Вінаваты я, Андрэй Мартынавіч, — апраўдваўся Косцік, — сам не ведаю, як усё адбылося, па-дурному выйшла...

— Ну, нічога, усё цяпер у мінулым.

— Як там у нас справы, Мартынавіч? І ў вас?

— Усё добра, Косцік. І ў мяне, і ў тваім Княжыне. Я пазней мо забягу, часу цяпер бракуе — пленум райкома.

Ляснічы паставіў на тумбачку дзве бутэлькі сітра, паклаў некалькі апельсінаў.

Пасля завітаў Тхарэнка з капітанам міліцыі.

І расклалі перад ім некалькі дзесяткаў фатаграфій. Але нікога на ёй ён не пазнаў.

Помніўся Вікці выразна чаромхавы водар, вечаровая ціша, Косцікаў шэпт. Помнілася яго дыханне і гарачыня нясмелых губ... Колькі ў Вятчынку сплыло з тае пары вады, колькі разоў адцвітала чаромха, ападала долу белымі пялёсткамі — як дарогу сцяліла для іх. Ды стапталі нагамі тую бель, здраталі, перамяшалі з граззю пялёсткавую сцежку. І вінавата толькі сама, ніхто іншы...

Забыцца б даўно пара, выкінуць усё з галавы і не сарамаціцца. Але не магла. Песціла ў сваіх думках сустрэчу, каб выгаварыцца перад ім, паспавядацца, ачысціць сваю душу ад болю і вінаватасці...

Здавалася б, пасля гэтага і жыць стала б лягчэй, і сэрца не тачылі б трывога, вінаватасць і сум.

Як здарылася бяда з Косцікам у лесе, да Ладуцька найперш прыбегла. Дзед супакоіў:

— Будзе жыць, калюх-калюха... А бандытаў шукаюць.

Дачулася, што Міхалап пачаў хадзіць, абрадавалася. Жамойдзе сказала, што быццам бы зацяжарнела, што жывот баліць — да ўрачоў паказацца трэба. Яна была гатова пайсці на ўсё, трываць больш не магла — збалелася сэрца па Косціку.

Разам з ёю нечакана намерыўся паехаць і Жамойда. Але Паўло Шкварка, які вёз у леспрамгас дубовыя калодкі і падрадзіўся падвезці Вікцю, запратэставаў — у кабінцы ўтрох не паложана. Жамойда хмыкнуў, крутануў незадаволена галавой, громка мацюгнуўся.

— Ладна, едзь. Назад позна вернешся? — пацікавіўся ў Шкваркі.

— А ты мне не ўказ. Калі трэба будзе, тады і прыеду, — сказаў як адрэзаў Паўло, і ў яго было сваё зло на Жамойду, як і ў многіх спрымачоўцаў: цётку нізавошта ў турму адправіў. — Заўтра к вечару прыеду. А мо і паслязаўтра...

Жамойда толькі плюнуў ад злосці, што не па яго выходзіла, але махнуў рукой.

А Вікця, зразумеўшы Шкварку, весела паглядзела на яго, схіліла галаву, каб не рассмяяцца — дзіўна было ёй бачыць такую злосць Казіміра.

— Лысы з лысым пасварыўся, — засмяяўся Паўло, правёўшы даланёй па галаве, — ну няхай ты Жамойду кучары павырывала, а хто ж мне?

У Шкваркі быў добры настрой, ён і Вікцю хацеў падвесяліць.

— Значыць, на чужых падушках выцер...

— Няма чужых падушак, Вікця. З жанчынамі мне не пашанцавала.

Голас у Паўла змяніўся, стаў глухі, ніколі так з ёю не гаварыў.

— Чаму ж так, Павал?

— Асколак ад міны папаў у галоўнае месца. Хай бы руку адсек, нагу, дык туды пацэліў... І смешна, і горка.

Вікцю апякло прызнанне. А ў вёсцы ўсе ламалі галовы — чаму Шкварка не жэніцца, на дзяўчат не глядзіць. Ёй прызнаўся, ведае, што па вёсцы не панясе плёткі разносіць. Яна шчыра пашкадавала яго, уздыхнула.

Прыехаўшы ў райцэнтр, спытаў, калі забраць назад. Яна здзіўлена і абрадавана паглядзела на хлопца, перапытала:

— А калі сама позна, Павал, хіба чакаць будзеш?

— Буду, — адказаў ціха, не глядзеў на яе. — Раз трэба, то пачакаю.

— А калі сёння не ўпраўлюся, а паеду толькі заўтра?

— Зразумеў. Сёння, значыць, не паедзем. А заўтра ў гадзін дзесяць чакаць буду каля раймага. А можаш і пазней прыйсці.

— Дзякую, Павал. Харошы ты чалавек. Ніхто не адносіцца ў Спрымачове да мяне так, як ты.

Сказала і адвярнулася. Каб не сустрэцца позіркам. Яшчэ дарогай хацела папытаць, чаму ён так стараецца ёй памагчы, але не асмелілася. Баялася, што прызнаецца ён у нечым такім, што і самой стане няёмка ад пачутага. І не асмелілася.

Эх ты, небарака... Няголены, зблажэлы, цябе ж, братка, не пазнаць — Кашчэй, і ўсё тут. І ў каго ты толькі такі ўдаўся-ўрадзіўся? Бацька ў цябе цвёрдай касці, і матку няўдаліцай не назавеш, а ў самога адкуль такая пастава і рост? Сорам на людзі паказвацца — няўклюдзіна. І дзеці ў цябе, напэўна, такія ж міхалапчыкі будуць — маленькія, дробненькія, як тыя бульбінкі, што ў вайну збіралі, каб пракарміцца...

Косцік глядзеўся ў люстэрка і смяяўся з самога сябе, наводзіў крытыку. І чым больш самаеднічаў, тым больш смех разбіраў, дурная весялосць падступала.

Зайшоў Жыльскі. Сеў побач, на табурэтку, праз шкельцы акуляраў свяціўся шчыры пагляд.

— Як пачуваеш, Міхалап?

— А як у Бога за пазухай, Мікіта Кірылавіч. Але што са мною было? Тое, што мяне як цапамі малацілі, я ведаю. Што левую руку перабілі і нагу пашкодзілі, пра тое здагадваюся, бо ў гіпсе столькі дзён трымалі. Але што рабілі мне ў жываце — парэзаны ўвесь.

— Нічога. Мінавала ўсё. Забывайся на тое.

— Перытаніт, чуў, там нейкі знайшлі. Што за хвароба такая, цікава?

Жыльскі матаў галавой, жмурыўся, з акна свяціла яркае сонца.

— Ніколі ж, здаецца, і жывот не балеў, а тут... Так, толькі пападзіся да вас, дактароў, дык вы тысячы хвароб знойдзеце... Кажуць, сіраце дык перакіпіць і ў жываце. А ў мяне наадварот: на каго Бог, на таго і людзі, і ўсё-ткі я даў маху, ой даў... Правільна Палатка пра мяне казала, што няма розуму. Праўда, няма...

— Не шкадуй, Косцік. Рабіў ты ўсё правільна. Інакш ты і не мог.

Жыльскі сціснуў губы трубачкай, унурыўся ў сябе.

— У абход бы цяпер, да сваіх гаёў і дубраў, да Яркавага дуба. А як там мае барсукі? Цікава, ці нагулялі тлушчу на зіму, ці не

трывожыць іх хто? Вось зразумець не магу — як я выкуліўся з той каляіны. Сам ці хто памог... І міліцыянер не паверыў, калі сказаў, што нейкі звер выграб. Пасмяяўся нават, пэўна, падумаў, што я таво... — Косцік пакруціў пальцам каля скроні, усміхнуўся.

Жыльскі пасядзеў яшчэ нейкі час, пакурыў, пускаючы дым у прачыненае акно, ляпнуў сябе па каленях:

— Ну, што, Канстанцін, пайду я — здаваць дзяжурства трэба. Заўтра наведаюся.

У палаце зноў стала ціха. Міхалап не вытрымаў — падаўся на вуліцу.

Думалася яму светла і мройна. Пражыты нейкі адрэзак часу. За плячыма партызанства, хаця і не здзейсніў нічога гераічнага, за што даюць вялікія ўзнагароды. Але ж медаль заслужыў. Стараўся як мог браць на свае плечы цяжар вайны. Як бралі Ладзік Жменька, Лявон Громаў, Мікіта Ладуцька, Міхал Клімаш, Стась Мілёнак, дзед Ерамей і Жыльскі.

Леснікоўствам ён быў задаволены. Іншага не хацеў. Адзінае, што непакоіла і пазбавіцца ад думак не мог, гэта Любі-трава. Вікця і памагала яму, калі рэзалі на аперацыйным стале, калі поўз па лесе... Эх, Любі-трава, травачка-зёлачка, думалася яму, пэўна, будзем ісці мы з табой тымі сцяжынамі, якім ніколі не перакрыжавацца... Хаця ж будзем ісці ў адзін бок. І паасобку будзем несці свой боль, сваю нуду і тайну. З-за гэтага я не раз буду крыўдзіць Палашку, яна і не будзе здагадвацца, з-за чаго. А мо і здагадаецца.

Па вуліцы прагрукацела падвода — нібы па спрымачоўскім мосце праз Лабасова, нехта нецярпліва сцебануў пугай каня, падагнаў гучным «но-о! — ну, акурат як Ладзік. Пасля праехала грузавая машына, і вадзіцель некаму пасігналіў.

Штосьці зрушылася ў яго душы, пераламалася на лепшае, і ён цяпер на жыццё глядзеў крыху інакш, іншымі вачыма. Нездарма ляснічы Карабкоў казаў яму, што ў воблаках лётаў. Як і Паліна гаварыла. Найперш неабходна надацца да Карабкова — папрасіць лесу на хату. Пагэтаму да гэтага трэба з Ладзікам параіцца, мо падкажа што. Хата трэба. А то з Палінай стукаешся азадкамі, аж сорамна. Жонка, праўда, маўчыць. Але што ёй гаварыць, і так зразумела, што рабіць нешта трэба. А ляснічы не адмовіць...

На плошчы, непадалёк ад бальніцы, загаварыла радыё. На ўвесь раённы цэнтр звінелі песні, прысвечаныя правадыру Сталіну.

Пой, земля, сверкай цветами
В этот гордый, светлый час!..
Слово Сталина меж нами,

Воля сталинская в нас!
Все вперед, полком единым
Большевистский строй идет.
Летом сталинским, орлиным
Мудрый вождь страну ведет...

Зашамацелі кусты вербніцу — нехта прадзіраўся скрозь іх.

— Казалі, што тут дзесьці, — пачууўся вясёлы Ладзікаў голас. А ўбачыў, як не крыкнуў: — Ды тут ён, Мікіта Парфенавіч! Ну, страчай, браце, гасцей! — Ладзік шырока раскінуў рукі — асцярожна абхапіў за плечы. Схаваўся, што і з міліцыяй не знойдзеш. Во што значыць лясны вепр — так і цягне ў гушчарняк.

Абняліся, пацiскалі адзін аднаго. Затым Ладуцька абняў Міхалапа, у вочы зазірнуў, заўсміхаўся радасна. Побач скакаў Грай, радаваўся сустрэчы.

Ладзік быў у тым самым касцюме, што і на вяселлі, у хромавіках — бліскучых і гармонікам сплюснутых, у сарочцы наросхрыст, у фуражцы-шасціклінцы. Вочы неспакойныя, мітусіўся, быццам муляла што. Косцік не звярнуў на тое ўвагі.

Гаварыў найбольш Жменька. Расказваў пра ўсе навіны, што былі ў Спрымачове — як быццам баяўся спыніцца і зрабіць пярэдых. Гаварыў найбольш пра вясёлае, пры гэтым і сам смяяўся, матляючы галавой. Ды нешта не спадабалася Косціку ў яго паводзінах, нейкую насцярожыпку адчуў.

— Падкавалі троху, Кастусь? — Ладуцька перабіў Ладзіка.

— Ага. Каб не вы, капцы мне былі б там...

— То Грай цябе знайшоў.

Міхалап гладзіў сабаку, часаў за вухам.

— Дзед Мікіта, я ўсё думаю — хто мяне з каляіны выграб?

Ладуцька пацiснуў плячыма, плямкнуў губамі:

— Я і сам, братка, даўмецца не магу. Міліцыя вазіла вадзіцеля на тое месца. Пацвердзіў, што цябе закопваў кульгавы. Не ведаю, калюх-калюха. Сабака — не сабака і як быццам не янот. А мо барсук, га?

Косцік крутануў галавой:

— Барсук?.. Не падобна, каб ён, ды і далекавата яны жывуць ад таго месца. Ну й дзяла...

— Як сажа бяла, — падхапіў Жменька.

— А мо і другое. Там жа балота побач. А ў ім, я ведаю, чэрці водзяцца. Вось нехта з іх, рагаценькі такі, і памог табе — не захацеў губіць тваю душу...

Дзед гаварыў сур'ёзна, толькі мірнануў Ладзіку.

— Ну, Мікіта Парфенавіч, на дасі засумаваць, — смяяўся Міхалап.

— А навошта сумаваць? Весяліцца трэба — жывы, папраўляешся. Таму мы тут з сабой прыхапілі... — Ладуцька засунуў руку ў сумку, выцягнуў адтуль бутэльку, некалькі гуркоў, нарэзанага скрылікамі мяса. Ладзік дастаў шклянкі: — Па кроплі за выздараўленне.

— Я не ведаю, ці можна мне, — Косцік паглядзеў на дзеда.

Ладзік найграна пакрыўдзіўся:

— А мы, таварыш Міхалап, да цябе не напіцца прыехалі. Мы за цябе хочам выпіць. За тваё здароўе.

У Косціка ад глытка закружылася галава. Стала хораша на душы ад таго, што ў яго ёсць такія сябры, што яны не забыліся пра яго, прыехалі праведаць. І ён абняў іх, уздыхнуў расчулена:

— Здорава, што вы да мяне прыехалі. Ай як добра!

І ў той самы момант, як прыняў рукі, падалося, што нехта пільна глядзіць на яго. Міжволі павярнуў галаву. Быць такога не магло — на яго, стоячы за плотам, паглядала Віцця, ён выразна бачыў яе вочы, прыгожы заклапочаны твар. На ёй была квяцістая хустка. Яна спрабавала ўсміхнуцца, нібы клікала да сябе. Потым нахмурылася, бы шкадавала, што ён не адзін, з мужчынамі, якія яе ведаюць. Махнула яму рукой і раптоўна знікла, бы растварылася...

Нейкая сіла падштурхнула Міхалапа з лаўкі. Пачыкільгаў хуценька да плота. Абагнуў клумбу з даўно завялымі кветкамі. Перагнуўся, глянуў у адзін бок вуліцы, у другі — яе не было. Як прыснілася ўсё роўна.

— Косцік, ты каго там выглядваеш? — крыкнуў з лаўкі Жменька.
— Мо маладзіцу тут чакаеш, а мы перашкодзілі?

Назад клыпаў павольна, раз-пораз аглядваўся, верыў і не верыў, што бачыў яе. ён прыкульгаў, сеў зноў між іх, ціха папрасіў:

— Капні, дзед, яшчэ пару кропель. Смыліць нешта ўсярэдзіне, спасу няма.

Дзед са здзіўленнем выканаў яго просьбу, не забыўшыся і пра сябе з Ладзікам.

Хацеў пагаварыць са Жменькам пра хату, каб майстроў харошых напытаў, але нешта замінала, перадумаў. І пасля, развітаўшыся са сваімі гасцямі, зноў падумаў — чаму ў Жменькавых вачах праглядваўся сум і маркота.

Правёў іх да варот бальніцы і вярнуўся зноў да лаўкі. Усё чакаў: вось-вось з'явіцца зноў Любі-трава...

Міхалап чакаў яе да таго часу, пакуль не пачало сутоньвацца неба — усё яшчэ песціў у сабе тайную надзею.

Вікці не было.

Яна стаяла каля плота раніцай: пэўна, ведала, што будзе чакаць. Павіталася, нечага сталі мокрымі вочы, а праглядвала радасць.

— Я ўчора прыходзіла, ды ў цябе дзед з Ладзікам сядзелі, — як апраўдвалася, гаварыла жанчына. — Зблажэў як...

— Вікця, тут ёсць лавачка, пасядзім.

— Не, Косцік, то я ўчора мела час. А цяпер мяне машына каля крамы чакае. Я радая, што ўсё абышлося.

— Толькі ты мне памагла выжыць, Вікця. Толькі ты...

— Праўда, Косцік? — яна наблізілася да яго блізка-блізка, абняла за шыю, пацалавала ў губы моцна і парывіста.— Дзякуй за такія словы. Яны і мяне ажывілі...

Яна пабегла адразу, абярнулася, скрушна прамовіла:

— Косцік, прабач, што скажу. Мо ад мяне не так будзе балюча. Яны, напэўна, не сказалі табе. Ладзікаў Лёнік загінуў.

— Калі, Вікця?

— Заўчора пахавалі. Міну нейкую разбіралі. Прабач, ён твой сябра, таму і сказала. Не гневайся...

«Не сказаў, не намякнуў, смяяўся, радаваўся, што я вылузаўся з лап смерці. А ў самога што было на душы...»

Сціснулася сэрца, запякло ў вочы. І ён не бачыў, як па вуліцы спяшалася да магазіна Любі-трава...

Косцік выпісаўся з бальніцы перад Новым годам. Ладзік прывёз яго на санях, прыхапіўшы кажух,— пяклі лютыя маразы.

Праз два гады адбудаваўся Жамойда. Спрымачоўцы не ўдзельнічалі ў талацэ, ён наняў будаўнікоў аднекуль з-пад Турава. Добра карміў і паіў іх, але заплаціў не тую цану, на якую дамаўляліся.

— Каб у тваёй хаце мышы не вяліся, — пажадалі, пажартаваўшы, цеслі і, насунуўшы шапкі на патыліцы, падаліся дадому. — А ў нас каб кішэні дзірак не мелі...

Не ведаў Жамойда, што яны паслалі яму самы страшны праклён, які існаваў на Тураўшчыне. Пра мышэй яно так выходзіла — калі ў селішчы нічога, то і мышам чаму весціся? Яны зычылі яму, каб у хаце не было ладу і шчасця.

Ладуцька ляпіў з гліны смешных звяркоў і людзей. Палешукі ў яго выходзілі з гумарынкай, хітраватыя. Спрымачоўцы пазнавалі ў асобных фігурках то бабу Настазю, то Чыкана з Чыканіхаю... Сам ганчар не мяняўся, быў смешны і адначасна дзікаваты, часам і нелюдзімы, як вепр лясны.

Настазя хварэла, на абразы малілася, прасіла Бога, каб забраў да сябе.

Пад вясну, калі пачаў чарнець снег, калі пачалі налівацца сокам клёны, раптоўна памёр стары Міна. Вечарам лёг спаць, а раніцай не ўстаў. Маці яшчэ сварыцца пачала на яго, што залежвацца стаў апошнім часам, што карове пара даваць сена...

Стары не абзываўся. Антоля падышла да ложка, смехам папыталася, мо чарачку гаспадар захацеў.

Калі ж убачыла, што Міна няўцямна глядзеў у столь, да твару дакранулася — і загаласіла.

Ладуцька прыйшоў да Косціка, сказаў анямеламу ад гора:

— Пайшлі труну ў мяне на гарышчы забярэш. Міна для сябе і рабіў яе. З восені ведаў, колькі яму засталося. Калюх-калюха... на два бокі...

Восенню не стала і маці.

Так і не пабудаваўся Міхалап. Застаўся жыць у бацькоўскай хаце, да якой прывыкла Паліна і таму не настойвала на новай.

Потым нарадзіўся Стась...

Паліна з Віжцяй не сварыліся, але і не сябравалі.

Колькі разоў імкнулася Паліна зайсці да яе ў хату— збіралася прыгожы ўзор перазняць. Ды ці то няўпраўка была, ці забывалася. Ды і на вышыванне тое з кожным днём часу бракавала ўсё больш і больш.

Віжці здавалася, што Паліна яе недалюблівала, бо ў яе позірку ніколі не бачыла шчырай зацікаўленасці ці радасці.

Не стаўшы жонкай Міхалапа, жыла яна ў ягоным сэрцы. І сустрэч-спатканняў не было, не мілаваліся, не цалаваліся.

Ідучы з поля, Паліна намерылася ўсё ж зайсці да Віжці. Кашэль зняла з пляча, каля веснік паставіла. Убачыла Віжцю ў агародзе.

Падаў голас сабака, але гаспадыня супакоіла яго адным воклічам.

— Дзень добры табе, — спынілася каля Віжці, аглядала двор — ніштавата ўсё выглядала, акуратна, пагаспадарску: і агарод дагледжаны, і двор, усюды чысценька падмецена. — Ішла паўз хату, успомніла, што зайсці трэба.

— То і добра, — абрадавалася Віжця, зачапіла капаніцу на плот, адчыніла дзверы ў хату. — Праходзь, Паліна...

І ў хаце такі ж парадак — і посуд складзены на стале, і ложкі акуратна засцелены.

— Рэдка хто ў мяне бывае. Як заклятая я ў Спрымачове.

— Як у цябе чысценька, — не ўтрымалася, пахваліла, аглядаючы ўсё, са сваёй хатай параўноўвала — у яе не так, на многія дробязі не звяртала ўвагі...

— Ды якая то чысціня. Проста навяла невялічкі парадак, бо запусціла ўсё, — аднеквалася гаспадыня. — Будзе ў цябе хата, і табе захочацца давесці ўсё да ладу.

— А нам і ў старой добра. Хіба прыбудоўку Косцік зробіць — кухню.

Узоры былі ў шуфлядзе шафы. Там жа і папера, капірка.

— На во, выбірай, што спадабаецца.

— Ого колькі ў цябе іх! — шчыра падзівілася Паліна — не адводзіла вачэй ад намаляваных кветак.

Села за стол. Рукі ў Паліны моцныя, але рэдка трымалі аловак, грудзі — абаперлася аб стол, перашкаджаюць геразнімаць. Вікця зайздросціла яе здароўю і сіле. Твар гладкі, без ніводнай маршчынкі, хаця, ведала Вікця, яна асаблівa і не даглядала сябе.

— Вось гэты — для кофты, тое — для спадніцы.

— А вось гэтая?

— Для чаго хочаш.

— Тады дай я вось гэтую перазніму — наравіцца вельмі.

Вікця паклала на стол аловак, падала паперу. І ўвесь час, як размаўляла, услухоўвалася ў голас госці, прыкмячала пагляд — ці не трымае чаго за душой, ці гаворыць шчыра. І не заўважыла ніякай падробкі, Паліна цёпла глядзела на яе і гаварыла мякка, даверліва. Вікця нават здзівілася, колькі ў ёй непасрэднасці і прастаты.

— Ой, Вікця, штось у мяне не выходзіць, — у голасе вінаватасць і няёмкасць за няўмельства.

У Вікці атрымлівалася акуратна і хутка, як гуляючы. Паліна з захапленнем сачыла, як спраўна ходзіць у яе аловак — і зазубрынкі выводзіць на лісточках, і тонкія, амаль нябачныя лініі. Во, цяпер і ў яе будуць прыгожыя ўзоры, яна іх некалі вышые на сваіх файных абновах...

— Што яшчэ перазняць?

— Во гэтую, і во...

Захапіліся, затлуміліся, не заўважылі, як і час праляцеў. У спальні заплакаў сын. Вікця адразу памкнулася туды, вынесла яго на святло, пачала карміць.

— Як назвала?

— Валікам.

Паліна заканчвала ўжо сама. Заставалася ўсяго дзве кветкі.

— Вікця, папытаць хачу, Што ў вайну было паміж Косцікам і Жамойдам? Мо ведаеш...

Вікця маўчала, збіралася з думкамі. Глядзела на малога, які заўзята смактаў з грудзей малако, аж балела.

— А хто іх ведае. Мой не расказвае, не любіць успамінаць — а што ўспамінаць? Як паліцаем быў?

— Любіш Жамойду?

Паліне, мусіць, нешта муляла, не давала спакою — гэта Віцкя адчула, здагадалася.

— А Косціка ты... любіла?

«Во, дабралася і да галоўнага, дзеля чаго і прыйшла да мяне, — падумала, але ў душы была спакойнасць і ціхая затоенасць. — Значыць, ёй душа баліць. Прыйшла, каб зняць цяжар...»

— Ды як табе сказаць, Палінка. Ат, якая там любоў. Пацалаваліся разоў колькі ля веснікаў. І ўсе любошчы.

— А мне ўвесь час здавалася, што Косцік да цябе заляцаўся.

Віцкя ўздыхнула, паправіла на каленях немаўля:

— Як хварэла, маці папрасіла, каб Жыльнага ў вёску прывёў. Ды не выпала неяк... Косцік у вольніцу прыходзіў. Вось і ўсе нашы спатканкі.

— А чаго ён цябе не ўзяў? Ты ж прыгажэйшая за мяне.

Паліна, відаць было, задавала апошняе пытанне, каб не пакінуць ніякіх сумненняў.

— Я не схацела. Жамойду выбрала. Ат, што было, тое сплыло. У вас хоць усё добра?

— Добра.

— Ну і слава Богу.

Віцкя пакарміла сына, паклала зноў у люльку. Падышла да стала, нахілілася, на локці абаперлася. Паліна толькі цяпер убачыла на шыі карычневыя каралі, пахваліла:

— Прыгожыя якія.

— Да канца перазняла? — адвяла гаспадыня гаворку ў ранейшае рэчышча. — Яшчэ будзеш?

— Неа. Мо ў цябе, Віцкя, якія ніткі мулінэ непатрэбныя ёсцека? — папыталася госця. — Усё не выберуся ў Еньск з'ездзіць ды купіць. Ездзіў Іцко, на караўкі даваў, ды я празявала.

— А якія трэба?

— Зялёных і карычневых. Мо трошкі жоўтых...

Яна паставіла на стол каробачку.

— Выбірай. Бяры, колькі трэба. У мяне іх шмат. Яшчэ з дзевак засталіся. У вольніцы некалі накупляў... бацька, там шмат вышывала, там і навучылася. А цяпер і часу таго не хапае, то адно, то другое...

— І ў мяне ж так, продыху няма.

Развіталіся ціха і мірна, нічога не тоячы адна на адну. Віцкя правяла яе, зачыніла веснікі, вярнулася ў двор.

Доўга стаяла каля дзвярэй, нешта ўспаміналa. Ледзьве не сказанула, што тыя ніткі купіў ёй Косцік, калі яна хварэла. Як і каралі. Ведаў, што яна вышывала. І ўзораў розных прынёс з жаночых часопісаў. Аловак, капірку, тканіну. Дзе ўсё дастаў, яна не ведала, а тады не спытала ад радасці, калі ўбачыла перад сабою такое хараство.

Зірнула ў бок Будкоў — другі рукаў вуліцы, што цягнуўся за рачулкай, што схавалася ў чаратах: сонца асядала на дахі дамоў. З камінoў курыўся дым.

«Пара рыхтаваць вячэру, — падумала абыякава, усё яшчэ думаючы пра госцю, пра размову, якую распачалі. Шчыра пашкадавала: — Чаго ж, дурная, за стол не пасадзіла ды налiўкай не пачаставала? З жанок мо першай і прыйшла яна, Паліна, у хату…»

— Ты чаго ж гэта, у лесе жывучы, хаты сабе паставіць не можаш? Ляснік без хаты, што воз без каня, — не раз гаварыў яму ляснічы Карабкоў.

Тады ж, выпісаўшыся з бальніцы, Міхалап адразу падаўся да старшыні райвыканкома, напісаў заяву на лес.

— Вось даўно б так, а то… — адобрыў ляснічы пазней.

— Няўпраўка была, Андрэй Мартынавіч.

— Хай няўпраўка ў смерці будзе, а не ў нас,— хмурыўся ляснічы, раз-пораз міргаў вокам — ад вайны быў нервовы цік, і тут жа на паперы налажыў сваю рэзалюцыю.

Вікцю Косцік сустрэў процi сваёй хаты — ішла з крамы, трымала ў руках сумку. Твар бялявы, як і сонца не бачыла, косы акуратна прычасаныя, перавязаны стужкай. І зайшлося сэрца салодкім болем.

— Што новага ў цябе, Вікця?

— Нічога, сына гадую.

— Здароўе як?

— Ды нічога, так сабе… Ты як?

— Нармальна.

Разышліся, а ў душы пякельны агонь, які нічым не патушыш, не выкінеш.

Рэдка выпадалі нават і такія, кароткія, сустрэчы. Днямі ён у лесе, у абходзе, а яна бывае там, ды не ведае, у якіх мясцінах. Апошні раз бачыліся ў кіно, непадалёк сядзела з Жамойдам. Кіно паказвалі ў Ладуцькавай хаце — пра Марэсьева…

## Косцікаў абход

Ішлі моўчкі, ступалі след у след.

Бацька ішоў позаду, глядзеў пад ногі.

— Цсс... паглянь... — сын насцярожліва падняў руку.

Наперадзе, крокаў за дваццаць ад іх, стаяў сахаты.

Ён важна і ганарліва ўзняў галаву, смешна адтапырыў губу, пагардліва глядзеў наўкола.

Магутныя рогі дакраналіся да ніжніх галін граба, і ён цёрся імі, стрэсваў лісце — як забаўляўся. Побач тапталася малое, не адыходзілася далёка.

— А ён нас зусім і не баіцца, — прамовіў знарок гучна сын, каб праверыць свой довад, — лясны жыхар не скрануўся з месца, нават не зірнуў у іх бок.

Здаволіўшыся, ён адышоў ад дрэва. Упёрся рагамі ў раскідзісты клён — на зямлю абрынуўся лісцяны жоўты дождж. Мусіць, сахатаму такая гульня была даспадобы, бо ён увайшоў у азарт і часаў рогі аб іншыя дрэвы.

— А чаго яму баяцца нас? Што мы яму кепскага зробім? — любаваўся ляснік ласямі, і ў яго святлее твар, як і ў сына. — А дзе ж ласіха, чаго адстала?

— Дзесь затрымалася.

— Ды не, яна ад малога далёка не адыходзіць.

— Ты ведаеш гэтую сям'ю?

— А як жа. Мае старыя знаёмыя. Гэта ж Цар і Царыца. І Царэвіч малы. Бачыў, дзе і нарадзіўся — каля Вятчынкі.

З густога ельніку пачуўся голас ласіхі — працяжны, зазыўны. Ён адказваў спакойны і ўладны голас гаспадара — супакойваў. А потым паказалася і маці — галава ўзнятая, рухалася як бы па прамой лініі, толькі нагамі перабірала...

Падбегла да сахатага, аблізала цялё і толькі тады паглядзела на людзей — абыякава, толькі чмыхнула, выпускаючы з наздрын белую пару.

Добра была бачна поўсць сахатага — колеру цемнаватага, як не чорнага, толькі ногі і галава светлыя, бы прыцярушаныя снегам...

Першай схамянулася ласіха, капытом ударыла зямлю. Павяла галавой па баках і аддала нейкі загад. І ў той жа час лось рушыў наперад, узняў высока раскідзістыя рогі.

Чуваць было, як затрашчалі сухія галіны. Следам пасунулася з малым ласіха...

Пасля іх яшчэ доўга ападала, чапляючыся за голле, жаўталісце, ткала восень сабе стракатую посцілку...

— Як цікава ў тваім лесе! — сказаў узрушана Стась. — Тут сваё жыццё, свае цуды.

— Правільна, сын, я рады, што ты разумееш гэта.

Пад нагамі шабусцела лісце, на яго ападала новае, спрэс укрывала зямлю.

— Рабіна кажа, што зіма лютай будзе, так?

— Правільна, сын. Шмат яе ў гэтым годзе.

У Княжыце было ціха, як быццам рыхтаваўся бор да свайго зімовага сну.

— Пачакай, сын, прысяду трохі, — папрасіў бацька.

Кепска мо? — устрывожыўся сын, паглядзеў заклапочана на яго.

— Блажыць нешта. Нічога, пройдзе...

Праз нейкі час Косцік устаў, паглядзеў на блакітнае неба.

— Пайшлі, Стась. Адпачыў я. Цяпер — норма. Зноў першы пайшоў сын, пратоптваў бацьку сляды.

Колькі год памочнікам у Карабкова быў Лукашэвіч. Працаваў раней на Віцебшчыне, быццам бы і ляснічым, але пра тое ён ніколі не казаў. Як прыехаў у Спрымачоў, найперш з Жамойдам схаўрусаваўся. І той часта запрашаў яго да сябе — то на чарку, то на скварку.

Мітуслівы, забываў, што гаварыў перад гэтым ці загадваў зрабіць. Любіў чарку. Такім яго ведалі спрымачоўцы. І ўсур'ёз не ўспрымалі.

Аднойчы, набраўшыся каньяку, цалавацца ўжо лезлі адзін да аднаго.

— Як я цябе люблю, Жамойда. Страх... Вось вырасце сын, вывучыцца, у інстытут лясны ўладкую. Вось пабачыш.

Выпілі зноў. Жамойда спытаў хрыплым голасам:

— Лаўрэнавіч, хочаш быць ляснічым?

— Хачу. А як гэта зрабіць? — паглядзеў на Казіміра ўжо цвяроза і сур'ёзна.

— Калі не будзе Карабкова, хто павінен заняць яго месца?

Лукашэвіч крутануў галавой, як бадаўся ўсё роўна:

— Я?

— Вот іменна. Значыць, трэба зрабіць так, каб не было Карабкова.

— А як жа ты гэта зробіш?

— То ўжо мой клопат. І — маўчок.

Лукашэвіч плямкнуў губамі:

— Пра што гаворка...

Косціка блажыла яшчэ з начы — адразу як лёг.

Раніцай адчуў, як пад грудзі падкаціўся даўкі камяк — бы дзічку-паданку зялёную праглынуў ды пракаўтнуць не мог. І цененька звінела ўвушшу. Ноччу ўставаў колькі разоў і піў ваду, але не памагала, даўкасць не праходзіла.

«Няўжо прычапілася, праклятая? Ды не ў пару...»

Косцік крочыў па Княжыце, шукаў таксатараў. З імі работы на цэлы дзень. На момант яму падалося, што праяснела ў галаве, што млоснасць адступіла, пакінула яго.

Зразумеў: не адступіць, бо ўчапілася зладзейка. Прыняў рашэнне — не ісці ў дзялянку. Толькі марокі будзе людзям з ім. А Карабкоў зразумее, чаму падвёў таксатараў...

Паліна ўсё чула, здагадвалася, што зноў Косціка пачала мучыць незразумелая хвароба. Таму калі ён уваліўся ў хату — збялелы, з перакошаным тварам, асабліва не здзівілася, радая была, што вярнуўся, што не ў лесе пераносіў сваю хваробу.

— Прыляж, Косцік.

— Добра, але ты не зважай на мяне... Я сёння, бач... Падчапіла...

Яна абрадавалася, што загаварыў, што ўсё разумее. І раней так было — ні з таго ні з сяго, не баліць нічога, а скручвае так, што і свет не мілы. Так казаў ён пасля пра сваю хваробу.

Напалохалася, як было з ім першы раз. Кідала тады яго ў бяспамяцтве па хаце, калаціла. Скрыгатаў зубамі, біў кулакамі па стале, а то нечакана смяяўся, успамінаў лес, Паласаціка, Рыжуху...

— Кладзіся, Косцік, — узяла яго за руку Паліна, але ён груба адпіхнуў яе, добра, што паспела вывернуцца.

Убачыла, што хвароба толькі пачыналася.

— Дочачка, прыглянь за ім, — папрасіла Паліна, за клямку ўзялася, — я да фельчаркі збегаю...

Галя засталася з бацькам, пашкадавала, што не было Сяргейкі — пайшоў да хлопцаў. Косцік хадзіў па хаце, махаў рукамі, смяяўся, нешта збіраў на падлозе. Як Галінка была малая, аднаго разу ён быў на добрым падпітку — прыйшоў з вяселля, і вось так яго насіла... Значыць, і тады было такое ж, толькі думалі, што ён быў п'яны.

Бацька пагладаў на яе — і не бачыў, вочы былі невідушчыя, чырвоныя, быццам не спаў колькі начэй.

— Я цябе ўсё роўна знайду, — некаму пагражаў бацька, кулаком зноў махаў, і Галіна закрылася рукамі. — Ты не думай, Любі-трава, што так усё проста ў жыцці. Белыя лебедзі ляцелі, ды не на маіх азёрах селі. Чаму, я ў цябе пытаюся? Не скажаш... І я не ведаю. Паласацік ведае, бо я вінаваты перад ім, і мая віна ад вайны ўва мне жыве. Громаў не пасылаў мяне, я сам, бо трэба было Любі-траву ратаваць, каб не засохла... І ты тут, дзед? А я думаў, што ты не прыйдзеш. На суд усе прыйдзем, бо мы аднолькава вінаваты. Усе чыста вінаваты, да аднаго. Яркаў дуб — цар над усімі, і ён будзе гаварыць пра ўсё. І Вятчынка. А ты не хавайся, усё роўна знойдуць,

скажуць, што ты, Рэцыдывіст, вінаваты перад чалавекам. І чалавек перад табой таксама.

Галіне хацелася падысці да бацькі, сказаць што-небудзь ласкавае і добрае, каб пачуў, каб перамяніўся, не палохаў яе. Яна дакранулася да рукі, але ён вырваў сваю.

— І я вінаваты, чаму ж не. А толькі мне больш баліць, чымся табе. Не ведаеш? Ну і не трэба. Я ў сабе насіць боль буду. Не хачу, каб і табе балела.

Галя пазірала на бацьку і мо ці не ўпершыню ў жыцці адчула, як яму цяжка... Ён найчасцей маўклівы і задумлівы. Хіба ж адчуеш, чым ён жыве, што яго непакоіць? Цяпер жа ён некаму расказваў пра свае турботы. Як скардзіўся ўсё роўна. На бацьку яна ўжо глядзела не з такім страхам, як перад гэтым. Трывога і страх адступілі. На змену прыйшло разважлівае шкадаванне.

Загрукацела ў сенцах, у хату зайшлі маці, Ладуцька і фельчарка Карабкова. Бацька ж хадзіў па хаце, вёў сваю размову, на людзей не звяртаў увагі.

— Во паглядзіце, Наталля Мікалаеўна, ні з таго ні з сяго...

— Ціха, — перабіла яе Карабкова, крануўшы за плячо.

Ладуцька памкнуўся да Косціка, але жанчына не дазволіла — набрала кубак вады, усыпала туды нейкага белага парашку, пачакала, калі растворыцца. Выбірала момант падступіцца.

— Гэта за Яркавым дубам, недалёчка адсюль, — загаварыў Косцік.

— Я ведаю, — падхапіла размову Наталля Мікалаеўна і падышла да яго, — за Яркавым дубам. Але ж ты піць хацеў. Косцік, на, папі з крынічкі...

Міхалап спыніўся, паглядзеў у бок жанчыны:

— І ты тут, Любі-трава?

— Тут я, тут. Ты вады прасіў, папі.

Ён піў прагна, быццам даўно яго мучыла смага. Дапіў, і кубак выпаў з рук, пакаціўся па падлозе. Яго падняла Галя.

Міхалап падышоў да акна, уздыхнуў. Карабкова паглядзела на Паліну, кіўнула: нічога, цяпер ужо нічога, не хвалюйся, ён пахадзіў яшчэ па хаце, але гаварыў цяпер мала, пачэсваў падбароддзе, успамінаў нешта, пазяхнуў.

— Ты пасцяліла мне ложак, Паліна?

— А як жа, Косцічак, — абрадавалася жонка, пачуўшы яго просьбу — значыць, сапраўды пайшло на лепшае. — Кладзіся...

Не распранаючыся, лёг на ложак. Паклаў галаву на падушку. Засынаючы, усміхаўся, як малое дзіця, якое перад гэтым адчула вялікую радасць.

— Ну, вось і ўсё, — прамовіла Карабкова, зашпільваючы сумку з медыкаментамі, паправіла блакітную касынку на галаве. — Спаць ён будзе тры-чатыры гадзіны. І ўстане здаровы. Нічога страшнага. Жыльскі казаў, што тут нічога парабіць нельга — вынік кантузіі. Ад вайны гэта ў яго...

У лясніцтва Міхалап прыходзіў звычайна а палове восьмай гадзіны. Да гэтага часу Паліна заўжды рыхтавала яму сняданак — абірала бульбу, смажыла на патэльні сала і яйкі, як заўсёды, на стале былі агуркі і капуста, кіслае малако. Сядаў за стол адзін альбо са Стасем, які збіраўся ў школу. Пакуль снедаў, Паліна ладкавала сумку, клала туды абед і ўтыркала бутэльку малака.

— Пара б ужо, Косцік, і пра дровы падумаць, — нагадала жонка, вілачнікам паправіла ў печы чыгуны.— Сама цяпер і нарыхтоўваць.

— Ведаю. Вось упраўлюся з работай у абходзе, са Стасем выберам дзень.

— Доўга ж, аднак, выбіраеш.

У голасе Паліны непрыхаваны папрок, ведала, калі не напомніш загадзя лішні раз, то загалуніцца сваімі клопатамі і апамятаецца хіба летам. Што ўжо і не раз было. Гэта ж падумаць: жывучы ў лесе і без дроў застацца.

Падняўся ўжо і Стась, выйшаў на кухню, сонна абазваўся да маці:

— Ну чаго прычапілася з дрыўмі, нарыхтуем.

— Так ёй, сын, падкінь, а то зусім мяне заела, — заўсміхаўся бацька, радуючыся падтрымцы.

— Цябе заясі, — Паліна ўжо высыпала бульбу ў цабэрак, паглядзела нязлосна на яго. — Любая піла аб цябе зубы паламае... А ты, зашчытак, чаго стаў? Табе ж у школу пара, мыйся ды снедаць будзеш.

— А хіба я за ноч умазаўся? — жартаваў сын, пазяхаў, корпаўся вечарам доўга ў старым прайгравальніку, паяў.— Сёння настаўніца дазволіла на першыя два ўрокі не прыходзіць.

— А чаго ж гэта табе такая прывілея? — маці адарвалася ад работы, разагнулася.

— Таго, што першы — чарчэнне. А я ўжо здаў чарцяжоў на некалькі ўрокаў. Другі ўрок фізкультуры. Дык я ж бегаю хутчэй за ўсіх у школе. А фізкультура і так кожны дзень — сем кіламетраў туды і назад.

— Бач ты, як аб'ясніў, — кіўнула задаволена маці, яе радавала, што сын вучыцца няблага, што дома памагае.

Косцік дапіў малако, устаў з-за стала.

— Доўга сёння будзеш?

— Не ведаю. Райзаг за дрыўмі прыедзе. А што?

— На ферме няўпраўка. Мо пасобіў бы. Галя занятая...

— Пабачу, мо і раней прыйду.

Косцік апрануў фуфайку, насунуў на галаву шапку, начапіў на плячо сумку.

На вуліцы было марозна. У кузні ўжо з раніцы глуха бэхкаў молатам Рыгор Швед. На ферме вуркатаў трактар-кормараздатчык. Пераклікаліся механізатары — разагравалі трактары. Гарачая пара ў іх — возяць на палі арганіку.

Пад кірзачамі парыпваў снег, бы ішоў па капусце. З комінаў хат віліся белыя дымкі, роўненькім струменьчыкам імкнуліся ў неба.

Гарэла святло ў Ладуцькі — з вуліцы было відаць, як ён тэпаў па хаце. На вокны стары ніколі не вешаў фіранак.

Насустрач, падганяючы каня, нехта ехаў у санях.

— Здароў, Косцік! — павітаўся Савось Чыжэўскі.

— Здароў! Калі за дрыўмі прыедзеш?

— Часу ўсё няма, ядры яго качалку. Жонка ўжо шыю перапіліла...

Міхалап усміхнуўся — як і ў яго, на ўсё часу не хапае, усё датачыць да сутак хочацца некалькі гадзін.

У канторы лясніцтва гарэла святло. Праз акно ўбачыў намесніка ляснічага Лукашэвіча. Каля яго сядзеў

Жамойда. Пра нешта гаварылі. Жамойда жэстамі паказваў некуды за спіну, а той ківаў галавой.

Карабкоў адлежваўся ў бальніцы. Зацягала яго пракуратура на свае гутаркі. Нехта напісаў у райком партыі ананімку, што ляснічы шмат прадаў лесу, паклаў сабе ў кішэню тысячы рублёў, што па яго віне загінула драўніна... Здагадваліся, хто напісаў.

Міхалап абабіў ногі ў калідоры, адчыніў дзверы. Усе павярнуліся да яго, як ён зайшоў. Адказалі дружна на яго «дабраніцы». Жамойда толькі зіркануў у яго бок і зноў загаварыў з Лукашэвічам.

На лаўцы пасунуўся Міхал Клімаш, даў месца. Паручкаліся.

— Як жыццё, Міхалап?

— А як у бульбы.

— Як гэта, Косцік? — спытаў Іван Хіял, што сядзеў леваруч, настроіўшыся на вясёлы лад.

— Калі не пасадзяць, то з'ядуць.

Хаця пра «бульбу» ведалі ўсе, рогат быў як упершыню пачулі, ды і намёк зразумелі — Карабкоў яшчэ не вярнуўся.

Міхалап дастаў з кішэні пачак «Прымы», і да яго пацягнулася адразу некалькі рук. Усе папыталіся, дзе дастаў, бо ў краму апошнім часам такіх не прывозілі.

— З Амерыкі прыслалі, — адказаў Косцік, вытрэсваючы цыгарэты па адной — частаваў.

— Хіба што з Амерыкі, бо ў нас пуста. Казаў Сашык, магазіншчык, што нейкія там фонды згарэлі...

— Усё гарыць: лес, фонды, людзі...

Курылі, гаварылі, шызы дымок падымаўся да столі, там завісаў. Колькі разоў на мужчын сварылася бухгалтар Алена Юніцкая, але мужчыны не слухаліся, капцілі штораніцы столь — хоць сякеру вешай пасля іх парады.

— А ў цябе што новага, Міхал? — павярнуўся Міхалап да сябра, адзначыў пра сябе, што той за апошні час змяніўся — пад вачмі пазначыліся ліловыя кругі — месяц адляжаў у бальніцы: застудзіў недзе ныркі, урачы лячылі піеланефрыт.

— Ды так сабе, — і шапнуў на вуха: — Ласі ў маім абходзе аб'явіліся.

— То мае, пэўна, перабеглі да цябе — на мяне засердзіліся.

— Мо і твае. Ды вось бяда — збіраюцца і ад мяне ўцячы.

— Куды?

— На шашлыкі начальству. Дачуўся я, што Жамойда хоча туды з вобласці вялікіх чыноў завезці. Дарогу сабе мосціць на будучае.

Казімір павярнуўся, пад ім рыпнула крэсла.

— Ты што ерунду гародзіш? Няма аб што языкі пачасаць.

— Ерунду? — перапытаў з'едліва Клімаш, зірнуўшы на яго паверх галоў леснікоў. — Ды чулі, як ты запрашаў на ласяціну. Толькі ты гаварыў пра свежыну. А свежынай у цябе і не пахне. Ты і дзень прызначыў канкрэтны — наступны аўторак. Ці, можа, я няпраўду кажу?

— Ты не пра тое пачуў, — адказаў неўпапад Жамойда, у яго перасмыкнуўся твар — зачапілі за жывое. — Вушы мыць трэба.

— Табе дык даўно пара прамыць. І не толькі вушы. Бо як ад удода за вярсту чуваць.

Леснікі рагатнулі, падтрымалі Клімаша, гэтаксама не любілі Жамойду. Ніхто з леснікоў з ім не вадзіў дружбу.

— Ну, вы, — умяшаўся Рыгор Пятровіч, адчуваючы, што наспявала сварка, — счапіліся ўжо. Як дзеці малыя, яй-бо, якіх нельга адных пакінуць дома. Што вы не падзялілі?

— А нам і дзяліць няма чаго, Рыгор Пятровіч. Толькі ласёў яму тых не бачыць, як сваіх нямытых вушэй, — апошнія два словы ён знарок падкрэсліў, націск на іх зрабіў.

— Н-ну, толькі без слоў, — нахмурыўся Лукашэвіч.

— А гэта не мае, а яго словы. І многа на сябе хай не бярэ.

Леснікі адчулі, што памочніку ляснічага не па душы такая размова, не любіў ён сварак, ды і чалавек ён быў помслівы. А за Жамойду, адчувалася, ён стаяў гарой.

— Ну, хопіць, а ты, гэта самае, таксама словы падбірай, — папракнуў Рыгор Пятровіч і Жамойду. — А цяпер пачнём пра справы.

Лукашэвіч падняўся з-за стала, у яго на лоб спадала пасма валасоў, і ён раз за разам папраўляў яе, прыгладжваў. Ён, калі выступаў ці гаварыў з людзьмі, мітусіўся — і ў рухах, і ў словах. Скажа пачатак нейкай думкі, і ў гэты ж час успомніць нешта, усуне рукі ў кішэню і да конюха падасца, нечакана ў яго спытае, ці хапае коням аўса. Потым зноў вернецца, дагаворыць пачатае — бы і не адлучаўся.

Напачатку леснікі не маглі зразумець, як з ім гаварыць, як слухаць, што ўспрымаць усур'ёз, а на што і не звяртаць увагі. Не скора зразумелі...

— Дык вось я пра што хачу сказаць, — кашлянуў Лукашэвіч, паправіў прычоску і паглядзеў у столь, быццам чытаў там напісанае. — Па-ранейшаму кепска ў нас працуюць бензапілы. Ніводная не дацягвае да выпрацоўкі нормы. Міхась Капыткоў і Іван Хіял, чаму так?

— А ланцугі добрыя калі нам выдадуць? — ускочыў Хіял з месца. — Абяцанні ўсё. Вы спачатку забяспечце, а потым патрабуйце.

— Ну-ну, — пакрывіўся Рыгор Пятровіч, — таму мы і адстаём па механізаванай тралёўцы лесу, падводзім лясгас па прарэджванні, прахадных высечках, санітарных...

«Канечне, тут адстанеш, калі няма чым працаваць,— падумаў Міхалап. — Карабкоў неяк жа даставаў — і запчасткі для бензапіл, спецвопратку для леснікоў. А ў гэтага адзін план у галаве. А выгляд робіць, што стараецца...»

— Але я не сказаў бы, што справы ў нас ідуць кепска, — павысіў голас Рыгор Пятровіч, пачасаў кончык носа, ужо больш упэўнена паглядзеў на рабочых і леснікоў. — Хачу сказаць, што аб'ём драўніны, якую мы нарыхтоўваем, на высечках узрос.

«Во чэша, як па кніжцы чытае», — адзначыў Міхалап.

Што псавала Косціку заўжды настрой, дык гэта тое, што ў высечку адводзіліся пасадкі, якія і не трэба было высякаць. А было, што прызначаліся паўторныя высечкі — без асаблівай патрэбы. Бацька некалі папярэджваў Карабкова, і ён не дапускаў такога глумлення.

— Мы павінны ўлічыць памылкі мінулых гадоў, — заключыў Лукашэвіч, усунуўшы правую руку ў кішэню, другую ўпёр у стол, — каб выйсці з прарыву, мы павінны павысіць прадукцыйнасць працы. Як сказаў на апошнім пленуме Генеральны сакратар партыі таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, прадукцыйнасць працы сёння — галоўны фактар. Да нас праз месяц-два павінна прыехаць камісія з абласнога ўпраўлення лясной гаспадаркі, каб паглядзець, як у нас вядуцца высечкі, які парадак у лясах. Цікавіцца нашай работай і навукова-даследчы інстытут. Мы даўно павінны займацца лесаўпарадкаваннем, а вось многія леснікі нічога не робяць у гэтым кірунку...

— Цяпер-то ён знойдзе вінаватых, — шапнуў Міхалап.

— Мяне дык першага.

Ляснічы як усё роўна пачуў іх размову, паглядзеў на Міхалапа.

— Канстанцін Мінавіч, вам смешна, а скажыце, колькі шпакоўняў вы зрабілі і павесілі ў лесе?

Міхалап устаў, паглядзеў здзіўлена на Лукашэвіча, пацiснуў недаўменна плячыма:

— А я і не збіраюся іх рабіць.

У Лукашэвіча правае брыво рэзка падскочыла ўверх, рука зноў памкнулася да галавы, пяцярнёю прыгладзіў валасы:

— Гэта ж чаму, цікава ведаць?

— Рыгор Пятровіч, з нас жа тыя дзятлы смяяцца будуць, што ў іх работу адымаем. У лесе столькі дуплаў, што хопіць на ўсіх птушак. Справа іншая, што птушак усё меней у лясах. Гінуць ад той жа хіміі, ад меліярацыі, у іншыя лясы перабіраюцца.

— Ты мне жартачкамі не адмахвайся, — пасур'ёзнеў Лукашэвіч, грозна глядзеў на лесніка, — тут справа дзяржаўнай важнасці. Ёсць указанні. Вунь у Жамойды люба глянуць у лесе — і шпакоўні вісяць, і плакаты на дарогах развешаны, і мурашнікі агароджаны...

— Я думаю, што лесу так патрэбны тыя шпакоўні, як Жамойдзе грабянец.

Леснікі зноў зарагаталі. Жамойда скрыгатнуў зубамі.

— Паказуха то ўсё, Рыгор Пятровіч, а не дзяржаўная важнасць. Смехатура. Жамойдзе загадайце, дык ён усе хвоі перафарбуе ў белы колер — і бярозы будуць. Для начальства ён стараецца і для сябе. Але толькі не для лесу.

Леснікі ажывіліся — Косціка панесла. Яго ўжо цягнуў Міхал за крысо фуфайкі, таксама смеючыся, як і ўсе, казаў:

— Сядай, хай яны самі разбіраюцца.

Але Косціка не так ужо лёгка было спыніць, ён упёрся і не слухаў Міхала, а мо і не чуў, як той тузаў яго. На Міхалапа спадылба глядзеў Казімір, цярпліва маўчаў, не ўступаў у спрэчку.

— Ты і лапкі не хочаш здаваць хвойныя, — кінуў галоўны козыр памочнік ляснічага, — а Жамойда даў аж два планы.

— А хоць і дзесяць. Толку-то ніякага.

— Як гэта ніякага? — Рыгор Пятровіч пачаў ужо злавацца — рука да галавы падымалася, то нырала ў кішэню, не рады ўжо быў, што зачапіў лесніка.

— Так, аніякага. Па-першае, глумім лес. Хвоі пасля нашага варварства не скора паправяцца і пойдуць у рост. — Міхалап гаварыў занепакоена, толькі кашлянуў раз-другі — перасыхала ў горле. — Па-другое, ну няхай трэба хвойная мука. Але ж галінкі трэба адразу і перапрацоўваць, як прывязём з лесу. А так што налучаецца? — Косцік паглядзеў на Лукашэвіча, а пытаўся ва ўсіх, хто сядзеў у пакойчыку. — Суткі, двое, а то і больш ляжаць яны пад плотам. А тое АВМ не спраўляецца — дзень робіць, а тры прастойвае. Мы ж, хлопчыкі, лес губім, і ніхто нам не просціць гэтага.

Было чуваць, як у грубцы гудзела полымя — бухгалтарка шторaніцы тапіла, падмяняла сваю маці.

— Ты што, супраць дзяржаўнага плана? — гневаўся ўжо Лукашэвіч, недаўменна паглядаў на ўсіх, як бы клікаў іх у сведкі.

— Кіньце вы, Пятровіч, громкімі словамі кідацца. Я не супраць плана, — аціхаў Міхалап, як быццам зразумеўшы, што перабраў лішку ў спрэчцы. — Але я супраць таго, што і мука з тых лапак ужо не мука, а адна труха. На прачыстках мы можам смела браць, я не спрачаюся, а калі сячэм з-за гэтага здаровую дзеравіну — тут ужо непарадак, дыверсіяй пахне...

— Ну і загнуў, — зморшчыўся Лукашэвіч.

— Правільна кажа Міхалап, — падтрымаў нечакана Васіль Макравец, які баяўся і слова сказаць супраць памочніка ляснічага, за спінамі заўсёды адседжваўся.— Мука мукой, а лес глуміць нельга.

Загулі і астатнія. Міхал кінуў слова, Хіял паціснуў плячыма. Падзадорыў Міхалап леснікоў, і як прарвала што, рукамі замахалі, кожны хацеў выказацца.

— Добра, Міхалап, сядай. Я даўно ведаў, што ты вялікі дэмагог, але што такі — не падазраваў.

— А ён праўду сказаў, Рыгор Пятровіч, — дастаў Клімаш капшук з самасадам.

— Дык жа план, разумееце, пла-ан.

— От і мы кажам, што план. А лесу тое да лямпачкі.

За акном пачынала шарэць. У сінім мроіве праступалі яблыневыя галіны, упіраліся ў акно. Поўз ад цыгарэт дым, а калі пачаў курыць і Клімаш, Косцік закашляўся:

— Ну і табак у цябе, з ног саб'е.

— Алена дасць яму прачухацца.

— І дам, — азвалася бухгалтарка — да гэтага часу сядзела маўкліва ў кутку каля акна. — Учадзець можна. Вы паразыходзіцеся, а як мне тут сядзець? Хоць процівагаз надзявай.

— Затое ні мух табе, ні камароў.

Алена прыезджая. Колькі гадоў назад прыехала з маці і жыла з ёю ў прыбудоўцы лясніцтва. Казалі, што Алена дзесьці з Хабараўска, што ўцякла ад п'яніцы мужа, пакінуўшы яму кватэру. Ездзіў Хіял з грыбамі ў той далёкі горад. На базары разгаварыўся з Аленаю, прыехаў, Карабкову сказаў пра яе. Потым паклікаў жанчыну ў Спрымачоў.

Лукашэвіч дастаў з папкі паперы, перагледзеў іх, чыркануў у адной, у другой — чакаў, калі наступіць цішыня.

— Нагаварыліся?

— Усё, Пятровіч, але сваркі не было, мірам усё абышлося, — усміхаўся Міхалап.

— Мірам, гэта праўда. З вамі пагаворыш мірна. Як у цябе з шышкамі, Міхалап?

Косцік выдаўжыў шыю:

— Есць шышкі. З хлопцамі нанасілі.

— Прывозь на сушку. У цябе, Клімаш?

— Заўтра прывязу.

Зазваніў тэлефон.

— Лукашэвіч слухае.

Узяў паперу, падрыхтаваўся пісаць — уважліва ўслухоўваўся ў трубку.

— Ага, пішу... Таварышы, цішэй, з лясгаса.

Міхалап пацікавіўся ў Міхала:

— Адкуль твае шышкі?

— З-пад Княжына.

— Гэта там, дзе кедры растуць?

— Ага, — Міхал затушыў недакурак, кінуў у сметніцу каля парога, — там штогод бяру.

Кедры саджаў некалі панскі ляснічы. Эксперымент праводзіў. Год назад прыслалі тэхніка — Віктара Батанава. Карабкоў на курорт паехаў, страўнік лячыў. Лукашэвіч нагу падвярнуў, дома сядзеў. За начальства застаўся Батанаў.

Адчуўшы нечаканую ўладу, ганяў ён леснікоў без дай прычыны, як не кожны дзень нарады праводзіў і даваў накачкі. У лес з леснікамі падаўся. У абходзе Косціка, у Княжына, убачыў пашкоджаныя кедры — кара пасохла, па ствалах караеды поўзаюць.

— Чаму тут хворыя дрэвы стаяць? — адразу кінуўся ў крык Батанаў. — Чый гэта абход?

— Мой, Віктар Парфенавіч, — прызнаўся Міхалап, назваўшы хлопца па бацьку — вельмі любіў ён, калі яго так велічалі, нават патрабаваў. Зразумеў Косцік, што той не пазнаў кедраў. — Мой, выходзіць...

— Як гэта вы, вопытны ляснік, дапусцілі такое, што побач з прыгожымі і здаровымі хвоямі стаяць гэтыя, пашкоджаныя і хворыя?

Косцік зрабіў яшчэ больш вінаваты выгляд, зірнуў непрыкметна на Міхала, міргануў, каб маўчаў.

— Ды ўсё часу не было, таварыш Батанаў.

— Я вас навучу працаваць! — строга паабяцаў Віктар. — Гэта ж трэба — у лясніцтве існуе такое разгільдзяйства.

— Карайце, але просьба будзе — не гаварыце толькі ляснічаму, — папрасіў шчыра Косцік, сцішыўшы голас да шэпту, у вочы замілавана паглядаў, — бо ён загадаў мне іх спілаваць яшчэ мінулай вясной. А я ўсё адкладваў, вінаваты, што і казаць...

Косцік як які артыст — распінаўся, прасіў, умольваў, як не ў ногі падаў, каб дараваў тэхнік прамашку.

— Не, вы мяне не ўгаворыце, — сказаў як адрэзаў тэхнік, хмыкнуў незадаволена.

— Віктар Парфенавіч, — зноў зашаптаў Косцік, твар выціраў потны — так стараўся праявіць акцёрскі талент, — я вам за маўчанне барыла самагонкі прынясу.

— Вы мяне яшчэ і падкупіць уздумалі? — крутануўся на месцы Батанаў, з пагардай паглядзеў на лесніка.— А мне гаварылі пра вас як пра самага чэснага і працавітага. А вы, аказваецца...

— Вінаваты, я ж хацеў як лепш...

Батанаў напісаў дакладную, у якой паведамляў, што ў квартале лесніка Міхалзпа растуць хворыя сосны, якія распаўсюджваюць хваробу. І прыпіска была, што пра гэта не раз гаварыў яму, лесніку, Карабкоў. Не пазнаў, выходзіць, кедраў.

Потым прыязджала камісія. Смеху было на ўвесь лясгас.

Праз месяц Батанаў з'ехаў са Спрымачова. А кедры раслі на ўзвышку Княжына, горда выструніўшыся ў неба, стагналі пад вятрамі, але не згіналіся, пелі сваю вольную песню бярозам і дубам...

— Запомніць тыя кедры Батанаў.

— І кедры яго, — адказаў Косцік.

Лукашэвіч скончыў пісаць, падзякаваў, запэўніў:

— Пастараемся, Пятроўна. Думаю, што ўсё будзе добра. Ага, усяго найлепшага.

Трубка легла на бліскучы чорны тэлефон. Рыгор Пятровіч нейкі час глядзеў на яго задумліва і засяроджана, сашчаміў пальцы на стале.

— Ну і загаварыліся мы сёння з вамі як ніколі. Вунь ужо і днец пачало. Так, цяпер апошняе. Брыгада лесарубаў у зборы?

— Ага. Толькі ў адной піле ланцуг паляцеў.

— Са старой зніміце, якую рамантаваць збіраецеся. На пілу сёння каб не меней васемнаццаці кубоў было. Ясна?

— Ды ясна, — расцяжна адказаў за ўсіх Хіял, брыгадзір.

У кантору зайшла Анэля, ціха павіталася, гэпнула на стол важкую паштарскую сумку. Разагнала каля сябе тытунёвы дым, пачала выкладваць газеты і часопісы.

— За тры дні, Пятровіч,— не магла раней. І во пісьмяцо вам. Ад Карабкова.

Анэля выйшла, не зачыняла за сабою дзвярэй.

— Вы пра Карабкова скажыце. Калі ён прыступіць да работы? — Косцік не вытрымаў, зноў палез у спрэчку. — Гэта ж нехта з нас напісаў тую ананімку... Нехта ж хоча заняць яго месца.

— А можа, ты, Міхалап, і напісаў? — заўсміхаўся Казімір, заёрзаў на табурэтцы. — Ты ж любіш справядлівасць, вось і рашыў усё паставіць на месца.

Лукашэвіч нахмурыўся, сагнуў галаву, як што чытаў на стале. Пасур'ёзнеў, кашлянуў у кулак.

— Выходзіць, што я і пісаў. Я ж яго памочнік, — Рыгор Пятровіч прамовіў ціха, ні на кога не гледзячы.

Косцік зразумеў, што гэта адказ яму.

— Карабкоў даўно некаму папярок горла стаіць. Бо не дае разгарнуцца некаторым. Пры ім на ласяціну не прыязджалі б, не выносіць ён лізакаў.

— От прыстаў з той ласяцінай, як кароста да цела, — адвярнуўся да акна Жамойда — не спадабаліся словы Міхалапа.

— Да цябе ўжо даўно прыстала і не толькі кароста,— упікнуў яго Міхалап, не стрымаўся, каб не ўпікнуць, бо Казімір вельмі ж упэўнена трымаў сябе пры Лукашэвічу — пры Карабкове ён далёка ад стала сядзеў. І маўчаў. — Я прапаноўваю вось што: трэба нам напісаць агульнае пісьмо ў райком ці абком партыі. І падпісацца ўсім над ім. Аба-

раніць нам трэба чалавека. Не будзе яго — пастраляюць ліс і баброў на футры лізаблюды, ласі пойдуць на каўбасу высокаму начальству...

Лукашэвіч маўчаў, адчуваў, што яго словы тут лішнія, непатрэбныя. Жамойда насупіўся, вочы схаваў пад калматымі бровамі.

— А што? Правільна кажа Косцік... — нечакана для ўсіх выказаў падтрымку Лукашэвіч, паглядаў на ўсіх. — Я першы падпішуся пад такім пісьмом... А цяпер мы скончым нашы дэбаты, як кажуць. Усім леснікам на нарыхтоўку драўніны. На цэлы тыдзень. У мяне ўсё...

Замітусіліся, загаварылі леснікі.

За акном ужо добра ўднелася — даўно так не заседжваліся.

## Сыны

Вікця, адчуўшы, што перастала кідаць у жар, паклікала да сябе сына.

— То ты ўжо, Валічак, ідзі заўтра ў школу, не адставай у вучобе.

— Табе ўжо лепш? — сын сеў за стол, паглядаў на маці — выглядаў ён ужо па-даросламу, насіў доўгія валасы, якія раз-пораз закідваў назад, на ім была футболка, вочы сур'ёзныя, уважлівыя.

— Ага. Ты толькі бульбачкі адвары звечара, каб я заўтра карову і парсюка пакарміла. Мне ўжо лепш.

—А мо рана яшчэ, дык я застануся. Урокі цяпер лёгкія.

— Не, не, сынок, — не згаджалася маці, — колькі ж можна ляжаць. Ды і баба прыйдзе, паможа.

Сын падпаліў раніцай у печы, паклаўшы яшчэ звечара смалякі пад дубовыя дровы, — яны ўхапіліся адразу полымем. Гаспадар, паснедаўшы, падаўся на работу.

Па сценах скакалі чырвоныя водсветы, яны вырываліся праз акно на агарод — чырванілі на градах снег.

Сын паспеў абабраць бульбу, паставіў варыцца ў гаршчэчку. Вікця ўстала, пахадзіла па хаце, адчула, што вярнулася сіла. Яе радавала, што сын стараецца памагчы ёй, радавала, што расце не беларучкай, не цураецца ніякай работы.

У Асавец хадзіў у школу і Косцікаў Стась — на клас ніжэй за Валіка. Вясной і восенню хлопцы хадзілі ў паасобку, як хто ўпраўляўся. Зімой, калі пачыналіся траскучыя маразы і мялі калючыя завеі, збіраліся купкамі. І абавязкова з «вочай» — бляшанкай на дроце, з дзірачкамі, у якой гарэлі смалякі. Пакруціш колькі разоў, калі згасае, ізноў разгараецца полымя, толькі чорная копаць адлятае. Ваўкоў баяліся, шнырали яны на дарогах, пераграваў не раз. Але

ратаваў вучняў агонь — шпурнеш у воўчую зграю, у жоўтыя светлячкі, і разбягаюцца шэрыя, падцяўшы хвасты...

Валік падаўся ў школу, у печы выгарала, і жару ўжо не было. Віцця прычыніла юшку, падмяла ў хаце.

Любіла яна чысціню. Як толькі пабраліся, да сварак даходзіла, калі Казімір з вуліцы пёрся на сярэдзіну хаты ў брудных ботах. Быў ён неахайны.

У сенцах бразнула клямка, рыпнулі дзверы. Ведала — маці. То яна заўсёды вобмацкам шукае клямку.

— То ты паднялася ўжо, доню?

— Колькі ж можна адлежвацца?

Маці паклала на кухонны стол вузельчык, развязала хустку-канаплянку, скінула плюшавую жакетку. Віцця абрадавалася — будзе з кім словам перакінуцца. За час хваробы ніхто і не наведаўся да яе. Акрамя Карабковай, якая прыносіла лякарства.

— Напаю я цябе, дачка, узварам зёлак, — Анэта лагодна заўсміхалася, засвяцілася радасцю — любіла сваю дачку. — Пасля ангіны добра горла прамыеш...

Вада ў чайніку закіпела хутка, і праз хвіліну па хаце паплыў водар маліны, чабору, іван-чая...

— Як летам у Княжына сядно, — Віцця зажмурыла вочы, удыхнула паветра. — Трава там у рост чалавека.

— А яна адтуль, траўка, — села маці на крэсла, чакала, калі настаіцца адвар. — Казаў, што там збіраў.

— Хто — дзед Мікіта?

— Ды не, Косцік.

Нешта ледзь улоўна таўханулася пад грудзьмі, як некалі Валік у жываце, — тоўк-тоўк нагой, але тарганулася вышэй, і яна злавіла сябе на тым, што ёй прыемна чуць пра яго.

Быў час касавіцы. Яна ішла з пакосаў і сустрэла яго — сядзеў пад Яркавым дубам, адпачываў. Акурат стагі склалі мужчыны, яны паехалі коньмі, а Косцік дабіраўся, як заўсёды, пехам.

— Здароў была, Віцця! — першым павітаўся ён, бо яна і не ўбачыла яго адразу.

— Здароў, Косцік.

— Сядзь адпачні, дадому разам пойдзем...

Яна села на траву, касынку зняла, кофту расшпіліла — было задушна.

І чым больш дражніў пах, тым яскравей паўставала ў яе памяці тое лета. Даўняе, памяткое, са спевам салаўёў, з пахам медуніцы і з незвычайна звонкай цішынёй — адно чулася, як звінелі нейкія

званочкі каля іх вушэй. Такой цішыні яна не памятала пазней ніколі, а можа, тая была для іх асаблівая і найбольш памяткая?

Анэта паналівала гарбату ў белыя кубкі.

— Усё жыццё яму прыходзіцца лячыць цябе. То тлушчам барсучыным, то зёлкамі...

Дачка горка ўсміхнулася, згадзілася:

— Так ужо наканавана нам, што паробіш.

Яна і сама ведала пра той тлушч. Дазналася не ад маці. І не ад Косціка. Ладзік ненарокам выдаў тайну. Гаварыў не ёй, а Чыкану ў магазіне, за перагародкай, яе не бачачы, ён спрачаўся, даводзіў, што пры сухотах памагае барсучыны тлушч. Чыкан не згаджаўся. Тады Жменька і сказаў: «А Віцця вунь вылечылася. Косцік забіў двух барсукоў і натапіў тлушчу...»

А Жамойда ноччу пільнаваў партызан. Мог і забіць яго тады.

— Чаго не п'еш больш? Мо блага? — маці перабіла яе думкі.

— Блага, мамо. Ды не ад хваробы. Ад іншага.

Анэта і сама сябе даўно дакарала, што не ўберагла

дачку. Бачыла ж, як надвячоркам пайшоў у хату. Не думала, што тым скончыцца для дачкі. Не любіць яна Жамойду і ніколі не палюбіць. Вунь пра Косціка слоўца сказала, а як успыхнула ўся — твар у жарынках.

— Нічога ўжо не пераменіш, доню. Жыць трэба...

— Апрацівела ўсё. І хата гэтая, і ён... З Косцікам, здаецца, адзін хлеб сухі ела б — і шчасця большага не жадала б.

Апошнія словы былі як прызнанне, як боль свой з сябе выняла, мацеры тайну сваю выдала, не ўтрымалася. Анэта доўга маўчала, глядзела пад ногі, уздыхнула, заплакала:

— То ты ж самая няшчасная, мая дачка. Ой, божухна ты мой, гора ў цябе. І я, дурная, спрыяла гэтаму.

Віцця сядзела на ложку маўклівая, безуважная да ўсяго. Заплюшчыла вочы. Як спала ўсё роўна.

— Эх, доню, доню...

Стась, як толькі прачнуўся, заўважыў у хаце ўрачыстую светласць — хаця была глыбокая ноч. ён кінуўся да акна, уткнуўся носам у халодную шыбіну, і яго апаліла шчымлівая радасць — снег, снег на дварэ!

Ён ціхенька падышоў да ложка, крануўся бацькавага пляча, паўшэптам, каб не пабудзіць Алеся і Галю, паведаміў радасна:

— Тата, снег на вуліцы... Пойдзем у лес?

Косцік прачнуўся, адразу зразумеў, што да чаго, адказаў:

— Пойдзем. Збірайся.

— І Кляксу возьмем?

— Ага.

Ціха сабраліся, ціха пакінулі хату.

Парыпваў снег, рэха гулка адлятала ў марознай цішы. Стась прыслухаўся да заснежанага церушу: толькі мяккая посвістка кацілася па вяршынях сосен.

Неўздалёк выразна абазначыліся сляды мацёрага — кружыў вакол Спрымачова, прынюхваўся.

Бярозы апранулі на сябе срэбныя карункі.

Сосны, абцяжараныя першым снегам, стаялі задуменна і ўрачыста.

Пачыналася свята першага снегу.

Сын упарта тэпаў першы, не згаджаўся ісці следам — ён першы адкрываў тое свята, кіраваў ім, дырыжыраваў. Раз-пораз аглядваўся — цікава, як адчувае сябе бацька? Ці гарыць і ў яго душы такая шчымлівая радасць, як і ў яго, Стася, ці святочны ў яго настрой? А мо ён і не адчувае яго свята, ходзячы штодня па сваіх сцежках.

Касцік ішоў і думаў пра сваё. Позірк у яго асветлены, быццам ачышчаны беллю снегу, задумліва-святочны. Рады Стась за бацьку, што і яго ранішні снег зрабіў нейкім іншым, больш мяккім душой і шчырым, па-дзіцячы непасрэдным — як зраўняліся ўсё роўна ва ўзросце...

Нагу Стась ставіў упэўнена, цвёрда, як дарослы, які выбраўся ў дарогу на цэлы дзень. І ведаў, што трэба ашчаджаць сілы. За дзягай у яго сякерка, паляўнічы нож.

Сучка насілася ад дрэва да дрэва, ныряла ў глыбокі снег, пачуўшы, як пад носам пішчалі мышы-палёўкі. А то цахлела за зайцам, якога ўспарола нечакана пад кустом, і брахала там, пужаючы хіба што цішыню.

Стась ведаў, што яна прыдурваецца, дае выйсце сваёй неўтаймаванасці. А то яна нападала на сапраўдны след, і голас быў ужо іншы, рэдкі і зазыўны. І гнала касога на тое месца, дзе стаяў гаспадар. А ляснік нават і стрэльбы з пляча не здымаў, далонямі ляскаў, праганяў ад сябе касога. Не разумела Клякса, зноў заганяла вушасціка — і зноў маўчала стрэльба.

А потым сучка ацішэла, натамілася. І ўжо адбягалася недалёка ад Міхалапаў, прынюхвалася безуважна да снегу, зразумела, што ішлі не на паляванне.

А Стась не пераставаў радавацца марознай раніцы, лясной цішыні. За Вятчынкай падымалася ўжо сонца. Яго яшчэ не было відаць, толькі слабыя водсветы пруціліся ў неба. Першая радасць у

сына зменшылася, пацішэла, і Косцік чакаў, калі ён стоміцца і пойдзе за ім — так будзе лягчэй абаім. Але сын упарціўся, сунуўся па снезе, хаця ўжо не з такім імпэтам як напачатку.

— Натаміўся?

— Неа, — пакруціў галавой сын, паглядаў на бацьку, паклікаў Кляксу — знікла некуды, не паказвалася на вочы — рэха вавёркай паскакала па галінах...

— І не змерз?

— Хто ж, ідучы, мерзне? — смяяўся сын і зноў пагукаў сучку.

Дыхалася лёгка, на ўсе грудзі, ад хады стала ўжо горача, і Косцік расшпіліў кажушок. Выяснілася неба, падужэла сонца. Снег пабялеў яшчэ больш, з рафінаднага, напаўеіняга, ператварыўся ў чыста-белы, пераліваўся іскрынкамі пад сонцам — ужо калоў вочы.

— Тата, зірні! — раскрыў здзіўлена вочы Стась, прыставіўшы руку да лба. — Хоць карціну малюй.

Перад імі, на схіле, стаялі дзве бярозкі, бы блізняты. Косы белыя-белыя, звісаюць да каранёў — і вецер яшчэ спаў з грабянцом, не расчэсваў іх, унізе стажок з белай шапкай на вільчыку. Далей вынес высока ў неба шаты магутны дуб — сам сівы, нібы волат-лесавік. На снежным нерушы ніводнага следу. Нават ісці наперад няёмка — ступі і парушыш усё, як разаб'еш неасцярожным рухам нешта крохкае, казачнае...

— А чаго ж не намалюеш?

— Бо не ўмею.

— Дык чаму ж у школе вас тады вучаць? — Косцік спыніўся, глядзеў ужо ўверх — прыглядаўся да сасны: трэба было ўжо даўно пачаць ачыстку лесу ў гэтым квартале, даўно ў начальства рукі не даходзяць. — Толькі ногі топчаш, скажу табе.

— Ды ў нашым класе ніхто не ўмее маляваць, — апраўдваўся сын, не зразумеўшы бацькавага папроку. — Во Сяргей умее маляваць, — не адрываўся ад навакольнага пейзажу, — і ніхто яго гэтаму не вучыў...

— Дык то ж Сяргей і не такі свавольнік, як ты, — глядзеў бацька на сына і ўсміхаўся — бровы сталі белыя, і шапка-аблавушка такая ж — лесавік!

— А-а, — крутануў галавой сын і тут жа нахмурыўся, — бо вы з мамкай Сяргейку больш і любіце.

— А ты хіба не любіш яго? — невядома чаго і спытаў Косцік, зразумеў, што сын нечага раўнуе да старэйшага.

— Люблю.

— А мы вас усіх аднолькава любім — і цябе, і Сяргейку, Галю і Алеся.

Стась маўчаў, нешта абдумваў, паправіў сякерку і пайшоў далей. У вачах не то сум, не то крыўда.

— А ён скора з арміі прыйдзе?

— У наступную восень.

— Доўга яшчэ чакаць.

Косцік ведаў, чаму сын не пайшоў у школу. Яго ўзрушыў першы снег. Ён штогод рабіў з сынам нешта незразумелае. Але гэты снег не першы, бо выпадаў ён і ў лістападзе, а лёг па-сапраўднаму толькі цяпер, на пачатку года.

Кожны год, як выпадаў першы снег, сын прасіўся ў абход, аж нудзіўся. Аднаго разу, ці то не ў чацвёртым класе як вучыўся, Паліна была не ў гуморы і забараніла ісці ў лес — у дзённіку было аж дзве двойкі. Гэта і ўзлавала яе. Стась тады аб'явіў байкот — ні з кім не размаўляў, адмовіўся есці, і як яго ні ўгаворваў старэйшы сын Сяргей, анічога не памагала. А ноччу ён плакаў у сне, трызніў, клікаў некага да сябе, і тады да самай раніцы побач з ім прасядзела Паліна, дакараючы сябе, што так абышлася з хлопцам. Назаўтра сказала Косціку: «Пакрыўдзіла я яго... Нейкі ён чуллівы да ўсяго, душа мяккая».

І пасля таго ўжо ніколі больш не ўмешвалася, не ўшчувала, калі і ўтворыць што.

Косцік спыніўся пад сасной, палез у кішэню, каб дастаць цыгарэты. Пачуў, як Стась абушком ударыў па ствале, хацеў павярнуцца да яго, але тут жа на яго раптоўна асунулася аграмаджаная гурба снегу — уся, што ўчапілася ў галіны, накрыла з галавой.

Заняло дух, і нейкі страх маланкай прабег па целе. Ён спачатку нічога не зразумеў. Потым вылез з гурбы.

— Дзе ты, свавольнік? Шчас здыму папругу і адлупцую, ідзі сюды...

Было ціха. Толькі дробненькія бліскучыя сняжынкі іскрыліся на сонцы, пакрысе ападалі долу. Косцік агледзеўся — сына не было. Не мог жа Стась далёка адбегчыся за такі час. Дзе ён мог схавацца? Забрахала Клякса, бегаючы і скачучы ля Косціка. Таксама не ведала, куды падзеўся Стась.

— Ты дзе, сын? — ужо лагодна спытаў Міхалап, азірнуўшыся туды-сюды — не адгукваўся.

— Стасі-ік! — пагукаў зноў, прадчуваючы нядобрае. — Сы-ын!

Рэха паляцела ў густы белы сасоннік, заблыталася там у нябачнае сіло — зглухла.

— А-аа!.. — як з-пад зямлі данёсся глухі голас, і каля елкі ўспароўся снег, высунулася галава Стася —' уся ў снезе, а сам ён весела смяяўся. Да яго падскочыла Клякса, і сын абняў яе, паваліўся разам у снег. Яны качаліся, падмінаючы адно аднаго.

Ну і штукар, ну і свавола, што з ім рабіцьмеш — гэта ж дадумацца ўтварыць такое. Напачатку Косцік раззлаваўся, думаў ужо і адлупцаваць сына за дурацкую выхадку, так і да інфаркту недалёка, але нечакана для самога сябе разрагатаўся, аж за жывот узяўся.

— Яй-богу, сын, па табе... папруга плача, ой, плача, — паціраў вочы бацька, пашукаў нагамі пачак «Прымы» і запалкі, што выбіў з рук снег, і не знаходзіў. — Я ўжо грэшным дзелам падумаў, што... А, хай яно...

А Стась качаўся з Кляксай па глыбокім снезе — ён смяяўся, а яна гаўкала на яго, стаяла блізка каля твару. Стась кінуў яе ў гурбу і пачаў закідаць снегам. Ёй тое не спадабалася, пачала злавацца, забрахала ўжо са злосцю на Стася — ён аж здзівіўся такой смеласці.

— Ага, атрымаў? — засмяяўся Косцік, гледзячы на іх. — Гэта табе не я, яна жартаў не разумее.

— Няпраўда, яна ўсё разумее, бацька, — не адставаў ад сучкі сын, гроб і гроб на яе снег, усё больш злуючы — яна не нападала, стаяла і брахала, незадаволена, усё больш распаляючыся.

— Перастань, Стась, не злуй яе, — папрасіў гаспадар, убачыўшы, што сын пераступіў мяжу між свавольствам і злосцю.

Бацька калупнуў ботам снег, і паказаўся ражок чырвонага пачка. Знайшліся і запалкі.

І тады ж аціхла Клякса. Быццам пачула загад маўчаць. Перастаў кідацца снегам і Стась, устаў, атросся, выбіў аб калена шапку. Стоячы, пазнімаў адзін за адным валёнкі, павыкідаў з іх снег.

Да яго падышла сучка, вінавата церлася аб нагу, як мірылася ўсё роўна.

— Ну і падліза, ох, якая падліза, — прамовіў ласкава, абдымаючы сучку, — прабач, я больш так не буду. Я не ведаў, што ты не любіш, калі кідаюць у цябе снегам. Мір, ну?

Яна завіляла хвастом, працяжна заскавытала, тыцкаючыся носам у калені.

— Ну, во, і памірыліся, — зазначыў Косцік, прыкурваючы, з задавальненнем зацягнуўся, пыхкнуў дымком.

Сучка рванула з месца, пабегла зноў па сваіх сцежках, перад гэтым пазначыўшы некалькі дрэў.

Выйшлі на прагалак, ярка асветлены сонцам. Ногі тапталі неруш. Прайшлі дубраву з высокімі старымі дубамі. Між іх летам,

акрамя мяккай, шаўкавістай травы, нічога не расло — ні дрэўца, ні кусціка: пэўна, не любілі дубы такога суседства. Далей пачыналася нізовінка, а за ёй адразу і быў шлях, да якога і кіравалі бацька з сынам.

Дарогу ім перагарадзілі свежыя санныя сляды — на іх зрэдзь асыпалася снежная пацяруха.

— То Жменька сёння паехаў на балоты — яшчэ цёмначы выбраліся.

— Ну, цяпер маці накорміць сваіх кароў.

— Колькі ж ім галоднымі быць.

Яны прайшлі шляхам, потым збочылі ўлева. Пачаўся квартал бацькавага абходу, куды павінны былі прыехаць машыны па лес.

Косцік ніколі ў абход на машыне не ездзіў, хоць і запрашалі яго. Хіба ўжо надаралася нейкая няўпраўка ці пільная патрэба. І ў слоту, і ў завею адпраўляўся, як казаў ён, на «адзінаццатым нумары»...

Цяпер жа, калі падмерзла, калі лясныя і балотныя сцяжыны скаваў мароз, рушылі ў лясніцтва людзі — прыватнікі і з арганізацый горада, каб забраць дровы ці будаўнічы матэрыял. І Міхалап ведаў, што дзесьці цяпер у лясніцтве аж цэлая чарга ўтварылася з людзей і машын — усе хочуць хутчэй, усім няма калі, і тыцкаюць памочніку ляснічага на подпіс паперы. Косцік уяўляе, як Лукашэвіч, адмахваючыся ад людзей, трошкі заікаючыся, гаворыць усім: «Н-не ўсе адразу, таварышы, усім п-падпішу...» І ў гэты час абавязкова зазвоніць тэлефон, і нехта будзе прыставаць з нейкімі пытаннямі, а ён будзе адказваць звыклымі: «Ага, праз тыдзень пазваніце, тады можна...» А праз тыдзень ён зноў будзе гаварыць тое ж самае і ніколі не скажа праўды.

Карабкоў так не рабіў. Ён усе справы рашаў за паўгадзіны.

Паўз іх праносіліся грузавыя машыны і аўтобусы, абдаючы смярдзючым дымам — прадыхнуць нельга было. Косцік не пераносіў паху бензіну, тым больш дыму ад яго.

Стась абярнуўся:

— А дзе ж Клякса?

— Дагоніць...

Дзе перасякаліся лініі кварталаў, быў пастаўлены афарбаваны слупок. З чатырох бакоў лічбы кварталаў — іх пісаў некалі Сяргей. Тут і была доглядная высечка драўніны. Сюды прыязджалі бензапільшчыкі і рабочыя, валілі лес, крыжавалі яго. Потым складвалі ў метроўкі.

Перад арміяй прыходзіў у лес з пілой і Сяргей — памагаў бацьку.

Па Княжыне паляцеў трубны голас сахатага.

Косцік прыслухаўся, спыніўся:

— Пачакай, сын...

Услухаліся ўдвух. Голас паўтарыўся. Нешта Міхалапу не спадабалася ў тым голасе. Працінала сэрца — скардзіўся на нешта Цар.

— Што гэта, тата? — сын зняў шапку, навастрыў вуха, чуйна лавіў гукі Княжына.

— Не ведаю, сын, хаця б якой бяды не адбылося.

— Якой бяды?

— Цар плача.

— Лось можа плакаць?

— Можа, сын.

Да той мясціны набліжаліся асцярожна, прыглядаючыся пільна да ўсяго, што было наперадзе. Сын яшчэ здалёк заўважыў на снезе чырвоныя плямы і крыкнуў:

— Тата, кроў...

Па ўсёй паляне чалавечыя сляды, крывавыя намаразі. Міхалап прыгледзеўся да слядоў — так, пахадзіў Жамойда, і з ім двое, што прыехалі надоечы.

— Во яны ногі пахавалі. То ж ногі Царыцы і дзіцёнка, — у Стася дрыжэў голас, на вочы наварочваліся слёзы — упершыню ў яго жыцці так жорстка абышліся з тымі звярамі, якіх ён ведаў. — Вунь шалаш, адтуль стралялі...

Стась плакаў, цяжка было гаварыць.

— Тата, хто гэта зрабіў? Хто?

— Не ведаю, сын, мо з горада прыехалі. Браканьеры. Дарога недалёчка адсюль. Перастань, сын, не трэба так убівацца, прашу...

Ён прыціскаў сына да сябе, гладзіў па галаве: не знаходзіў больш слоў, каб суцішыць і суняць боль.

— То Жамойда, ты хлусіш мне.

Косцік не хацеў, каб сын ведаў, хто забіў ласёў. У злабе можа натварыць няведама што.

— Я яго сляды пазнаў. Боты яго, падэшва рабрыстая. І тых, хто да яго прыехаў. Як ішлі ў магазін, я сляды іх бачыў. Я ўжо дарослы, тата...

Стась размазваў слёзы, адышоў ад бацькі.

— Ён жа твой закляты вораг, чаго абараняеш яго?

— Не абараняю. Не падвядзі толькі, сын.

— Не падвяду. Не маленькі. Але ў міліцыю ты заявіш, так?

— Заяўлю.

Сын зноў падышоў да яго, уткнуўся тварам у грудзі. Нічога больш не гаварыў, толькі раз-пораз уздрыгваў, і яго худыя плечыкі то падымаліся, то апускаліся.

— Пайшлі, сын!

На дарозе, калі выйшлі на бальшак, іх дагнаў высокі «КрАЗ». Машына прыцішыла ход, з кабіны выглянуў Паўло Шкварка:

— Сядай, падвязу, Міхалап!

— Не, Паўло, тут ужо блізенька, дайду, — махнуў рукой ляснік, — едзь!

— Косцік, часу няма. Экстрактавы дуб забраць трэба. Вунь ледзьве хлопцаў на тры гадзіны ўгаварылі, — кіўнуў ён на людзей у кузаве. Шкварка спыніў машыну, саскочыў з падножкі, у руцэ паперы. — Ты толькі чыркані. Я ж ведаю, дзе тыя дубы ляжаць — каля азярка.

— Усё ты ведаеш, — паглядзеў прыязна на яго ляснік. — Толькі каб ніводнага дрэўца не пашкодзіў.

— Пра што гаворка, — на манер Лукашэвіча адказаў Паўло, — усё чын чынаром будзе. Што з сынам, Косцік, чаму заплаканы?

— Не чапай яго. Сёння Жамойда яму ўрок жорсткасці паказаў. Са сваімі гасцямі ласіху з цялём забіў.

— Во гад, і сыходзіць яму з рук.

— Бач, сыходзіць...

Стась усхліпнуў.

— Ціха, сын, хопіць.

Абдаўшы шызай копаццю, «КрАЗ» прасунуўся паўз іх і пакалываўся далей. Наверсе, укрыўшыся брызентам, сядзелі грузчыкі. Гаварылі між сабой, жартавалі, на лесніка не звярталі ўвагі.

Наступная машына прыехала забіраць драўніну для каўбаснага цэха. Лукашэвіч яшчэ звечара зафрахтаваў грузавую машыну для райспажыўсаюза.

«Запахла каўбасамі, — падумаў Міхалап, праводзячы поглядам машыну — таксама ў той бок пайшла, следам за «КрАЗам». — Свайго Лукашэвіч не ўпусціць...»

Але як бы яно ні было, драўніну трэба было вывозіць, і як найхутчэй. Бо шмат яе застаецца пасля кожнай зімы — потым пачынаюцца адлігі, і машыны туды не праб'юцца. А драўніна гніла, псавалася. Сотнямі кубаметраў. І так штогод...

На палянцы стаяла некалькі грузавікоў. Пад'язджалі і яшчэ.

Дзень абяцаў быць вясёленькім.

Косцік ступіў насустрач вадзіцелям, як загадаў:

— Давайце вашы паперы!..

Жамойда ідзе паперадзе. Задаволена пасміхваецца, нешта тлумачыць сыну. Пасля звяртаецца да Рыгора Пятровіча, да гасцей, што прыехалі. Госці — члены камісіі з навукова-даследчага інстытута.

Рыгор Пятровіч сваё слова стрымаў. Жамойда нарыхтаваў футраў, павезлі з Лукашэвічам у Мінск. І на ўступных экзаменах Валянцін

толькі падстаўляў экзаменацыйны ліст выкладчыкам — ставілі патрэбныя адзнакі.

Такім жа макарам уладкаваў яго пазней і ў НДІ лясной гаспадаркі.

Казімір Жамойда ў сваім нязменным галіфэ і кіцелі, у фуражцы.

— Ну, Канстанцін Мінавіч, паказвай тыя клёны, дзе тая дзялянка? — спыніўся Рыгор Пятровіч, атрос з пляча іглiцу і павучынне, фуражку зняў, правёў рукой па ўзмакрэлых валасах. — Як ты назваў яе — Барсучыны хутар? Харошая назва. Паэт ты, Міхалап...

Ці не першы раз назваў яго памочнік ляснічага па бацьку. Бо заўсёды звяртаўся, як і ўсе вяскоўцы, — Косцік. Каратка, і ўсё табе ясна. А тут, напэўна, перад начальствам было няёмка так называць свайго падначаленага.

— А навошта вам тыя клёны? Там жа Карабкоў казаў, што заказнік намечана зрабіць, ён так хацеў... — Косцік спалохаўся за Барсучыны хутар. Гэта ж была часцінка яго жыцця.

— Ды таварышы з інстытута цікавяцца. Ім для навуковай работы трэба, не хвалюйся. Мо якія захворванні з'явіліся, могуць нам даць рэкамендацыі... Я прасіў іх прыехаць.

— Няма ў іх захворванняў, няма. Сам бываю там штодня.

— А ўсё ж...

Па дарозе зафыркаў «газік», пад'ехаў да іх старшыня калгаса, выйшаў з машыны, падышоў. Перакінуліся словам, другім. Падганялі справы, хутка развітаўся.

Косцік папраставаў праз канаву, рухавенька пераскочыў яе — поўную вады, падаўся ў гушчарняк.

— Э, пастой, Косцік, — забыўшыся пра службовы этыкет, пагукаў Лукашэвіч Міхалапа, спыніўшыся каля канавы — не асмельваўся пераскочыць, — сам то нічога, а як госці?

Але ён як і не чуў, пайшоў напрамкі па лесе, даўшы зразумець, што ім прыйдзецца даганяць. Ішлі нядоўга, з паўгадзіны. Косцік ведаў, што не выкруціцца яму, паказаць прыйдзецца, і прывёў самай кароткай дарогай. Гэта быў той самы дваццаць шосты квартал. Самы дзіўны і патаемны, які Косцік аберагаў, таіў ад староннята вока і вушэй. Некалі прызнаўся, расказаў Карабкову пра барсукоў, пра сваю віну перад імі... Ляснічы зразумеў яго, сказаў:

— Вось тут і зробім заказнік. І назавём яго так, як ты сказаў — Барсучыны хутар.

Не дайшоўшы да першага клёна, здалёк убачыў, як з дупла выскачыла Рыжуха. Яна сустракала яго кожны раз, як ён ішоў тутэйшай сцежкай. Цяпер жа яна не села на ніжнюю галіну, як рабіла кожны

раз, а трывожна паскакала ў адваротны бок. Зіркала трывожна на людзей. Потым паляцела на іх, распушыўшы хвост, кінулася пад ногі, зноў на дрэва ўскочыла...

— Прыйшлі, — глуха сказаў ляснік, усё яшчэ гледзячы на вавёрку.

— Гэта і ёсць тыя клёны, Ігар Раманавіч, — сказаў Лукашэвіч.

Потым аглядалі іх, раіліся. Прыйшлі да вываду, што шмат старых дрэў, што шмат пашкоджаных, і падлягаюць вырубцы.

— Нічога тут не падлягае,— уздыхнуў Міхалап.— Тут рэдкія звяры і птушкі водзяцца... у Чырвонай кнізе яны. Маць тваю, быў бы Карабкоў здаровы, не прывёў бы сюды...

— Што ты мітынгуеш, Міхалап,— супакойваў ляснічы, падышоўшы да лясніка,— то ўсё на паперы ў іх будзе, яны ж дысертацыі пішуць, а нам што з табой да гэтага? Жыць будуць твае звяры і птушкі. І вось што яшчэ, — Лукашэвіч пачаў гаварыць ужо цішэй, — просьба маленькая. Трэба схадзіць на доследны ўчастак навукова-даследчага інстытута. Там тры гады назад Валянцін пасадзіў ялюгу. То яго будучая дысертацыя, ён працаваў над гэтай тэмай, можна сказаць, яшчэ са школы — садзіў тыя елкі дзеля цікавасці. Паглядзім, як яны там, складзем паперку, падпішамся і за стол — Жамойда ўсіх запрашае.

Казімір усміхнуўся — начальства насы хмяліць будзе ў яго. Да Косціка ж ніхто не пойдзе, няма такой патрэбы. Ды і жонка ў яго неахайная, усё жыццё ў адной і той жа жакетцы, і ў хаце пастаянна стаіць пах паранай бульбы, якую Паліна штораніцы таўчэ для хатняй жыўнасці...

— У дваццаць трэцім квартале? Пайду. Чаму не падпісаць. Дослед ёсць дослед...

Ён праходзіў заўчора паўз той участак. Апошні буран павырываў з корнем маладыя елкі, пакуёўчыў кустарнікі. Што ж там такога цікавага яны ўбачаць?

Дома жонка сустрэла яго, як і заўсёды, маўкліва, абыякава, ён незадаволена зіркнуў на Паліну, з раздражненнем сказануў:

— Ды апранула б ты, жонка, што-небудзь людскае на сябе, глядзець нельга, як ты ў ашмоццях ходзіш.

— А што — людзі хіба прыйдуць?

Косцік крутануў галавой, сцяў зубы, працадзіў:

— Пры чым тут людзі? Я прыйшоў.

Паліна недаўменна паглядала на яго.

Косцік і сам не ведаў, чаму зазлаваў на жонку.

Тое, што сказаў пра вопратку, вырвалася невыпадкова — і самому раней кідалася ў вочы. Кідалася, ды не гаварыў, бо звыкся, не надаваў значэння — не ў святочным жа корпацца ёй каля свіней ды каровы.

Сказануў ад злосці. Бо накіпела. Не на яе, а на тых людзей, што замахваліся на Барсучыны хутар. Але ж не, то ён імі толькі прыкрываўся. Пякло душу і другое: баяўся, каб не ажыла Любі-трава ў яго памяці, штосьці часта пачала прыходзіць у сны. Хопіць з яго, колькі можна...

— Сяргей не вярнуўся?

— Не, не было. Казаў учора, што затрымаецца. Нейкая там у іх камісія.

«У мяне камісія, у яго камісія... Быццам мы ўсяму свету нешта вінаваты...»

На плячо ўскочыла Рыжуха, чакала ласунку. Косцік падаў ёй драбок цукру. Жыве вавёрка ў Міхалапаў не першы год. Прывыкла, ужылася з катамі і з Кляксай. Косцік у якім бы настроі ні прыходзіў дадому, заўсёды ласкава пагаворыць з Рыжухай — не любіла, калі ў хаце сварыліся.

Ён выняў з кішэні жменьку лузапцоў і паклаў на стол. Вавёрка іх хуценька перацягала на печ, у схованку.

Косцік выйшаў у двор.

У душы спакваля параджалася радасць — ціхая і павольная. Ён шукаў занятак, каб не маркоціцца. Узяў вёдры, выліў ваду ў карыта і падаўся да калодзежа. Ззаду затупацела, кульгаючы, светла-бурае ласянё. Спынілася, у вочы глядзела.

Лоша ў Косцікавай гаспадарцы з вясны. Выратаваў ён яе ад ваўкоў, калі вяртаўся з абходу. Гнаў яе мацёры да прымёрзлага ўзбалотка, аддзяліўшы старую ласіху — за той пагнаўся пераярак. Трапны стрэл паклаў ваўка побач з ласянём.

А потым не ведаў, што рабіць з Лошай — адпусціць у лес, дык для ваўкоў спажыва будзе: нага так і не загаілася — парваліся сухажыліны. Лукашэвіч раіў здаць у лясніцтва, каб на дзяржаўных кармах жыла. Косцік не згадзіўся, сказаў, што і на сваіх кармах дагледзіць...

Здаралася, што Лоша пакідала двор і бадзялася па Спрымачове. Шукала нейкі запятак, і ўсе ведалі, што гэта за госця. Але гуляла толькі з малымі, дарослых да сябе не падпускала і з рукі нічога не брала.

Даўно збіраўся Косцік выкапаць калодзеж каля сваёй хаты. Адкладваў і не сабраўся. Калодзеж быў праз пяць хат — насупраць Мікіты Ладуцькі.

Старога ў двары не было. Мо сышоў куды, а мо закрыўся ды чаруе над сваёй глінай. У такія хвіліны да дзеда не патыкайся, бо абмацюгае на чым свет стаіць.

Дачуўся неяк гомельскі журналіст, што стары вырабляе з гліны смешных чалавечкаў і звяркоў, да яго прыехаў. Гулялі дзедавы смяшлівыя дзяды і бабы па краіне і не ведалі, хто іх вырабляў. Гамяльчанін пра яго дзівацтвы не ведаў і на той час нікога на вуліцы не сустрэў — не пусцілі б яго. Мікіта сядзеў перапэцканы ў гліне — акурат размешваў яе, даводзіў да патрэбнай гушчыні, і ў гэтым талент павінен быць, — рот ад здзіўлення раскрыў і ніяк не мог закрыць. Гэта ж трэба — няпрошаны госць у яго.

— Я — Пятро Брагінскі, з абласной газеты, — растлумачыў сваё з'яўленне гамяльчанін.

— А хоць і мазырскі, хоць і чарнігаўскі! — гэпнуў вобземлю камякі гліні.і Ладуцька, злосна крутануў вачыма, затрос барадой, і зычны голас паляцеў усцяж вуліцы: — Калюх-калюха, на два бокі і ўсторч... Ядры тваю качалку, які чорт прыпёр цябе сюды? — Дзед крычаў так, быццам госць наступіў і раздушыў самае дарагое, самае рэдкае...

Спачатку журналіст не зразумеў, чаго ўзлаваўся стары, пад ногі глянуў. Перапытаў для перакананасці, што ён такое зрабіў, чым угнявіў. Але ў адказ пачуў такія салёныя словы, што анямеў напачатку ды задам, задам — і пасунуўся да выхаду, даў лататы. А дзед наўздагон гнуў мацюкі, таптаў у ярасці сапсаваную гліну, крычаў услед, каб таго і нагі ў яго двары не было...

Калодзеж выкапаў не дзед. Калі ў сельсавеце паўстала пытанне аб яго збудаванні, то спачатку доўга рашалі, думалі, дзе яго капаць. «А вы каля мяне капайце», — падказаў ён праўленцам. «А чаму каля вас, дзед Мікіта?» — пацікавіліся прадстаўнікі ўлады. «А таму, што я пасярэдзіне вуліцы жыву — крайнім будзе аднолькава да мяне хадзіць».

Вядро з глухім гулам апусцілася ў бетонную трубу. Калаўрот круціўся лёгка, са скрыпам.

Дадому ўжо Лоша бегла папераду, як паказвала дарогу.

## Косцік Міхалап

За акном аўтобуса мільгацяць дрэвы і кусты.

Міхалап сядзеў на апошнім месцы каля акна. Жонцы, што паехаў у райцэнтр, нічога не сказаў. У яе адна песня — пачне звягаць сваё, што не яго гэта клопат, што не ў сваё нос суне. Па-свойму яна

мо і правільна гаворыць, але ж чаму тады баліць сэрца, не перастае, разрываецца ад несправядлівасці. Але ён ужо больш цярпець не можа.

Спрадвеку на палях ніхто не бачыў зараснікі лебяды і асакі. Тым больш скрыпеня, або, як яшчэ кажуць, іванчая. У лесе ён расце, на выжарынах. Дзяўчаты збіралі яго разам з кветкамі. Раней палі былі шэрымі, як і належала ім быць. Цяпер жа яны пурпурна-ружовыя і белыя — спрэс расце скрыпень, пушыстыя мяцёлачкі гайдаюцца пад ветрам.

Увесну працаваў на полі хіматрад.

— Што вы тут, хлопцы, робіце? — спытаў Косцік у хімікаў.

— Амаладжваем зямлю, — адказалі. — Мы з гэтага поля цацку зробім. Цуд будзе, а не зямля.

Потым ён знайшоў непадалёк ад поля двух зайцаў і тры курапаткі — усе нежывыя. Цецерукі патруціліся — ляжалі ў сасонніку.

Міхалап напісаў у раённую кантору па ахове прыроды пісьмо. Расказаў пра шкоду, прасіў разабрацца. Ні гуку ў адказ.

Скрыпень дык стаў гаспадаром на полі. На Бобрыку пасадзілі лён. І папёр нечакана драсён, гарчаком яго яшчэ завуць. Зноў жа — хлопцы прыехалі з хіматрада, ніхто не ведаў і калі. Дык жа зноўку так пастараліся, так «захімічылі», што спалілі той драсён да каліва. А разам з ім і лён. Толькі аж праз два месяцы атрымаў Косцік адказ. Паведамлялі яму, што хімікі нечага перабаршчылі ў гербіцыдзе, таму і такая накладка атрымалася са звярамі. Супакоілі, што вінаватыя будуць пакараны. Але хто быў у той справе вінаваты і як пакаралі, не паведамілі. Згубленага ўжо не вернеш, зайцоў і цецерукоў не ажывіш...

Аўтобус падкінула на караняцы, і думкі яго рассыпаліся, як гарох па падлозе. Людзей у аўтобусе ехала няшмат — палавіна мест пуставала.

Аўтобус потым будзе паварочваць на Зімовую Буду, праз якую ляжыць дарога. Там і сельскі Савет, і сярэдняя школа, куды хадзілі Сяргейка і Галя, куды будзе хадзіць і Стась. Кепска было Сяргею. Аўтобус тады яшчэ не хадзіў па гэтым маршруце, і ён штодня пешадраліў — у любое надвор'е. А вунь цяпер адны амаль вучні і едуць, маўклівa, быццам дарослы народ. Дзяўчаткі непрыкметна страляюць вачыма па хлопцах, а яны не заўважаюць гэтага, перагаворваюцца між сабой напаўголаса, з годнасцю.

Усё з Сяргейкам было добра — намеціў, куды паступаць будзе, з лесам сваю дарогу звяжа... А потым нечакана падаўся ў механізатары. Чаго — і сам не ведаў. Спытаў аднойчы, дык Сяргей адказаў

няўцямна: «А, так атрымалася, бацька... Мо і шкадаваць потым буду, што не паслухаўся цябе, але так трэба...» Са службы пра тое не пісаў. Значыць, зразумеў Косцік, механізатарства ў ім перамагло. Хаця ніколі, як помніцца, да тэхнікі яго не цягнула, і ў руках ён трымаў адну толькі бензапілу, калі яе можна было пазваць тэхнікай.

Міхалап зноў вяртаецца да ранейшых думак, з-за чаго, па сутнасці, ён і выбраўся ў гэтую дарогу. Тады ж тыя хімікі нашкодзілі не толькі звярам і птушкам. Пчаліны рой дзеда Мікіты вярнуўся ў вулей меней палавіны. Але гэта ўжо з самалётаў скідвалі другое ўгнаенне на палі. І зачапілі грэчку, якая цвіла. На яе і зляталіся пчолы. Астатнія некалькі раёў — лясніцтва і Чыкана — загінулі ў вулляках, таксама патруціўшыся...

На Бобрыку стаяла некалькі цыстэрнаў з аміячнай вадой. Нікому, здаецца, і не назалялі, непрыкметна іх паставілі, збоч поля — у сосніку. А праз год аказалася, што вакол іх, на крокаў пяцьдзесят, загінулі сасонкі — іголкі пажаўцелі, дрэвы пасохлі.

Каля цыстэрнаў, вакол іх, расла сакавітая і высокая зяляніна — у пояс чалавеку. Дзіва позняй восені.

Зводдалеч ляжалі мінеральныя ўгнаенні — непрыкрытыя, неагароджаныя. Ішоў Косцік у свой абход, праходзіў акурат паўз тыя мясціны — ледзьве не наступіў на шарака, які ляжаў на сцежцы. Чырвоныя вочы свяціліся і прасілі паратунку — міргалі.

— Што з табой, касы? — нахіліўся ён над ім, укленчыў. — Мо хто падстрэліў цябе і браць не захацеў?

Крывавых слядоў не было. І на хворага быў непадобны. Тады — што? Непадалёк другога зайца заўважыў — той быў яшчэ цёплы, але нежывы.

Здагадаўся пра ўсё толькі назаўтра, калі ўбачыў мёртвае ласяня. Сляды вялі да мінеральных угнаенняў. Вось табе і сон пра Паласаціка...

— Дык вось што вас загубіла, — не знаходзіў месца ляснік, ужо ходзячы і пільна прыглядаючыся між кустоў — мо хто яшчэ з лясных жыхароў паспытаў тых угнаенняў. — Я ж не раз гаварыў старшыні калгаса, ды як гарохам аб сценку...

І яшчэ большая злосць расла на Дзегцяра.

Вечарэла, калі вяртаўся дадому. Спрымачоўскіх кароў у гэты дзень пасвіў Ладуцька — за Настазю. Яго і сустрэў Косцік за Вятчынкай, куды ганяў чаргу стары.

Наперадзе, між дрэў, Міхалап убачыў пярэстую карову.

«Адбілася ад гурту, — падумаў абыякава, а калі падышоў бліжэй, то і карову пазнаў — Ладзікаву. — Пападзеш воўку ў зубы...»

Міхалап выламаў галіну, каб падагнаць, і заўважыў, што карова хісталася. Сілілася рыкнуць, але толькі рот разявіла. Косцік падышоў да яе і ўбачыў, што з пысы, да самай зямлі, сцякала ружовая сліна і вочы ў слязах — бы плакала...

«Атруцілася, Як і ласянё. Ці паспее выратаваць яе Замошскі?»

За густым і высокім буячнікам, адкуль плыў водар багуну, убачыў карову Вікці — ляжала, не дыхала.

Вось тады і зрэзаўся Косцік з Дзегцяром. Дахаты прыйшоў, калі той з гасцямі вячэраў — начальства з раёна ўлагоджваў. Сядзеў за сталом і Тхарэнка, якога вельмі рэдка бачыў Міхалап у вёсцы. Ледзьве пазнаў яго ў хатнім прыцемку — сядзеў насупраць акна.

— Так, Жменька за карову атрымае страхоўку — калгас выплаціць або страхавая кантора, а хто выплаціць страхоўку за ласянё, зайцаў і цецерукоў, га? — запытаўся Міхалап без аніякіх тлумачэнняў, стаў у парозе, не здымаў стрэльбу з пляча. — Хто, Рыгор Еўстратавіч?

— Ты пра што, Мінавіч? — старшыня калгаса падняўся з-за стала, падышоў да лесніка. — А ты прысядзь да нас, пэўна ж, за дзень набегаўся па лесе, і калiва ў роце не было...

— Ты можаш са сваімі гасцямі піць і есці, калі апетыт добры. Калі не хвалюе вас тое, што ад хіматрада і мінеральных угнаенняў пагінулі ў лесе звяры і птушкі і карова Жменькі, налізаўшыся тых угнаенняў, не дайшла да вёскі. Упала. Я ж казаў табе, каб накрыў, каб убраў цыстэрны. Лесу столькі згламіў. Урадзіцель ты, скажу табе шчыра, і... сволач.

— Ну-у...

— Таварыш, а вы, собственна, пра што? — пацікавіўся адзін з іх — нізкага росту, з бліскучай лысінай: ці не адзін з гасцей, што прыязджаў да Жамойды? — У чым вы абвінавачваеце старшыню?

Міхалап углядаўся ў таго, хто задаў пытанне, і пазнаў у ім раённага прыродаахоўны Яфіма Сямёнавіча — надпітага і задаволенага.

— Што пра сябе дбае, а не аб прыродзе. І ўсё.

— А вы паканкрэтней, даходліва — можаце?

— А ты мне тут хто — пракурор, суддзя? — узгарэўся ляснік і ўбачыў, што за сталом і Жамойда сядзіць — кампашка падабралася адзін да аднаго, і гэта яшчэ больш распаліла яго. — Даходліва хочаш? Паканкрэтней? А ён хай сам і раскажа! Ды яшчэ тыя, нежывыя ўжо, лясныя насельнікі, якія ён загубіў, — глядзеў ва ўпор на Дзегцяра Міхалап. — І Тхарэнка няхай раскажа. А, і ён заадно з вамі, аказваецца. Ды і тая рыба, што плыла — аж рэчка была белая ад яе, то са свінафермы жыжку пусцілі. А ў вас, чую, юшкай патыхае? Мо тая, што і плыла? Я заўтра ў раён еду, у райком партыі пайду. Не даб'юся

свайго — у абком паеду. Я знайду на вас управу. Калі я не ўказ, калі совясць сваю згубіў, то няхай табе іншыя скажуць, хто ты такі ёсць... Дыверсанты, маць вашу...

— Слухай, Мінавіч.

— Даўно слухаю. А вось ты, Жамойда, жлукціш гарэлку, а твая кароўка таксама капыты адкінула! — злосна і з'едліва сказаў у прыцемак. — У буячніку ляжыць, за Міколкавым бродам...

— Брэшаш!

— То ты першы і гаўкнуў, калі так.

— Кос... Канстанцін Мінавіч! — адумаўся старшыня, за локаць узяў. — Прысядзь, абдумаем усё. Можа, я і вінаваты, Міхалап...

— Быў Міхалап, ды ўвесь выйшаў, — узяўся за клямку, — сёрбайце юшку, мо і апошнюю з нашай рыбы.

— Ды не старож я над тваімі звярамі, паймі! У мяне і без іх клопату хапае. У кожным калгасе такія цыстэрны і ўгнаенні.

Косцік прачыніў дзверы — яны слаба піснулі.

— Дык, можа, іх там агарадзілі ды ў такім месцы хаваюць, што нікому і шкоды няма. А што табе казаць, я сто разоў казаў пра тое...

— Таварыш, собственна... — Сямён Яфімавіч падняўся борздзенька з-за стала, абапёрся на плячо ўчастковага, хацеў сказаць нешта важнае, патрэбнае, але ляснулі дзверы, дзынкнула, падскочыўшы, клямка. Сказаў у спіну: — От, чорт, сапсаваў такую юшку...

У двары сустрэў Тамару Альбертаўну — старшыніху, настаўніцу свайго Стася, спакойную і ціхмяную жанчыну Яна ніколі не ўмешвалася ў клопаты мужа, займалася гаспадаркай і школай. Паразумелася з вясковымі жанчынамі, гаварыла, як і яны, на спрымачоўскай мове, апраналася, як і ўсе.

Старшыніха несла цяжкую сумку — ішла з крамы. Адказала на Косцікава прывітанне, здзівілася — чаго даходзіў да іх у хату.

Міхалап заспяшаўся да Ладзіка, каб папярэдзіць пра Павітуху.

Аўтобус прыехаў у Зімовую Буду і спыніўся каля магазіна. За ім быў клуб, сталоўка. Трошкі воддалеч стаяла школа. Ад вёскі да райцэнтра цягнулася асфальтоўка.

Выйшлі дзеці, заспяшаліся да школы. У аўтобус зайшлі новыя людзі, павіталіся, як са знаёмымі. На «пасажырку» прыходзілі з бліжэйшых вёсак — Летавішчаў, Валаўска, Скалодзіна і Крушнік.

Далей аўтобус каціўся ўжо роўна і хутка, на Косціка набягала дрымота. Зноў выбіўся думкамі на сваю сцежку, зноў вяртаўся ва ўчарашнія прыгодзіны. Ацэньваў, што здарылася, адначасна і меркаваў, якімі словамі раскажа пра ўсё першаму сакратару Захаранку... Далажыць трэба коратка, ясна і зразумела, бо не будзе ў таго часу

расседжвацца і выслухоўваць — клопатаў у яго не столькі, як у лесніка. Але ж хіба бывае што дробязнае ў жыцці? З дробязяў вялікае складаецца.

Цеплыня зусім размарыла Міхалапа, закалыхала, як малога, і ён праваліўся ў сон, не чуў, як праз нейкі час аўтобус, з'ехаўшы з узгорка, пакаціўся па цэнтральнай вуліцы райцэнтра. Спыніліся на цэнтральнай плошчы, і яго таўханулі пад бок — пабудзілі.

Ён пастаяў трохі на плошчы, агледзеўся, а потым цвёрдым крокам накіраваўся да трохпавярховага будынка — райкома партыі.

У прыёмнай Захаранкі сядзела некалькі чалавек. За сталом жанчына ў белай блузцы і чорнай спадніцы — друкавала на машынцы. Калі ж ён пераступіў парог прыёмнай і павітаўся з усімі, пацікавілася, з якім пытаннем прыйшоў у райком.

— Ды ёсць у мяне дзела, сакратару і скажу, — адказаў, падышоўшы да стала.

— Спачатку вы мне павінны сказаць, а я далажу Віктару Аляксандравічу, — папраўіла жанчына прычоску і паглядзела на Міхалапа. — Кім вы працуеце?

— Ляснік я. Міхалап Канстанцін Мінавіч. Са спрымачоўскага лясніцтва. Пагаварыць з сакратаром хачу. Звяры і птушкі да яго не прыйдуць, дык вось ад іх я прыйшоў.

— Значыць, у вас пытанне па ахове прыроды?

— Ну, няхай будзе так. Вот і хачу ў яго спытаць: а хто пільнуе яе, прыроду? Пакуль, бачу, што толькі губяць яе жорстка, а не ахоўваюць...

Таўсматы, як калабок, што сядзеў каля самых дзвярэй — першы, напэўна, па чарзе, крывотліва ўсміхнуўся — і адрываюць жа таварыша сакратара ад работы такімі глупствамі, апусціў галаву, мацней сціснуў скураную новую папку, трымаючы на каленях.

Жанчына падумала, пацерла лоб:

— Дык, можа, вам лепей спачатку ў таварыства па ахове прыроды зайсці, а потым ужо?

— Не, мне толькі да першага сакратара.

— Сёння ў Віктара Аляксандравіча шмат важных пытанняў. Баюся, што вас прыняць у яго не хопіць часу.

Косцік падышоў бліжэй да стала, стаў побач, кіўнуў на дзверы:

— А вы папытайцеся ў яго. Калі не прыме, тады я дадому паеду. У мяне таксама шмат работы непаробленай у маім абходзе.

— Тады пасядзіце, калі ласка, як выйдзе ад яго таварыш, я схаджу і пацікаўлюся.

Жанчына Косціку спадабалася, гаварыла з ім мякка, па-свойску, як быццам ведала яго ці была добра знаёмай. У яе вачах была спагада, уважлівасць і голас грудны, прыемны, бы ў Вікці.

Міхалап сеў на крайняе крэсла і адразу адчуў, як адрозніваецца ад тых людзей, што сядзелі ў прыёмнай. Амаль усе пры касцюмах, пры гальштуках. Косцік паглядзеў на свае запыленыя боты, на лясніцкую світку, на фуражку, якая хавала яго галаву ад вятроў і дажджу, снегу і халепы, і стала крыху няёмка за свой выгляд. Пашкадаваў, што не апрануў што людскае. Каб сказаў Паліне пра паездку, то яна прымусіла б надзець не то што чысцейшае, а і новы касцюм. Гэта нічога, што яна неахайная дома і каля хлява, на людзі яна ні сама, ні яго не вырадзіць у абы-чым.

Побач з ім сядзеў каржакаваты мужчына з партфелем на каленях, нервова барабаніў пальцамі па жоўтым, выцертым баку. Далей — прымасцілася нясмела жанчына ў квяцістай хустцы, але глядзела на белы свет смялей, нават усміхалася куточкамі вуснаў, думаючы пра нешта сваё — пэўна, радаснае. Прама і з годнасцю сядзеў ваенны, глядзеў за акно — безуважна і спакойна, нечага і ён хацеў ад сакратара, а мо і сам той паклікаў.

Дзверы, абабітыя чорным дзермацінам, расчыніліся, і з кабінета сакратара выйшаў мажны мужчына, ён цяжка грукаў чаравікамі — распацелы, быццам з парылкі. Не гледзячы ні на кога, падаўся адразу да дзвярэй, кашлянуўшы моцна ў кулак.

Жанчына схадзіла да сакратара, хутка вярнулася.

— Таварыш маёр, вас чакаюць, — звярнулася яна да ваеннага, пакінуўшы прычыненыя дзверы. — А вам, Канстанцін Мінавіч, прыйдзецца прыехаць пазней. Сёння сапраўды ў Віктара Аляксандравіча няма часу — і праз гадзіну паседжанне.

«Дарэмна ехаў, дзень толькі патраціў марна. Яшчэ дазнаецца Лукаш, што не быў на рабоце, то будзе ўзбучкі. Не шанцуе, не шанцуе, а потым як... не пашанцуе...»

— А калі гэта — пазней? Праз месяц, год? — удакладніў Міхалап, устаючы з крэсла.

— Віктар Аляксандравіч канкрэтна не гаварыў, але вы самі скажыце, калі вам зручна прыехаць — і я запішу той дзень.

— Тады мо позна будзе. Мне цяпер трэба. Ды і не мне, пасутнасці, а лесу, жыхарам яго. Эх, і тут не прабіцца, а я думаў...

— Я ж вам тлумачу, скажыце, у які прыёмны дзень вы зможаце прыехаць, і вас прыме сакратар, — узяла жанчына зялёны сшытак, але Косцік больш нічога не гаварыў, выйшаў за дзверы і пайшоў па вузкім і доўгім калідоры.

На вуліцы закурыў. Упершыню за ранак. Падціскала нешта пад грудзі, як нудзіла. Ад крыўды, ад людской глухаты, ад абыякавасці Дзягцяра і тых, хто не хацеў пачуць яго, выслухаць. У чыіх руках той закон, закон, які мог бы ўсё перайначыць і палепшыць?

«А куды цяпер? Дадому? Так нічога і не выхадзіўшы? У міліцыю ж не пойдзеш, не скажаш, што гэта вунь Дзягцяр патравіў зайцоў і цецерукоў. Дакажы яшчэ гэта. Тхарэнка дакажа адваротнае... А да хіматрада таксама не падкапаешся — усё ж робяць па закону. Але — па якому закону? Хто павінен несці кару? І глум кругом, і вінаватых няма? Ну, няўжо там, у Маскве, кіраўнікі нашы, партыйныя і дзяржаўныя, не ведаюць, што робіцца такое? Глухія ці сляпыя? Хто мне скажа? Пры Сталіну баяліся. «Чорнага ворана баяліся». Цяпер суцэльны крадзеж і глумленне, а вінаватых няма... Так, я ж і забыўся, у краму трэба зазірнуць. Але ж ні сеткі, ні грошай. Як на пагулянку ехаў. Сабраў некалькі чырвонцаў на хлеб і кілбасу.

Адчаяўся Косцік. Не было з кім параіцца. Карабкоў у Крым паехаў далечвацца. І неяк само сабой прыйшло на думку параіцца з Васілёнкам — дырэктарам лясгаса. Як-ніяк партызанілі разам, начальнікам штаба быў у Громава, мо б ён што падказаў, надаўміў...

І тут жа Міхалап уявіў, як ён аднёсся б да яго задума. «Знаеш-панімаеш, Мінавіч, яно-то так, канечне, так, мо і лацвей будзе, але каб і наадварот не выйшла... Не абы-куды едзеш, а ў абком... Ці мала што могуць там падумаць, калі ты будзеш ім пра свае, можа, і на-думаныя, панаросвы баяць... — пры гэтым ён па-змоўніцку падміргне правым вокам і, крывячы куточкам губ левую шчаку, намякаючы, што ўсё гэта не так проста, як думаецца, як хочацца. Ох і асцярожлівы стаў Прохар Цітавіч, нават баязлівы. Не пазнаць чалавека. А ў вайну ж быў хват-атлёт, лез у самую гушчыню бою — Косцік сам бачыў гэта, калі іх акружылі і яны вырываліся з блакады. — Так што глядзі, я ж як лепш хачу...»

— Ты ведаеш, Канстанцін Мінавіч, — аднойчы пошапкам сказаў Васілёнак, вокам мірганууў, шмарганууў носам, прыдаўшы твару і размове больш таямнічасці і значнасці, — можа, кінь ты, братка, з гэтым Жамойдам за рожкі брацца. От не падзялілі нешта, ці мала што ў вайну было, памагаў жа нам... — Косцік зразумеў, што дырэктар лясгаса баіцца складанасцяў у рабоце. — Прызнаюся табе, як добраму хлопцу. Рука ў яго ёсць. І ў вобласці, і ў сталіцы. Абласны начальнік на рыбалку ці на паляванне едзе, дык да Жамойды, кажа, хачу. З Мінска звоняць — з міністэрства лясной гаспадаркі: папярэдзьце, да яго на паляванне едзем... Вось як яно, брат, знаеш-панімаеш. Хацеў я прыструніць яго, ну, не даваць такой вольніцы. Дык, ведаеш,

пазванілі адтуль, сказалі, каб не чапаў яго... Во як, брат, знаеш-панімаеш...

Аўтобус на Спрымачоў ехаў пад вечар, і таму ў яго быў вольны час. Косцік ужо нікуды не спяшаўся, ён ведаў, што непадалёку быў сквер, былі там і лавачкі. І ён пакіраваў туды. Сеў, закурыў. Ніяк не мог супакоіцца. Так, да Васіленка ён не пойдзе, няма дурных...

Назіраў, як жанчына зграбала апалае лісце і кідала яго ў агонь, які дыміў і рассцілаў па скверы дым.

«І навошта толькі паляць тое лісце? — думаў, гледзячы на дворнічыху. — У мяне, у абходзе, лісце ўгнойвае зямлю, ахоўвае верхні слой, умацоўвае яго, ад чаго доўга трымаецца вільгаць. Мо ад таго і растуць такія куртатыя дзеравіны ў горадзе, з гніллю ўсярэдзіне, — вецер добры ўсчнецца, і яны падаюць...»

Хацеў пра гэта папытаць у жанчыны, але перадумаў: навошта лезці да незнаёмых людзей са сваім дурным настроем, не ведаючы, што ў яе, жанчыны, на душы...

Сонца ўжо не выглядвала трэці дзень. Неба сеяла імжу, было волгла. Пах прэлага лісця наганяў на яго ўспаміны пра абход, пра Княжына.

Ад плошчы ён пайшоў вузкай вуліцай. Мінуў кнігарню і пажарную каланчу, потым павярнуў направа, на брукаванку — да двухпавярховага будынка. Там было таварыства па ахове прыроды.

Міхалап ціха пастукаў у дзверы — ніхто не адказаў. Штурхануў дзверы, і яны адчыніліся. Нехта быў у кабінеце за другімі дзвярыма. Даносіўся зычны голас. У пакойчыку было два чалавекі. Адзін гаварыў па телефоне. Другі нешта пісаў.

— Слухаем вас, — адклаў убок чырвоную ручку супрацоўнік — мужчына сярэдніх гадоў, з густымі вусамі. — Сядайце, калі ласка.

— Дзякую. Ёсць у мяне пытанні. — Косцік не адрываў позірку ад таго, хто гаварыў па тэлефоне — нейкі знаёмы быў яго голас, падалося, што дзесьці сустракаўся з ім, гаварылі нават. — Ляснік я. Спрымачоўскага лясніцтва. Ды я пісаў вам пра хімічныя атрады...

— А, памятаем, давалі вам адказ. Сапраўды непрыемная гісторыя атрымалася. Кіраўнік хіматрада атрымаў строгую вымову на бюро райкома партыі — і не толькі за тое, яны і" ў іншых месцах шкоды нарабілі...

А той, хто гаварыў па тэлефоне, не паварочваўся, бы і не чуў, што нехта пабочны зайшоў у пакой — галёкаў, прасіў некага прысылаць паперы, бо не можа без іх аформіць справаздачу. Потым развітаўся, павярнуўся і паклаў трубку. Зірнуў на Косціка, але не ўбачыў яго — быў яшчэ ва ўладзе нядаўняй размовы. «Гэта ж Яфім

Сямёнавіч, што да Жамойды высокага госця прывозіў… То іх сляды былі перамешаны з ласінай крывёю. То ён з Тхарэнкам і Жамойдам частаваліся юшкай у Дзягцяра. І я да яго іду са сваёй скаргай?»

— Шкоду рабілі і будуць рабіць, пакуль вы тут раскашоўваецеся і пішаце атчоты — ліпавыя канечне

— Не разумеем, собственна, — Яфім Сямёнавіч прыплюснуў вочы, шмаргануў носам. — На чым базіруецца вашая заява?

— На чым? А на тым… Вы тут паперкі пішаце, што ахоўваеце прыроду, а ў мяне, у Спрымачове, звяры гінуць… З-за такіх, як вы. Ды я ж вам ужо гаварыў, як вы ў Дзягцяра гарэлку жлукцілі.

— Слухайце, вы! Гаварыце, ды не загаворвайцеся! І хто вам даў, дарэчы, на гэта права — ілгаць?

— Права? — прыгнуўся Косцік, хмыкнуў здзіўлена, глядзеў на кіраўніка канторы. — Жыхары Княжына, хто ж яшчэ. А, што табе гаварыць, ты далей свайго носа нічога і не бачыш.

— Я бачу, што таварыш напіўся і прыйшоў сюды даказваць праўду, — уздыхнуў стомлена Яфім Сямёнавіч. — Яму здаецца, што ўсе людзі крыважадныя, адзін ён шкадуе звяроў.

— Эх, урэзаць бы табе, — сказаў Косцік, устаючы, — каб ведаў. Напомніць бы табе, як з Жамойдам дзіця Царыцы забіў, потым і яе… Эх ты, жытка растудыцкая, як той воўк па лесе рыскаю… А што толку? Бюракраты, што з вас возьмеш… Прыроду яны ахоўваюць. Ад вас прыроду трэба ахоўваць…

Міхалап ледзьве стрымаўся, каб не нарабіць чаго — часаліся кулакі і свярбеў язык. Тут словы — што гарох, а тыя, хто слухае, глухая сцяна. І дурню зразумела — прыехаў дарэмна. Без запрашэння. А няпрошаны госць — горш за татарына. Успомніў, як татарын адзін у атрадзе партызанскім пытаўся ў падрыўнікоў, чаго так прыдумалі, чым кепскім праславіліся татары. Праславіліся вядома чым, але сказалі, што калі Рамілю так не падабаецца, то можна сказаць і інакш: «Няпрошаны госць — лепш за татарына». Раміль новы сэнс зразумеў праз тыдзень. Падышоў да Жменькі і папрасіў: «Слухай, Жменька, няхай па-ранейшаму застаецца, плоха новы слова звучат». Згадзіўся Ладзік — няхай будзе, як было…

Плячом таўхануў дзверы, не азірнуўся.

Адчуванне было, што зайшоў у нейкі тупік, з якога не бачна выхаду. Некалі Алесю, дашкольніку, купіў цікавую цацку — лабірынт. Зялёненькі квадрацік трэба было выпхнуць у процілеглы вугал. Сын навучыўся хутка, і хвіліны не праходзіла. Папрасіў аднойчы бацьку пагуляць. Косцік піхаў той квадрацік і загнаў так, што ні ўзад ні ўперад. Сын рагатаў з яго няўмельства, аж слёзы выступілі. А Косцік

раззлаваўся, што не атрымалася, і паўтараць ужо не хацеў. Вось і цяпер выходзіла накшталт гэтага — зайшоў у такі ж тупік. Сам, па сваёй ахвоце. І цяпер трэба было выйсці з яго, разарваць павучынне, што плялося наперадзе.

Імжа яшчэ не рассеялася. Воблакі былі густыя і шэрыя — хавалі сонца. Было волгла.

Міхалап папіхаўся на рынку, сустрэў таго-сяго са знаёмых, пагаварыў, паглядзеў, чым гандлююць на суседскіх сталах. Зазірнуў у магазіны, напакаваў сетку хлебам і «Прымай», каўбасой. Толькі на душы яшчэ заставалася горычнае шкадаванне, што з'ездзіў абы-як, не так, як жадалася.

І яму нечакана як што цюкнула ў галаву: або цяпер, або ніколі. Неадкладна! Да сакратара. Зараз жа! Бо потым ніколі ўжо не сабрацца. У ім нарадзілася невядомая дагэтуль рашучасць. Ну і што, калі бюро... Хай паслухаюць, што скажа...

У прыёмнай сядзеў лысы дзяцюк у светлым касцюме.

Міхалап рашуча накіраваўся да дзвярэй сакратара. Жанчына ўсхапілася ўстрывожана з месца, загарадзіла дарогу, як не закрычала:

— Таварыш, я ж вам сказала ўжо...

Але Косцік груба адпіхнуў яе, ірвануў на сябе дэрмацінавыя дзверы, рашуча зайшоў у кабінет. За доўгім сталом, адзін супраць аднаго, сядзела двое. Хто з іх быў сакратар, Міхалап не ведаў, не страчаў нідзе, а таму і сказаў наўздагад:

— Я да вас, таварыш сакратар. Мяне не пускалі, праўда, але я штурмам... Я па пільнай патрэбе, неадкладнай. Ляснік я, Міхалап. Канстанцін Мінавіч...

Той, што сядзеў справа, устаў, паглядзеў на лесніка, супакоіў:

— Нічога, таварыш Міхалап. Калі пільнае... Вы сядайце, я вас слухаю. Трошкі часу ў мяне яшчэ ёсць.

Косцік не сядаў, гаварыў, стоячы, няёмка адчуваючы сябе ў прасторным кабінеце:

— Чаму я вас ніводнага разу ў лясніцтве не бачыў? Я б вам расказаў бы цэлую паэму. Пэўна ж, вы і не ведаеце, якія безабразія творацца.

— Прысядзьце, калі ласка. Спакойна раскажыце пра ўсё. Я вас пакуль не разумею...

Наведвальнік кабінета сабраў паперы ў папку, падняўся. Кульгаючы, пайшоў да дзвярэй. З парога ўжо сказаў:

— Дык у мяне ўсё, Віктай Аяксанд'явіч. Я пайду. Калі будзе час, дайце знаць, паявоім...

Косцік адчуў, як шпыранула нешта ў скроні, а потым кальнула ў патыліцу, ён пазнаў кульгавага. Успомніў яго «паявоім»...

— А, Квач? Здароў быў! — у горле Міхалапа перасохла, і яму цяжка было гаварыць. — Як чавэла пажывае? Добра? Дык жывы я, жывы. З таго свету вярнуўся...

Кульгавы ўмольна паглядзеў па сакратара:

— Што за вай'ят такі? П'яны ці дуйны? Я яго і знаць не знаю.

— Ах, не знаеш?! — Косцік падскочыў да яго і ўчапіўся за каўнер пінжака. — Не знаеш? Я той, якога ты закопваў жыўцом у магілу. Паліцай ты. Вылузаўся тады, у войну, сволач... Паліцай. Таварыш сакратар, арыштаваць яго трэба.

Квач крутануўся, ударыў па руцэ і рвануў да дзвярэй.

— Выйдзіце з кабінета! — загадаў нечакана сакратар, наліўся чырванню, зрабіўся строгім. — Праспіцеся!..

— Ды ён жа паліцай. Я даказаць магу. З Ладзікам Жменькам мы яго прыпялі ў вёсцы.

— Міліцыя разбярэцца. А вы выйдзіце з кабінета. Зараз жа!

Крыўда адабрала апошнія сілы і надзею. Сцягнуў з паліраванага стала сетку з хлебам і цыгарэтамі, прашаптаў зняможана:

— Эх вы, людзі... Глухія і няўдзячныя.

Бяздумна блукаў па Еньску, не знаходзіў сабе месца.

— Міхалап, ці ты гэта? — нехта перагарадзіў яму дарогу. — Ці абазнаўся?

Косцік адхіснуўся, паўглядаўся ў чалавека — і не пазнаваў. Паціснуў плячыма.

— Забыўся. Пастарэлі. Я пастарэў, значыць. А цябе

я адразу прызнаў. Багатым не будзеш, значыць, я яшчэ разжывуся, узаб'юся на багацце.

Голас як быццам знаёмы, даўні, і не ўспомніць, а тварам — чужы, незнаёмы.

— Не, браце, не ведаю.

— Я ж Мілёнак. Той самы, які цябе на саначках цягнуў параненага. Ці не ўспомніш?

— Стась? — Міхалап ускінуў рукі, не пазнаваў таго маладога, вёрткага і вясёлага. — Стась, дарагі мой, не пазнаў цябе, далібог...

Ён кінуўся да яго. Аблапілі адзін аднаго ў абдымках.

Косцік адчуваў, як порсткая цеплыня ўдарыла ў скроні, скавала ўсяго. Не знаходзіліся словы, якія трэба было сказаць даўняму партызанскаму сябру, які прапаў пасля вайны і не даваў пра сябе ніякіх вестак. У каго ні пытаўся Міхалап з яго вёскі — пацiскалі людзі плячыма. Родная маці нічога пэўнага не сказала.

Адарваліся адзін ад аднаго, радасна ўсміхаліся — а бачылі сябе тымі, маладымі, калі хадзілі па партызанскіх сцежках.

— Слухай, браце, а пайшлі ў «Прыпяць» — піўка пап'ём ды і пагаворым пра ўсё, — прапанаваў Мілёнак. — Час маеш?

— Маю. Мне да аўтобуса яшчэ ого-го!

— То ж добра — такая сустрэча! А я іду, значыць, па вуліцы, аж нешта пад грудзі кальнула — ты ці не ты, думаю. Аж, бач, не абазнаўся...

У Мілёнка на твары шчырая радасць. Ішоў рухавенька, наперад забягаў, у вочы зазіраў і гаварыў, гаварыў, душу радуючы абодвум. Выглядаў ён ніштавата — у шэрым паліце, у капелюшы, у чаравіках на тоўстай падэшве. На рабоце, пэўна, нейкай чыстай. У руцэ сакваяж, другой жэстыкулюе. Вусы адгадаваў пышныя, яны, пэўна, яго і робяць іншым, што і не пазнаць. Паголены твар дагледжаны, але, калі пільна прыгледзецца, то на твары заўважны чорныя кропачкі — як порахам твар апалены...

— А я цябе не прызнаў... — вінаваціўся Міхалап. — Гэта ж колькі часу прайшло, га? Дваццаць пяць гадкоў...

—Так, так... І не ўгледзелі.

Ім пашанцавала — дзверы ў бары былі расчынены, і аб'яўка вісела, што з раніцы завезлі свежае піва.

Столік выбралі ў кутку, дзе можна было спакойна пастаяць і замінаць ніхто не будзе. Косцік памкнуўся да буфета, але яго апярэдзіў Мілёнак, праз колькі хвілін прынёс чатыры куфлі піва. «Каб двойчы не бегаць,— растлумачыў, — люблю піва...» ён і перакусіць узяў — нарэзанага мяса, некалькі яек, скумбрыю. Прынёс дзве шклянкі. А потым дастаў з сакваяжа пляшку гарэлкі і наліў цішком па палавіне.

— За сустрэчу! — дзынкнулі ціхенька шклянкамі, выпілі цішком і пачалі няспешна закусваць.

Стаялі насупраць, адзін з аднаго не зводзілі вачэй. Пасміхаліся з саміх сябе, што пастарэлі, пасівелі, што абраслі клопатамі, мітуснёй.

— Ведаю, што леснікуеш, пытаўся ў людзей пра цябе. Як работа?

— Ды нічога. Па душы. Увесь час ад вайны па лесе цягаюся. А ты дзе?

Мілёнак каўтануў піва, ссунуў бровы над пераноссем:

— Краіне вугалёк здабываю пад зямлёю...

— А я думаў, што начальнікам дзе вялікім робіш: выгляд такі файны маеш.

— Начальнікам... — заўсміхаўся Стась, — начальнікам над вугальком. Я ж уцёк з вёскі. Як пачаў хапаць людзей «чорны воран».

Суседа злева ўзяў, потым справа... Ну, думаю, і мне тое будзе. Ноччу схапіў чамадан, бацькоў абняў і на станцыю... З таго часу і там. Ну, зрэдку прыязджаю на радзіму, да бацькоў. Старыя яны ў мяне, ледзь-ледзь ліпяць.

— Во яно як, — здзівіўся Косцік, галавой крутануў, — я не ведаў. Маіх даўно няма. А цяпер куды едзеш, назад?

— Не, у Гомель сабраўся адскочыць, ёсць у мяне справа ў адной установе. Дакументы хачу адшукаць у архіве, пенсія ж на носе. У адпачынку я. А потым махну назад.

— Дзяцей маеш?

— Трое. А ў цябе?

— Чацвёра.

— О, абагнаў. Гэта добра — мець дзяцей. Хаця і клопатаў ад іх...

— Што праўда, то праўда. Малыя дзеці — малы клопат, вялікія — і клопат большы... Аднаго сына назваў Стасем — цябе помнячы.

Бровы выгнуліся дугой. Мілёнак чулліва абняў Міхалапа:

— Дзякую. Значыць, я — хросны бацька... Яшчэ па кроплі за гэта, Косцік, га?

— А, давай. Сёння, братка, настрой такі, што...

— Па рабоце нелады?

— Ды як табе сказаць, з работай усё ў паэрздку. А вось у маім абходзе, ды і не толькі ў маім, няма куды схавацца дзікаму зверу ад чалавека... Не стрэльбай, дык хіміяй, не хіміяй, дык меліярацыяй ці яшчэ якой трасцай — і звера меней і меней. Рыба гіне, усплыве, аж рака белая. Вось прыехаў расказаць, ды не магу дзверы знайсці і таго чалавека, які зразумеў бы мяне, выслухаў, растлумачыў, што да чаго... Пайшоў да сакратара, а там паліцай былы сядзіць.

Косцік выказаў набалелае і адчуў, як адпусціла сэрца, як быццам падзяліўся болем з сябрам. Здаецца, і нічога такога не сказаў яму — хіба ж пра ўсё раскажаш падрабязна, на гэта і дня з ноччу не хопіць, а палёгка наступіла адразу... Аж здзівіўся таму Міхалап.

— Мо слаба стукаўся, трэба было больш настойліва?

— Ды як ужо настойліва — кулакамі? Слухаюць, і не супраць, а вось нічога не робяць.

— У мяне сваяк робіць у абласной газеце, мо яму сказаць, каб пад'ехаў да цябе, га? — ажывіўся Мілёнак. — Ён часта піша фельетоны, крытыкуе і начальства.

— А як яго прозвішча? — безуважна спытаў ляснік.

— Ён змяніў яго. Быў Рабіновіч, а стаў Брагінскі. Не спадабалася чамусьці яму бацькава прозвішча. Чытаў мо?

— Ды чытаў... Як пугай па вадзе плешча, і ўсе вінаватыя, і вінаватага не знойдзеш, ён і звяроў маіх абвінаваціць, што яны слаба хаваюцца ад чалавека, і мяне, што я слаба ахоўваю іх. Прыязджаў аднойчы ў вёску да нашага дзеда, ды не ў час, дык дзед папёр яго па ўсёй вёсцы. Не, не прысылай, з ім не згаворымся...

У бар зайшлі людзі. Косцік, можа, і не звярнуў бы на іх ніякай увагі, каб яны не зарагаталі. Азірнуўся і ўбачыў, што ў бар зайшоў Яфім Сямёнавіч са сваім памочнікам. Яны заказалі па куфлю піва і сталі ў яго за спіной.

— Эх, каб тараначку сушаную, — цокнуў языком страж прыроды.

Косцік павярнуўся да яго, узяў за плячо, павярнуў да сябе, з'едліва спытаў:

— А можа, табе ракаў вараных — спрымачоўскіх? А можа, ласяцінкі маладой, вяленай, га? Ты мне скажы, пасля таго ласяняці вас усіх не праняў дрыстун?

Каган ужо адбіваўся ад Косціка, але ён учэпіста трымаў яго за грудзі.

— Вар'ят, чаго да мяне прычапіўся? Я чалавек кантужаны, магу і...

— У с.... пражэктарам ты кантужаны, — прамовіў Міхалап, і ў бары, хто пачуў яго, зарагаталі. — У Ташкенце ты хаваўся...

— Косцік, адстань, — папрасіў Мілёнак, — хадзі да століка, не чапай яго...

— Чакай, Стась, гэта той чалавек, які займаецца аховай прыроды, а сам губіць яе. Я з ім пагаварыць хачу тут, бо ў сваім кабінеце ён мяне слухаць не захацеў. А тут, пры людзях, хай раскажа, як ён ахоўвае прыроду.

Расчыніліся дзверы, і да іх ужо кіраваліся два міліцыянеры — маладыя сяржанты.

— Прайдзёмце, таварыш, — звярнуўся адзін з іх да Міхалапа.

— Куды гэта? — перапытаў Косцік і зразумеў, што цяпер ён кругом вінаваты — і выпіў, і абазваў, і што яму не выкруціцца... Паглядзеў вінавата на Мілёнка, горка ўсміхнуўся: — Ты ўжо прабач мне, дружа, што такая ў нас сустрэча выйшла...

— Таварыш, ды чалавек не вінаваты, — паспрабаваў апраўдаць сябра Мілёнак, — вы хоць выслухайце яго, з-за чаго ён такі. ён па праўду ў раён прыязджаў.

— Вось у нас ён і знойдзе яе, а калі вы хочаце за кампанію, то і вас можам узяць.

Стась ведаў, што даказваць дарэмна, тым больш калі ўзяў на губу.

— Косцік, нічога, не хвалюйся, ты толькі не падай духам.

— Не ўпаду. Мне таго духу на ўвесь век мой хопіць. Яшчэ раз прабач. Не дагаварылі мы з табой.

— Нічога, жывы будзем, дагаворым.

— Нахаба, прычапіўся, — абурaўся Каган, папраўляючы каўнер пінжака, — і як такіх алкаголікаў зямля носіць?

І зіркаў нядобра ў бок Мілёнка, быццам ён быў вінаваты ў тым, што адбылося.

А Міхалап ішоў пад аховай міліцыі і думаў: «А барсук праўду гаварыў, папярэджваў. І вось яны — непрыемнасці. Думаў я пра рознае, але пра тое, што мяне будуць весці пад вартай два міліцыянеры, такога ўявіць не мог. Дажыўся, тваю качалку... Во смеху будзе ў Спрымачове, пагалоска пойдзе, што бойку ў горадзе ўчыніў, за што і пасадзілі ў каталажку. А д'ябал з ім, чалавек усё павінен паспытаць — і горкага, і салодкага. Да Громава трэба, ён выслухае, зразумее... А можа, гэта сакратар пазваніў у міліцыю, каб мяне злавілі і забралі? Адно шкада, што Жамойда будзе зларадвічаць, здзекавацца. Ну і хай смяецца, калі ёсць ахвота. Хай... Ну і барсук, ну і правідзец. Як прарок — прысніцца, і чакай подласці».

Праз дзень прыехаў Карабкоў, выпрошваў свайго лесніка ў начальніка міліцыі, ды, пэўна, строгім быў загад пакараць.

— Што ты ўтварыў тут такое? Кажуць, на сакратара райкома з кулакамі кінуўся...

Косцік усміхнуўся, пашкроб няголены падбародак:

— Затое зразумеў я, Андрэй Мартынавіч, што ім нашы лясныя клопаты — да фені... А вы вярнуліся ўжо на работу?

— Вярнуўся.

— Адчапіліся ад вас?

— Не зусім, яшчэ, пэўна, будуць цягаць.

— Ядры іх качалку...

Доўга цягалі яго па розных інстанцыях, патрабавалі, каб прызнаўся, што прадаваў лес, пагражалі адняць партыйны білет. Выстаяў, але насцярожынка і недавер да некаторых таварышаў, што працавалі ў райкоме партыі, і да таго ж першага сакратара засталіся.

Карабкоў паважаў Міхалапа, паважаў яго за працавітасць, за адданасць ляснoй справе. На такіх, верыў, і трымаецца ўсё, на сумленных, ды часта жыццё ім ставіць падножкі. Як во і цяпер.

Адпусцілі Косціка праз два тыдні — падстрыглі «пад нулёўку». А дома навіна. Стасю позву Анэля прынесла з ваенкамата — прыйшла хлопцу пара ісці ў армію.

Заўсёды, калі барсук вяртаўся з жыравання, то бег акружной дарогай, асцерагаючыся свайго суседа — ваўка, які пасяліўся непадалёк ад яго нары. Паласацік аднаго разу падышоў да логава — быў яшчэ няспрактыкаваны, нявопытны. Да яго адразу кінуліся ваўчаняты, заскавыталі, не бачачы ў ім ворага, пачалі гуляць з ім. А ён, адчуўшы нечакана воўчы дух, з усіх ног кінуўся наўцёкі, каб, барані Божа, не заспелі бацькі, нырнуў у сваю нару і доўга не высоўваў носа.

І цяпер ён бег сваёй сцежкай, ведаючы, што не сустрэне на ёй Клыкастага — у таго былі свае далёкія і рызыкоўныя воўчыя дарогі.

Але, як ні дзіўна, жылі яны ў згодзе, Клыкасты амаль ніколі не наведваўся да яго нары, не лічачы таго разу, як гнаўся за ім. Аднойчы не стала малога барсучаняці, а праз дзень Паласацік убачыў яго косці — непадалёк ад нары. Малое папала ваўку ў зубы ад таго, што было няўклюднае і хворае. Паласацік не раз думаў, што не выжыве, калі пойдзе на самастойнае жыццё.

Ніколі сусед не пільнаваў яго каля нары, ніколі не чакаў яго на патаемных сцежках. З цягам часу Паласацік прывык да такога жыцця і зразумеў, што кожны заняты сваім, што трэба заўсёды асцерагацца і ведаць, дзе цябе можа падпільнаваць бяда... Не, Клыкастага ён баяўся, але ведаў, што ёсць, існуе нейкі звярыны інстынкт, калі нешта не дазваляе таму парушыць законы суседства. І Паласацік не шукаў іншае нары, не ладзіў сабе новае жытло, хаця зрабіць яго нічога не каштавала — проста ён прывык да гэтай мясціны ў лесе, да сцежак, на якіх бегаў штодня.

Мінулай восенню ён забег далёка ад свайго жытла — шукаў сабе спажыву, бо нечакана выпаў першы снег і ўсё прыкрыў. Жалуды былі смачныя, але не наталялі голад.

Калі мінуў асмужаны сасоннік, адчуў, што нехта гоніцца следам, ён азірнуўся — бег родзіч Клыкастага, які не жыў у гэтых мясцінах. Барсук зразумеў, што яму не выратавацца — не было побач аніякай схованкі. Але ён бег, што было сілы. І тут збоку раптам выбухнула маланка, бліснула і аглушыла, ён ад страху ўпаў на зямлю, перакуліўся.

— Бяжы дахаты, дурны, — пачуў ён над сабою голас Дабрадзея і смярдзючы пах ударыў у нос. — Бяжы, не бойся...

Паласацік адчуў яшчэ пах воўчай крыві, азірнуўся і ўбачыў, што Клыкасты ляжыць, разявіўшы пашчу і ткнуўшыся ў сваю кроў, ад якой ішла пара. Потым чалавек пайшоў і знік у кустах. Позна тады барсук прысунуўся да свае нары...

Расказаў Косцік Карабкову пра свой неспакой, прызнаўся, што не можа жыць, не разарваўшы ўсе вузлы.

— Праўды дабіцца хачу, Андрэй Мартынавіч, — хрыпла сказаў, чакаў, што адкажа ляснічы. — Паеду я ў вобласць. Да Громава.

Ляснічы глядзеў у акно свайго кабінета, доўга ўзважваў, што пачуў, потым сеў за стол. Правёў далонню па твары, бы сціраў з яго нябачнае павучынне.

— Едзь, Канстанцін. Трэба ехаць. І з маёй душы шмат чаго балючага здымеш.

У вачах ляснічага намітка глыбокага суму, незагойнай крыўды. Паўжыцця адабрала чорная ананімка.

...Да Еньска Міхалап даехаў спадарожнай: якраз у яго абход прыязджалі машыны з дрэвaапрацоўчага камбіната. Быў з імі і Паўло Шкварка.

У Еньску ён адразу ўзяў білет па першы аўтобус, што хадзіў да Мазыра. Пахадзіў па горадзе, зайшоў у сталоўку, прымасціўся ў куточку, каб не замінаць.

З акна відаць Прыпяць. Па ёй плылі белыя крыгі, бы гусі-лебедзі. Косцік глядзеў на шэрую ваду, на крыгі, смакаваў пакрысе піва, а сам у думках вяртаўся ў свой Спрымачоў, у свой абход...

Ужо які раз ён рашыўся паехаць да Громава, ды адносіў надалей. А калі стала няўсцерп, адважыўся.

Гаварылі не раз з Карабковым пра лес. Раённыя арганізацыі даюць загадзя заяўкі. Рабочыя валяць для іх дрэвы, тралююць, складваюць у метроўкі. Калі ж прыходзіць пара забіраць, чамусьці ніхто не з'яўляецца, быццам прапала неабходнасць у лесе, і ён тады ляжыць да тае пары, пакуль не пачнецца новая паводка. А лясніцтва спісала тыя кубаметры, за ім не лічыцца. А лес гніе, ператвараецца ў труху. Сколькі соцень, ды не, тысяч кубоў загінула... Быццам нейкі злы чалавек сядзіць там, у начальстве, і накіроўвае яшчэ на горшае, быццам такія страты яму і даспадобы.

Перад тым як ехаць, чыркануў кароценькае пісьмяцо. Адказ прыйшоў хутка, праз тыдзень. «Помню, помню сціплага і храбрага партызана, — пісаў весела І ромаў. — Канечне, буду рады пабачыцца. Прыязджай. Чакаю».

Міхалап адказу вельмі абрадаваўся.

У чамадан паклаў трохлітровы слоік мёду — ляснога, верасовага, з дзедавай бортні. Грыбоў некалькі нізачак, сала з чырвонымі праслойкамі. Намерыўся напачатку ўзяць пляшку, каб напомніла партызанства, ды пасаромеўся — а раптам не адобрыць сакратар. Памятаў

— у атрадзе не раз караў тых, хто прыкладваўся да чаркі. Самагон быў толькі ў Жыльскага.

— То ты з гэтым у госці паедзеш? — не адобрыла яго гасцінцы Паліна. — Хіба ж у яго таго сала нямашака ці грыбоў? Яшчэ самагонкі здагадайся завязі, дык зноў у каталажку пасодзяць...

— Не, гэтага не вазьму. А астатняе павязу — не пагрэбуе. Сала ён любіў...

— То ж у войну було, — уздыхнула Паліна. — А то цяперака. Усяго хапае. Адумайся, не ганьбіся перад чалавекам.

— Не збівай, жонка, з тропу. Не лезь не ў сваё. Тут я і сам разбяруся. Мы пра жыццё з ім будзем гаварыць. Як былыя партызаны.

— Ото няма табе чаго рабіць: чалавеку тлуміць галаву — у яго і без тваіх клопатаў хапае...

Паліна гаварыла нязлосна, нават мякка, з ноткамі сваёй жаночай пераканананасці. Да дзівацтваў Косціка яна прывыкла, звыклася — пасля таго як ён не паслухаўся і пасля бальніцы не пайшоў на другую работу, ведала: такі ўжо характар у яго.

— Усё. Як рашыў, так і будзе, — настояў Косцік, хаця мог і не гаварыць гэтага — жонка і не пярэчыла ў такіх выпадках.

— То і добра. Толькі там ужо з ім не вельмі, не балбачы пра ўсё, што думаеш, падумае, што толькі і бачыш лядайкае ў жыцці, — зноў уздыхнула, як наказ яму дала, асцерагаючы яго ад залішняй шчырасці.

— Няўжо ж я буду плакацца яму, я па дзелу — так, моў, і так, не разумею, таварыш сакратар — былы партызанскі камандзір — многіх рэчаў у жыцці, растлумач мне, мо памыляюся...

Акунь быў тлусты і смачны, і з ім добра пілося піва. У Спрымачоў такой рыбы не прывозілі, ён пасядзеў яшчэ які час і падаўся да выхаду. У дзвярах сутыкнуўся

з купкай дзяўчат, якія з вясёлым смехам і шчабятаннем беглі ў сталоўку... Наляцелі на Косціка, бы вераб'і, зноў зарагаталі — ад яго збянтэжанасці, папрасілі прабачэння, абмінулі яго.

«Ну і гарэзы, — падумаў весела, узяўшы іх настрой, — маладыя, а што ў маладосці, з усяго смешна, і таму весела...»

Бралася на мароз. Церусіў дробны снег.

Аўтобус прыпазніўся, і яго чакалі, стоячы на вуліцы. Тут ужо Косцік добрым словам успомніў Паліну — прымусіла, настаяла апрануць у дарогу кажушок.

Вецер разам са снегам ганяў па мёрзлай зямлі шматкі старых газет, руды пясок.

— Мо і не паедзе па такой непагадзі? — выказала апасенне пажылая жанчына, трымаючы малога за руку. — Вунь як віхруе...

— Пайдзёт, мамаша, пайдзёт, — супакоіў яе хлопец без шапкі, затуляючыся ў невысокі каўнерык асенняга паліто.

— Няхай бы ўжо, а то во малое захварэла, а маці ў Мазыры — вязу да яе, — гаравала кабета.

Паказаўся аўтобус, ён падкаціў пад самы натоўп людзей, якія ўжо зняверыліся, што паедуць. Загаманілі, заварушыліся, пабраўшы ў рукі сумкі, кашалі і чамаданы.

— Не піхацца, усе пасядзеце! — выглянуў у дзверы вадзіцель — чарнявы, у скураным пашарпаным пінжаку, у заечай шапцы — мерыўся ісці ў дыспетчарскую.

— Дык жа замарозіў ты нас, хлопча...

— Нічога, дзядзька, у нас Ташкент — усе распранешся.

Усеўся Косцік каля акна.

Пасля ён з Мазыра дабіраўся да Калінкавіч.

На Гомель цягнік ішоў толькі позна ноччу.

На месца ён прыехаў раніцай, калі горад яшчэ спаў — не хадзілі тралейбусы і аўтобусы.

Ён колькі часу драмаў на лаўцы ў зале чакання, абапёршыся на чамадан. Потым, адчуўшы, што добра баранілася, схамянуўся, устаў з лаўкі. Убачыў міліцыянера, які хадзіў узад-уперад па зале, падышоў да яго, распытаў, як даехаць да будынка абкома партыі. Сяржант міліцыі, пэўна, учарашні воін — стройны, падцягнуты, як на спружынах увесь, чэсць аддаў, як генералу якому-небудзь, у двух словах растлумачыў, што перад уваходам у вакзал спыняецца «першы» тралейбус — ён і завязе да цэнтральнай плошчы. Дадаў яшчэ, што калі дзядзька дужы і здаровы ды і чамадан лёгкі, то можна і пехам зайсці — тры кварталы.

Падзякаваўшы ўважліваму хлопцу, Косцік адразу і падаўся да прыпынку.

Пры ўваходзе ў абком, за парогам, яго агледзеў прыдзірліва міліцыянер, пацікавіўся:

— З якім пытаннем да таварыша Громава?

— З якім? — Косцік задумаўся — хіба ж будзеш тлумачыць пра ўсё? Адказаў: — Па лясной справе. Вось і пісьмо яго, запрашэнне.

— На другі паверх — сорак пяты кабінет. Леанід Піліпавіч толькі што пайшоў да сябе. Але вам трэба распрануцца — вунь там гардэроб.

Падняўся на другі паверх, падышоў да дзвярэй і чамусьці не асмельваўся пастукаць і зайсці. Знаходзячыся ў сценах будынка —

ціхага, як быццам у ім нікога і не было, яго прыезд здаўся непатрэбным, а клопаты, пра якія мерыўся расказаць, нязначнымі і дробязнымі. І расхацелася сунуцца з імі да Громава. Тут у людзей за ўсю вобласць клопат — ды не абы-якія турботы! — а ён тут са сваімі сунецца. Ці не смешна, га? Ён павярнуўся назад, узяўся за ручку ўваходных дзвярэй. Але тут расчыніліся дзверы, і на парозе стаяў Громаў.

— Вы да мяне? — спытаў сакратар, а потым, прыгледзеўшыся, усміхнуўся радасна. — Канстанцін Мінавіч? — падышоў, узяў за плечы, сціснуў.

«Не, не змяніўся ты, камандзір, — падумаў Косцік, расчуліўшыся цёплай сустрэчай, — хіба пасівеў вельмі, дык гэтага дабра кожнаму з нас адвалена...»

— Я, Лявон Піліпавіч. Вось прыехаў.

— Заходзь, заходзь.

Громаў усадзіў госця, сам сеў побач. Косцік не адрываўся поглядам ад камандзіра атрада. Апрануты проста — шэры касцюм, пры гальштуку. Кудлатыя бровы, вочы глыбока ў вачніцах — глядзяць радасна, зацікаўлена.

— Дык як жывеш, Канстанцін Мінавіч? Дзяцей колькі маеш?

Косцік пацёр шыю — ныла пасля сну на вакзале, заўсміхаўся.

— Жыву нічога. Дзякую. Жонкай Бог не пакрыўдзіў. Чацвёра дзяцей выгадавалі.

— О, малайчына. Гэта правільна, скажу табе.

«Дык з чаго пачаць? І, увогуле, ці трэба пра ўсё расказваць, як гаварыла Паліна? А мо трохі пасяджу, пагамонімо, ды і падамся назад — на Калінкавічы. А як аддаць гасцінцы? Няёмка неяк тут, у кабінеце. Добра, што «палескую» не вёз — зусім брыдка выйшла б...»

— І работа як — падабаецца?

— Ніштаватая работа. Клопатная, праўда. Асабліва ўлетку, калі пажары ўспыхваюць.

— Так, шмат летась пагарэла лесу, — згадзіўся Громаў, падсоўваючы да яго попельніцу. — Куры, Мінавіч. Сам во збіраюся кінуць, ды смеласці не хапае.

Косцік абрадаваўся прапанове — мо хіба добрая зацяжка здыме прыкрае хваляванне, суніме няёмкасць.

— Частуйся маімі, — падсунуў Громаў пачак «Казбеку».

— Не, — пакруціў галавой Косцік, — да «Прымы» прывык, ужо колькі гадоў з ёю сябрую.

Закурылі, зацягнуліся зацяжкамі. Памаўчалі. Але ў гэтай напружанай маўклівасці адчуваўся кароткі перапынак перад галоўнай раз-

мовай, якая яшчэ не распачалася, але ўжо наспела. Громаў націснуў кнопачку на стале, на апараце, некага папрасіў:

— Зінаіда Пятроўна, госць у мяне з дарогі — чайку б нам гарачага, крутога.

Праз колькі хвілін у кабінет зайшла маладжавая кабеціна, павіталася з Косцікам, паставіла перад імі паднос і адразу выйшла.

Громаў, не падымаючыся, адкрыў ззаду сябе шкляныя дзверы шафы, узяў маленькую бутэлечку каньяку і наліў колькі кропель у Косцікаву шклянку.

— Гэта табе з холаду. Марозік цяпер ладны ўзяўся, так і хавай нос. Ці на Палессі мо цяплей?

— Якое там — пананосіла гурбаў вышэй хат. Ледзьве выкарабкаліся...

— Ураджайны павінен быць год. Снегу ў полі многа — коласу падмога. Так гавораць?

— Так, так. А ў нас, у Спрымачове, кажуць: снег у полі — чакай лепшай долі.

— Таксама добра.

Зноў маўчанне. Зноў размова пі аб тым, ні аб сім.

«А, не буду нічога расказваць, — рашыў Міхалап, грэючыся гарбатай, абдымаў шклянку шурпатымі далонямі. — Мо калі як іншым прыездам...»

Зазваніў на стале тэлефон, але Леанід Піліпавіч сядзеў, не падымаўся.

— Як там у вас, звер водзіцца?

«Э, цябе не правядзеш, пачынаеш здалёк, адчуваеш, з-за чаго прыехаў...»

— Ды як сказаць — дзе водзіцца, а дзе ўжо і не. Не толькі звер, а рыба. Бусел не хоча сяліцца, пчолы гінуць... — не заўважыў, як завёўся — сакратар наступіў на балючае.— А, што гаварыць... Чалавек зверам зрабіўся, Лявон Піліпавіч...

Громаў нахмурыўся, і на твары выразна абазначыўся шрам — сіпі пісяг на левай шчацэ, каля вока. Толькі цяпер яго заўважыў Косцік — чаму раней не прыкмеціў? — сядзіць жа Піліпавіч побач, вочы ў вочы, гадзіну ўжо, можа, клопаты свае пакінуўшы, во на яго свой час пераводзячы... Помніў, калі паласнуў асколак — у баі пад Макаўкай, калі вырываліся з блакады...

— З-за гэтага прыехаў? — спытаў ціха сакратар, падступіўшыся да самага галоўнага, прыжмурыўся, пільна паглядзеў на лесніка.

— Дык жа цярпення, Піліпавіч, не хапае. Кругом такое творыцца, што міжволі думаеш: няўжо чалавек здатны на такое? Мы ж

сук сячэм, на якім сядзім. Як чмякнемся, касцей не збяром, гэта ўжо точна. Над безданню сядзім...

— Правільна кажаш, Міхалап. Без прыроды — мы ніштто. Раскажы, брат падрабязней — хто-хто, а ты пра ўсё ведаеш лепш за ўсіх...

«Вось і падышлі, здаецца, да таго, да патрэбнага. Але як расказаць, як перакапаць, каб і ён адчуў тое. што і я адчуваю. Ці здолею, ці за тое ўзяўся? Божа, гэта ж не ў маім лесе з дрэвамі гаварыць, там і сфальшывіш, не так скажаш ці не так падумаеш — дуб не папракне, бяроза змоўчыць. У суладдзі я з імі — і бацька ім, і сын, і гаспадар...»

Зноў зазумкаў тэлефон — працяжна, меладычна, міргаючы светлым вочкам, паміргаў і перастаў.

— Яшчэ гарбаты?

— Не, не, — паспешліва адмовіўся Косцік, быццам гэта магло перашкодзіць іх размове. — Напіўся і сагрэўся, дзякую. Захачу, дык потым мо. А можа, я не да часу? — спахапіўся раптам, трывожна глянуўшы на тэлефон. — Мо не да мяне цяпер? Маё ж не гарыць...

— Гарыць, Канстанцін, яшчэ і як гарыць. Іншы едзе за сотню кіламетраў, каб прасіць нешта сабе. А ты вунь з-за чаго — з-за матухны-прыроды...

Громаў нешта ўспомніў, пазначыў алоўкам на настольным календары.

— Прызнаюся, я займаюся гэтым пытаннем. Так што ты па адрасу звярнуўся. І мяне гэта хвалюе і непакоіць. Як сакратара і жыхара зямлі. Гэта павінна турбаваць усіх без выключэння людзей. Не магу сказаць, што ўсе абыякавыя. Пішуць, звоняць, калі што ў вочы кінецца. Мо не да ўсяго рукі даходзяць, мо і мы дзе памылку дапускаем...

«Не, не памыліўся я ў табе, Піліпавіч. Бог бачыць, што не памыліўся, — падумаў сам сабе Міхалап, беручы з пачка цыгарэціну. — Значыць, і табе трохі вядома пра ўсё, не за глухой сцяной сядзіш. Што ж, трымайся, слухай, табе сёння слухаць не пераслухаць, што ўва мне накіпела... Мо што і не даспадобы, мо што і не так скажу, на тое, брат, прабачай...»

— Так, Лявон Піліпавіч, сапраўды я прыехаў да вас таму, што не ведаю, дзе знайсці праўду. Не скардзіцца прыехаў, а каб памаглі разабрацца, — уздыхнуў ляснік, асцярожна паднёс кончык цыгарэты да попельніцы, збіў попел, зацягнуўся. — Страшна мне жыць стала. Абыякавасці чужой стаў баяцца. Асабліва калі хворыя ёю тыя, хто ў начальніках ходзіць, хто ўладу мае. І не абыякую. А потым і злосці

людской стаў баяцца, бяздушнасці і жорсткасці. Жамойду помніце, што соль да нас прывозіў?

— Шукаў мяне адразу пасля адседкі. Прасіў, каб даведку даў, што памагаў партызанам.

— Ну, вы не далі, нехта іншы даў. Аднаго падпаіў, другога — гэта ж проста цяпер. Як і стаць удзельнікам вайны. Перад носам махаў той паперкай... Зімой заспеў ён мяне соннага, на стозе, як хлеб мы ў атрад насілі. Я яго прымусіў напісаць заяву на імя камандзіра атрада — што будзе памагаць. Збрахаў, быццам маю ад вас такое заданне, ён напісаў, потым адумаўся. Схапіліся загрудкі. Я ўцякаў. Ён страляў у спіну.

— Ты ж не расказваў.

— Я ж даваў яму шанец чалавекам стаць. Не стаў. Дык я не пра тое, прабачце. Дзіўна мне вось што. Вораг. Год адседзеў. І ён лічыць, што віну сваю выкупіў. Сёння да яго ўсе на паклон едуць і ідуць. Любяць яго начальнікі, на паляванне прыязджаюць, ён страляе ласёў без ліцэнзіі, каўбасы возіць у Гомель і Мінск. Забівае бабров і куніц, футрамі задобрывае — і ўсё сыходзіць з рук. Не баіцца ён міліцыі, ні райвыканкома. Анікога. Сын на траяках ехаў, а вось Жамойда яго ў лясны інстытут умазаў. Праз Лукашэвіча, намесніка ляснічага. А цяпер у той даследчы інстытут лясной гаспадаркі, што ў Гомелі, вучоным будзе.

Зазваніў тэлефон. Громаў прыклаў трубку да вуха:

— Ігнатавіч? Ото добра, што пазваніў. Да мяне зазірні. Табе цікава будзе паслухаць.

Паклаў трубку, сказаў:

— То загадчык аддзела званіў. Хай і ён паслухае. А ты расказвай. Смела. І — пра ўсё...

У кабінет зайшоў невысокага росту чалавек, у чорным касцюме, з цікавасцю зірнуў на Міхалапа, павітаўся, сеў збоч.

— І няма на таго Жамойду ніякай управы?

— А каму ахвота звязвацца? Звоняць дырэктару лясгаса з Мінска, з Гомеля, кажуць, да Жамойды на паляванне едзем. Карабкоў не захацеў ісці на павадку, нават і выгнаць яго мерыўся, дык на яго настрачылі такую ананімку, што зацягалі па судах. Ледзьве жывы цяпер. Вядома ж, хто настрачыў,— Жамойда, а недакажаш. Хоча, каб Лукашэвіч быў ляснічым. Тады яму будзе лафа — як за каменнай сцяной. Участковы ходзіць у сябрах, старшыня калгаса, Дзягцяр, таксама. Спрабаваў Карабкоў змагацца з імі, ды куды гам, бокам усё і вылезла. А чалавек ён сумленны, Карабкоў. Не тое што яго намеснік, Лукашэвіч. Той як не начуе ў Жамойды дома. Памагчы трэба

Карабкову, Леанід Піліпавіч. Не вінен ён ні ў чым. На маіх вачах чалавек жыве. А абвінавачванне яшчэ не знята. Яны пасмейваюцца за спіной, злараднічаюць, чакаюць, калі спіхнуць яго і Лукашэвіч месца зойме. І дырэктар лясгаса Васілёнак, наш баявы начштаба, пад тую нядобрую дудку танцуе. Як баіцца некага.

— Няўжо і Васілёнак?

— Выходзіць, што так.

Міхалап расчасаў пяцярнёю рэдзенькія валасы, вінавата паглядзеў на Громава:

— Мо я не пра тое?

— Не рабей, разведка, і пра гэта цікава. А ты, Анатоль Ігнатавіч, памячай і на вус матай...

Косцік замоўк, зноў прыкурыў, у адну кропку зрок скіраваўшы.

— Дык пра што я? Ага... Наязджаюць невядома адкуль паляўнічыя, страляюць без разбору і абы-дзе. Як ударыць з усіх ствалоў... І міліцыя разам з імі. Я сунуўся раз у свой абход, а яны ачапленне трымаюць і да мяне: «Дзядзька, вам не паложана сюды, вучэнні тут...» Я кажу, што мне ўсюды паложана, бо то мой абход, што я ляснік. А ён на мяне: «Пшоў адсюль!..» Я потым ноччу падыходзіў да іх «вучэнняў», дык бачыў, што яны каля кастра ўчынялі. Каньяк, свежаніна, і стражы парадку дэгустацыяй занятыя. І сам начальнік міліцыі.

Зноў жа я не пра тое, як нагаворы вяду сядно... А во, спаймаў думку...

Ён похапкам зноў прыкурыў, засмяяўся:

— Кажуць, калі ў каго цыгарэта тухне, у таго і жонка гуляе. Прыеду, спытаю, ці праўда.

Міхалапа пачалі прабіраць нервовыя дрыжыкі, і каб таго не заўважылі Громаў і загадчык аддзела, за жарты хаваўся.

— Вы ніколі не чулі, як плача, крычыць зямля? Не? А я чуў. Кожны дзень чую. Праз дрэвы чую, праз травы, праз ваду...

Косцік выдыхнуў паветра, глядзіць на сябе як бы збоку — ці не заносіць яго надта. І, надзіва, застаўся задаволены: «Так і давай — толькі спакойна, спакваля, без аглядкі на няёмкасць».

— Ніколі не магу забыць малюнак з дзяцінства. Плаваць я вельмі любіў. Асабліва нырца даваць. Нырнеш на дно, раскрыеш вочы, і — Божа мой! — вачэй не адвесці: прыгажосць такая, што не апісаць, слоў такіх не знойдзеш. І трава на дне бачна, і водарасці, рыба здзіўленая плавае перад вачамі, бы пытаецца: «Чаго ты тут, чалавеча? Тваё ж месца наверсе, дзе сонца...»

Зазваніў тэлефон. Громаў коратка адказаў, паклаў трубку.

— Вадзіца — чысценькая-чысценькая, як вымытае шкло. А колькі я рыбы лавіў таптухаю. Ды якой рыбы! Раз-два боўтнеш нагой — і торбачка поўная. Пазалетась, помню, іду з абходу, спыніўся каля ракі ў спякоту.

Дай, думаю, выкупаюся, астыну. Нырнуў — і, як некалі, захацелася зірнуць, пасаладзіць душу дзіцячым напамінкам. — Косцік уздыхнуў, паківаў галавой, тарганулся востры кадык. — Раскрыць-то я раскрыў, але ж і выскачыў адтуль, як ашпараны — вочы разанула так, што ледзьве дабег да Карабковай, нашай дакторкі. Света божага не бачыў... Забрудзілі рэчку, сапсавалі яе — вось-вось загіне... А рыбай там цяпер і не пахне. Можа, збоку і смешна слухаць — як нырца даваў малым? А чаму я гавару ўсё? Ды навошта той свінакомплекс будаваць каля самай ракі? На беразе ракі аж тры саўгасы і калгасы.

— Бяздумна, канечне, — згадзіўся сакратар.

— Саўгасы пабудавалі машынныя двары. Мыюць трактары і машыны. Усё сцякае ў раку — праз верх бензін і салярка. Зноў у раку, яна стрымае, яна сцерпіць. І плывуць вясёлкавыя плямы па задзе — на згубу рыбам і ўсяму жывому. Бусел баіцца ў такую ваду лезці корм шукаць — чуе, што атрутай пахне. Дарэчы, з-за мінеральных угнаенняў загінула трыццаць пчаліных сем'яў у лясніцтве.

— Трыццаць?

— Ага. Больш палавіны. І з зямлі — на зямлю, і з паветра — самалётамі. Усё жукоў травяць, угнаенні сыплюць. А сыплецца ўсё жывое. Я бортню ў Чэрцені паставіў сабе на дубе, туды хімія не даходзіць — мядок атрымаўся добры і пчолы цэлыя. Я ж і забыўся, я яго з сабой узяў. Вось з чайком і добра.

— Дзякую, Канстанцін Мінавіч. Я зразумеў твой намёк: бяры, сакратар, спытай апошні мядок, бо такога больш не ўбачыш... Хітры ты, аднак, Міхалап.

— Ды які ўжо ўдаўся, — Косцік адчуў, што не крыўдуе сакратар, разумее ўсё і размову вунь як павярнуў. — Верасовы мёд, лясны." З тых мясцін, дзе некалі ў зямлянках жылі.

— Быў я там гады тры назад. Ездзіў на сустрэчу з партызанамі. Чаго ж цябе не сустрэў?

— Ды не мог адлучыцца. Пажары спакою не давалі.

— А як жывуць Міхал, Ладзік?

— Ды нічога. Прывітанне перадавалі. Дзякуй вам... Што добрым словам партызан успомнілі. І мяне не забылі. Мы са школьнікамі аднавілі некалькі зямлянак. Думаем там лясны музей стварыць.

— Гэта добра, Канстанцін Мінавіч, — прамовіў задумліва Громаў, прыплюснуўшы павекі, пацёр далонню падбароддзе. — Добрую справу задумалі.

Галава ў сакратара белая, як пялёсткамі абсыпана. Пісяг то паяўляецца, то знікае.

«Кожнага чым-небудзь чапнула вайна, — глядзеў на яго Міхалап, — і табе, камандзір, дасталося па самую завязачку. То ж, як прыйшлі нашы, ты ў войска падаўся, ваяваў далей — ды і не радавым, камандзірам, за жыцці людзей адказваў».

Громаў уздыхнуў, адпіў астылы чай.

— Слухаю, братка, цябе, уважліва слухаю.

Ні словам не абзываўся загадчык аддзела — лавіў кожнае слова, з цікавасцю глядзеў на госця.

— Пісаў я пра ўсё гэта ў райком партыі. Не мог больш цярпець... Доўга маўчалі, а потым кораценька адказалі: «Прымем меры». А якія меры? Усё, як гінула, так і гіне сёння. Як хаўрусавалі з былым паліцаем начальнікі, так і сябруюць, каньякі п'юць. Ну, я не вытрымаў і да першага ў райком. Не пусціла сакратарка — заняты сакратар. Дык я з другога заходу — ды напралом. І хто, вы думаеце, сядзеў і гарбату піў з сакратаром у кабінеце? Паліцай... Помніце, мы на заданні былі, і вам расказвалі, што мы са Жменькам на засаду нарваліся? Ён тады вылузаўся. А потым жа ён мяне, паўжывога, у канаву закопваў, каб машына мяне раздушыла. Гэта калі я іх заспеў за крадзяжом лесу.

— Калі гэта было?

— На трэцім годзе пасля вайны. А як зайшоў да сакратара, значыць, убачыў і ўчапіўся ў яго. «Пазнаеш, гад, мяне?» — пытаюся. А сакратар мне кажа: «Выйдзіце з кабінета, вы п'яны...» А потым сустрэў Стася Мілёнка, што на жалезку разам хадзілі. У Данбасе ён, шахцёр. Ну і выпілі па кроплі... Тут і міліцыя ў забягалаўку зайшла — пэўна, сакратар даў указанне мяне пасадзіць. Мяне пад рукі — і на пятнаццаць сутак.

— Адседзеў?

— Ад званка да званка. Як на міне, Піліпавіч, падарваўся. На казённыя харчы сеў. Жамойда рагатаў з мяне, здзекаваўся: «Ну, што, знайшоў праўду?»

Леанід Піліпавіч нахмурыўся, пісяжок зноў пачырванеў, паглядзеў на Анатоля Ігнатавіча:

— Вазьмі гэты факт на кантроль. І я пазваню цяпер у Еньск.

Ён набраў нумар, чакаў, глядзеў то на Косціка, то на тэлефон.

— Віктар Аляксандравіч? Дзень добры... Справы як? Пытанне ў мяне. Ты не памятаеш, заходзіў месяцы тры назад да цябе ляснік са

Спрымачова. Міхалап, ён сапраўды быў п'яны, як зайшоў да цябе? Не ведаеш? А што пра паліцая сказаў табе? Не паверыў. Далажыў куды трэба? А што трымалі яго паўмесяца ў КПЗ — ведаеш? Не ведаеш... Кепска, Віктар Аляксандравіч, ой, як кепска. А ён да цябе з чыстай душой ехаў і мог шмат чаго цікавага расказаць. Калі ласка, на бюро прыедзь са справаздачай аб ахове прыроды. І не ружовыя паказчыкі і лічбы, мы імі ўжо аб'еліся, а толькі праўду. Праўду, якую ты не захацеў слухаць. А з паліцаям ты даў прамашку. Што ж, у мяне ўсё...

Трубка легла на сваё месца.

Косцік сядзеў і мучыўся: з-за яго языка перапала чалавеку на абаранкі.

— Паехалі далей, Канстанцін Мінавіч...

Віцця заснула адразу, як легла. Пад раніцу прысніўся ёй страшны сон. Быццам схапіла Косціка немчура, калі ён прыходзіў да яе ноччу — з партызанскага лагера. Звязалі, збілі яго, аж чорны стаў, бы сопуха, і пацягнулі з Жамойдам яго некуды падпашкі — ісці ён ужо не мог, не трымалі ногі. Віцця бегла следам, адчуваючы сваю віну — з-за яе ўсё атрымалася, толькі з-за яе. Таму хацела выратаваць яго, вымаліць у карнікаў і паліцаяў, сказаць, што ён тут ні пры чым, то яна ва ўсім вінаватая — ён праведваў яе, лякарства прыносіў. Загіне ні за што. Бегла, але ўсё чамусьці ніяк не магла іх дагнаць, як ні напручвалася хутка ісці. Пераастаўляла цяжкія ногі, быццам бегла на дне Прыпяці, паўтаралі адну і тую ж малітву: «Косцічак, любы, не загінь, вырвіся з чорных лап смерці, ты ж дужы і смелы, зрабі штонебудзь... Косціча-ак! Не загі-іінь!..»

Не хапала дыхання, сэрца білася, гатовае выскачыць з грудзей. Наперадзе, на дарозе, было шмат слядоў — ад каваных нямецкіх ботаў, і ўсе іх перакрэслівалі дзве невялічкія канаўкі-баразёнкі — пяткі ад босых ног...

Потым яна ўпала грудзьмі на здратаваны кованымі ботамі амаль чорны снег. Не падымаючы галавы, адчула, як тупат ног набліжаўся ў яе бок, рабіўся мацнейшы і больш пагрозлівы. І немчура, як зграя ваўкоў, падмяла яе пад сябе, не выпускаючы Міхалапа — акрываўленага, босага, і ўжо, здаецца, нежывога. Яна выдаўжыла рукі, скрозь слёзы крычала:

— Вярніся, Косці... Косці-іі!..

Нехта сціскаў яе у моцных руках, тармасіў, але яна не вырывалася, крычала незразумелае і страшнае.

— Ды прачніся ты, Віцця, чуеш? — крычаў над вухам спалоханы Жамойда.

Яна прахапілася.

Трывога пасялілася ў яе сэрца. Жамойда дапытваўся, што з ёю, што снілася. Не адказала, уздыхнула цяжка, адвярнулася да сцяны.

— Святло тушыць?

Не адказала.

Ён пстрыкнуў выключальнікам. Калі лёг побач, дакрануўся бокам да яе спіны, адчула чужое, халоднае, бы лёд, цела. І сама такой жа рабілася — з кожным днём.

Карцела схадзіць да Ладуцькі. Яму яна давярала, як самой сабе. Ён быў адзіным чалавекам, да якога яна ішла смела і без аглядкі, ішла, як да доктара, верачы, што ён паможа. Ішла, як да дарадцы, маючы надзею, што пойдзе ад яго супакоеная і з поўнай яснасцю думак. Пэўна, з такіх, думала Вікця, і выходзілі некалі святары — не тыя, хітрыя і хцівыя, а шчырыя, якія добрым і прачулым словам супакойвалі душэўны стан чыёйсьці збалелай душы, памагалі знайсці невядомую дагэтуль у сабе сілу.

Ладуцька быў дома.

У печы весела лізала дровы полымя, цягнулася ў комін. Пры агні стаялі чыгункі і гаршчэчак — дзед гатаваў сняданак.

— Праходзь, Альшанская, праходзь, — запрасіў Мікіта, сумеўшыся — не чакаў у такі час гасцей, сам не прыбраўся і ў хаце непарадак. Дзед ніколі не называў Вікцю па прозвішчу мужа, як і спрымачоўцы не называлі яе Жамойдзіхай. — У нагах праўды няма, калюх-калюха, сядай, грэйся...

Вікця прайшла за печ, зняла кажушок і паклала яго па ложак, развязала хустку і кінула туды ж, пахукала на рукі:

— І пячэ ж сёння, у рукавіцах рукі ў шпары заходзяцца.

— Дні такія цяпер, Адамаўна, калі зіма з вясною бораюцца. А ты ля печы стань, сагрэйся — у мяне холадна. Не паліў, учора ў Мазыр ездзіў...

— Я не змерзла, дзядуля, рукі вось толькі...

Вікця ў Ладуцькі не першы раз. Хату яго ведае, як сваю. І фотакарткі ў рамках, на сцяне, ёй добра вядомыя. Разглядаць, звычайна, пачынала з той фатаграфіі, дзе была знята Ладуцькава сям'я. Карткі пажоўклі ад часу, але ад таго і было ў іх больш таямнічасці і прыцягальнасці. Яна шукала падабенства Ладуцькі з тым, маладым, калі ў яго нарадзіліся дзеці, і знаходзіла знаёмыя рысы.

Але найбольшую ўвагу прыцягвала фота, што было асобна ад усіх — Ладуцькі і Косціка.

Да старога прыязджаў нейкі хлопец з рэспубліканскай газеты, неўпрыкмет сфатаграфаваў іх, як сядзелі на прызбе. Дзед і не ведаў пра тое. А пазней поштай пераслаў старому, з адваротнага боку

напісаў: «Ведаю, што не любіце здымацца, таму зняў без дазволу. Не крыўдуйце».

Пакуль Вікця ўглядалася ў картачкі — доўга і пільна, асабліва ў твар Косціка, які весела смяяўся, трымаючы каля шчакі далонь. Ладуцька расстаўляў на стале кубкі і сподкі, цукеркі-падушачкі высыпаў у талерку, слоік з варэннем паставіў.

— Ты, ета самае, калюх-калюха, хадзі, Вікця, да стала — усё гатовае, на два бокі... — клікаў, радасна мітусіўся дзед, незаўважна для Вікці чыстую сарочку надзеў, крэсла дубовае, самаробкавае, для яе паставіў — з высокай спінкай. — Сядай, снедаць будзем... Даўно мы з табой вось так сядзелі...

— Ды ўсё не выпадала. А калі заходзіла разы са два, то вас не было.

Вікця не хлусіла — адчыняла дзедавы веснікі. Без патрэбы заходзіла, з работы вярталася, перакінуцца словам хацела.

— Ды і бегаю, ніколі дома не стыкаюся, — згадзіўся дзед, сеўшы ўжо з другога боку стала — насупраць Вікці. — Таму і не заспела.

Барада ў дзеда знікала дзесьці пад сталом — шыкоўная, кудлатая, відаць жа, дагледае яе дзед, мые, расчэсвае. Стары любіў чысціню — не ў кожнай гаспадыні так чыста ў хаце, як у яго. Ужо дзеду за дзевяноста, аніколі не чапляў на нос акуляраў. І глядзеў ён на яе чыстымі і светлымі, бы дзіцячымі, вачыма. Пазіраў пранікліва, заглядваў, здаецца, у самую душу, каб і схлусіць хацела, то не змагла б.

Уздыхнула — і выдала сябе, што камень ляжыць на сэрцы — ні спаць не магла, ні на работу хадзіць. Дзед

кубак на стол паставіў, праз кудлатыя бровы зіркануў на яе:

— Ну, што, Вікторыя Адамаўна, не таіся, бяду нейкую напаткала?

Яна паклала рукі на грудзі, быццам сцішвала ўзбуджанасць і дыханне, схіліла галаву — сказаць, дык што падумае пра яе дзед? Ці не абсмяе, ці не прагоніць яе за дурасць — у такія гады месца не знаходзіць...

— Цяжкі сон, дзед Мікіта, бачыла. Пра Косціка, Ніколі такога страшнага не снілася. Так прысніўся, быццам вось цяпер перад вачмі. Сніла, што немчура яго схапіла і на шыбеніцу, скрываўленага, пацягнула. Баюся, каб не здарылася якая бяда. Тады, помніце, як сустрэла вас на вуліцы, я ўжо ведала, што з ім няшчасце здарылася. Душой адчувала. І сон бачыла, амаль такі ж... Дзе ён цяпер, дзядуля?

Ладуцька кашлянуў, адвярнуўшыся, кулак да рота прыставіўшы.

— У "вобласць ён паехаў. Да Громава. Праўды шукаць.

— Ох, гора ты маё, — нахілілася на сагнутую руку — на стол, заплакала. — Ой як цяжка мне, дзед Мікіта. Усё жыццё на адлегласці, а ўвесь час ён мне блізкі і дарагі. З кожным годам даражэй. Гэта кара мне божая за ўсё...

— От, калюх-калюха, на два бокі і ўсторч, — падняўся з месца Ладуцька, замітусіўся ад нечакана пачутых слоў. — Гора мне з вамі. Што, думаеш, ён не прыходзіць і не гаворыць пра цябе? Тое ж, што і ты...

— Праўда? — Вікця падняла галаву, выцерла мокрыя Еочы, пазірала радасна на яго, шчаслівa, не верачы. — Няўжо праўда? І яму гэтак жа цяжка?

— Цяжка. Яшчэ і як цяжка, — паклаў стары на плячо жанчыны спрацаваныя, пачарнелыя далоні. — Як вам не пашэнціла ў жыцці... Якую муку прынялі на сябе, не кожнаму і пад сілу вытрымаць такое.

Вікця плакала, не хавала слёз.

— Што ж, несці вам сваю долю і не данесці. І нічога не зробіш. Хочаш, я дам табе такой траўкі, што забудзеш яго, душа твая ачысціцца і стане светлай, сэрца будзе без адзінай ранкі. Хочаш?

Яна адмоўна пахістала галавой.

— Не, дзед Мікіта. Няхай ужо так будзе. Як жа тады жыць без... без гэтага? — жахнулася, адхіснулася, насцярожылася — вочы спалоханыя, раскрытыя. — Можа, гэта мне шчасце такое выпала.

— Мо і так, калюх-калюха... То я так сказаў, каб аблегчыць тваю душу, аж яна, выходзіць, без гэтага болю ўжо і жыць не можа. Вось як яно...

Толькі цяпер пачула, як за акном усчалася завіруха, скавытала, стукалася ў дзедавы вокны. Ладуцька — чараўнік няйначай. Добрым словам супакоіў, абнадзеіў — светла неяк стала, лёгка.

— А за яго не хвалюйся, — дзед не называў імя, — то сон добры, хаця ж і страшны. То яго, Косціка, не ўсе разумеюць, а ён мучаецца. Усе і мучаюць яго, калюх-калюха... Вунь і тады, горш за фашыстаў мучылі, а ён выжыў. А колькі ў вайну дасталося? Ды вось з тваім Жамойдам у яго нелады.

— Ведаю.

— Ад вайны яны ворагі. Можа, ён і не паехаў бы тады да партызан, каб Косцік не вымаг у яго заявы. А потым ён страляў Міхалапу ў спіну, як той уцякаў. Косцік і парваў тады ж паперку — не верыў, што падасца ён да партызан.

— Я не ведала пра тое, — прызналася Вікця.

Доўга заседзеліся ў Громава. Засталіся адны, пра час забыліся — за акном даўно ссутоньваўся шэры змрок.

Усё выказаў Міхалап сакратару абкома.

— Дзякуй вам, Лявон Пiлiпавiч. Каб не вы, не ведаю, да каго і паткнуўся б. Пэўна, ні да кога, аціх бы, змірыўшыся з усім — пугай абуха не пераб'еш...

— Знайшоў бы, Канстанцін Мінавіч, знайшоў бы. Проста смеласці трошкі не хапіла, і не ведаў, да каго падацца. А пытанне сур'ёзнае, зоймемся неадкладна. Вайна шмат бяды нарабіла. Латаем галоўныя дзіркі, а пра малое забываем. А за тое нам жорстка адплоціць прырода...

Начаваць паехалі да Громава.

## «Ты уж извини меня, Серж...»

Сяргей заўсёды прачынаўся разам з маці. І хаця Паліна кожным разам старалася ісці на кухню нячутна, каб не патрывожыць дзяцей, ён усё роўна чуў яе крокі.

Паліна ніколі не заводзіла для сябе будзільніка, хаця ён і цікаў на стале. Не чула яна і радыё — дынамік вісеў на кухні. Яна прачыналася ў адзін і той жа час — а палове шостай. Дзень у дзень, год у год...

Пасля Сяргея ўставалі і астатнія — гаспадар, сыны і дачка. Маці запальвала ў печы, і тады пачыналі трашчаць смалякі, ахоплівалі полымем паляняк, скакалі па сцяне чырвоныя сполахі.

— Мамо, што на сняданак — бульбу ці аладкаў зробімо? — папыталася Галя, выціраючы ручніком твар. Была яна ў спартыўным сінім трыко, у шэрай блузцы з кароткім рукавом.

— А што для вас лепш, тое і рыхтуй, — паціснула плячыма маці, нахілілася над чыгуном — насыпала ў яго дробную бульбу. — Для мяне дак усё адно.

— І мне абы сняданак, — азваўся гаспадар — галіўся электрабрытвай — стаяў каля люстэрка, прымацаванага да сцяны.

— О які ў нас народ непераборлівы — што згатуеш, тое і з'ядуць, — заўсміхалася дзяўчына, і на шчоках абазначыліся ямачкі. Завязала на шыі касынку, каб не заміналі косы. — Тады абіраю бульбу, смажым мяса.

Яна села на ўслончык, узяла нож і пачала сваю работу. У Галі зграбная, гнуткая пастава. Расла непрыкметна, ціха, хадзіла з Палінай на ферму — памагала даіць кароў, як была вольная ад урокаў. Скончыла школу, і на яе пачалі заглядвацца хлопцы: прыгожыя, агністыя былі ў яе вочы. Вясёлая, жвавая — па бацькавай лініі пайшла. Якую б работу пі рабіла, усё ў яе выходзіла лёгка, як бы гуляючы. Паехала ў Рэчыцу і здала экзамены ў заатэхнічны тэхнікум.

Радаваўся Косцік за дачку — убіралася ў прыгажосць і сілу. Ды і з твару нічога. Хлопцы набіваюцца з клуба правесці дадому, а яна, гарэзніца, паабяцае катораму, а сама неўпрыкмет збяжыць. А потым ад смеху заходзіцца дома.

Косцік пайшоў у хлеў, даў карове сена. Прынёс некалькі вёдзер вады, паналіваў у чыгуны з бульбай і паставіў у печ.

Сяргей ляжаў, чуў гаворку — голас Галі быў чысты і звонкі, чуваць здалёку. Вечарам прыехаў позна, натаміўся на рабоце — ламала спіну. Заснуў не скора — як падалі голас другія ці трэція пеўні.

— Чаго ж ляжыш, Сярожка, мо не на работу? — зазірнула ў пакой маці.

— На работу, мамо, ды ўставаць нешта не хочацца.

— Ці не захварэў?

— Ды не. Лянота падкацілася.

— На Ляжнёўку ўжо, можа, перабраліся?

— Не, можа, на тым тыдні.

— Было б добра — да хаты бліжэй. Ну то ляжы, час яшчэ ранні.

Маці выйшла. Сяргей крутануў ручку «Спідолы» — пачулася музыка. За акном яшчэ цёмна, і намёку не было на раніцу — апошнія лістападаўскія дні былі пахмурныя, з цяжкімі воблакамі, з ветрам і дажджамі. Гэта найбольш і псавала настрой у рабоце — настроішся на пэўны аб'ём, прыкінеш, колькі застаецца да канца месяца, налягаш, а тут нечакана божанька падсуне надвор'е — ні сагрэцца, ні схавацца ад холаду. На сямі вятрах, як на боскай далоні, — пранізвае кожнага навылёт... Але меліяратарскую работу Сяргей не кідаў.

«Маяк» даў свае пазыўныя, піпікнула шэсць разоў, і Сяргей спружыніста ўскочыў з канапы, сагнуўся, разагнуўся, памахаў рукамі, галавой пакруціў — і пайшоў мыцца-галіцца.

Выйшаў у двор. Цёплае паветра дыхнула ў твар. «Пацяплела? Вецер перамяніўся? Значыць, у полі работа пойдзе весялей». Неба было светлае, але з аблачынамі. «Мо і зусім распагодзіцца. А то ўжо думалі, што і снег выпадзе...»

Ад хлява ішоў бацька, бухкалі боты па сцежцы. Чырвоная кропачка хісталася ў руцэ — асцярожнічаў з куравам.

— Устаў ужо? — падышоў, зрабіў доўгую зацяжку, абапёрся аб штыкеціны. — Да лесу ўжо блізка падыходзіце?

— Блізка зусім.

— То пра тваю брыгаду заўчора па радыё баялі?

— Ага.

— Прыемна чуць такое?

— А, — няўцямна выдыхнуў сын, зноў глядзеў на ўсход. — Каму працаваць, каму пісаць.

— Перадавікі, канечне. На ўсю краіну грыміце. І не муляе слава, сын? Пэўна, не. З ёю лягчэй жыць, надзейней.

— Ты пра што, бацька?

— Ды ні пра што. Так, пра сябе. Давай мыйся, ды будзем снедаць. Мне сёння рана ў лес трэба. Лапкі тыя, хваёвыя галінкі, няхай на іх ліха, план удвая павялічылі, а толку з гэтага...

— Значыць, трэба больш.

— І я не супраць. Ды не па-гаспадарску ўсё тое.

Выскачыў з хаты Алесь, штурхануў пад бок Сяргея, зрабіў рэзкі выпад, быццам баксёр, лёгка памаляціў па плячы, ён быў голы да пояса, без майкі, неспакойны і шустры, такі. ж няўрымслівы. Па грыбы пойдзе, усе дзялянкі аблётае, у школу ідучы, спозніцца на аўтобус, ніколі не перажывае — для яго сем кіламетраў да Асаўца, як стометроўку прабегчы.

Сяргей нечакана абхапіў яго за пояс і адарваў ад зямлі.

— Што, баксёр, прасіся, а то на хлеў закіну.

— Больш не буду-уу, — нараспеў, па-авечы, забляяў брат, — пусці-ііі!..

На парог ступіла маці.

— От, гіцлі, ім бы толькі падурэць. Ану мыйцеся ды за стол!

Гаварыла нязлосна. Паліна ніколі не злавала на дзяцей, асабліва не песціла, але ж і не крычала ніколі, трапкачом ці папругай ніколі не выцяла.

Снедалі няспешна, але і не заседжваліся, за сталом прывыклі маўчаць, клопаты свае вырашаць не за патэльняй. Паліна разам з усімі сядала рэдка калі, у яе заўсёды на ўсё не хапала часу. Гэта потым ужо, калі ўсе разыдуцца, яна, упарадкаваўшы ўсё, прысядзе за стол, перахопіць што-кольвечы на скорую руку.

Яна то папраўляла чыгуны ў печы, то падавала на стол. Потым рэзала буракі і гарбузы, кідала ў цабэрак, секла.

Нехта бразнуў у сенцах дзвярыма, і ў хату зайшла Анэля.

— Дабрэйшы вам, і хай есца ўсмак, — села каля парога паштарка, — пісьмяцо вам ад вашага Стасіка прынесла.

Галінка першай ухапіла, прачытала ўслых, абрадавала бацькоў і хлопцаў.

— Ну, то хай яму добра служыцца, — пажадала паштарка і гэтак жа раптоўна выйшла з хаты.

Першым стол пакінуў Сяргей, за ім бацька і Алесь. Галя хуценька наладкавала ядой бацькаву сумку. Сяргей рэдка калі браў з сабой абед.

Прачнулася вавёрка, ускочыла на шафу, Сяргею на плячо зляцела.

— Марш на печ, — замахнулася на яе Галя, і шэранькі камячок шуснуў за камінак.

З хаты Сяргей і бацька пайшлі разам. Бацьку — на машыну. Паедзе ў Броньку, непадалёк ад Ляжнёўкі — з кіламетраў шэсць. Сяргею ісці на паваротку, дзе спыняецца стары, біты-перабіты пэмкоўскі «пазік».

— То да вечара, сын, — гаворыць бацька і спяшаецца да канторы лясніцтва — там ужо гарэлі фары машыны.

— Да вечара.

Вось-вось павінен падысці аўтобус. Сенька, шафёр, амаль заўсёды прыязджаў у адзін і той жа час, не спазняўся. Па ім хоць гадзіннік звярай.

Абуджалася вёска. Чуліся знаёмыя галасы і воклічы, гудзенне машын і трактароў. Раніцай гаворка гулка разлягалася па ўсім Спрымачове, хоць ты шапні ціха ў дальнім канцы Будкоў — у другім пачуюць. Вяскоўцы падзялілі сваю вёску на дзве. Па правы бок Лабасова — Крушніца, па левы — Будкі.

Адкуль пайшлі такія назвы, Сяргей не ведаў, бо з пакалення ў пакаленне пераходзіла. І чулася ў тых назвах нешта знаёмае і блізкае — Будкі, значыць, будаваліся палешукі. Крушніца — крушына. Яе па ўсім лесе процьма. Так што тут вялікага сакрэту ў назве не было...

Як быў у арміі, слых лашчыла назва вёскі. Скажаш услых: «Крушніца», а чуеш — суніца, завушніца, зарніца... Як быццам каменьчыкі перакочваюцца на дне Лабасова.

Любіў Сяргей лес.

Ведаў дасканала бацькавы сцежкі, таптаў іх, ідучы побач з ім. Не толькі вучыўся лесніковай мудрасці, а і памагаў рэзаць метроўкі, садзіў саджанцы, збіраў шышкі...

Бацька радаваўся, перакананы быў, што і Сяргей яго дарогу выбраў. Бо ад яго ні на крок. Верыў у тое ж і ён, Сяргей.

Аж памянялася ўсё нечаканым бокам.

Аднакласніца Зоська, дзяўчына з агністымі вачыма і пяшчотным голасам, якая так запала ў душу і сэрца, што і дня не мог пражыць без яе — начамі снілася, спытала аднойчы, як праводзіў дадому са школьнага вечара:

— І куды пасля школы, Сяргейка? Думаеш паступаць?

— Не ведаю, Зоська. Лес люблю. Мо ў тэхнікум лясны падамся.

— Гэта добра. Лес... А я, ведаеш, кім хачу быць?

У Зоські на вочы спадае чолка, і яна раз-пораз папраўляе яе рукой, стараецца выглядаць дарослай, сталай дзяўчынай, вачмі з годнасцю водзіць па баках, вучыцца выглядаць задумлівай і заклапочанай.

— Кім? Ты ж не хвалілася ў класе, таму і не ведаю.

— А смяяцца не будзеш, як прызнаюся?

— Не буду...

Яна гарэзліва зірнула на яго, быццам чакала, калі яшчэ больш разарыцца ў яго цікавасць, на плячо яму падбародак паклала, і ён адчуў яе крамяныя грудзі-кулачкі.

— Не адгадаеш, ніколі не адгадаеш. Я, як і ты, па бацькавай дарозе пайду — у механізатары. На трактары буду рабіць. Во!

— Ты гэта сур'ёзна? — не верыў ён. Верка Чыканова сказала б, можна ўявіць, бо дзяўчына сур'ёзная, калі надумае што — выйдзе па ёй. Рашучая. А Зоська — матылёк, чалавек настрою. — Ты — на трактар?

— А што тут такога? Хлопцы ідуць у даяры, а я не магу ў механізатары?

— Калі гэта, канешне, сур'ёзна.

— Ты за мяне? — яна нечакана абхапіла яго за шыю.

— Ага, — згадзіўся, а думаў адгаварыць яе.

Праз месяц, калі пачалі рыхтавацца да выпускных экзаменаў, застаўшыся аднойчы адзін на адзін у класе, паклаў сваю руку на яе, сціснуў, спытаў нясмела:

— Зоська, а што, калі і я з табою — разам вучыцца?

Дзяўчына шырока акругліла вочы, мірганула нафарбаванымі вейкамі, не паверыла таму, што пачула, ускліквула:

— Ой, як было б здорава! Сяргейка! Але як жа ты са сваёй марай, га?

— Нічога, у лясніцтве і механізатары трэба.

Бацьку не прызнаўся, што пахаваў свае ранейшыя планы. Ведаў, што зробіць яму балюча, што не адобрыць задумкі, але нічога ўжо з сабой парабіць не мог — каханне да дзяўчыны аказалася мацнейшым за ўсё. Нават за мару. Хаця ў душы і нараджаўся пратэст супраць самога сябе, хаця ведаў, што робіць неабдуманы крок, што гэта несур'ёзна...

Бацька пра ўсё даведаўся. Галя сказала. Не ўшчуваў. Як ведаў, што мог бы нарабіць яшчэ большай бяды... Мудры і добры ў яго бацька!

Здалёк яшчэ, асвяціўшы фарамі дарогу, запілікаў аўтобус. Спыніўся побач. Сенька, штурхануўшы ручкай дзверцы, як заўсёды, крыкнуў:

— Захадзі, госцем будзеш!

Беглі да аўтобуса Хіялаў сын і Адарчын Міхась.

У аўтобусе было прыцемкавата, але Сяргей і так пазнаў усіх, і па голасе, і па абрысах твару. Сенька браў людзей з Жахавіч — аж дзесяць, астатнія былі з Турбіна і Зімовай Буды. Там ужо назбірваўся і набіваўся цэлы аўтобус, аж стаялі ў праходзе...

Сяргей ужо даўно прывык да гэтага тлуму, да тытунёвага дыму, да ранішняй «слоўнай гімнастыкі», калі вастраловы падымалі такі рогат, што і нелюдзімы заўсміхаецца.

Не першы год ён на гэтай рабоце. Асушваў балоты І ўкладваў па дне пракапаных канаў дрэнаж — гліняныя трубкі, адна да адной. Працаваў машыністам шматкаўшовага экскаватара. У яго брыгадзе пяцёра чалавек. Памочнікам сабе ўзяў Віталя Хіяла, толькі што з арміі, і траіх паляшучак. Дзве з іх замужам, па двое дзяцей нарадзілі, адна зноў у дэкрэт збіраецца. Трэцяя ж, Алёнка, дзяўчына, таксама гэтым аўтобусам ездзіла — з Зімовай Буды. Алёнка чымсьці на Зоську падобная — заўсёды з усяго здзіўляецца, невядома чаму радуецца. І вочы такія ж круглыя робіць.

Тады ж, на другім годзе вучобы ў вучылішчы, калі яны не разлучаліся ніводнага дня, — і на занятках разам, і на экскурсіях разам, у вольныя часы — побач, — і ў яго не прападала да яе пачуццё, а наадварот, разгаралася з кожным днём усё больш і больш, калі ён адчуў слодыч яе вуснаў, калі, лічы, зведаў яе ўсю-ўсю, зразумеў, што ім наканавана быць разам, толькі разам. Зоська аднойчы, застаўшыся ў яго пакоі на ўсю ноч, лежачы побач з ім на ложку, уткнуўшыся галавой у падушку, прамовіла:

— Праз некалькі дзён з'еду я, Сярожа, далёка-далёка...

Ён павярнуўся на бок, тварам у твар, вочы у вочы,і яна павярнулася да яго, зазірнула глыбока-глыбока — у самую душу.

— Як гэта — з'едзеш? Куды? І чаго?

— Так трэба, Сяргейка. І не пытай у мяне больш нічога. Добра? Абяцаеш?..

Зоська, здаецца, плакала. Яна ўмела плакаць.

— Ты жартуеш. Праўда, жартуеш? У нас жа ўсё з табой добра, так добра, што і жадаць лепшага не трэба. Мы скончым вучобу, паедзем разам працаваць у маю вёску, ты будзеш маёй жонкай, у нас будзе тры сыны і дзве дачкі...

Зоська пальцамі сціснула яму вусны, каб не гаварыў, горка ўсміхнулася:

— І я так думала. І я гэтага хацела — вельмі-вельмі. Але паламалася ў мяне, усё паламалася, перавярнулася...

— Я ха... — спрабаваў нешта сказаць яшчэ, але яна дакранулася да вуснаў.

— Ты уж извини меня, Серж...

«Ты уж извини меня, Серж...» — гэтая дурацкая фраза не раз і не сто звінела ўвушшу, снілася, варочала і пераварочвала душу, спустошвала сэрца, паліла і рвала на тысячы аскалёпкаў, і ён здзіўляўся, як яно сапраўды не разарвалася ў яго. Ён нічым не мог спатоліць тое пачуццё, нічым не мог яго замяніць. Нават у арміі, калі стаяў на пасту, колькі разоў з цемры выглядвала яна і гаварыла гэтак жа вінавата і ціха: «Ты уж извини меня, Серж...»

Аўтобус спыніўся, і праз гоман пачуўся вясёлы голас Сені:

— Захадзі, госцем будзеш!

І «гасцей» назбірваецца шмат, на каленях адзін у аднаго сядзяць, рагочуць, смешнае расказваюць. У аўтобусе і жанчыны, і яны прывыклі да салёных і прыперчаных слоў, самі памагаюць вясёлым хвілінкам — цяжкая работа гэтаму навучыла, і таму жарты былі замешаны на калючых і жорсткіх вятрах, снезе і холадзе. І Аўдоцця, і Марыля, і астатнія ніколі за словам у кішэню не палезуць, зачэпіш — пекануць так, што і дзесятаму закажаш...

Сяргей убачыў праз галовы і плечы людзей вочы Алёнкі, кіўком галавы павітаўся з ёю, усміхнуўся, падбадзёрыў: «Трымайся там, ведаю, што нялёгка ў цеснаце стаяць...»

Ехаць застаецца хвілін з дзесяць, да аб'екта ўжо зусім чоганічога...

«Ты уж извини меня, Серж...»

Ужо добра ўднелася, як прыехалі на аб'ект. Пайшлі да тэхнікі скрэпершчыкі і бульдазерысты, экскаватаршчыкі. Прыехалі і яшчэ два аўтобусы — з меліяратарамі.

Сяргей адразу пакіраваў да Савошкі, майстра ўчастка. Той сядзеў у вагончыку, перабіраў на стале паперкі.

— Я да вас, Нікадзім Селівестравіч, — павітаўся, сеў на крэсла Сяргей. — Так працаваць я адмаўляюся.

Майстар зірнуў у акно, пацёр падбароддзе.

— Не ведаю, што і рабіць з табой. Сказаў галоўнаму інжынеру пэмка, паабяцаў праз дні тры-чатыры...

— Чатыры?! — Сяргей прыўзняўся ў крэсле. — А чым мне займацца загадаеце? Пянькі збіраць? У мяне ж план гарыць...

Савошка нахіліў галаву, кусаў губы. Гадоў яму можна было даць і сорак, і ўсе пяцьдзесят, ён быў у тым узросце, калі людзі доўга не мяняліся з твару. Хударлявы, цёмнага загару, вочы спакойныя, але неабыякавыя.

— Магу толькі параіць, — бровы ўзняліся ўверх, і вочы адкрыта паглядзелі на экскаватаршчыка, — паглядзі спісаны, вазьмі патрэбную фразу ў рэдуктары і пастаў на свой экскаватар.

— І на гэта часу трэба шмат патраціць.

— Усё, Сяргей, больш нічога падказаць і параіць не магу, — зноў апусціў майстар бровы, схаваліся вочы пад брывамі, і цяпер Міхалап ведаў, што дарэмна далей аб чым-небудзь гаварыць — і так дзякуй скажы, што падказаў.

Хіял і Алёнка з жанчынамі сядзелі ўжо каля экскаватара, чакалі брыгадзіра. Апранутыя былі ў цёплае, вецер у полі не шкадаваў нікога.

Памочнік сядзеў на скрынцы з-пад інструментаў, жанчыны — Вольга і Аксана — каля тэхнікі.

Віталь Хіял пачасаў гарбаты нос:

— Як з рэдуктарам, Сяргей?

— Аніяк. Пойдзем «пазычаць» фразу са спісанага.

Памочнік памуляў губамі, нічога не сказаў.

— А нам чым заняцца, брыгадзір? — паказала язычок Алёнка, стрэльнула вокам на Міхалапа.

— Чым? А вы кветачкі збірайце: цікавая работа!

— Кветкі — гэта добра. Адпачывай, дзяўчаты! — як загадала Волька і першай, смешна крыўляючыся, пакіравала да ўзлеску.

Давялі ўсё да ладу толькі на трэці дзень.

Выпацкаліся з Хіялам, як у пекле ў нячысцікаў гасцявалі. Але ў вачах радасць — зноў можна будзе гнаць дрэнаж.

Некуды падаўся Хіял, а Сяргей застаўся на месцы. Адпачываў, курыў. Жанчын ён на гэтыя дні адпусціў — для іх работы не было. Сядзеў каля экскаватара, думаў пра сваё.

Убачыў — у яго бок ішла дзяўчына. У балонневай чырвонай куртачцы наросхрыст, у трыко. На Зоську вельмі была падобна. Мо дзяўчо па зялёнкі прыйшло ды заблудзіла, дарогу папытаць хоча. Не, без кашаля, сумачка праз плячо...

«Божа, гэта ж яна, далібог, яна, — працяло ўсяго, у скроні кальнула, — адкуль яна тут?!»

Але сядзеў, не падымаўся, вочы прыжмурыў, прытварыўся, што дрэмле. І паверыць не хацеў — сон ці ява перад ім, няўжо праз хвіліну

ён пачуе яе голас? Пакуль чуў крокі — усё цяжэйшыя і нясмелыя. Баялася падыходзіць?

Яна лёгенька кранулася яго рукі.

— Сярожка?

Ён расплюшчыў вочы, маўкліва глядзеў на яе. Зоська нахілілася над ім:

— Добры дзень, Сярожа, як доўга я цябе шукала.

— І вам добры, Зося Карпаўна.

У яе вачах ён бачыў вінаватасць, боль, раскаянне... Яна ўжо была не тая, што раней, голас змяніўся і позірк — сцішылася, нацешылася, пэўна, усім — і харошым, і благім.

— Адкуль тут?

— Вярнулася вось у родныя мясціны. Апаліла крылы, цяпер не лётаю, спусцілася на зямлю. У вас працаваць буду. Возьмеш у сваю брыгаду?

— У мяне камплект.

— Аксана ў дэкрэт скора. Возьмеш, Сяргей? Я працаваць умею.

Ён маўчаў. Павярнуў галаву, глядзеў удалячынь, на гарызонт, за які садзілася набрынялае холадам сонца.

— Я не падвяду, вось пабачыш.

— Не. Не вазьму. Шукайце, Зося Карпаўна, другую брыгаду, і лепш, калі ў другім пээмка. Гэта ўжо мая парада...

У Зоські на вачах былі слёзы.

Але яны не кранаді Сяргея.

Упала першая хвоя — пакручастая, разгалістая. Спачатку яе мужчыны абсякуць, разрэжуць, а потым жанчыны прымуцца нажамі рыхтаваць лапнік і складваць яго ў ворах. Вечарам Янік Анэлін забярэ нарыхтаванае і адвязе на калгасны двор, дзе працуе АВМ — рыхтуе вітамінную муку.

План калгасу давялі вялікі. І Дзягцяр як не ў ногі падаў Карабкову, каб памог. Леснікі напачатку ўпарціліся, не хацелі, а потым, праз год, лясгас і сам давёў план лясніцтву. Паўсюдна зрабілі такое, і цяпер як ні круці, а лапнік трэба было нарыхтоўваць. І ўжо ўтрая больш, чым прасіў раней калгас. Кожны ляснік павінен быў здаць па тры тоны галінак. Жамойда як ні выкручваўся, як ні ўпарціўся і ні ўгаворваў Карабкова, той не скінуў яму ніводнага кілаграма. Вось і ўзяў Жамойда ў памагатыя жонку, чаму яна вельмі абрадавалася — сярод людзей пабудзе.

Кожны заняты сваім. Хлябешча бензапіла, выплёўвае пахкія апілкі. Метроўкі складваюць адна да адной — у штабель.

Незаўважна расла горка лапніку.

За размовай і работай не заўважылі, як і час праляцеў.

— Пара ўжо, хлопцы, і перакусіць, — паглядзеў на свой гадзіннік Хіял — падарунак ротнага камандзіра, як ён сцвярджаў. — Больш, чым паўплана далі. Пасля абеду — столькі ж зробімо...

— Перакусі й перакуры — нашы лепшыя сябры, — засмяяўся Васіль, прыладжваючыся на пяньку.

— Масціся, Косцік, — прапанаваў Антось.

Асобна з Вікцяй сеў Жамойда.

За ўвесь час, як працавалі, ніводнага разу не пераглянуліся, але кожны з іх адчуваў, як жыве між імі нябачная сувязь, пракладзеная кладачка ўзаемаразумення і любові.

Калі ж сеў побач з Антосем, неўпрыкмет зіркануў у бок Вікці — сядзела яна да яго спіной, аб нечым гаманіла з мужам.

Антось — хударлявы, валасы сівыя, хаця і мае чалавек няпоўных пяцьдзесят. Рукі ўчэпістыя, звыклыя да любой цяжкай работы. Колькі метровак паставіў ён, колькі стагоў сена накасіў — не злічыць. І рабіў усё ў ахвотку, ніколі не стамляўся, цягавіты быў, як і дабрачы. Жонка толькі ў яго была звяглівая, вечна ёй нешта не хапала. На работу ідзе Антось — бурчыць, з работы — словам не міне. І не зразумець было спрымачоўцам, чым жа ён, такі руплівы і дужы, мог не дагадзіць сваёй Кацярынцы. І яшчэ больш дзіўным было тое, што Антось Кашэвіч сваю жонку не прамяняў бы ні на якую іншую, у сто разоў прыгажэйшую — кахаў яе вельмі.

— Не, хлопцы, вы абедайце, а я прайдуся, — перадумаў Міхалап, падняўся. — Я праз гадзіну вярнуся.

— Ну, як знаеш, — абыякава кіўнуў Хіял, выкладваючы на разасланы ручнік хлеб і сала.

— Мо дзе маладзёнка ў кустах чакае, таму і ўцякаеш ад нас, — стральнула на яго смяшлівым позіркам Арэнка, пад бок таўханула Чыканову Марфу.

— Угэдала, Арэнка, — у тон патрапіў Косцік, загадкава міргануў ёй. — Жыць без яе не мзгу...

Вікця, жуючы, весела паглядзела ў яго бок, нічога не сказала.

Косціка грызла трывога.

Дзён колькі назад наведаўся на Барсучыны хутар. Нешта яму не спадабалася ў паводзінах барсукоў, а што — яшчэ і сам не ведаў. Думаў пра іх, як быў дома, як хадзіў на работу, і цяпер, як ехаў на возе, працаваў на дзялянцы... І вось як выпала вольная гадзінка, не вытрымаў — на абед махнуўшы, рушыў стрымгалоў на хутар, каб пераканацца, каб упэўніцца ў сваіх здагадках...

Да хутара ад дзялянкі ісці недалёчка — два кварталы. Праз кляновы гай, які беражэ, нікога не дапускае туды Міхалап — дарогі перакопваў, каб машыны не дапялі. Кожная сцежка яму тут знаёмая, як і дрэўцы, штострачаюцца на шляху. Памятае ён іх малымі і тонкімі, дзівіцца — вунь якія цяпер гонкія, як порстка выструніліся ў неба, навыперадкі, і вецер ужо ім ні па чым — моцна ўраслі ў зямлю, пусцілі глыбока карані.

Ён узбег на пясчаны ўзгорак, азірнуўся і нырнуў у густы сасоннік.

Першая нара была пад ядлоўцавым кустом. Косцік прыслухаўся, намацаў рукамі зямлю, спахмурнеў: «Няўжо пакінулі жытло? Што ім замінае тут жыць, што непакоіць?»

Ён сеў каля нары, пільна агледзеўся наўкола — нічога такога не кідалася ў вочы.

Знізу, дзе працякаў раўчук і дзе быў узболатак, данеслася да яго слыху гудзенне тэхнікі. Яно нарастала, ціснула на вушы, раздражняла... Ён падняўся, ступіў на схіл. Паўзіраўся ў блакітную смугу — позірк ні за што не зачапіўся. А нябачны рухавік працаваў то гучна і пранізліва, то аціхаў.

«Дык то ж меліяратары, — цюкнула яму ў галаву, — дый яшчэ мой сын там дзесьці працуе, план гоніць... Барсукоў трывожыць гудзенне...»

Косцік наважыўся ісці да меліяратараў. Калі ж спусціўся ўніз, убачыў, што балотца амаль высахла. І раўчук, што ўюнка выцякаў з яго, знік. У канаўцы ўбачыў падлешчыка. Далей, у ямінцы, боўталіся некалькі рыбін — задыхаліся...

«Дык вось чаму не захацеў Паласацік жыць у сваёй хаце — без вады ён не можа... От, ёлкі-маталкі, або як дзед Мікіта кажа, калюх-калюха, на два бокі і ўсторч... Сапраўды ўсё сторч галавой. Перавернута ўсё дагары нагамі.

І чаму чалавек сам сабе вораг? Чаму ён робіць так, не зважаючы ні на што? Хто ж будзе судзіць яго, чалавека, за слепату, за жорсткасць да зямлі? Хто спыніць?»

Правальваўся між купін, спатыкаўся. «Ну, пачакайце, я да вас дабяруся, псаватары-меліяратары... Знайду я на вас управу!..»

Далей зямля была цубкая, і Косцік хутка дапёр да вагончыкаў. Збоч працаваў экскаватар. Пачуў дзявочы смех, але нікога не ўбачыў, як ні ўглядаўся. Дрыжэў, пакрысе сунуўся экскаватар, угрызаўся каўшамі ў мяккую зямлю — блішчэлі на сонцы белыя іклы. Следам — па абодва бакі траншэі — выраслі аднолькавай вышыні два ўзгоркі зямлі.

Дзяўчына падавала трубачкі з чырвонай гліны, а сяброўка, седзячы на глыбіні — у кабінцы, клала іх на пясчанае дно.

Косцік зацікавіўся іх работай, аж нагнуўся, зазірнуў у канаву, галавой заківаў — ты глядзі, а я і не ведаў, як гэта робіцца, прыдумалі ж...

Але цікавасць тут жа прапала — ішоў жа за іншым. Да каго б гэта падступіцца, каму пагнуць мацюкоў. Не будзеш жа тыя «ласкавыя» словы гаварыць вось гэтым дзяўчатам — што ім, як і сыну яго, чым больш прарыюць канаў і траншэй, тым больш і заробяць.

— Што згубіў, дзядзька? — падала голас з металічнай кабінкі, што сунулася па дне канавы, дзяўчына ў зялёнай шапачцы — Алёнка. — Нас шукаеце, на спатканне прыйшлі? Мо каторая прыглянулася?

— От сарокі, ім абы пасмяяцца, — махнуў на іх рукой ляснік, — толькі спатканні ім наўме...

— А як смешна, а як весела?

Экскаватаршчык праз задняе акенца пазіраў на дзяўчат. Да яго і накіраваў Косцік. Вось у яго ён і папытае, хто ў іх тут начальнік.

Дзверцы прачыніліся, і з кабінкі выглянуў экскаватаршчык. Міхалап здзівіўся:

— То ты, сын?

Але Сяргей не чуў яго пытання — працаваў рухавік. Ён заўважыў бацьку яшчэ раней, як той шыбаваў да іх па полі, але работу кінуць не мог — праходзілі акурат цяжкі грунт. Прамарудзіш колькі хвілін — вада залье траншэю.

Сяргей заглушыў рухавік, саскочыў на зямлю, махнуў дзяўчатам:

— Алёнка! Аксана! Канчай работу — абед!

Бацька пазіраў па сына і не пазнаваў яго: быў у рабочым адзенні, адсвечвала на сонцы светлая чупрына, у вачах спакойнасць і сталасць, ішоў насустрач няспешна і цвёрда, як чалавек упэўнены ў сабе, у сваёй рабоце. Косцік прывык яго бачыць дома не такім, там ён выглядаў дамашнім, свойскім, а тут нейкая перамена адбылася. Строгім здаўся, сур'ёзным. Стаяў, чакаў, калі падыдзе.

— Здароў, бацька, — прамовіў сын стомлена. — На экскурсію да нас прыйшоў? Ну, глядзі, глядзі, мо ж ніколі і не падыходзіў да такой машыны.

— Не падыходзіў, а вось цяпер бачу, што за звер такі. Ніштаватая тэхніка. Нам бы такую ў лясніцтва...

— Навошта?

— Спатрэбілася б. Яшчэ не абедаў? — заклапочана спытаў бацька.

— Не. Хацелі скончыць.

Дзяўчаты паглядалі на іх, зразумелі, што за дзядзька да іх наведаўся. Алёнка пырснула смехам, што так пагаварыла з Сяргеевым бацькам — цяпер саромелася, хавалася. Весела падаліся да вагончыкаў, дзе была сталоўка, пайшлі напрамкі, смеючыся, нешта расказвалі адна адной.

Месца выбралі пад разгалістым, каржакаватым дубам, дзіўна, як ён і ўцалеў у полі, удалечы ад лесу. Косцік раскрыў сумку, выклаў усё, што паклала Паліна. Нарэзаў хлеба, па кавалку каўбасы. Сяргей дзве апошнія ночы дома не начаваў, як і Віталь. Пад пагрозай быў план, таму хутчэй хацелі пусціць экскаватар у работу. Жавалі, маўчалі. Косцік тэрмас адкруціў, паналіваў у кубкі гарачага ўзвару.

— Тут ясі, у сталоўцы?

— Ага. У нас гатуюць няблага. З кепскім абедам асабліва не напрацуеш.

— Яно так. Але дамашняе — смачнейшае.

— Правільна, — Сяргей глядзіць некуды ўдалеч. Ён не праяўляе ні радасці, што прыйшоў да яго бацька, ні задаволенасці — голас спакойны, сцішаны.

— Як працуецца табе тут, сын?

— Добра. Планы выконваем.

— Планы? Па чым?

— Па пракладцы дрэнажу.

— А-а, а я думаў, што па глумленні зямлі.

Сяргей паглядзеў на бацьку, усміхнуўся. Паставіў пусты кубак на сумку, прылёг, зашамацеў пажоўклым лісцем.

— З твайго боку яно, можа, так і выглядае.

— А з твайго, сын? Чаму ў нас павінны быць два бакі — мой і твой? Што, мы на дзвюх планетах з табою жывём — зямля ж на ўсіх адна.

— Бацька, ты не хочаш глядзець у будучыню. На гэтым балоце з цягам часу зашуміць збажына. Людзям патрэбен хлеб.

— Ведаю. А чаму, скажы мне, не навучыцца чалавек вырошчваць высокія ўраджаі на тых землях, што ёсць,— не трэба тады і рэзаць зямлю каналамі і канавамі, ёй не баліць, так? Тут жа жылі качкі, буслы сяліліся ў Спрымачове і бліжэйшых вёсках, а цяпер іх няма. Чаму?

Ды таму, што няма ім чаго есці — ні лягушак, ні вужоў. Ды ў калодзежах вады нямашака па вёсках. Вось і выходзіць, што глуміце вы зямлю.

— Так, я згодзен, можа, дзесьці мы і няправільна робім. Бо вопыту яшчэ ў нас небагата.

— Дык чаму ж без таго вопыту бярэцеся за такую адказную работу? — не ўтрымаўся бацька.

Але сын не падхапіў яго рэпліку, як і не чуў яе, спакойна працягваў:

— Бо трэба спяшацца. Але з кожным годам мы вучымся, не паўтараем памылак. Зямля зразумее нас, бацька.

— Зразумець-то зразумее, але ці дарue, Сярожа?

— Павінна дараваць. Вось мне даверылі калектыў — брыгаду. Далялі план — укласці дрэнаж на плошчы ў дзвесце гектараў. Старшыня калгаса як не штодня прыбягае да нас, моліць і просіць, каб хутчэй выканалі работы і здалі аб'ект. Яму не церпіцца засеяць поле і сабраць высокі ўраджай. Калгас выйдзе з прарыву, бо застаўся даўжніком перад дзяржавай па здачы збожжа. Значыць, памагаем...

Косцік уздыхнуў, незадаволены тым, што з сынам ідзе гаворка не так, як хацелася. Сын не разумее яго, хапаецца за сваю работу, за планы, за помач калгасу.

— Памагаеце... А чаму ж калгас не мог сабе памагчы ці калгасу тая навука, агранамія? Чаму клалі і клалі ў зямлю хімічныя ўгнаенні, каб паболей узяць, а тым самым яна прыйшла ў нягоднасць, атруцілася зямля... І атрымаўся вялікі пшык. Першы памочнік у зямелькі— дажджавы чарвяк, які рыхліць зямлю, памагае быць пладароднай, а хімія загубіла яго, і цяпер надзея зноў на тыя ж угнаенні і вашы асушальныя балоты...

Сяргей уважліва выслухаў бацьку, стараўся разабрацца ў словах, зразумець іх сэнс. Бацька, выходзіла, таксама гаварыў праўду. Толькі адкуль у яго такія вывады? Прачытаў дзе ці сказаў хто?

— Бацька, але ж існуюць і дзяржаўныя планы, задачы. Даводзяцца заданні па меліярацыі. Я перавыконваў планы, за што атрымаў ордэн, стаў лаўрэатам прэміі камсамола. Дык, выходзіць, я няправільна жыву? Няправільна працую?

— Насі на здароўе свой ордэн, але я б яго, калі на тое, не чапляў бы на грудзі. Мо калі табе будзе і сорамна за яго. Ордэн за меліярацыю... Хм... А ці не думаў ты, сын, што цябе некалі, як адумаемся, як у нас розум праясніцца, гадоў так праз дзесяць — дваццаць, а мо і пазней, спытаюцца: «А колькі ты, таварыш Сяргей Міхалап, зямлі палескай загубіў?» Што адкажаш тады, сын?

Сяргей усміхнуўся, прыняў бацькавы словы за жарт. Але падсвядомае пачуццё падказвала, што бацька, мусіць, не жартуе. Ніколі і ні з кім Сяргею не прыходзілася вось так размаўляць. Гаварыў з вучонымі, партыйнымі работнікамі, выкладчыкамі, але ні ў адной размове не адчувалася трывогі і занепакоенасці. Таму і быў упэўнены, што

робіць вялікую і патрэбную работу. Пра брыгаду і пра яго асабіста пісалі ў газетах і часопісах, хвалілі ўсё тое, што ён, Сяргей, рабіў. І верыў, што сапраўды яны «ўпрыгожваюць» зямлю, «пераўтвараюць» Палессе, «абнаўляюць адваяваныя ў балот плошчы...».

— Дык, выходзіць, бацька, ты супраць меліярацыі?

— Не, я не супраць. Я супраць псавання зямлі. Трэба ўсё рабіць з розумам.

— Дык падкажы, як тое рабіць.

— Каб ведаў, то падказаў бы. Параіў бы. Але пакуль не ведаю. І ўсё роўна супраць. Бо баліць душа. Колькі шкоды нарабіла хімія, колькі пчол загублена, звяроў... А цяпер і вы памагаеце. Як шкоднікі якія.

— Ну ты і даеш, бацька. Так яшчэ мяне і ў ворагі залічыш.

— А ты і ёсць вораг, калі не цяміш сам, што робіш.

Бацька сапраўды не жартаваў. Сын гэта зразумеў.

Адчуў найперш. І не ведаў, як гаварыць далей, што сказаць, каб бацька стаў і на яго месца, і сказаў другое.

— Ты некалі гаварыў мне ці пытаўся, чаму я не страляю ў ляснога звера, — працягваў далей Касцік, дастаючы з кішэні пачак цыгарэт, узяў адну і прыкурыў няспешна. — Не магу я гэта зрабіць. З-за барсукоў, якіх некалі ў вайну забіў, каб вылечыць хворую Вікцю... Кахаў я яе вельмі, сын... А потым яны мне сніліся кожную ноч, забітыя. Я даў слова: калі застануся жывы ў той вялікай вайне, то зберагу іх. Хаця б у сваім абходзе. Зберагу ад гібелі, зберагу ад чалавека. Сёння прыходжу да хаты самага старога барсука, Паласаціка, а ён не жыве ўжо там — памяняў прапіску. Чаму? Ды баіцца грукату тваіх машын. Ды і раўчук высах непадалёк ад яго нары. А яму без вады нельга... Калі ж вы асушыце ўсе балоты, то не будуць жыць і іншыя звяры, перастануць весціся і птушкі — не будзе для іх корму. Усё ўзаемазвязана ў прыродзе. Вось так, сын.

Сяргей маўчаў. Тое, што бацька прызнаўся пра Вікцю, Сяргея асабліва не здзівіла — у іх ішла сур'ёзная мужчынская гутарка. Калі Сяргей страчаўся з Вікцяй, то найбольш уражваў яе позірк: ніхто так, як яна, не глядзеў на яго. Пра тое ён нікому не казаў, як і Стась. Злавіў у бацькавым голасе ноткі глыбокай і шчырай павагі да жанчыны — пра астатняе ён баяўся дадумваць...

Цяпер жа зразумеў, што яму лепей паслухаць, пра што казаў бацька. Сяргей як бы і згаджаўся з бацькам, але тады думалася пра роўныя і прасторныя меліяраваныя палі — без кусціка і без хмызнякоў, на якіх будзе расці ячмень і кукуруза, лён і каноплі, бачыў новыя пасёлкі з высотнымі дамамі, якія ўзводзяцца дзякуючы меліярацыі. Ці снілася раней такое палешуку, каб сярод балота

выраслалі цэлыя гарады? Бацьку паслухаеш — із ім можна пагадзіцца, прыняць яго бок, пахваліць нават за смелыя думкі. Але ж і ў яго, Сяргея, свая праўда. Выходзіць, што жыве дзве праўды. А ці можа быць такое — дзве праўды? Калі так, то якая з іх галаўнёй, якая мацней? Але ж не, напэўна, такога не бывае — павінна быць адна і толькі адна праўда.

— Не маё, канешна, дзела, але папытаць хачу — у сшытку тваім запісана: «Ты уж извини меня, Серж...» Што б гэта азначала — словы з песні ці што іншае?

— Песня, бацька, песня. Але, мусіць, адспявалася ўжо.

— Раскажаш?

— Мо некалі...

Бацька курыў, думаў пра нешта, прыслухоўваўся да цішыні. Выгляд у яго стомлены і заклапочаны. Выцертая на шыі сарочка, худы зарослы твар, ціхі голас — усё гэта выклікала ў сынавай душы шкадаванне да бацькі ён ніколі ў сваім жыцці не схібіў, не падаў несумленнага прыкладу. Вось і за лес перажывае, за звяроў. Змагаецца, нажывае сабе ворагаў... Але сын ганарыўся бацькам, толькі брала шкадаванне, што ў зацятай барацьбе сваёй не бачыў наперадзе перамог.

— Шкада, сын, што ты не хочаш мяне зразумець, — бацька ўздыхнуў, пагядзеў некуды ў глыб зямлі, прыжмурыў правае вока.

— Чаму ж не разумею, разумею. Толькі мы неяк павярнулі з табой гаворку.

— Вот чытаю ў газетах, што меліярацыя на Палессі аб'яўлена ўдарнай камсамольскай будоўляй. Будоўляй! Тут не будаваць трэба, тут музей у пару ствараць, заказнікі, каб захаваць рэдкіх звяроў і птушак А мы, не абдумаўшы, на балоты з экскаватарамі рушылі, нутро яму вываротваем, смуродам жывое душым... І дзе цяпер ты журавініну знойдзеш, без якой цяжка пражыць чалавеку. Дробязь, здаецца, а яна чалавеку жыццё падаўжае, кроў маладзіць. Ніякая таблетка не заменіць. А грыбы? Дзе падзеліся грыбы? Побач з балотамі раслі баравікі, але цяпер няма балот, няма і грыбоў. Вось які ланцуг, сын, ірвецца ў прыродзе. Стварыў чалавек нават Чырвоную кнігу. Напісаў туды, якія звяры могуць знікнуць. І мае барсукі там. Гэта пісала правая рука. А левая? А левая без шкадобы падпісала прыгавор лясным і балотным жыхарам... Не пражыве чалавек без птушак і звера. Так, як і дрэва без зямлі. А вы і дрэвам падсякаеце карані. Сохнуць яны, няма ў рэчкі парасона, і яна мялее, знікае зусім. А як жа чалавек без вады? Кепскія дзяды...

— Ты, бацька, ужо ў філасофію палез, — незадаволена папракнуў Сяргей. — Мы ж не толькі асушаем, а і ваду даем тым мясцінам, дзе не хапае вады: арашэнне праводзім.

— Адкуль вы ведаеце, колькі вільгаці хоча зямля ў гэтым годзе, колькі ў наступным? Прырода сама ведала пра тое. А атрымліваецца што: прыходзіць вясна, разліваюцца рэкі, ваша арашэнне ці асушэнне прыродзе невядома, і яна стараецца даць зямлі столькі вады, колькі ёй трэба...

— Ды не так, бацька, ты разумееш. Ёсць жа датчыкі, якія гавораць пра ўсё. І летам па дрэнажных трубах і падаецца вада. А хіба ж не было засухі, што пакутавала зямля, і ніхто не мог ёй памагчы...

— Было. І не раз.

— Вось бачыш. А на тых палях, дзе мы зрабілі ўсё, такога неназіраецца — расце ўсё і буяе. Бачыў такое?

— Чаму ж не — за Бобрыкам.

— Правільна. Дык што — ворагі мы сваёй зямлі?

Цяпер маўчыць Косцік, цыгарэтай зацягваецца, паціскае плячыма. Зноў Сяргей не за тое хапаецца, усё даказаць хоча, стараецца — сабе і бацьку, што іх, меліяратараў, няма ў чым папракнуць.

— Не, не ворагі. Мы крыўдуем на зямлю, калі яна не апраўдвае нашых надзей. А як ёй, беднай, сапсаванай і атручанай, быць добрай і ўдзячнай? Га? Ты думаў пра тое?

— Не, не думаў.

— Дык ты супраць асушэння балот?

— Супраць. Акрамя, канешне, старых балот, дзе нічога не знаходзіць для сябе ні звер, ні птушка. А вось маладыя балоты... О, тут чалавек не ведае, што гэта такое. Гэта само жыццё, яе самы буйны цэнтр. Дзе знікаюць балоты, там робяцца сухімі лясы, міма пралятаюць гусі і качкі, не спыняюцца там жоравы і буслы. Тады мялеюць рэкі. На асушаных месцах тонкі ўрадлівы пласт абавязкова размываецца, зносіцца вясновай вадой. Тады не застаецца ні лугоў, ні ворнай зямлі — адзін пясочак. Гэта прамая дарога да засухі, да пустыні — такім можа стаць наша Палессе. Вось так, калюх-калюха...

Сяргей нахмурыў лоб, закусіў губу. Задумаўся.

— Ты вельмі злы на мяне, бацька. І таму несправядлівы.

— На цябе злы, — Косцік кісла ўсміхнуўся, паклаў яму руку на плячо, сціснуў яго. — І на тых людзей, хто прыдумаў машыны, на якой ты працуеш, на тых, хто ў асушэнні балот бачыць багацце Палесся. Не ў гэтым яно, не ў балотах...

Ён глядзеў са шкадаваннем на сына, што той шмат чаго не разумеў, бо ніколі не прыдаваў значэння простым рэчам, з якімі

сустракаўся кожны дзень. У вучылішчы пра «другі бок медаля» не тлумачылі, замоўчвалі, а меліярацыйныя арганізацыі заманьвалі да сябе доўгім рублём, зрэдку жытлом. Адчуваў Міхалап: той размовы, дзеля якой прыйшоў да Сяргея, на жаль, не атрымалася. Пакуль што. Значыць, сын яшчэ не гатовы да яе. Няхай хоць пакуль задумаецца. Не сёння, дык заўтра дойдзе да яго, цюкне ў галаву што пэўнае...

— А чаго ты на мяне злы, бацька?

— Чаго? — звузіў пачырванелыя вейкі Косцік, уперыўся позіркам у сына. — А таму, што неразумна жывеш. Таму, што нішчыш тое, што я ратую. Што грошы атрымліваеш за глум, шкоду, а не за добрыя справы.

— Гэта ж дзяржаўная...

— Не перабівай, — прыкрыкнуў бацька, павысіўшы голас, — за глум грошы атрымліваеш. Карацей, маё рашэнне такое — заўтра ж, неадкладна, падасі заяву на звальненне...

Сяргей недаўменна глядзеў на бацьку.

— Я не змагу спакойна жыць, ведаючы, што ты плугамі курочыш Палессе, самыя прыгожыя куточкі. Цяпер спіць навука, спіць сумленне ў людзей, толькі зямля і прырода крычыць, крычыць нема, — ніхто не чуе... А таму і табе тут не месца. Не, не месца... Такое маё слова.

— Ты ў мяне не спытаў, ці хачу я гэтага?

— А я ў цябе і пытацца не буду. Я ў зямлі пытаўся. І пачуў яе адказ.

— Бацька...

— Што — «бацька»? Што? Каб і нагі тваёй заўтра не было тут, ясна табе?

Голас у бацькі стражэў, напіваўся нейкай перакананай злосцю, крыўдай. Але ўжо цішэй і з адчаем дадаў:

— Не ганьбі бацьку на старасці гадоў. Не для таго я цябе гадаваў, не для таго...

Сын маўчаў. Канец размовы павярнуўся нечакана, мусіць, і для самога бацькі.

— Механізатары ў лясніцтве трэба. Работы хопіць. Не хочаш у нас, у калгас ідзі — сей і расці хлеб. Аб сабе добрую памяць пакінеш, а не такую, як тут, халтурную...

Сяргей нічога не адказаў.

Косцік узышоў на пагорак, азірнуўся: не было чуваць таго працоўнага гудзення. У Міхалапа адразу паспакайнела на душы. Нешта ж павінна перамяніцца ў лепшы бок, павінна. І Паласацік вернецца на сваё селішча...

Ён прайшоў яшчэ адзін квартал, прыслухаўся: ціха. Падумаў: «От бы так заўшэ, ёлкі зялёныя...»

Леснікі былі ўжо ў рабоце — яшчэ здалёк чуў покліч Хіялавай «Дружбы».

— Вось і Косцік, — першым заўважыў яго Хіял, — успомнілі пра цябе, а ты тут як тут.

Жанчыны сядзелі круга ля вялізнай кучы зялёнага лапніку.

Абярнулася Вікця, сагрэла позіркам, з жанчынамі загаманіла.

— Надта доўга ты там развітваўся, — не утрымалася Арэнка, дробненька засмяялася, ківаючы некуды ў кустоўе.

— Ды ледзьве вырваўся з абдымкаў. Гарачая папалася...

## Грабянец для Жамойды

Свае клопаты Казімір у Еньску справіў хутка, без затрымкі. Да вячэрняга аўтобуса было шмат часу, і ён папёрся на шлях — лавіць спадарожную машыну. Але яны ехалі паўз яго, абдавалі смярдзючым дымам.

Лесавоз спыніўся каля яго нечакана, ён і не «галасаваў» яму.

— Го, Жамойда!— выгукнуў з кабінкі Паўло Шкварка.— Дадому?

— Ага. Падвязеш?

— Сядай.

Жамойда скінуў фуражку, паклаў на калені, насоўкай выцер лысіну.

— Ну, брат, у цябе галава, як калена, муха сядзе — паслізнецца, — засмяяўся Паўло, глянуўшы на бліскучую паверхню галавы.

— Быццам у самога шавялюра, — не пакрыўдзіўся Казімір, паглядаў на дарогу.

— Быў і я лысы, а цяпер паглянь.

Паўло прыўзняў кепку. Жамойда глядзеў і не мог паверыць — колькі гадоў хадзіў лысы, а тут не пазнаць — які чуб! Шкварка страсянуў для пераканананасці галавой.

— Адраслі за паўгода. Магу рэцэпт даць. Недарэмна, канечне.

— Ды я любыя грошы... — застагнаў Казімір умольна, усё яшчэ дзівіўся свайму адкрыццю.

— Дзве пляшкі каньяку, па дзяшоўцы.

— Хоць і чатыры. Кажы як.

— Пісаць ёсць чым?

— Есць. — Жамойда дастаў з кішэні самапіску, з сумкі выняў кнігу. — Дыктуй...

Машыну страсянула на выбоіне, і Паўло вывеў яе на роўнае. Ужо калі выехалі зноў на шлях — быў аб'езд, калі роўна запрацаваў рухавік, загаварыў:

— Баба Настазя рэцэпт дала. Машыну дроў за тое ёй прывёз — парэзаў і пакалоў. Дык вось, напачатку два кіло ліпавага мёду — і толькі ліпавага. Кіло мукі пшанічнай, ды абавязкова прасеяць яе праз густое сіта. Флакончык селікатнага клею — для курчавасці. Я ўліў адзін і бачу, слабыя курчы, звісаюць, рассыпаюцца. Буду яшчэ мазямі мазаць. Так, што яшчэ? Ага, паўшклянкі алею... І во, некалькі ягадзін шыпшыны — сушоных, канечне. Перамяшаць усё гэта, зрабіць цеста. А потым гэтую сумесь накласці на галаву і надзець зімовую старую шапку. Спачатку трэба паляжаць, каб на галаве загусла і прыклеілася. Насіць тры дні. І спаць нават так...

— Шыпшыну сухую браць?

— Сухую, гэта ўжо для шаўкавістай валасоў.

Казімір спраўна запісваў, падзякаваў, сунуў кнігу

назад у сумку.

Паўло давёз яго да самай хаты. Ляснік саскочыў на зямлю, яшчэ раз падзякаваў. Вадзіцель газануў і паехаў далей — браць у Косцікавым абходзе будаўнічы лес. Ён спяшаўся, бо паабяцаў вечарам вярнуцца назад — за гадзіну да пачатку спектакля...

Вялікая мука для Косціка пісаць справаздачы ў лясніцтва. А іх трэба было складаць для бухгалтаркі Алены Юніцкай на год аж чатыры разы — на кожную пару года.

Яшчэ нічога было б, каб пісаў толькі пра зробленую работу. Бо і сапраўды, як яе палічыць Алене, каб налічыць зарплату. Але ж калі ён дабіраўся да графы, у якой неабходна было пісаць, колькі прыблізна ў яго абходзе ваўкоў і ласёў, баброў і янотаў, выдраў і лісіц, то яго заўсёды разбірала зло — гэтага яшчэ не хапала. І таму ён ніколі праўды не пісаў, хлусіў. Або коратка паведамляў, што зніклі. «Анігаткі, — думаў ён, злуючыся на тых бюракратаў, што прыдумалі такое, — так я табе і напішу , дзе ў мяне жывуць барсукі і ласі... Туды ж адразу кінецца Жамойда, і пасля яго ніводнага следзіка звярынага не застанецца. Лукашэвіч, вядома, папер тых ад Жамойды не хаваў. Цяпер-то яно, праўда, павярнулася на лепшы бок — апусцілі галовы і Лукашэвіч, і Жамойда, прыціхлы..»

Баяўся Міхалап і за плантацыі лекавых раслін — ніколі не расказваў, дзе і што расце. Дзяліўся ляснік толькі з Ладуцькам і Карабковым. Адсылаў старога, калі часу не меў, у тыя тайныя лугавіны па кацялапкі, братаўкі, бералёзкі... Нізоўкі тыя амаль ніхто ніколі і не

касіў — былі яны нізкія, ля балот, не вынесеш і не вывезеш накошанае...

Барсукоў ён ахоўваў як мог. Віна перад імі з гадамі

не аціхала, а, наадварот, расла ўсё больш і больш. І не толькі перад імі.

...На ўзболатку, у густой і высокай траве, залапаталі крыламі, узляцелі ў паветра качкі.

У сінім і празрыстым блакіце, высока ў небе, плыў шуляк — не варушыў крыламі.

Дурманіў галаў пах чабору і багуну.

На вяршыні высокага клёна дзяцел аблюбаваў сабе кузню-забаву, і адтуль раз-пораз даносіўся траскучы звон — бы хто адцягваў канец металічнага спружыністага прута і рэзка адпускаў яго. Іншы пачуе, несвядомы, надумае, што так крэкча ці злуецца невядомая лясная птаха. І памыляецца...

Не пабыў Косцік месяц на Барсучыным хутары, як ён прывык называць яго, і адчуў тугу і неспакой — як там паласатыя яго звяркі, ці не здарылася што з імі? Апошнімі днямі было шмат клопатаў з-за пажараў. То ў адным месцы ўспыхнуць, то ў другім. Косцік то сядзеў з біноклем на вільчыку дуба, — каля хаты змайстраваў назіральную вышку, то бегаў па сваім абходзе, работу рукам і галаве шукаў.

Ад клопатаў, бегатні і недаядання Косцік высах бы той таран, проста дзіўна было, як яшчэ і трымаўся на нагах. Шчокі паўпадалі, здавалася, прыліплі пашчэнкі адна да адной, нос завастрыўся. Твар загарэлы, як не чорны. Вочы ў Косціка з жывым бляскам, неспакойныя, як і заўсёды, хіба толькі адна непрыкметная рысачка з'явілася ў іх — жыццёвая мудрасць.

Чакалі ўстойлівага надвор'я — на Тройцу не замачыла зямлю. Косцік з мужчынамі выкасіў Броньку, высушыў і склаў на леташнія і новыя адзёнкі сена — зімой па марознай дарозе перавязуць яго ў хлявы лясніцтва. І пра сваю карову не забыўся — два калеснікі прывёз у двор, і сыны перацягалі яго на вышкі. Прагноз не падвёў, хто не запазніўся ці не ленаваўся, то сена прыдбалі.

А пасля ўжо спорна палілі дажджы. Спрымачоўцы радаваліся такому дажджу, бо пачало пікнуць долу бульбянішча, гурочнік пачаў жаўцець, а тут увачавідкі ўсё ажыло, зноў забуяла.

Неўзабаве ў лесе і каласавікі пайшлі. Акурат і ціха цяпер, пажары рэдка калі пасля такой макрэчы ўспыхвалі, хіба зласлівец які сярнічку ў шыгалле суне (і такое было, помсцілі лесніку), таму пайшоў да Барсучынага хутара са спакойнай душой.

Хваляваццa зноў за барсукоў былі прычыны. З месяц назад, калі праведваў іх, заўважыў няладнае — у барсуковай нары ляжалі косткі, ад якіх ішоў смурод. Касцік ведаў, што барсукі такога да сябе прынесці не могуць, не ў іх гэта характары і звычках. Гэты звер ніколі не прынясе да сябе ў нару нячыстае — надта ж яны далікатныя, чыстолі. Іх жыллё — вялікая загадка і цуд. У людзей няма такога, як у іх — і спальня, і адпачывальня, і сталовая, і радзільня... То, выходзіць, яна, ліска, — хітрая ды настырная, адваяваць сабе жытло хоча. Лянуецца рабіць яго сама, ды і лапы не для такой работы ў яе... Таму і надакучвае, падкідвае нечыстоты, нават нагадзіць можа, каб вывесці барсукоў з цярпення. Але барсук наколькі далікатны ў чысціні, настолькі ж і цярплівы — будзе выкідаць і выкідаць са сваёй нары «дарункі» Рыжухі...

Праз тыдні два пасля таго ненарокам завітаў на ўскрай Барсучынага хутара — хадзіў глядзець лугавіну на Алёсах, пад самай Вятчынкай. У прагаліне сосен прыкмеціў яе, Рыжуху. І здагадаўся пра ўсё...

Мінуў Міколікаў брод — некалі дзед Міколік, дзед Антося Кашэвіча, везучы на карове дровы, загруз тут з возікам. І мацюкаўся на ўвесь свет, скідаючы долу дровы, соек і сарок як на відовішча сабраўшы. Ад таго і празвалі так брадок спрымачоўцы...

Касцік выбраўся на пагорак з жорсткім верасоўнікам.

Пасля дажджу мяккая парнасць — каласавікі сапраўды падурному лезлі з зямлі, пераблытаўшы свае мясціны, — вытыркаліся як не на кожным кроку.

«Вось тут я і назбіраю сабе торбачку, — цешыў ён вока, гледзячы на грыбныя сем'і. З балотца, што злева было ад яго, патыхнула духмяным сенам, учора пакладзеным у валкі — Чыкан выкасіў: людзі ніколі не займалі тую траву, бо цяжка яму дапяць у далёкія пракосы. Так і гавораць вяскоўцы — «там, за Чыкановым балотцам...»

На боты наліплі сцяблы зверабою, малачаю і гаркоўніку. Касцік узяў лявей, туды, дзе стаяў ссохлы дуб — кульці выставіў у неба. Яго можна было даўно пусціць на дровы, але не чапалі — у ім былі дуплянкі, сяліліся сіваваронкі, на вільчыку галкі гнёзды змацава

лі, а яшчэ вышэй гняздзіўся чорны бусел — птушка вельмі чуйная і асцярожлівая. Інтэрнат, дый годзе!.

З бусла Касцік дзівіўся са сваёй схованкі. Блізка не падыходзіў — баяўся напалохаць. Вунь і буслянка Не такая, як у звычайнага бусла, уся навідавоку — ды яшчэ з колам ці бараной, чорны ўсё майстраваў сам, ды так, каб гняздо не было прыкметна для староннята вока.

Бусла ў гняздзе не было.

«Мо дзе паляцеў здабываць вужоў і лягушак»,— падумаў Міхалап, сядаючы на пень, не зводзячы вачэй з буслянкі — была яна на самым вільчыку, невядома на чым і трымалася. Закурыць не асмеліўся — мог учуць. Пазалетась Стась лазіў на дуб, каб разгледзець гняздо. З фотаапаратам падымаўся. Расказваў, што складзена яно з розных сухіх галін, сучча і ўвесь будаўнічы матэрыял змацаваны глінай і зямлёю.

Калі белы бусел трымаецца жытла чалавека, не баіцца яго, то гэты, чарвяк, зашываецца ў глухія і дзікія мясціны, узбалоткі, густа агароджаныя хмызнякамі. Калі ў вёсцы можа насяліцца некалькі белых буслоў і разам лятаць на паляванне, то гэтыя сяброўства не любяць і селяцца адзін ад аднаго на адлегласці — вечная, пэўна, боязь, што можа не хапіць корму.

Ад доўгага чакання Косцік ужо занудзіўся і хацеў ужо закурыць, дастаў з кішэні «прыміну», як пачуў над галавой свіст — нізка-нізка праляцеў бусел, ён яго і разгледзеў за кароткае імгненне — галава, шыя і крылы былі чорныя, бліскучыя, з залаціста-зялёным і сінім адбіткам — неба з альшэўнікам адбівалася? — толькі вось грудзі і жывот былі сіваватымі, а дзюба такога ж колеру, што і ў белага.

Чарняк падляцеў да буслянкі, але не чулася прывычнага клёкату. Ён карміў буслянят моўчкі, нават прысеўшы ў гняздзе, баючыся, каб не высачылі, не прыкмецілі. Асцярожны і хітры. Косцік глядзеў, не адрываючыся, на буслянку, забыўшыся на курава, падумаў: «Цікавая птушка, далікатная і разумная». Колер мяняўся ў залежнасці ад надвор'я і зелянiны. Летась, як бачыў яго ў промнях сонца, то пер'е ў яго было не то залацістае, не то бронзавае — цяпер жа сінню адсвечвала, зеленню, фіялетавым колерам пераліваласа.

Бусел як ціха прыляцеў, гэтак жа непрыкметна і кульнуўся з гнязда — толькі ўжо ў процілеглы бок.

Усё, хопіць адпачываць, падумаў Косцік, падымаючыся, і толькі цяпер закурыў з асалодай — дарога яго ішла далей па лініі, працярэбленай адразу пасля вайны. Калі адмервалі і абазначалі новыя кварталы.

Дарога вывела да Алёсаў. Далей перайшоў рачулку па кладках, доўга ішоў насупраць цячэння — па беразе, па асацэ, па куп'ях, а потым рэзка скіраваў управа — на ўзгорак, спрэс пакрыты гнуткім чаборам.

Гэта і пачынаўся Барсучыны хутар.

Пракрадваўся асцярожна, стрымліваючы дыханне. Ён выбраў зручнейшую дарогу, каб Рыжуха, калі яна яшчэ ваюе з барсукамі, не пачула яго з ветрам. Стараўся, каб не хруснула ніводная галінка пад

нагамі, каб не страсянуў неасцярожна ніводнага лістка. Стаіўся. Прыслухаўся: навокал было ціха.

Бачылася і гара, дзе жыў барсук і свавольнічала каля яго ліска. Толькі штосьці яе не відаць цяпер — мо адчапілася, мо зразумела, што задума не здзейсніцца. Падыходзіць не асмельваўся, каб не сапсаваць усё. Рашыў стаіцца на гадзіну-дзве, пачакаць, пераканацца ў чым-небудзь... Нешта трывожыла позірк справа, і Косцік павярнуўся, не вытрымаў: як нейкі магніт цягнуў. Пачуў сычэнне гадзюкі — яна ўспаўзла на пень і, здавалася, не хацела ўцякаць з аблюбаванага месца. Ён усміхнуўся — папярэджвала, каб не сунуўся да яе, не раздражняў...

— Ляжы, пяжы, месца і табе хопіць, — прашаптаў Міхалап, адсоўваючыся далей ад яе, каб не патрывожыць.

Здалёк ужо глянуў, усеўшыся: Модніца ляжала, скруціўшыся шэрым кольцам. Галава не падымалася, значыць, супакоілася, грэлася на сонцы...

Заверашчалі ў кустах сойкі. Яшчэ далей, у вершалінах, чахкаў дзяцел. Ветру амаль не было, твар авявала прахалода. Болей гадзіны ён не пакідаў сваёй схованкі — цярпліва чакаў. Над ім раскінула голлі ліпа, злева расла ляшчына. Перад вачыма, за хвоямі, праглядваўся ўзгорак.

Злева нешта мільганула — шэрае і нячутнае, але Косцік не зварухнуўся, нават не павярнуўся ў той бок. Вочы выпруціліся пільнасцю, слых лавіў, здаецца, шэпт травы. Яна, Рыжуха... ён убачыў яе на прагалку — ліска асцярожна пакруціла галавой, трымаючы нешта ў зубах, і Косціку прыйшлося нагнуцца, каб не ўбачыла, ведаў: вока ў яе зоркае. Але воч не спускаў, назіраў...

Зноў азірнулася. Нічога падазронага не заўважыўшы, супакоілася. І — шуснула ў нару. Зноў, значыць, дабівалася свайго. Асцярожна падняўся, трымаючы ў руках стрэльбу. Рушыў да яе. Спыніўся на пэўнай адлегласці, чакаў...

Рыжуха скора ж і вынырнула, села каля жытла Паласаціка, нічога не падазравала. Калі ж апамяталася і ўбачыла чалавека непадалёк ад сябе, было позна — з рулі стрэльбы вылецеў агонь.

Ліса спрэс была пакрыта каростай. І рыжай яе нельга было назваць. Патыхаў ад яе нездаровы смярдзючы пах...

— Закапаць цябе трэба. Заразная ты. Аднясу я цябе на Алёсы, там у мяне і рыдлёўка прыхавана...

Ён абадраў лыка ад ліпавай галіны, звязаў заднія ногі. Знайшоў дручок, прасунуў яго і паклаў на плячо. Мусіць, у барсучынай нары яна збіралася і памерці — была лёгкая, бязважкая. Здабываць ежу

сабе яна ўжо не магла, ела, напэўна, толькі падаль, што пакідалі пасля сябе ваўкі. А рэшту, значыць, яна прыносіла барсуку.

Ішоў глухімі сцежкамі, каб і не напаткаць каго, каб людзі і не бачылі пакалечаную хваробамі лясную жыхарку.

— Здароў быў, Міхалап!

На табе, Божа, што нам нягожа — на яго вырачыўся Жамойда, стаяў, ухмыляўся.

— Куды гэта ты спяшаешся, га? — зычна спытаў Казімір.

«Во, гэтага яшчэ не хапала — сустрэць яго, — думаў незадаволена Міхалап. — Лес вялікі, тысячы гектараў, а нам і размінуцца нельга на вузкай сцежцы...»

— Ды во, прыйшлося... — не скідаў Косцік дручок з пляча.

— Я ж бачу, упаляваў, — зларадні чаў Казімір, глядзеў на лісу — абышоў Косціка. — На мяне дык у міліцыю заяўляеш, што пастраляў усіх лісіц ды куніц, а сам вунь...

— Дык я ж... — раззлаваўся Косцік, што не хацеў яго зразумець Жамойда, налівaўся гневам і незаслужанай крыўдай. — Сам бачыш, што з яе стала.

— «Дак я ж, дак я ж...» — перадражніў Казімір, язык высалапіў. — Лісіц сярод лета страляеш, што забаронена законам. На каўнер Паліне? — Жамойда здзекаваўся з Косціка, як хацеў, адчуваючы ў гэты момант сваю перавагу, радуючыся, што знянацкасцю збіў яго з панталыку, пакепліваў, прыдумваючы, каб як бальней укалоць яго, адпомсціць за апошнюю сустрэчу. Быў ён у зімовай шапцы, у нейкіх бінтах, і Косцік ніяк не мог даўмецца, чаго гэта ён у такім убранні — галаву застудзіў? — Скажу, не высокага гатунку каўнер выйдзе, але тваёй Паліне і такі сайдзёць...

Сказаў і пасунуўся ў гушчарняк, каб не даць апамятацца Косціку. А ён стаяў, разгублены і зняважаны, не ведаючы, што здарылася, у чым ён прайграў...

— Кароста ў яе! — крыкнуў наўздагон.

Але слоў яго Казімір не чуў — быў ужо далёка, а мо і чуў, але не адгукваўся: сваё ён ужо сказаў — і не абыяк...

Косцік да Спрымачова дабраўся толькі пад вечар, калі дрэвы кідалі ад сонца доўгія цені.

Духата пакрысе ападала. Прахалодны вецер студзіў патыліцу. Не даходзячы да рэчкі, пачуў, як там шумна плёхаліся ў вадзе дзеці і моладзь. Дарослыя гэтую моду яшчэ не ўзялі.

«А чаму б і не акунуцца ў выхадны дзень? — як бы пярэчыў некаму Міхалап. — Адпачынак — святое дзела...»

Убачыў, што купаліся найбольш дзеці. Убачыў і Алеся сярод хлопцаў, нырцы даваў. Ляжалі на тым беразе дзяўчаты, хлопцы разам з імі.

За кустом вербалозу, да яго спіной, сядзелі хлопец і дзяўчына. Гаварылі пра нешта, смяяліся. Між іх ляжаў абярэмак белых лілій. Успыхнула злосць: «Бач, лілії ім для кахання трэба, а тое, што яны завялі адразу, ім душа не баліць...»

Падышоў да іх, нахіліўся, узяў адну кветку з доўгім карычневым сцяблом, спытаў:

— Навошта ж такую прыгажосць губіць?

Абое павярнуліся, і ён здзіўлена ўбачыў, што перад ім сядзелі Жамойдаў сын. Валік, і дачка Галіна.

«Во, гэтага толькі мне і не хапала...»

— Тата, ён для мяне іх нарваў, — пачырванела, нясмела пачала апраўдвацца дачка, сумеўшыся, што бацька бачыць яе першы раз у ліфчыку і плаўках, ды яшчэ пры хлопцу. Яна заўсёды саромелася пераапранацца перад бацькам.

— А ты хто — царыца заморская, каб такое хараство дзеля цябе губіць?

— Канстанцін Мінавіч, мне здаецца... — пачаў абараняць Валянцін Галю, але не дагаварыў, Косцік яшчэ больш узарваўся і перабіў яго:

— Табе здаецца іншае, што ты заблудзіўся і не ў тыя вароты нос свой точыш.

— Тата...

— Цыц, ёлкі-маталкі, а цябе каб апошні раз з гэтым абібокам бачыў. Марш адсюль, пакуль дубца не выламаў ды не адлупцаваў.

Галя яшчэ больш пачырванела, адчула сябе няёмка, што абражана родным бацькам — ніколі бацька так не сварыўся на яе, але маўчала, нічога не гаварыла, паднялася, накінула на плечы блакітны, у кветкі, сітчыкавы халацік.

— Тут вы не правы, — падняўся Валянцін.

— А ты б ішоў адсюль і не ўказваў, — спакойна параіў Міхалап — рыкашэтам вымяшчаў свой боль на малодшым Жамойдзе, не змогшы аддаць яго там, у лесе. бацьку. — Кветачкі дорыць, бачце. Чаму толькі вас вучылі ў інстытуце? Яны ж, лілii, у Чырвоную кнігу занесены. А, што з табой гаварыць, табе ці чырвоная, ці сіняя. Рукі мала паабрываць за іх.

— Ну, знаеце, — не вытрываў абразы Валянцін.

— Знаю, знаю. Ідзі, хлопча, дадому. А ноччу паабяцай Верны белую яхту і кругасветнае падарожжа...

Валянцін зніякавеў. Паглядзеў здзіўлена на Міхалапа, пасля на Галіну, разявіў рот, хацеў нешта сказаць — і не сказаў.

Адно хіба непакоіла, брала шкадаванне: Валік быў Вікцін сын... Але непадобны быў на яе ні кропелькі — увесь у бацьку, выліты. І характарам, і паходкай. Шкада стала Вікцю — не знойдзе яна ў сыне апоры.

Было жаданне самому пакупацца, змыць з сябе пот і пылоту, але расхацелася ды і не той момант. «Не, лепш я ўжо ў дзеда лазню напалю ды папаруся, — рашыў ён і падаўся берагам дадому. — Ды і даўно венічак бярозавы па спіне хадзіў...»

Галіна ішла позаду, маўчала. Перад самай вёскай, як падышлі, мірганўў і сказаў:

— Што, на бацьку засердзілася? Няласкава пагаварыў? Так трэба было, дзіця маё, пагаварыць з ім. Пусты ён чалавек, па свеце без разбору словы раскідвае.

Не крыўдуй, з кім хочаш праводзься, толькі не з ім. Гэта ён з Веркай Чыкановай баіў байкі пра падарожжа, абяцаў шмат.

Дачка зразумела, ціха адказала:

— Я не злую. Я купалася, а ён падсеў.

— Ну то і добра. Прабач, калі ў нечым пакрыўдзіў. Пайшлі дадому...

У варотцах іх сустрэла Лоша, матлянула галавой, як дакарала, што позна ішлі дадому.

Барсук баяўся вылазіць са сваёй нары.

Той выбух, што грымнуў каля нары, напалохаў яго і сям'ю. Ён доўга валаводзіўся з Рыжухай, якая рабіла яму агіднасці, цярпеў яе здзекі. Як толькі наступала ноч, ён чысціў подступы да свайго селішча — адносіў далей смярдзючыя косткі, здохлых і задушаных птушак, нечыстоты, што пакідала хітрая і настырная суседка.

Здаралася, што ён пасля бег на жыраванне з жонкай і дзецьмі — трэба ж нагульваць тлушч на зімку. Бо будзе яна снежнай і марознай, а потым у цёплай хаце чакаць вясну. Прыбяжыць назад — а ўваход зноў завалены гніллю і брыдотай, хоць нос у зямлю хавай. Паласацік зноў прымаўся за работу, як і раней, злуючы на неўтаймаванасць лісі, гатовы разарваць яе на дробныя шматкі, як яна некалі на яго вачах качку з пераломаным крылом...

А аднойчы, блізка падпоўзшы да Рыжухі, калі тапталася ў нары, Паласацік адчуў, што яна смярдзіць смерцю. І ён спужаўся, пасунуўся назад: трывога закралася ў барсучынае сэрца — хвароба страшная, можа перакінуцца і на жыхароў нары. Тады ўцякаць трэба з гэтых мясцін.

І суткі, і двое, і на трэція не выходзіў са сваёй хаты Паласацік. На чацвёртыя, пасля выбуху, асмеліўся, падпоўз да выхаду.

Першае, што адчуў, — перастала сваволіць Рыжуха. З панадворку несла чыстым паветрам. Надакучыла, значыць, пераканалася, што не дамагчыся ёй свайго, ён асмялеў яшчэ больш і выглянуў з нары. Нікога не было. Прынюхваючыся да зямлі, ён спыніўся — на траве і пяску ўбачыў кроў. Яна яшчэ не высахла і не выветрылася пад ветрам. То была яе кроў, Рыжухі... Няўжо выбух і яна — адно? Паласацік рабіў круг, яшчэ адзін вакол гэтага месца і адкрыў для. сябе яшчэ адно — выбух зрабіў чалавек. Той чалавек, які паслаў маланку на ваўка, выратаваўшы яго, Паласаціка, ад вострых зубоў.

Выратаваў Дабрадзей. І ўжо не першы раз...

Ён лапамі зраўнаваў тую мясціну, дзе была кроў. А на сыры пясок пусціў гарачы струмень — абазначыў сваю тэрыторыю.

Вікця якую ўжо раніцу падымалася позна. Не спала, ляжала ў ложку і няўцямна глядзела ў столь.

— Чаму сняданак не рыхтуеш? — стаяў у парозе спальні Жамойда — рыхтаваўся галіцца, у руках трымаў мыльніцу і памазок.

— Сам гатуй. Абрыдла мне ўсё...

Казіміра гэта ўзлавала. Падышоў да яе, на грудзях жменяй згроб начную кашулю, крутануў, размахнуўся, ударыў.

Яна маўчала. Нават не плакала...

Вечарам, у суботу, і канчаліся трэція суткі, як абляпіў Жамойда сваю галаву па рэцэпце Шкваркі.

Пякці галаве пачало на другія суткі. Але Казімір трываў, цярпеў. На трэція месца не знаходзіў.

Прыджгаў дадому хутка, кінуўшы ў лесе недаробленую работу. Папрасіў жонку, каб нагрэла гарачай вады — памыць пасля ўсяго галаву...

Вікця ўключыла газ, паставіла каструлю з вадой.

Ён зняў шапку, кінуў яе ў парог. Пасля пачаў павольна адрываць месіва ад галавы. Яно засохла, стала бы панцыр чарапахі, не паддавалася. Тады ён папрасіў Вікцю наліць у таз вады. Апусціў туды галаву.

Нічога не памагала. Вікця здагадалася, што Паўло ўтварыў над Жамойдам вясёлую камедыю.

— Падла, прыліпла — не адарваць... — соп Жамойда, не ведаючы, якой даць рады — круціў і так, і гэтак, усё яшчэ не здагадваючыся, што адбылося. — І не сказаў, як далей быць. Памажы, Вікця, не адарваць.

— Як жа я памагу, давай ірвану, — сказала сур'ёзна, душачы ў сабе смех.

— Не-е... Прыдумай што. Мо ручніком гарачым галаву абгарнуць? Размякчэе?

Яна пастукала па ссохлай масе — аж звінела, як каска матацыкліста зрабілася.

— А ты матацыкл купі, — нечакана параіла яна.

— Навошта?

— Шлем гатовы, і здымаць не трэба.

— І ты туды ж... згаварыліся... — Жамойда застагнаў. — Заб'ю гада, з двух ствалоў. Насмяяўся, падла. А я дурань... М-мм... Што ж зрабіць?

Тады ён сабраў усю сваю волю і цярпенне, са злосцю крутануў на галаве «шлем». Крычаў і раў, праклінаючы Шкварку і сябе заадно, што паверыў. Адарваў... Кінуў вобземлю, да люстэрка кінуўся — не стала і тых валасоў, што былі. Павырываў з коранем...

Раніцай ён пабег да лесавозаў — шукаў Шкварку. Мацюкаўся, абяцаў адправіць на той свет.

Карабкоў падпісваў дакументы, разам з усімі глядзеў на раз'ятранага лесніка.

— Я яму, падлюцы, не забуду, так і перадайце. Хай сюды і носа не кажа. Я яму пакажу Настазін рэцэпт — век помніць будзе...

Хутка прыехаў і Шкварка. Ішоў смела насустрач Жамойдзе, усміхаўся, быў без шапкі — з ранейшай лысінай. Казімір вочы вылупіў, не цяміў нічога...

— Вечарамі я ў народны тэатр хаджу, — тлумачыў Шкварка, рагочучы, на Жамойду ўсхваляванага гледзячы, — а ў той дзень мне грым зрабілі. Каб, значыцца, да ролі прывыкаў — з кучаравай прычоскай я павінен быў выглядаць... вечарам на сцэне. А Жамойда ўбачыў, пазайздросціў маім кучарам, рэцэпт маладосці папрасіў.

Рогату было на ўвесь Спрымачоў.

З таго часу вяскоўцы да мянушкі Жмонда дадавалі «матацыкліст са шлемам».

Бацька, выходзіла, не жартаваў, калі казаў Сяргею, каб кідаў сваю меліярацыю. Прыпяў яго дома вечарам зноўку. На твары рашучасць і суровасць.

Тады ж, як вярнуўся ад Громава, адразу падзяліўся Косцік радаснымі навінамі. Сказаў, што сустрэча прайшла добра, што сакратар выслухаў уважліва яго, нагаварыліся ўдосталь.

Бацька шчыра верыў у добрыя перамены.

— Дык як. сын? Трэба рашаць, — настойваў бацька. — Выбірай: ці сваё меліяратарства, ці лес... Потым будзе позна.

— Дай падумаць, бацька, — хмурыўся Сяргей, не могучы прыняць рашэння, — начальнік ПМК Крутанем прапанаваў пасаду інжынера. — Цяжка парваць усё раптам...

Да Косціка Карабкоў завітаў пад вечар, калі сонца ўтапілася ў Княжына. Ляснічага Косцік амаль не прызнаў — твар зямлісты, вочы чырвоныя і невідушчыя.

— Налі, Косцік, не магу болей трываць... Смыліць усё.

Міхалап наліў па паўшклянкі — сабе і госцю. Паліна ў двор выйшла, як адчувала, што нездарма ляснічы прыйшоў да іх. Прыходзіў рэдка, у самыя цяжкія для яго часіны.

Дзынкнулі чаркамі.

— Ты вось што, Канстанцін Мінавіч...

Рыжыя бровы апусціліся на вочы, схавалі іх, на галаве быццам агонь разгараўся — усе валасы меднавогненныя.

— Ты не зважай, што я такі сёння... Ат, нешта са мной робіцца. Ты чаму сабе хату не пабудаваў, як Жамойда, га? Не гаворыш, маўчыш... Шкада, што не настояў, не прымусіў.

Карабкоў схіліў галаву, сціснуў яе далонямі. Цяжкацяжка ўздыхнуў. Як плакаў. Які цяжар ляжаў у яго на душы, Міхалап не ведаў, але здагадваўся.

— У вайну, брат, лягчэй было. А цяпер сябе ненавіджу. Сёння ў цане брахня, падман. Напляцеш сто бочак хлусні, даклад ружовы напішаш — анёлам станеш, ягнём бяскрыўдным. Тады такога цябе і начальства паважае, ты тады ім верны і надзейны памочнік. А я не хачу, Косцік, сіропам іх карміць. У нас тут з табой — сэрца баліць і душа... А скажы ім праўду, вушы затыкаюць і слухаць не хочуць. Дагонім і перагонім? На чым — дагонім? А ці перагонім? Якая бязглуздасць ва ўсім. Капні яшчэ па грамчыку, Косцік. На глыток. Мне ж піць нельга. Дазнаецца жонка — павесіць, яй-бо...

Міхалап і сапраўды наліў па глытку — ведаў хваробу ляснічага. І не памятаў ніколі, каб той калі напіўся да чорцікаў.

Сярод ночы ў дзверы пастукала ўстрывожаная жонка Карабкова.

— Канстанцін Мінавіч, ці няма ў вас Андрэя Рыгоравіча?

— Не, няма. Звечара быў. А што здарылася?

— Трывожна мне. Апошнімі днямі сам не свой. Цяжка яму, вельмі цяжка.

— Мо ў канторы сядзіць. Казаў, што паперы нейкія дапісаць яму трэба.

Карабкоў грудзьмі ўпёрся ў стол. Падклаў пад галаву выдаўжаную руку. Ў другой трымаў тэлефонную чорную трубку. Чуліся кароткія гудкі. Ляснічы паглядаў у акно, якое выходзіла ў Княжына.

...Карабкова хавалі ўсёй вёскай.

Школьнікі на падушачках неслі ваенныя ўзнагароды ляснічага, былога капітана-артылерыста. Леснікі -толькі цяпер убачылі, якім заслужаным чалавекам быў Карабкоў: ніколі не расказваў пра вайну і не насіў узнагарод. Як саромеўся ўсё роўна.

Вечарам, пасля памінак, бацька вярнуўся дадому, сеў на лаўку. Падсеў Сяргей, паклаў руку на калена:

— Я ўсе зразумеў. Я выбіраю, бацька, Княжына...

Косцік моўчкі сашчаміў сынаву далонь, ледзь заўважна хітнуў галавой.

Пасля пахавання Карабкова ў ім канчаткова выспела цвёрдае рашэнне.

Косцік, не дайшоўшы да Міколікавага броду, спыніўся каля тоўстай алешыны. Пастаяў у роздуме, паразважаў. Між алешын, з таго боку брадка, згледзеў Жамойду.

«Паджартую я з яго трохі, — надумаўся нечакана, і па-дурному ўжо гарэзлівая думка авалодала ім. — Не вечна ж яму пакепліваць з мяне...»

Міхалап стаіўся за алешынай, якую спаднізу абступілі густыя кусты з крапівой і дзікім хмелем. Калі ж Жамойда амаль параўняўся, не дайшоў з крокаў дватры, з-за алешыны высунулася чорнае, бы руля ружжа, тапарышча, і Косцік зычным голасам скамандаваў:

— Рукі ўверх!

Жамойда каманду выканаў бездакорна і з маланкавай хуткасцю, выпусціўшы з рук сумку, — ладкаваў на хаду нешта ў ёй. Збялеў, напалохаўся і нічога не разумеў. Але рук не апускаў, мусіць, чакаў нейкай развязкі ці новай каманды.

— Вольна! — загадаў зноў Міхалап, выходзячы са сваёй схованкі. Смяяўся шчыра і гучна, дадаў здзекліва, мацуючы ямчэй на плячы стрэльбу: — А здавацца ў палон ты мастак. Маста-ааак!..

Жамойда стаяў збялелы і адначасна напужаны, прыгнечаны абразай. Ад злосці забіла дыханне, здранцвеў язык, ніяк не мог апусціць рукі — анямелі.

— Ты... ш-шш... — скрыгатнуў зубамі, прашыпеў, — падла ванючае. Ды я шчас цябе адным махам да прадзедаў адпраўлю. — Ён ужо наставіў рулю — прама ў грудзі.

— Не адправіш, — уздыхнуў Косцік, нават і не глядзеў на яго, бы і не заўважаў чорнай адтуліны, з якой мог вылецець смяротны зарад.

Усё ж зірнуў у вочы свайму ненавісніку. Зірнуў зняважліва і пагардліва. «Дудкі, хрэна ты мяне возьмеш! Усе жыццё іклы выстаўляў, а не ведаеш, што рот у цябе бяззубы, гнілы. Пужаць мяне ўздумаў. Хопіць нас ужо...» У галаву лезлі дурныя каламбуры. Адчуваючы свой верх над ім, Косцік адчуваў унутраную асалоду. Помсціў за сябе і за ляснічага. І за Жменьку.

— Ўбяры стрэльбу! — раптоўна крыкнуў са злосцю Міхалап, вызверыўся, надаючы яшчэ больш пагрозлівы выгляд.

Руля апусцілася долу. Закалаціліся рукі — як хто піхнуў у плячо. Жамойда панікла апусціў галаву. Зняў зялёную, выгаралую фуражку, выцер рукавом лоб. Правёў языком па асмяглых губах.

«А баязлівы ты, як тхор, і такі ж смярдзючы...»

Жамойда ўпрэў ад дарогі, ад спякоты, ад нядаўняга сполаху. Ад яго патыхала едкай салёнасцю і прэлымі анучамі. У такую гарачыню — і гімнасцёрка, і боты. Як салдат — зімой і летам адным цветам.

«І як яго такога толькі Віксця церпіць? Няўжо не бачыць, не гідуе, кладучыся з ім у пасцель? А мо і не спяць разам, калі пасля Валіка дзяцей больш не расстараліся... Ды разумее, ведама, яна ўсё, быць такога не можа, каб не разумела і не адчувала. Па вачах не раз бачыў, што пакутуе, што мучаецца з ім. Даўно не радая свайму замужжу, ды што зробіш, кніжку жыцця нанава не перапішаш. Каб усё было добра, то даўно пацеркі выкінула б на сметнік. І за ўвесь век не ўведаць, не здагадацца Жамойдзе, што азначаюць тыя пацеркі...»

А якім франтам хадзіў-скакаў па Спрымачове! З якім зухаватым выглядам цягаў той фінагенцкі партфель! Кавянёй носа дастаць нельга было.

Казімір не згаджаўся з паражэннем хіба толькі позіркам. Паставай жа нагадваў набітага сабаку. Вырачыўся на Міхалапа незадаволена, не прызнаючы сваю капітуляцыю. Толькі цяпер падняў, угледзеўшы, сумку з зямлі. Зашпіліў, засунуўшы скураны язычок у металічную скабачку, павесіў шлейку на плячо. Пасля і стрэльбу.

— Вельмі шкадую, што тады, на стозе, не ўсадзіў у цябе свінец. Не было б марокі мне з табою цяпер і ўсе гады.

— Ты ўмееш толькі ў спіну. Наўздагон. Каб я сказаў Громаву, што ты страляў па мне, што параніў у плячо — цябе тады расстралялі б...

— Я памагаў партызанам.

— Памагаў. Адчуў, што канцы прыйдуць табе і тваім памагатым. Калі выспятка далі немцам пад Масквой. От тады ты разумным стаў і партызан уважыў.

Касцік ужо збіраўся ісці далей, зрабіў колькі крокаў, але павярнуўся, спытаў:

— Дык ты мо і віну сваю выкупіў перад людзьмі, га?

— На мне крыві няма.

— Няма? Віцця бачыла, як ты Ладзікаву жонку на мароз выганяў.

— Што ты прычапіўся да мяне — «выкупіў віну»? Ніякай на мне віны няма. Мне і паперку выдалі, вось яна... — ён дрыжачымі рукамі расшпіліў нагрудную кішэню, выцягнуў замусоленыя вокладкі, адгарнуў іх і ўзяў нейкую патрапаную паперчыну — мусіць, не раз трос перад чыімсьці носам, во як цяпер. — Тут і пячатка стаіць, і падпісана. Разабраліся. Сказалі, каб жыў спакойна, што не вінаваты я...

— На сваю совясць пячатку не паставіш! Няма такой пячаткі! — крыкнуў Касцік, адначасна падумаўшы: «Хто ж, цікава, падпісваў яму такую паперку?» — Людзі, толькі людзі могуць сказаць, вінаваты ты ці не...

— Я людзям і казаў. Папярэдзіў колькі разоў, каб хаваліся, што аблавы будуць.

— Хацеў у людзей спагаду вымаліць.

— Я шкадаваў людзей.

— Жыццё ты сваё шкадаваў. Ты і шкодзіць не хацеў там, дзе цябе ведалі. Не, ты быў хітрай. Цябе Гунтэр на лясныя распрацоўкі адпраўляў? Было і такое. Але ж ты ў той час паліў Зарэчча ў Лельчыцкім раёне — дзяцей у агонь кідаў.

Жамойда зноў спалатнеў — як нябожчык. Нахмурыў калматыя бровы, воўкам глядзеў на Міхалапа. Каб мог, утаптаў бы таго ў зямлю, і слядоў ніхто не знайшоў бы.

У вершалінах алешын пагрозліва гудзеў вецер.

Сыпаліся на зямлю лісцяныя жоўтыя воблакі.

Вочы ў Казіміра неспакойна забегалі, шукалі апірышча. Зноў забіла дыханне.

— Хто тое бачыў?!

— Ды бачылі. Маўчыш? Язык у задніцу ўскочыў? Ото каўтай цяпер. А то вечна з форсам ходзіш, улады над табой няма.

У Жамойды нядобра перакрывіўся твар і зрабіўся гідкім, праціўным. Ступіў крок, другі і паплёўся, важка ўбіваючы боты ў рыжы ціпец, пакідаў на ім шырокія сляды — як на лыжах ехаў па блішчастай расе...

Ідучы, Касцік адно шкадаваў: на людзях бы гэта сустрэча. Каб хаця адзін спрымачовец убачыў і пачуў.

А з Зарэччам Косцік так, для праверкі. Хадзілі такія чуткі. Жанчыны з Зарэчча быццам бы прызнавалі яго, але доказаў не было. Тое і ўратавала Жамойду.

Як перайшоў брод, пачуў ззаду стрэлы — адзін, другі...

«То не па мне страляў, канечне. Але ў неба, разганяючы птаства і свой страх. А мог бы і парашыць. І канцоў не знайшлі б».

Толькі цяпер адчуў, як слаба падрыгвалі ногі і нервова пачала тузацца левая нага. Нялёгка даўся жарт.

## Праклён неба

Да Косціка млявасць падступілася адразу, як толькі перайшоў Міколікаў брод. Цененька звінела ўвушшу, забалелі вочы — бы хто сыпануў пяском. Ногі сталі чужыя, непаслухмяныя. Было жаданне дзе-небудзь прылегчы. Адчуў, зразумеў: напаткала бяда, насцігла ўсёткі і тая хвароба, учапілася кашчавымі пальцамі-кіпцюрамі... Даўно не турбавала — гадоў з восем.

Назад ужо не вярнуцца — позна. Успомніў, што быў недалёка ад Яркавага дуба, пакіраваў да яго. Там будзе чакаць Яе прыходу. Там яго ахопіць здранцвенне і глухата да ўсяго навакольнага. Ён як усё роўна здаваўся ў палон свайму злейшаму ворагу і ўжо нічога з сабой парабіць не мог. Ведаў, што працівіцца дарэмна.

На хаду выняў з кішэні два зарады і паклаў іх пад корань сасны — прыгроб лісцем. Потым забярэ, бо хутка ён ужо не будзе адказваць за свае ўчынкі, і невядома, што можа здарыцца, калі ў руках будзе зараджанае ружжо...

Да дуба ён амаль дабег і абрадаваўся, што апярэдзіў Яе. Ад гэтага стала весялей — цяпер ужо нічога, цяпер ён можа ўпасці на мяккае лісце і спакойна чакаць, калі на яго абрынецца памарака.

Ён ужо нават весела падганяў няпрошаную госцю — ну, давай, чаго саромеешся? Ты ж стукаешся ў сэрца, у душу, жорстка скруціш усяго, павяжаш рукі і ногі. І розум, і памяць. Нашлеш глухату, зробіш сляпым і безабаронным. Ну, давай, ну, чаго спынілася? Мо спалохалася, гадаўка, га? Давай, здзекаваліся. Не дабіў фашыст і бандыты, то ты пастарайся ўжо, не падвядзі!

Падумаў і адкінуў ад сябе стрэльбу. Каб і яна не была пад рукамі. Косцік набраў поўныя грудзі паветра, выдыхнуў яго, развёў рукамі, раскінуў іх.

— Чаго маўчыш, Ярка? Бачыш, дружа, як мяне абходжвае мая палюбоўніца? Во ўлюбілася, братка, во як абдымае-цалуе, з абдымкаў сваіх не выпускае, у клешні ўшчамляе. Думаў, што забылася на мяне,

разлюбіла, што Жыльскі памог ад яе пазбавіцца, а яна, бач, у каханні мне зноў спавядаецца. Во шэльма, каб яе панос праняў... Ну й дзяла!

Косцік гаварыў, каб не маўчаць, каб і не думаць ні пра што. Асабліва пра тое, чаго баяўся — што няпрошана насоўвалася на яго.

— Падкажы, Ярка, што рабіць? Як уцячы ад яе, маёй палюбоўніцы? Бо я яе і ў твар нават не ведаю. Мо пачвара якая гідкая, падкажы, Ярка?

— А чаму б і не? Я ведаю, браце, як ад яе вызваліцца.

Голас зляцеў аднекуль зверху — разам з пошумам галін. Але Косцік не здзівіўся, нават абрадаваўся, што знайшоўся ў яго субяседнік, з кім можна пагаварыць, перакінуцца словам-другім.

— Дык падкажы, навучы.

Міхалап пачуў, як нешта заварушылася за яго спіной, затрашчала — бы ламалася што драўлянае. Павярнуўся, каб разгледзець пільней, і не ўбачыў дуба. Замест яго на тым месцы, дзе быў тоўсты, пакрыты шызымі мохам, корань, стаяў невысокага росту невядомы чалавек, бы волат. Апрануты ён быў у нетутэйшае адзенне, не старое, але ж і не новае — у лапцях, на галаве магерка, за спіной мяшэчак са срэбнай тканіны.

— Ты... хто? — пераняло дыханне ў лесніка.

— Во, бач, і не пазнаў, — уздыхнуў волат, — кожныі дзень прыходзіш да мяне, расказваеш пра ўсе свае беды і няшчасці, просіш падказаць і параіць, а тут, — во дзіва! — не пазнаў.

— Ты — Ярка?

— Га-га-гаа!.. Пазнаў. Я ведаў, што пазнаеш мяне. Тут непадалёку мой верны сябар Вятчынка жыве. І князь Радзівіл. Толькі мы яго на гэты раз чапаць не будзем. У нас другое заданне сёння.

— Якое заданне?

Ярка развёў рукамі, нахіліўся да свайго госця і тут жа адразу паменшаў у памерах — ператварыўся ў нізкага, амаль як Косцік, трошкі вышэйшага.

— Ну, вось цяпер мы можам гаварыць з табой бліжэй. Але нядоўга, бо я спяшаюся. І ты таксама там будзеш, Косцік?

— Дзе гэта?

— На судзе. Сёння ж судны дзень. Хіба табе ніхто не казаў пра тое?

— Не, Ярка.

— Тады я і клічу цябе туды. Ты там павінен быць. Ты пра ўсё ведаеш.

— Пра што — ведаю?

— Збірайся. Пайшлі.

Дрэвы, што стаялі нядаўна перад ім, пачалі ажываць.

Яны рабіліся мужчынамі і жанчынамі, у іх былі розныя апранахі, даўнія, паляшуцкія, і здавалася, што Косцік пазнаваў сярод іх і знаёмых.

Ярка паклаў Косціку на плячо руку, як быццам утаймоўваў у ім здзіўленне і недаверку ад такога відовішча; тлумачыў, сцішваючы голас:

— Здзіўлены? А тут нічога дзіўнага і няма. Проста людзі, паміраючы, гінучы ў баях і змаганнях, станавіліся дрэвамі. Сёння яны, мы,— папраівўся былы паўстанец, уздыхнуўшы, гледзячы на пераўтварэнне дрэў у людзей, — зноў на момант станем людзьмі, жывымі людзьмі. Продкі павінны калі-небудзь судзіць сваіх нашчадкаў, спытаць у іх — ці правільна вы жывяце, ці ўсё робіце для таго, каб нашая матухна-зямелька квітнела, як сад, весяліла душу і сэрца, радзіла, як пладавітая жанчына. Нешта не так творыцца на зямлі — душна стала жыць, вятры нейкія незразумелыя нясуць на нашае лісце атруту. Мне боязна дыхнуць на поўныя грудзі — перашкаджае нешта...

Ляснік як быццам адчуў сваё дачыненне да ўсяго таго, што адбывалася на яго вачах. Усё сказанае супадала з яго думкамі.

— Пайшлі, ляснік.

— Куды, Ярка, скажы?

— На Ігналеву палянку. За Княжына — дзе некалі мы збіраліся на веча, як Вятчынка кіраваў ходам нашага паўстання. Там мы рашалі свае планы, намячалі, у якога багацея адабраць скарбы і каму з бедных аддаць. Мы шанавалі чалавечы гонар. Бо любілі сваю зямельку. Мы абаранялі яе ад ворага — свайго і чужога. Хацелі вам пакінуць у спадчыну ўрадлівай і прыгожай. Рэкі — поўныя рыбы, лясы — са звярамі, грыбамі і ягадамі. Сонца і чыстае неба.

— Як ты правільна і прыгожа гаворыш. А якая, цікава, у цябе, Ярка, адукацыя?

Волат засмяяўся:

— Лясная, брат, уперамешку з бізунамі, князя Радзівіла, яго Мосць і ядры яго мацеру... Тады я ўцёк ад яго, не захацеў падчыняцца, патураць яму. Вось сюды, да братоў лясных, і збег аднойчы.

— А як лячыліся вы, калі падступалі хваробы? — Косціку карцела ўсё ведаць, выпытаць, бо жыў ён у адчуванні не то казкі, не то нейкага дзівоснага сну, у якім перапляліся ява і сапраўднасць, фантазія і дзівоснасць.

Ярка пакруціў свой парыжэлы доўгі вус, хітравата паглядзеў на Міхалапа, адказаў з ахвотаю:

— Вось гэты лес і лячыў. Як і карміў. Травы лячылі адс, і кожны ведаў пра тыя зёлкі больш, чым пра самога сябе. А ты чуў пра такую — Дабрадзею? А гэта адна з самых ранніх славянскіх траўніц. Ага, правільна гаворыш, унучка Уладзіміра Манамаха. Гэта мы, людзі, яе так празвалі ласкава — Дабрадзея. А так яна мела імя — Еўпраксія Мсціславаўна.

Ляснік спыніўся, паглядзеў умольна на хлопца, да дзяружкі дакрануўся:

— Раскажы пра яе, вельмі хачу ведаць. Чамусьці не пішуць у нас пра яе, не расказваюць. Бы вораг яна нам. Ты раскажы, а я людзям перадам.

— Я коратка, бо часу бракуе. Еўпраксія, як была маленькая, праявіла вялікі інтарэс да народнай медыцыны — вывучала ўласцівасці зёлак. А потым і сама навучылася рыхтаваць лякарствы з іх. Хаця ж яна была і знакамітага роду, лячыла толькі багатых, але і да простага люду ішла. Да жыцця вяртала. Таму і назвалі Дабрадзеяй, што дабро рабіла для нас. Пытаеш, хто навучыў яе гэтаму цудадзейству? У той час быў на Русі афіцыйны ўрач, грэк Іаан Смер. Дзед Еўпраксіі, Уладзімір Манамах, выпісаў яго з Царграда. Можа, ён і перадаў ёй усё ўменне сваё. А ў той час лячылі толькі народнымі сродкамі. Еўпраксія рана стала жонкай. Мужам яе быў візантыйскі царэвіч Аляксей Комнін. Калі ёй споўнілася пятнаццаць гадкоў, яна з вясельным картэжам адправілася ў Царград. А ў той краіне свае звычаі — ахрысціць на свой лад. Далі ёй новае імя — Зоя. Па натуры яна была чалавек дапытлівы, смелы. Яе цікавіла ўсё на свеце. За кароткі час яна вывучыла мову мужа і настойліва пачала вывучаць навукі. А ў царэвіча, скажу табе, была вялікая-вялікая бібліятэка з замежнымі кнігамі вядомых грэчаскіх медыкаў Галена, Гіпакрата. Дабрадзея любіла падоўгу гутарыць з вучонымі, сваімі сучаснікамі. Вось тады ў Візантыі яна і напісала вучоную кнігу — адзіны ў той час старажытна-беларускі лячэбнік, які захаваўся, як і Біблія, прайшоў праз усе выпрабаванні.

«Вось бы мне дастаць тую кнігу, што пісала Дабрадзея, — падумаў Міхалап, — як бы многа даведаўся б я пра свае лугавыя і лясныя расліны...»

— Напісаны быў ён на грэчаскай мове, але ўсё, што яна пісала, быў вопыт Старажытнай Русі. Трыццаць пяць частак у тым лячэбніку. Пра гігіену, пра тое, што часы года і кліматычныя ўмовы ўплываюць на арганізм чалавека. Пра рух, спакой і сон. Пра лазню, якая вельмі ахоўвае здароўе і ўмацоўвае цела... Пра матку і дзіця пісала, як правільна ўжываць ежу. Думаеш, тады людзі не дбалі пра здаровы

род і дурныя былі? Не-е... Толькі ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя рускі гісторык Лопараў адшукаў гэтае сачыненне ў Італіі — у Фларэнцыйскай бібліятэцы Ларэнца Медзічы і ўстанавіў, што аўтарам той працы з'яўляецца наша Дабрадзея. Ён напіша тады, азнаёміўшыся з лячэбнікам: «Трактат Зоі меў для свайго часу важнае значэнне. Гэта даказвае факт карыстання ім з боку грэчаскіх медыкаў, якія ставілі Зою побач з іншымі ўрачэбнымі славутасцямі». Во, брат, яно як... Гэта ўжо ў наш час нейкі ўрач усклікнуў: «Што, каб не было наперстаўкі?!» То цудоўная зёлка. Неабходна чалавеку, як паветра, як сонца. І цябе яна вылечыць ад тваёй хваробы...

Хлопец замоўк, пачаў азірацца. Ззаду чуўся незразумелы гоман, усё грамчэй і грамчэй.

— Я пабег, Міхалап. Мяне чакаюць. Загаварыўся я. Убачымся там...

Паўз Косціка, піхаючыся, беглі і ішлі людзі. Твары ў іх былі напалоханыя, жахлівыя, быццам не маглі пазбавіцца ад бяды. Быццам ад яе не маглі ўцячы...

Людзей большала і большала. Воклічы рабіліся больш выразнымі, яны зліваліся ў адзіны трывожны гул. Хто ехаў на конях, хто на легкавіку, нават на грузавой машыне.

Да лесніка падышоў Ладуцька, паляпаў па плячы, спытаў засмучона:

— І ты тутака, калюх-калюха? Спрымачоўцы прыйшлі, Дзягцяр, меліяратары... Голас продкаў кліча на веча. Нашчадкаў склікаюць на судную бяседу...

«Усе нешта ведаюць, адзін я толькі здагадваюся пра ўсё. А цікава, Вікця тут?»

— Тут, а дзе ж ёй быць? — адказаў на яго думкі дзед, — за цябе хвалюецца, перажывае, каб не надта строга абышліся з табою.

— А хто са мною можа кепска абысціся?

— Яны. Продкі нашы, да якіх ідзём.

Дзед шыбаваў упэўнена, як быццам штодня хадзіў па знаёмай дарозе. Міхалап пакорліва клыпаў следам. Усё яшчэ аглядваўся, шукаў сярод люду знаёмага, найбольш выглядваў Любі-траву. Не знаходзіў яе.

Косцік заўважыў адну асаблівасць: сярод людзей не было дзяцей.

— Не адставай, таварыш ляснік, — абазваўся дзед і за рукаў пацягнуў, — бо спознімся.

— Туды ніколі не спознімся.

— Добра ты ведаеш, — хмурыцца Ладуцька.

А людзі напіралі, цяснілі справа і злева, спатыкаліся. Але ніхто не агрызаўся, не мацюкаўся. Міхалап упаў на калені, прыпаў да самай зямлі. Паспеў заўважыць, як борздзенька схаваўся пад трыпутнікам мураш і паглядаў цікаўна на людзей.

— На Ігналеву палянку! Праз Княжабор!

Ніколі, як і памятае Міхалап, так не абуджаўся яго абход. Ніколі тут даўно не было гэтулькі людзей. Хіба што ў вайну, калі партызанілі і людзі хаваліся ад карнікаў.

Ён не пазнаваў Княжына — усё перайначылася... Многія старыя дрэвы сышлі са сваіх месцаў — вунь і дзед Лунь з дуба сышоў, вунь і бацька з маці Косцікавы ідуць няспешна, перагаворваюцца, дзед Ерамей следам... Дзівосы, ды і толькі! Як і быць такое можа. Косціка піхнулі, і ён уліўся ў людскую плынь. Яго панесла, як скепку, па бурным цячэнні.

Спрабаваў выбрацца з гэтага палону — і не здолеў. Сцяна жывых людзей не выпускала яго, як ні сіліўся вырвацца, несла міжволі наперад, туды, дзе стаялі ўжо сцішаныя і гатовыя да нейкай вялікай работы палешукі...

Побач з Яркай размясціліся ваўкі і касулі, ласі Г яноты. Паласацік сядзеў, прынюхваўся да зямлі. Чаго ён туды падаўся, хіба на яго, Косціка, скардзіцца?

Нехта ўзяў яго за руку, і Косцік азірнуўся. Побач стаяла Любітрава і ўсміхалася. Як фарсіла маладымі белымі зубамі — ды яна і была маладая, такая, як выходзіла замуж — прыгожая, вачэй не адвесці.

— Ты тут даўно, Косцік?

Вусны ў яе прагныя, жаданыя, а ў вачах прасвечваецца светлая радасць. Толькі ад чаго — што яго, Міхалапа, бачыць, ці ад таго, што папала на такое відовішча?

— Не ведаю — як пайшоў у свой абход. А ты?

— Толечкі во прыбегла. Нехта пагукаў з вуліцы. Думала, што ты — твой быццам бы голас. Кажуць, што мы ў нечым перад продкамі правінаваціліся? Чым мы маглі ўгнявіць іх? Чым, Косцік?

— Не ведаю. Вось тут нам і абвясцяць.

Людзі заціхлі — як магутная хваля пракацілася па натоўпе і захліпнулася ля самага ўзбалотка.

«Гу-уух!» — уздыхнула грамада і замоўкла, не дыхала нават. Тысячы позіркаў упіліся ў продкаў. І пазнавалі іх, і не пазнавалі — па-рознаму расказвалі пра іх спрымачоўцы.

Угледаліся ў Ярку, Вятчынку, Броньку, Чэрценя, Ігналя... То людзі ў іх гонар далі назвы мясцінам. Людзі шанавалі іх памяць.

Вятчынка і Ярка дамаўляліся пра нешта. Паціснулі адзін аднаму рукі — нешта парашылі. Кіраўнік паўстання паглядзеў на людзей, кожнаму, здаецца, зазірнуў у душу. У Міхалапа ўсё схаладнела ўсярэдзіне.

— Людзі! Мы вас паклікалі сюды таму, што не можам больш трываць. Многа вы зрабілі добрага і карыснага. Аблегчылі сабе жыццё, сталі вольнымі і шчаслівымі. Мы зайздросцім вам, мы і марыць не маглі пра такое жыццё. Не хапала нават і фантазіі. Але ў той жа час мы і незадаволены вамі. І тут мы будзем судзіць вас па строгасці чалавечага закону. Не мы вас судзім, час судзіць. Вы самі сябе судзіце. Мы пачынаем Вялікі суд...

Людзі стаялі ўшчыльную адно да аднаго. Касцік хацеў спытаць у Вікці, чаму не прыйшла Паліна і хлопцы, чаму Жамойды няма, але ўбачыў і яго — сярод тых, хто стаяў непадалёк ад суддзі. Але ж яго нядаўна арыштавалі, сядзіць пад следствам — дакапаліся да крывавых спраў. Чаму ж ён тут?

Жамойда апусціў галаву і ўзіраўся ў зямлю. Жоўтая лысіна адсвечвала сонца — ці то жоўтымі былі промні? Побач з ім Касцік убачыў Дзягцяра, Яфіма Сямёнавіча, Тхарэнку, тых хлопцаў, што атруцілі зайцаў і Ладзікаву карову, што вылілі мачавіну на зямлю. І яшчэ шмат людзей побач з імі.

Як на лаве падсудных сядзелі.

— Людзі! Мы спакойна спалі стагоддзі, і наш сон ніхто не чапаў. Вялікія падзеі, якія вы перажылі — Светлы дзень, потым дні змагання і барацьбы,— шмат загубілі людзей. У нашым лясным царстве прыбавілася жыхароў. Кожны загінуўшы ператварыўся ў прыгожае дрэва. Мы ганарымся вамі, што не пасарамацілі радзіму, роднае Палессе. Хвала вам, на ўсе вякі хвала! — прамоўца пакланіўся народу.

— Касцічак, мне страшна! — прашаптала Вікця, мацней сціснула руку — вышэй локця.

— Не бойся. Ты ў чым вінаватая?

— Вінаватая, Касцік. Што не так любіла цябе, як трэба было. Як магла і хацела. Што каралі нашу твае і пярсцёнак заручальны, а не твая... Гэта Бог на мяне такую кару паслаў. За віну маю. За дурную галаву. Але ж я не вінаватая, бо то ён, Жамойда, сілай узяў мяне, ссільнічаў. Як я магла стаць пасля ўсяго тваёй жонкай?

— Не будзем, любая, пра тое. Ні ў чым ты не вінаватая. То я адкладваў няведама чаго. І страціў цябе. Ладна, у нас яшчэ будзе час. У лесніčоўцы дагаворым. Слухайма, што Вятчынка кажа...

Любі-трава ўздыхнула, павярнула галаву ў той бок, куды глядзеў Касцік, прыслухалася.

— Хачу крыкнуць вам, кожнаму асабіста крыкнуць, хто жыве на зямлі: «Адумайцеся! Што вы робіце?!» Вы разбудзілі нас. Нам душна стала. Дыхання не хапае — хіба будзеш дыхаць смуродам? У наш час такога не было. А як жа вы дыхаеце, людзі? Чаму ў вас столькі паміpae, як у дні змагання і барацьбы? Вы ж самі на сябе насылаеце хваробы і беды. А лекі, якія маглі б вам памагчы, вы топчаце нагамі. Нават не хочаце ведаць, што за лекі. Жылі і раней людзі на зямлі, але не было ў іх таблетак і ампул, шпрыцоў і ўколаў. Былі толькі зёлкі. За стагоддзе да нашага часу швейцарац — медык і хімік Парацэльс гаварыў, што калі прырода ўтварыла хваробу, то яна абавязкова стварыла і сродак супраць яе. Яго доўга і шукаць не трэба. Працягні руку і бяры. Але невядома, ці выратуюць ад хвароб дваццатага стагоддзя тыя траўкі. Не любіце вы сваю зямельку.

Вятчынка змоўк. Абярнуўся да Яркі, чырвоную накідку на плячы паправіў. Ярка падаў яму скрутак паперы.

— Падлічана, што на планеце сапсавана ўжо звыш паловы мільярда гектараў зямлі. Дзве трэціх — лясы. А восі» што пішуць вашыя газеты. «Забруджванне атмасфернага паветра адбываецца пры ўсіх відах дзейнасці чалавека і ва ўсіх сферах вытворчасці. Наяўнасць у паветры шкодных рэчываў вышэй санітарнай нормы адмоўна ўздзейнічае на здароўе чалавека. Дым, сажа і іншыя механічныя часцінкі трапляюць у лёгкія і выклікаюць лёгачныя захворванні. Сярністы ангідрыд, вокісы азоту, серавадарод, іншыя газы прыводзяць да захворвання шляхоў дыхання. Вокісы вугляроду, ці чадны газ, атручваюць арганізм, выклікаюць удушша. Яшчэ больш небяспечнымі для здароўя чалавека з'яўляюцца цяжкія металы — свінец, кадмій, ртуць, мыш'як, медзь, кобальт, нікель і іншыя... Есць, аднак, і другое ўздзеянне: ускоснае — забруджанае паветра дзейнічае на глебу, а праз яе на прадукты, што вы ясце. З агульнага ліку прамысловых выкідаў у паветра каля дзевяноста працэнтаў прыпадае на долю пяці галін — энергетыкі, нафтаперапрацоўчай і нафтахімічнай, хімічнай, машынабудаўнічай і вытворчасці буйных матэрыялаў. Усё, што трапляе ў паветра, рана ці позна вяртаецца на зямлю. Да нас з вамі. Вы ж — самазабойцы!

Дадам яшчэ думку вучоных. Найбольш таксічнымі з'яўляюцца поліцыклічныя пахучыя вуглевадароды, сярод якіх асабліва выдзяляюцца канцэрагенныя рэчывы — бензапірэн. У розных рэгіёнах зямнога шара даследчыкі адзначаюць павышаную канцэнтрацыю свінцу ў прыдарожнай паласе, які назапашваецца ў глебе, раслінах, паветры і атручвае ўсё жывое на зямлі — птушак, жывёл і чалавека... Таму мы пытаемся ў вас, людзі:

— Што вы робіце? Спыніцеся! Пяць стагоддзяў мы з Яркам стаялі спакойна і без трывогі, а апошнім часам стала не ўтрываць. Гукаю яго, гукаю праз Княжына, цікаўлюся, як стаіць ён на зямлі палескай, а ён адказвае нявесела — корні не дастаюць да вады, а з неба атрута сыплецца. Людзі гінуць у другі раз. Без стрэлаў паміраюць, падаюць на зямлю гнілыя дрэвы. Рыба ў азёрах і рэках гіне, бо вы зліваеце туды атрутны бруд. Эх, людзі, людзі!..

Міхалапа як бы што страсянула. Апошнія словы балюча адгукнуліся ў сэрцы. Яны быццам тычыліся толькі яго аднаго.

Вятчынка абвёў зноў позіркам шчыльны натоўп людзей, пільна прыглядаўся да кожнага — як выбіраў каго з агромністай грамады. Спыніў погляд на Жамойдзе.

— Вось ты, чалавек ці не чалавек, Жамойда. Вораг лесу і сваёй радзіме. Скажы, навошта ты забіваў нявінных ласёў і баброў? Чаму дазваляў злым людзям спілоўваць самыя лепшыя дрэвы, а грошы за тое складваў у гільзу з-пад снарада? Чаму ў цябе злое сэрца? Чаму жонку мучыш сваёй скнарнасцю?

Маўчыць Жамойда, галаву ў зямлю ўнурыўшы. Ды і што ён мог сказаць у сваё апраўданне? Недаўменне брала Косціка — адкуль пра тое ведае Вятчынка? Няўжо і Любі-трава наведвалася да дуба? Яго, Косціка, шукала?

— А Сяргей Міхалап? Ты на той машыне працуеш, што крата замяніла. Колькі ты зямлі сапсаваў, колькі каналаў праклаў, што з зямлі ўсе сокі ўцяклі. Ты падарваў маё здароўе і маіх сяброў. Стаяць бы нам яшчэ незлічоную колькасць сонцаваротаў. А так не ведаю, ці вытрымаем хоць з дзесяць.

«Божа, і Сяргейка мой папаў у тую кампанію, ды яшчэ побач з Жамойдам! Судзіць Вятчынка як злоснага ўрадзіцеля. — Косцік быў вельмі здзіўлены ад такой навіны — сын жа перайшоў працаваць у лясніцтва, значыць, грахі за ім засталіся. — Я ж казаў табе, сынок, што няправільна ты рабіў, ой, няправільна. Як жа цяпер табе віну выкупіць?»

— А што вы без нас, людзі?! Вам жа без нас не пражыць. Мы ж вам чыстае паветра даем. Перапрацоўваем яго, каб вольна дыхалася вашым лёгкім. А так у нашых лісцях адно чорнае гаўно, поры і жылкі забітыя поскуддзю. Мы не можам вам даваць кісларод. Чаму вы губіце нас, людзі?!

Вятчынка выклікаў вінаватых. І Дзягцяра, які свінафермай забрудзіў рэчку і патруціў рыбу, і вадзіцеля калгаса, які выліў мачавіну на поле і патруціў жывёлу... Яфім Сямёнавіч стаяў перад народам,

бажыўся, што кантужаны, што нічога кепскага не хацеў рабіць зямлі. Падняў начальнікаў — абласных і раённых.

Дзесьці за Княжынам пракаціўся буркатлівы гром. Зіханула неба зыркай маланкай — зашыпела, як пасварылася на людзей. Вятчынка паглядзеў на неба, паклікаў яго ў сведкі і памочнікі. І ўсе паглядзелі туды ж, следам за ім.

Упалі на зямлю першыя кроплі дажджу — буйныя і цёплыя. Яны пырснулі на твары людзей, і таму можна было падумаць, што людзі плачуць — па шчоках цяклі слёзы. А калі хто і сапраўды плакаў, то і тое адпавядала ісціне — словы кранулі кожнага.

— Пасля гэтага дзверы на небе расчыніліся. І голас сказаў: падыміся сюды, і я пакажу табе, чаму належыць быць пасля ўсяго. Я падняўся. Прастол стаяў на небе, і на прастоле быў Сядзячы. Пасярод прастола і кругa яго чатыры жывёліны. Вочы ў іх і спераду, і ззаду. І першая жывёліна была падобна льву, другая — цялушцы, і трэцяя мела твар, як чалавек. І чацвёртая была падобна арлу ў палёце. І кожная з чатырох жывёлін мела па шасці крыл кругa, і кожнае з вачамі — і ні днём ні ноччу не маюць яны спакою. Гэта радкі з Апакаліпсіса. То не пропаведзь, і я не святар. Я падказаць хачу, што ў тых словах закладзена, як вам разумець іх...

А воблакі сунуліся ўсё ніжэй і ніжэй, маланкі жыхалі ўжо над самымі галовамі. Здавалася, вось-вось зачэпяць людзей сваімі пякельнымі пугамі. І зноў ніхто не зварухнуўся, толькі дрыжыкі працялі кожнага.

Вікця калацілася, бы стаяла на зімовым холадзе без адзення. Міхалапу холаду не чулася, было горача, і таму тулілася да яго жанчына, грэлася, маўчала, сціснуўшы патрэсканыя ад смагі вусны.

— Невукаў сярод вас няма. І многія кінуліся ў навуку. Некаторыя не дзеля навукі пайшлі ў яе, а каб загарадзіцца ёю ад голасу продкаў. Тут, на гэтай лаве Падсудных, сядзяць людзі з НДІ — насілу мы разабраліся з Яркам, што гэта навукова-даследчы інстытут. Мы вас бачылі не раз у Княжына. Ды не за навуковым заняткам, а са стрэльбай у руках. Вы любіце прыроду не таму, што ў вас ляжыць сэрца да яе, а таму, што выгаду разам з Жамойдам цягнулі з лесу. Што вы карыснага зрабілі? Кніжкі пішаце? А на кнігі зноў жа папера патрэбна. Колькі вы дрэў пасадзілі? Аніводнага.

Зырка бліснула маланка. Асляпіла людзей, і яны падумалі, што настала ноч. Потым затрашчаў над галовамі пярун і мільёнамі гарматных выбухаў страсянуў неба. Але зноў ніхто не зварухнуўся, не адхіснуўся ад грому і маланкі.

«Дык вось што чытаў Вятчынка з Бібліі. Яны, продкі, разумелі мову звяроў — з імі паразумеліся даўно. А чаму ж мы не разумеем іх, чаму адракліся? Ці яны нас? Я свайго Паласаціка сэрцам адчуваю, а сказаць яму нічога не магу — не ўмею. Вочы ў яго разумныя, здагадацца можна толькі пра яго боль і мучэнні. Вочы — жывыя люстэркі душы. Можа, ён па вачах і мяне разумее Вятчынка ж казаў, што і на крылах у птушак і звяроў ёсць вочы. Правільна, яны ўсё бачаць і чуюць: калі дождж, калі перамена надвор'я...

Упобачкі стаялі Хіял, Макравец, Чыкан з жонкаю. Трошкі далей — Стась Мілёнак, Ладзік, Громаў тут аказаўся... Усіх сабралі прашчуры.

Дождж узмацняўся. Прутчэў вецер. Але людзі не адчувалі таго, як і Вятчынка — ён стаяў на ўзвышку і выдаўжыў рукі.

— Кожны з вас можа быць Богам, — гаварыў ён зноў і перакрываў грамавыя раскаты. — Але той, у каго добрае сэрца і шчырая душа, хто жалкуе ўсяго жывога на зямлі — і птушку, і звера, і паветра. Вось добрыя людзі некалі — даўно-даўно — і напісалі той зварот-аткравеніе да вас, якія жывуць цяпер і пасля вас, верачы, што іх зразумеюць і праз тысячы гадоў-стагоддзяў. А каб не загубіўся заклік-напамін, і вялася размова з вамі ад імя Бога. Бо ведалі продкі, маіх продкаў прашчуры моц рэлігіі. І ў той вялікай казцы-былі ёсць вялікі намёк — з добрымі пажаданнямі. Продкі вашы — той Бог. І вось ён судзіць вас.

— Вінаваты! Карай! — пачуліся галасы.

Так гаварыў з людзьмі Продак-Бог-Суддзя Вятчынка, кіраўнік народнага паўстання на Палессі супраць прыгнёту князя Радзівіла, прадаўжальнік спраў Дабрадзеі, сын беларускай зямлі, сябар ваўка і птушкі.

У яго мокры твар, валасы абляпілі гожы і валявы твар, і ён рукой закідвае іх назад.

Над галовамі людзей звілістым жоўта-чырвоным агнём успыхнула маланка, прыгнула людзей да зямлі. Раскалола надвае стары пахілы дуб — ці не Радзівіл з паганай душой стаяў маўкліва побач?

— О Божа, што гэта? — нехта ўпаў на зямлю, абхапіў галаву рукамі.

Маланкі паласавалі неба, сляпілі вочы. Нічога не было бачна вакол. Чуваць толькі стогны, крыкі, якія зліваліся ў адзіны жудасны гул. ён мацнеў, разлягаўся па Княжыце...

І тут падалося, што пад нагамі расступілася зямля. Як быццам зямля не вытрымала такога цяжару і ўтварылася вялікая трэшчына — глыбокая, без дна...

Закрычала побач Любі-трава. Міхалап матлянуў рукой, каб ухапіць яе, выратаваць. Не паспеў. Некуды знікла. Над ім трывожна лётала і крычала нейкая белая птушка з доўгімі крыламі, аж захліпвалася...

Адбылося нешта незразумелае, неверагоднае. Маланкі і гром зліліся ў адно цэлае. Людскі крык адчаю і магутны вецер стварылі адзіную жудасную мелодыю, і ад яе халадзела сэрца, памірала душа.

Не стала відаць Вятчынкі, Яркі. На іх тварах перад гэтым не было ні страху, ні жахлівасці. Ім, мусіць, ужо нічога не страшна на зямлі. І цяпер Сядзячы — Вецер, Маланка і Гром — тварыў свой прысуд.

Міхалап нічога не бачыў перад сабою. Чуў толькі людскія крыкі. Нават Вікцю чуў. Клікаў яе, што было сілы, аж парваў горла, але яна не адгуквалася, не падавала голасу. Ці не чула, ці не хацела абзывацца. Ён, як усе, бег некуды наперад, не бачачы дарогі, далей ад бяздоннага рова.

— Людзі, што з намі? Чаму зямля пахаваць нас хоча? Няўжо так угнявілі сваіх прашчураў?

— Угнявілі. Яшчэ і як. Помста гоніцца за намі.

— Зямля робіцца бясплоднай і не можа карміць нас. А хіба прадоўжыцца род чалавечы, калі жанчына перастане нараджаць дзяцей?

— Няўжо гэта — канец?

— Не, то пачатак. Пачатак прасвятлення розуму.

— Дзе мы? Чаму брыдзем па вадзе? Тут жа пясок быў...

Жахалі маланкі. Дождж ужо ліў так, бы прарвалася неба. Вада прыбывала ўвачавідкі — па самыя ўжо грудзі была. Людзі брылі па вадзе і не ведалі, дзе іх вёска, хаты...

Косцік адчуў, як у яго моцна забалела галава. Потым боль перакінуўся на патыліцу, на пазванок. Скруціў яго ў абаранак, не адпускаў. Забівала дыханне.

Ён спрабаваў закрычаць — і не змог. У горле перасохла, адзервянеў язык. Жыхнула маланка — канцом, здавалася, дастала яго галавы, апякла ўспышкай, і тады ж яму стала раптоўна лёгка-лёгка.

Ён уздыхнуў радасна на поўныя грудзі і расплюшчыў вочы. Убачыў над сабою магутныя дубы, нечы знаёмы да болю твар, заплаканыя вочы — і праваліўся зноў у бяздонне. Але не надоўга, на момант. Як нырнуў у раку і вынырнуў.

— Ды што ета такое, Кастусь, ачніся! Чаму ты ў раку зайшоў у такую халадэчу — не лета ж...

Чый голас — не зразумець, але чуў яго не раз, хаця і рэдка. Не можа быць: то ж Любі-трава! Вярнулася? Не кінула яго ў бядзе. То ён яе ратаваў, а то яна яго.

Віцця трымала яго галаву і прыціскала да грудзей. Твар мокры, косы наліплі на твар, яго і не бачна.

— Дзе Ярка, Вятчынка?

Косцік вяртаўся ў свядомасць. Зразумеў, што Вялікі Суд — такі яскравы і натуральны — скончыўся. Ці толькі пачынаўся? Ён помніў кожнае слова Вятчынкі і Яркі.

Ён жа быў пад Яркавым дубам, чаго занесла ў раку?

— Што з табой, Кастусь? Пра якога Ярку ты пытаешся? Я б'юся з табой колькі гадзін, але ты мяне не чуеш, не слухаешся. Вунь сінякоў столькі наставіў, Казік не біў мяне так, як ты.

Ён толькі цяпер пазнаў яе. Пазнаў і абняў за шыю.

— Даўно так са мною, Віцця. Ад вайны. Ты не ведала. Як ты тут апынулася?

— Не ведаю. Мяне нехта клікаў. Мусіць, ты. Так, ты.

Ён шаптаў ёй на вуха ўсё, што хацеў сказаць за доўгія гады пакут развітання з ёю. Яна чула яго, укленчыла побач у вадзе, блыталася ў водарасцях, але цягнула яго — мокрага і важкага — на бераг. Ратавала яго ўжо гадзін з пяць...

— Ты ж мог захліпнуцца.

— Я даўно захліпнуўся жыццём.

Кроілі маланкі чорнае неба на вялікія лусты. Ляскалі пагрозліва перуны, шыпелі, бы Рыгор Швед у кузні студзіў у цабэрку з вадой раскалёны метал.

— Божачка, што робіцца? У познюю восень маланкі і перуны. Свет перавярнуўся, — глядзела ў неба жанчына і не адпускала ад сябе лесніка.

Узяла яго падпашкі і пацягнула на бераг. Памагла ўстаць. Падтрымлівала яго і кіравалася да леснічоўкі. У ёй яна была не адзін раз, ды не заставала яго. Як уцякаў ад яе ўсё роўна. Калацілася ад холаду — зуб на зуб не пападаў.

Ён не мог ісці — падаў, знясілеў зусім, і яна панесла на сабе.

Не разбіралі, не бачылі дарогі, спатыкаліся, падалі і зноў падымаліся.

Бліскавіца памагала трымацца правільнага кірунку.

Віцця ўцягнула яго ў леснічоўку, зняла з яго мокрае адзенне, паклала ў ложак. Накрыла старэнькім кажушком. Ён пачаў трызніць, клікаць яе, прасіў за нешта прабачэння...

Жанчына тым часам выкручвала мокрае адзенне і вешала на жэрдку — сушыцца. Затапіла грубку — у ёй ляжалі сухія бярозавыя круглякі са смалякамі.

Падумала — і распранулася. Выкруціла і павесіла сушыцца і сваю апратку.

Тады жанчына рашылася — асмелілася, легла побач з Косцікам. Прытулілася да яго, абняла. Яна аддавала яму сваё апошняе цяпло — адагравала. З усіх сіл старалася ўдыхнуць у яго жыццё і сваё нявыказанае за гады каханне.

Калі ўспыхвалі бліскавіцы, яна нейкі момант бачыла змешчаны твар Косціка, а потым слепла і ўсё знікала, танула ў цемры. Яна чула толькі яго стомленае і парывістае дыханне…

Жанчына ніколі не адчувала сябе такой шчаслівай, як у гэтую перуновую асеннюю ноч.

…яшчэ доўга Паласацік сядзеў каля дзвярэй лесніччоўкі. чуйна ўслухоўваўся ў цішыню, якая была за дзвярыма.

Калі ж пераканаўся, што Дабрадзею не пагражала аніякая бяда, — чмыхнуў развітальна на парог і павалюхаў па мокрай зямлі да свайго жытла. Каб потым ужо кінуцца ў доўгі, да вясны, сон — і так ён загуляўся гэтай восенню.

Нейкі час пасля яго маланка высвечвала сляды.

Яны пакрысе размываліся — і знаку не засталося ад іх.

ЗМЕСТ

АЗІРНІСЯ У КАХАННІ

БРОНІК-АФГАНЕЦ

КНЯЖАБОР

Бароўскі А.

Азірніся ў каханні: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 349 с.

ISBN 5-340-01164-X.

У аповесці «Азірніся ў каханні» аўтар (нарадзіўся у 1942 г. на Гомельшчыне) у фантастычнай форме паказвае, як і калі праяўляюцца ў чалавеку лепшыя яго якасці — дабрыня, каханне, творчыя магчымасці.

Герой аповесці «Бронік-афганец» з душэўнай траўмай вяртаецца з афганскай вайны на радзіму ў чарнобыльскую зону. Разам з сябрамі Бронік спрабуе дамагчыся праўды, каб памагчы людзям, але сутыкаецца з халодным раўнадушшам чыноўнікаў.

Лёс герояў «Княжабора» звязаны з лесам. Як захаваць прыроду, яе чысціню І прыгажосць для нашчадкаў? Такія няпростыя праблемы хвалююць лесніка Косціка Міхалапа, які ўступае ў схватку з раскрадальнікамі.